УДК 94(476)(082)

Укладальнікі:
*Леанід Лаўрэш, Аляксандр Фядута*

Пад навуковай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук прафесара *Т. Я. Аўтуховіч*
і доктара гістарычных навук прафесара *З. В. Шыбекі*

У шостым выпуску беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час», як і ў папярэдніх, змешчаны цікавыя для аматараў айчыннай гісторыі і культуры матэрыялы. Сярод іх — дакументы з беларускіх, французскіх і расійскіх архіваў, датычныя ўдзельнікаў Барскай канфедэрацыі і паўстання 1863 года, а таксама пісьменнікаў XIX ст.; успаміны пра Сакрата Яновіча і Кіма Хадзеева; недрукаваныя лісты Зоські Верас, Піліпа Пестрака; карэспандэнцыя «Нашай Нівы» часу Янкі Купалы; фрагменты стэнаграмаў партыйнага з'езда, на якім вырашаўся лёс Аляксандра Чарвякова і Мікалая Галадзеда. Асобны раздзел прысвечаны ўспамінам жыхароў горада Ліды розных часоў.

**ISSN 2218-2039**

# БАРСКІЯ КАНФЕДЭРАТЫ-ЛІЦВІНЫ ПАД НАГЛЯДАМ ПАРЫЖСКАЙ ПАЛІЦЫІ (1774–1777)

Асобныя агенты Барскай канфедэрацыі пачалі з'яўляцца пры версальскім двары яшчэ з моманту яе заснавання, маючы надзею на палітычную і ваенную падтрымку. Улетку 1770 года ў якасці афіцыйнага прадстаўніка руху ў Парыж прыбыў кухмістр вялікі літоўскі граф Міхал Вельгорскі з сям'ёй. Крыху пазней пры версальскім двары з'явіліся эмісары князя Міхала Казіміра Агінскага і князя Караля Станіслава Радзівіла — адпаведна палкоўнік Францішак Ксаверы Хамінскі і Антоні Ян Гетулевіч. Пасля канчатковай паразы ў 1772 годзе барскія канфедэраты пачалі масава з'язджаць у эміграцыю. Хто накіраваўся да добра вядомага і схільнага да Рэчы Паспалітай саксонсага двара, хто ў Вену, але большасць асела зноў жа ў Францыі, найбольш прывабнай ў культурным плане і найбольш паслядоўнай у сваёй падтрымцы канфедэратыўнага руху еўрапейскай краіне. Дзе яны там жылі, што рабілі, з кім мелі зносіны, забаўляліся ці тужылі, на якія сродкі існавалі, мы можам даведацца з асабістых дакументаў эпохі — лістоў, падарожных нататкаў, дзённікаў. Бадай што, найбольш надзейнай, падрабязнай і змястоўнай з такіх крыніц з'яўляецца дзённік за 1771–1776 гады[1] княгіні Тэафіліі Сапегі (1742–1816), краўчыны літоўскай, выбітнай канфедэраткі. Аднак гэты дакумент і падобныя да яго, напісаныя самімі канфедэратамі з ліцвінаў і расцярушаныя па архівах і бібліятэках усёй Еўропы, не дадуць у сукупнасці цэласнай карціны эміграцкага жыцця, нават калі б нехта зрабіў тытанічную працу па іх зборы. Хоць бы праз тое, што некаторыя побытавыя абставіны, дробязі паўсядзённасці замоўчваюцца іх аўтарамі як само сабой зразумелае, не вартае ўвагі і памяці. Гісторыку і біёграфу патрэбен яшчэ адзін ракурс, які можа даць уважлівы, адначасова зацікаўлены і неперадузяты назіральнік. Напрыклад, паліцэйскі інспектар ці шпег.

Тыя з канфедэратаў-ліцвінаў, што пасяляліся ў Парыжы, адразу траплялі пад нагляд мясцовай паліцыі, славутай на ўсю Еўропу. Жадаючы пераняць досвед, пра яе ўладкаванне размаўляла з Дзідро Кацярына II, пра яе прыхільна пісаў у «Лістах з Францыі» Дзяніс Іванавіч Фанвізін, а вось якой яе ўбачыў у 1778 годзе ксёндз Міхал Ксаверы Богуш: «Сапраўды, нідзе няма так добра зладжанай паліцыі, як у Парыжы. Некалькі дзясяткаў тысяч шпегаў расстаўлены па ўсіх парыжскіх вуліцах: шпегі ў кавярнях, шпегі ў шынках, шпегі сярод лайдакоў, прахадзімцаў і змоўшчыкаў, шпегі ў самых бардэлях, шпегі ў партыкулярных дамах, шпегі сярод публічных дзевак, што атрымліваюць ад паліцыі пенсіён і аб усім рэгулярна ёй даносяць. Паліцыя мае пры сабе асабістую гарадскую варту і здольная паклапаціцца аб усялякай справе і ва ўсялякую справу ўмяшацца»[2]. Колькі інфарматараў, столькі і аб'ектаў назірання. Але не ўсе з іх траплялі ў паліцэйскія данясенні. Сам цікаўны ксёндз Богуш не прыцягнуў увагу інтэнданта

[1] Гэты дакумент, напісаны па-польску і па-французску, амаль цалкам захоўваецца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы (Bibliothèque polonaise à Paris, ms. 46, vol. I–IV). Часткова запісы за другую палову 1773 года зберагаюцца ў Кракаве (Wojewódzkie Archiwum Państwowe, Fonds Sanguszko, ms. 709) і ў Львове (Львівська національна наукова бібліотека ім. В. Стефаника НАН України, фонд Сапегі, воп. 1, ад. зах. 570III/с). Першая частка дзённіка (1771–1773), напісаная пераважна польскай мовай, была выдадзена сто гадоў таму намаганнямі польскага гісторыка У. Канапчыньскага. Гл.: Z pamiętnika kanfederatki księżnej Teofili z Jabłonowskich Sapieżyny (1771–1773); przypisami opatrzył i wydał W. Konopczyński. Kraków: SWP, 1914. Другая, пераважна франкамоўная, частка дзённіка застаецца дагэтуль неапублікаванай.

[2] Dziennik podróży ks. Stanisława Staszica (1777–1791): Austrya, Niemcy, Hollandya, Anglia, Francya, Szwajcarya, Włochy; wydał A. Kraushar. T. I. Warszawa: E. Wende, 1903. P. 232. Укладальнік выдання Аляксандр Краўсхар памылкова прыпісаў аўтарства дзённіка іншаму ксёндзу — Станіславу Сташыцу.

паліцыі, а вось ягоны старэйшы брат Ігнацы, сакратар Барскай канфедэрацыі, трапіў у сакрэтныя паперы кантролю за іншаземцамі.

Рапарты складаліся толькі аб сапраўды «вартых якойсьці ўвагі» чужынцах, гэта значыць тых, хто нёс патэнцыяльную пагрозу грамадскаму спакою, мог зрабіць непажаданы жэст пры двары, парушыць лад жыцця ў сталіцы, дзейнічаць у інтарэсах Францыі альбо супраць іх. Такімі падазронымі асобамі без агаворак былі ў першай палове 1770-х гадоў барскія канфедэраты, а ў другой палове гэтага ж дзесяцігоддзя, падчас вайны з Вялікабрытаніяй, — усе без выключэння англічане і ірландцы. Нагляд за іншаземцамі быў арганізаваны прыкладна наступным чынам. Па прыбыцці ў Парыж кожны іншаземец падаваў гаспадару гатэля ці мэбляваных пакояў інфармацыю аб сабе: імя, узрост, грамадскі стан, зрэдку прафесія. Потым вулічныя шпегі сачылі за вылучанымі асобамі, інспектары паліцыі дадавалі да дэталяў побыту біяграфічныя звесткі, атрыманыя ад інфармаваных людзей, і перадавалі ўсё інтэнданту паліцыі, а той — міністру замежных спраў.

Канкрэтызаваць гэтую схему даволі складана. Галоўнае, што мы дакладна не ведаем, адкуль паліцыя атрымлівае часам такія глыбокія веды аб чужынцах, іх норавах, звычаях і гісторыі іх радзімы і пры гэтым часам праглынае адкрытую «дэзу» і дапускае хібы. Напрыклад, гісторыя «залётаў» князя Міхала Казіміра Агінскага да Кацярыны II, прыведзеная ў данясенні ад 11 лістапада 1774 года, не была навіной з газет, і княгіня Тэафілія Сапега магла толькі здзіўляцца, хто распавёў яе ў вялікіх падрабязнасцях Клоду Карламану Рульеру[3] (1735–1791).

Гэты французскі дыпламат сапраўды быў дасведчаным чалавекам. Падчас чэрвеньскага перавароту 1762 года ён знаходзіўся ў Пецярбургу ў якасці сакратара французскай дыпламатычнай місіі і ўважліва сачыў за падзеямі вакол расійскага трона. Склаўшы свае назіранні ў цэльны аповед, Рульер пачаў чытаць свой твор у парыжскіх салонах напрыканцы 1760-х гадоў і здабыў такім чынам скандальную славу — вельмі шмат у ім было непрыемных для Кацярыны II і Станіслава Аўгуста фактаў. Змушаны намаганнямі агентаў расійскай царыцы, і перш за ўсё асабістымі стараннямі Дзідро, да маўчання[4], Рульер абірае іншы сюжэт. На працягу 22 гадоў ён піша манументальную, так і незавершаную «Гісторыю анархіі ў Польшчы і падзелу гэтай рэспублікі» (*Histoire de l'anarchie en Pologne et du démembrement de cette république*, апублікавана пасмяротна ў 1807), матэрыялы для якой збіраў як з кніг і рукапісаў, так і ў «палявых даследаваннях» — ад палякаў і ліцвінаў, што сустракаў у Парыжы. Згодна са сцвярджэннем французскага гісторыка і філолага Жана Фабра[5], Рульер пісаў сваю працу, карыстаючыся пенсіёнам міністэрства замежных спраў, і цесна супрацоўнічаў з рознымі яго бюро, таму лагічна дапусціць, што якраз ён з'яўляўся адным з галоўных інфарматараў паліцыі. І менавіта інфарматарам у поўнай меры ненадзейным — добра вядомы жарт, які згулялі з ім мадам дэ Жанліс, графіня Тэрэза Патоцкая і граф Міхал Бжастоўскі, пляменнік Міхала Казіміра Агінскага, распавёўшы пра неіснуючы польскі сярэднявечны ордэн «Пастаянства»[6]. Разам з нявіннымі забавамі вядзецца і тонкая палітычная гульня: Вельгорскі, а пэўна і нехта іншы, наўмысна ўводзіць інспектараў у зман наконт прыбыцця генерала Макраноўскага, мэты падарожжа гетмана Агінскага, ад'езду Юзафа і Тэафіліі Сапегаў у Спа.

[3] Запіс ад 1 лютага 1774 года: BPP, ms. 46, vol. III, p. 657.

[4] Гл. пра гэта: Dulac G. Echec à Rulhière ; un récit inédit de Diderot rapporté par D. Golitsyn // Dix-hutième siècle. 1991. № 23. P. 212–222.

[5] Fabre J. Stanislas-Auguste Poniatowski et l'Europe des Lumières. Paris: Institut d'études slaves, 1952. P. 6–7.

[6] Гэтая гісторыя выкладаецца ў мемуарах мадам дэ Жанліс: Suite des Souvenirs de Félicie L***, par Mme de Genlis. Paris: Lecointe et Durey, 1823. P. 74–80.

Такім чынам, і гэта павінна было быць відавочна для паліцыі, Рульер і самі ліцвіны з палякамі не маглі быць выключнай, хоць і багатай крыніцай ведаў пра Рэч Паспалітую і яе жыхароў. Патрэбны былі іншыя дасведчаныя людзі, якія б мелі стасункі з краінай. Напрыканцы 1760 — пачатку 1770-х гадоў палітычныя і рэлігійныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага, спачатку архібіскуп Віленскі Ігнацы Масальскі, потым падканцлер Яўхім Храптовіч, актыўна кантактавалі з французскімі фізіякратамі, прыхільнікамі «натуральнага ладу» ў гаспадарчым жыцці грамадства, з мэтай рэфармаваць палітычны і эканамічны лад Рэчы Паспалітай. Таму зусім не выпадкова ў данясенні ад 13 верасня 1774 года з'яўляецца Кенэ дэ Сэн-Жэрмэн, карэспандэнт караля Станіслава Аўгуста, вучань і ўнук аднаго з першых фізіякратаў Франсуа Кенэ[7].

Ад супраціўнікаў канфедэрацыі вернемся, аднак, да яе прыхільнікаў і іх парыжскага побыту. На жаль, цалкам паліцэйскія паперы аб наглядзе за іншаземцамі, якія захоўваюцца ў архіве міністэрства замежных спраў Францыі ў Курнёве (*Archives du Ministère des Affaires étrangères, Contrôle des étrangers, vol. 1–82*), яго не ахопліваюць. У гэтым сховішчы адклалася частка данясенняў за апошнюю трэць XVIII стагоддзя — са жніўня 1774 года, калі міністрам замежных спраў Францыі стаў граф Вержэн, да 1791 года. Такім чынам, да нас не дайшлі дакладныя даты знаходжання пры французскім двары канфедэрацкіх эмісараў. Нам недаступныя рапарты, прысвечаныя прыбыццю ў Парыж Вельгорскага і Агінскага, княскай сям'і Сапегаў і Ігнацыя Богуша, а ўказанні на іх укладанне ёсць. Нам невядомыя імёны іншых ліцвінаў-канфедэратаў, якія да таго часу пакінулі сталіцу: згодна з падлікам, які праводзілі агенты паліцыі, у снежні 1773 года ў Парыжы было 15 «палякаў», а ўжо ў траўні 1774-га — толькі 4[8].

Патлумачыць такое хуткае і значнае змяншэнне колькасці эмігрантаў можна перш за ўсё фінансавымі прычынамі. Жыццё ў Парыжы, як сёння, так і ў XVIII стагоддзі, было вельмі дарагім, і рэдкі ліцвін мог сабе доўга такую раскошу дазволіць. Тым больш што беларуска-літоўскія маёнткі амаль усіх канфедэратаў былі канфіскаваныя расійскімі ўладамі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. Іншых сродкаў існавання проста не магло быць: французскія ўлады былі гатовыя аказваць ваенную, грашовую і палітычную падтрымку арганізацыі, якая дзейнічала ў адпаведнасці з інтарэсамі «белых лілей», але абыякава ставіліся да праблем і запытаў асобных удзельнікаў руху. Адсюль нястача і вялікія даўгі графа Вельгорскага і яго пляменніка графа Бжастоўскага, вымушанае жыццё ў правінцыі Сапегаў і нават даволі заможнага графа Міхала Яна Паца. Эканомнасць ліцвінаў бачна і па тым жытле, якое яны абіраюць. Амаль усе яны жывуць на левым беразе Сены, у акрузе Сен-Жэрмен, якая ў той час была з не самых прэстыжных. Як кантраст — побыт пляменніка рэгіментара літоўскага войска канфедэрацыі, маладога князя Казіміра Нестара Сапегі, які ў 1774–1776 гадах селіцца насупраць Луўра і водзіць хаўрус з герцагам Шартрскім, будучым Філіпам Эгалітэ[9]. Кампанія прынца крыві не толькі шляхетная, але і выгодная і неабходная: з 1771 года герцаг Шартрскі становіцца вялікім майстрам Вялікага Усходу Францыі і, вельмі верагодна, уводзіць маладога Сапегу ў найвышэйшыя масонскія колы, дазваляе ўдзел у стварэнні ложы «Шчырасць» (*La Candeur*). Князь Міхал Казімір Агінскі, таксама масон, дазволу на такую пачэсную працу не атрымоўвае[10].

---

7 Пра стасункі паміж Рэччу Паспалітай і адэптамі «палітычнай эканоміі» (так фізіякраты самі называлі сябе) гл.: Jobert A. Magnats polonais et physiocrates français, 1767–1774. Paris: Droz, 1941.

8 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 1 (Décomptes généraux des étrangers arrivés à Paris par nationalité), f. 34r°, f. 39r°.

9 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 3, f. 51r°– v°; vol. 8, f. 8r°– v°.

10 Пра ўдзел Казіміра Нестара Сапегі і іншых ліцвінаў і палякаў у французскім масонстве гл.: Beaurepaire P.-Y. L'Autre et le Frère. L'Etranger et la Franc-maçonnerie en France au XVIIIe siècle. Paris: Champion, 1997, 868 p.

Паліцэйскія данясенні дадаюць таксама каларытныя штрышкі да карціны адносінаў паміж канфедэратамі. Выпадак з палкоўнікам Хамінскім, які прамантачыў грошы, прызначаныя Казіміру Пуласкаму, яшчэ выразней падкрэслівае бязладдзе і нядбаласць ў лагеры патрыётаў. Важнае месца ў паліцэйскіх паперах займаюць і рэпутацыйныя характарыстыкі галоўных дзеячаў канфедэрацыі, якія цікава супаставіць з ацэнкамі, якія давалі ім кароль Станіслаў Аўгуст, яго прыхільнікі і супраціўнікі. Паказальна, што ў 1774 годзе для паліцыі і міністэрства замежных спраў першай фігурай канфедэратаў з'яўляецца не іх пасланнік граф Вельгорскі, а Міхал Казімір Агінскі. У XVIII стагоддзі палітыка яшчэ абапіраецца на сістэму асабістых адносінаў, у якіх вырашальнае значэнне мае рэпутацыя. Таму нашчадак даўняга і выбітнага роду, славуты музыка, знаёмы энцыклапедыстаў і аўтар артыкула «Арфа» для «Тлумачальнага слоўніка навук, мастацтваў і рамёстваў» засланяе сабою менш радавітага і таленавітага шляхціца, хоць той і карыстаўся статусам афіцыйнага прадстаўніка канфедэратаў. Роля графа Вельгорскага не павінна паказацца зусім прыніжанай. Менавіта ён звяртаўся за «інтэлектуальнай дапамогай» да філосафаў: спачатку да абата Маблі, а потым праз Рульера і іншых — да Русо. Абодвум мыслярам ён замовіў праекты палітычнага пераўладкавання Рэчы Паспалітай, і апошні з іх стварыў найбольш паслядоўную і абгрунтаваную працу — «Меркаванні аб характары кіравання ў Польшчы і аб плане яго рэфармавання» (*Considérations sur le gouvernement de Pologne et sur sa réformation projetée*)[11]. Аднак і гэтыя падзеі 1771–1772 гадоў засталіся па-за данясеннямі, даступнымі нам.

Нарэшце апошняя характэрная гістарычная асаблівасць погляду парыжскай паліцыі на канфедэратаў палягае ў іх этнічным абазначэнні. Інспектары выкарыстоўваюць як сінанімічныя тры этнонімы: паляк (*Polonais*), сармат (*Sarmate*) і ліцвін (*Lithuanien*) — і ўтвораныя ад іх прыметнікі «польскі», «сармацкі», «літоўскі». Найчасцей ужываецца першы з этнонімаў, а ліцвінам толькі адзін раз, як відаць з данясенняў, называюць графа Міхала Яна Паца. У такой статыстыцы няма нічога дзіўнага: яна ўзнаўляе складаныя ўяўленні саміх жыхароў Рэчы Паспалітай аб сваім паходжанні і этнічнай прыналежнасці. Трэба таксама мець на ўвазе тыя негатыўныя канатацыі, якімі для французаў эпохі Асветніцтва было надзеленае слова «сармат». Яно з'ўлялася сінонімам варварства, непрыстасаванасці да правілаў цывілізаванага жыцця, нормаў свецкага абыходжання. Нягледзячы на вялікую павагу, з якой пішуць інспектары паліцыі пра гетмана Агінскага, яго авантурызм і непаслядоўнасць, як у палітычнай сферы, так і ў прыватным жыцці, успрымаюцца французамі як праявы сарматызму. Менавіта пра яго было напісана: «Паляк рэдка застаецца верным адной партыі» (гл. ніжэй данясенне ад 11 лістапада 1774 года). Нават такі ўкаранёны ў культуру Асветніцтва чалавек прадстае раз за разам як «чужаніца» — сармат, паляк, ліцвін. Такім чынам, прыведзеныя ніжэй данясенні з'яўляюцца не толькі скарбонкай фактаў, але і ўнікальным люстэркам, якое дазваляе ў незвычайным ракурсе ўбачыць вядомых гістарычных асоб.

Суаднесці сучасныя нацыянальныя вызначэнні і стэрэатыпы з тымі, што панавалі больш за дзвесце гадоў таму, — справа не з лёгкіх. Мы адабралі для публікацыі з мноства данясенняў аб канфедэратах, каб вытрымаць цэласнасць тэмы і аб'екта, толькі тыя запісы, у якіх ідзе гаворка пра шляхціцаў, што займалі дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, нарадзіліся, мелі маёнткі альбо ваявалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

*Дзяніс КАНДАКОЎ*

---

[11] Гл. гісторыю стварэння трактата ў падрабязным каментарыі Жана Фабра да выдання Плеяды: Rousseau J.-J. Œuvres complètes. T. III : Ecrits politiques. — Paris : Gallimard (Coll. Bibliothèque de la Pléiade), 1964. P. 1723–1761.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 2, f. 33r°– 35r°*

Пятніца, 5 жніўня 1774

Ваша міласць,

маю за гонар паведаміць Вам, што колькасць палякаў, вартых якойсьці ўвагі, значна зменшылася ў нашым горадзе паступова з мінулых сакавіка і красавіка, як аб тым Вам дакладвалі раней у адмысловых данясеннях.

Тыя прадстаўнікі гэтай нацыі, што яшчэ знаходзяцца тут і адносяцца да ліку цікавых асоб, пералічаны ніжэй.

Граф Агінскі[12], вялікі гетман літоўскі, кавалер ордэна Белага Арла і г. д., вядомы сваімі патрыятычнымі пачуццямі і сваёй паразай у бітве з рускімі[13], пасля якой ён з'ехаў сюды, жыве без бляску і ў самай вялікай эканомнасці ў гатэлі «Варшава» на вуліцы Сены.

Гэты шляхціц ад нараджэння мае вельмі выкшталтаваны розум і шмат талентаў. Ён моцна тужыць з-за сваіх няшчасцяў і навалаў, якія ахапілі яго радзіму, таму мае мала стасункаў: музыка, жывапіс і спектаклі складаюць усе яго ўцехі.

Ён часта пасылае і прымае кур'ераў з Польшчы ў сувязі са сваім гетманскім урадам, які шмат хто з членаў дэлегацыі імкнецца адабраць, тады як іншыя з ліку сяброў бароняць яго насуперак усяму і ўсім.

Граф Вельгорскі[14], вялікі кухмістр літоўскі, кавалер ордэна Белага Арла і г. д., сваяк папярэдняга, быў пасланы сюды Барскай канфедэрацыяй больш за 4 гады таму. З таго часу ён абараняе яе інтарэсы перад нашым міністэрствам.

Гэты шляхціц працаваў без перапынку над планам новага ўпарадкавання ўрада для сваёй рэспублікі і па сутнасці займаўся і кіраваў адукацыяй сваіх чатырох сыноў.

Ён вялікі аматар музыкі, якой цешыцца разам са сваімі дзецьмі і дае з імі супольныя канцэрты.

Старэйшы сын, граф Жорж[15], зараз знаходзіцца ў Польшчы па справах графа Агінскага, свайго дзядзькі, і туды ж напрыканцы бягучага месяца павінны адправіцца астатнія тры[16] ў спадарожжы са сваім гувернёрам панам Бернардзі[17].

---

[12] *Князь Міхал Казімір Агінскі* (1728/1730–1800), гетман вялікі літоўскі (1768–1793), кавалер польскіх ордэнаў Белага Арла і Св. Станіслава, расійскіх — Св. Андрэя Першазваннага і Св. Аляксандра Неўскага, прускага ордэна Чорнага Арла, кампазітар, пісьменнік і мецэнат. Ордэн Белага Арла — найвышэйшая адзнака ў Рэчы Паспалітай ў XVIII стагоддзі, таму менавіта на яе і яе кавалераў звяртаецца асаблівая ўвага ў паліцэйскіх рапартах.

[13] Маецца на ўвазе бітва пад Сталавічамі 23 верасня 1771 г., падчас якой барскія канфедэраты былі разбіты ўдвая меншым па колькасці злучэннем А. В. Суворава.

[14] *Граф Міхал Вельгорскі* (каля 1730–1814), абозны вялікі каронны (1758–1762), стольнік літоўскі (1762), кухмістр вялікі літоўскі (1763–1774), кавалер ордэнаў Белага Арла і Св. Станіслава; у 1754 г. ажаніўся з Эльжбетай з Агінскіх, малодшай сястрой Міхала Казіміра Агінскага. Як і яго сваяк, быў слынным музыкам-аматарам, ягоныя таленты пераняў старэйшы сын і яго дзеці.

[15] *Граф Ежы Вінцэнт* альбо *Юры Міхайлавіч Вельгорскі* (1753–1809), пісар польны літоўскі (1783–1790), паўнамоцны міністр Таргавіцкай канфедэрацыі пры расійскім двары (1792–1794); з траўня 1794 года перайшоў на рускую службу: гофмаршал, потым обер-гофмаршал двара Паўла I (1797–1798), сенатар і дзейсны стацкі саветнік (1804); кавалер ордэна Белага Арла (1790) і мальтыйскі кавалер (1799). Аматар музыкі, адзін з заснавальнікаў Санкт-Пецярбургскага філарманічнага таварыства.

[16] *Граф Міхал Вельгорскі* (1755–1805), генерал-лейтэнант літоўскага войска (1792), удзельнік паўстання 1794 г.; *граф Юзаф Вельгорскі* (1759–1817), генерал польскіх легіёнаў у Італіі (1797–1802), ваенны міністр і сенатар Каралеўства Польскага (1815–1816); *граф Анджэй Вельгорскі* (даты жыцця невядомыя).

[17] Гувернёр у сям'і Вельгорскіх у час іх побыту ў Парыжы. Французскі даследчык Ш. дэ Муі лічыць, што гэта *Жозэф Эльзэар Дамінік Бернардзі* (1751–1824), юрысконсульт, палітычны дзеяч часоў

Па прыгатаваннях, якія вядзе пан граф Вельгорскі, мяркуюць, што ён маецца ў хуткім часе пакінуць сталіцу. Ён адмовіўся ад асабняка на набярэжнай Тэатынцаў, які займаў тры з паловай гады.

Ён часта бачыцца са сваімі суайчыннікамі і дыпламатычным корпусам, бывае на прыватных канцэртах і наведвае спектаклі. Між тым у яго мала стасункаў з французскімі дамамі.

Два гады таму ў нашым горадзе ён страціў графіню Агінскую, сваю жонку[18], пахаваную ў касцёле Сен-Сюльпіс. <…>

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 2, f. 103r°– 106v°*

Аўторак 13 верасня 1774

Ваша міласць,

маю за гонар паведаміць Вам, што пан герцаг дэ Лазэн[19] напісаў са свайго гарнізона, каб праз мяне даведацца аб прыездзе генерала Макраноўскага[20], паляка, і забраць у гэтага іншаземца пакет, які княгіня Чартарыская[21] павінна была перадаць для яго.

Усцешаны з нагоды зрабіць прыемнасць пану герцагу, я звярнуўся да пана графа Вельгорскага, пасланніка былой польскай канфедэрацыі, і да іншых вядомых мне асоб, звязаных з названым панам Макраноўскім, і ласкава іх прасіў паведаміць мне аб прыездзе апошняга, калі яны даведаюцца аб ім раней за мяне.

Граф Вельгорскі зрабіў ласку прыслаць да мяне а дзясятай гадзіне вечара свайго духоўніка, каб папярэдзіць мяне аб тым, што генерал Макраноўскі знаходзіцца ў Парыжы ўжо некалькі дзён, і некаторыя з тых асоб, да каго я звяртаўся раней, пацвердзілі мне тое і сказалі, што названы сармацкі шляхціц размясціўся ў гатэлі «Англія» на вуліцы Отфёй. У адпаведнасці з гэтымі звесткамі я склаў рапарт ад 26 мінулага месяца[22]. Яшчэ больш упэўніла мяне ў прысутнасці пана Макраноўскага ў горадзе тое, што пакаёвы пана герцага дэ Лазэна, якому я назваў вядомы мне адрас, не з'явіўся, каб выкрыць памылку.

---

Дырэкторыі і першай Імперыі. Праз яго граф Вельгорскі прыдбаў багатую бібліятэку шэвалье дэ Мэрана у мадам Жафрэн. Гл. яе ліст каралю Станіславу Аўгусту ад 15 верасня 1771 года: Correspondance inédite du roi Stanislas-Auguste Poniatowski et de Madame Geoffrin (1764–1777), études et notes par Ch. de Mouÿ. Paris : Plon, 1875. P. 405.

18 *Графіня Эльжбета з Агінскіх Вельгорская* (1731–1771), малодшая сястра князя Міхала Казіміра Агінскага.

19 *Луі Арман дэ Ганто Бірон* (1747–1793), герцаг дэ Лазэн (1766–1788), герцаг дэ Бірон і пэр Францыі (1788–1793); з лютага 1774 г. камандаваў Каралеўскім легіёнам (*la Légion Royale*) французскага войска.

20 *Анджэй Макраноўскі* (1713–1784), генерал-маёр французскай арміі (1754–1762), кавалер ордэна Св. Станіслава (1775), маршалак на сойме 1776 г., ваявода мазавецкі (1781), масон, вялікі майстар Вялікага Усходу Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага (1784).

21 *Княгіня Ізабэла (Эльжбета) Дарота з Флемінгаў Чартарыская* (1746–1835), жонка *князя Адама Казіміра Чартарыскага* (1734–1823), генеральнага старасты падольскага, прэтэндэнта на польскі трон у 1763–1764 гг., у 1767 г. узначаліў Радамскую канфедэрацыю і магнацкую апазіцыю да караля Станіслава Аўгуста. Сям'я Чартарыскіх была ў Францыі з зімы 1773 да вясны 1774 г.

22 Названы рапарт ад 26 жніўня 1774 года (f. 81r°– 83v°) паведамляе аб «прыбыцці» А. Макраноўскага і падае яго падрабязны партрэт.

Учора я з'явіўся праверыць ў названы гатэль «Англія» на вуліцу Отфёй, дзе знайшоў пана Кенэ[23], унука нябожчыка каралеўскага лекара, якога князь Масальскі[24], біскуп Віленскі, узяў з сабой, ад'язджаючы адсюль. Я даведаўся, што пан Макраноўскі, які там мясціўся, — 20-гадовы пляменнік[25] генерала, якога названы пан Кенэ ўзяўся суправадзіць ў Парыж і адкуль праз 11 дзён адвёз у Версаль і размясціў у пансіёне для вывучэння інжынернай справы і матэматыкі.

Пан Кенэ дадаў, што генерал Макраноўскі сапраўды меўся прыехаць сюды ў той час, калі яго чакалі. Але паколькі павінна было адбыцца пасяджэнне пастаяннай рады ў сувязі з прыняццем новых законаў Рэчы Паспалітай, то ён застанецца на радзіме, каб пільнаваць захаванне сваёй пасады.

Я таксама ўбачыўся з панам графам Вельгорскім з мэтай прасіць сказаць мне, якая нагода ўпэўніла яго даць мне ведаць, што генерал Макраноўскі ўжо прыехаў. Той шляхціц адказаў мне, што ён быў папярэджаны за некалькі дзён лістом з Нансі ад пана Богуша[26], былога сакратара канфедэрацыі, які сведчыў яму, нібыта названы генерал праехаў праз гэты горад, каб прыбыць інкогніта ў Парыж. Потым і іншыя асобы яго заверылі ў тым жа, сярод іх адна яму сказала, што з добрай крыніцы ведае, нібыта названы генерал Макраноўскі меў тайную гутарку з панам графам дэ Броем[27], які спачатку ў гэтым прызнаўся, потым адмовіўся. Нарэшце яго заверылі, што пану Макраноўскаму было даручана весці з нашым дваром перамовы па асабістых справах караля Польшчы. Вось, вяльможны пане, прычыны, якія выклікалі маю памылку ў памянутым данясенні ад 26 жніўня бягучага года.

Бюо[28].

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 3, f. 31r°– 32r°*

Пятніца 14 кастрычніка 1774

Яго мосць князь Сапега[29], паляк, гадоў каля 36, краўчы вялікі літоўскі, кавалер ордэна Белага Арла, аб якім было складзена данясенне ў сувязі з прыездам у снежні мінулага

[23] *Рабэр Франсуа Жазэф Кенэ дэ Сен-Жэрмен* (1751–1805), медык і палітычны дзеяч часоў Рэвалюцыі, на пачатку 1770-х гг. на службе ў біскупа Віленскага. Яго дзед *Франсуа Кенэ* (1694–1774) — каралеўскі хірург (1723), асабісты медык мадам дэ Пампадур (1749), эканаміст, адзін з першых фізіякратаў.

[24] *Ігнацы Якуб Масальскі* (1726–1794), біскуп Віленскі (1762–1794), старшыня Адукацыйнай камісіі (1773–1776).

[25] *Станіслаў Макраноўскі* (1761–1821), генерал-лейтэнант войск каронных (1792), галоўнакамандуючы літоўскім войскам падчас наўстання 1794 г., пляменнік А. Макраноўскага.

[26] *Ігнацы Богуш* (каля 1720–1778), сакратар Барскай канфедэрацыі, з'ехаў у эміграцыю разам з княскай сям'ёй Сапегаў напрыканцы траўня 1772 г. Жыў у Страсбургу, Нансі і Парыжы, вярнуўся ў Рэч Паспалітую ў жніўні 1777 г. 21 ліпеня 1774 г. княгіня Сапега ў дзённіку пераказвае змест ліста ад супрацоўніка французскага міністэрства замежных спраў Ж.-М. Жэрара дэ Рэнваля, які паведамляе ёй аб намеры Макраноўскага «хутка» прыбыць у Парыж (BPP, ms. 46, vol. III, p. 840). Ігнацы Богуш, канфідэнт княгіні, аб прыбыцці Макраноўскага ёй нічога не паведамляе.

[27] *Граф Шарль-Франсуа дэ Брой* (1719–1781), паўнамоцны міністр Францыі ў Рэчы Паспалітай (1752–1756), кіраўнік тайнага кабінета Людовіка XV («Сакрэта караля»).

[28] *П'ер-Эцьен Бюо* (1723 — пасля 1801), інспектар парыжскай паліцыі (1752–1776), спецыялізаваўся ў наглядзе за іншаземцамі. Гл.: Couture R. « Inspirer la crainte, le respect et l'amour du public»: les inspecteurs de police parisiens, 1740–1789, thèse présentée comme exigence partielle du doctorat en histoire, UQAM, Université de Caen Basse Normandie, sous la dir. de P. Bastien et V. Milliot, 2013. P. 711, 726.

[29] *Князь Юзаф Сапега* (1737–1792), ваявода мсціслаўскі, краўчы вялікі літоўскі (1766–1784), генеральны рэгіментар літоўскіх войск Барскай канфедэрацыі; у 1761 г. пабраўся шлюбам з Тэафіліяй з Ябланоўскіх. У эміграцыі (жыве ў Страсбургу, наязджае ў Парыж) з канца траўня 1772 г. да канца 1770-х гг.

года ў гэты горад разам з яе княскай мосцю жонкай[30], дачкой князя Ябланоўскага[31], ваяводы наваградскага, кавалера ордэна Св. Духа, стрыечнага брата нябожчыцы прынцэсы дэ Тальмон[32], якія з таго часу бавілі сезон вод у Спа. На мінулым тыдні муж і жонка вярнуліся сюды, занялі сваю былую кватэру ў гатэлі «Трэвіль» на вуліцы Турнон і мяркуюць правесці тут некаторы час[33].

Дом Сапегаў падзелены на некалькі галін, усе з іх узведзены ў княжацкую годнасць Свяшчэннай імперыі нябожчыкам імператарам Францам I[34]. Род гэты — адзін з самых слаўных у Польскім каралеўстве па тых пасадах, якія яго прадстаўнікі займалі з даўніх часоў у Рэчы Паспалітай, і па сваяцкіх сувязях з галоўнымі дамамі Еўропы.

Князь, пра якога ідзецца ў гэтым рапарце, мае прывабную постаць і прыгожае аблічча, але розум яго — больш чым ардынарны і зусім не надае бляску вялікаму імені, якое ён носіць.

Княгіня спалучае з хараством стану і розуму вялікія веды і прыемнае свецкае абыходжанне, за што яе пяшчотна любяць не толькі суайчыннікі, але яшчэ і ўсе знаёмыя, якія яе шануюць і цэняць, у той час як мужу дастаецца вельмі мала павагі.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 3, f. 69r°– 73r°*

Пятніца 11 лістапада 1774

Пан граф Агінскі, паляк, кавалер польскага ордэна Белага Арла і расійскага ордэна св. Андрэя, гетман вялікі літоўскі і г. д., аб якім з розных аказій было складзена багата данясенняў падчас яго пабывак у нашым горадзе прыкладна на працягу апошніх двух з паловай гадоў, выехаў 3 бягучага месяца нібыта да Мюнхена і меркаваў вярнуцца праз шэсць тыдняў альбо два месяцы. Аднак людзі, што лічаць сябе інфармаванымі, запэўніваюць, што гэты шляхціц накіраваўся да межаў сваёй радзімы, каб сустрэцца там з князем Сапегам[35], гетманам польным літоўскім, і зладзіць двубой з прычыны таго, што гэты апошні, кажуць, хадайнічаў аб урадзе гетмана вялікага, якім валодаў першы, і дамогся яго.

Безумоўна, граф Агінскі паходзіць з адной з самых славутых сем’яў Вялікага Княства Літоўскага. Гэты дом заўсёды адыгрываў там значную ролю. Усе ведаюць прычыны, з якіх узнік разлад і доўжылася жорсткая вайна паміж Агінскімі і Сапегамі напрыканцы мінулага стагоддзя і на пачатку цяперашняга.

---

[30] *Княгіня Тэафілія Стжэжыслава з Яблаunion Сапега* (1742–1816), актыўная ўдзельніца палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай, засталася ў эміграцыі пасля ад’езду мужа прынамсі да сярэдзіны 1780-х гг.

[31] *Князь Аляксандр Юзаф Ябланоўскі* (1711–1777), стольнік вялікі літоўскі (1744) ваявода навагрудскі (1755–1772), гісторык, мецэнат, перакладчык і паэт.

[32] *Марыя Ганна Луіза з Ябланоўскіх* (1711–1773), прынцэса дэ Тальмон (1730), жонка Анна Шарля Фрэдэрыка дэ Ла Трэмуй (1711–1759), герцага дэ Шатэльро, прынца дэ Тальмона. У снежні 1773 — красавіку 1774 г. княгіня Тэафілія Сапега актыўна хадайнічала перад версальскім дваром аб перадачы ёй часткі спадчыны сваячкі (гл. BPP, ms. 46, vol. III).

[33] Паліцэйскі агент двойчы памыляецца. Па-першае, Сапегі не маглі быць у Спа ў 1774 г., аб чым сведчыць дзённік Тэафіліі. Па-другое, князь Юзаф прыбыў у Парыж адзін: жонка сапраўды выехала разам з ім са Страсбурга 26 верасня, але даехала толькі да горада Бар ле Дзюк, дзе спынілася 30 верасня праз недамаганне, выкліканае цяжарнасцю, і пасля вярнулася ў Страсбург (гл. BPP, ms. 46, vol. III, p. 897–898).

[34] *Франц I* (1708–1765), імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі (1745–1765).

[35] *Князь Аляксандр Міхал Сапега* (1730–1793), ваявода полацкі (1754–1775), гетман польны літоўскі (1762–1775), канцлер літоўскі (1775), кавалер ордэнаў Св. Станіслава (1765) і Св. Андрэя Першазваннага (1776), маршалак Таргавіцкай канфедэрацыі, прыродны брат княгіні Тэафіліі з Ябланоўкіх Сапегі.

Часы варожасці гэтых двух магутных дамоў прыйшліся на двайныя выбары на польскі трон вялікага Канці[36] і Аўгуста II, курфюрста саксонскага[37]. Агінскія былі прыхільнікамі нямецкага валадара, а Сапегі — французскага.

Хваляванні, якія суправаджалі знаходжанне Карла XII у Польшчы, яшчэ толькі больш падагрэлі страсці Сапегаў і Агінскіх, і канчаткова патушыць іх здолелі толькі на сойме 1718 года, у час, калі першы курфюрст саксонскі мірна караляваў у Польшчы пасля смерці манарха, які было пакляўся загубіць яго[38].

Граф Агінскі, які нядаўна пакінуў Парыж, — сын Агінскага, што быў канцлерам літоўскім у 1755 годзе[39]. Пасля вандроўкі па Францыі ён спыніўся ў Парыжы. Стасункі, якія звязалі яго з панам герцагам Арлеанскім[40], вымусілі яго стаць валанцёрам у войску гэтага прынца крыві падчас кампаніі 1757 года. Аднак яшчэ да скарчэння кампаніі каханне паклікала графа Агінскага на радзіму.

Гэты шляхціц закахаўся некалі ў адну з дачок[41] князя Чартарыскага, канцлера вялікага літоўскага[42]. Аднак князь-бацька зрабіў выбар жаніха для сваёй дачкі на карысць графа Сапегі[43], віцэ-канцлера літоўскага. Калі той памёр, граф Агінскі хутка з'явіўся, каб напомніць аб сваіх былых намерах. Вялікі канцлер не праціўіўся больш шчасцю графа Агінскага, які ў хуткім часе ажаніўся.

Падчас канфлікту, які выбухнуў пасля намінацыі прынца Карла Саксонскага[44] герцагам Курляндскім, і наступных інтрыг граф Агінскі быў паслядоўным прыхільнікам варожай трону партыі Чартарыскіх.

Праз месяц пасля смерці польскага караля Аўгуста III граф Агінскі раптам з'ехаў у Расію.

Па Польшчы прайшла чутка, што гэты шляхціц, моцна разлічваючы на сваю прывабнасць і густ царыцы, накіраваўся да Санкт-Пецярбурга, каб схіліць гасударыню на свой бок. Ён прыбыў надта позна, царыца засталася вернай свайму першаму каханку графу Панятоўскаму, цяперашняму польскаму каралю, і здзейсніла пачатковы намер пасадзіць таго на трон.

Вярнуўшыся на радзіму, граф Агінскі па-ранейшаму выказваў вернасць новаму валадару, які ўзнагародзіў ягоную прыхільнасць урадам гетмана вялікага літоўскага пасля смерці графа Масальскага[45], які валодаў ім да таго.

---

[36] *Франсуа Луі дэ Бурбон* (1664–1709), прынц Канці (1685), прэтэндэнт на трон Рэчы Паспалітай у 1697 г.

[37] *Аўгуст II Моцны* (1670–1733), курфюрст саксонскі (1694–1733), кароль польскі (1697–1706, 1709–1733).

[38] Пра гэтыя падзеі і іншыя канфлікты магнатаў за Аўгустам II гл.: Мацук А. Барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ (1717–1763). Мінск: Медысонт, 2010.

[39] Інфарматар паліцыі памыляецца: бацька Міхала Казіміра Агінскага князь Юзаф Тадэвуш памёр у 1736 г. і меў урады мечніка вялікага літоўскага (1729–1730) і ваяводы троцкага (1730–1736). Верагодна, маецца на ўвазе цесць гетмана, князь Міхал Фрэдэрык Чартарыскі (па-французску цесць — *beau-père*, бацька — *père*).

[40] *Луі-Філіп I* (1725–1785), герцаг Арлеанскі (1752), першы прынц крыві.

[41] *Графіня Юзэфа Аляксандра з Чартарыскіх Агінская* (1730–1798), з 1761 г. жонка Міхала Казіміра Агінскага.

[42] *Князь Міхал Фрыдэрык Чартарыскі* (1696–1775), вялікі канцлер літоўскі (1752).

[43] *Князь Міхал Антоні Сапега* (1711–1760), падканцлер вялікі літоўскі (1752), з 1748 г. муж Юзэфы Аляксандры з Чартарыскіх.

[44] *Карл-Хрысціян Саксонскі* (1733–1796), сын польскага караля Аўгуста III, герцаг Курляндскі (1758–1763).

[45] *Міхал Юзаф Масальскі* (каля 1700–1768), гетман вялікі літоўскі (1762–1768), бацька Ігнацыя Якуба.

Паколькі паляк рэдка застаецца верным адной партыі, граф Агінскі, ці то па прыроднай легкадумнасці, ці то з пачуцця справядлівасці, далучыўся чатыры гады таму да канфедэрацыі, што склалася супраць рускіх і валадара, пасаджанага імі на трон.

Літоўская канфедэрацыя, ад якой людзі чакалі больш значных дасягненняў, чым ад польскай, была разагнана і нідзе не вызначылася цвёрдымі дзеяннямі.

Граф Агінскі несумненна прыехаў у Францыю, каб аплакаць няшчасці сваёй радзімы і свае асабістыя, бо частка ягоных маёнткаў стала ахвярай дэспатыі рускіх.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 3, f. 84r°– v°*

Пятніца 18 лістапада 1774

За час, які прашоў ад укладання пятнічнага данясення аб пане графе Агінскім, гетмане вялікім літоўскім, з надзейных крыніц атрымана інфармацыя, што гэты сармацкі шляхціц мае на мэце ехаць проста да Варшавы[46]. Ён павінен прыбыць туды ў наступны панядзелак, 21 бягучага месяца, роўна а дзясятай гадзіне раніцы і адправіцца ў Сенат, каб зрабіць прамову аб сваім становішчы. Ён будзе прасіць аб апраўданні альбо суда нацыі.

Гэты рашучы ўчынак прыцягвае ўвагу былых польскіх выбітных канфедэратаў, якія цешацца надзеяй на змену сітуацыі на сваю карысць.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 9, f. 75r°– 76r°*

Пятніца 12 красавіка 1776

Яго мосць князь Сапега[47], паляк, 22 гадоў, генерал артылерыі войска Вялікага Княства Літоўскага, аб якім з розных аказій было складзена багата данясенняў падчас яго пабывак у нашай сталіцы, выехаў у мінулы панядзелак да Варшавы згодна з загадам свайго валадара караля.

Гэты малады шляхціц падае вялікія надзеі. У дадзены момант ён вельмі абмежаваны ў сродках, тым не менш паводзіў сябе ў нас так, што выклікаў увагу ўсіх шляхетных людзей свайго ўзросту. Ён уваходзіў да двара яго светласці герцага Шартрскага[48], і гэты прынц крыві меў да яго вялікую павагу і любоў.

Калі ўплыў графа Браніцкага[49], вялікага гетмана кароннага, дзядзькі князя Сапегі, будзе трываць, то той хутка дасягне самых высокіх пасад Рэчы Паспалітай. Тая пасада, якую ён займае зараз, выклікае да яго вялікую пашану на радзіме.

---

[46] Трэба думаць, што аб сапраўднай мэце паездкі Агінскага наўмысна распаўсюджвалася дэзынфармацыя. Граф Міхал Вельгорскі пісаў парыжскаму банкіру Жоржу Грану 29 лістапада, калі ўжо можна было не хавацца: «Граф Вельгорскі паведамляе спадару Грану, што яму далі недакладную інфармацыю наконт ад'езду яго сваяка. Ён паехаў зусім не ў Італію, а ў Польшчу. Калі спадар Гран жадае, то можа перадаць з падаўцам гэтай запіскі ліст да графа Агінскага і ён будзе адпраўлены яму ў пакеце з першай поштай» (BPP, ms. 40, p. 181).

[47] *Князь Казімір Нестар Сапега* (1757–1798), генерал артылерыі літоўскага войска (1773–1793), маршалак літоўскай канфедэрацыі чатырохгадовага сойма, удзельнік паўстання 1794 г.; масон, вялікі майстар Вялікага Усходу Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага (1789–1794).

[48] *Луі-Філіп-Жазэф Арлеанскі* (1747–1793), сын Луі-Філіпа І Арлеанскага, пасля яго смерці першы прынц крыві, герцаг Шартрскі (1752–1785), герцаг Арлеанскі (1785–1793), празваны пасля Рэвалюцыі Філіп Эгалітэ.

[49] *Граф Францішак Ксаверы Браніцкі* (каля 1730–1819), гетман вялікі каронны (1774–1793), генерал расійскага войска (1795), старэйшы брат княгіні Эльжбеты з Браніцкіх Сапегі, маці Казіміра Нестара Сапегі.

Князь Сапега маецца дамовіцца, праехаўшы праз Страсбург, са сваім дзядзькам князем Сапегам[50], каб той адправіўся разам з ім. Той жыве ў сталіцы Альзаса ўжо некаторы час і не можа выбрацца ў Польшчу праз адсутнасць сродкаў і немагчымасць расплаціцца па даўгах, якіх нарабіў там.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 10, f. 32r°– 33v°*

Пятніца 17 траўня 1776

Пан граф Вельгорскі, які на працягу больш чым шасці гадоў прадстаўляе пры нашым двары польскіх канфедэратаў, павінен адбыць сёння альбо заўтра, каб вярнуцца на радзіму. Ён накіруецца адразу ў свае землі, не праязджаючы праз Варшаву.

На працягу каля двух гадоў гэты шляхціц цярпеў вялізную нястачу і адаслаў свайго вернага сакратара ў Польшчу, каб раздабыць сродкі і атрымаць магчымасць з гонарам выехаць адсюль. Але ў мінулым годзе старэйшы сын графа прывёў справы бацькі ў такі заняпад[51], што сакратар не здолеў знайсці дастаткова грошай, каб задаволіць крэдытораў. Спадар Дзюпон, графаў банкір, адмаўляўся прымаць вэксалі на яго імя, тады пан Шэлінг, гаспадар ягонага жытла, унёс адсутную суму і, дамовіўшыся з іншымі крэдыторамі, даў яму магчымасць выехаць. <…>

Граф Бжастоўскі[52], пляменнік графа Агінскага, гетмана вялікага літоўскага, з’ехаў, каб пазбегнуць пераследаванняў з боку крэдытораў. Падчас розных пабывак у нашай сталіцы ён рабіў вялікія выдаткі і як след расплочваўся за іх некаторы час. Але хваляванні, што скаланаюць ягоную радзіму напрацягу доўгіх гадоў і наступствы якіх адбіваюцца на яго сям’і, сталіся прычынай галечы, у якой ён знаходзіцца зараз.

Мадэмуазэль Дзютэ[53], наша славутая Лаіса, некалі ўпадабала графа Бжастоўскага. Яе дом быў адкрыты для яго, ён заўсёды там сталаваўся і гэта было яму вялікай дапамогай. Некаторы час хадзілі чуткі, што яны павінны былі пажаніцца. Ёсць падставы меркаваць, што сармат захавае рэшткі пашаны да свайго імені і ўстрымаецца ад такога нізкага падзення.

---

[50] Князь Юзаф Сапега быў малодшым братам Яна Юзафа Каласанта Сапегі (каля 1732–1757), бацькі Казіміра Нестара.

[51] Прычыны гэтага заняпаду тлумачыць у дзённіку княгіня Тэафілія Сапега. Запіс ад 24 траўня 1775 года: «Граф Машчыньскі… паведаміў мне сумную навіну, што хавалі дагэтуль ад небаракі графа Вельгорскага і што чакае яго цяпер. Ягоны старэйшы сын, той самы, якім ён больш за ўсё замілаваны і якога ён апошнім рашэннем зрабіў поўнаўласным гаспадаром усёй сваёй маёмасці і маёмасці братоў, прайграў у карты ў Польшчы і ў Вене больш за дваццаць тысяч дукатаў, выпісваючы кожны раз сваім крэдыторам вэксалі. <…> На гэтай падставе малады чалавек арыштаваны і знаходзіцца ў турме ў Вене. Гэтае катастрафічнае няшчасце будзе яшчэ больш балючым для бацькі, які ўжо значна завінаваціўся ў Парыжы і не можа праз гэта з’ехаць і чые справы ўвогуле знаходзяцца ў дрэнным становішчы» (BPP, ms 46, vol. IV, p. 1235).

[52] *Граф Міхал Бжастоўскі* (1747–1800), стараста пуньскі, сын кашталяна полацкага Адама Бжастоўскага (1722–1790) і Генавефы з Агінскіх (1725–1792), старэйшай сястры Міхала Казіміра Агінскага.

[53] *Разалі Жэрар* (1748–1830), вядомая як мадэмуазэль Дзютэ, славутая куртызанка канца Старога рэжыму.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 10, f. 73r°– 74v°*

Пятніца 7 чэрвеня 1776

Пан граф Пац[54], ліцвін, прыехаў да нас некаторы час таму са Страсбурга і спыніўся ў гатэлі «Трэвіль» на вуліцы Турнон.

Гэты шляхціц мае 47 гадоў і паходзіць з аднаго з найбольш даўніх дамоў Вялікага Княства Літоўскага. За асабістую пашану, якую ён здабыў на радзіме, граф Пац быў адзінагалосна ганараваны пасадай маршалка вядомай Барскай канфедэрацыі. Ён выконваў свае абавязкі з патрыятычным запалам, які чакалі ад яго канфедэраты, што абралі яго за цвёрдасць характару і сталасць.

Уваходжанне рускіх у Польшчу і няўдачы, якія цярпелі канфедэраты, прымусілі графа Паца збегчы за мяжу. Пасля доўгіх вандровак па розных краінах ён спыніўся ў Дрэздэне. Яго сям'я заўсёды была адданай саксонскаму дому, і граф абраў тут сабе рэзідэнцыю — часткай з прычыны схільнасці, часткай дзеля выгады. Рускія на доўгія гады прыбралі сабе яго маёнткі і даходы ад іх, таму ён быў вымушаны хадайнічаць перад курфюрстам саксонскім аб выплаце нядоімак па займах, якія яго нашчадкі давалі нябожчыкам каралям польскім, курфюрстам саксонскім.

Граф Пац павінен быў прыехаць у Парыж на пачатку бягучага года і з гэтым намерам выехаў з Дрэздэна. У Страсбургу яго напаткала недамаганне, і ён спыніўся у гэтым горадзе. Яму пусцілі кроў з нагі, але зрабілі гэта так няўдала, што ён заставаўся ў ложку больш за тры месяцы. Ён маецца правесці цёплую частку года ў нашай сталіцы, потым праехаць па паўднёвых правінцыях каралеўства, а пасля застацца на некаторы час у Авіньёне.

Пасля таго як рускія знялі секвестр, накладзены на маёмасць графа, ён ізноў жыве з даходаў ад літоўскіх маёнткаў, якія даюць ажно да 40 тысяч французскіх экю.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 10, f. 91v°*

Пятніца 14 чэрвеня 1776

З таго часу, як прыехаў у нашу сталіцу граф Пац, маршалак Барскай канфедэрацыі, аб якім было зробленае паведамленне ў апошнім данясенні, гэты сармацкі шляхціц некалькі разоў вёў перамовы з надзвычайным паслом баварскім. Кажуць, што граф Пац мае жаданне на некаторы час пасяліцца ў землях курфюрста баварскага.

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 11, f. 119r°– v°*

Пятніца 30 жніўня 1776

Пан граф Пац, паляк, былы галоўны маршалак Барскай канфедэрацыі ад Вялікага Княства Літоўскага, аб якім быў складзены рапарт 7 чэрвеня гэтага года падчас яго прыезду да нашага горада, нядаўна выехаў адсюль і скіраваўся ў Бургундыю, дзе мае намер набыць зямлю і там пасяліцца. Потым ён паедзе ў Авіньён, дзе маецца ўладкаваць нейкія сямейныя справы, бо жыў там некаторы час і пакінуў дом.

---

[54] *Граф Міхал Ян Пац* (1730–1787), маршалак Барскай канфедэрацыі, у эміграцыі (Саксоніі і Францыі) з красавіка 1772 г. Захоўваў архіў канфедэрацыі. У 1776 г. указам караля Людовіка XVI ён становіцца французскім падданым і атрымоўвае пансіён у 24 000 ліўраў. Памёр у мястэчку Лінгольсхайм каля Страсбурга.

Дом Пацаў паходзіць з Італіі, ён адыгрываў значную ролю ў суперніцтве з домам Медзічы. Калі тыя сталі вялікімі герцагамі тасканскімі, Пацы збеглі да Літвы, дзе за сто тысяч экю набылі шляхецтва. З таго часу ўсе, хто носіць гэтае імя, карыстаюцца ў Літве найвялікшай павагай[55].

*AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 15, f. 103r°– v°*

Пятніца 23 траўня 1777

Пан Пулаўскі[56] [Pulawski], польскі шляхціц, сын старасты варыцкага[57], аб якім з розных аказій было складзена багата рапартаў з 1773 года і які пакінуў наш горад у сакавіку года наступнага, вярнуўся сюды на мінулым тыдні і спыніўся пад іменем Гекінг у гатэлі «Пікардзія» на вуліцы Сены акругі Сен-Жэрмен у суправаджэнні суайчынніка пана Зелінскага[58].

Гэты сармат, славуты паміж барскімі канфедэратамі і сябрамі патрыятычнай партыі, адбыў з нашай сталіцы да Венецыі, а адтуль — да Турцыі. Ён спыніўся ў Марсэлі, каб дачакацца там палкоўніка Хамінскага[59], агента гетмана вялікага літоўскага графа Агінскага, які павінен быў прывезці яму грошы і сакрэтныя інструкцыі. Літоўскі палкоўнік прамантачыў сродкі, што яму даручылі, і кіраўнік канфедэратаў дарэмна чакаў яго. Пулаўскі моцна завінаваціўся, за што быў пасаджаны ў турму. Ён пакінуў Марсэль пасля працяглага побыту, разлічыўшыся з крэдыторамі, і паехаў у Страсбург да графа Паца, былога маршалка Барскай канфедэрацыі. Але той з’ехаў у Дрэздэн і пан Пулаўскі прыехаў сюды. Невядома, колькі часу ён правядзе ў нашай сталіцы.

*Пераклад з французскай і каментарый Дзяніса КАНДАКОВА*

---

55 Сучасныя гісторыкі ставяць пад вялікі сумнеў паходжанне літоўска-беларускіх Пацаў ад фларэнтыйскага рода Паццы (гл.: Dutertre G. Ludwik Michał Pac, comte lituanien, palatin polonais, général de Napoléon // Cahiers lituaniens. N°11. 2012. P. 11). Калі яны маюць рацыю, то тады сам Міхал Ян Пац спрычыніўся да стварэння гэтай біяграфічнай легенды. У дзённіку княгіні Тэафіліі Сапегі (запіс ад 27 студзеня 1775 г.) чытаем: «Граф Пац піша мне з Авіньёна… што ён пазнаёміўся з мясцовым шляхцічам, які носіць тое ж прозвішча Пац і які прызнае яго за стрыечнага брата, бо ведае па сямейных паперах, што адзін з продкаў падчас пераследавання гібелінаў збег у Польшчу» (BPP, ms. 46, vol. IV, p. 1171).

56 *Казімір Пуласкі* (1745–1779), удзельнік Барскай канфедэрацыі, паспяхова супрацьстаяў расійскім войскам у 1769 г. у бітвах пад Кукалкамі, Слонімам, Мышшу, Моўчадзю і Дварцом; з траўня 1772 г. у эміграцыі (Саксонія, Францыя, Асманская Порта). Брыгадны генерал Кантынентальнай арміі (1777), герой вайны за незалежнасць ЗША. Яго імя ў Францыі канца XVIII ст. нязменна пісалася як Пулаўскі (*Pulawski, Pulauski*) і стала хадзячай назвай, ён паслужыў прататыпам для героя папулярнага рамана Ж.-Б. Лувэ дэ Куврэ «Адзін год з жыцця кавалера дэ Фабласа» (1787), графа Пулаўскага.

57 Юзаф Пуласкі (1704–1769), стараста варыцкі, адзін з заснавальнікаў Барскай канфедэрацыі, яе першы маршалак.

58 Верагодна, стрыечны брат Казіміра Пуласкага, *Ян Руфін Зелінскі* (памёр у 1802 г.), удзельнік Барскай канфедэрацыі, вайны за незалежнасць ЗША, паўстання 1794 г.

59 *Францішак Ксаверы Хамінскі* (памёр у 1809 г.), удзельнік Барскай канфедэрацыі, агент Міхала Казіміра Агінскага пры венскім і версальскім дварах, перакладчык з французскай.

Падначальваючыся гэтаму загаду, у суботу 13 красавіка пасля паўдня, пад дастаткова няўдалай зачэпкай палявання, Леан разам з 5 узброенымі сваімі слугамі, якія засталіся яму аддадзеныя да канца, — службоўцам Заблоцкім[38], старастам Цытовічам[39], шляхціцам Няцецкім[40], вазніцам Антоніем[41] і кухарам Янам Баўрам[42] — накіраваўся на ўказанае месца і чакаў прыбыцця транспарту са зброяй. Транспарт быў адбіты, 3 жаўнеры забіты, 2 цяжка паранены, карабіны часткай забраны, часткай закапаны ў лесе, пасля

ў г. Уфе. Пасля выдання частковай амністыі, у 1866 г., перасяліўся ў г. Рыгу, дзе ў 1869 г. атрымаў чарговую палёгку пакарання з вызваленнем ад нагляду паліцыі і правам пражывання па ўсіх месцах Расійскай імперыі за выключэннем сталіц, сталічных губерняў і «Заходняга краю». Жонка добраахвотна адправілася з ім у ссылку, але ў 1865 г. вярнулася ў Дынабург і дамаглася вяртання яго пенсіі за вайсковую службу [НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1989. — Перапіска віцебскага губернатара з павятовымі спраўнікамі пра асоб, якім забаронена пражываць у Паўночна-Заходнім краі. 02.01.1869–23.05.1869. — Арк. 42–44; Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 35; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31965. — Справа пра Станіслава і Фяліцыю Моляў, высланых ва ўнутраныя губерні Расіі пад нагляд паліцыі за ўдзел у паўстанні 1863 г.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 54–57, 567; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52285. — Спісы ўдзельнікаў паўстання, высланых адміністрацыйным шляхам на жыхарства ва ўнутраныя губерні Расіі. 1864 г. — Арк. 6, 35 адв. – 37 адв., 42; Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. — Указы і цыркуляры Віцебскага губернскага праўлення, пошукавыя артыкулы і г. д. аб пошуку ўдзельнікаў паўстання 1863 г., маёмасці іх, якая падлягае секвестру, асоб, што хаваліся ад рэкруцтва, даўжнікоў і інш. 10.01.1865–28.12.1866. — Арк. 480; Ф. 2626. Воп. 1. Спр. 305. — Нарад паведамленняў пра дваран, пазбаўленых маёмасці, і пра асоб, што маюць дачыненне да паўстання. 16.01.1864–21.12.1864. — Арк. 3; Uruski S. Rodzina… T. 11. S. 213].

[38] Пра Юзафа Заблоцкага гл. ніжэй.

[39] Аднадворац Дынабургскага павета Тамаш Цытовіч (28 гадоў) быў схоплены разам з Плятэрам 14 красавіка 1863 г. ля Дубны. Канфірмацыяй ваеннага начальніка Віцебскай губерні Эраста Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады [НГАБ. Ф. 162. Воп. 1. Спр. 116. — Распараджэнні, загады Мінскага губернскага праўлення аб разглядзе спраў пра канфіскацыю маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 года і іншых спраў, што знаходзяцца ў вытворчасці. 22.02.1862–14.12.1864. — Арк. 39 адв.; Ф. 296. Воп. 1. Спр. 25. — Перапіска з віленскім генерал-губернатарам, павятовымі ваеннымі начальнікамі і спраўнікамі па пытаннях секвестру маёнткаў асоб, якія бралі ўдзел у паўстанні; ведамасці і звесткі пра маёмасны стан кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў, ведамасці секвестраваных маёнткаў; спісы асоб, асуджаных і высланых з Мінскай губ. за ўдзел у паўстанні, прашэнні сваякоў асоб, што бралі ўдзел у паўстанні, аб зняцці секвестру з іх маёнткаў. 16.07.1863–18.10.1864. — Арк. 88; Ф. 320. Воп. 1. Спр. 398. — Справа аб пошуку маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863 г. для ўзяцця ў секвестр. 05.08.1863–30.09.1866. — Арк. 197 адв.; Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 50; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 126, 389 адв.; Восстание в Литве и Белоруссии... С. 505–507.

[40] Дваранін Дынабургскага павета Людвік Няцецкі (Ніцецкі) (28 гадоў) быў схоплены разам з Плятэрам 14 красавіка 1863 г. ля Дубны. Канфірмацыяй Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на службу ў войсках Асобнага Арэнбургскага корпуса без выслугі [НГАБ. Ф. 162. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 39 адв.; Ф. 296. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 88; Ф. 319. Воп. 1. Спр. 479. — Алфавітны спіс асоб, пазбаўленых правоў стану за ўдзел у паўстанні 1863 г. 27.05.1865. — Арк. 22 адв.; Ф. 320. Воп. 1. Спр. 398. Арк. 198; Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 37; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 126, 389 адв.; Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–507].

[41] Селянін Дынабургскага павета Антон Панасевіч (24 гады) быў схоплены разам з Плятэрам 14 красавіка 1863 г. ля Дубны. Канфірмацыяй Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення некаторых правоў стану і ссылкі ў арыштанцкія роты на 3 гады [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 40; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 397; Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–507].

[42] Селянін Ян Баўр (Баўраў), які да паўстання жыў у м. Краслаўка, быў схоплены разам з Плятэрам 14 красавіка 1863 г. ля Дубны. Канфірмацыяй Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення некаторых правоў стану і ссылкі на службу ў войсках Асобнага Арэнбургскага корпуса без выслугі, а на яго маёмасць, паводле распараджэння віцебскага губернатара ад 4 снежня 1863 г., накладаўся секвестр. Пасля вызвалення ён падлягаў пасяленню на казённых землях у Сібіры. У 1866 г. яго жонка Агнешка падала прашэнне аб вяртанні пасля рот на радзіму, аднак 15 красавіка 1866 г. яно было адхіленае [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 9; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31604. — Справа паводле падачы віцебскага губернскага пракурора прашэнняў зняволеных, што ўтрымліваюцца ў турэмных замках, аб больш хуткім заканчэнні іх спраў і інш. 28.12.1863–27.05.1866. — Арк. 613–615; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 397; Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–507].

чаго паўстанцы падпалілі вазы, на якіх пакінулі параненых[43], і зніклі, пакідаючы на месцы Леана са сваімі слугамі, каб, адпаведна прынятаму плану, ён прабраўся за Дзвіну[44]. Камандзір, аднак, няўдала, нягледзячы на вайсковы досвед, узяўся за справу, бо некалькі жаўнераў з суправаджэння ўцяклі ў Краслаўку[45] да палкоўніка артылерыйскага парка[46], што там знаходзіўся, з аповедам пра напад і жадаючы дапамогі супраць паўстанцаў, у выніку чаго загадзя падрыхтаваныя сяляне, а менавіта суседнія старавеěры, атрымалі загад лавіць «бунтаўшчыкоў». Такім чынам, Леан, пакінуты на волю лёсу, перш за ўсё ратаваў нешчаслівых жаўнераў, пакінутых на падпаленых калёсах, дагледзеў іх і паклаў на моху ў лесе, і, прасачыўшы за знішчэннем вазоў і лішняй зброі, узяўся перапраўляцца праз лес вакольнымі сцяжынамі, праз так званыя пасяленцкія землі[47], дзе жылі раз’юшаныя навіной пра напад старавееры, бо не было іншай дарогі. Тым часам ужо натоўпы расколаў, узброеных каламі і карабінамі, сабраліся з крыкам, прыдумкамі і праклёнамі. Леан са сваімі вымушаны быў адстрэльвацца і абараняцца, і толькі так здолелі ўцячы цэлымі. Гэта была жудасная ноч, бо паўстанцы былі ўвесь час у небяспецы, стамляліся, цегнучыся з карабінамі 30 вёрст, у няспынным напружанні, абараняючыся ад натоўпаў, якія ўвесь час павялічваліся. Нарэшце пад раніцу яны здолелі дабрацца да Вышак.

Тут павінны былі іх чакаць коні. Але не было ані следу іх… Станіслаў Моль, баючыся помсты, не стрымаў слова, аднак гэта ніяк яму не дапамагло, бо расколы яшчэ ў гэты ж дзень, збіўшы яго, звязалі і, абрабаваўшы і спаліўшы двор, адвезлі ў Дынабург[48]. Страціўшы надзею паратунку, дашчэнту вычарпаны Леан са сваімі таварышамі рэшткамі сіл стараўся плесціся далей праз Дубенскія лясы[49] пры няспынным пераследаванні натоўпамі. Урэшце, ледзьве могучы валачыся, усе былі схопленыя, звязаныя, цяжка збітыя і акрываўленыя. Чэрнь, здзекуючыся над імі, з трыумфам адвезла генерал-

43 Звесткі пра пакіданне параненых на вазах выглядаюць дастаткова сумнеўнымі, бо ў матэрыялах следства і суда падобны момант не фігураваў. Напрыклад, у канфірмацыі Длатоўскага па справе паўстанцаў атрада пра гэта сказана наступным чынам: «а вазы са скрынямі, што былі на іх, падпаліла, пры гэтым было забіта 3 шарагоўцаў і паранены цяжка шараговец Жывацінскі і вазніца» [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–506]. І ні слова пра спробу спалення параненых. Такі важны момант наўрад ці мог бы быць выпушчаны з поля гледжання следчай камісіі, якая, як сведчыць ніжэй сам Яўген Броэль-Плятэр, шукала любыя магчымасці для абцяжарання віны яго брата Леана.

44 Заходняя Дзвіна — буйная рака ў Расіі, Беларусі і Латвіі.

45 Краслаўка (Краслава) (латыш. Krāslava) — мястэчка, цэнтр воласці Дынабургскага павета, у цяперашні час — краёвы горад у Латвіі. З 1729 г. да Першай сусветнай вайны належала прадстаўнікам роду Плятэраў.

46 Гэта быў Міхаіл Іванавіч Фірсаў, які займаў пасаду камандзіра грэнадзёрскай паркавай артылерыйскай брыгады і лятучага грэнадзёрскага парка і меў сваю кватэру ў Краславе каля 20 гадоў [Bujnicki K. Wyjątek z własnoręcznego pamiętnika… S. 48, [Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 223; Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: документы и материалы. Москва: Наука, 1964. С. 585; Список полковникам по старшинству. Санкт-Петербург: Военная типография, 1863. С. 313].

47 Калісьці Дынабургскага староства (заўвага Я. Броэль-Плятэра).

Дынабургскае гродскае староства з’яўлялася адной з найбольш прывабных крыніц даходу, а пасада дынабургскага старасты, якая была доўгі час злучаная з пасадай дынабургскага войта, — адной з найбольш важных у Інфлянтах. У XVIII ст. дынабургскімі старастамі з’яўляліся часта прадстаўнікі роду Плятэраў [Jeziorski P. A. Dyneburg w ostatnim stuleciu istanienia Rzeczypospolitej obojga narodów. Przyczynek do dziejów społecznych i gospodarczych miasta // Stan badań nad wielokultorowym dziedzictwem dawnej Rzeczypospolitej. T. II / red. W. Walczak i K. Łopatecki. Białystok, 2010. S. 409–439].

48 Успаміны Казіміра Буйніцкага і Людвікі Плятэр пацвярджаюць факт разрабавання Вышак. Буйніцкі піша, што жылы дом Моля «самы першы стаў тэатрам жорсткасці і хцівасці моцнага натоўпу набеглых з казённых і ваколічных вёсак сялян» [Bujnicki K. Wyjątek z własnoręcznego pamiętnika… S. 47]. Людвіка Плятэр піша, што «пасяленцкае сялянства… услед за паўстанцамі бегла ў Вышкі, напала на двор, звязала гаспадара Станіслава Моля падчас сну, братоў яго і гасцёў, б’ючы, піхаючы, здзекуючыся, і пацягнула іх у Дынабург» [[Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 224].

49 Лясы ля маёнтка Дубна.

ад'ютанту Шувалаву (у далейшым генерал-губернатару і міністру[50]). Той, дапытаўшы Леана, загадаў яго тут жа развязаць і спытаў, ці ён быў кіраўніком нападу. Леан, думаючы пра Буйніцкага, які меў жонку і дзіцё[51], узяў віну на сябе і не пярэчыў. Яго адаслалі ў Дынабургскую фартэцыю і пасадзілі там у турму са слугамі, але асобна.

У гэты час пачаліся агульныя непарадкі. Сяляне, раз'юшаныя старaверамі, прагнымі да рабункаў, з зачэпкай пошуку паўстанцаў кідаліся на двары, знішчаючы, палячы, рабуючы без перашкоды з боку ўладаў. На працягу некалькіх дзён вязалі памешчыкаў і ксяндзоў і выдавалі ўладам як бунтаўшчыкоў; паўсюль агні пажараў, бязмежная дзёрзкасць і злосць, якія дазвалялі сабе сяляне, лічачы, што мелі такі загад. Так былі абрабаваны і знішчаны некалькі дзясяткаў двароў, і пайшло б далей, калі б улады не апамяталіся, бачачы, чым гэта пагражае, і з дапамогай войска не стрымалі далейшыя непарадкі[52].

[50] Граф Пётр Шувалаў (1829–1889) — генерал-маёр, генерал-ад'ютант, у 1861–1864 гг. з'яўляўся начальнікам штаба корпуса жандараў і кіраўніком III Аддзялення Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці канцылярыі, у 1864 г. прызначаны выконваючым абавязкі ліфляндскага генерал-губернатара (генерал-губернатара Прыбалтыкі) і камандуючым войскамі Рыжскай ваеннай акругі (на пасадзе да 1866 г.); з 1866 да 1874 г., узначальваючы корпус жандараў і III Аддзяленне, з'яўляўся адным з самых уплывовых расійскіх палітыкаў. У красавіку 1863 г. знаходзіўся ў Дынабургу, будучы высланым з Пецярбурга для задушэння як паўстання, так і сялянскіх бунтаў [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 94, 497; Революционный подъем в Литве и Белоруссии... С. 690; Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. С. 215–216; Список генералам по старшинству. Санкт-Петербург: В военной типографии, 1864. С. 499; Список генералам по старшинству. Санкт-Петербург: В военной типографии, 1872. С. 182].

[51] Жонка Зыгмунта Буйніцкага Ганна сама трапіла пад следства і паводле распараджэння М. Мураўёва (да 22 ліпеня 1863 г.), была высланая «адміністрацыйным парадкам» на жыхарства пад нагляд паліцыі ў Тамбоўскую ці Табольскую губерню. Іх сына Караля (нар. каля 1861 г.) яна аддала на ўтрыманне сваячцы — памешчыцы Дрысенскага павета Корсак. На месцы ссылкі звярталася да ўладаў з прашэннем аб выдачы матэрыяльнай дапамогі. Верагодна, у хуткім часе яна атрымала палёгку пакарання, бо ў 1865 г. жыла пад наглядам паліцыі ў г. Харкаве [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 8 адв.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31355. — Справа паводле паведамлення аланецкага, тамбоўскага і вяцкага губернатараў аб падачы звестак пра матэрыяльны стан асоб, якія высланы ў іх губерні і звярнуліся з прашэннямі аб выдачы ім дапамогі. 02.08.1863–24.06.1864. — Арк. 22–28а; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31583. — Справа паводле паведамленняў губернатараў з падачай ім звестак пра матэрыяльны стан асоб, сасланых пад нагляд паліцыі за ўдзел у паўстанні 1863 г., для аказання ім дапамогі. 19.03.1864–18.05.1864. — Арк. 132–133, 389 адв.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52285. Арк. 5, 42 адв.; Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 489; Bujnicki K. Wyjątek z własnoręcznego pamiętnika… S. 56].

[52] Сялянскімі бунтамі ўвесну і ўлетку 1863 г. былі ахопленыя ўсе «інфлянцкія» паветы (Дынабургскі, Рэжыцкі, Люцынскі) Віцебскай губерні. Яны мелі сваю перадумову: у 1861–1862 гг. падчас рэалізацыі сялянскай рэформы на гэтых тэрыторыях не раз успыхвалі сялянскія хваляванні, якія памешчыкамі часта душыліся з дапамогай расійскіх вайсковых адзінак. Сярод іншага, непадначаленне памешчыкам мелася і ў Дынабургскім павеце. Пры гэтым колькасць параненых, забітых і пакараных рознымі цялеснымі карамі сялян вымяралася сотнямі [Революционный подъем в Литве и Белоруссии… С. 83–84, 572–577 і інш.]. Таму антаганізм паміж памешчыкамі і сялянамі на пачатку 1863 г. быў вялікі. У выніку, калі памешчыкі пазбавіліся абароны ад войскаў, сяляне скарысталі гэтую сітуацыю і каб адпомсціць за старыя крыўды, і каб дамагчыся (у патэнцыяле) перадачы ў іх валоданне зямлі, што напярэдадні паўстання трапіла ва ўласнасць іх былых гаспадароў. Цікавы рапарт начальніка IV акругі корпуса жандараў Аляксандра Гільдэбранта пры апісанні лютасці сялян: «Я … сустракаў ва ўсіх вёсках (Рэжыцкага павета. — *Дз. М.*) натоўпы сялян, узброеных каламі і косамі, большай часткай п'яных», «навакольныя памешчыкі, што не паспелі ўцячы ў Рэжыцу, арыштаваны і звязаны сялянамі», «знайшоў… скаваных ці звязаных 28 дваран, з якіх шмат хто, у тым ліку і невінаватыя альбо, прынамсі, ні ў чым да гэтага часу не западозраныя, цярпелі жорсткія катаванні ад буяных і п'яных сялян, якія не давалі ім нават ежы», «сяляне выявілі да яго, які прадстаўляе вышэйшую паліцэйскую ўладу, яўны недавер і непавагу», «у Рэжыцы і Дынабургу збіралася да мяне мноства знаёмых і незнаёмых памешчыкаў, молячы аб апецы і абароне супраць раз'юшаных сялян» і г. д. [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 496–500; ящчэ пра гэтыя непарадкі гл.: Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі / уклад. Дз. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.]. Мінск: А. М. Вараксін, 2014. С. 165–166, 200–202; Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. С. 215–217]. На-

У маёнтку Людвіямпаль[53] на майго амаль 60-гадовага дзядзьку Казіміра Плятэра напалі ўночы натоўпы расколаў[54], якія нібыта шукалі ў яго зброю і порах. Слуг звязалі, а адзін з нападаючых ударыў яго сякерай і рассек плячо, пасля чаго адны кінуліся на жалезную скрыню, у якой знаходзіліся грошы і каштоўныя паперы, і, пасекшы яе, пачалі выцягваць з яе каштоўнасці, ранячыся пры гэтым, другія білі і забіралі начынне, ламалі ўсё, выцягвалі бочкі з гарэлкай са склепаў, хапалі што толькі маглі. Таму як гэта працягвалася доўга і быў час паведаміць пра гэта паліцыі ў Краслаўцы, паспешна прыбыў камісар[55] і, знайшоўшы расколаў за работай ля жалезнай скрыні, кінуўся сам жменямі хапаць папяровыя грошы, і столькі іх нахапаў, што пазней купіў сабе за іх зямельны маёнтак. Гэты ж камісар, жадаючы павялічыць непарадак, сам даў сігнал да пажару,

---

ват старшыня Дынабургскай следчай камісіі Сцяпан Панюцін прызнаваў хаатычнасць дзеянняў сялян: «Хаос зразумелы, бо сяляне забіралі ўсіх без разбору…», «сяляне бралі ўсіх, хто толькі не быў апрануты ў сялянскае адзенне» [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 503–505]. Непарадкі былі спыненыя толькі з выкарыстаннем вайсковых адзінак. Аднак нават у адносінах да вінаватых сялян крымінальнае пераследаванне было адносна мяккім, а 20 лістапада 1863 г. віцебскі цывільны губернатар Уладзімір Вяроўкін выдаў распараджэнне Дынабургскаму павятоваму суду спыніць справу ў адносінах да сялян аб разрабаванні імі памешчыцкіх маёнткаў і валасных праўленняў у павеце [НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52209. — Матэрыялы аб удзельніках паўстання 1863 г., аб хваляваннях сялян (заключэнне Дынабургскай следчай камісіі, думка віцебскага ваеннага губернатара, перапіска з павятовымі начальнікамі і інш.). 19.06.1863–16.12.1863; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52250. — Справа пра сялян Рэжыцкага павета, якія бралі ўдзел у паўстанні 1863 г. 02.02.1864–02.09.1864. 109 арк.; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 142–143]. Аднак гэтыя непарадкі немагчыма растлумачыць толькі супярэчнасцямі за зямлю. Мемуарысты паведамляюць, што ў іх удзельнічалі шматлікія стараверы, якія ніколі не знаходзіліся ў прыгоннай залежнасці ад памешчыкаў. Магчыма, што ў іх праявіўся этнічны і саслоўны антаганізм паміж паланізаванымі памешчыкамі-немцамі, з аднаго боку, і сялянамі — латышамі, рускімі і беларусамі, што насялялі гэтыя землі, — з другога. Да апошніх прымыкалі таксама і яўрэі, якія ў Дынабургу ў Леана Плятэра «кідалі брудам і камянямі, крычучы: Вот графскі сын мяцежнік» [[Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 225].

Пра разрабаванне маёнтка Казіміра Плятэра гл. ніжэй.

[53] Людвіямпаль (рус. Людвиамполь, латыш. — Ludvikova) — маёнтак у Краслаўскай воласці Дынабургскага павета, у цяперашні час — пасёлак у Скайстаўскай воласці Краслаўскага краю Латвіі. Разрабаванне Людвіямпаля пацвярджаецца Казімірам Буйніцкімі і Людвікай Плятэр [Bujnicki K. Wyjątek z własnoręcznego pamiętnika… S. 47–48, 55; [Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 224].

[54] У 1863 г. стараверы (стараабрадцы) у Віцебскай губерні узялі самы актыўны ўдзел у задушэнні паўстання. Прычына гэтага наўрад ці крыюцца ў рэалізацыі сялянскай рэформы 1861 г., бо стараверы не былі ў ліку прыватнаўласніцкіх прыгонных сялян, а жылі на дзяржаўных землях і з мясцовымі памешчыкамі былі звязаныя толькі ў некаторых выпадках адносінамі арэнды іх зямлі. Магчыма, прычыны іх негатыўнага стаўлення да памешчыкаў неабходна шукаць у эканамічнай канкурэнцыі паміж гэтымі групамі насельніцтва Інфлянтаў. Апрача таго, старверам былі цалкам чужыя ідэі ўзнаўлення Рэчы Паспалітай. Віцебскі віцэ-губернатар Аляксандр Пятніцкі ў сваім цыркуляры ад 3 ліпеня 1863 г. (на падставе распараджэння М. Мураўёва ад 17 чэрвеня) назваў іх «вернае і аддадзенае Гасудару і Ураду насельніцтва» і асобна забараніў памешчыкам-каталікам прыгнятаць іх, у прыватнасці зганяць з арандаваных імі надзелаў зямлі. У Дынабургу са стараверяў Дынабургскага і Рэжыцкага паветаў была нават створаная асобная казацкая сотня для барацьбы з паўстанцамі. Аналагічныя спробы рабіліся ў Мінскай губерні [НГАБ. Ф. 296. Воп. 1. Спр. 24. — Справа аб фарміраванні конных атрадаў са староверяў, якія жылі ў Мінскай губ. 12.07.1863–12.08.1863. 35 арк.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31318. — Распараджэнне віленскага ваеннага генерал-губернатара ад 17 чэрвеня 1863 г. віцебскаму губернатару аб забароне выцясняць стараверяў з зямельных надзелаў, што знаходзяцца ў іх аброчным утрыманні. 3 арк.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 32122. — Справа паводле падачы Віцебскай палаты дзяржаўных маёмасцяў аб наданні льгот дынабургскім і рэжыцкім стараверам за службу ў сотні казакоў падчас паўстання 1863 г. 13.02.1865–26.04.1865. 17 арк.; Ф. 2601. Воп. 1. Спр. 2. — Цыркуляры віцебскага губернатара аб абвяшчэнні Дрысенскага павета на ваенным становішчы, аб захадах па пакаранні за ўдзел у паўстанні і садзейнічанне паўстанцам. 09.05.1863–21.12.1863. — Арк. 76 — 76 адв.; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 83–84, 205–206]. Факт актыўнага ўдзелу стараверяў у рабунках пацвярджаюць усе вядомыя ўспаміны пра падзеі ў Інфлянтах.

[55] Не ўдалося ідэнтыфікаваць асобу.

стрэліўшы ў саламяную страху, ад чаго пачаўся агульны пажар, і ўсе забудовы — жылы дом, флігелі і некалькі гумнаў — згарэлі дашчэнту. Мой дзядзька вымушаны быў глядзець на гэта, лежачы недагледжаным, бо яго кінулі на вузкія калёсы, а пазней, не звяртаючы ўвагі на рану, галопам прывезлі, як паўстанца, у Краслаўку. Там яго трымалі на двары, нічым не прыкрытага. Толькі ўвечары мясцовы доктар атрымаў дазвол агледзець яго, задаволіўшы моцныя просьбы сясцёр міласэрнасці, палкоўнік урэшце дазволіў прыняць яго пад варту ў іх шпіталь, але толькі праз некалькі дзён. Там жа ён ад ран у хуткім часе памёр[56].

Назаўтра пасля адбіцця зброі паўстанцамі мы, я і мой брат Міхал, былі арыштаваныя ў Краслаўцы, куды прыбылі, як звычайна, у нядзелю. Нас пасадзілі ў халодную і вільготную гаўптвахту, назаўтра ж перавялі ў іншую, нібыта больш прыстойную кватэру і чацвёртага дня вывезлі на фурманках пад вартай у Дынабургскую фартэцыю, у вялікую турму, дзе мы знайшлі шмат якіх памешчыкаў, ксяндзоў, службоўцаў, прывезеных як вязні, злоўленых сялянамі[57]. Там было страшна цесна, душна і неспакойна. Галоўны вайсковы доктар, Канрадзі[58], добры і прыстойны чалавек, які прыходзіў па службе наведваць вязняў, таму як там былі і хворыя, увайшоў у нашае становішча і абяцаў узяць як слабых у вайсковы шпіталь. Там была ачышчаная адна так званая камера ад арыштантаў-злачынцаў, і нас пасадзілі разам з больш чым дзесяццю іншымі, апрануўшы ў казённыя, арыштанцкія «халаты». Доктар Канрадзі штодзень прыходзіў экзаменаваць хворых, і ад яго мы даведваліся пра тое, што адбывалася з братам Леанам, бо ён бачыў яго таксама штодзень. Таксама дзякуючы яму мы правялі з Леанам цэлы дзень у гэтай шпітальнай турме, бо прывёў яго нам у шпіталь як хворага. Тады мы даведаліся ад Леана пра падрабязнасці яго злаўлення; ён быў у добрым настроі і не прадбачыў, каб яму пагражала такая вялікая небяспека, бо ніколі не належаў да песімістаў.

Ужо назаўтра прыйшоў загад, каб яго перавялі ў новую турму, нядаўна пабудаваную ў самім горадзе, адкуль яго вывозілі некалькі разоў у фартэцыю на следчыя допыты і так званыя вочныя стаўкі; Канрадзі ж атрымаў вымову, што асмеліўся размясціць яго

---

[56] Адносіны Казіміра Плятэра са сваімі часоваабавязанымі сялянамі напярэдадні паўстання былі дрэннымі. Прычына гэтага — рэалізацыя сялянскай рэформы 1861 г. Сялянскія бунты пачаліся ў яго ўладаннях яшчэ ўвесну 1861 г., а Плятэр для іх задушэння выкарыстоўваў расійскія войскі. У тэлеграме генерал-маёра Аляксандра Веймарна гэта апісана наступным чынам: «У маёнтку гр. Плятэра значная колькасць сялян адмовілася працаваць і абіраць старастаў. Я загадаў узяць указанага падбухторшчыка і пакараць. Усе сяляне, імгненна ўзброіўшыся дубінамі, з ярасцю кінуліся на мяне і роту. Я і афіцэры шаблямі, людзі спачатку прыкладамі, а затым штыкамі адкінулі бунтаўшчыкоў пасля працяглай сутычкі: стрэлу не было дадзена, пакараў строга 20 чалавек, 12 сялян паранены не небяспечна, усе скарыліся» [Революционный подъем в Литве и Белоруссии… С. 84, 576]. Верагодна, менавіта гэтая варожасць і стала штуршком да разрабавання і спалення цэнтра маёнтка і забойства самога Плятэра.

[57] Дынабург — адзін з двух гарадоў Віцебскай губерні (другі — Віцебск), куды масава звозіліся схопленыя ўдзельнікі паўстання ці арыштаваныя паводле падазрэння ў падтрымцы яго альбо спачуванні. С. Панюцін так апісваў умовы ўтрымання зняволеных: «У фартэцыі амаль няма адзіночных памяшканняў, арыштанты змяшчаюцца па 3 і 4, а ў трох палатах — ад 20 да 30. Для знішчэння гэтай нязручнасці 10 чалавек яшчэ да мяне пераведзены ў турэмны замак, у адзіночныя пакоі, у тым ліку і Леан Плятэр. Чацвёртага дня я агледзеў замак, як наўмысна пабудаваны для палітычных арыштантаў, і знайшоў яшчэ 30 асобных пакояў, куды адразу ж перавёў 12 чалавек…». Асноўнымі рэальнымі ўдзельнікамі паўстання, якія тут утрымліваліся, былі, апрача людзей з дынабургскага атрада, паўстанцы з дрысенскага-себежскага атрада пад камандаваннем Баляслава Кульчыцкага і Казіміра Медунецкага і ўдзельнікі спробы арганізаваць атрад у маёнтку Марыенгаўзэн Люцынскага павета [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 503–505].

[58] Карл Канрадзі — калежскі радца, кавалер ордэнаў Св. Станіслава 2-й ступені і Св. Ганны 3-й ступені, у 1863 г. галоўны лекар Дынабургскага ваеннага шпіталя [Памятная книжка Витебской губернии на 1863 год… С. 56].

ў шпіталі. Была прызначаная следчая камісія[59] з Пецярбурга пад кіраўніцтвам стацкага радцы Старажэнкі[60] і Панюціна[61], асабліва непрыхільнага чалавека. Камісія паводле загаду Мураўёва[62] распачала сваю дзейнасць. Адразу было відаць, што існавала пастанова асудзіць Леана. Гэтая мэта была яскрава відавочная на працягу ўсяго следства. Нам таксама хацелі даказаць, што мы ўдзельнічалі ў нападзе і адбіцці зброі, але занадта шмат было разнастайных сведкаў, якія бачылі нас у гэты ж дзень і вечар за гаспадарчымі працамі і хатнімі заняткамі, таму на гэты раз усё скончылася жаданнямі. Следства працягвалася. Да нас даходзілі розныя навіны, якія паходзілі ад саміх сябраў камісіі, што яны ўсё больш знаходзілі аргументаў для асуджэння Леана.

У гэты час Зыгмунт Буйніцкі, зразумеўшы небяспеку свайго становішча, адразу пасля замаху накіраваўся ў Пецярбург і там ад міністра Валуева[63] праз сястру, якая была сяброўкай жонкі[64] спадара Валуева, атрымаў пашпарт і выехаў за мяжу. Да яго хутка дайшла навіна, што ён у бяспецы і яму нічога не пагражае. Леан жа за яго мог быць у любы дзень асуджаны на смерць. Таму некаторыя з сям'і Буйніцкіх пачалі дамагацца ад Зыгмунта, каб ён публічна прызнаў віну. Аднак, на жаль, занадта позна ён паслаў у камісію ліст, у якім пісаў, што гэта ён быў сапраўдным і адзіным камандзірам атрада, які адбіў зброю у Бальтынскім лесе каля Краслаўкі. Яго жонка ўзялася асабіста ўручыць гэты ліст сябрам сабранай камісіі. Ліст прынялі з недаверам, прачыталі яго, але не звярнулі на яго ніякай увагі, нават, як здаецца, не згадана пра яго

59 Дынабургская следчая камісія была заснаваная паводле распараджэння міністра ўнутраных спраў Пятра Валуева ад 14 красавіка 1863 г. і праіснавала да 14 студзеня 1865 г. Спачатку яе старшынёй планаваўся лейб-гвардыі палкоўнік Аляксандр Ягораў, аднак ужо 21 красавіка на гэтую пасаду быў прызначаны сапраўдны стацкі радца Сцяпан Панюцін (гл. ніжэй) [Витебская губерния: государственные, религиозные и общественные учреждения (1802–1917) / Т. Е. Леонтьева [и др.]; сост. Т. Е. Леонтьева, Д. Л. Яцкевич; редкол. А. К. Голубович (гл. ред.) [и др.]. Минск: БелНДИДАТ, 2009. С. 116–117; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 139–140].

60 Старажэнка Аляксей (1805–1874) — расійскі гісторык і пісьменнік украінскага паходжання, з 1823 г. знаходзіўся на вайсковай службе; у 1863 г. — чыноўнік па асаблівых даручэннях пры віленскім генерал-губернатары, у 1865–1866 гг. — старшыня камісіі па справах рымска-каталіцкага духавенства ў Вільні, у 1868 г. выйшаў у адстаўку ў чыне сапраўднага стацкага радцы, аўтар публікацый у «Весніку Паўночна-Заходняй Расіі» [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 575; Fajnhauz D. 1863: Litwa i Białoruś / Inst. Historii PAN. Warszawa: Neriton, 1999. S. 237, 268–269].

61 Сцяпан Панюцін (1822–1885) — расійскі дзяржаўны дзеяч, даслужыўся да чыну тайнага радцы; доўгі час служыў у Каралеўстве Польскім, 21 красавіка 1863 г. узначаліў Дынабургскую следчую камісію, у чэрвені 1863 г. прызначаны віленскім грамадзянскім губернатарам (на пасадзе прабыў да сакавіка 1868 г.), быў адным з найбольш аддадзеных прыхільнікаў Мураўёва і яго палітычнага курсу [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 566; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 140; Цылов Н. И. Дневник члена Виленской политической комиссии при графе Муравьеве 1863–1864 г. // Русский архив. Год 44. 1906. Т. 3. С. 259–260, 277 і інш.].

62 Міхаіл Мураўёў (1796–1866) — дзяржаўны, грамадскі і ваенны дзеяч Расійскай імперыі; у 1863 г. прызначаны на пасаду віленскага генерал-губернатара, на якой вылучыўся жорсткасцю пры задушэнні паўстання і русіфікацыі краю, у тым ліку смяротнымі пакараннямі і высылкамі з радзімы; пакінуў успаміны пра дзейнасць у Вільні [Граф Михаил Николаевич Муравьев. Записки его об управлении Северо-Западным краем и об усмирении в нем мятежа, 1863–1866 гг. // Русская старина. Т. 36–38. 1882–1883; приложение — Т. XLII. 1884. № 6. С. 573–584; Караў Дз., Токць С. Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч // ЭГБ. Т. 5. Мінск: БелЭн, 1999. С. 238–239; Орловский Е. Граф М. Н. Муравьев как деятель над укреплением прав русской народности в Гродненской губернии 1831–1835 и 1863–1865. Гродно: Губ. Типогр., 1898. 31 с.; і шматлікія іншыя].

63 Граф Пётр Валуеў (1815–1890) — упраўляючы (з 23 красавіка 1861 г.) і міністр (з 9 лістапада 1861 г.) унутраных спраў, займаў гэтую пасаду да 9 сакавіка 1868 г. [Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 140].

64 Маецца на ўвазе другая жонка Валуева (першая Марыя Вяземская памерла ў 1849 г.) Ганна (1830–1883), дачка рыжскага паліцмайстра палкоўніка Івана Вакульскага.

ў пратаколе[65]. Да якой жа ступені панавала абыякавасць і злая воля ўнутры камісіі наконт гэтай справы? Сярод шматлікіх доказаў гэта было відаць з наступнага прыкладу. Двух параненых жаўнераў, выратаваных Леанам, размясцілі асобна ў шпіталі; падчас следства да іх прывялі Леана, каб яны пазналі яго і засведчылі, што гэта ён камандаваў партыяй у лесе. У гэтым самым пакоі ляжаў за шырмай нібыта смяротна хворы нехта Петрусевіч[66], памешчык з Літвы, схоплены як паўстанец, які, як здавалася, быў ужо зусім непрытомны, так што на яго не звярталі ніякай увагі; ён, аднак, усё чуў і бачыў, як Панюцін пасля гучнага адпору жаўнераў, што не Леан, што стаіць перад імі, быў камандзірам, нахіліўся да аднаго з іх, гаворачы: «Усё ж гэты быў начальнікам?», на што паранены ўскрыкнуў: «Я вам казаў, што не ён, ён мне жыццё ратаваў. Начальнік інакш выглядаў» — і апісаў яго выгляд і адзенне. Аднак пра гэта таксама не зроблена ні згадкі ў пратаколе. Паміж гэтымі нястойкімі паўстанцамі знайшліся такія, якія праз баязлівасць павялічвалі віну Леана перад уладамі. Памешчык Глушанін[67], узяты як паўстанец са свайго маёнтка Скайста[68], жадаючы апраўдацца, сцвярджаў у камісіі на вочных стаўках, што быў вымушаны пайсці, бо не меў выбару, таму як Леан яму пагражаў неадкладнай смерцю з пісталета. Леан, натуральна, абвяргаў гэта, бо ў гэтым не было і ценю праўды, камісія, аднак, сквапна скарыстала гэтае абвінавачванне, няслушна ж абвінавачаны нават абурэння не меў да паклёпніка, толькі спачуваў над яго маладушнасцю.

Сабраўшы ўсе доказы, камісія на падставе ваеннага становішча паводле існуючых законаў за ўзброенае паўстанне і камандаванне партыяй вынесла смяротны прысуд, які павінен быў пайсці на вышэйшае зацвярджэнне і, як паўсюль казалі, быць палегчаны. Усе былі здзіўленыя гэтым настолькі суровым прысудам і перакананыя, што гэта

---

65 Верагодна, маецца на ўвазе ліст Буйніцкага на імя ягонай жонкі ад 3 траўня 1863 г. У ім Буйніцкі абвяшчаў, што разбіццё транспарту са зброяй у наваколлі Краслаўкі было праведзенае ім асабіста з дапамогай некалькіх людзей, у тым ліку і Леана Плятэра, якіх ён «прымусіў сілаю прысягнуць». У далейшым Буйніцкі паслаў яшчэ адзін ліст — ад 21 чэрвеня (3 ліпеня) 1863 г. на імя Э. Длатоўскага і сябраў Дынабургскай камісіі. У ім пісалася: «Красавіка 13 цяперашняга 1863 г. пры адбіцці пад Краслаўкаю транспарту са зброяй адзін я быў кіраўніком, начальнікам узброенай партыі, я сабраў інсургентаў, я ўсім распараджаўся, я быў правадыром іх з уладай неабмежаванай, а ўсе яны, мае паплечнікі, павінны былі падначальвацца мне беспярэчна». Пры гэтым падаць гэты ліст павінна была менавіта жонка Буйніцкага [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 508–510].

66 Верагодна, маецца на ўвазе ўладальнік маёнтка Фартунопаль Люцынскага павета Ян Іаахімавіч Петрусевіч, які за «нядобранадзейныя дзеянні» быў арыштаваны і зняволены ў Дынабургу. Пазней пастановай ваеннага суда ад 19 траўня 1864 г. прызначаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы пад строгі нагляд паліцыі ў Арэнбургскую ці Пензенскую губерню, а на яго маёнтак у 1864 г. накладзены секвестр. Яго жонка Ксаверыя ў снежні 1864 г. падала прашэнне аб зняцці секвестру з прычыны адсутнасці сродкаў на ўтрыманне 8 дзяцей, і, паводле распараджэння М. Мураўёва ад 31 снежня 1864 г., секвестр здымаўся са спагнаннем узмоцненага 10-працэнтнага збору [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 41; Ф. 1416. Воп. 4. Спр. 11416. — Справа аб асобах, якія бралі ўдзел у палітычных непарадках па Віцебскай губерні. 13.05.1864–21.04.1867. — Арк. 20 адв.; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 199 адв., 420 адв., 453 адв., 498–503, 702–703, 731; Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 481 адв.].

67 Памешчык Глушанін даваў таксама паказанні супраць яшчэ аднаго паўстанца — Баляслава Матэрны, і гэта былі адзіныя паказанні супраць яго, на падставе якіх, паводле канфірмацыі Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г., ён быў прызначаны да ссылкі ў Пермскую губерню [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 506–507]. Пра напад на двор маёнтка Глушанінаў падчас сялянскіх непарадкаў і арышт гаспадара і яго гасцей паведамляе Людвіка Броэль-Плятэр [[Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 223].

68 Скайсты (латыш. — Skaista) — маёнтак Ізабэлінскай воласці Дынабургскага павета, у цяперашні час — сяло, цэнтр воласці Краслаўскага краю Латвіі.

толькі спалох і што ў Пецярбургу будзе заменены на іншае пакаранне. Леан меў такое ж перакананне, але дэкрэт не пайшоў у Пецярбург, бо Мураўёў дамогся права судзіць на смерць без апеляцыі[69]. Мая сям'я, як магла, прыкладала намаганні, звяртаючыся да розных уплывовых асоб, але дарэмна. Між іншымі стрыечная сястра, што жыла ў Княстве Пазнанскім, Ганна Плятэр[70] звярнулася праз княгіню Чартарыскую[71] з Атэля Лямбэр[72] да імператрыцы Яўгеніі[73], якая абяцала ўмяшацца праз французскага амбасадара ў Пецярбургу. На гэта пасля доўгай затрымкі атрымала адказ, што імператрыца, калі б ведала, хто маецца на ўвазе, з упэўненасцю адразу адмовіла б, бо гэты Леан Плятэр не заслугоўвае ніякай увагі, бо ён — рэвалюцыянер, які ўжо ў 1830 г. камандаваў бандамі і пакінуў пасля сябе найгоршую памяць[74].

І такія аргументы ўжываліся, каб разладзіць любую акцыю выратавання.

Пасля таго як была выдадзеная пастанова ваеннага суда, слугі Леана (якіх асудзілі на цяжкія працы), менавіта яго службоўца Юзаф Заблоцкі гвалтоўна дамагаўся ў камісіі, каб яму дазволілі падзяляць лёс свайго гаспадара і каб, калі павінен быць расстраляны, і ён мог разам з ім пайсці на смерць[75]. Аднак гэтая адданасць не ўзбудзіла ў камісіі найменшага спачування, толькі нібыта камендант фартэцыі[76], які не сімпатызаваў ваеннаму

---

[69] Ад самага свайго прызначэння на пасаду Мураўёў меў права канфірмацыі прысудаў па справах асоб, што знаходзіліся пад судом за «палітычныя злачынствы» — удзел у паўстанні ці спачуванне альбо падтрымка яго.

[70] Верагодна, маецца на ўвазе Ганна, дачка Адама Антонія Ануфрыя і ўнучка Аўгуста Гіяцынта Плятэраў і жонка далёкага сваяка Адама Броэль-Плятэра [Hayło L. Plater (Broel-Plater) Adam Antoni Onufry // PSB. T. XXVI. S. 644–645].

[71] Ганна Зоф'я Чартарыская (народжаная Сапега) (1799–1864) з'яўлялася жонкай Адама Ежы Чартарыскага (1770–1861) — кіраўніка кансерватыўнага лагера эміграцыі з зямель Рэчы Паспалітай (Атэля Лямбэр — гл. ніжэй); вяла ў эміграцыі актыўную дабрачынную і адукацыйную дзейнасць. У Парыжы яна належала да партыі, якая спрыяла прыходу да ўлады імператара Напалеона III, і таму мела шырокія сувязі з прадстаўнікамі французскай палітычнай эліты [Kalembka S. Wielka Emigracja. 1831–1863. Wyd. II. Toruń: Wydawnictwo Adam Marszałek, 2003. 434 s.].

[72] Атэль Лямбэр (фр. Hôtel Lambert) — кансерватыўны (арыстакратычны, манархічны) лагер палітычнай эміграцыі з зямель былой Рэчы Паспалітай пасля паўстання 1830–1831 гг., на чале з князем Адамам Ежы Чартарыскім, які ў 1843 г. набыў старажытны палац у Парыжы пад назвай Атэль Лямбэр, і менавіта з таго часу так стала называцца і кола яго прыхільнікаў; лагер яднаў пераважна выхадцаў з арыстакратыі і характарызаваўся наяўнасцю значных фінансавых сродкаў і сувязяў сярод еўрапейскай (у першую чаргу французскай і ангельскай) палітычнай эліты [Матвейчык Д. Ч. Выгнаныя з роднага краю. С. 44–47].

[73] Яўгенія (Марыя Яўгенія Ігнасія Аўгусціна), народжаная графіня Манціха (1826–1920), жонка імператара Францыі Напалеона III (шлюб 30 снежня 1853 г.).

[74] У паўстанні 1830–1831 гг. удзельнічалі некалькі прадстаўнікоў роду графаў Плятэраў — сенатар-кашталян Каралеўства Польскага Людвік, родныя браты Уладзіслаў і Цэзар, родныя браты Фердынанд і Люцыян, аднак найбольш верагодна, што тут праводзяцца паралелі з Цэзарам Броэль-Плятэрам, які ў 1831 г. з'яўляўся адным з камандзіраў паўстанцкага атрада, што дзейнічаў у Вількамірскім і іншых паветах Віленскай губерні [Bielecki R. Słownik biograficzny oficerów powstania listopadowego. T. 3. Warszawa, 1998. S. 302; PSB. T. XXVI. Wrocław [etc.]: Zakład narodowy imienia Ossolińskich [etc.], 1981. S. 649–652].

[75] Вольнаадпушчаны селянін Дынабургскага павета Юзаф Заблоцкі (нар. каля 1841 г.) да паўстання служыў камердынерам у Леана Плятэра; быў схоплены разам з ім 14 красавіка 1863 г. ля Дубны і канфірмацыяй Длатоўскага ад 26 траўня 1863 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводы на 4 гады [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 29; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 397; Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–507].

[76] Маецца на ўвазе генерал-лейтэнант Аляксандр Гольшын, які з'яўляўся камендантам Дынабургскай фартэцыі да верасня 1863 г., калі яго змяніў на пасадзе генерал-лейтэнант Рудольф Шульман [Памятная

начальніку генералу Длатоўскаму[77], быў уражаны прывязанасцю слугі да свайго гаспадара. У канцы траўня мы былі ўражаныя навіной, што Леан быў раптоўна пад моцнай вартай перавезены з турмы на прадмесці ў турму ў фартэцыі пад № 1. Там яму 26-га паведамілі, каб быў падрыхтаваны, бо назаўтра раніцай павінен быць расстраляны[78]. Яго засталі за спакойным пісаннем пяром на паперы. Папрасіў ксяндза, гэта дазволілі, і выконваючы абавязкі пробашча ксёндз Баляслаў Александровіч (пазней асуджаны на цяжкія працы, памёр па дарозе ў Цюмені)[79] атрымаў дазвол ад каменданта правесці з ім перадсмяротную ноч. У найвышэйшай сабранасці, у няспыннай малітве была праведзеная гэтая апошняя ноч. Леан спавядаўся, атрымаў апошняе прычасце, дараваў віну тым, хто меў дачыненне да яго згубы, дзякаваў Богу, што дазволіў яму быць ахвярай у добрай справе, ахвяроўваў сваю смерць за Святога Айца і ворагаў Касцёла і Айчыны, і так умацаваны духам дачакаўся раніцы. Прасіў спаткання з маці і сёстрамі[80], якія з гэтай мэтай прыбылі з вёскі ў Дынабург, і развітання з намі, братамі. У гэтым апошнім яму і нам адмовілі. Мы толькі атрымалі ад яго развітальную нататку (якую я хаваю ў медальёне разам з яго валасамі) наступнага зместу:

«Улюбёныя, дарагія мае браты! Нам не наканавана бачыцца на гэтай зямлі — мне ад гэтага вельмі балюча. Прыміце мае абдымкі, хоць толькі праз ліст. Я бласлаўляю вас, прыціскаю да сэрца. Да пабачэння калі-небудзь у лепшай краіне. З любоўю да вас брат Леан. 27 траўня 1863 г.»[81].

---

книжка Витебской губернии на 1863 год… С. 152; Памятная книжка Витебской губернии на 1865 год. Санкт-Петербург: В типографии К. Вульфа, 1865. Часть вторая: Отдел статистический. С. 88].

77 Эраст Длатоўскі (1807–1887) — расійскі ваенны і дзяржаўны дзеяч; у 1863 г. з чынам генерал-лейтэнанта з'яўляўся ваенным начальнікам Віцебскай губерні і камандуючым войскамі, што знаходзіліся ў ёй, з галоўнай кватэрай у Дынабургу [Восстание в Литве и Белоруссии… С. 500, 505–508; Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 78, 79, 80, 85, 86 і інш.; Список генералам по старшинству. Санкт-Петербург: В военной типографии, 1864. С. 362].

78 Канфірмацыя Длатоўскага, паводле якой Плятэр і прысуджаўся да расстрэлу, была выдадзеная ў гэты ж дзень [яе тэкст гл.: Восстание в Литве и Белоруссии… С. 505–507]. У працы Анатоля Смірнова памылкова ўказваецца, што канфірмацыя была зробленая М. Мураўёвым: «Яшчэ па дарозе ў Вільню ён [Мураўёў] спыніўся ў Дынабургу толькі для таго, каб канфірмаваць смяротны прысуд Плятэру» [Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года… С. 294]. Гэтага не магло быць яшчэ і з той прычыны, што канфірмацыя выйшла 26 траўня, а Мураўёў прыбыў у Вільню ўжо 14 траўня і выдаў адпаведны загад аб уступленні ў кіраванне генерал-губернатарствам [Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 69]. Тым не менш пра тое, што Плятэру будзе вынесенае пакаранне менавіта смяротнае, Длатоўскаму было вядома яшчэ да дня канфірмацыі, бо яшчэ раней за 20 траўня ён паслаў распараджэнне выконваючаму абавязкі віцебскага губернатара Аляксандру Пятніцкаму аб высылцы з Віцебска ў Дынабург ка́та, які быў выпраўлены 21-га і прыбыў на месца 25 траўня [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 4. Спр. 11145. — Справа паводле прапановы начальніка Віцебскай губерні аб адпраўленні ў Дынабургскую фартэцыю ката. 31.05.1863–26.05.1863. 9 арк.]. Невядома, праўда, нічога пра ўдзел ката ў пакаранні Плятэра, бо, як і згадана ў гэтых успамінах і іншых крыніцах, ён быў расстраляны.

79 Пробашч Дынабургскага касцёла Баляслаў Александровіч пазней сапраўды за «ўдзел у паўстанні і як нядобранадзейны ў палітычных адносінах» быў прысуджаны да ссылкі на сталае жыхарства ў Томскую губерню і секвестру маёмасці. Памёр у турме [НГАБ. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31932. Арк. 2–15; Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 70 – 70 адв.]. Цікавую характарыстыку пакідае яму Апалонія Серакоўская: «Зыгмунт [Серакоўскі] цаніў яго розум, нічым нязломную энергію, вялікую высакароднасць і любоў да айчыны» [Sierakowska (z Dalewskich) A. Wspomnienia / opr. J. Sikorska-Kulesza, T. Bairašauskaitė. Warszawa: Wydawnictwo Neriton, 2010. S. 185–186].

80 Сцэну спаткання з маці і сёстрамі апісвае Людвіка Плятэр [[Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 226–227].

81 Тэкст яшчэ адной нататкі ад той жа даты — да маці, сясцёр і кузэнаў — прыводзіць Людвіка Плятэр [[Platerówna L.] Listy z Inflant Polskich… S. 227].

Пры гэтым распараджэнне адносна запісаў для слуг, якія суправаджалі яго, і просьба заплаціць некалькі дробных даўгоў. Маці і сясцёр, як і яшчэ некалькіх сваякоў, якіх дапусцілі да яго, прыняў з найбольшай яснасцю і спакоем, прасіў, каб яны не непакоіліся, бо такая смерць для яго — шчасце. Заўважыў, што ён другі са сваякоў памірае гвалтоўнай смерцю, бо адзін старэйшы брат, Казімір, купаючыся, патануў у возеры некалькі гадоў таму. Прасіў таксама маці, каб не абуралася на вінаватых у яго смерці. Цёпла з імі развітаўся, не затрымліваючыся, бо ўжо настойвалі, каб ехаў.

Сеў з ксяндзом, які ўвесь час не мог стрымаць сваіх слёз, на воз і, не праяўляючы найменшага страху, прыехаў на месца, дзе павінен быць пакараны, на пяскі за фартэцыяй, налева ад шляхоў Дынабургска-Рыжскай чыгункі[82]. Там на яго апранулі смяротную кашулю пасля таго, як знялі верхнюю вопратку[83], і залп з карабінаў у адну хвіліну паклаў канец гэтаму шляхетнаму жыццю. Сабралася шматлікая публіка, нават расіяне, а менавіта афіцэры, былі моцна ўражаныя мужнасцю яго скону. Спадарства Старажэнка, Панюцін, генерал Длатоўскі і іншыя назіралі з валоў фартэцыі за гэтай экзекуцыяй. Якія пры гэтым яны мелі думкі? Аднаму Богу вядома. Адбывалася аб адзінаццатай перад поўднем. Мы ў турэмным шпіталі ведалі пра гэта і, стоячы на каленях перад кратамі на акне, чулі залп, які пазбавіў нас брата. Адразу пасля расстрэлу Леана яго тамсама і закапалі, і войска, паводле прынятага звычаю, патаптала магілу, праходзячы некалькі разоў па ёй. Паставілі варту, і ўсе разышліся, але пасля паўночы прыбыў атрад з трунной, выкапаў парэшткі і вывез. Куды? Ніхто пра гэта, нягледзячы на старанныя пошукі і даследаванні, не мог даведацца. Магчыма, іх пахавалі ў садзе каменданта ў фартэцыі. Камендант, якога пыталі пазней пра гэта асобы, з якімі быў у добрых адносінах, адказаў: «Я не магу вам даць ніякіх дакладных звестак пра гэта, магу толькі сказаць, што парэшткі Леана Плятэра пакладзены ў прыстойным месцы…».

Праз некалькі месяцаў пасля гэтай катастрофы мая маці падала прашэнне імператрыцы Марыі[84], умаляючы яе як маці дазволіць выданне ёй парэшткаў расстралянага сына. Князь Сувораў[85], тагачасны генерал-губернатар у Пецярбургу, высакародны чалавек, які нам спрыяў увесь час і дзякуючы якому нас не вывезлі ў Расію, сам прачытаў гэтае прашэнне імператрыцы. Здавалася, што яно зрабіла на яе нейкае ўражанне, але нічога не абяцала, і мая маці нават не атрымала ніякага адказу. Мяне

[82] Рыга-Дынабургская чыгунка была пабудаваная ў 1858–1861 гг. на сродкі прыватнага капіталу — Таварыства Рыга-Дынабургскай чыгункі, звязвала Рыжскі порт на Балтыцы з Пецярбурга-Варшаўскай чыгункай, пралягала па Ліфляндскай і Віцебскай губернях [Тищенко В. Н. Паровозы железных дорог России. 1837–1890 гг. Москва: «О. Сергеев / Локотранс», 2008. С. 43–50].

[83] Магчыма, што вопратка, якая была знятая з Плятэра перад расстрэлам, захавалася да нашых дзён. Прынамсі прадмет менавіта з такой назвай знаходзіцца ў зборах Музея Войска польскага ў Варшаве. Вопратка ўключае ў сабе круглую шапку з чорнага аксаміту са скураным верхам і куртку з самаробнага сукна ў чорна-белую клетку [выяву гл.: Powstanie styczniowe. 1863–4. Warszawa: Bellona SA; Narodowe Centrum Kultury; Muzeum Wojska Polskiego, 2013. S. 137; перадрукавана ў: Матвейчык Д. Ч. Паўстанне 1863–1864 гадоў у Беларусі… С. 51].

[84] Маецца на ўвазе жонка імператара Аляксандра II Марыя Аляксандраўна, народжаная прынцэса Максіміліяна Вільгельміна Аўгуста Соф’я Марыя Гесэнская (1824–1880).

[85] Аляксандр Сувораў (1804–1882) — расійскі дзяржаўны, грамадскі і ваенны дзеяч; у 1861–1866 гг. займаў пасаду санкт-пецярбургскага ваеннага генерал-губернатара, меў славу ліберала і праціўніка жорсткасці пры задушэнні паўстання 1863–1864 гг., нават апекаваўся некаторымі са ссыльных паўстанцаў, што праязджалі праз Санкт-Пецярбург [Фядута А. Сувораў супраць Мураўёва // ARCHE. 2010. № 12. С. 284–299]. Ксёндз Леан Броэль-Плятэр у сваім нарысе нават апісваў цікавую сцэну знаёмства Суворава з будучым паўстанцам Леанам Броэль-Плятэрам [Broel-Plater L., ks. Leon Plater: Bohater powstania… S. 10–11].

з маім братам пасля амаль 20-тыднёвага зняволення выпусцілі нарэшце з прычыны адсутнасці доказаў[86], але інтэрніравалі ў Краслаўцы, пераследавалі на кожным кроку. Нягледзячы на спаленыя двары, цалкам разрабаваныя маёнткі, загадалі неадкладна выплаціць падвойную кантрыбуцыю[87], уладанні ж нябожчыка Леана секвестравалі, а пазней канфіскавалі[88]. Нешчаслівы Понсэт, які быў творцам і галоўным маторам гэтага няўдалага ў Інфлянтах псеўдапаўстання, быў схоплены і як дэлегат Нацыянальнага Урада асуджаны на смерць, а ў выглядзе даравання сасланы на катаргу, але з дапамогай сваячкі, якая была жонкай аднаго з міністраў у Пецярбургу, ужо на працягу года здолеў выкруціцца і бяспечна перабрацца ў Кракаў, калі столькі ахвяр яго недаравальнай, грэшнай і легкадумнай саманадзейнасці пакутавалі і заплацілі жыццём за давер да яго. Праз пяць гадоў пасля гэтага я сустрэў яго ў Кракаве ў публічным садзе. Ён рабіў выгляд, што не пазнаў мяне, і слушна рабіў, бо такая сустрэча не магла быць прыемнай для абодвух бакоў[89].

Вось успаміны, каротка і бегла сабраныя пра тую сумную эпоху і той няўдалы рух, ахвярай якога паў Леан Плятэр.

*Пераклад і каментары Дзмітрыя МАТВЕЙЧЫКА*

---

[86] Паводле дакументаў Дынабургскай следчай камісіі, справа Яўгена Броэль-Плятэра была скончаная 7 ліпеня 1863 г. [НГАБ. Ф. 3046. Воп. 2. Спр. 5. — Алфавітны спіс асоб, якія знаходзіліся пад следствам у Віцебскай і Дынабургскай следчых камісіях па палітычных справах. 1864 г. — Арк. 42].

[87] Для пазбаўлення памешчыкаў і ўвогуле насельніцтва каталіцкага веравызнання іх фінансавай дамінацыі на землях былога ВКЛ на яго у 1863–1865 гг. было накладзена больш за 20 відаў розных «кантрыбуцыйных» збораў [табель гэтых збораў гл.: Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях… С. 73–75]. Тут маецца на ўвазе падвойны 10-працэнтны збор, які звычайна накладаўся на маёнткі памешчыкаў пры вызваленні іх ад секвестру.

[88] Паводле распараджэння М. Мураўёва ад 9 жніўня 1863 г., маёнтак Казанова падлягаў раздзелу для канфіскацыі адной паловы ў казну і перадачы другой паловы брату Міхалу ў валоданне. Чарговы раз пастанова пра канфіскацыю часткі Казановы была выдадзеная М. Мураўёвым 27 лістапада 1863 г. Сярод іншага было канфіскавана 138 дзесяцін лесу [НГАБ. Ф. 1416. Воп. 3. Спр. 21048. Арк. 39; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31355. Арк. 57; Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 52163. Арк. 3–7, 126 адв., 215 адв. – 216, 230 адв., 269–270, 389, 457, 567, 824; Ф. 2514. Воп. 1. Спр. 2336. — Справа аб прыняцці ў казну канфіскаванага з маёнтка Казанова Дынабургскага павета, што належыць Плятэру, лесу. 11.03.1867–08.10.1870. 24 арк.; Ф. 2616. Воп. 1. Спр. 40. Арк. 10 адв.].

[89] Юзаф Понсэт да паўстання быў прызначаны камісарам у Інфлянцкае ваяводства, аднак пра яго дзейнасць практычна нічога невядома, апрача звестак, пададзеных у гэтых успамінах. У ссылцы ён заснаваў «суполку працы аб'яднаных майстроў-рамеснікаў», якая дапамагала сасланым паўстанцам. Пасля знаходжання ў Кракаве ён жыў у Варшаве [Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1865. T. 1. Wilno, 1913. S. 256, 261, 381–382]. Давід Файнгаўз не выключаў, што Юзаф Понсэт — гэта псеўданім слухача Школы ваенных інжынераў у Пецярбургу Казіміра Гірдвойня, які «ў гэты час» быў прызначаны паўстанцкім ваенным начальнікам Рэжыцкага і Дынабургскага паветаў [Fajnhauz D. 1863: Litwa i Białoruś… S. 120]. Гэтае меркаванне, аднак, выглядае дастаткова сумнеўным. І Яўген Плятэр, і складальнікі каментарыяў да ўспамінаў Якуба Гейштара са спасылкай на невядомую карэспандэнтку, што была ў ссылцы разам з Понсэтам, незалежна адзін ад аднаго паведамляюць пра гэтую асобу менавіта як пра Понсэта. Тым больш што біяграма Гірдвойня вядомая, і ў ёй няма звестак пра знаходжанне ў Кракаве пасля ссылкі [Girdwoyń Kazimierz // PSB. T. VII. Kraków: Nakładem Polskiej Akademii Umiejętności, 1948–1958. S. 476].

# САБАЧЫЯ ГАДЫ
# Успаміны лідзяніна 50-гадовай даўніны[1]

### Ад перакладчыцы

Пра Караля Ёдку нічога не вядома. Даваенная «Лідская зямля» ў двух нумарах надрукавала ягоныя мемуары і нічога не паведаміла пра аўтара. Даведацца пра яго мы можам толькі з ягоных мемуараў. З іх бачна, што аўтар скончыў Лідскую павятовую вучэльню — сапраўдны вырай знакамітых лідзян таго часу. Дастаткова сказаць, што вучэльню скончылі такія людзі, як паўстанец Людвік Нарбут, генерал і міністр абароны БНР Кіпрыян Кандратовіч, найлепшы знаўца гісторыі Лідчыны ў ХХ ст. Міхал Шымялевіч і дзясяткі іншых людзей, пакінуўшых свой след у гісторыі Лідчыны і ўсяго краю. Верагодна, Караль Ёдка праз вучобу ў павятовай вучэльні быў добра знаёмы з Міхалам Шымялевічам і менавіта Шымялевіч спрыяў друкаванню яго ўспамінаў.

Мемуары Караля Ёдкі праўдзіва апісваюць жыццё шараговых лідзян пры канцы ХІХ ст. і таму надзвычай цікавыя для ўсіх неабыякавых да гісторыі людзей.

### I

Калісьці быў звычай: кожны губернскі камітэт статыстыкі штогод выдаваў так званыя «Памятныя кніжкі» — штосьці падобнае на адрасныя календары. На пачатку такой кніжкі быў размешчаны каляндар, далей ішлі спісы ўстаноў, губернскіх і павятовых службоўцаў, спісы асоб, якія выконвалі розныя публічныя і дзяржаўныя функцыі: чыноўнікаў, духавенства, земскіх начальнікаў, валасных пісараў, адвакатаў, вайскоўцаў, лекараў і г. д. Падаваліся ў такіх кніжках расклады руху цягнікоў, параходаў, работы пошты, спісы аптэк, адміністрацыйны падзел губерні і паветаў на паліцэйскія участкі, судовыя, лекарскія, акцызныя і іншыя акругі. Змяшчаліся новыя статыстычныя дадзеныя, губернскія хронікі. Вельмі цікавыя арыгінальныя звесткі з археалогіі, гісторыі, манаграфіі гарадоў і мястэчак і г. д. Гэтыя кніжкі былі сапраўднымі адлюстраваннямі стану губерні, вельмі багатым і надзвычай цікавым зборам розных звестак з гісторыі, статыстыкі, эканомікі і першасным інфармацыйным даведнікам.

У спісах падаваўся стан чыноўнікаў: імя, імя па бацьку, прозвішча, чын, пасада, узнагароды і іншыя адзнакі, узровень адукацыі, час знаходжання на пасадзе і хатні адрас. Калісьці былі спробы паведамляць і аб сямейным стане кожнага чыноўніка, аднак гэтыя спробы па зразумелых прычынах не ўтрымаліся.

Калекцыя гэтых кніжак па Віленскай губерні складае 65 тамоў ад 1850 да 1915 года ўключна[2]. Божа мой, якая гэта цікавая калекцыя! А колькі ў ім даследчык знойдзе ідыліі і падману, крыві і жалеза, вернасці і здрады, радасці і смутку! Калі перагортваеш аркушы такога штогадовіка памерам 500–600 старонак, дык успамінаюцца імёны, усплываюць у памяці малюнкі страшных падзей нядаўняга мінулага.

Чытаючы спісы чыноўнікаў, дзе-нідзе можна даведацца пра ўзровень адукацыі канкрэтных асоб, якія калісьці займалі важныя пасады ва ўрадавай іерархіі, напрыклад:

---

[1] Успаміны надрукаваны ў 1937 г. Гл.: Psie lata // Ziemia Lidzka. 1937. № 10. S. 113–114.; 1937. № 12. S. 138–139.

[2] Кніжкі пачалі выдаваць як мінімум у 1845 г. першапачаткова, з 1845 г., кніжка ўяўляла з сябе адрас-каляндар, г. зн. спіс чыноўнікаў губерні, а пачынаючы з 1850 г. звесткі пачалі істотна дапаўняцца матэрыяламі навуковага характару, прадстаўленымі карэспандэнтамі Віленскага статыстычнага камітэта з ліку мясцовай інтэлігенцыі.

«хатняе выхаванне» альбо «хатняя адукацыя», гэта азначае, што гэты чыноўнік не скончыў аніякай школы. Зразумела, што хатняе выхаванне альбо адукацыя, напрыклад, губернскага маршалка шляхты, канюшага царскага двара, графа Адама де Броель-Плятара, поўнага кавалера ордэнаў Св. Ганны і Св. Станіслава (у кніжцы 1878 г.), адрозніваецца ад хатняй адукацыі і выхавання, якую атрымаў які-небудзь паштовы чыноўнік VI, які паходзіў з бедных сялян ці месцічаў — напрыклад, сын нейкага вартаўніка!

Мінімальная адукацыя для атрымання першага цывільнага чыну — калежскага рэгістратара — 2-класная павятовая школа. Хто меў пасведчанне аб заканчэнні такой школы, мог смела лічыць, што носіць у ранцы маршальскую булаву. Так, нядаўна памерлы ў Гародне (Лідскага павета) генерал ад інфатэрыі Кіпрыян Кандратовіч, былы намеснік камандуючага Туркестанскай акругі, былы камандзір грэнадзёрскага корпуса на Каўказе і г. д., як і шмат хто з іншых штаб- і обер-афіцэраў розных радоў войск, меў за пачатковую кропку адліку павятовую школу ў Лідзе[3]. А Мікалай Львоў, сапраўдны стацкі саветнік, намеснік дырэктара маёмаснай дырэкцыі Віленскай і Ковенскай губерняў, як і шмат хто з іншых цывільных чыноўнікаў, скончыўшы павятовую вучэльню, адчыніў для сябе дзверы ў чыноўніцкую службу, атрымліваў ордэны, грошы і пенсіі. Павятовая школа штогод выпускала некалькі дзясяткаў выпускнікоў, але пасведчанне нашай школы для большасці «белых каўнерыкаў» было недасяжнай марай.

Святой памяці графіня Зоф'я Красінская[4] (уладальніца маёнтка Вялікі Ольжаў) на хатнюю адукацыю свайго адзінага сына выдаткавала, як калісьці яна сама гаварыла, сто тысяч рублёў — палову мільёна злотых! Мая ж «хатняя адукацыя» каштавала маім бацькам, далібог, добра, калі пяцьдзясят капеек.

## II

Мой бацька, свяці Пан яго душу, Юзаф Ёдка паходзіў з ваколіцы Ёдкі, што пад Лідай, дзе меў худую спадчыну — чацвёртую ці нават пятую частку з 3-гектарнай нерухомасці, раскіданай на 54 кавалкі — вузкія шнурочкі неўрадлівай зямлі і марнага лугу. Жыць было не з чаго, ажаніўся, узяў у пасаг карову, прадаў братам сваю частку за 50 рублёў і пайшоў у свет. Завандраваў далёка, ажно за дзве мілі ад Ліды, у Левашы, і ўладкаваўся работнікам на млыне. Праз некалькі гадоў перайшоў на такую самую працу на млын у Лідзе.

Калісьці ў Лідзе, па вуліцы Гражыны[5], насупраць вуліцы Гарыстай, стаяў млын горада Ліда. А па другой старане быў зарослы балоцісты стаў, аточаны хмызам, аерам і альшынай. За некалькі гадоў да Сусветнай вайны млын быў зачынены, а возера спушчана. У 1915 г. будынак млына спалены адступаючымі расійскімі войскамі. Каля 50 гадоў гэтым млынам кіраваў блаславёнай памяці Гірш Палячак, шляхетны чалавек, бацька вялікай сям'і, у якога мой бацька знайшоў працу за 30 рублёў заробку і 30 пудоў мукі штогод з памяшканнем для жытла, якое мела такое-сякое асвятленне і абагрэў. Маці мая штосьці зарабляла тым, што прала на калаўроце і мыла бялізну для лепшых дамоў. І на гэтыя сродкі неяк жылі. Сям'я наша была дастаткова вялікая: бацька, маці, старшы брат Тамаш, сёстры Эмілія і Міхаліна, я і малодшы брацік Герусь, які памёр яшчэ малым.

---

[3] Генерал Кіпрыян Кандратовіч (1859–1932) — міністр абароны БНР, пасля лідскай павятовай вучэльні скончыў 2-ю Канстанцінаўскую вайсковую вучэльню і Акадэмію генеральнага штаба.

[4] Графіня Зоф'я Красіцкая з дома Кашыц (28.02.1852–25.01.1933). Нарадзілася ў Тарнова, дачка Канстанціна Кашыца (1828–1881) і Юліі з Несілоўскіх (1830–?). Муж — Раман Станіслаў Красіцкі (1844–1878). Мела сына Алексы Яна Мар'яна (1878–1935). Памерла ў Лідзе, пахавана на Росах ў Вільні.

[5] Такая назва вуліцы з'явілася ў 1920-я гг. Пры канцы XIX ст. раён горада Вісманты.

Здаўна славіцца ў Лідзе кірмаш 40-гадзіннага набажэнства, які называецца звычайна «чтэрдзестова» і прывязаны да 14 верасня. Калі ў Лідзе яшчэ не было чыгункі, з'язджаліся на кірмаш фурманкамі ажно з-пад Вільні «галантарэйнікі», а з Смаргоні — пекары з смаргонскімі абаранкамі. «Галантарэйнікі» ставілі свае палатняныя буды на могілках пры касцельнай агароджы, развешвалі ружанцы, скапуляры, белыя паскі кутасамі, раскладвалі кніжкі для набажэнства, абразы і абразкі святых і розныя зіхоткія золатам, серабром ці дыяментамі рэчы, пеўняў з волава, гусіныя трубкі з сядзячымі на іх хлопчыкам і г. д. Усё гэта зіхацела, грала, трубіла, зазывала і вабіла, але, халера, нядоўга. Ужо на другі дзень усё гэта псавалася. На гэтыя кірмашы збіраліся тысячы людзей са сваёй ці суседніх парафій. Касцёл і касцельныя могілкі шчыльна запаўняліся «публікай» — зразумела, болей «пра цікавасць» і «дзеля знаёмства», чым «для малітвы». Усе людзі пхаліся каля радоў «галантарэйнікаў», гаманілі або прыслухоўваліся да спеваў, гукаў ліраў, скрыпак ці гармонікаў ста калматых дзядоў і баб, якія тут сядзелі на ўласных вазах з дзецьмі, сабакамі, баранамі і нават парасятамі.

У тыя часы Ліда была малым ціхім і невялікім павятовым горадам, у якім не было ні адной кніжнай крамкі, а паперу для пісьма можна было адшукаць толькі ў некалькіх гандэлках, а фарбы да малявання — толькі ў аптэцы Эпштэйна[6]. Вучні некалькіх школ, якія тады меліся ў Лідзе, набывалі патрэбныя кніжкі ў самой школе. Між тым падручнікі, такія як «Детский мир», «Родное слово», заўжды выкарыстоўваліся на працягу некалькіх гадоў і служылі ажно да поўнага знішчэння некалькім пакаленням вучняў, пераходзячы ад старэйшага брата да малодшага або да малодшага школьнага сябра.

У кожнай установе, у кожным школьным класе на сцяне вісеў партрэт цара Аляксандра III і таблічка з надпісам тоўстымі літарамі: «Говорить по-польски строго воспрещается». Ксёндз у касцёле зрэдку зачытваў які-небудзь царскі маніфест па-руску, штогод па-руску даваў прысягу рэкрутам-католікам, у школах па-руску вучыў рэлігіі. Аніводнай польскай кніжкі, ані календара, ані буквара ў Лідзе дастаць было нельга. Ані за якія грошы! Толькі раз у год «галантарэйнікі» з Вільні прывозілі «Афіцыйкі» ці «Службы Божыя». Календары і буквары польскія мелі жніво! Іх хапалі і неслі дахаты. Не ведаю, ці быў продаж легальным ці «з-пад крыса», але навучанне чытання па-польску «чужих детей» было забаронена пад страхам суровай кары. За такую «забарону» св. пам. Міхала Ёдку, далёкага сваяка майго бацькі, генерал-губернатар віленскі Каханаў[7] у 1886 г. без суду, толькі з прычыны тайнага даносу ў паліцыю выслалі ў Сібір на вечныя часы. З гэтым, браце, не цацкаліся!

Будучы на набажэнстве ў касцёле, нябожчыца матуля, не ведаю — яўна ці патаемна, купіла за 3 капейкі ў «галантарэйніка» танюсенькі «Буквар польскі», надрукаваны ў друкарні Блюмовіча ў Вільні[8] (як сёння, бачу перад сваімі вачамі, як пад хусткай, бо ішоў дождж, прынесла яго ў нашу цёмную хатку пры млыне). Маці мая была жанчына «вучоная»: магла знайсці патрэбную малітву паводле рэестру, бо ведала лічбы і ўмела лічыць да тысячы! Таму навучыла ўсіх нас па буквары і па рэлігійным кніжкам чытаць і знаходзіць у кніжцы неабходныя рэчы паводле нумарацыі старонак са зместу.

---

6 Аптэка Эпштэйна Кейля Хаімавіча знаходзілася на вуліцы Віленскай.

7 Каханаў Іван Сямёнавіч (1825–1909), генерал ад артылерыі, з 1884 г. віленскі, ковенскі і гродзенскі генерал-губернатар, член Дзяржаўнага савета.

8 У друкарні Блюмовіча ў 1907 г. нейкі час друкавалася «Наша Ніва».

## III

У нашым атачэнні дзіцячая навука пачынаецца праз некалькі месяцаў пасля прыходу дзіцяці ў свет. Маці карміць дзіцятка грудзьмі год, а то і два гады. Калісьці я меў сябра, які выбягаў з дому на поле, адшукваў там працуючую маці і, азіраючыся вакол, каб хтонебудзь не высмеяў, патайкам звяртаўся да маці:

— Мамы, дай цыцы…

Чуў аповед, што нейкая маці карміла так хлопца да сямі гадоў.

Першая практычная і прыдатная ў дзіцячым жыцці навука — гэта ўменне трымаць скарынку хлеба. Маці ўтыкае яму да кулачка скарынку і накіроўвае руку дзіцяці да вуснаў, каб смактала і не плакала. Дзіцятка спярша спрабуе торкнуць скарынку ў вочкі, носік. А потым нарэшце патрапляе да вуснаў і тады, ужо задаволены, есць. Смяецца, укладае гэтую ж скарынку ў вока маці і скача на яе каленях. Пасля такой практыкі дзіцятка вучыцца браць скарынку адразу са стала. Першапачаткова ручка яго непаслухмяная і цягнецца не туды, дзе ляжыць скарынка. Спатрэбяцца немалыя высілкі, часам і са стогнам, каб дасягнуць мэты і ўзяць скарынку ў ручкі. Падобныя рэчы адбываюцца і з драўлянаю лыжкай, але ж колькі гэта прыносіць радасці і шчасце ўсім, хто знаходзіцца за сталом, калі такі «жук» ужо трымае лыжку ў руцэ і, узняўшы яе дагары, пхне разам з дарослымі да агульнай місы. Якая ж пацеха напаўняе ўсіх, калі такі малы стукне гэтай лыжкай камусьці па ілбе.

Навука сяброўства для дзіцяці пачынаецца з умення падаваць руку. Зусім малыя дзяўчаткі вучацца звычайна так званай фігі. Калі бацька альбо старэйшы брацік просіць падаць ручку, дык маці вучыць яе:

— Дай яму фігу.

Дачурка, не ўмеючы яшчэ зглажыць пальчыкі ані ў якую фігуру, выстаўляе толькі кулачок.

Уважліва сочаць, каб усе дзеянні выконваліся правай ручкай, а толькі фігі дазваляецца паказваць «з дзвюх рук».

Дзеці найчасцей спяць разам з матуляй у адным ложку. Трое, а калі і чацвёра дзяцей аблягаюць маці. Доўжыцца такое некалькі гадоў. Калі ў ложку зробіцца зусім цесна, тады старэйшым дзецям пераносяць пасцель на печ. Па меры падрастання ўсе дзеці пачынаюць спаць на печы.

Дзіця трохгадовага ўзросту, седзячы побач з маці з ручкамі, зложанымі для малітвы, вучыцца прамаўляць:

— Ацю Божанька.

Потым вучыцца жагнацца, а потым прамаўляць пацеры: «Ойча наш», «Верую ў Бога Айца» і «Дзесяць прыказань». Звычайна маці павольна дэкламуе кожны выраз малітвы, а дзіцятка паўтарае за ёй. Тое самае адбываецца і раніцай, калі дзеці прачынаюцца, і гэтак нязменна, дзень за днём, ажно пакуль дзіцятка не вывучыць пацеры на памяць. Зрэдку ў гэтым нудным раскладзе маці замяняе бацька ці хто-небудзь з сям'і: дзед, бабуля і г. д.

Пяцігадовыя дзеці ўжо ведаюць на памяць ружанец. Іншыя малітвы і спевы пабожныя пазнаюць потым — на пахаваннях, у касцёле і г. д. Аднак я ведаў многа такіх, якія не ведалі цалкам малітвы на ружанцы, а толькі невялікую частку.

— Маці не навучыла, — так тлумачылі прычыну свайго няведання.

Такія, больш-менш, пачаткі хатняга выхавання атрымаў я і мае родныя. Пачуваліся мы не горш за іншых на Зарэччы[9]. Мелі дасыта чорнага хлеба, штогод садзілі пад гной некалькі загонаў бульбы, трымалі карову і свінню. Як кажуць, ва млыне і шчуры сытыя. Бацька на гадавую выплату за работу на млыне купляў сабе боты ці кажух,

[9] Зарэчча — раён горада за ракой Лідзеяй.

штаны для брата Тамаша і для маці боцікі. Маці за грошы, заробленыя прадзеннем кужэлі і мыццём бялізны, купляла сабе блузку, хустачку на галаву, а для дзяцей брала тканіну на сукенкі. Кашулі насілі мы з хатняга, грубага палатна, а сукенкі — з крамнага мультану[10].

Брат Тамаш меў ужо 12 гадоў і ва ўсім памагаў бацьку. Заўжды стругаў з цвёрдага белага грабу «кулакі» для млынарскіх колаў і ляскі для шасцерняў. Каменні «вастрыў» сталёвым молатам сам бацька. Мае сёстры ўжо ўмелі чытаць, адна па «Залатым алтарыку»[11], другая па больш малой кнізе для набажэнства. Я ж ведаў на памяць цэлы ружанец. Меў тады 5 гадоў. Мы, дзеці, спалі тады ўтрох на печы. На ёй кожную раніцу і ўвечары гаварылі ружанец. Спаць на печы было ўтульна і цёпла. Толькі перашкаджалі нам у сне мноства блох, якія гняздзіліся ў швах сцен, уначы тысячамі поўзалі па нашых дробных целах і смакталі кроў. Аднак на іх не звярталі ўвагі. Горай было з вошамі, бо яны любяць гнездавацца ў палатняных кашулях і праз тыдзень вырастаюць да памераў жытняга зерня. Вошы грызуць і ўдзень, і ўночы і прымушаюць да нястаннага чмохання.

Кашулі змяняюцца раз на тыдзень, у нядзелю рана. Час ад часу кожнаму з нас маці рабіла пошукі ў галаве. Летам да маці прыходзіла адна з суседак, каб потым выйсці разам пад стадолу на сонца і распачаць паляванне. Адна лажыла галаву з распушчанымі валасамі на калены другой, і тая, перабіраючы валасы на галаве, лавіла «жывёлін». Потым першая рабіла тое самае для другой.

Дзень і ноч узімку і ўлетку шумела вада на млынарскіх колах, гучалі агромністыя каменныя жарнавы і ўвесь млын дрыжаў, як жывы. Знутры млына заўсёды вісеў туман з белага пылу. Стары Гірш Палячак, сын яго Ёсель — вазніца, мой бацька і наш Тамаш заўсёды мелі акураныя белым шапкі, твары, вопратку і нават боты. Жыхары блізшых і дальшых ваколіц штодня прывозілі жыта на памол. Калі вады ў ставе было многа, а завоз жыта невялікі, заказчыкі звычайна праз некалькі гадзін ладавалі на вазы свае мяхі з мукой і ехалі дахаты. Калі ж здаралася так, што вады ў ставе было мала, а завоз выпадаў вялікі, стваралася чарга. Коней выпрагалі, ставілі пры вазах каля млына ці ў стадоле каля дзвярэй нашага дома. Усе сяляне сходзіліся тады да нас. Звычайна ўсе разам сядалі на лаву і сталёвым крэсівам высякалі са скалкі агонь для люлькі, якая смачна пахла дымам, смалілі свае люлькі са смярдзючым тытунём уласнай гадоўлі і доўга вялі гаворкі. Часам некаторы з іх драмаў і хроп, а калі-некалі падпускаў яшчэ горшы смурод, чым ягоная файка.

Да нас, дзяцей, прыбягалі суседскія дзеці. Мы, хлопчыкі, седзячы на печы, майстравалі з лучынак млыны ветраныя і водныя, пільшчыкаў з уваткнутай за пас пілой і наколатай на другі канец бульбінай, акрабатаў, бурчалак з малых костак прыгатаванай для засольванне свіной нагі і іншыя цацкі. Дзяўчаткі скручвалі лялькі з лапікаў тканіны ці лахманоў, калыхалі іх, як сапраўдныя маці, і прыпявалі:

— Люлі, люлі, прыляцелі куры, селі на варотах у чароўных ботах.

Ці так:

— Пайшоў каток па ляску ў зялёным паяску, пайшоў каток пад масток, злавіў рыбку за хвасток[12].

А потым пачыналі клясці:

— Ах ты, бурыла, ужо засцалася.

Дзяўчынкі кармілі лялькі малаком з ражка, як бы з лыжачкі, і вялі бяседу паміж сабой, нібы дарослыя:

---

[10] Мультан — тканіна з бавоўны.

[11] Верагодна, маецца на ўвазе малітоўнік «Złoty ołtarzyk, drukarnia Zawadzkiego. Wilno 1896».

[12] У польскім тэксце гэтыя дзіцячыя спевы запісаны па-беларуску — на роднай мове лідзян.

— А твая ж курачка, куманька, нясецца?..

— Не, мая рыбанька, не нясецца, калі ж пятушок штось не грае[13].

Улетку кожнага з нас, як толькі пачыналі хадзіць на ўласных нагах, запрагалі да працы. Пільнаваць градкі ў гародчыку ад курэй пані Красоткавай, а таксама самых кур з куранятамі ад халерных варонаў. Збіралі зеляніну каля платоў для парсючка і каровы, пасвілі яе на горцы зарачанскай і ў замку, заганялі на пашу нашу карову Маргулю, а вечарам, калі яна вярталася з малаком, сустракалі.

Адным словам, чалавек ад дзяцінства прывыкаў да пацераў, кармлення вошаў сваёю крывёю, розных пахаў і да чорнай, няўдзячнай, але непазбежнай для бедняка работы.

Доўгімі восеньскімі вечарамі да нас часам на падвячорак прыходзіла старая пані Красоткава. Прыйдзе, пасядзіць, нагаворыць казак і пойдзе. Насамрэч умела баяць байкі пра мядзведзяў, ваўкоў і іншых жывёлаў. А потым уначы сніліся нам тыя смешныя ці страшныя гісторыі.

Улетку, калі здаралася, што праз нас праходзіла жалобная працэсія[14], сёстры хапалі мяне за рукі і мы ўсе разам выбягалі на могілкі за нябожчыкам, каб паглядзець, як хаваюць людзей у зямлю. На могілках галосна заводзілі бабы. Дзеці часамі таксама плакалі і нават некаторыя скакалі ў дол, да труны. Так моцна плакалі, што было іх шкада, вядома ж — страчвалі маці ці бацьку і заставаліся сіротамі.

Бегалі і да касцёла. Тут каля самых дзвярэй трэба было кленчыць, жагнацца, біць у грудзі і паводзіць сябе ціха, без слоў. У касцёле было хараша, але разам з тым страшна. З крыжа ў вялікім алтары звісаў у страшных пакутах, распрануты, пакалечаны Пан Езус, а чырвоная кроў лілася з яго ілба, ног і бока. На іншым алтары св. Станіслаў выклікаў з труны худога, страшнага мерцвяка, а на сцяне, збоку, быў стары, ужо невыразны абраз святога з убітай яму ў галаву сякерай і з тварам, залітым крывёй. Навокал кроў і смерць, кроў і смерць…

Маці нам тлумачыла, што ў касцёле так страшна, каб людзі не гнявілі Божаньку.

*Караль ЁДКА*
*Пераклад Галіны Лаўрэш*

---

[13] Гэтыя словы таксама па-беларуску.

[14] Каля млына ішоў шлях да гарадскіх могілак. Пра гэтыя могілкі гл. успаміны М. Шымялевіча.

# ЛЮДВІК НАРБУТ

Будучая галоўная дзейная асоба паўстання 1863 г. на Лідчыне Людвік Нарбут нарадзіўся 26 жніўня 1832 г. у бацькоўскім маёнтку Шаўры Лідскага павета, яго бацька — знакаміты гісторык Тэадор Нарбут, маці — Крысціна Садоўская. Тэадор, сын Яўхіма і Ізабелы з Наневічаў, нарадзіўся ў Шаўрах 8 кастрычніка 1784 г. і паходзіў са старажытнага ліцвінскага роду. У той час маёнтак Нарбутаў Шаўры складаўся з ворнага ўчастка і двара, меў 75 прыгонных. Гэты маёнтак перайшоў да Нарбутаў як пасаг Ізабэлы з Наневічаў. Сусветна вядомы гісторык быў яшчэ і руплівым гаспадаром, пад яго кіраваннем маёнтак Шаўры заквітнеў сапраўдным дабрабытам. Тэадор меў навуковы падыход да сельскай гаспадаркі і быў у курсе ўсіх сусветных навінак. Мала таго, ён з'яўляўся аўтарам шэрагу артыкулаў, у якіх пісаў пра рацыянальнае вядзенне сельскай гаспадаркі і пра апошнія дасягненні прыродазнаўчых навук.

Маці Людвіка — Крысціна Кацярына з Садоўскіх, была дачкой шарачковага шляхціца, былога жаўнера Касцюшкі. Першапачаткова ў хаце Нарбута яна працавала як прыслуга і толькі пасля нараджэння некалькіх дзяцей Тэадор узаконіў свае адносіны з ёй. Людзі, якія ведалі Крысціну, пісалі пра яе як пра добрую, сардэчную і богабаязную жанчыну, якая дала Тэадору сямейнае шчасце: *«Была маладой, вясёлай, чарнавокай і прыгожай, хоць была малаадукаванай, але прыродны розум і тонкасць душы кампенсавалі гэты недахоп… Пакуль думы першага гісторыка Літвы былі ў мінулым, яна кіравала хатай і маёнткам»*[1].

Запіс пра нараджэнне Людвіка зроблены ў метрычных кнігах парафіяльнага касцёла ў Начы. У паперах Вандаліна Шукевіча[2] захаваўся выпіс з метрычнай кнігі пра нараджэнне і хрышчэнне старэйшага сына: *«№ 166. Господняга году тысяча васямсот трыццаць другога, месяца верасня, чацвёртага дня, у касцёле рыма-каталіцкім парафіяльным Нацкім ксяндзом Адамам Страповічам, аўгустынам, вікарыем гэтага ж касцёла, хрышчоны вадой і св. алеем немаўля, названы Людвік. Работніцы Крысціны Падэўскай няправавага ложы сын — 1832 г., месяца жніўня 26 дня ў двары Шаўры народжаны. Падчас хросту трымалі* (хросныя. — *Л. Л.*) *Юзаф Сегень і Петранэла Драздоўская, панна»*. Пасля таго як Тэадор Нарбут ажаніўся з Крысцінай (каля 1840 г.), метрычны запіс перапісалі, а прозвішча маці з Падэўскай змянілі на Садоўскую (сапраўднае дзявочае прозвішча Крысціны застаецца пад пытаннем, бо ў некаторых аўтараў да замуства яна — Падэўская[3]).

Таксама перапісаны былі і метрычныя запісы іншых пазашлюбных дзяцей Нарбутаў: Аляксандры, Францішка і Тэадоры. Станіслаў і Амеля нарадзіліся ўжо ў шлюбе.

Першыя шчаслівыя гады дзяцінства Людвік правёў у бацькоўскім маёнтку. Бацька выхоўваў дзяцей у старашляхецкіх традыцыях, вучыў паважаць звычаі свайго краю, распавядаў дзецям пра гісторыю і герояў старажытнай Літвы. Экспанаты яго шматлікай калекцыі месціліся ў маёнтку і былі звыклым асяроддзем для малога Людвіка, узбуджаючы дзіцячыя мары і цікаўнасць да гісторыі. Людвік меў 4 братоў — Аляксандра, Францішка, Баляслава, Станіслава — і 3 сясцёр — Яну, Амелю і Теадору, гэта не лічачы дзяцей, памерлых у дзяцінстве. Ён быў старэйшым сынам і лідарам для Баляслава, Францішка і Теадоры, гэтыя чацвёра дзяцей падыходзілі адно аднаму па ўзросце і раслі разам. З 1831 г. у Шаўрах увесь час жыў стары чалавек па прозвішчы Гератоўскі.

---

1 Karbowski W. Ludwik Narbutt. Życiorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. 1935. S. 31–34.

2 Тамсама. S. 182.

3 Гл. напрыклад: Komorowski Paweł, Kołyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. Warszawa — Lida, 1999. S. 9.

Хто ён такі і чаму жыў у Шаўрах — невядома, але ён вельмі любіў дзяцей і шмат часу праводзіў з імі. Стары ведаў шмат цікавых гісторый, распавядаў пра паўстанне 1831 г., удзельнікам якога быў, дзеці разам з ім гулялі ў вайну, прычым Касцюшкам звычайна быў Людвік, Баляслаў — яго ад'ютантам, а Тэадора — Эміліяй Плятэр, хоць Плятэр была гераіняй іншай вайны. Аднойчы, калі недалёка ад Шаўроў праязджаў эскадрон расійскай кавалерыі, дзеці з кустоў пракрычалі патрыятычныя лозунгі і нават пакрыўдзіліся, што кавалерысты нічога не пачулі.

Людвік Нарбут пачаў вучыцца ў Лідскай павятовай вучэльні, а каля 1846 г. паступіў у віленскую гімназію. Прыязджаць дахаты даводзілася толькі на святы ды ўлетку. Падчас вакацый ён вучыў малодшых братоў і сясцёр, пісаў вершы, чытаў кнігі па гісторыі. Маці ўспамінала, як 12-гадовы хлопчык, гледзячы ў люстэрка, казаў: *«Маці, супакой ці зганьбуй, бо дзве будучыні для сабе бачу, будзе з мяне ці вялікі чалавек, ці вялікі злодзей»*. Назад на вучобу ў Вільню яго звычайна адвозіла маці, па дарозе спыняліся ў Бутрыманцах, дзе на мясцовых могілках разам адведвалі магілы дзеда і бабулі (недалёка ад капліцы) і хатку, якая стаяла побач з могілкамі, у гэтай хатцы гадавалася Крысціна.

Людвік добра вучыўся, але яго знаходжанне ў гімназіі (1846–1850) супала з рэвалюцыйным уздымам у Еўропе, атрымаўшым назву «Вясны народаў». Водгаласы еўрапейскіх падзей даходзілі да Вільні, у Літву таемна прыязджалі эмісары эміграцыі, распаўсюджвалася забароненая літаратура, якую гімназісты чыталі з вялікім уздымам. У 1846 г. віленская турма напоўнілася арыштантамі з так званага спіса Рэра. Турмаў бракавала, і таму нават вокны дамініканскага кляштара былі зафарбаваныя белай фарбай, яго на час таксама ператварылі ў турму, каля кляштара стаялі кібіткі жандараў — з усяго краю звозілі арыштантаў. У лютым 1848 г. эмісара Рэра разам з іншымі датычнымі да справы публічна пакаралі палкамі, а пасля, прывязаўшы да воза, правялі па вуліцах Вільні і саслалі на катаргу. Гэта ўсё назіралі і абмяркоўвалі гімназісты.

Падчас вакацый у Шаўрах у 1850 г. уся сям'я заўважыла змену ў паводзінах Людвіка, малады чалавек стаў сур'ёзным, паважным і задуменным.

Падчас вучобы ў апошнім класе гімназіі, пасля дыспутаў з гімназічнымі таварышамі пра справы ў краі, у лістападзе 1851 г. Людвік вырашыў стварыць сярод гімназістаў патрыятычнае таварыства, якое мела за мэту рыхтаваць ўзброенае паўстанне. У снежні на кватэры Людвіка адбылося першае паседжанне таварыства. З прычыны ўласнай легкадумнасці чальцы таварыства Гаварчэўскі і Падхарэцкі распавялі пра сустрэчы інспектару гімназіі, пасля чаго ўначы перад Калядамі паліцыя арыштавала Нарбута. На яго кватэры была знойдзеная картка з надпісам «Арол і крыж», гэтыя словы ў таварыстве былі паролем. Людвік потым распавядаў, што пасля арышту ён адразу быў пасаджаны ў цёмную і цесную камеру. Праз некалькі дзён у камеру прыйшоў сам генерал-губернатар Бібікаў[4] і параіў раскаяцца і дапамагаць следству. Тое самае ён казаў і праз некалькі дзён, калі юнага арыштанта прывялі да яго ў кабінет. Бібікаў зноў пераконваў арыштанта, што і так усё вядома і толькі дзеля формы трэба ўсё распавесці следству і падпісаць пратаколы, ён даваў генеральскае слова, што не кране яго сяброў. Дастаткова доўгі час Нарбут не згаджаўся, але нарэшце сазнаўся ў тым, што гэта ён аўтар надпісу на картцы. Пасля чаго Людвіка перавялі ў сухую і светлую камеру, а ў Пецярбург паслалі падрабязны даклад. Фактычна гульня ў канспірацыю сталася чарговай паспяхова выкрытай «крамолай»[5].

З надрукаваных архіўных матэрыялаў справы юнага Нарбута можна зразумець, як ішло следства. Справа № 4 ад 1851 г. «Ученика виленской гимназии Людвика Нарбута» пачата 11 студзеня і скончана 19 сакавіка 1851 г. У данясенні генерал-маёру

[4] Дарэчы, сам былы «дзекабрыст» памілаваны Мікалаем I.

[5] Karbowski W. Ludwik Narbutt… S. 35–41.

Кучынскаму ад 11 студзеня 1851 г. паведамляюцца агульныя папярэднія вынікі справы пра антыўрадавыя дзеянні Людвіка Нарбута сярод вучняў віленскай гімназіі: пра прызнанне яго саўдзельнікаў Мельхіёра Бакшанскага і Казіміра Нарвойша і пра адмову Нарбута прызнацца нават пасля прызнання яго былых сяброў. На вочнай стаўцы Бакшанскі катэгарычна сцвярджаў, што не браў удзелу ў злачынных справах Нарбута, на што Нарбут адказаў, што ёсць сведкі, якія могуць пацвердзіць адваротнае, бо Бакшанскі некалькі разоў удзельнічаў у нарадах арганізацыі. Жандар, які склаў дакумент, канстатуе, што ў цэлым сведчанні Бакшанскага і Нарвойша не вымусілі Нарбута да дачы сведчанняў па справе. З рапарта падпалкоўніка корпуса жандараў Данілава да выканаўцы абавязкаў начальніка 4-й акругі корпуса жандараў генерал-маёра Кучынскага ад 12 лютага 1851 г.: *«…з 8 снежня бягучага года… вядзецца следства па справе вучня мясцовай губернскай гімназіі Людвіка Нарбута, які абвінавачваецца ў распаўсюдзе сярод сваіх калегаў шкодных пагалосак і замове іх да ўзброенага выступу.*

*Справа скончана… стала вядома наступнае:*

*На пачатку мінулага снежня вучні Гаварчэўскі і Падхарэцкі данеслі класнаму інспектару, што вышэй названы Нарбут падчас гутаркі з імі і некаторымі іншымі пытаўся ў іх, ці любяць яны сваю Айчыну, а пасля пачаў ім распавядаць, што вучні варшаўскай гімназіі рыхтуюцца да паўстання, што ў Лідскім павеце ўся шляхта да яго ўжо гатовая і той, які не пагодзіцца далучыцца да паўстанцаў, будзе піць горкае піва… На наступны дзень для адмысловай гутаркі Нарбут запрасіў іх да сябе на кватэру. Потым, нагадваючы Гаварчэўскаму пра сваё запрашэнне, даслаў яму картку, у якой прасіў запомніць пароль "Арол і крыж".*

*…арыштаваны Нарбут (гадоў 19, са шляхты) прызнаўся, што ў канцы мінулага месяца лістапада меў намер стварыць разам са сваімі калегамі патрыятычнае таварыства, якое мела за мэту падняць паўстанне. Гэтая думка з'явілася ў яго падчас спрэчкі з вучнем Нарвойшам на яго кватэры… Паводле сведчанняў Нарбута, галоўнымі саўдзельнікамі яго злачынных намераў былі: вышэй згаданы Нарвойш і Мельхіёр Бакшанскі, з якіх апошні прапанаваў прыняць для іх таварыства пароль "Арол і крыж" і прапанаваў напісаць статут таварыства. Акрамя таго, Нарбут прызнаўся, што пра свой намер ён паведаміў вучню Казлоўскаму, які як бы пагадзіўся ўзяць удзел у гэтай справе і збіраўся ўгаварыць сваіх калегаў Кубліцкага, Прэкера і Тышкевіча, з якімі пачаў перамовы, але не паспеў схіліць іх да ўдзелу ў арганізацыі, бо быў арыштаваны… для змовы запрашаў да сябе на кватэру вучняў Пабаеўскага і Пашкевіча… і нарэшце пісаў… картку да Гаварчэўскага, у якой прасіў не забываць пароль "Арол і крыж". Нарбут катэгарычна сцвярджаў, што да моманту яго арышту былі толькі гутаркі і моцныя спрэчкі, але не рабілася аніякіх дзеянняў… угаворваючы сваіх калегаў, ніякіх пагроз не прамаўляў, і адзіным дзеяннем у гэтай справе было прыняцце разам з Бакшанскім пароля "Арол і крыж", яны толькі жадалі даведацца, як будзе прыняты такі пароль сярод калегаў. Пра гатовасць шляхты Лідскага павета да паўстання Нарбут казаў таму, што падслухаў у месяцы ліпені… у мястэчку Дубічы, на выхадзе з касцёла гутарку землеўладальнікаВаўка з незнаёмым чалавекам, якому Воўк паведаміў, што неабходна было б прыгатаваць спіс, што ён, Воўк, выставіў бы 2000 шляхты.*

*Выкліканыя для допыту Казімір Нарвойш і Мельхіёр Бакшанскі прызналі, што Нарбут у канцы мінулага года паведаміў ім пра свае намеры, а яны… не пагадзіліся прыняць у іх удзел… нічым яму не дапамагалі і самі жадалі данесці пра яго ўладам, што і зрабілі праз сваіх калегаў Гаварчэўскага і Падхарэцкага… На вочнай стаўцы Нарбут не пярэчыў супраць довадаў Нарвойша і Бакшанскага. <…> Што да землеўладальніка Ваўка, то па распараджэнні… генерал-губернатара ў яго хаце быў праведзеныператрус, але не знойдзена нічога, што магло б пацвердзіць яго віну. <…>*

*Прымаючы да ўвагі ўсё вышэйпададзенае, следчая камісія прыйшла да пераканання, што ў дадзенай справе вінаваты вучань Людвік Нарбут… таму… ён за такія ўчынкі падлягае суровай кары…».*

З рапарта… падпалкоўніка Данілава да выканаўцы абавязкаў начальніка корпуса жандараў 4-й акругі… генерал-маёра… Кучынскага, дня 14 сакавіка 1851 г. № 31:

*«У якасці дадатку да рапарта ад 12 лютага… № 21 у справе палітычнага зняволенага Людвіка Нарбута маю гонар дакласці Вашаму Высокаправасхадзіцельству, што падчас знаходжання генерал-ад'ютанта Бібікава 2-га ў Пецярбургу, на… дакладзе Яго Імператарскай Вялікасці, насупраць параграфа… пра справу вучня віленскай гімназіі Людвіка Нарбута… з прапановай вылупцаваць розгамі і аддаць яго на службу шарагоўцам, не пазбаўляючы, аднак, дваранскага звання, Яго Імператарская вялікасць зрабіў надпіс "згодны". …Нарбут будзе аддадзены на службу ў адзін з палкоў 6 корпуса пяхоты пры ўмове строгага нагляду за ім…*

*Падпісаў пплк. Данілаў»*[6].

Экзекуцыя адбылася ў будынку гімназіі, Нарбут атрымаў 25 udараў розгамі. Пасля экзекуцыі яму дазволілі развітацца з бацькамі і назаўтра, 30 сакавіка, да ўзыходу сонца адправілі ў Калугу да месца службы[7].

Абставіны вайсковай службы Людвіка добра адлюстроўвае паслужны спіс:

*«…падпаручнік Людвіг Фёдаравіч Нарбут, паводле фармуляра пра яго службу… ад нараджэння 29 гадоў, з дваран Віленскай губерні, рыма-каталіцкага веравызнання, кавалер ордэна Св. Ганны IV ступені, узнагароджаны… медалямі за вайну 1853–56 гг. і медалём Св. Георгія з надпісам "За мужнасць".*

*На службу паступіў па… распараджэнні за палітычны выступ… 19 красавіка 1850 г. шарагоўцам… за заслугі ў баях з туркамі 8.IX.1855 г. стаў унтэр-афіцэрам, за заслугі ў службе 29.IX.1857 г. ва ўзросце 25 гадоў атрымаў першае афіцэрскае званне — прапаршчыка. Пераведзены ў Рэвельскі полк пяхоты 18 красавіка 1859 г., але ў сувязі са звальненнем са службы ў полк не прыбыў.*

*Браў удзел у дзеяннях супраць непрыяцеля:*

*У вайне з туркамі ў 1854 г. з 24.VII. да 20.XI. у Александропальскай і Ахалкалакскай кампаніях і за заслугі ў бітве 24.VII. пад Курук-Дарункай праізведзены ў унтэр-афіцэры і ўзнагароджаны трыма срэбнымі рублямі, у 1855 г. з 6.V да 3.XII у Александропальскай кампаніі, за штурм 17.XI. Карскіх фартоў узнагароджаны 1 срэбным рублём, з 13.XII.1856 г. да 1.I.1857 г. супраць горцаў на Лезгінскай дэмаркацыйнай лініі, з 1.IV.1857 г. да 1.I.1858 г. і ў 1858 г. з 1.I. да 1.IX. абодва разы на той жа лініі, прычым браў удзел: 27.VIII. — ва ўзяцці штурмам аула Цыбаро, 29.VIII. — у акцыі пры форце Купрыс-Шаво і за высокую мужнасць, выяўленую ў той экспедыцыі ўзнагароджаны ордэнам Св. Ганны 4 ступені з надпісам: "За мужнасць", у тым жа годзе ў складзе войскаў левага крыла каўказкага войска, з 25.X. па 18.XII. бярэ ўдзел у дзеяннях у ваколіцах Уладзікаўказа, Назрані, Несцераўскага паста і ў Чорных горах Малой Чачні… прычым: 2.XI пры злучэнні аддзелаў пры Акпортаўскім перавале, у справе пры Мутыч-Анкунь каля перавалу Асы, а адтуль… для ўзяцця апошніх непакорных аулаў Малай Чачні, Акінсаў і Мерадзінаў… 28.XII. пры ўзяцці варожых пазіцый каля аула Агашты, 29 — пры адбіцці нападу непрыяцеля на войскі, якія ўдзельнічалі ў работах на дарозе каля аула Агашты, 31 — пры ўзяцці гэтага аула. У 1859 г. у складзе галоўнага аддзела браў удзел у экспедыцыі супраць горцаў: 1.I у наступе… у кірунку аула Агашты,*

6 Тамсама. S. 192–195.

7 Komorowski Paweł, Kołyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. S. 9.

*11.I — у бамбардаванні, 14 — ва ўзяцці пазіцый, пабудаваных супраць непрыяцеля каля ракі Баль і ўзяцці аула Тнузень.*

*Раненняў не мае і ў палоне не быў. Спагнанняў… не меў.*

*У 1858 г. заслужыў Найвышэйшую Пахвалу за ваенныя дзеянні ў складзе… войскаў лезгінскага аддзела…*

*Выхоўваўся ў Віленскай гімназіі, ведае: рэлігію, граматыку, арыфметыку, гісторыю ўсеагульную, геаграфію Расіі і ўсеагульную, мову французскую.*

*Падчас службы пакаранняў судовых, несудовых не меў і пад следствам не быў.*

*У 1859 г. найвышэйшым Яго Імператарскай Вялікасці ўказам, выдадзеным 26.VII, звольнены са службы, з прычыны сямейных акалічнасцяў у чыне падпаручніка. …з правам нашэння ваеннага мундзіра, хоць і не выслужыў неабходны для гэтага тэрмін. <…>*

*Генерал-маёр Лідэрс»*[8].

Да такога дакумента цяжка яшчэ нешта дадаць, такому паслужному спісу пазайздросціў бы любы афіцэр, але цікава, што жаўнерская служба Нарбута пачалася з таго, што камандзіру роты, які абазваў яго «палякам-бунтаром», Нарбут адказаў аплявухай. Ён быў аддадзены пад ваенны суд, але, на шчасце, нейкі з указаў цара Мікалая I забараняў такімі словамі зневажаць салдат, таму Людвік адкараскаўся толькі арыштам і пераводам 05.08. 1854 г. у полк, які адпраўляўся на Каўказскі фронт. Потым у лістах з Каўказа ён прасіў сястру Тадору прыслаць хоць бы засушаную кветку або жытні каласок з родных палёў.

Падчас службы ў войску Нарбут адбыўся як прафесійны вайсковец высокага класа, удзельнічаючы ў супрацьпартызанскіх дзеяннях рускага войска, да тонкасцяў спасціг мастацтва партызанскай вайны. Усё гэта яму хутка спатрэбіцца.

У 1859 г. у чыне падпаручніка Нарбут звальняецца са службы з прычыны «хатніх акалічнасцяў», і на пачатку красавіка 1860 г. ён ужо ў родных Шаўрах. За час яго адсутнасці ў сядзібе нічога не змянілася – тая ж шляхочая хата з ганкам на падмурку, тыя ж гаспадарчыя пабудовы, той жа лес навакол. Моцна пастарэў бацька, ён амаль аглух, пастарэла маці, вырасла і стала прыгожай паненкай сястра Тэся. Людвік заняўся гаспадарскімі справамі, занава, як сталы чалавек, перазнаёміўся з суседзямі, а праз некаторы час на паўгода паехаў у Варшаву і Кракаў.

У самым блізкім суседстве з Шаўрамі знаходзіўся маёнтак Сербянішкі, які належаў маладой удаве Амелі Седлікоўскай (з Кунцэвічаў). Амеля вылучалася сярод жанчын свайго кола добрай адукацыяй. Яшчэ раней яна сябравала з сям'ёй Нарбутаў і часта бывала ў Шаўрах, таму пасля вяртання Людвіка маладыя людзі хутка зблізіліся і ў 1861 г. пабраліся шлюбам, пасля чаго маладая сям'я пасялілася ў маёнтку Сербянішкі. Іх адзінае дзіця — дачка Марыя — памерла немаўлём.

Гэтыя некалькі гадоў, калі Людвік вёў жыццё жанатага чалавека, займаўся гаспадаркай, чытаў кнігі і газеты, вёў перапіску з сябрамі, паляваў, праляцелі вельмі хутка. Кім бы ён мог стаць, калі б не паўстанне?

Невядома.

Але менавіта ў гэты кароткі перыяд свайго жыцця ён пачаў пісаць вершы і артыкулы для прэсы і, хто ведае, можа быць, з часам атрымаў бы вядомасць не меншую, чым яго бацька? Але толькі досвед аднаго занятку гэтага перыяду — палявання — хутка спатрэбіўся баявому афіцэру. Менавіта падчас палявання Нарбут вывучыў кожную сцежку на Лідчыне і пазнаёміўся з многімі людзьмі.

Мірон Браніслаў Нарбут у нявыдадзенай частцы сваіх мемуараў так апісваў Людвіка: *«Бачыў яго, здаецца, у 1860 г. у Лідзе на кантрактах, быў ён невялікага росту, худы, лысаваты бландзін, з меланхалічным выразам на твары, прычым вылучаўся вялікай*

[8] Тамсама. S. 196–198.

*разважлівасцю, пачцівасцю і павагай да людзей — гэта былі яго галоўныя якасці. Негаманлівы, сціплы, гатовы дапамагчы кожнаму, быў ён усімі паважаны гэтак жа, як і яго бацька»*. Падчас паўстання стаў ён *«як бы іншым чалавекам, знікла меланхолія, а ўсё яго аблічча выяўляла… радасць ад таго, што ён дачакаўся горача жаданага часу, пра які марыў раней»*[9].

У 1862 г. да яго з Вільні прыехаў брат Баляслаў, каб перадаць адозву варшаўскага Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта. На наступны ж дзень Людвік паехаў у Вільню, сустрэўся з сябрамі рэвалюцыйнага камітэта і выказаў ім сваё жаданне ўзяць удзел у будучым выступе, пасля чаго вярнуўся дахаты і пачаў чакаць загаду пра ўзброенае паўстанне[10].

## Паўстанне на Лідчыне

Лідскі павет быў гатовы да паўстання, яго рыхтаваў павятовы рэвалюцыйны камітэт. Камітэт вербаваў прыхільнікаў, збіраў грошы, зброю, адзенне, правіянт і іншае, неабходнае для вядзення баявых дзеянняў. Камітэт працаваў вельмі энергічна, і была сабраная дастатковая колькасць грошай, але ўзнікалі праблемы з закупам узбраення і рыштунку, і тым не менш зброя таемна паступала з Прусіі.

На пачатку лютага 1863 г. практычна ва ўсіх парафіях ксяндзы з амбона ўрачыста прачыталі маніфест Народнага Камітэта пра паўстанне, у цэлым маніфест быў прыняты з запалам.

Мірон Баніслаў Нарбут у нявыдадзенай частцы мемуараў пісаў: *«У Забалацкім касцёле ксёндз-пробашч Зарэцкі пасля патрыятычнага казання прачытаў вернікам маніфест. Пасля гэтага зазванілі касцельныя званы і народ заспяваў “Цябе, Божа, хвалім”. Мне распавядалі, што на наступны дзень на пляцы перад касцёлам сабраліся больш за 300 сялян, якія там чакалі тры дні, каб атрымаць зброю, якой, аднак, не было»*. Нарэшце некалькі дзясяткаў чалавек самастойна рушылі ў бок Марцінканцаў і 16 лютага пад Нашкунцамі напалі на варту партыі рэкрутаў, якіх сілком адпраўлялі ўглыб Расіі. Канвой быў раззброены, а рэкруты адпушчаны па хатах. Пра вызваленне рэкрутаў дакладваў старшыня Эйшышскага рэкруцкага ўчастка лідскаму земскаму спраўніку[11].

Інфармацыйны бюлетэнь паўстанцаў № 4 ад 6. 03.1863 г. інфармаваў пра падзеі на Лідчыне: «*У Лідскім павеце ў некалькіх каталіцкіх і ўсходняга абраду парафіях быў зачытаны маніфест і дэкрэты Цэнтральнага Камітэта і Часовага Народнага ўрада. У выніку чаго сяляне самі сабраліся ў лесе каля Забалаці, пачалі самастойна ўзбройвацца і чакаць указанняў. Пасля трох дзён… 11 лютага… высунуліся да Марцінканцаў, дзе 16 лютага адбілі рэкрутаў, якіх везлі па чыгунцы з Кангрэсуўкі*[12]*. Далейшы лёс рэкрутаў пакуль не вядомы. Потым 12, 13, 14 і аж да 24 лютага прайшлі арышты мясцовых жыхароў… Арышты рабіліся ўзброенымі казакамі, якія пры гэтым рабавалі вёскі і двары. Агіднасці салдатаў дайшлі да найвышэйшай кропкі. Да 40 арыштаваных адвезена ў віленскую цытадэль»*[13].

Людвік Нарбут бываў на канспіратыўных сходах у Лідзе[14], весткі пра маніфестацыі ў Варшаве і Вільні ён пракаментаваў коратка: «Дарэмна траціцца запал». Баявы

---

[9] Тамсама. S. 206.

[10] Тамсама. S. 44–47.

[11] Архивные материалы Муравьёвского музея… Вильно, 1913. Книга 4, часть 1. С. 252.

[12] Царства Польскага.

[13] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 199.

[14] Швед В. В. Вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут // Наш радавод. Кн. 6. Ліда, 1994. С. 84.

афіцэр чакаў. І вось пры канцы 1862 г. брат Баляслаў прывёз яму ў Сербянішкі адозву Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта ў Варшаве з заклікам да паўстання. Прачытаўшы адозву, Людвік зняў са сцяны шаблю і пацалаваў. Хутка пасля гэтага ён паехаў у Вільню, дзе сустрэўся з сябрамі рэвалюцыйнага Камітэта Літвы, які рыхтаваў паўстанне ў Беларусі. Камітэт шукаў афіцэраў з досведам і таму не захацеў адразу раскрываць Нарбута, яго баявы вопыт яшчэ спатрэбіцца. Людвік вярнуўся дамоў і пачаў чакаць загаду і патаемна рыхтаваць і арганізоўваць людзей, праводзіць вучэнні пад выглядам паляванняў. 13 лютага 1863 г. да яго прыбыў ганец Віленскага камітэта з загадамі, адным з загадаў Людвік прызначаўся вайсковым начальнікам Лідскага павета. Атрымаў ён і загад пра пачатак паўстання. На кароткай сямейнай радзе бацька, стары Тэадор Нарбут, сказаў, што «*належыць даць сваіх дзяцей на алтар Айчыне, бо яна ў іх мае патрэбу»*.

Нядоўга доўжылася падрыхтоўка да ад’езду, усё ўжо было гатова. Перад ад’ездам сабралася ўся вялікая сям’я Нарбутаў. Людвік быў апрануты ў старую камізэльку, падбітую аўчынай, і ўзброены рэвальверам, на баку вісела старая каўказская шабля. Сястра Тэадора ўручыла яму харугву, вышытую ўласнымі рукамі, а ён перадаў ёй маніфест Камітэта для ксяндза з Начы, каб заўтра прачытаць вернікам. Людвік захоўваў поўны спакой і пасля блаславення бацькамі і развітання з маладой жонкай і сваякамі, у суправаджэнні брата Баляслава і шасці блізкіх паплечнікаў — сяброў маладосці і сялян роднага маёнтка — з’ехаў з хаты. Праз некалькі кіламетраў ад хаты, у Салапаціскім лесе, каля эйшышскага гасцінца, атрад спыніўся — тут было месца збору паўстанцаў.

Назаўтра, 14 лютага, сястра Тэадора прыехала да нацкага пробашча ксяндза Гатаўта і перадала яму маніфест. Гатаўт у той жа дзень зачытаў маніфест паўстанцаў, а потым нейкую афіцыйную паперу, падпісаную губернатарам Назімавым. Гэта яго і ўратавала, бо ўся парафія потым пад прысягай пацвердзіла, што ён чытаў нейкі ўказ генерал-губернатара і больш нічога[15].

У першы лагер нарбутаўцаў, заложаны за тры вярсты ад Начы, у ноч з 13 на 14 лютага з групай у сем чалавек прыйшоў Леў Краінскі з Грышанішак. Усе разам перайшлі ва ўрочышча Сабалюнцы, хутка сюды ксёндз-вікары Эйшышскага касцёла Стэфан Юзаф Гарбачэўскі прывёў з сабой 17 сялян, і такім чынам атрад вырас да 32 байцоў[16]. Да канца лютага атрад павялічыўся да 70 чалавек, і ў Сабалюнцах ксёндз Гарбачэўскі прывёў байцоў да прысягі. Палова атрада складалася з дробнай шляхты Лідскага і Ашмянскага паветаў, другой паловай былі школьная моладзь, адстаўныя вайскоўцы і сяляне.

Сяляне забяспечвалі атрад харчаваннем і паведамлялі пра перасоўванні рускіх войскаў. За дапамогу Нарбуту пасля паразы паўстання было пакаранае ўсё насельніцтва чатырох вёсак: Паддуб’е, División Кракшлі, Зубрава і Лініца — знішчаны ўсе пабудовы гэтых вёсак, а сем’і сасланыя ў Сібір[17].

Галоўным зброяй атрада былі паляўнічыя стрэльбы, шмат хто быў узброены толькі косамі. Лепшага ўзбраення таго часу — штуцараў і карабінаў з наразной руляй — было няшмат, у асноўным гэтую палепшаную зброю закуплялі за мяжой ці здабывалі ў баі.

[15] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 63–65.

[16] Швед В. В. Вайсковы начальнік Лідскага павета… С. 85.

[17] З успамінаў Мірона Браніслава Нарбута: «Вясковае насельніцтва Лідскага павета мае глыбокую веру ў Бога і працавітасць… У часы апошняга паўстання 1863 года не толькі сімпатызавалі народнай справе, але нават сяляне скарбовыя ў многіх мясцовасцях станавіліся ў шэрагі, і многія з іх загінулі на полі славы ці былі высланыя на пасяленне ў Сібір. Я сам у Арэнбургу сустрэў дастаткова вялікую партыю сялян з парафій Эйшышскай, Нацкай і Радунскай, якіх гналі на пасяленне ў Башкірыю за ўдзел у паўстанні».

Галоўны склад зброі атрад меў у Як'янцах (каля Шаўроў) у лесніка Юзафа Банюшкі, былі склады ў Казіміра Гедройця ў маёнтку Казіміраўка і ў Альфонса Шэлкінга з Забалаці.

Аднастайнага абмундзіравання не было. Большасць амуніцыі ішло ад Віленскага камітэта праз доктара Тэраевіча з Салтанішак, пастаўкамі займалася і сястра Людвіка Тэадора Манчунская (у расейскіх дакументах — Манджунская). Яна разам са сваёй сяброўкай Антанінай Табенскай тры разы ездзіла ў Вільню да агента Камітэта Верблеўскага. У яго яна брала порах і свінец, а потым цэлымі вазамі прывозіла ў атрад. Адзін раз Тэадора прывезла нават дзве гарматы. Гэтыя дзве мужныя жанчыны залучылі ў атрад двух расійскіх афіцэраў — падпаручнікаў Нікалаі і Клімантовіча, праз іх прыйшлі да Нарбута і некалькі літоўскіх патрыётаў (Скірмунт і інш.). Рэгулярна прадукты падвозіў стары селянін з Шаўроў — Мацей Някрэтовіч. За ўсе пастаўкі ад сялян Нарбут плаціў гатоўкай[18].

Любыя выпадкі недысцыплінаванасці, дэзерцірства і непаслушэнства з самага пачатку камандзір сурова караў. Паказальным стаў выпадак з дэзерцірам шляхціцам Рыло з фальварка Рубікі (з-пад Тарнова). Ён далучыўся да атрада на пачатку паўстання і служыў пры камандзіру як выведнік. Разам з селянінам па прозвішчы Ікасала ён прыйшоў да пробашча Дубіцкага касцёла Калікста Ставіцкага і перадаў яму нібы просьбу Нарбута аддаць камандзіру гадзіннік, бо свой ён нібы страціў. Калі ксёндз адмовіўся аддаць гадзіннік, дэзерціры адвялі яго ў пушчу і прывязалі да дрэва, а самі вярнуліся ў плябанію і абрабавалі яе. Якраз у момант рабавання яны былі арыштаваныя байцамі атрада. Пасля кароткага ваенна-палявога суда рабаўнікоў высеклі розгамі і пакаралі: яны сабе самі выкапалі магілу і былі жыўцом закапаныя дагары нагамі.

Малады паўстанец Навіцкі (20 гадоў) заснуў на пасту, і суд прысудзіў яго да расстрэлу. Толькі заступніцтва ксяндза-капелана Гарбачэўскага выратавала жыццё маладому байцу, але назаўтра, падчас бітвы пад Руднікамі, Навіцкі гераічна загінуў. Нарбут даводзіў мясцовым жыхарам, што злачынцаў і рабаўнікоў трэба затрымоўваць і перадаваць паўстанцам, а калі паўстанцаў побач няма, дык перадаваць іх нават камандзірам частак рускага войска для пакарання.

Людвік Нарбут не шкадаваў і сябе. Па ўсёй Літве людзі пераказвалі наступную гісторыю: *«Паўстанцы даведаліся, што адзін са зборшчыкаў грошай — здраднік, які ў чаканні, што да яго за грашамі прыедзе сам камандзір, схаваў у сябе 40 казакоў. Ведаючы гэта, паўстанцы атачылі двор здрадніка, і толькі пасля гэтага камандзір разам са сваім ад'ютантам Краінскім прыехаў да яго. Гаспадар радасна сустрэў Нарбута з ад'ютантам і правёў яго ў хату, дзе паўстанцы былі схопленыя казакамі. Афіцэр казакоў, дэманструючы сваю павагу да палоннага Нарбута, прапанаваў яму, як баявому афіцэру, застрэліцца, і таму пакінуў палоннага аднаго ў пакоі з рэвальверам. Нарбут зачыніў дзверы і… стрэліў у акно. У двор з усіх бакоў уварваліся паўстанцы і хутка раззброілі казакоў. Тады прыйшоў час Нарбуту выявіць шляхетнасць. Ён адпусціў усіх і нават аддаў казакам здрадніка, якога яны самі правучылі бізунамі»*[19].

Праз тое, што большасць байцоў не мела баявой вывучкі, атрад стаў абозам у Нацкай пушчы (ва ўрочышчы Сеніца), паміж Дубічамі і Грыбашамі, і Нарбут пачаў навучаць сваіх байцоў ваеннай справе.

Падчас знаходжання ў Дубіцкім лагеры Нарбут зрабіў са свайго атрада баявую адзінку: прызначыў афіцэраў і унтэр-афіцэраў, даў людзям першасную баявую падрыхтоўку.

---

[18] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 67–68.

[19] Тамсама. S. 69–72.

Прыкладная структура атрада:

| | | |
|---|---|---|
| Пяхота | 2–3 узводы стральцоў | Не больш за 250 чалавек |
| | 3–4 узводы касінераў | |
| | 1 узвод карабінераў | |
| Кавалерыя | 1–2 узвода | Каля 30 шабель |
| Тыл, штаб і г. д. | – | 20 чалавек |
| Усяго | | Каля 300 чалавек |

Штаб складаўся:

- з ад'ютанта камандзіра, які быў адначасова начальнікам штаба, — Леон Краінскі[20] з Грышанішак;
- другога а'ютанта — Баляслаў Нарбут, родны брат Людвіка;
- інтэнданта, так званага ваеннага камісара — Ансельм Патрыкоўскі з Ліды;
- капелана атрада — ксёндз Стэфан Юзаф Гарбачэўскі;
- лекара атрада — доктар Аляксандр Бразоўскі з Гурнофеля;
- майстар па зброі атрада — невядомы паўстанец.

Камандзірамі ўзводаў былі Баляслаў Францкевіч, Аляксандр Скавінскі, Уладзіслаў Пілецкі, Уладзіслаў Навіцкі, Пётр Янковскі, Уладзіслаў Нікалаі і інш. Наогул, афіцэрскі корпус складаўся пераважна з былых афіцэраў рускага войска, але быў і эмігрант, выпускнік школы падхарунжых у Гунеа — Бразоўскі. Непасрэдна падчас баявых дзеянняў, за заслугі, афіцэрамі сталі Міхал Андрыёлі, Баляслаў Нарбут, Пілецкі.

Касінеры, узброеныя косамі, паходзілі ў асноўным з сялян. Каса, выстаўленая паралельна тронку, была звыклай сялянскай халоднай зброяй пры рукапашнай сутычцы, касой рабіліся страшэнныя раны. Падчас бою мастацтва камандзіра складалася ў тым, каб не падставіць касінераў пад агонь агнястрэльнай зброі і ўвесці іх у бой толькі для рукапашнай сутычкі. Па-за боем касінеры неслі вартавую і выведвальную службу, прычым часта іх выкарыстоўвалі парамі са стральцамі: адзін касінер і адзін стралец.

Стральцы атрада паходзілі з шляхты і леснікоў. Зброя — паляўнічыя стрэльбы, на якія мацавалі самаробныя багнеты для рукапашнага бою.

Карабінеры — адборная пяхота паўстанцаў, большасць карабінераў раней служылі ў войску. Узброены былі ненаразнымі карабінамі і наразнымі штуцарамі, зброя для іх адмыслова закуплялася або здабывалася ў баі. З прычыны малой колькасці ўзбраення карабінераў было не шмат.

Кавалерыя — галоўным чынам шляхта на ўласных конях, з уласным рыштункам і зброяй. Узброены кавалерысты паўстанцаў былі па-рознаму, у асноўным — паляўнічымі стрэльбамі, рэвальверамі або старымі пісталетамі, шаблямі.

Байцы абозу, тылу, дапаможны аддзел пры неабходнасці ваявалі як звычайная пяхота.

Пра паўстанцаў напісаў сябра Народнага Жонду Гілер: *«…ад станка, ад плуга, са школы, з бацькоўскай хаты… кожны з іх ведаў, што калі яго зловяць маскалі, то ён будзе павешаны або высланы ў Сібір. І ледзь апынуўшыся ў лесе, быў змушаны неадкладна ваяваць, не валодаючы зброяй і не ведаючы тактыкі бою»*[21].

У 1863 г. расійскае войска на нашай тэрыторыі складалася з дывізіі лейб-гвардыі генерала Быстрома, якая прыбыла з Пецярбурга ў Вільню, і з 1-га корпуса пяхоты генерала Лабанцава, які складаўся з трох дывізій пяхоты, дывізіі кавалерыі, корпуснай

[20] «Леон Антонович Краинский» Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1862 год. Вильно, 1862. Ч. 1. С. 119.

[21] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 73–77.

артылерыі і некалькіх палкоў казакоў. Корпус размяшчаўся па ўсім краі, ад Лібавы да Менска і Смаленска. Агульная колькасць расійскага войска ў гістарычнай Літве была каля 60 000 чалавек, гэтыя войскі былі добра ўзброеныя, абучаныя і мелі рэальны баявы досвед.

У сувязі з выбухам паўстання ў Царстве Польскім генерал-губернатар Назімаў 10 лютага ўвёў ваеннае становішча. Даведаўшыся пра «хеўру», генерал-губернатар Назімаў яшчэ 18 лютага выслаў атрад штаб-капітана Струкава ў складзе роты пяхоты і полуэскадрона ўланаў *«для ачышчэння Лідскага павета ад бунтароў»*. Але Струкаў не знайшоў паўстанцаў. Тады быў высланы лятучы атрад палкоўніка Вімберга ў складзе роты пяхоты і 30 казакоў.

У канцы лютага ад паселішча да паселішча, начуючы ў шляхецкіх фальварках, атрад Нарбута пайшоў у Рудніцкую пушчу, натуральны стан якой рабіў з яе прыродную крэпасць. Недалёка ад Начы за інфармаванне расійскіх уладаў паўстанцамі быў павешаны нацкі тысячнік Антоні Казёл[22]. У 1933 г. у Кавальках быў запісаны аповед селяніна гэтай вёскі Францішка Сянкевіча (84 гады). Ён распавёў, што тысячнік Казёл пісьмова паведамляў уладам пра атрад Нарбута. Калі пра гэта стала вядома, Нарбут дараваў яму жыццё, прыняў ад яго прысягу і далучыў да атрада. Падчас знаходжання атрада ў Салтанішках Казёл знаходзіўся ў пікеце. Калі па дарозе праходзіў жабрак, ён перадаў праз яго цыдулку расійскім уладам з інфармацыяй пра месцазнаходжанне атрада. Жабрака затрымаў на дарозе іншы паўстанец і знайшоў цыдулку. За здраду Казёл быў павешаны каля населенага пункта Высокае[23]. З рапарта начальніка штаба 2-й гвардзейскай пяхотнай дывізіі ад 2 (15) сакавіка 1863 г.: *«Хеўра гэтая, ідучы з вёскі ў вёску, начуючы ў абшарніцкіх фальварках і шляхецкіх ваколіцах, аб'яўляла сялянам розныя пракламацыі рэвалюцыйнай партыі і вербавала саўдзельнікаў…»*[24]. А вось як апісваў перасоўванне атрада Нарбута адзін з ягоных інсургентаў: *«Наперадзе атрада хутка рухаліся два маладыя байцы. Карабіны іх гатовыя да бою, канфедэраткі схаваны, яны ўважліва аглядаюць мясцовасць. За імі на адлегласці 300–400 крокаў ідзе авангард атрада, за авангардам — асноўныя сілы. …паўстанцы па-рознаму апрануты, што надае атраду дзіўны выгляд, вось шляхціц у сіняй вопратцы з накінутай на плечы лісіным футрам, у яго дарагая паляўнічая стрэльба, новы рэвальвер і прадзедаўская шабля на баку. Побач з ім селянін. На ім доўгая, да каленаў белая камілька, падперазаныя чорным поясам, блакітная канфедэратка, абабітая чорным футрам, праз плячо на шпагаце замест рамяня старая крэмнёвая стрэльба… і побач з імі маленькі худы яўрэй»*[25].

## Бітва пад Рудняй

У першых днях сакавіка недалёка ад Воранава быў арганізаваны напад на пошту, якая рухалася з Вільні ў Ліду, аднак напад быў няўдалы.

9 сакавіка ў вёсцы Вясенчы расійскія атрады Струкава і Вімберга злучыліся.

Цэлы дзень 8 сакавіка паўстанцы адпачывалі. Досвіткам 9 сакавіка, пасля звыклага ранішняга набажэнства, якое правёў ксёндз Гарбачэўскі, атрад выступіў у паход, а праз дзве гадзіны выйшаў да Віленскага гасцінца. Тут, зусім блізка ад Вільні, было вырашана зрабіць засаду і такім чынам паведаміць пра сябе насельніцтву і ўладам. Нарбут выслаў узвод карабінераў Скавінскага для дэманстрацыі ў напрамку Рудні, каб падняць

22 Тамсама. S. 83–86.

23 Тамсама. S. 204.

24 Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863–1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Составил Миловидов А. И. Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 78.

25 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 207.

пярэпалах і прымусіць сцягнуць туды рускія войскі. Мястэчка Рудня знаходзіцца на рацэ Мерачанка, недалёка ад Рудніцкай пушчы, на берагах ракі ў той час ляжалі ствалы дрэў, прызначаныя для сплаву. Нарбут паставіў два ўзводы стральцоў у засаду на ляснай высечцы сярод складзеных ствалоў дрэў, а касінераў пакінуў у лесе, як меркавалася, у тыле будучага баявога парадку маскалёў. Рускі атрад рушыў на Нарбута дзвюма калонамі. Першая калона — войскі штаб-капітана Струкава — рухалася праз Папішкі, Калітанцы, Рудню на Гудэлі. Другая калона пад камандаваннем палкоўніка Вімберга спрабавала перакрыць шляхі адыходу на поўнач і атачыць паўстанцаў. У Рудні свайму атраду зрабіў Вімберг адпачынак, і толькі каля 18.00 ізноў рушыў у бок лесу, дзе казакі раптам наткнуліся на ўзвод Скавінскага. Адстрэльваючыся, карабінеры пачалі адыходзіць да паляны, дзе ў засадзе знаходзіліся галоўныя сілы. Калі казакі наблізіліся, Нарбут закамандаваў «агонь!». Казакі пачалі адыходзіць, а маладыя байцы, натхнёныя гэтым, кінуліся іх праследаваць. Тым часам з іншага боку, ад лідскага гасцінца, з'явілася калона Струкава і пачала перакрываць атраду адыход да лесу. Таму Нарбут адвёў свой атрад да лесу, падчас гэтага адступлення пад ім быў забіты конь. Пачаўся новы бой, перастрэлка перайшла ў рукапашную сутычку. І калі паўстанцы пачалі адыходзіць, у левы фланг рускіх з крыкамі «Езус! Марыя! Юзаф!» ударыў атрад касінераў. Бой разгарэўся з новай сілай. У выніку рускія войскі адышлі да Рудні. Паўстанцы страцілі 4 чалавек забітымі, і пасля іх пахавання з набажэнствам кс. Гарбачэўскага атрад Нарбута адышоў углыб Рудніцкай пушчы. У гэтым баі інсургенты захапілі некалькі штуцэраў[26].

Паводле інфармацыі «Віленскага весніка» № 24 ад 07(21).03.1863 са спасылкай на «Рускага інваліда» № 44, страты рускіх войскаў склалі: 3 салдаты лейб-гвардзейскага маскоўскага палка і 1 казак, былі ўзяты трафеі: 3 фузіі і 3 касы[27].

Начальнік штаба 2-й гвардзейскай пяхотнай дывізіі ў рапарце ад 2 (15) сакавіка 1863 г. пра гэты бой дакладаў: *«У нас паранена, падчас перастрэлкі і… пры наступе на лес чатыры чалавекі: трое радавых л.-гв. Маскоўскага палка і адзін казак. З іх адзін радавы… атрымаўшы рану ў жывот, памёр на наступны дзень, іншыя… лечацца. У мяцежнікаў забіта чатыры чалавекі, лік параненых не вядомы… На наступны дзень у лесе і каля вёскі захоплена… 10 чалавек. Па сведчаннях захопленых… мяцежнікі падчас сутычкі мелі каля 80 чалавек»*[28].

На наступны дзень Вімберг шукаў паўстанцаў па ўсёй пушчы, але знайсці не змог, былі ўзятыя ў палон байцы, якія ішлі на выведку ў бок Вільні. А Нарбут у гэты ж дзень напаў на роту лейб-гвардыі на дарозе да Нацкай пушчы, у сутычцы некалькі гвардзейцаў былі забітыя, паўстанцы захапілі некалькі штуцэраў і хутка адступілі. Менавіта пасля гэтых баёў на вуліцах Вільні з'явіліся атрады рускіх войскаў з гарматамі. У горадзе хадзілі радасныя чуткі пра тое, што Нарбут разбіў маскалёў, у касцёлах служылася «Te Deum»[29].

З Вільні сталі пасылаць роту за ротай для падмацавання войскаў на поўначы Лідчыны. На дапамогу Вімбергу з Вільні на вазах прывезлі роту пяхоты лейб-гвардыі, а па чыгунцы ў Алькенікі прыбыла рота Фінляндскага палка пяхоты.

Вімберг са сваімі войскамі вярнуўся ў Вільню шукаць атрад Нарбута, замест яго з Вільні прыбыў палкоўнік Епіфанаў з ротай пяхоты Паўлаўскага гвардзейскага палка і казакамі. Паўстанцы, не ўступаючы ў бой, адступілі ў Дубіцкую пушчу, і рускія войскі не змаглі іх знайсці. У «Віленскім весніку» № 30 ад 7(21).03.1863 г. была абвешчаная

26 Тамсама. S. 87–91.

27 Тамсама. S. 208.

28 Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 78.

29 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 92.

інфармацыя наступнага зместу: *«Камандзір 42 данскога палка палкоўнік Епіфанаў, высланы знішчыць рэшткі банды Нарбута, разбітай палкоўнікам Вімбергам пад Рудняй, прайшоў на працягу 10 дзён у розных напрамках вялікую частку Лідскага і Троцкага паветаў, але нідзе не знайшоў паўстанцаў. Як вынікае з гэтай інфармацыі, банда Нарбута канчаткова рассыпалася, а ён сам і кс. Гарбачэўскі збеглі ў Царства Польскае».*

Тым часам інсургенты даведаліся, што партыя рэкрутаў павінна прайсці праз Шчучын на Гродна, і пакінулі дубіцкі лагер, каб стаць у засаду каля Берштаў. Аднак інфармацыя пра рэкрутаў была памылковая, таму атрад спыніўся ў новым лагеры ў раёне Зубрава — Дубічаны, тут камандзір ізноў заняўся баявой падрыхтоўкай.

## Падзеі ў Гродне

Увечары 14 сакавіка начальнік чыгуначнай станцыі Гродна капітан рэзерву расійскага войска Лявон Кульчыцкі разам з некалькімі дзясяткамі добраахвотнікаў захапіў гатовы да ад’езду цягнік каб даехаць да Парэчча і злучыцца з атрадам Нарбута. У Парэччы іх ужо чакаў Баляслаў Нарбут. «Віленскі Веснік» № 25, 09(22).03.1863: *«У суботу… у 10 гадзін вечара, начальнік станцыі чыгункі ў Гродне Кульчіцкі, сабраўшы зламысную банду, спрабаваў выклікаць беспарадкі на станцыі і з’ехаць з горада на падрыхтаваным цягніку… Аднак размешчаная на станцыі рота не дапусціла гэтага. Начальнік станцыі і 8 чалавек здолелі з’ехаць на лакаматыве. Кульчыцкі і яго таварышы, не даехаўшы да станцыі Парэчча, кінулі лакаматыў на дарозе і сышлі ў лес. Машыніст і качагар не пагадзіліся іх везці і збеглі».*

З рапарта флігель-ад’ютанта палкоўніка графа Бобрынскага да камандуючага войскамі бачна, што 15 сакавіка, каля 10 гадзін вечара, патруль, пасланы з Гродзенскай станцыі чыгункі ў напрамку моста праз Нёман, паведаміў, што каля дзяжурнага лакаматыва знаходзяцца невядомыя людзі. Незвычайнае ў начны час перасоўванне людзей і паравоза зацікавілі камандзіра роты, і ён, пакінуўшы варту каля тэлеграфа, са сваімі салдатамі рушыў да паравоза. Салдаты былі сустрэтыя стрэламі інсургентаў (каля 100 чалавек). Машыніст паравоза Вінтар і качагар адчапілі паравоз ад падрыхтаваных для ад’езду вагонаў, таму калі Кульчыцкі сам пусціў паравоз, дык з’ехалі толькі з 8 паўстанцаў, якія былі на паравозе. Астатнія былі акружаныя расійскімі войскамі, 2 чалавекі ўзяты ў палон, астатнія схаваліся ў горадзе, расейцы *«захапілі 16 ружжаў, косы, шаблі, 1 пуд 30 фунтаў пораху»*. Потым у горадзе былі арыштаваныя яшчэ 46 інсургентаў[30].

Аналагічны выпадак адбыўся і з выправай віленскай моладзі: 21 сакавіка 60 паўстанцаў былі атакаваныя атрадам (рота пяхоты і сотня казакоў) палкоўніка Алхазава каля вёскі Міцкішкі Троцкага павета. У выніку няроўнага бою 17 паўстанцаў былі забітыя, частка трапілі ў палон і толькі меншая частка, на чале з мастаком Міхалам Эльвірам Андрыёлі, здолелі вырвацца і дайсці да Нарбута[31].

У палове сакавіка Нарбут выслаў частку свайго атрада ў раён Забалаць — Нача — Волдацішкі для папаўнення добраахвотнікамі. Тут, на загад камандзіра, за здраду быў павешаны пісар з Забалаці. 21 сакавіка ў Сурконтах да атрада далучыліся 10 сялян, а Нявера з Пелясы прывёў 11 добраахвотнікаў у Волдацішкі, маёнтак Геншаля. Стэфан Вільбік[32] як вандруючы музыка, са скрыпкай у руках, абышоў увесь раён Нача —

---

[30] Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 80–81.

[31] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 94.

[32] Пра Стэфана Вільбіка пісаў Мірон Браніслаў Нарбут: «У вязні ў Вільні ў кляштары Св. Пятра бачыў шляхціца засцянковага з-пад Ліды Стэфана Вільбіка. Ён набіраў добраахвотнікаў у аддзелы Людвіка Нарбута ў Лідскім павеце і дастаўляў жывёлу. Арыштаваны расейцамі з мандатам Урада Народнага, пасаджаны быў у вязню і адданы пад ваенны суд. Захоўваў поўны спакой і моцную волю

Эйшышки — Радунь, усюды вербаваў байцоў і накіроўваў іх у атрад да Нарбута. Пра з'яўленне інсургентаў 27 (14) сакавіка ў Вільню паведаміў і лідскі ваенны начальнік: *«Па атрыманых мною звестках, у… павеце, у Радунскім прыходзе, які мяжуе з лясамі Гарадзенскага павета, блукаюць групы мяцежнікаў… у ваколіцу Сурканты… мяцежнікі ў значнай колькасці, узброеныя пісталетамі і двухстволкамі, прыйшлі ў суботу 9 сакавіка каля поўдня… увялі 10 чалавек, праходзілі таксама праз Пелясу Барцянскую ў ½ вярсты ад Суркантаў, дзе былы дзясятнік Нявера… угаварыў на мяцеж 10 чалавек казённых сялян, абяцаў прывесці іх у вёску Волдацішкі абшарніка Геншаля, дзе мяцежнікі збіраліся начаваць, (але) быў прагнаны абшарнікам Геншалям.*

*…гонар маю дадаць, што для пераследу… фармаванай… абшарнікам Нарбутам і ксяндзом Гарбачэўскім мяцежнай хеўры, якая павялічылася на даволі значную колькасць людзей, я свае часткі камандзіраваць не рашаюся, бо… неабходна мець варту ў астрозе, у казначэйстве, пры парахавым склепе і ў іншых месцах — для гэта неабходны дзве роты, а калі адкамандзіраваць адну роту, дык астатняе войска… будзе слабой абаронай горада, не магчыма будзе мець начныя патрулі… і таму для пераследу мяцежнікаў я маю гонар прасіць распараджэння Вашага Высакаправасхадзіцельства.*

*За ваеннага начальніка Маёр /подпіс/».*

Рэзалюцыя генерал-губернатара на рапарце:

*«Адначасова паслаць з Вільні і Гродна два атрады, у кожным па адной роце пяхоты і па 50 казакоў. Даручыць камандаванне падпалкоўніку Епіфанаву…»*[33].

З даклада добра відаць працу паўстанцаў па дэзынфармацыі супрацiўніка, Геншаль якраз і быў «цывільным начальнікам Лідскага павета».

## Бой паміж маёнткамі Дубічы і Глыбокае

Вось як апісваў выправу з Вільні на Лідчыну афіцэр лейб-гвардзейскага Паўлаўскага палка Воранаў: *«Збор рот у экспедыцыю не абцяжарыў адпраўлення, таму што быў самым кароткім; людзі не бралі з сабой ранцаў, а замест іх мяшкі з сухарамі, хлебам і самымі неабходнымі рэчамі, на арцельныя вазы паклалі катлы, крупу і розныя запасы. Афіцэры таксама не дазвалялі сабе запасацца нічым лішнім: лямец з скуранай падушкай, лішняя пара ботаў… былі іх адзіным камфортам. Праз тры гадзіны атрад выступіў з кашараў, а ў 7 гадзін ужо ехаў па чыгунцы. Перад адпраўкай цягніка капітан Цімафееў распарадзіўся спыняць цягнік па яго камандзе, а на лакаматыў загадаў паставіць 5 выдатных стралкоў з зараджанымі стрэльбамі»*[34].

Нарбут не планаваў новых сутыкненняў, бо думаў, што на Вялікдзень, які ў той год святкаваўся ў адзін дзень (12 красавіка — каталіцкі і 30 сакавіка (па старым стылі) — праваслаўны) улады не будуць пачынаць баявых дзеянняў. 7 красавіка атрад паўстанцаў знаходзіўся ў маёнтку Рачкоўшчына, адтуль пайшоў да Шчучына, дзе нейкі час стаяў лагерам, а далей праз Новы Двор перайшоў да Глыбокага, побач з Гарадзенскай пушчай.

Ужо 10 красавіка капітан Цімафееў на чале дзвюх рот Паўлаўскага лейб-гвардзейскага палка і паўсотні казакоў выйшаў з Ліды да Берштаў для пошуку Нарбута, 13 красавіка з той жа мэтай з Гродна высунуўся палкоўнік Вернер на чале трох рот Калуж-

і нікога не скампраментаваў. У калегі па вязніцы, які яго мне прадставіў, Вільбік пытаўся: "Скажы, Пан, як і можа мне быць дэкрэт?" "Могуць павесіць" — той адказаў. Задумаўся трошкі Вільбік, але праз хвіліну спытаў: "А ці я буду ў гісторыі?" — "Абавязкова — гісторыя пераказвае нашчадкам імёны ўсіх, хто заслужыў у Айчыны", — адказаў той. На што Вільбік з усёй энергіяй выказаў: "Хвала Богу — няхай вешаюць!" Потым яго выслалі на цяжкія работы ў Сібір» — гл. Miron Bronisław Narbutt. Szlachta okoliczna // Ziemia Lidzka. 1997. № 6 (28).

33 Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 89–90.

34 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 412.

скага палка пяхоты, эскадрона Курляндскага палка ўланаў і сотні казакоў. Нарбут, дазнаўшыся пра гэтыя перасоўванні расійскіх войскаў, разбурыў мост на рацэ Котры каля Берштаў і праз Пілоўню (Пілоўня — засценак на рацэ Нявіша, 10 км ад Новага Двара) накіраваўся да лагера ў Гарадзенскай пушчы.

Капітан Цімафееў 11 красавіка прыбыў у Бершты, тут рускімі войскамі быў павешаны солтыс і пісарчук. Дапытваючы сялян, Цімафееў даведаўся, куды пайшоў Нарбут[35]: *«…неўзабаве была атрымана інфармацыя, што каля вёскі Бершты мяцежнікі разабралі мост на рацэ Котра. Даведаўшыся пра гэта, начальнік атрада загадаў ротам паскорыць крок і разабраць хлеб на рукі з пакінутых фурманак, на падводы пасадзіць людзей з шанцавымі прыладамі для папраўкі моста, сам жа з 35 казакамі накіраваўся рыссю ў Бершты… мост… быў разбураны; палі моста засталіся ў цэласці, бэлькі былі надсечаныя, а насціл скінуты і ўнесены плынню»*. Казакі перайшлі раку бродам, а салдаты па бэльках моста і рускі атрад фарсіраваным маршам пайшоў на Пілоўню. *«З роспытаў сялян… нічога нельга было дамагчыся; ад іх увесь час мы атрымлівалі аднастайны адказ: “далі Буг, ніцма не ведаю”. Аднак казакі даведаліся, што ў фальварку Глыбокае Нарбут з ксяндзом Гарбачэўскім прыводзілі да прысягі навербаваных сялян, акрамя таго, даведаліся, што хеўра рушыла лясамі ў в. Дубічы»*. Ідучы следам, Цімафееў дагнаў атрад Нарбута і пачаў пошукі інсургентаў: спачатку войскі агледзелі паўночную частку лесу, якая знаходзілася паміж Дубамі і Глыбокім, і не сустрэлі ў гэтай частцы лесу нікога, але салдаты дашлі да фальварка Дубічы абшарніка Янкоўскага, *«пры аглядзе якога знойдзена ў свіранах велічэзная колькасць харчоў для разгавення, бо гэта было напярэдадні Вялікадня. Яўрэі шапталі, што гэта прыгатавана для мяцежнікаў. Мітусня, якая зрабілася ў фальварку пры з’яўленні войскаў, прымушала мімаволі меркаваць, што паўстанцы толькі што яго пакінулі»*. Далей «*капітан Цімафееў вырашыўся агледзець паўднёвую частку лесу ў… баявым парадку. Толькі наш ланцуг стаў падыходзіць да ўзлеску, як быў сустрэты залпам; падпусціўшы нас на 30 крокаў, мяцежнікі далі яшчэ залп, які перайшоў у беглы агонь. Мяцежнікі стралялі, затуляючыся пасекамі, складзенымі з напалову надсечаных дрэў. Яны так майстэрскі карысталіся гэтым, што іх практычна не было бачна, і нашым салдатам даводзілася страляць на дымок»*. Пачаўся няроўны бой, атрад паўстанцаў меў не больш за 150 чалавек супраць 500 салдат, прычым занятая пазіцыя ўсё ж не была зручнай для абароны. Пасля перастрэлкі паўстанцы хутка адступілі ўглыб лесу. *«Праслед… быў спынены з прычыны густога лесу, з прычыны цемры і моцнай стомы людзей. У нас былі забітыя: радавы Панькоў і Матвееў: ранены унтэр-афіцэры: Любімаў, Літвінаў, і радавыя: Малацілаў і Залыгін»*[36]. Рускі атрад, які стаміўся ад 50-кіламетровага маршу і бою, заначаваў у суседнім Новым Двары.

Сам Людвіг Нарбут так апісаў гэты бой у рапарце да Народнага Жонда:

*«Рапарт ваеннага начальніка*
*Лідскага павета ад 16.IV.*

*Выконваючы марш з маім атрадам у паўднёвай частцы Лідскага павета, быў атакаваны маскалямі ў лесе Даўніна, паміж маёнткамі Глыбокае і Дубічы. 10 красавіка стаў на пазіцыю і паслаў кавалерыйскую частку да Берштаў знішчыць мост на рацэ Котра, каб перапыніць камунікацыю ад чыгуначнай станцыі Парэчча, пра што маскалям адразу стала вядома. Раніцай 11 красавіка з’явіўся вораг у колькасці 5 рот пяхоты і казацкай сотні.*

---

[35] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 96.

[36] История лейб-гвардии Павловского полка… С. 413–415.

*Высланая выведка паведаміла пра набліжэнне рускіх войскаў. Хоць мясцовасць мне не спрыяла, і я не меў дакладнай інфармацыі пра сілу ворага, вырашыў прыняць бой. Бог блаславіў нашу зброю. Вораг, маючы больш жывой сілы і лепшую зброю, пачаў націскаць. Я, зразумеўшы, што магу быць атачоны, загадаў адыходзіць, адыход быў праведзены вельмі ўдала, бо прыйшлося адыходзіць на вачах у ворага на працягу 6 вёрстаў адкрытым полем. Страцілі ў баі 1 забітага і 5 параненых, вораг страціў 15 забітых і 13 параненых, паміж імі паранены адзін ад'ютант і палкоўнік.*

*Ваенны начальнік Лідскага павета*

*Нарбут»*[37].

Пасля гэтага бою лідскі ваенны начальнік палкоўнік Амсараў так апісаў тактыку паўстанцаў: *«Хеўра гэтая добра арганізаваная і ўзброеная, падчас дзеянняў яны высылаюць ланцугі і з дасканаласцю карыстаюцца мясцовасцю, нават уладкоўваюць пасекі для ўласнай абароны. Не маючы абозу, лёгка апранутыя, знаёмыя з мясцовасцю, яны займаюць у лесе цяжкадаступныя пазіцыі. Пры набліжэнні войскаў хоць не і выказваюць вялікага супраціву, але, сустракаючы войскі, яны… хутка адыходзяць у гушчар і зноў займаюць іншую пазіцыю, пры гэтым… нашы войскі, не маючы магчымасці нагнаць іх у густым лесе, могуць несці бескарысныя страты…».* Амсараў прапанаваў пазбавіць паўстанцаў магчымасці пераходзіць з аднаго лесу ў другі і для гэтага накіроўваць супраць іх адначасова некалькі атрадаў урадавых войскаў[38].

На наступны дзень рускія войскі займаліся эвакуацыяй параненых у шпіталі Вільні і пахаваннем забітых. Забітыя былі пахаваныя з вялікай пашанай, у трунах, абабітых атласам. Таксама назаўтра, пасля бою, салдаты абшукалі маёнтак Глыбокае Валенты Мікуліцкага, пры гэтым яны разрабавалі яго гаспадарку на 13 000 зл. Быў арыштаваны Стэфан Янкоўскі з Дубічаў: *«…раніцай казакі атрада ўбачылі каляску, з якой пры іх набліжэнні выйшаў спадар і распарадзіўся, каб каляска працягвала ехаць далей. Сам жа ён пайшоў на сустрэчу казакам і прасіў іх накіравацца ў блізкі лес, дзе, ён як быццам, толькі што бачыў, як некалькі чалавек адлучыліся ад хеўры мяцежнікаў. Казакі не паддаліся на зман і, не давяраючы словам спадара, затрымалі яго, а потым дагналі каляску, у якой знайшлі больш за пуд пораху і зброю»*[39]. Мікуліцкага і Янкоўскага аддалі пад суд і саслалі ў Сібір.

Нарбут выкарыстоўваў наступны пасля бою дзень для адыходу: у Якубавічах паўстанцы раскідалі за сабой мост і далей праз Зубрава і Ганелькі атрад адышоў да Нацкай пушчы, да свайго старога лагера паміж Дубічамі і Грыбашамі, на так званай гары Сеніца. Паводле неапублікаваных запісак Вандаліна Шукевіча, менавіта тады насельніцтва вёскі Зубрава дапамагло Нарбуту арганізаваць удалую засаду, за што вёску спалілі, а жыхароў выслалі ў Сібір.

Генерал-губернатар Назімаў у першы дзень Вялікадня заявіў, што ўсё скончана — на Літве адноўлены парадак, бо застаўся толькі адзін Нарбут[40].

## Бітва пад Кавалькамі

Кавалькі — вёска над ракой Нача.

Адразу пасля Вялікадня рускія зноў выступілі на пошукі Нарбута наступнымі сіламі:

Капітан Цімафееў ішоў з Новага Двара на Сабакінцы на чале дзвюх рот Паўлаўскага палка пяхоты і ўзвода 42-га казачага палка, разам 550 чалавек.

---

37 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 97.

38 Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 104.

39 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 416.

40 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 98.

Палкоўнік Вернер загадзя выступіў з Гродна на Новы Двор на чале трох рот Калужскага палка пяхоты, эскадрона Курляндскага палка ўланаў, узвода казакоў, разам 850 чалавек.

Палкоўнік Алхазаў, чарговы ваенны начальнік Лідскага павета, сабраў у Лідзе атрад з роты Фінляндскага палка пяхоты і эскадрона казакоў лейб-гвардыі, разам каля 300 чалавек, і рыхтаваўся выступіць з імі на Дубічы для сумесных дзеянняў з атрадам Цімафеева.

З поўначы, з боку адзінай у той час у нашых краях чыгункі, з Алькенік, выйшаў лятучы атрад капітана Кавера ў складзе роты Неўскага палка пяхоты, полуэскадрона Курляндскага палка ўланаў і паўузвода казакоў, разам 300 чалавек. Ён павінен быў не дазволіць Нарбуту адступіць з Рудніцкай пушчы на поўнач[41].

Палкоўнік Вернер праз Новы Двор прыбыў у Бершты і тут даведаўся, што паўстанцы стаяць лагерам каля вёскі Шумы. Далей, 17 красавіка ён праз Зубрава рушыў дзвюма калонамі, а менавіта: 1-я калона — дзве роты пяхоты, рушылі праз вёску Мастэйкі і чыгуначную станцыю Марцінканцы, 2-я калона — уся іншая частка атрада, праз вёску Даржэлі да чыгуначнай станцыі Марцінканцы. Злучыўшыся, атрад пайшоў да вёскі Шумы.

Пяхота Алхазава 18 красавіка ўвайшла ў Дубічы, а яго кавалерыя ў Начу і Салтанішкі. У гэты ж дзень пяхота Вернера заняла Рудню, а кавалерыя — Грыбашы. У 19.00 адбылося сутыкненне расійскага патруля з выведкай паўстанцаў каля вёскі Davidчміны. З раніцы 20 красавіка расейцы апытвалі мясцовае насельніцтва, каб даведацца, дзе знаходзяцца галоўныя сілы інсургентаў, але *«ні пагрозы, ні пераконванне на іх не падзейнічалі»*[42]. У гэты момант Нарбут меў у атрадзе ад 200 да 300 байцоў. Зразумеўшы, што бою не пазбегнуць, ён адышоў у яшчэ больш лясістую і багністую частку пушчы — да вёскі Кавалькі. Гэтае месца не было ідэальным для бою, бо з тылу ішлі велізарныя балоты, а на правым флагу было возера Думбла, і, адпаведна, не было манеўру для адступлення. Тут паўстанцы размясціліся ў гатоўнасці да бою: 3 узводы стральцоў размясціліся паўкругам, камандзір з карабінерамі размясціўся пасярэдзіне, а касінеры занялі пазіцыю ззаду ўсіх. У такім стане атрад правёў ноч з 18 на 19 красавіка, байцы спалі са зброяй, гатовыя ў любы момант да бою. Раніцай на выведку з патрулём быў высланы Пілецкі.

Вернер, разумеючы, што мясцовае насельніцтва сочыць за ім, пакінуўшы толькі некалькі казакоў для падтрымання гарэння вогнішчаў на стаянцы, увечары рушыў у бок Начы. З Начы 20 красавіка ён адправіў кавалерыю праз Салтанішкі на Дубічы з мэтай абысці пазіцыі Нарбута і не даць яму магчымасці адступіць, а сам з пяхотай пайшоў праз на вёску Буды. У Будах былі выяўленыя сляды атрада паўстанцаў, вядучыя да балота каля возера Думбла. Схоплены ляснік з вёскі Буды па прозвішчы Нядзведзкі не вытрымаў катавання і пагадзіўся правесці войскі да лагера Нарбута.

У 15.30 Вернер выслаў пяхотны ўзвод да вёскі Паддуб'е і роту да вёскі Кавалькі. Селянін Мацкевіч распавёў рускаму афіцэру пра тое, што яго сусед, ляснік Барталамей Кандрат з Паддуб'я, дапамагае Нарбуту як выведнік і кур'ер. Ляснік быў арыштаваны, а вёска Паддуб'е разрабаваная. Далей войскі рушылі да Кавалькаў, дзе і былі абстраляныя патрулём Пілецкага. Руская рота тры разы хадзіла ў штыкавы бой, але была тры разы адбітая. Даведаўшыся пра гэта, Вернер адправіў да Кавалькаў падпалкоўніка Манцейфеля з ротай пяхоты на дапамогу, па дарозе падпалкоўнік павінен быў аб'яднацца з кавалерыяй. Сам Вернер з іншай пяхотнай ротай рушыў на гук стрэлаў і праз 2 кіламетры патрапіў пад абстрэл паўстанцаў. Скаардынаваўшы свае дзеянні, войскі

41 Тамсама. S. 99.

42 Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 117–118.

пачалі наступаць па ўсёй лініі абароны Нарбута. Але наступаць у такой у багністай мясцовасці было складана, салдаты правальваліся ў багну, і паўстанцы стрымлівалі націск. Да канца бою з боку Дубічаў падышоў атрад падпалкоўніка Манцейфеля і таксама адразу ўступіў у бой.

Пад націскам усіх сіл непрыяцеля паўстанцы пачалі адыходзіць, выкарыстоўваючы пры гэтым сваю перавагу ў веданні мясцовасці. Адарваўшыся ад войскаў, у Дубіцкай пушчы Нарбут падзяліў атрад на часткі і, паведаміўшы кожнаму камандзіру пра месца збору ў Гарадзенскай пушчы, загадаў адыходзіць паасобна. З прычыны наступіўшай цемры і стомленасці царскія войскі не змаглі пераследаваць інсургентаў па багністай мясцовасці і таму заначавалі ў Дубічах. *«За выключэннем некалькіх стрэльбаў і кінутых катлоў на вазах, іншых трафеяў не было»,* — пісалася ў афіцыйным паведамленні. Паўстанцы страцілі 7 чалавек забітымі і 5 параненымі[43].

А вось як бой пад Кавалькамі апісаў яго ўдзельнік Міхал Эльвіра Андрыёлі: *«Акружаныя і заціснутыя маскалямі, якія мелі за справу гонару разбіццё аднаго аддзела, які меў славу на Літве, цэлую ноч адступалі без дарог, змучаныя, галодныя, замёрзлыя. Ксёндз Гарбачэўскі, Краінскі, Нарбут і праваднік са свечкаю ў руках шукаюць дарогі па пушчы. Мы парамі, хістаючыся ад стомы і сплючы на маршы, чапляючыся за калоды і вываратні, сунемся следам за агеньчыкам. Бываюць хвіліны, што нашы праваднікі губляюцца ў вялізарнай пушчы, кажуць аддзелам спыніцца, а самі разыходзяцца шукаць слядоў дарогі: тады адны стоячы, другія прысеўшы, іншыя абапёршыся зноў засынаюць чуткім сном. Зноў каманда: “Марш” — і цягнецца сонная, змучаная дружына.*

*Пад раніцу, пераканаўшыся, што кружым вакол, кідаем асцярожнасць і, галодныя, спыняемся недалёка ад хаты лесніка ва ўрочышчы Лакштунцы. Пра выбар пазіцыі няма гаворкі. Бо мы думаем, што маскалі, збітыя нашым начным бадзяннем, пакінуць нас у спакоі. Затрымаліся ў сярэдзіне вялізнага лесу, маючы за сабой балота, а перад вачамі невялікую прасеку, цераз якую вілася сцежка да лесніка. Сонца пачынае прыпякаць, пад адзінаццаць раніцы становіцца горача. Кожны размясціўся як мог, захоўваючы, аднак, баявую лінію, павернутую фронтам да прасекі. Адны спяць, другія ядуць, іншыя выграваюцца на сонцы, некаторыя чытаюць кніжкі альбо лісты.*

*Каля другой пазіцыі ад паўдня зменены пікеты, цішыня ў лагеры нечуваная, чуцён піск мух і камароў. Нарбут на хвіліну адышоў за зараснік, звыклая пільнасць на гэты раз аслабла, цяпло і стома апанавалі ўсімі.*

*Раптам стрэл здалёку, а за ім два іншыя, “за зброю, за зброю!”. Нарбут ужо паміж намі. Забурліла, як у катле, падхопліваюцца задрамаўшыя… пытанні, неспакой, замяшанне. Толькі начальнік спакойны, гаворыць пасунуцца наперад на 300 крокаў і заняць баявую лінію па трое ўздоўж краю лесу і прасекі.*

*Пераканаліся тады, што можа халодная адвага аднаго чалавека. Усе, хвіліну назад трывожныя, неспакойныя, гатовыя ўцякаць, зараз прытомныя, зручна пазаймалі прызначанае сабе месца. Касінеры з афіцэрам у баявой калоне залеглі праз 200 крокаў за стралкамі. Тыя ж, хаваючыся за пнямі і ў кустах, галавой наперад з руляй перад сабой і пальцам на пуску, чакалі каманды да стральбы, а здалёку ўжо гралі маскоўскія трубы баявы сігнал: “Рассыпались молодцы! За камни, за кусты, по два в ряд!”. Знаёмы той сігнал дагэтуль гучыць у вушах. У лесе, дзе кожны куст, кожнае дрэва хавае засаду, дзе ніколі нельга палічыць непрыяцеля, дзе кожнаму здаецца, што толькі ён і некалькі бліжэйшых яшчэ бароняцца, а рэшта ўжо ўцякла, дзе рэха сто разоў паўтарае стрэлы і рык маскалёў, а небяспека, здаецца, атачае з усіх бакоў — вайсковая труба робіць немалое ўражанне. “Пане Пілецкі, — гукае Нарбут, — вазьмі 10 чала-*

[43] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 99–102.

*век і марш на рэкагнасцыроўку, — а праз хвіліну: — Калі ласка, не рызыкуй”. Пілецкі, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, смелы, талковы, разважлівы, а прытым ветлівы і далікатны хлопец, быў улюбёнцам усяго аддзела. Яму то Нарбут давяраў найрызыкоўнейшыя справы, пэўны ў тым, што з іх смела і разважліва выйдзе.*

*Пасля адыходу Пілецкага наступіла ціша, якой нават маскоўская труба не прарывала. Толькі сэрцы біліся хутчэй. Нарбут перабягае ўздоўж усёй лініі з шашкай у адной і шапкай у другой руцэ, спыняецца, слухае і зноў выглядае, ці ўсе на месцы.*

*Страшную цішу неспадзявана разрываюць выбухі некалькіх стрэлаў, загралі трубы і даляцела: “ура-ўра”, якое лес падхапіў і на тысячу таноў паўтарыў. Зашамацелі кусты і з стрэльбамі, якія яшчэ дыміліся, выскачылі нашы рэкагнасцыроўшыкі. Твары белыя, дыханне прыспешанае: “Пане начальнік! Ідуць шасцёркамі, лінія вялізарная, займаюць крылы!” — “Добра! На месца! Ціха… ніякіх галасоў! Хто крыкне — расстраляю! Страляць прыцэльна! Чакаць, пакуль не загадаю! Каб мне ніхто не піскнуў!” А ад стрэлаў маскоўскіх здавалася, што ломіць лес, кулі капаюць зямлю. Ужо сям-там чуваць: “Езус, Марыя! Правядзіце мяне на воз!” Але загадана не страляць. І кожны сэрцам, што гучна б’ецца, з стрэльбай наперад чакае, пакуль яму пакажацца маскаль.*

*Гулка грыміць лес. Стрэлы і крыкі ў 100 раз гусцейшыя і бліжэйшыя, ломяцца галіны, чуваць марш цяжкай масы. Праз хвіліну ўбачым маскоўцаў, а перад намі прасека, ціхая аблітая сонцам.*

*Замігалі шэрыя шынялі, бліснула зброя і белыя акруглыя аблочкі на фоне лесу. Маскалі займаюць супрацьлеглы край прасекі. Хаваюцца за дрэвы, але наперад, нягледзячы на загады афіцэраў, не рухаюцца. Відаць, іх непакоіць ціш з нашага боку. Нарэшце з трэскам і стрэламі рухаюцца шасцёркамі. Была то хвіліна збавення, сэрцы біліся гвалтоўна, яшчэ 40 крокаў — і вытнуць у штыкі, але раздаўся знаёмы нам моцны голас: “Агонь, хлопцы, усёй лініяй!” І ад канца да канца праляцеў выбух больш сотні стрэлаў, а потым ціша і дым.*

*Не граюць трубы, маўчыць “ура!”.*

*— Добра, добра, спраўна, набіць зброю, востра, хлопцы! — гукае расчырванелы Нарбут, абабягаючы ўсю лінію.*

*Зноўку граюць трубы і чуваць маскоўская каманда, зноўку грымяць стрэлы і “Ура, вперёд, ребята!”. Ломяцца кусты. Прымушаныя гнаныя сілай паслушэнства, кідаюцца маскалі галавою ўніз з штыкамі наперад. Ужо, ужо сядзяць нам на карку. Яшчэ хвіліна — і ўсе кінемся наўцёкі. Але на выгук “Агонь, прыцэльна!” запаляюцца 150 стрэльбаў на нашай лініі. Воблака дыму закрывае ўсё, уціхае трэск, чуваць толькі енкі раненых і канаючых з абодвух бакоў.*

*Але не доўга трывае цішыня, падходзіць падмога. Зноў заенчыў лес, стрэлы, крыкі, паніка… Даём агню некалькі разоў, яшчэ трымаемся. Раптам пабегла левае крыло, зламанае націскам маскалёў, стараемся ўтрымацца, але ўжо позна. Кідаемся направа, за малое балотца, дзе ўсё фармуецца вакол начальніка… Агонь аддаляецца, чуваць толькі адзіночныя стрэлы, галасы ціхнуць, лес замаўкае, ціша, але як адрозніваецца ад ранейшай. Бітва скончылася. Пунцовае сонца села за лесам. Здалёк даходзіць да нас глухі шум размоў, водгалас трубы і ад часу да часу далёкі стрэл. Ноч…»*[44].

Карбоўскі дае інфармацыю пра гібель у гэтай бітве 7 інсургентаў, у тым ліку крэўнага Людвіка Нарбута — Войцэха Нарбута, былога капітана расійскай арміі, і Уладзіслава Навіцкага, жыхара Міхайлаўкі[45]. Палкоўнік Вернер у рапарце пры гэтую сутычку піша пра ўдзел у ёй уз’яднаных сіл двух атрадаў Нарбута і Навіцкага, прычым называе

[44] Суднік Станіслаў. Людвік Нарбут // Наша Слова. № 37 (1084). 12 верасня 2012 г.

[45] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 102.

Навіцкага камандзірам над узʼяднанымі сіламі і дакладвае пра яго гібель у гэтай бітве[46]. Навіцкі і яго атрад — да гэтага часу загадка ў справе гісторыі паўстання на Лідчыне. Пра гэты атрад няма ніякай інфармацыі ад абодвух бакоў тых падзей, пры тым, што аддзел Навіцкага ўдзельнічаў у вялікай сутычцы з царскімі войскамі на полі паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы: тут паўстанцы панеслі вялікія страты і адступілі праз балоты ў бок Нёмана.

20 красавіка аддзелы Алхазава і Цімафеева, якія таксама дзейнічалі супраць Нарбута, злучыліся і, даведаўшыся пра бітву пад Кавалькамі, рушылі на Рудню і Шумы, каб не даць паўстанцам адысці да Гарадзенскай пушчы. Каля Каняваў былі выяўленыя сляды адной з груп атрада Нарбута (камандзір — Чудоўскі), войскі ішлі за гэтай групай да вёскі Станюнцы. Тут 21 красавіка паўстанцы былі атакаваныя, забітыя 12 інсургентаў, астатнія рассыпаліся на дробныя групкі, у палон патрапілі Канапацкі (хутка памёр ад ран), Франскевіч і Цымерман (вучань Віленскай гімназіі).

23 красавіка Вернер прайшоў участак ад Рудні ды Марцінканцаў, але паўстанцаў не знайшоў. Нарбут з малым атрадам прабіраўся лясамі да Гарадзенскай пушчы і байцы ўсімі магчымымі спосабамі хавалі свае сляды. У пушчы, недалёка ад Зубрава, група Нарбута каля тыдня адпачывала.

Пасля бітвы пад Кавалькамі імя Нарбута праславілася на ўсю Літву: з годнасцю вытрымаў ён сутыкненне са значна пераўзыходзячым яго па колькасці супернікам. Народным Жондам Нарбуту было прысвоенае званне палкоўніка, у дэкрэце аб прысваенні звання было напісана: *«Маючы на ўвазе выдавочныя заслугі перад справай незалежнасці… ваеннага начальніка Лідскага павета афіцэра Людвіка Нарбута… намінаваць палкоўнікам паўстанцкага войска… з прымацаваннем да сіл Віленскага ваяводства»*[47].

Расейскі афіцэр пісаў: *«Але Нарбут не быў яшчэ забіты і дзякуючы энергіі гэтага чалавека, ужо да 20 красавіка* (на пачатку мая па новым стылі. — *Л. Л.*) *ён зʼявіўся на чале адборнай і выдатна ўзброенай хеўры»*[48].

## Параза пад Дубічамі

Пошукамі Нарбута акрамя сталага Лідскага гарнізона займалася значная частка дывізіі лейб-гвардыі генерала Вельямінава: (Паўлаўскі полк пяхоты, эскадрон Курляндскага палка ўланаў, эскадрон драгунаў лейб-гвардыі, сотня казакоў, дзве батарэі палявой артылерыі (8 гармат), палова батарэі лёгкай коннай артылерыі (дзве гарматы), у цэлым каля 3000 чалавек. 1 мая войскі маршам ішлі ад Эйшышак на Дубічы. Спыніўшыся каля леснічоўкі недалёка ад Дубічаў, вайскоўцы дапыталі лесніка Адама Карпавіча — сталага сувязнога Нарбута. Яго доўга збівалі, адначасова абяцаючы добрую ўзнагароду, і прымусілі паказаць месца стаянкі інсургентаў у раёне Станюнцаў. Пасля начлегу ў Дубічах войскі па гасцінцы праз Начу дэманстратыўна рушылі на поўнач, тым часам меншая частка пад камандаваннем капітана Цімафеева (тры стралковыя роты, узвод казакоў 42-га данскога палка — каля 700 чалавек) засталіся каля Дубічаў у засадзе.

1 мая Людвік напісаў апошні ліст да жонкі:

*«Мая найдаражэйшая.*

*Дзякуй табе стакротна за тое, што памятаеш пра мяне, ліст, напісаны тваёй каханай ручкай, праз Тосю дайшоў да мяне і напоўніў вялікай радасцю маё спрагненае сэрца весткай пра Маю Найдаражэйшую котачку. Ужо пачаў сумнявацца, ці кахаеш*

46 Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 119.

47 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 103–105.

48 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 417.

*мяне, але сёння Тося ўпэўніла мяне, што памятаеш пра мяне і кахаеш яшчэ больш, чым раней. Гэта для мяне вялікае шчасце і гэта дае моцы і далей несці пакуты за край і за цябе, мой анёл. Бясконца рады, што тваё здароўе, мой малыш, палепшылася, я таксама на сваё не магу наракаць… Цалую і абнімаю цябе, маю Наймілейшую і Найдаражэйшую, мільён разоў. Думаю пра цябе і ў думках размаўляю з табой. Бог ласкавы, Матка яго Святая, што бароніць Нашу Літву, можа дазволіць нам дачакацца той шчаслівай хвіліны, калі мы зноў сустрэнемся і будзем кахаць адно аднаго і дзякаваць Найвышэйшаму тварцу за дабрыню яго да нас. Сумна мне, што мушу скончыць свой ліст, бо і хвіліна ў мяне на ўліку. Цябе кахаючы, заўжды моцна і шчыра, прывязаны да сваёй Дарагой.*

*Людвік».*

Развітваючыся з сястрой Тосяй, Людвік сказаў ёй: *«…вяртайся той жа дарагой. Мы пяройдзем бліжэй да Дубічаў, там да нас прывязуць хлеб. Потым, можа, пойдзем пад Гародню. З-пад Дубічаў будзе мала што чуваць пра нас, перадай вось гэтыя кветкі бацьку і жонцы»*. Людвік правёў сястру да краю лесу і развітаўся, потым сеў пад дрэва і нейкі час сядзеў задуменны і сумны…

2 мая Нарбут, пакінуўшы падпаленыя вогнішчы, сышоў са стаянкі каля Станюнцаў. Атрад пераправіўся праз Котру і перамясціўся на 10 кіламетраў на поўдзень. Паўднёвей возера Пеляса, паміж Дубічамі і Раманавым, атрад спыніўся. Тут уначы з 2 на 3 мая Нарбут атрымаў важныя загады ад Народнага Жонда, у тым ліку маніфест Жонда Літвы ад 30 сакавіка, які заклікаў народы Літвы і Беларусі да паўстання 3 мая. Атрымаў палкоўнік і наступны дакумент: *«Народны Жонд намінуе грамадзяніна Людвіка Нарбута вярхоўным камандуючым узброеных сіл Вялікага Княства Літоўскага ўсюды, дзе такія будуць з ім у кантакце…»*.

Адзін з біёграфаў Нарбута пісаў, што з самага моманту атрымання загаду Народнага Жонда пра ўсеагульнае паўстанне Людвік страціў свой звычайны спакой і запаў у нейкую цяжкую задуменнасць, якая ўжо не адпускала яго да апошняй бітвы. Нешта яго гняло і адбірала жыццёвую энергію. Можна выказаць здагадку, што палкоўнік разумеў, што ўсеагульнага народнага паўстання не будзе, што і на гэты раз агульная справа будзе прайграная. Што ж, яму заставалася толькі да канца выканаць свой абавязак. Пэўна, ён ужо прадчуваў сваю хуткую смерць, нездарма, атрымаўшы ад сястры Тосі новую чамарку, сказаў, што знасіць яе ён ужо не паспее.

Тым не менш у той дзень Нарбут разаслаў загады да зноў арганізаваных груп паўстанцаў пад Лідай, Трокамі (камандзір — Віславух), Ашмянамі (камандзір — Парадоўскі), Навагрудкам, Слонімам і т. д. Атрадам была пастаўленая задача рухацца да Дубічаў, далей палкоўнік планаваў сустрэцца з царскімі войскамі каля балот Котры і Пелясы і даць там рашучы бой.

Становішча паўстанцаў у непраходнай Дубіцкай пушчы было амаль што ідэальнае, пачуваючы сябе ў бяспецы, атрад займаўся баявой падрыхтоўкай, а дубіцкі пробашч і мясцовая шляхта пераконвалі Цімафеева, што чутныя часам стрэлы — гэта стрэлы паляўнічых-стараавераў.

Адам Карпавіч ад сялян дазнаўся, што атрад Нарбута знаходзіцца ў Дубіцкай пушчы каля возера Пеляса, і данёс уладам. Цімафееў таемна вярнуўся з Забалаці, раніцай 4 мая войска адпачылі ў Дубічах і досвіткам увайшлі ў пушчу. З дапамогай падкупленых сялян Адама Карпавіча і Антона Талікоўскага (ці Талочка) былі знойдзеныя сляды інсургентаў[49]. Раніцай атрад Цімафеева праходзіў праз мястэчка Забалаць, дзе

[49] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 111–119.

*«абывацелі… глядзелі на нас звярамі, ад іх, зразумела, звестак пра хеўру мы не атрымалі. Толькі роты сталі выходзіць з паселішча, як прыскакаў казачы раз'езд… які перадаў, што Нарбут хаваецца недалёка ад Дубічаў каля возера Пеляса; пасля гэтай весткі атрад накіраваўся да возера Пеляса, куды хутка прыбыў і размясціўся ў Дубічах, якія аддзяляліся ад лясоў ракой Котрай»*. Для пошуку паўстанцаў быў пасланы на іншы бераг выведнік. Вярнуўшыся, ён расказаў, што за ракой ёсць пікет паўстанцаў. Выведніку з мясцовых не асабліва давяралі, і таму штабс-капітан Рэнвальд, камандзір 1-й стралковай роты, выклікаўся праверыць гэтае данясенне. Пераапрануты паляўнічым, ён ўзяў з сабой стрэльбу і сабаку і, сеўшы ў човен, загадаў двум веслярам, таксама ўзброеным стрэльбамі, плыць уніз па рацэ. Пад'ехаўшы да таго месца, дзе першы выведнік бачыў пікет, афіцэр выйшаў з лодкі і пачаў аглядаць процілеглы бераг, быццам бы адшукваючы дзічыну, і неўзабаве ўбачыў пікет інсургентаў. Складзеныя ў сошкі стрэльбы з развешанай на іх бялізнай даказвалі, што паўстанцы не чакалі з'яўлення выведніка. Аднак вартавы заўважыў Рэнвальда і пацэліў у яго, тады афіцэр хутка знік з берага, дабег да чоўна і паплыў да сваіх[50].

Нарбуту паведамілі пра з'яўленне нейкіх падарожнікаў са стрэльбамі, ён нават агледзеў іх у бінокль. *«Паляўнічыя, нічога больш, ідуць на качкі»,* — сказаў камандзір і пайшоў у іншую частку лесу[51].

4 мая, каля 17.00, рускія войскі рушылі да лагера паўстанцаў, вёў іх Адам Карпавіч, чалавек, які дасканала ведаў мясцовасць. Пераправіўшыся праз Котру па кладках і на лодках, яны пачалі атачаць лагер Нарбута. Першымі ішлі салдаты, апранутыя ў сялянскую адзежу, у балоцістай мясцовасці ім часам даводзілася ісці па пояс у вадзе.

Нарбут якраз у гэты час каля пікета з некалькімі інсургентамі чакаў транспарт з хлебам. Паўстанцы заўважылі «сялян», ідучых у іх бок, Андрыёлі сказаў камандзіру, што зашмат тых сялян ідзе і нейкія яны дзіўныя. Нарбут агледзеў ідучых у бінокль і ўбачыў, што вядзе «сялян» Адам Карпавіч, свой для паўстанцаў чалавек. Тым не менш палкоўнік загадаў байцам пікета падрыхтавацца да бою. Калі «сяляне» падышлі бліжэй, Карпавіч, літаральна паўтараючы словы Юды, паказаў камандзіра, сказаўшы *«Вось гэта Нарбут»*. Салдаты выхапілі зброю і з крыкамі «ўра!» кінуліся наперад. Камандзір амаль адразу быў паранены ў нагу, але кіраваў боем: ён загадаў адыходзіць назад і ўлева. Пасля рукапашнай сутычкі інсургенты вырваліся да дубіцкіх балот. Тым часам другая рота ўрадавых войскаў выцягнулася ланцугом правей першага, атакуючага атрада і не дала паўстанцам магчымасці адыходзіць убок[52]. Удзельнік бою з расійскага боку падпаручнік Воранаў пісаў пра гэта: *«Жадаючы прыціснуць хеўру да возера і вынішчыць яе, начальнік атрада загадаў камандзіру 2-й роты штабс-капітану Лорыс-Мелікаву высунуцца направа і ахапіць іх левы фланг… мяцежнікі пачалі адыходзіць. На адкрытых месцах іх ланцуг і рэзервы адыходзілі надзвычай павольна, каля кустоў усе яны рассыпаліся і адкрывалі ўзмоцнены агонь…»*. Штабс-капітан Рэнвальд, жадаючы паказаць, як трэба страляюць, узяў вінтоўку ў параненага салдата і прыцэліўся ў ляжачага за купінай паўстанца, які пасля стрэлу застаўся ў ранейшай позе. Рэнвальд думаў, што прамахнуўся, стрэліў іншы раз — і тое самае, калі ж ён з ланцугом салдат кінуўся наперад, то ўбачыў, што ў інсургента ў галаве дзве кулі[53].

Паводле словаў Цімафеева, паўстанцы змагаліся так ўпарта і па-майстэрску, што ён здзівіўся. *«Нарбут распараджаўся малайцом: загадаў адыходзіць перакатамі, гэта*

50 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 418.

51 Имеретинский Н. К. Воспоминания о графе М. Н. Муравьеве // Исторический вестник. 1892. Т 50. № 12. С. 613.

52 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 120.

53 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 419.

*значыць у дзве лініі: адна залягала ззаду, іншая, адстрэльваючыся, перабягала за першую, пасля чаго другая лінія пачынала стральбу, і гэтак далей. Але паўстанцы былі дрэнна ўзброеныя, большай часткай паляўнічымі стрэльбамі, таму вельмі баяліся нашых стралковых рот, якія былі названыя імі "чорныя паясы". Рускія штуцера выраблялі спусташэнне…»*[54]. Калі ж паўстанцы пабеглі, Нарбут скамандаваў: *«Спакайней! З годнасцю панове, непрыяцель нас бачыць!»* Вакол палкоўніка сабралася групка самых верных байцоў. Яны адыходзілі, падтрымліваючы камандзіра і адстрэльваючыся. На гэтую групку быў накіраваны агонь большай часткі салдатаў. Амаль што ўсе, хто быў разам з Нарбутам, былі забітыя. Апошнімі да палкоўніка падбеглі Уладзіслаў Клімантовіч і Севярын Якубоўскі, яны і пачулі яго апошнія словы: *«Dulce est pro patria mori»* (Салодка памерці за Радзіму)[55]. Пра тое самае Воранаў: *«…яны не гублялі бадзёрасці, пакуль Нарбут, іх начальнік, быў з імі. Калі куля трапіла яму ў лапатку, ён яшчэ ішоў, прычым яго падтрымлівалі прыхільнікі. Гэта прыцягнула да яго стрэлы нашага ланцуга, і ён, прабіты чатырма кулямі, упаў мёртвы. Калі Нарбут зваліўся, то пяць чалавек моладзі з яго хеўры кінуліся ратаваць яго цела, але, зраненыя ў сутычцы, яны патрапілі ў палон. Са смерцю Нарбута бурылася надзея не толькі ў людзей, якія складалі банду, але ва ўсіх мяцежнікаў Літвы. Пераслед мяцежнікаў працягваўся да самай поўначы і скончыўся недалёка ад вёскі Дварчаны»*[56].

Капітан Цімафееў дакладаў свайму камандзіру дывізіі: *«Восем разоў з крыкам "ура" атрад пад моцным агнём аднаўляў наступ і… пераследаваў мяцежнікаў па купістым, вышэй за калена балоце, якое пазарастала высокай і густой лазою, і нагогул па мясцовасці, да крайнасці цяжкай. Пераслед працягваўся да наступлення цемры… атрад нейкі час блукаў у балотах… і нарэшце ў 3½ гадзіны ночы сабраўся на начлег у м. Дубічы.*

*Нарбут забіты і хеўра знішчана, у ліку 61 забітых і ўзятых у балотах і лясах акрамя Нарбута знойдзены: яго памагаты Леў Краінскі, Ігнат Тарашкевіч, Франц Бразоўскі, Ян Ёдка, Сцяпан Губарэвіч і інш. Параненымі ўзяты: Пётр Янкоўскі, лекар Цыпрыян Пясецкі, Андрэй Навагондскі (гімназіст з Вільні), Фелікс Война і інш., акрамя таго, узята 6 палонных, з якіх адзін, 14-гадовы хлопчык Іосіф Жалягоўскі… Захоплены без зброі ў в. Салтанішкі Жукоўскі прызнаўся, што ён таксама быў у хеўры»*[57].

На месца бітвы, каб дапамагчы параненым, прыехалі жанчыны з закрытымі густымі вэлюмамі тварамі. *«Паміж імі былі дзве сёстры Нарбута; малодшая, убачыўшы цела брата, заплакала, але старэйшая прысароміла яе за гэта* (памылка, гэта была сястра Нарбута з сяброўкай, гл. ніжэй. — *Л. Л.*). *Абедзве яны прасілі выдаць забітага…»*. Пры Нарбуце знойдзены сцяг, які меў выгляд харугвы, шмат розных папер, асабісты дзённік, а таксама каса атрада і малітоўнік. Сярод папер была знойдзеная і цыдулка наступнага зместу: *«Камандзір. З Вільні паслалі з паўлаўцамі капітана Цімафеева. Беражыся! Яму загадана дастаць цябе жывога ці мёртвага»*. Салдаты ўшчувалі палонных — мемуарыст апісвае такія сцэнкі: *«Чаго вы бунтуецеся, што вам трэба, грошы ў вас ёсць, фальваркі ёсць — глядзі якое ў цябе пуза, пан. Відаць, ужо ты з тлушчу ў "сургенты" пайшоў»*, салдат паказвае на палоннага 14-гадовага хлопчыка Жалягоўскага: *«Ну, гледзіце, браткі, які ж ён ваяр, ён зусім хлопчык»*. *«Доўгі і хударлявы паўстанец з энергічным тварам злосна пазірае на нашага ўгаворшчыка, які, убачыўшы яго погляд, сказаў: "Ох ты, пан, пан, што ты на мяне так злосна глядзіш, вось сам ты якую кашу*

[54] Имеретинский Н. К. Воспоминания о графе М. Н. Муравьеве. С. 614.

[55] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 121–123.

[56] История лейб-гвардии Павловского полка… С. 419–420.

[57] Архивные материалы Муравьёвского музея… С. 128–129.

*заварыў, а што выйграў? Цябе ж павесяць”. Палонныя інсургенты былі прыведзеныя на станцыю Марцінканцы і адпраўленыя ў Вільню»*[58].

На наступны дзень на поле бітвы целы забітых інсургентаў[59] сабралі сяляне і перавезлі пад касцёл у Дубічы. Потым Цімафееў расказваў, што Нарбут быў сціпла апрануты, у *«чамарке шарачковай»*, без усякіх адрозненняў, абуты ў доўгія боты, твар меў прыгожы, з высокім лобам і правільнымі рысамі, а на твары застыла задуменная ўсмешка[60].

Знаёмая сям'і Нарбутаў — Антаніна Табенская — запытала дазвол на пахаванне паўстанцаў у Дубічах. Генерал-губернатар Назімаў даў дазвол тэлеграмай, дазволіў ён і правесці набажэнства. Сястра Нарбута Теадора разам з Антанінай Табенскай, доктарам Тэраевічам з Салтанішак і мясцовым пробашчам кс. Ставіцкім заняліся арганізацыяй пахаванняў. Весткі хутка разышліся па ўсім павеце, і таму ў дзень пахавання, 6 траўня, у Дубічы з'ехалася каля 300 чалавек. Нефарбаваныя труны ў касцёле былі ўсталяваныя пірамідай: 6 трун нанізе, зверху на іх яшчэ 4 труны, вышэй — 2 і на самым версе труна з целам Людвіка Нарбута. Пасля службы ў касцёле ўсе труны былі пастаўленыя ў шэраг у адной магіле і пахаваны. Усю вялізарную магілу людзі засыпалі кветкамі. Аднак ледзь скончылася пахаванне, як у Дубічы ўвайшоў казачы аддзел атамана Уласава, які меў заданне не дапусціць вялікі сход людзей, а калі людзі сабраліся — разагнаць іх. Але казакі спазніліся і толькі зраўналі ўпоравень з зямлёй магільны ўзгорак[61].

Мірон Браніслаў Нарбут так апісаў пахаванне: *«У 1863 годзе, калі пачалося народнае паўстанне, лідскі аддзел пад кіраўніцтвам Людвіка Нарбута часта быў у Дубіцкіх лясах і ў гэтых лясах… адбылася бітва з расейцам на чале з Цімафеевым, у якой цэлая партыя паўстанцаў здолела перайсці ў іншае месца, але яе кіраўнік з трынаццаццю ваярамі з блізкага атачэння лідскай шляхты паляглі. Салдаты маскоўскія абадралі трупы на полі бітвы і да Дубіч прывезлі іх нагія целы. Тагачасны генерал-губернатар віленскі Назімаў дазволіў ушанаваць памерлых пахаваннем у касцёле. Была сабраная патрэбная адзежа і зробленыя труны. Целы гэтыя ляжалі тры дні ў бабінцы касцельным. Рыцарскі катафалк з дванаццаці простых трун паставілі ў касцёле, а слёзы люду віленскага і грамадства, енкі мацярок, сясцёр і сірот палеглых былі найвыразнейшай мовай на іх пахаванні. Усе прысутныя мелі за гонар несці гэтыя дарагія труны да места іх вечнага спачывання, і, укладзеныя, яны усе былі ў адной агульнай магіле пры касцёле, а людзі ўпрыгожылі гэтае месца найпрыгажэйшым помнікам, бо курган быў насыпаны ўласнымі рукамі з роднай зямлі. Магіла абаронцаў Волі была страшнай для*

---

[58] История лейб-гвардии Павловского полка… С. 420–421.

[59] Паўстанцы, загінулыя пад Дубічамі:

1. Нарбут Людвік, 32 годы.
2. Бразоўскі Аляксандр, 32 годы, лекар з Гурнофеля.
3. Бразоўскі Францішак, 35 гадоў, жыхар Гурнофеля.
4. Грэмза Казімір, 25 гадоў, селянін з Ліпкунцаў.
5. Губарэвіч Стэфан, 35 гадоў, жыхар Галавічполя.
6. Ёдка Станіслаў Ян, 22 года, жыхар Петрашунцаў.
7. Краінскі Леон, 35 гадоў, жыхар Грышанішак.
8. Пакемпіновіч Юзаф, 22 года, студэнт Кракаўскага ўніверсітэта.
9. Паплаўскі Уладзімір, 28 гадоў, жыхар Капцюха.
10. Скірмунт Томаш, 30 гадоў, з Піншчыны.
11. Тарашкевіч Ігнат, 38 лет, фельчар з Ліды.
12. Жукоўскі Уладзіслаў Вандалін, 27 лет, жыхар Лацка.
13. Адам, прозвішча невядома, сябар Нарбута.

[60] Имеретинский Н. К. Воспоминания о графе М. Н. Муравьеве… С. 614.

[61] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 123–124.

*ворагаў: людзі збіраліся ля магілы і чыталі малітвы. Рускія знялі касцёл і, не баючыся святакрадства, раскідалі курган, зруйнаваўшы яго з зямлёй. Аднак не згінула праз гэта памяць пра верных сыноў Краю, захоўваецца яна ў сэрцах усіх справядлівых і годных ліцвінаў...»*[62].

Нарбут меў гэткую папулярнасць, што доўга па Лідчыне хадзілі чуткі пра тое, што насамрэч ён не забіты, дзесьці яго ўжо бачылі і хутка ён вернецца з новым атрадам.

* * *

Байцы адной часткі атрада Нарбута схаваліся ў лесе і праз некаторы час далучыліся да іншых атрадаў інсургентаў. Другую частку атрада брат Людвіка — Баляслаў Нарбут — сабраў у Гарадзенскай пушчы. Але ён не мёў ваеннага досведу і не мог замяніць старэйшага брата. 12 траўня рускія войскі пад камандаваннем ваеннага начальніка Лідскага павета палкоўніка Алхазова знайшлі атрад пад Ганэлькамі (над ракой Котра) і зноў разбілі паўстанцаў. Толькі нешматлікія байцы змаглі пазней далучыцца да атрада Астрог-Парадоўскага. Сам Баляслаў Нарбут быў арыштаваны каля Друскенікаў і адвезены для ваеннага суда ў Гродна.

1 чэрвеня па прысудзе Народнага Жонда ў вёсцы Мантаты быў павешаны Адам Карпавіч. Потым былі запісаныя апошнія словы Карпавіча, і мы ведаем, на якой мове паўстанцы размаўлялі паміж сабой. Калі інсургенты шукалі вяроўку, каб павесіць здрадніка, ён сказаў ім літаральна наступнае: *«Паны, нашто шукаеце вяроўку, я маю дзяжку, тай павесіце»*, у тэксце кнігі за гэтымі словамі, запісанымі лацінкай, ідзе польскі пераклад. Здраднік вісеў два тыдні перад хатай Баневіча ў Мантатах, пакуль яго не знялі рускія салдаты[63].

Па прыбыцці ў Вільню атрад Цімафеева быў сустрэты генерал-губернатарам Назімавым, начальнікам дывізіі генерал-ад'ютантам Быстромам і камандзірам палка Світы Яго Вялікасці генерал-маёрам Вельямінавым з аркестрам і ў прысутнасці велічэзнага натоўпу жыхароў горада, якія, даведаўшыся пра смерць знакамітага Нарбута, былі ахопленыя жахам. Губернатар расцалаваў начальніка атрада, падзякаваў афіцэрам і салдатам за паход і хвацкія справы. Потым было адслужанае набажэнства. Хутка начальнік атрада капітан Цімафееў атрымаў чын палкоўніка і быў адпраўлены з данясеннем пра сваю перамогу ў Пецярбург. *«Тут ён меў шчасце прадставіцца Яго Імператарскай Вялікасці, прычым Гасудар Імператар сказаў: "Дзякую за хвацкую справу, і прызначаю цябе флігель-ад'ютантам. Уладзімір будзе іншаю ўзнагародаю за другую справу". Потым Яго Імператарская Вялікасць падаў палкоўніку Цімафееву руку і сказаў: "яшчэ раз дзякую"»*. Неўзабаве пасля гэтага палкоўнік Цімафееў прысутнічаў на прыёме імператарам генерала ад інфантэрыі Мураўёва, прызначанага губернатарам у Літву. Цар, прадставіўшы Цімафеева Мураўёву, сказаў: *«Вось чалавек, які будзе табе карысны»*.

Шмат афіцэраў і шарагоўцаў атрада былі ўзнагароджаныя за бой паміж маёнткамі Дубічы і Глыбокім:

штабс-капітанам Рэнвальду і Лорыс-Мелікаву — Св. Ганны 3-й ст. з мячамі і бантам;

Св. Ганны 4-й ст. з надпісам «За адвагу» — паручнікам: Шталю, Зубараву, падпаручнікам: фон Эндэну, Леўману і Арбузову 2-му;

Георгіеўскія крыжы 4-й ступені: фельдфебелю Яфрэмаву, унтэр-афіцэрам: Фірсаву, Любімаву, Літвінаву, і шараговым: Малацілаву і Бушмялёву.

---

62 Miron Bronisław Narbutt. Dubicze // Ziemia Lidzka. 1998. № 2–3 (30–31).

63 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 128–130.

За бой пад Дубічамі:

штабс-капітанам Рэнвальду і Лорыс-Мелікаву — Св. Уладзіміра 4-й ст. з мячамі і бантам, Св. Ганны 3-й ст. з мячамі і бантам: паручнікам Шталю, Зубараву, Леўману, Шэрнвалю і падпаручніку фон Эндену.

Георгіеўскія крыжы 4-й ст.: фельдфебелю Каравіну, унтэр-афіцэрам: Веращагіну, Фёдараву, Лабачову і шараговым — Пятрову, Міронаву, Сэрыкову, Недаступу, Канстанцінаву, Палатову, Жукаву і Бандарчуку[64].

Вось так высока ацэньваўся факт разбіцця «нейкай хеўры» на Лідчыне.

## Праслед сям'і Нарбутаў

Пасля паразы пад Дубічамі пад рэпрэсіі падпала сям'я Людвіка Нарбута.

Бацька, вялікі гісторык Літвы Тэадор Нарбут, у гэты час жыў у Вільні, у жонкі сына Людвіка, і быў настолькі слабы, што нават не ўставаў з ложка. Браты Францішак і Баляслаў ваявалі ў шэрагах паўстанцаў. У Шаўрах тым часам жылі маці Крысціна, дачка Тэадора Манчунская і малодшы брат Станіслаў[65].

З акта справы Віленскай следчай камісіі № 148 пра знаходжанне зброі ў маёнтку Нарбутаў Шаўрах:

Стараста вёскі Шаўры Гергі Чаркоўскі паведаміў, што фурман Нарбутаў — Томаш Радзюк ведае, дзе закапана зброя. Радзюка прымусілі прызнацца, і ён паказаў месца ў вазоўні, адкуль было выкапана 18 бутэлек пораху і каля 20 фунтаў волава. Потым ён паказаў іншае месца за ½ вярсты ад двара, у леснічоўцы Клеменса Банюшкі, дзе былі выкапаныя 2 гарматы, закручаныя ў рагожу, і бочка пораху вагой каля 3 пудоў. У наступных прызнаннях Томаш Радзюк паведаміў, што гэтая зброя была прывезеная спадарынямі Манчунскай і Табенскай з Вільні, з хаты Верблеўскага. Яны таксама залучылі ў партыю 2 расійскіх афіцэраў і прывезлі іх з Вільні ў Шаўры.

Радзюк прызнаўся, што Ізабела Альшэўская, стрыечная сястра Людвіка Нарбута, разам з Радзюком ездзіла да суседзяў і заклікала іх далучацца да паўстання. Таксама збірала правіянт і адзежу для партыі і Антаніна Табенская, якая працавала настаўніцай у Сербянішках, дзе жыла жонка Людвіка Нарбута, якая сябравала з Манчунскай, яна залучыла ў партыю Скірмунта.

Віленская следчая камісія пасля заканчэння следства пастанавіла:

1. Удава Тэадора Манчунская з дома Нарбутаў — вінаватая у тым, што брала чынны ўдзел у фармаванні партыі яе брата Людвіка Нарбута, даставіла ў Шаўры 2 гарматы, порах і волава і намовіла 2 афіцэраў да ўступлення ў партыю паўстанцаў: падпаручніка Нікалаі[66] і іншага, прозвішча якога невядома. Аднак Манчунская ўцякла невядома куды, таму… аддаць яе пад суд завочна…

2. Антаніна Табенская ўжо асуджана ваенна-палявым судом за дастаўку распараджэнняў рэвалюцыйнага камітэта, гэта яна ўчыніла пад уплывам кахання да аднаго з паўстанцаў… вінаватая ў тым, што падтрымлівала кантакт з Манчунскай, прывозіла ў Шаўры гарматы і порах і вербавала ў партыю невядомага пакуль па прозвішчы расійскага афіцэра. Пакаранне, раней накладзенае ваенна-палявым судом, падлягае ўзмацненню ў жорсткасці.

3. Удава Ізабела, дачка Адольфа, Альшэўская з дому Нарбутаў, гадоў 50, вінаватая ў закліках да ўдзелу ў паўстанні і павінна быць аддадзеная пад ваенна-палявы суд.

---

64 История лейб-гвардии Павловского полка… С. 422–423.

65 Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 131–133.

66 Нікалаі Уладзіслаў, падпаручнік Нарваўскага палка, шляхціц віленскай губерні, паранены ў бітве пад Дубічамі, трапіў у палон, 13 верасня 1863 г. расстраляны ў Вільні на Лукішскім пляцы.

4. Крысціна Нарбут, гадоў 60. Як відаць са справы, не магла быць не датычнай да паўстання: двое яе сыноў сфармавалі атрад, адзін быў начальнікам, іншы ў ім афіцэрам, дачка Манчунская і пляменніца Альшеўская дапамагалі фармаваць партыю, Манчунская дастаўляла зброю і амуніцыю, у цэлым маёнтак Нарбутаў у Шаўрах служыў складам для паўстанцаў.

Усё гэта не магло не быць вядома і Тэадору Нарбуту, які хоць і ў пажылым узросце, але не мог не бачыць, што робіцца ў яго ў хаце, і, відавочна, адмыслова выехаў з Шаўроў у Вільню… У сувязі з вышэй апісанымі справамі сям'і ён вінаваты ў тым, што як гісторык Літвы даў сям'і такі шкодны кірунак выхавання.

Камісія пастанавіла аддаць пад ваенна-палявы суд: Крысціну Нарбут і яе мужа Тэадора Нарбута паводле II катэгорыі… для таго, каб іх маёнтак перадаць ва ўласнасць урада, а хату для прыкладу і застрашвання іншых знішчыць, месца, дзе яна стаяла, заараць плугам[67].

Хутка прыступілі да выканання гэтага прысуду. Аднак Тэадор Нарбут ужо не ўставаў з ложка, і яго, каб везці ў ссылку, *«патрэбна было б толькі разам з ложкам уладкаваць у кібітцы»*. Мураўёў-вешальнік вырашыў сам убачыць Тэадора. Сведкам гутаркі вялікага гісторыка і ката быў князь Шырынскі-Шахматаў. Паводле яго словаў, калі прынеслі старога, Мураўёў вітаў яго браднымі абразамі, але гісторык быў глухі і не дачуў генерала, як потым стала вядома, ён зразумеў толькі асноўныя моманты гутаркі. *«А ведаеш, падлец, твой сын забіты!»* — сказаў Мураўёў у канцы. *«Маю яшчэ некалькі сыноў, і ўсіх іх выхоўваў кахаць Радзіму»,* — адказаў гісторык. *«Прэч!»* — закрычаў Мураўёў і аддаў каманду вынесці Нарбута.

Вялікі гісторык Літвы памёр 26.11.1863 г. і быў пахаваны каля свайго парафіяльнага касцёла ў Начы.

Маці Людвіка, Крысціна, афіцыйна абвінавачаная ў «няправільным выхаванні» сваіх дзяцей, была арыштаваная палкоўнікам Алхазавым, які кіраваў ператрусам маёнтка, і, *«хворая, выдраная з ложка без неабходнай адзежы»*, яна была вывезеная на суд у Вільню, адразу пасля суда трапіла ў турэмную лякарню, а пасля яе адпраўленая па этапе ў Сібір. Пяць гадоў знаходзілася ў Пензенскай губерні, потым ёй было дазволена вярнуцца ў родны край, дзе яна і памерла 16 ліпеня 1899 г.

Брат Людвіка — Баляслаў — пайшоў у паўстанне адразу пасля гімназіі. Перад самай бітвай пад Дубічамі ён быў пасланы па дапамогу да Віславуха і, верагодна, таму выжыў. Арыштаваны ў Друскеніках, ваенны суд у Гродне прысудзіў яго да смерці, аднак з прычыны непаўналецця (яму было 17 гадоў), прысуд змянілі на высылку ў Краснаярскую губерню. Пасля амністыі вярнуўся ў родны край з падарваным здароўем і памёр у 1889 г.

Іншы брат Людвіка — Францішак — пасля заканчэння дваранскага інстытута ў Вільні вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. За ўдзел у падпольнай арганізацыі ў 1861 г. быў арыштаваны і быў змушаны хавацца за мяжой. Пасля вучобы ў ваеннай школе для паўстанцаў, арганізаванай эмігрантамі ў італьянскім горадзе Гунеа, вярнуўся дахаты і ваяваў у атрадзе Лангевіча, дзе атрымаў званне капітана. Пасля паразы паўстання эміграваў у Аўстрыю. Памёр у Венгрыі ў 1892 г.

Сястра Тэадора, удава службоўца Манчунскага, як адзначалася вышэй, брала чынны ўдзел у паўстанні. *«Людвік Нарбут дасылаў да сястры розныя даручэнні і заяўкі для атрада, якія яна заўсёды хутка і дакладна выконвала, нягледзячы на небяспеку. Праз яе ішла да інсургентаў розная інфармацыя, харчаванне, зброя і амуніцыя. Мела ва ўсіх ваколіцах адданых сабе людзей, мела сваіх інфарматараў і даверных асоб, паслугамі якіх карысталася там, куды не магла патрапіць сама. З адвагай, якой маглі б пазайздросціць мужчыны, ішла яна на самыя небяспечныя аперацыі»,* — пісаў сучаснік.

[67] Karbowski W. Ludwik Narbutt. S. 219–220.

Была аддадзеная пад ваенны суд, але здолела збегчы, спачатку хавалася ў Гродне, потым жыла ў Парыжы. Пражыла вялікае жыццё, на пачатку 1920-х гг. польскі ўрад ёй, як удзельніцы паўстання, даў пенсію і ўзнагародзіў ордэнам «Адраджэнне Польшчы». Памерла ў 1925 г. у Кракаве і тамсама пахавана[68].

### Памяць пра Людвіга Нарбута

Праз семдзесят гадоў гэты камень быў адзіным бачным знакам, які паказваў на месца паўстанцкай магілы. Праз увесь час няволі мясцовы люд пакрыёма клаў кветкі да каменя. У 1933 г. дзякуючы ініцыятыве жаўнераў і афіцэраў 76-га Лідскага палка пяхоты паставілі ў Дубічах помнік памяці Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў. Сродкі на яго пабудову былі сабраныя спецыяльным, для той мэты сабраным Камітэтам Лідчыны, на чале якога стаяў генерал Эдвард Рыдз-Сміглы. Праект выканаў прафесар Універсітэта імя Стафана Баторыя Фердынанд Рушчыц. Камень, які да таго часу сведчыў пра магілу паўстанцаў, умуравалі ў падножжа абеліска. Адкрыццё помніка 6 жніўня 1933 г. было вялікай падзеяй і святам для мясцовага люду. З гэтай нагоды з'явіліся спецыяльныя публікацыі, прысвечаныя Людвіку Нарбуту і студзеньскаму паўстанню, а таксама гісторыі 76-га Лідскага палка пяхоты, якому было нададзенае імя геройскага камандзіра (полк дыслакаваўся ў Гродне)[69].

У 1938 г., на 75-я ўгодкі студзеньскага паўстання, жыхары Лідчыны ўшанавалі памяць свайго героя. Было вырашана заказаць памятную дошку і ўмураваць яе ў сцяну касцёла піяраў у Лідзе. Месца размяшчэння дошкі гарантавала трываласць і ахову ад вандалаў, але далейшы лёс дошкі паказаў, якая зменлівая наша гісторыя.

У «Ziemi Lidzkiej» у нумары 5–6 з мая — чэрвеня з'явіўся артыкул Аляксандра Снежкі, названы «Людвік Нарбут — нацыянальны герой». Гэтым тэкстам пачалася падрыхтоўка да адзначэння 75-годдзя студзеньскага паўстання. Аўтар расказаў пра лёс Людвіка Нарбута. У тым самым нумары знаходзіліся і ўспаміны Юлія Грымайлы-Прыбыткі. Яго аўтар, які ў 1863 г. быў малым хлопцам, згадваў, што для яго і ўсёй яго сям'і вялікай падзеяй было наведванне Людвікам Нарбутам іхняга дому. Грымайла-Прыбытка так успамінаў тое спатканне: *«…мы мелі вялікае шчасце бачыць героя, правадыра ўсяго народа…»*. З пададзенага фрагмента выразна відаць, якое значэнне мела ў часы паўстання і ў наступныя семдзесят пяць гадоў для жыхароў Лідчыны і нават і ўсёй Літвы постаць Людвіка Нарбута. Яшчэ раней Аляксандр Снежка ў першым нумары «Ziemi Lidzkiej» за 1937 г. змясціў артыкул, у якім расказаў пра маёнтак Шаўры — радавое гняздо Нарбутаў. У многіх передваенных нумарах «Ziemi Lidzkiej» друкаваліся фрагменты запісак Браніслава Нарбута, які апісваў жыццё Ліды і ваколіц трыццатых і саракавых гадоў пазамінулага стагоддзя[70].

Справамі фундавання мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту, актыўна цікавілася грамадскасць Ліды. У красавіцкім нумары 1937 г. рэдакцыя змясціла тэкст пад загалоўкам «Толькі з годнасцю, панове». Выданне інфармавала чытачоў, што Ліда і Лідчына рыхтуецца да ўгодкаў выбуху студзеньскага паўстання на наступны год. Кульмінацыйным пунктам мерапрыемстваў будзе адкрыццё памятнай дошкі, прысвечанай Людвіку Нарбуту. Каб надаць урачыстасці вагу і забяспечыць спраўную арганізацыю, быў створаны камітэт мерапрыемстваў. Апроч нагляду за ходам урачыстасці перад камітэтам паўстала складаная задача — збіранне фундушаў на пакрыццё кошту дошкі. Сябры камітэта адразу звярнуліся з гарачым заклікам аб дапамо-

[68] Тамсама. S. 134–137.

[69] Тамсама. S. 152–155.

[70] Наша слова. № 38 (1085). 19 верасня 2012 г.

зе. Збор грошай арганізавала рэдакцыя «Ziemi Lidzkiej». Акцыя збірання ішла спраўна. Ужо ў травеньскім нумары 1937 г. быў змешчаны артыкул, які прадстаўляў праект будучай дошкі. Выканаў яго мясцовы скульптар Ежы Кацешчанка. Надпіс змешчаны на дошцы, паведамляў:

«1832–1863.
Вучню былой школы
айцоў піяраў у Лідзе
Людвіку
Нарбуту,
правадыру студзеньскага
паўстання на Літве
ў 75-годдзе
геройскай смерці.
1863–1938.
З пашанай Лідчына»

Акрамя іншага, надпіс на дошцы тлумачыў, чаму было вырашана размясціць яе на сцяне касцёла: Людвік Нарбут вучыўся ў той школе, хоць тады яна не належала піярам. У той школе, але яшчэ піярскай, вучыўся бацька Людвіка — Тэадор Нарбут. У гэтым месцы патрэбна тлумачэнне: касцёл, у сцяну якога ўмуравалі дошку, пабудавалі піяры, пераведзеныя ў Ліду Ігнацыем Сцыпіёнам дэль Кампа, падстоліем Вялікага Княства Літоўскага. Першы касцёл, драўляны, паўстаў у 1758 г., у 1770 г. ксёндз Аляксандр Вольмар купіў фальварак Пастаўшчына, дзе праз восем гадоў, г. зн. у 1778 г., было распачатае будаўніцтва ўласнага касцёла і калегіума. Работы, асабліва па будаўніцтве касцёла, ішлі вельмі павольна. У 1801 г. ксёндз Казімір Нарбут асвяціў кутні камень і фундаменты будынка. Святыня да канца была завершаная і асвечаная ў імя св. Юзафа Каласантага ў 1829 г. Піярам касцёл і калегіум доўга не належалі. У 1834 г. зачынілі школу. А ў 1843 г. царскія ўлады аддалі касцёл і кляштарныя будынкі праваслаўнай царкве. Праз тры гады піяры пакінулі горад. Пасля заняцця Ліды польскім войскам у 1919 г. святыню нанава памянялі на касцёл рымска-каталіцкі і аднавілі даўні калегіум з пачатковай школай, гімназіяй і гандлёвым ліцэем. У верасні 1939 г. касцёл быў зноў адабраны ад піяраў. Камуністычныя ўлады зрабілі ў святыні планетарый. У 1993 г. пачаліся старанні за вяртанне касцёла айцоў піяраў. Аднак улады Беларусі пасля паразумення з папскім нунцыем у Беларусі, біскупам Гарадзенскай дыяцэзіі і генералам ордэна піяраў вырашылі зноў перадаць яго праваслаўнай царкве[71].

Аднак вернемся да тэмы. У артыкуле, дзе расказвалася пра праект дошкі, змешчана ілюстрацыя з якой і ўзяты далучаны надпіс.

За падрыхтоўкай да ўрачыстасцяў адкрыцця дошкі наглядаў спецыяльна з той мэтай створаны камітэт, які узначальваў сам Эдвард Рыдз-Сміглы. Постаць маршала надавала дзейнасці камітэта характар агульнадзяржаўны. Акрамя выканаўчага камітэта, каб падняць ранг мерапрыемства, склікаены быў яшчэ і ганаровы камітэт. У склад ганаровага камітэта ўвайшлі: Адам Сакалоўскі — навагрудскі ваявода, ксёндз арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі — мітрапаліт Віленскі, генерал Альшына-Вільчынскі, М. Б. Гадэцкі — віленскі школьны куратар, Людвік Бацінскі — ваявода віленскі, Мар'ян Янкоўскі — віцэ-ваявода беластоцкі, прафесар доктар Вітольд Станевіч — прарэктар Універсітэта Стафана Баторыя, ксёндз Геранім Стусінскі — правінцыял піяраў; Юзаф Пшылускі — старшыня апеляцыйнага суда ў Вільні, а таксама Юзаф Ігнацы Парчэўскі — пракурор апеляцыйнага суда ў Вільні.

[71] Kałamajska-Saeed Maria. Kosciol p. w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa wileńskiego. Kraków, 2008. T. 2, cz. III. S. 143.

Кошт выканання дошкі склаў каля 1500 злотых, што на тыя часы было немалой сумай. Аўтар дошкі атрымаў ганарар у памеры 480 зл. Адліўку яе выканаў адмысловец з Вільні Савул Пупко, за сваю працу ён атрымаў 300 зл. Гранітную пліту, да якой была прымацаваная адліўка з бронзы, зрабіў камнярэз з Міра — Антоні Грыневіч. Яго аплата склала 350 зл.

У дзень адкрыцця дошкі вуліцы Ліды выглядалі выключна святочна. Галоўнае месца свята — касцёл піяраў — быў ілюмінаваны. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел ваявода віленскі Адам Сакалоўскі, арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, генерал Альшына-Вільчынскі, куратар М. Гадлеўскі, правінцыял піяраў Геранім Стусінскі, стараста Станіслаў Гансоўскі, князь Людвік Чацвярцінскі, а таксама Эміль Томас, цесць маршала Рыдз-Сміглага. Дэлегатам ад палка імя Людвіка Нарбута быў палкоўнік Станіслаў Чурыла. Перад касцёлам піяраў адбыўся парад войска і розных арганізацый, якія дзейнічалі на Лідчыне. Прысутных ад імя арганізацыйнага камітэта прывітаў яго старшыня — суддзя Юльян Грымайла-Прыбытка. Далей вайсковы аркестр сыграў дзяржаўны гімн, пасля якога прамову сказаў прафесар Люцыян Брыльскі — выкладчык польскай мовы ў піярскім калегіуме. У выступе ён нагадаў сабраным асноўныя факты з жыцця Людвіка Нарбута. Адкрыў умураваную у франтальную сцяну касцёла шыльду генерал Альшына-Вільчынскі. Ад імя палка, які носіць імя героя свята, прамовіў палкоўнік Чурыла. Да ўдзельнікаў мерапрыемства прыйшла віншавальная дэпеша з Варшавы, прыслаў яе сваяк Людвіка Нарбута — Нестар Нарбут. Урад горада Ліды даў на тую высакародную мэту 200 зл., а Красовы саюз земляробаў, аддзел Лідска-Валожынскі ў Лідзе, сабраў і перадаў 125,50 зл. На лісце ахвярадаўцаў аказалася некалькі дзясяткаў прозвішчаў і назваў структур і арганізацый, якія пералічылі грошы. Змешчаны спіс не быў поўны. Рэдакцыя абяцала, што ў наступных нумарах будзе пададзены працяг ліста.

Адкрыццё шыльды было вялікім святам і для лідскіх піяраў. Дзеі падрыхтоўкі да ўрачыстасцяў занатаваныя ў «Кроніцы калегіума айцоў піяраў у Лідзе». На мерапрыемства ўжо за дзень прыехаў ксёндз-правінцыял Геранім Стусінскі ў кампаніі асістэнта Польскай правінцыі — ксяндза Банавентуры Кадэі, а таксама рэктара калегіума ў Кракаве ксяндза Людвіка Руска. Лідскіх піяраў рэпрэзэнтаваў ксёндз Антоні Чабаноўскі. Падчас урачыстасці ксяндзу правінцыялу і ксяндзу Чабаноўскаму былі ўручаныя адзнакі 76-га Лідскага палка пяхотнага палка імя Людвіка Нарбута, які дыслакаваўся ў Гродне. Як занатавана ў «Кроніцы…», папаўдні ў калегіуме адбыўся раскошны прыём, у якім узялі ўдзел годныя госці, сабраныя на ўрачыстасць адкрыцця шыльды.

Атмасферу тых дзён перадае «Ziemia Lidzka». У майскім нумары «Ziemi Lidzkaj» 1938 г. пададзена справаздача з урачыстасці. Рэдакцыя падкрэслівала выключна ўзняты настрой, які панаваў сярод сабраных, для удзелу ў мерапрыемствах на вуліцы Ліды выйшла вельмі шмат жыхароў. У тым жа нумары газеты быў змешчаны спіс ахвярадаўцаў на шыльду. На першым месцы рэдакцыя памясціла віленскага ваяводу Адама Сакалоўскага. Ён ахвяраваў суму 100 зл. Адвакат Вішнеўскі, напрыклад, даў 30 зл., а нейкі Міхал Слюсарскі — 1 зл.

Пасля верасня 1939 г. новая ўлада пачала знішчаць помнікі, якія сведчылі пра гісторыю краю. Абеліску ў Дубічах удалося перажыць Другую сусветную вайну. Ён ацалеў, хутчэй за ўсё, дзякуючы таму, што гэтая мясцовасць ляжыць па ўзбоччы, далёка ад галоўны дарог. Помнік той стаіць да сёння[72].

18 верасня 1939 г., калі да Ліды набліжаліся бальшавіцкія войскі, ксёндз Чабаноўскі вырашыў дошку затынкаваць. Неўзабаве саветы зачынілі піярскую гандлёвую школу. Людзі, вывучаныя ў іншым стылі і ў духу іншай улады, не былі патрэбныя. Падчас шматлікіх бамбардзіровак горада ў перыяд 1941–1944 гг. касцёл амаль не пацярпеў, пас-

[72] Komorowski Paweł, Kołyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. S. 18–21.

ля вайны быў адрамантаваны. Але ў 1958 г. улады пастанавілі яго зачыніць і зрабіць у будынку спачатку спартовую залу, а потым планетарый. Разам з касцёлам адабралі і ордэнскі дом. Было дадзена некалькі дзён, каб упакавацца і забраць мэблю. Ксяндзам не далі ніякага памяшкання наўзамен. Дошка хоць і была схаваная, аднак яна існавала ў сэрцах і думках мясцовай супольнасці і людзі пра яе памяталі ўвесь час. Яна была сімвалам гарачага патрыятызму, і не толькі польскага, але і беларускага.

Католікі ніколі не перапынялі барацьбы за вяртанне касцёла. Пісаліся шматлікія петыцыі ў Мінск і Маскву. Найчасцей яны заставаліся без адказу. Сітуацыя змянілася з пачаткам перабудовы. У 1989 г. быў зняты тынк з дошкі, адбылося яе другое адкрыццё. У 1990 г. з ініцыятывы Таварыства беларускай мовы пад асноўнай дошкай была памешчаная мармуровая дошка з перакладам тэксту на беларускую мову. У снежні 1990 г. аддзел Саюза палякаў у Лідзе разам з вернікамі прасіў улады Беларусі і горада вярнуць святыню. На Грамніцы, 2 лютага 1991 г., лідскія католікі пасля набажэнства ў фарным касцёле рушылі пад касцёл піяраў. Агулам звыш 200 чалавек, укленчыўшы пад мурамі святыні, накіроўвалі да Бога малітвы аб справядлівасці. У кастрычніку 1993 г. Таварыства польскай культуры на Лідчыне (ТПКЛ) зыніцыявала штотыднёвыя малітвы пры касцёле. У першую нядзелю прыйшло каля 20 чалавек. Але з кожнай наступнай іх колькасць расла. Калі на малітву пачало прыходзіць да ста чалавек, быў накіраваны ліст (9.11.1993 г.) да гарадскіх уладаў з просьбай аб вяртанні святыні вернікам. Паколькі не было ніякай рэакцыі ўладаў на зборы вернікаў, копіі ліста былі высланыя апостальскаму нунцыю ў Мінск, біскупу Аляксандру Кашкевічу, а таксама дыякану Станіславу Роеку. Праз колькі дзён пасля ліста старшыня ТПКЛ быў запрошаны ў гарадскі савет, і гарадскі пракурор у прысутнасці намесніка старшыні савета паведаміў, што ТПКЛ праводзіць нелегальныя акцыі, арганізуючы малітвы пры публічным будынку. Хоць для католікаў гэты будынак заўсёды заставаўся святыняй, рацыю ў гэтай краіне заўсёды мела ўлада, і таварыства фармальна адмовілася ад правядзення тых акцый. Але вернікі, як і сябры ТПКЛ, арганізоўвалі малітвы ажно да передачы касцёла праваслаўным. Улада фармальна не заўважала лістоў, так жа, як і лістоў-водгукаў на заклік таварыства, надрукаваных у многіх польскіх газетах (у т. л. у «Ladzie», «Tygodniku Powszechnym», «Slowie — Dzienniku Katolickim», «Mysli Polskiej»).

Адначасова перадачы будынка пад царкву дамагаліся праваслаўныя вернікі. Пасля згоды каталіцкага духавенства ў знак паяднання гарадскія ўлады рашэннем ад 7.03.1996 г. перадалі будынак праваслаўнай парафіі. Пасля перадачы касцёла адразу была знятая беларуская дошка (была замацаваная на шрубах). Прадбачачы пагрозу для польскай дошкі ТПКЛ зыніцыявала шэраг дзеянняў. Супольна з беларускімі арганізацыямі і аддзелам Саюза палякаў на Беларусі (разам 7 няўрадавых арганізацый) накіравалі лісты да гарадскіх уладаў, у міністэрствы культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, праінфармавалі старшыню Таварыства аховы помнікаў у Гародні Зміцера Аляшкевіча. Паводле яго слоў, ён таксама звяртаўся да гарадскіх уладаў і быў запэўнены, што дошка не будзе парушаная і застанецца на месцы. 7 траўня 1996 г. у гарсавеце абылося спатканне з прадстаўніком Міністэрства культуры, які прыбыў у горад па той справе. У спатканні ўзялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый (падпісанты лістоў) кіраўнік гарадскога аддзела культуры, настаяцель праваслаўнай парафіі. Адназначна было сцверджана, што гэты будынак з’яўляецца помнікам культуры і знаходзіцца пад аховай дзяржавы, і бацюшку абавязалі падпісаць ахоўны дакумент (аднак ён гэтага не зрабіў, а перадача будынка без гэтага дакумента не мае праўнай моцы). Прысутныя на сходзе былі запэўненыя, што з дошкай нічога не станецца. Звыш таго, вяліся размовы пра паўторнае замацаванне беларускага тэксту таблiцы. Аднак 17 чэрвеня 1996 г. каля 17.30 сябар ТПКЛ Мечыслаў Хвайніцкі заўважыў, што салдаты выбіваюць дошку з муру. Адразу пад будынак з’явіліся

некалькі іншых сяброў ТПКЛ (Аляксандр і Андрэй Сямёнавы, Ганна і Таэвуш Комінчы, Ліля Тумялевіч, Мечыслаў Хвайніцкі, Часлаў Колышка — старэйшы), якія засведчылі, што выбіты дзве дзіркі ўздоўж дошкі. Салдатаў ужо не было. Гэтыя людзі былі каля касцёла да 21-й гадзіны. У гэты ж час старшыня ТПКЛ А. Колышка спрабаваў скантактавацца з прадстаўнікамі ўладаў. Аднак час працы ўжо скончыўся. Вечарам дамовіліся са старшынёй гарадской рады Беларускага народнага фронту Станіславам Суднікам, што раніцай наступнага дня разам пойдуць да гарадскіх уладаў. Назаўтра 9-й гадзіне былі пры касцёле — дошкі ўжо не было. Гаварылі, што была вырваная недзе каля 6-й раніцы. Нейкі час захоўвалася пры ўваходзе ў царкву, пазней была перанесеная ў гарадскі краязнаўчы музей, дзе ляжала каля музейнага хлевушка, пакуль на яе збольшага не забыліся.

Візіт да гарадскіх уладаў быў бессэнсоўны. У гэтай сітуацыі былі напісаныя заявы пракурору аб узбуджэнні крымінальнай справы, былі паінфармаваны Міністэрства культуры, а таксама Таварыства аховы помнікаў у Гародні. Адказ з аддзела ўнутраных спраў быў цікавы:

«Старшыні Лідскай рады БНФ
Судніку С. В.,
г. Ліда
В. А. Лідскага міжрайпракурора,
Дарадцу юстыцыі Скакуну В. В.,
г. Ліда

Паведамляем, што па Вашай заяве праведзена праверка. Мемарыяльная дошка як помнік удзельніку паўстання Л. Нарбуту ўтрымоўвае дзяржаўную сімволіку "Белы арол з каронай і Пагоня", у непашкоджаным выглядзе вернікамі знята са сцяны храма. Пра зняцце дошкі даведзена да ведама Лідскаму гарвыканкаму, які павінен прыняць рашэнне аб пераносе яе ў дазволенае законам месца.

Гэтая дошка была ўстаноўлена на Саборы ў 1938 г. і да пабудаванага ў 1863 г. праваслаўнага храма не мае дачынення. Згодна з арт. 7 Канстытуцыі РБ у месцах набажэнстваў не дапускаецца выкарыстанне дзяржаўнай сімволікі, правядзенне сходаў і інш.

Згодна з рашэннем Лідскага гарвыканкама № 38 ад 07.03.96 г. будынак перададзены ў безаплатнае карыстанне праваслаўнай рэлігійнай грамадзе Свята-Міхайлаўскай царквы».

Начальнік аддзела — В. Г. Макаранка»[73].

У адказе на наступную заяву старшыні ТПКЛ пракурор паведаміў, што ён цалкам згаджаецца са зместам адказу аддзела ўнутраных спраў. Справа была скандальная, уся незалежная прэса пісала пра гэта. Гарадзенская рэгіянальная газета «Пагоня» пракаментавала здарэнне наступным чынам: «Людвіка Нарбута спрабуюць забіць у другі раз». У Лідзе з'явіліся ўлёткі на беларускай мове, надрукаваныя на звычайнай друкарскай машынцы: *«Шаноўныя жыхары. У Лідзе ўчынены чарговы акт вандалізму і бяспраўя супраць нашай гісторыі, гонару і годнасці беларусаў і палякаў, усіх патрыётаў Лідчыны. Поп Аляксандр і тыя, хто сарваў з будынка планетарыя дзве памятныя дошкі ў гонар героя паўстання 1863 г., змагара за незалежнасць Беларусі, паплечніка Кастуся Каліноўскага, кіраўніка паўстання на Лідчыне Людвіка Нарбута, абразілі нашыя нацыянальныя і патрыятычныя пачуцці. Шаноўныя лідзяне, праваслаўныя і католікі, заклікаем вас пратэставаць усімі мажлівымі спосабамі супраць злачынства, учыненага ворагамі беларускасці, супраць бяспраўя і беспакаранасці злачынцаў гарадскімі ўладамі. Не слухайце тых, хто заклікае да маўчання. Ідзіце ў выканаўчы камітэт, пішыце ў газеты, звяртайцеся да пракурора, пачынайце судовыя справы. Сёння яны топчуць нашую гісторыю, заўтра будуць таптаць нас».*

[73] Тамсама. S. 27–31.

Узнікла некалькі ініцыятыў упарадкавання справы з нарбутаўскай дошкай. Улады разумелі, што трэба нешта рабіць. Падчас будаўніцтва Дома польскага ў Лідзе была высунутая прапанова, каб памясціць дошку на сцяне гэтага будынка. Аднак што агульнага мае новы будынак Дома польскага на вул. Кірава (даўнейшай Школьнай) з той дошкай? Акрамя таго, супраць такой прапановы выступілі ўсе беларускія арганізацыі, якія супрацоўнічалі з Таварыствам польскай культуры, але не надта давяралі Саюзу палякаў, магчыма беспадстаўна, і баяліся, што калі дошка трапіць у іхнія рукі, то можа быць вывезеная ў Польшчу. У сакавіку 1997 г. у лістах да старшыні Лідскага гарвыканкама У. М. Мальца Таварыства польскай культуры і Лідская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэнне» ўзгоднена звярнуліся з прапановамі паставіць каля касцёла піяраў помнік з размяшчэннем на ім дошкі Людвіка Нарбута, а таксама дошак: а) Валерыю Урублеўскаму і сям'і Далеўскіх — удзельнікаў паўстання 1863 г. на Лідчыне; б) сям'і Нарбутаў — Казіміру Нарбуту, аўтару першага падручніка логікі на польскай мове, які нарадзіўся на Лідчыне і які ў 1801 г. пасвяціў фундаменты касцёла айцоў піяраў, а таксама Тодару Нарбуту, аўтару знакамітай гісторыі старажытнай Літвы; в) ксяндзам піярам — таму ж Казіміру Нарбуту і Станіславу Баніфацыю Юндзілу, вучню піярскай школы ў Лідзе, батаніку, арганізатару першых батанічных садоў у Шчучыне і Вільні, аўтару першага падручніка па батаніцы ВКЛ. Не атрымалі на тыя прапановы ніякага адказу.

Тым часам гісторыя з дошкай пачала патроху забывацца. У адзін з летніх вечароў да будынка музея падышла грузавая машына, дошка была загружаная ў кузаў і вывезеная. Ніхто яе не спахапіўся. Можна было думаць, што дошку ўкралі. На самай справе па ўзгадненні паміж Таварыствам польскай культуры і Лідскай гарадской арганізацыяй БНФ «Адраджэнне» і з вуснага дазволу супрацоўнікаў музея дошка была вывезена ў раён аднаго з касцёлаў, дзе была пакладзеная да лепшых часоў. Лепшыя часы пачалі наступаць, калі ў Лідзе на месца перададзенага праваслаўным касцёла піяраў на імя Юзафа Каласантага па вуліцы Савецкай пачалося і было завершанае будаўніцтва касцёла піяраў на імя таго ж Юзафа Каласантага ў мікрараёне Індустрыяльны. У 2011 г. Таварыства польскай культуры на Лідчыне, Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны і Лідская раённая арганізацыяй ГА БНФ «Адраджэнне» прынялі ўзгодненае рашэнне аб устаноўцы дошкі пры гэтым касцёле, як спадкаемцы былога касцёла піяраў[74].

21 красавіка 2013 г. у лідскім мікрараёне Індустрыяльны была адкрытая і асвечаная адноўленая мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута — вайсковага начальніка Лідскага павета падчас паўстання 1863 года, паўстанцкага палкоўніка, прызначанага за некалькі дзён да смерці галоўнакамандуючым войскаў ВКЛ.

Дошку адкрывалі біскуп Аляксандр Кашкевіч, генеральны консул Польшчы ў Гародні Анджэй Хадкевіч, лідскі дэкан Вінцэнт Лісоўскі, пробашч Фарнага касцёла айцец Уладзімір Гуляй, пробашч касцёла Святога Юзафа Каласантага айцец Ян Асіповіч. Менавіта каля новазбудаванага касцёла ордэна піяраў на імя святога Юзафа Каласантага ў форме адмысловай капліцы (праект Рычарда Грушы) і была ўстаноўленая мемарыяльная дошка з 1938 г.

Многія з тых, хто змагаўся за вяртанне дошкі, не дажылі да гэтага дня, таму яна стала помнікам не толькі Людвіку Нарбуту, але і ўсім лідзянам-патрыётам Бацькаўшчыны і горада[75].

*Леанід ЛАЎРЭШ*

---

[74] Суднік Станіслаў. Людвік Нарбут // Наша слова. № 40 (1087). 3 кастрычніка 2012 г.

[75] Грынкевіч Яраслаў. Адноўлена мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе // Наша слова. № 17 (1116). 24 красавіка 2013 г.

*Мірон Браніслаў Нарбут*

# ЛІДСКІ ПАВЕТ У СЯРЭДЗІНЕ XIX СТ.

Першы публікатар мемуараў Мірона Браніслава Нарбута — найлепшы ў XX ст. знаўца лідскай гісторыі Міхал Шымялевіч — пісаў: «Аўтар успамінаў Мірон Браніслаў Нарбут, сын Фрыдэрыка, скарбовага камісара Гродзенскай губерні па межах, нарадзіўся ў маёнтку Варонічы ці Нікадзімава Сабакінскай воласці (Сабакінцы, цяпер Першамайск. — *Л. Л.*) Шчучынскага павета ў 1822 г. Яго дзед Караль Нарбут быў земскім пісарам ў Лідскім павеце, прадзед Ігнат — земскім суддзёй, прапрадзед Іосіф Казімір Нарбут — у 1759–1768 гг. маршалкам Лідскага павета. Пасля заканчэння 5-класнай павятовай вучэльні ў Лідзе Мірон Браніслаў Нарбут паступіў служачым канцылярыі на службу да павятовага маршалка ў Лідзе і тут у 1853 г. стаў сакратаром той жа канцылярыі. У 1863 г. пераведзены на такую самую пасаду ў Навагрудак. У 1863 г. узяў удзел у паўстанні і быў сасланы ў Арэнбургскую губерню, дзе і пачаў пісаць гэтыя мемуары. Праз нейкі час пасля амністыі вярнуўся ў родны край і памёр, жывучы ў сваякоў. Быў жанаты з Канстанцыяй Марачэўскай і пакінуў патомства. Мемуары я атрымаў у 1913 г. з рук пана Мацея Марачэўскага, ганаровага суддзі Лідскага павета, якому тут за дазвол апублікаваць мемуары сардэчна дзякую. Божа адудзяч!

Мемуары напісаны на 107 старонках фармату чвэрці звыклага аркуша паперы рукой аўтара. У мемуарах шмат розных выпісак з розных аўтараў на польскай, рускай, украінскай, чэшскай і французскай мовах. Сам тэкст мемуараў у некалькіх месцах не чытаецца, на некалькіх старонках ёсць толькі загалоўкі. Тэкст скарочаны адносна арыгінала. На жаль, не ўсе пададзеныя аўтарам факты, даты і імёны дакладныя. Мемуары напісаны ў выгнанні пасля дзесяцігадовай нябытнасці аўтара на радзіме і таму мусяць мець памылкі, якія, аднак, не змяншаюць дужа іх вагі як дакумента эпохі. Выправіць мемуары і зрабіць і заўвагі немагчыма праз брак месца (у “Ziemi Lidzkaj”. — *Л. Л.*). Частка мемуараў прайшла праз расійскую цэнзуру і без пазначэння імя аўтара была надрукаваная ў 80-я гг. прошлага стагоддзя (у 1880-я гг. — *Л. Л.*) у “Каласах”. Тая публікацыя сталася бібліяграфічнай рэдкасцю. Зараз мемуары друкуюцца цалкам»[1].

## ЛІДА І ЛІДЗЯНЕ[2]

Лідскі павет — даўнейшы асяродак маёй сям’і, якая заўсёды прысвячала сваё жыццё грамадскаму служэнню свайму Краю. Там я нарадзіўся, там правёў значную частку свайго жыцця, таму гэтая малая Радзіма заўжды мне дарагая. Таму ўспаміны пра яе мілыя майму сэрцу і цешаць мяне ў самоце, да якой выгнанца давяло выгнанне, і гэтыя ўспаміны саграваюць мяне. Не раз уваскрасаюць у памяці знаёмыя постаці, вядомыя калісьці шырокаму колу лідзян; жыва паўстаюць перад вачыма розныя здарэнні, найбольш значныя акалічнасці з грамадскага жыцця павета, разнастайныя выпадкі: калі самотныя, калі смешныя, а часам і ўзнёслыя, на якія багатая гісторыя кожнай шляхцянскай сям’і на Літве.

І абуджаецца ахвота занатаваць хоць што-небудзь з тых успамінаў, каб даўжэй захаваць іх для сябе, бо толькі імі жывіцца выгнанец паміж сваімі.

Ліда — павятовы горад Віленскай губерні, месціцца на раўніне над малой рэчкай Лідзеяй, жыхарства з большага яўрэйскае, налічвае да 4000 жыхароў. Па-жмудску слова

1 Ziemia Lidzka. 1936. № 5.

2 Miron Bronisław Narbutt. Lida i Lidzianie // Ziemia Lidzka. 1997. № 4–5 (26–27).

«Ліда» азначае месца, выцерабленае ад лесу. З даўнейшых ліцвінскіх часоў належала ўдзельным князям Гальшанскім, было невялікай фартэцыяй ці малым абарончым замкам, рэшткі муроў якога — адзіныя сведкі старажытнасці ў гэтым горадзе. За польскім часам Ліда была павятовым горадам Віленскага ваяводства, пасля падзелу Краю яе прылучылі да Гарадзенскай губерні, а ў 1843[3] годзе зноў была прыпісаная да Віленскай губерні. Адзіная доўгая вуліца пад назвай Віленская праходзіць праз усю даўжыню горада на адлегласць вярсты. Упоперак ідзе другая доўгая вуліца Каменская, убок — кароткія вуліцы: Сенатарская і Крывая, напрыканцы якой — рынак, дзе прадаюць розныя спажывецкія тавары. Ёсць тры касцёлы: Фара — фундацыі Масявічаў, пакармеліцкі (цяпер у руінах) — фундацыі Нарбутаў і папіярскі (перароблены на расейскую царкву), пабудаваны ў тым ліку за кошт расійскага цара Паўла І, і некалькі мураваных камяніц[4]. Горад мае павятовую школу, якую даўней утрымоўвалі піяры, аптэку, цукерню ды вайсковы шпіталь. На прыгожых і добра дагледжаных стараннямі Клары Якавіцкай з агульных складак парафіяльных могілках ёсць драўляны касцёл, фундаваны Вінцэнтам Нарбутам[5] — мясцовым пробашчам і дэканам.

Даўней, калі ў цэлай Рэчы Паспалітай віравала грамадскае жыццё, і Ліда мела цікавейшыя часы: вялікія зборы шляхты на сеймікі для выбараў дэпутатаў і паслоў на сеймы, барацьба партый і шумная агітацыя за тых ці іншых паслоў.

Пасля падзелу Краю, ужо пры панаванні Аляксандра І, на якога ліцвіны ўскладалі вялікія надзеі ў паляпшэнні будучыні Краю, існавалі гучныя казіно і забавы. Пазней з гэтага развілося шулерства, разбэшчанасць і п’янства так, што гэтыя звады панавалі тут болей, чым дзе-небудзь у другім месцы. Моцна і голасна высмейваў іх друкаваны ў тыя часы ў Вільні сатырычны часопіс «Навіны Бруковыя».

Трымаў у Лідзе вінны шынок яўрэй Азік (якога я помню яшчэ з часоў, калі хадзіў у школу). Апроч тых гасцей, што прыбывалі з павета і наведвалі гэтую ўстанову, было некалькі жыхароў горада сталага ўзросту, якія цэлыя дні праводзілі ў шынку. Гэта былі так званыя агульнікі — пастаянныя наведвальнікі, якія плацілі Азіку поўную квоту і мелі права піць у яго гарэлку без разліку, зразумела, нікога не частуючы. Гаспадар шынка дасканала ведаў ступень жадання і мажлівасці кожнага дарослага жыхара наваколля і таму ніколі не меў страт. Апавядалі мне і пра гульню, што праводзілася толькі ў вінярні Азіка. Кола бібулаў[6] сядалі вакол стала, у келіхі налівалася віно і ў поўным маўчанні, з напружанай увагай, пільнавалі палёт мух: на чый першы келіх сядала муха, той выйграваў, г. зн. меў права выпіць віно з усіх налітых келіхаў. Гульня гэтая называлася «мушка». Зусім п’яных Азік укладаў спаць у асобым алькове і адтуль выдаваў мужоў іхнім жонкам.

---

[3] Насамрэч у 1842 г.

[4] Першым касцёлам у Лідзе быў Фарны, ён знаходзіўся побач з замкам і пабудаваны з дрэва на ахвяраванні князя ВКЛ Ягайлы ў 1387 г. У 1765–1770 гг. ксяндзом М. Зянкевічам быў пабудаваны новы цагляны. Насупраць Фарнага касцёла на сродкі Адама Нарбута і яго жонкі Эльжбеты ў 1672 г. быў пабудаваны цагляны касцёл і кляштар кармелітаў, які быў зачынены ў 1832 г., у 1908 г. будынкі касцёла і кляштара кармелітаў былі разабраныя, цэгла пайшла на будаўніцтва казармаў паўночнага вайсковага гарадка. Лідскі Іосіфаўскі касцёл піяраў будаваўся ў 1794–1825 гг. 15 траўня 1797 г. падчас пераезду са Слоніма ў Вільню кляштар наведаў расійскі імператар Павел І са сваімі сынамі Аляксандрам і Канстанцінам. Ён ахвяраваў на пабудову храма 5000 руб. У 1825 г. пасля 25-гадовага будаўніцтва будынак піярскага касцёла быў завершаны і ўрачыста асвечаны 4 ліпеня 1825 г. У жніўні 1842 г. касцёл піяраў згарэў. У 1863 г. перароблены ў праваслаўную царкву Міхаіла Архангела. З 1920-х гг. каталіцкі касцёл, з 1962 г. і да сярэдзіны 1990-х — планетарый. Цяпер зноў праваслаўная царква.

[5] У 1805 г. пробашчам і дэканам лідскім ксяндзом Вінцэнтам Нарбутам у цэнтры могілак пабудаваная драўляная капліца Св. Барбары.

[6] Бібула — гуляка. — *Заўвага перакладчыцы.*

Калі ў Лідзе панавала п’янства, паміж піякамі быў распаўсюджаны спеў «Гімн перад піццём гарэлкі»:

*Вітай змест над крышталём!*
*Усе цябе хваляць.*
*Ты суцяшаеш у смутку.*
*Ты саграваеш у азнобу.*
*Цябе паны, цябе пані*
*За пасілак маюць ранні,*
*Табе цэлае людское племя,*
*Носам рыючы, б’е ў зямлю.*
*О радасць, о вяселле!*
*Поунай губай пейце смела!*

Аўтар гэтага гімна пан Маркевіч, землямер, чалавек вельмі дасціпны, меўшы востры розум і язык, які зброяй сатыры хацеў уздзейнічаць на сваіх землякоў. Для Таварыства Трубна-Бібуларнага[7] ён злажыў статут, які складаўся з вельмі камічных прадпісанняў для сяброў. Сябе Маркевіч называў маршалкам гэтага таварыства. Аднойчы, вяртаючыся ўранку ад знаёмага, ён заехаў у касцёл на рараты[8] і, усеўшыся на лаўку, убачыў уваходзячага ў касцёл хісткім крокам мажнага, напалову п’янага мужчыну, які сеў на другую лаўку. Гэта быў гарлівы вызнаўца Бахуса граф Платэр, дзедзіч Шайбакполя. Пасля набажэнства Маркевіч зайшоў да гвардыяна[9] францішканаў на гарэлачку. Знайшоў там і Платэра з некалькімі іншымі суседзямі. Гвардыян пазнаёміў Маркевіча і Платэра. Маркевіч, аддаўшы паклон, кажа Платэру: «Пане граф! Міла мне ў асобе пана пазнаць мужа праўдзівай дасканаласці. Дагэтуль я быў маршалкам Таварыства Трубна-Бібуларнага і ўпіваўся звычайна каля 10 раніцы — першым за любога іншага сябра; сёння я пераканаўся, што нягодны гэтай пасады і аддаю яе ў больш прыстойныя рукі пана, што ўмее быць п’яным ужо на раратах. Прашу толькі адкрыць мне, як можна дайсці да такой дасканаласці». На што ўзрадаваны Платэр адказаў: «Вельмі проста — не трэба наогул цверазець». Потым былі пацісканні рук, абдымкі і запрашэнне Маркевіча з суседзямі ў свой маёнтак, дзе Платэр паіў усіх адборным віном тры дні.

У часы майго жыхарства ў Лідзе, г. зн. ад 1846 года, п’янства ўжо амаль не было, але шулерства існавала. Выбраны бурмістр шляхціц Ян Андрушкевіч[10], чалавек праўдзівы, энергічны і разважлівы, сваім уплывам на грамадзян, а таксама пробашч дэкан Хлявінскі сваімі трапнымі прамовамі і навучаннямі паствы ў касцёле значна паўплывалі на падвышэнне маральнасці гарадской супольнасці. У 1848 годзе маршалак павятовы граф Путкамер уваскрасіў даўнейшае казіно пад зmененаю назвай «рэсурсы», куды госці з павета запрашаліся асабіста і танчылі аж да ўпаду. Аднак кантракты, прыпадаючыя на свята святога Юр’я рымскага, штогод былі менш колькасныя, і горад не мог узвысіцца да заможнейшага стану.

Найбольш значнымі ў гісторыі Ліды былі: побыт у ёй караля Александра Ягайлы падчас хваробы, ад якой ён памёр у Вільні; праезд цара расійскага Паўла I з сынамі Аляксандрам і Канстанцінам, падчас якога ён выдаў грошы з уласнай шкатулкі на будаўніцтва касцёла піяраў; у 1831 годзе сутычка расіян з польскім аддзелам генерала Хлапоўскага

---

[7] Towarzystwa Rurowo-Bibularnego.

[8] Рараты — пачатак а 8-й раніцы. — *Заўвага перакладчыцы.*

[9] Гвардыян — у дадзеным выпадку эканом. — *Заўвага перакладчыцы.*

[10] Ян Андрушкевіч, ці «Иван Степанович Андрушкевич», гл. Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850. С. 82.

і, напрыканцы, у 1863 годзе расстрэл С. П. Фалькоўскага[11], пробашча ішчалнскага за абвяшчэнне з амбона маніфеста Народнага Урада аб паўстанні.

Цяпер звыклую цішу прарываюць хіба што мясцовыя плёткі і раз на год 14 верасня на Узнясенне Св. Крыжа 40-гадзіннае набажэнства ў Фарным касцёле, на якое збіраліся з усяго павета жыхары і ксяндзы і некалькі дзён панаваў ажыўлены рух: прызначаліся ўзаемныя візіты, а часам у знятых папярэдне салонах, у найманых падчас набажэнства кватэрах і танчылі. У гадах 1847 і 1848 у Лідзе існавала больш агульнадаступная магчымасць для забаў. Усе чыноўнікі, нават нежанатыя, адзначалі дні сваіх імянін з музыкай і танцамі. Рэсурсы папаўняліся заўжды гасцямі, але асэнсаванае грамадскае жыццё заўжды ў горадзе спала. Моладзь, што працавала ва ўстановах, ігнаравала кніжкі, аддаючы перавагу гульні ў карты. З газетай у руцэ нават нязручна было сустрэцца з кім-небудзь.

Жыхарства горада Ліды захоўвае самую ўдзячную памяць аб с. п. Фабіяне Шукевіче, які з заможнага грамадзяніна з прычыны захаплення картачнай гульнёй дайшоў да таго, што быў вымушаны працаваць, здабываючы хлеб рознай юрыдычнай працай, асеў у Лідзе і, хоць меў вялікую радню, умеў заўсёды знайсці сродкі для паляпшэння гаротнага стану найбяднейшых жыхароў горада і таму заслужана насіў пахвальны тытул «Бацька ўбогіх».

Ржэвускі (аўтар «Лістапада») у творы «Апавяданні старца», выдадзенага ў Варшаве ў 1854 г., у томе II на с. 220 успамінае пра цуд, які зрабіў у Лідзе святы каплан-базыліянін Атаназ Галаўня ў часы голаду, які панаваў на Літве ў 1744 годзе. На гарадскім рынку сярод дня ён стос камянёў у стос боханаў знакам Святога Крыжа пераменіў, што пацверджана паказаннямі сведкаў: болей за тысячу сялян і некалькі дзясяткаў шляхты хлебам накормленых.

Лідскі павет меў каля 80 000 жыхароў пераважна рыма-каталіцкага веравызнання: 21 парафія ў невялікай частцы па-над берагам Нёмана да мяжы Навагрудскага, Слонімскага, Ваўкавыскага і Гарадзенскага паветаў, 12 парафій даўняга ўніяцкага абраду (цяпер праваслаўная расійскага веравызнання) па некалькі сот душ, а таксама яўрэі і татары. Павет за польскім часам быў населены заможнай шляхтай — уладальнікамі зямлі, магнаты мелі тут вялікую маёмасць: графства Беліцкае, князь Кароль Радзівіл — ваявода віленскі, званы Пане Каханку, цяпер уласнасць князя Вітгенштэйна[12]; графства Шчучынскае, Юзаф дэ Кампа Сцыпіён — стараста лідскі[13]; графства Жалудоцкае, Тызенгаўз[14] — падскарбі літоўскі, і графства Гародненскае[15], граф Тышкевіч (цяпер уласнасць Маўрыцыя графа Патоцкага).

---

[11] Адам Фалькоўскі, пробашч Ішчалны, прачытаў паўстанцкі маніфест і заклікаў сялян да паўстання, быў арыштаваны і расстраляны ў Лідзе 24 (13) чэрвеня 1863.

[12] Ранейшая ўласнасць Радзівілаў, сканфіскаваная пасля вайны 1812 г.

[13] Род Сцыпіёнаў дэ Кампа італьянскага паходжання, гл.: Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland. 2006. № 17. С. 57–68.

[14] У XVIII — першай палове XIX ст. мястэчка Жалудок — уласнасць старажытнага роду Тызенгаўзаў герба «Буйвал». Найбольш знакаміты з іх — Антоні Тызенгаўз (1733–1785), увайшоў у гісторыю як славуты падскарбі надворны літоўскі і адміністратар каралеўскі, магнат і палітык, пахаваны ў Жалудку.

[15] Гародна ў першай палове XVIII ст. было спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму ўнуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму з княгіняй Канстанцыяй Панятоўскай (1759–1830). Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ўвесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779–1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дунінам-Вансоўскім. Тастаментам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812–1879), пасля смерці якога ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. Напрыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнацьева, ад яго — да генерала Кіпрыяна Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23 200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку разам з Гароднам.

У выніку падзелаў Краю, расходаў на свецкае жыццё, расходаў з уласнага за кошт для патрэбаў Краю ці ўтрыманне партый на сейміках вялікія маёнткі заможных сямействаў — Нарбутаў, Аляксандравічаў, Францкевічаў, Шушкевічаў, Ельцаў, Гінетаў, Шэмётаў, Длускіх, Скіндараў — прайшлі праз эксдывізіі[16], і таму з'явілася шмат новых дробных гаспадароў. А акрамя таго, ад даўнейшых часоў тут была густа расселеная засцянковая ваколічная шляхта і да сёння, нягледзячы на пераслед яе расійскім урадам, дастаткова вялікая. Дзякуючы гэтаму ў павеце ўсталявалася грамадзянская роўнасць і дух шляхецка-дэмакратычны, які існуе і да сёння. Цяжка знайсці ў Лідскім павеце двух жыхароў — уладальнікаў зямлі, якія б не ведалі адзін аднаго асабіста. Адсюль салідарнасць паміж шляхтай у пытаннях, датычных добрай будучыні краю, гэта салідарнасць тут была нават большай, чым у іншых паветах на Літве. У апошнія часы, з пункту гледжання распаўсюджання навуковай асветы і ўзроўню салоннай культуры, супольнасць лідзян стаіць невысока, але яны захоўвалі лепей, чым іншыя, шмат старапольскіх цнот і агульную пабожнасць, гасціннасць і гатоўнасць прысвяціць сябе Айчыне і суродзічам. У 1863 годзе тут найперш, чым у астатняй Літве, сабралася павятовая харугва, а імя яе кіраўніка — Людвіка Нарбута — айчынная гісторыя запісала на сваіх старонках для пераказу наступным пакаленням.

У даўнейшыя часы шляхта лідская была ахвочая да шаблі на сейміках і схільная да віна і келіха, але і таксама да абароны межаў Рэчы Паспалітай ад нашэсця ворагаў: у канфедэрацыі Барскай, у паўстанні Касцюшкі і ў пазнейшых баях з ворагамі прыніжанага Народа несла свае жыцці і маёмасць на ахвяру Краю. Павет Лідскі на сеймах меў прадстаўнікоў, якія гарліва адстойвалі межы Рэчы Паспалітай: гэта Тадэвуш Нарбут[17], падкаморы лідскі, пасол на сейм вальны 1776 г., які не падпісаў ратыфікацыю першага падзелу Рэчы Паспалітай і за гэта пераследаваўся ўладамі; меў потым пасла Войцеха Нарбута[18], шамбеляна[19] караля Станіслава Аўгуста, гарлівага працаўніка на варшаўскім сейме 1788 г., на якім адбылася без праліцця крыві агульная польская рэвалюцыя праз прыняцце векапомнай Канстытуцыі 3 Мая, якая дазволіла ўшляхціць цэлы народ, даць яму грамадзянскія свабоды, якімі дагэтуль карысталася выключна шляхта.

У часе апошняга падзелу Краю шляхта лідская яшчэ пратэставала супраць палітычнага гвалту над ужо безабаронным Народам. Такімі, як Тыматэвуш Боньча Вільканец, быў прыняты маніфест да жыхароў горада і павета, у якім на пазнейшыя пакаленні ўскладаўся абавязак вяртання адабранай маёмасці і грамадзянскіх свабодаў. Дух вольнасці так моцна прышчапіўся ў лідзян, што і па падзеле Краю, пры расійскай уладзе, лідскія сеймікі былі актыўныя: так, напрыклад, сеймік, які праводзіўся праз некалькі трохгадовых тэрмінаў у барацьбе за павятовае маршалкоўства паміж Каралем Ласковічам і Аляксандрам Нарбутам, з сутычак гэтых апошні заўсёды выходзіў пераможцам, умеючы трапным выступам і папулярнасцю знайсці сімпатыі большасці шляхты. У 1812 годзе пры французах падпрэфектам лідскім быў выбраны (з маршал-

---

[16] Эксдывія (exdywizye) — юрыдычны тэрмін, у Літве існаваў закон, па якім у выпадку неплацежаздольнасці даўжніка, яго маёмасць не прадавалася з аўкцыёну, але дзялілася на часткі адпаведна колькасці крэдытораў.

[17] Тадэвуш Нарбут (каля 1740 — ?) — падкаморы Лідскага павета і каралеўскі шамбелян, сын Казіміра Юзафа Нарбута (каля 1700 — ?). Ад першага шлюбу ў Тадэвуша Нарбута каля 1760 г. нарадзіліся тры дачкі: Канстанцыя, Аляксандра і Тэкля, ад другога шлюбу з Кацярынай Вяжэвіч — сын Войцех (1762–1837), каралеўскі шамбелян, посол сейма 1788 г. ад Лідскага павета, і дачка Ганна.

[18] Войцех Нарбут — сын Тадэвуша Нарбута.

[19] Шамбелян — тое самае, што і камергер, ад французкага слова *chambellan*.

ка) Ігнацы Скіндар[20] — дзедзіч маёнтка Лацк. Паслом лідскім на сейм варшаўскі генеральнай канфедэрацыі Каралеўства Польскага выбраны быў з 822 галасуючых 688 галасамі Войцех Нарбут. Кандыдатамі на пасольства былі: Нарбут — 688 галасоў «за», Караль Ласковіч — 522, Кастравіцкі — 200, Рассудоўскі — 50. Нават пры маёй памяці лідскія сеймікі заўсёды праходзілі у гарачай барацьбе партый. Так працягвалася аж да сеймікаў, канчаткова забароненых урадам пасля паўстання 1863 года на Літве і Русі.

Падчас уваходу ў 1812 годзе ў Літву французаў амаль уся тагачасная шляхецкая моладзь Лідчыны аб'ядналася пад айчыннымі харугвамі. Некаторыя вярнуліся пакрытыя ранамі, другія палеглі ў бітвах, а былі і такія, як Гаспар Длускі, якія падаліся потым у Амерыку і там біліся за свабоду. Длускі вярнуўся з Амерыкі паранены, стаў ксяндзом. Быў пробашчам у Наваградку, а ў 1831 годзе пакінуў месца пробашча і як каплан мясцовага аддзела паўстанцаў Кашыца[21] сеў на каня. Потым эміграваў з польскім войскам у Францыю. У 1855 годзе пасля амністыі вярнуўся ў Край і тут, у Наваградскім павеце, у вайсковага калегі Уладзіслава Брахоцкага, маршалка наваградскага, у Вераскаве, скончыў свой слынны жыццёвы шлях.

Лідзяне — людзі таварыскія, сардэчныя, гасцінныя ў доме, рэдка калі выязджалі за межы павета, а яшчэ радзей за межы Краю. Тут мала замежнага, усё сваё, роднае, ліцвінскае. Шануюцца тут прыгожыя даўнейшыя хатнія традыцыі, дзе ўсё пачыналася ад Бога і канчалася з Богам. Жаніліся па згодзе, дзеці шанавалі бацькоў, моладзь з належнай павагай ставілася да сівога веку, а жанчын лёгкіх і дрэнных паводзін ніколі я не бачыў. Выхаванне гарадской моладзі доўга было ў заняпадзе, абмяжоўвалася навучаннем сына ў гімназіі[22] альбо ў павятовай школе, а па заканчэнні гэтых устаноў адпраўлялі ў войска ці чыноўнікам у якую-небудзь установу. Сыны больш заможных бацькоў пасля заканчэння школ асядалі пры бацьках альбо асобна, і навучыўшыся іграць у прэферанс, гандляваць коньмі на кірмашах ці трохі паляваць, лічыліся сталымі людзьмі. Рэдкі лідзянін пасылаў сына ва ўніверсітэт. Толькі з 1855 года настаў больш шчаслівы час для набыцця адукацыі. Найперш засцянковая шляхта, а за ёй і ўсе астатнія гараджане пачалі выхоўваць сваіх дзяцей ва ўніверсітэтах і вышэйшых навуковых установах, а некаторыя вучылі нават на інжынераў ці тэхнікаў. Дзяўчаткі часцей выхоўваліся дома пад наглядам матак альбо ў прыватных пансіёнах у Вільні, і па сутнасці іх выхаванне было заўжды больш практычнае, чым у мужчын, над якімі яны часта стаялі вышэй з пункту гледжання маралі і розуму. З 1860 года, калі ў цэлым Краі пачаў абуджацца разумовы рух, актыўна клапаціліся аб заснаванні народных школ і лідзяне, а духавенства пашырала таварыства цвярозасці з вельмі паспяховым вынікам, так, што побыт лідзян значна палепшыўся, і ў 1862 годзе спаткаць п'янага лідзяніна было ўжо рэдкасцю.

---

[20] Падпрэфектам Лідскага павета ў 1812 г. быў Ігнацы Скіндар. Абавязкі падпрэфекта практычна нічым не адрозніваліся ад абавязкаў маршалка. Для дапамогі ў справах падпрэфект меў 2 павятовых радцаў, ён жа кіраваў павятовай паліцыяй. У 1819–1821 гг. Скіндар Ігнацы Міхайлавіч. Масон 3-й ст. гродненскай ложы «Сябры чалавецтва» («Pzyjaciele Ludzkości»).

[21] Юзаф Кашыц (1795— 1868) — удзельнік паўстання 1830–1831 гг. Паходзіў з пінскай шляхты. У 1811 г. паступіў на матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. На баку французаў, у складзе 17-га ўланскага палка, удзельнічаў у вайне 1812 г. У 1812–1815 гг. у эміграцыі, з 1815 г. асеў у Навагрудскім павеце. У 1830 г. абраны навагрудскім маршалкам. У час паўстання 1830–1831 гг. арганізатар выступленняў у Навагрудскім і Слонімскім паветах. У сваім маёнтку Ятра стварыў асобны атрад, які ў ліпені 1831 г. налічваў каля 1 тыс. чалавек. Меў шмат сутычак з расійскімі войскамі. Пасля аб'яднання з корпусам Г. Дэмбінскага атрад Ю. Кашыца перайшоў на тэрыторыю Польшчы. Прызнаны расійскім урадам дзяржаўным злачынцам 1-й катэгорыі, эміграваў у Францыю, яго маёнтак, у т. л. мястэчка Ятра, быў канфіскаваны і перададзены скарбу.

[22] Найбліжэйшай гімназіяй была Віленская.

* * *

У 1863 годзе павет з усёй гарлівасцю служыў справе Айчыны і даў ёй на ахвяру цэлы букет сваёй моладзі. Так у бітвах пад Кавалькамі[23] і Дубічамі[24] палеглі: Людвік Нарбут, Краінскі, Францішак і Аляксандр Бразоўскія, Уладзіслаў Навіцкі, Войцех Нарбут, Уладзімір Паплаўскі, Пакемпіновіч, Стэфан Губаровіч, Уладзіслаў Жукоўскі і іншыя. Расстраляны: Баляслаў Колышка, Ляснеўскі і Альберт Ласковіч, а таксама ксяндзы: вікарый жалудоцкі Ішора, пробашч ваверскі Зямацкі, пробашч ішчалнскі Фалькоўскі. Пакрытыя ранамі, высланыя да цяжкіх работ у Сібір: капітан Уладзіслаў Клімантовіч, рэктар Пясецкі, Войцех Мінскі, рэктар Струміла; на высылку — Баляслаў Нарбут, Андрэйкавіч, Ансельм Патрыкоўскі, Ян Жукоўскі і многія другія, а таксама ксёндз Ануфры Сырвід, пробашч васілішскі. У выгнанне: Адам Марачэўскі, Ксаверы Александровіч, Гжымала Фелікс, Браніслаў Нарбут, Яраслаў Табенскі, Тэадор Вільканец, Казімір Шалевіч, Адольф і Аляксандр Звяровічы, Людвік Геншаль, Томаш Шукевіч, Ян Рыхлевіч, Напалеон Пуляноўскі, Вінцэнт Захватовіч, Масальскі, двое Маргевічаў, Станіслаў Ржансніцкі, Ян Сямашка, трое Янковічаў, доктар Тышкевіч і іншыя; са шляхты засцянковай цэлая ваколіца Шчукаў з парафіі Дэмбраўскай, Стэфан Вільбік, Фелікс Сумарок з братам і многа асуджаных у салдаты. Лідскі і Троцкі паветы найболей пацярпелі ў часе паўстання. Троцкі павет амаль вылюднеў. Падаліся ў эміграцыю лідзяне: Францішак Нарбут, Юзэф Сумарок, Цыпрыян Табенскі, Тэадора Манчунская, Уладзіслаў Геншаль, Генрых Клімантовіч і інш. Дзве сястры Альжбета і Антаніна Табеньскія прысуджаны да цяжкіх работ, на высылку Крыстыны Нарбут, Клюковіч і Масальская з роду Захватовічаў (памерла).

Рыма-каталіцкае духавенства Лідскага павета вылучалася сваёй адукаванасцю, адказнасцю ў выкананні сваіх абавязкаў і гарачай любоўю да Краю. Такія капланы, як кс. Ануфрый Сурвід, пробашч васілішскі, кс. Ішора, кс. Фалькоўскі — сапраўдны гонар Краю, кс. Дзіянісій Хлявінскі — дэкан лідскі, магістр тэалогіі, кс. Райцевіч — пробашч навадворскі, кс. Ясінскі — пробашч жалудоцкі, кс. Адам Зарэцкі, пробашч забалацкі і кс. Рыхлевіч, пробашч ражанкаўскі, мелі заслужаную павагу сваіх парафіян.

Лідскія татары Рамановічы, Сабалевічы, Талькоўскія і іншыя, такая ж засцянковая шляхта татарская, палюбілі сапраўдную Літву, дзе вялікія князі далі ім усе правы і свабоды, і заўсёды верна служылі Краю. У Лідскім павеце яны маюць сваю мячэць у Некрашунцах Нацкай парафіі.

Ваколічная[25] засцянковая шляхта пераважна жыла ў Эйшышскай, Лідскай, Ваверскай, Забалацкай і Радунскай парафіях, але няма ніводнай парафіі, дзе б ваколіц не было. Дагэтуль ваколічная шляхта захавала пачуццё старапольскасці, гонару, шляхетнасці і рыцарства.

Вясковы люд Лідскага павета дзеліцца ракой Пеляса, на ўласна Русь і Літву, гаворыць мовай беларускай і 3/4 ёсць рыма-каталіцкага веравызнання, а на ¼ ёсць даўняга грэкаўніяцкага веравызнання, цяпер праз урад прыпісаны да праваслаўя. За ракой Пелясой, пачынаючы ад Праважы аж да мяжы з Троцкім паветам, у парафіях Нацкай, Радунскай і Эйшышскай гавораць на летувіскай мове і ўсе без выключэння рыма-каталіцкай рэлігіі. Вясковае насельніцтва Лідскага павета мае глыбокую веру ў Бога і працавітасць, а інтэлігентнасцю перавышае вяскоўцаў, якія насяляюць занёманскія паветы Літвы. У часы апошняга паўстання 1863 года не толькі сімпатызавалі народнай справе, але нават сяляне скарбовыя ў многіх мясцовасцях станавіліся ў шэрагі, і многія з іх загінулі на

23 Бітва пад Кавалькамі 20 красавіка 1863 г. паміж паўстанцкім атрадам Людвіка Нарбута і рускімі войскамі.

24 Бітва пад Дубічамі 5 траўня 1863 г., у гэтай бітве загінуў Людвік Нарбут.

25 Ваколіца — пасяленне шляхты розных радоў, засценак — пасяленне шляхты аднаго роду (прозвішча), наогул шляхта жыла ў ваколіцах ці засценках, а не ў вёсках.

полі славы ці былі высланыя на пасяленне ў Сібір. Я сам у Арэнбургу сустрэў дастаткова вялікую партыю сялян з парафій Эйшышскай, Нацкай і Радунскай, якіх гналі на пасяленне ў Башкірыю за ўдзел у паўстанні. Селянін Лідскага павета нават свайго роднага брата, які вяртаецца з войска дахаты, заўжды называе маскалём. Сяляне прывязаны да страхі айчыннага дому; дзяўчаты не цешацца выходзіць замуж у другія вёскі нават з гэтай самай парафіі, а тым болей у больш аддаленыя, кажучы: «Не хачу жыць у чужой старане!». Займаюцца гаспадаркай, часам рамяством і зусім не маюць ахвоты гандляваць, а таму ніколі гандлем не займаюцца. У падарожжа пускаюцца толькі да бліжэйшых мястэчак на кірмаш ці да цудоўных месцаў дзеля адпушчэння грахоў, а найдальшыя падарожжы — да Вільні ці да Гродна, калі селянін наймаецца дзеля перавозу на продаж якіх-небудзь прадуктаў. 2/3 вясковага насельніцтва ўмее чытаць па-польску або па-летувіску. Умеючых пісаць нямнога. У Лідскім павеце найчасцей сустракаюцца дваровыя людзі, якія і пасля атрымання волі не пакідаюць сваіх былых гаспадароў, служачы ім верна ўсё жыццё. Я і сам меў слуг з такіх вяскоўцаў, што былі мне сапраўднымі сябрамі.

Звычаі насельніцтва нічым не адрозніваюцца ад звычаяў у іншых мясцовасцях Літвы. Народныя танцы розныя і вясёлыя, як мяцеліца, скакуха, казак і інш. Спевы павольныя, сумныя і працяглыя. На Вельканач існуе выключны звычай, якога не сустрэнеш нідзе болей: паходы з віншаваннямі па дамах праз цэлую ноч. Грамада віншуючых складаецца з некалькіх маладых мужчын з падабранымі галасамі і скрыпкай, якія падходзяць пад акно і просяць дазволу на віншаванне. Атрымаўшы дазвол, адзін са старэйшых пачынае са слоў: «Хай будзе ўхвалёны Езус Хрыстус» — і звычайна завяршае зварот словамі: «Каб дачакаліся свята праз год з малымі грахамі і з вялікімі пацехамі, каб жыццё вечнае атрымалі!». Потым увесь хор спявае для гаспадароў дому песню: «Вясёлы настаў для нас сёння дзень». Для кавалераў і дзяўчат святочныя песні складаюцца асобна. Звычайна ў іх спяваецца пра ўдзячнасць той, каторую віншуюць, пажаданні добрага мужа «паніча, каралевіча», а на заканчэнне кожнай такога кшталту песні наступнае:

Жадаем пана дарам дарыці
Да віно ж, віно зеляно.
Дарам дарыці, нам заплаціці
Да віно ж, віно зеляно.
Сорак яек на полумісак
Да віно ж, віно зеляно.
Кілбаскаю акружыце
Да віно ж, віно зеляно.
Белым сырком заквяціце
Да віно ж, віно зеляно.
І пры тым чырвоны злоты
Да віно ж, віно зеляно.
Мужыку на боты
Да віно ж, віно зеляно.

Разагрэтыя гарэлкай і свянцоным, абдараныя пэўнай квотай грошаў, віншавальнікі, ці, як люд іх называе, галасоўшчыкі, рухаюцца далей да бліжэйшага двара або вёскі. Абход працягваецца ўсю ноч, а вярнуўшыся з начной вандроўкі, дзеляцца сабранымі грашамі і свянцоным.

Убранне сялян Лідскага павета ладнае. Мужчыны носяць белыя або сівыя сярмягі, шырокія скураныя пасы, званыя дзяга, доўгія боты і высокія суконныя шапкі, аздобленыя футрам шэрага барана. Замужнія жанчыны надзяваюць каляровыя гарсэты з паркалю або сукна, цёмна-сінія спадніцы, яскравыя фартухі, кашулі з белага паркалю,

на галовах — белыя высокія шапкі або каляровыя каптуры з матэрыялу, з-пад якіх выглядае лістачка чапца, ці каляровыя хусткі, завязаныя з тылу без канцоў; на шыі пацеркі, а на грудзях скапуляры[26]. Дзявочы ўбор падобны да ўбору замужняй жанчыны з той розніцай, што носяць валасы, сплеценыя ў два вузлы з мноствам уставак, або таксама хустка на галаве са спушчаным на тыл доўгім канцом, болей каляровых пацерак на шыі і малы скапуляры.

Вёскі ў Лідскім павеце па большай частцы файна забудаваны, звычайна па адным баку вуліцы стаяць: хата, насупраць свіран, пасярэдзіне падворка студня з жоравам, за хатай садок або гародчык, а па другім баку: гумно, стайня, аборы для жывёлы, птушкі і іншыя гаспадарчыя забудовы. Падворкі агароджаны. Так і ідуць вельмі доўгімі радамі гаспадарчыя забудовы.

Люд дастаткова разважлівы, але ў яго легендах і казках заўсёды прысутнічае вера ў цуд і сапраўдная паэзія.

Лідскі павет меў людзей, якія займалі не апошняе месца ў дзеях айчыннай літаратуры: піяр Казімір Нарбут[27], абат парадыйскага, аўтар першай на польскай мове логікі, паэт Антон Гарэцкі[28], муж вялікай эрудыцыі, аўтар «Дзеяў Літоўскага народа» і іншых гістарычных прац Тэадор Нарбут, Юстын Нарбут[29] — аўтара «Dziejow wewnetrznych Narodu Litewskiego» і Каміла Нарбут[30] — аўтарка некалькіх аповесцей. З мастакоў вызначыліся сваімі талентамі заўчасна памерлы сын Антона Гарэцкага, які пакінуў удаву Марыю, дачку нашага несмяротнага паэта Адама Міцкевіча. Помню, як нейкі час у Лідскім павеце жыў Тамаш Зан — заснавальнік Таварыства прамяністых, якое аб’ядноўвала выдатных лідзян: Ксаверыя Турскага, Ваўжынца Путкамера (мужа апяванай Міцкевічам Марылі), Тэадора Нарбута, Аляксандра Карловіча, Алаіза Бародзіча і інш.

Меў Лідскі павет і свайго вершаплёта — вандроўніка шляхціца Лабуха, які памятаў пра кожныя імяніны ў павеце. І кожны імяніннік або імяніннiца атрымоўвалі ад яго напісаныя ўласнаручна на файнай паперы прыгожыя віншаванні. За што ён звычайна атрымоўваў пэўны ганарар. Рэдкасны ў той час быў тып вандроўнага кантара касцельнага, але ў павеце ім быў шляхціц Саковіч. Ён з’яўляўся на кожным фэсце і ўрачыстым набажэнстве ў касцёле, браў апякунства над спяваючымі ружанец ці другія святыя песні і, як капельмайстар, дырыжыраваў спевам, выбіваючы такт. Летам вандраваў аж да віленскай Кальварыі і там служыў праваднікоm пабожным пры абходзе ў касцёле стацый Крыжовага шляху Збавіцеля.

Лідскі павет падзяляўся на пяць акруг ці ўчасткаў (станаў): Жырмунскі, Жалудоцкі, Шчучынскі, Васілішскі і Эйшышскі. У кожнай такой акрузе ёсць асэсар (станавы пры-

[26] Скапуляры, ці малы скапуляры, уяўляе з сябе два прастакутныя кавалкі тканіны ці іншага матэрыялу, на якія нанесеныя рэлігійныя выявы ці тэксты, змацаваныя паміж сабой шнурамі. Носіцца на целе пад адзеннем такім чынам, што адзін вобраз знаходзіцца на спіне, другі — на грудзях.

[27] Казімір (Даніэль) Нарбут (1738–1807), мысляр-асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1769 г. выдаў у Вільні падручнік па логіцы («Логіка, або Навука разважання і меркавання пра прадметы навукі»). Аўтар курса «Эклектычнай філасофіі». Пераклаў з французскай мовы на польскую кнігу «Ваенная навука прускага караля для яго генералаў» (1771). Член Адукацыйнай камісіі, займаўся рэформай школьнага навучання. Пахаваны ва ўніяцкай царкве ў Радзівонішках на Лідчыне.

[28] Антоні Гарэцкі (1787–1861) — паэт, удзельнік напалеонаўскіх войнаў і паўстання 1831 г., пасля чаго эміграваў у Парыж. Яго сын быў жанаты з дачкой Адама Міцкевіча.

[29] Юстын Нарбут (каля 1773 — 25.09.1845), гісторык, у 1818 г. у Гродне выйшла яго праца «Нарыс каранёў літоўскага народа», у якой прыведзены звесткі пра мясцовую гісторыю і міфалогію. У Вільні надрукавана яго праца «Унутраная гісторыя літоўскага народа з часоў Яна Сабескага і Аўгуста II…».

[30] Каміла Нарбут (каля 1800 — ?) — дачка гісторыка Юстына Нарбута, жыла ў маёнтку Юршышкі. Выступала ў перыядычных выданнях з рыфмаванымі і празаічнымі творамі. Выдала кнігу «Pisma moralne» (Вільня, 1835).

стаў), г. зн.ураднік выканаўча-адміністрацыйнай паліцыі. Павет меў 21 рыма-каталіцкую парафію, гэта: Лідская, Белагрудская, Нецецкая, Ельнінская, Жырмунская, Воранаўская, Беняконская, Асаўская, Эйшышская, Нацкая, Радунская, Забалацкая, Васілішская, Ваверская, Ішчалненская, Жалудоцкая, Лацкая, Навадворская, Шчучынская, Ражанкаўская і Дэмбраўская. Гэтыя парафіі належаць да двух дэканатаў: Лідскага з рэзідэнцыяй дэкана ў Лідзе і Радунскага з рэзідэнцыяй дэкана ў Беняконях. Найпрыгажэйшыя касцёлы: Шчучынскі, Жалудоцкі, Ражанкаўскі (з пункту гледжання архітэктуры) і Забалацкі з прыгожымі абразамі ў вялікім алтары — Пана Езуса на крыжы, а ў бакавых алтарах — Святой Сям'і і святой Ганны, вельмі добрага пэндзля. Найвялікшы касцёл — Эйшышскі. Царквы, даўней уніяцкія (цяпер расійскія), драўляныя, размешчаны: у Сабакінцах (у 1954 г. перайменавана ў Першамайскую. — *Заўвага перакладчыцы*), Радзівонішках, Ганчарах, Зблянах, Астрыно, Орле, Ракавічах, Турэйску, Бабрах, Глыбокім і Беліцы; найвыдатнейшыя ў Дзікушках і Мураванцы (вельмі старажытная). У Беліцы ёсць драўляны кальвінскі касцёлік. Да 1835 г. існавалі наступныя кляштары: кармелітаў — у Лідзе і Жалудку; дамініканцаў — у Васілішках, фундацыі Ліманта і ў Ельні; францішканаў у Шайбакполі; піяраў у Шчучыне і Лідзе; базіліянаў — у Глушнях і сясцёр міласэрнасці[31] — у Шчучыне. У Радунскай парафіі быў філіяльны касцёл у Дубічах, пабудаваны ў лесе над возерам, дзе знаходзілася фігура Пана Езуса, слынная сваімі ласкамі. Сюды з розных, нават далёкіх краёў збіраліся людзі для атрымання адпушчэння граху. Цяпер на загад расійскага ўрада касцёл знесены, а фігура Збавіцеля перанесена да касцёла парафіяльнага ў Начы.

Праз Лідскі павет цякуць рэкі: Нёман, Дзітва, Пеляса, Котра, Лебяда, Нявіша і Лідзея; ёсць некалькі азёраў, найвялікшае — Дубіцкае і Дзявочае Вока. На выспе возера руіны замка каралевы Боны.

Лідскі павет мае прыгожыя і вялікія лясы, над ракой Дзітва вялікае мноства лугоў. З прадпрыемстваў на тэрыторыі павета размешчаны: шкляная гута каля Воранава, шорная фабрыка ў Беняконях, паперня ў Болцішках; у мястэчках дзейнічаюць невялікія яўрэйскія гарбарні. Гандаль збожжам з Каралеўцам праходзіць на Нёмане, а галоўны порт для рачных судоў і аптовыя крамы-склады былі ў Перакопе[32] і належалі маршалку лідскаму Юзафу Марачэўскаму.

Мястэчкі ў Лідскім павеце наступныя:

Шчучын Літоўскі — маёмасць князёў Любецкіх, з касцёлам піярскім і кляштарам сясцёр міласэрнасці, гімназію слынную на ўсю Літву перад 1830 г., утрыманую піярамі; чыстае і файна забудаванае, мае някепскія крамы, дом паштовы, аптэку; праходзяць кірмашы па продажы коней.

Эйшышкі — вяликае і дастаткова люднае, але бруднае мястэчка. Па канстытуцыі 3 Мая на кароткі час было сталіцай асобнага Эйшышскага павета; праводзіўся буйны гандаль збожжам, коньмі, свіннямі, хатняй жывёлай. Кожны чацвёрты чацвер адбываліся вялікія таргі. Гэтае мястэчка называецца Віленскім прадмесцем, бо перакупшчыкі з Вільні прыязджаюць сюды рабіць закупы разнастайных прадуктаў. Касцёл мураваны, пабудаваны часткова на грошы з квесты[33], часткова з фундушоў былога пробашча эйшышскага Каліноўскага.

Жалудок — маёмасць графа Урускага, чыстае і добраўпарадкаванае мястэчка, мае невялікія крамы і вінны шынок, зрэдку бываюць кірмашы па продажы коней; прыгожы парафіяльны касцёл.

---

31 Сёстры міласэрнасці св. Вікенція дэ Поля, вікенціянкі (Szarytki), шэрыя сёстры, каталіцкая жаночая кангрэгацыя, заснаваная ў 1633 г.

32 Цапер вёска Мастоўскага раёна, раней тут праходзіў стары шлях з Вільні.

33 Квеста — збор сродкаў.

Астрына не малое, але бедна забудаванае мястэчка. Насельніцтва яўрэйскае вельмі ўбогае.

Васілішкі — мястэчка люднае і гандлёвае, мае добрыя крамы і разнастайных рамеснікаў-яўрэяў; мураваны касцёл дамініканаў фундацыі маршалка лідскага Ліманта.

Воранава славіцца пончыкамі, якія там выпякаюць; мае драўляны касцёл.

Беліца — маёмасць князя Вітгенштэйна, каля Нёмана з царквой і Кальвінскім зборам.

Орля таксама над Нёманам з царквой.

Радунь — мястэчка малое і беднае.

Ражанка — маёмасць графа Паца (цяпер сканфіскаванае у казну) з касцёлам парафіяльным шыкоўнай архітэктуры, фундацыі Паца.

Становішча Лідскага павета раўніннае, узгоркі сустракаюцца рэдка. Грунты па большай частцы жытнія, пшаніцы сеюць меней. Сельскую гаспадарку праводзяць даўнейшым спосабам: трохполле. Жывёла звычайная. Авечак мерыносаў нямнога. Коні сустракаюцца часцей добрыя. Матэрыяльнае становішча насельніцтва павета больш заможнае, чым у суседніх паветах.

Яўрэі ў Лідскім павеце пераважна цёмныя і фанатычныя, але досыць працавітыя; акрамя гандлю займаюцца разнастайным рамяством і часта сустракаюцца вельмі добрыя цесляры. Прывязаныя да Краю; я нават ведаў некалькіх з іх гарачых патрыётаў.

Як сведкі гістарычных падзей, стаяць лідскія курганы каля Шайбакполя; у гэтым месцы адбылася вальная бітва ліцвінаў з татарамі, у якой Шайбак, брат хана Батыя, быў забіты[34]. З той пары гэтая мясцовасць атрымала назву Шайбакполя. У 1863 г. каля ваколіцы Вільканцаў у Эйшышскай парафіі зімовай парой некалькі дзясяткаў людзей бачылі бітву паветранага войска ў старажытнай вопратцы; пісаў пра гэта Тэадор Нарбут да тагачаснага губернатара гарадзенскага Допельмейра з просьбай прысламць кагонебудзь са спецыяльных людзей дзеля дазнання: ці была гэта фата-маргана[35], ці метэор невядомай дагэтуль прыроды. Але замест астранома быў прысланы спраўнік, які забараніў пад страхам быць павешаным усім сведкам гаварыць пра тое, што бачылі, і на гэтым справа скончылася. У Шаўрах, маёнтку Тэадора Нарбута, знаходзілася многа археалагічных літоўскіх знаходак з розных раскопак у Лідскім павеце; некаторыя камяні з гэтых раскопак былі ўмураваныя ў браму на дарожцы да саду.

## ШЛЯХТА ВАКОЛІЧНАЯ[36]

Шляхта засцянковая, альбо, як яе паўсюдна на Літве называюць, ваколічная, найвялікшая ў Лідскім павеце, у парафіях: Эйшышкі, Радунь, Ліда, Нача, Забалаць, а таксама і ў іншых ваколіцах; у вёсках, што цягнуцца на некалькі дзясяткаў дамоў, дзе жыве толькі сама шляхта часам і нават аднаго прозвішча, як, напрыклад, Ёдка, Чапля, Вільканец, Гервіланец, Болтуць, Сангін, Панятоўскі і інш.

Ваколіцы гэтыя маюць толькі невялікія адрозненні ад звычайных вёсак сялянскіх строем забудовы: з аднаго боку стаяць дамы пад жыллё, свіран, студня з жоравам, агароджаны падворак, пасярэдзіне вуліца, а на другім баку — гумно, стайні, аборы для жывёлы, птушкі хлеўнай. Розніца існуе толькі ў дамах.

Дом шляхціца мае сені, з якіх адны дзверы вядуць у гасцінны пакой — пакой з большымі вокнамі, з драўлянаю ці цаглянаю падлогай; сцены пабеленыя, а на іх абразы Збаўцы, Маткі Божай, святых патронаў, у некаторых партрэты Касцюшкі альбо князя

34 Гэта міфічная гісторыя пра хана Шэйбака.

35 Фата-маргана — рэдка сустраканая складаная аптычная з’ява ў атмасферы, якая складаецца з некалькіх формаў міражоў, пры гэтым аддаленыя аб’екты бачныя шмат разоў і з разнастайнымі скажэннямі.

36 Miron-Bronisław Narbutt. Szlachta okoliczna // Ziemia Lidzka. 1997. № 6 (28).

Юзафа Панятоўскага. Ля сцен стаяць зэдлікі, накрытыя кілімкамі (дыванамі без ворсу), альбо некалькі старасвецкай работы крэслаў, столікі простыя ці шліхтаваныя, а часам са стальніцай у краты для гульні ў шашкі; на століку можа быць калода старых зашмальцаваных картаў для гульні і некалькі кніжак для набажэнства, жыццеабрысы святых, зрэдку якая-небудзь іншая кніжка з тэкстам свецкім: Старажытная хроніка, альбо Марфей — разгадчык сноў, альбо Гісторыя пра Мелюзіну[37].

За гасціным пакоем — другі пакой, званы альковам, дзе стаяць куфры з адзеннем, бялізнай. Адначасова алькоў з'яўляецца спальным пакоем для гаспадароў. Пад абразом Маткі Божай Вастрабрамскай старанна захоўваюцца завешаныя фіранкай старая карабэля[38] і пара пісталетаў ці флінта[39] — як памяткі пра прадзедаў.

З другой паловы сяней дзверы вядуць у вялікую хату, дзе месціцца чэлядзь, з малымі вокнамі, цагляным токам; печ без коміна, толькі з дымнікам, званым пякарняй. Хата гэта нічым не адрозніваецца ад звычайнай сялянскай хаты літоўскай.

Проста ад увахода ў сені бывае камора[40], дзе захоўваецца варанае і розныя гаспадарчыя прыпасы. Ва ўсіх шляхецкіх дварах захоўваецца аднолькавая планіроўка з розніцай толькі ў тым, што ў некаторых дамах замест алькова на адзін пакой болей. У дварах ёсць сады, дзе пад садовымі дрэвамі стаяць вуллі, а на градах квітнеюць камелі[41], кракосы[42], півоні, астры, зелянее рута, божае дрэўца[43], мята пярцовая.

У такіх дамках жыве грамадства шляхецкае: дзяды, бацька з дарослымі сынамі, дачка з малымі дзецьмі. Усе разам працуюць, уласнымі рукамі абрабляюць частку зямлі, перайшоўшую ім у спадчыну, што іх корміць і якую яны любяць. Рэдка шляхціц прадае сваю сялібу, хоць бы яму і добра абяцалі плаціць.

Вопратка засцянковага шляхціца розніцца кроем ад сялянскай сярмягі. Найчасцей носяць капоты[44] з даматканага альбо крамнага сукна ў фалды з тылу на манер тарататкі[45] альбо сурдут, доўгі за калена, камізэльку, каляровую хустку на шыі і боты. Шляхцянкі носяць сукенкі з рысавальнага паркалю альбо з воўны, чапцы і капелюшы. Паненкі галаву не пакрываюць. У часе работы нават на полі, а асабліва ў жніво, шляхцянка засцянковая заўсёды ўбрана ў сукенку, шырокаполы саламяны капялюш і ніцяныя пальчаткі.

Уся сям'я з патрыярхальным укладам слухаліся гаспадара. Раскоша для яе чужая, патрэбы абмежаваныя. Ужо некалькі гадоў вольная ад падаткаў шляхта не ведае беднаты. А старанны шляхціц меў добры запас грошай, што згодна са старадаўнім звычаем змяшчаў пад працэнты ў больш заможнага грамадзяніна, не даючы веры адшчаднаму банку і іншым крэдытным расійскім інстытутам. У такой шляхецкай сям'і заўсёды

---

37 Мелюзіна — фея з кельцкіх і сярэднявечных легендаў, дух свежай вады ў святых крыніцах і рэках. Часта малявалася як жанчына-змяя ці жанчына-рыба (русалка). Выходзіць замуж за смяротнага, паставіўшы яму ўмовай, каб ён ніколі не бачыў яе ў звярыным абліччы. Калі ён застае яе ў такім выглядзе, кідае яго. Каля 1182 г. пра гэтую гісторыю згадвае Вальтэр Мап (Walter Map) у «Henno cum dentibus», каля 1200 г. — Эліян дэ Фруадмон (Hélinand de Froidmont), у 1211 г. Гервасі Тыльбэрыйскі (Gervase of Tilbury), у XIV ст. П'ер Б'ерсір (Pierre Bersuire), пра Мелюзіну пісалі Вальтэр Скот, Гётэ і т. д.

38 Карабэля — парадная шабля ў XVI–XVIII стст., якую выкарыстоўвалі выключна для ўпрыгожвання шляхецкага ўбору.

39 Флінта — старадаўняя крэмніевая стрэльба.

40 Камора — кладоўка.

41 Камелі — рамонкі.

42 Кракосы — календула.

43 Божае дрэўца — мірт.

44 Капота — кафтан.

45 Тарататка — кароткі кафтан.

панавалі адзінства і пакой. Простая шчырая вера, пабожнасць і гасціннасць, любоў да айчыннай зямлі — гэта ва ўсе часы адметныя рысы засцянковага шляхціца.

Да касцёла моладзь найчасцей едзе конна, мужчыны сталага веку і жанчыны — у брычках. Калі шляхціцу надарыцца ісці пехатою, то боты нясе на кійку, набліжаючыся да мэты падарожжа, абувае іх, а робіць гэта дзеля замілавання навакольных. П'янства і разбэшчанасць рэдка сустракаецца між шляхтай, аднак часцей піяцтва, якое найбольш зацятых даводзіць да самагубства. Штодзённая ежа шляхецкія розніцца ад ежы сялянскай большай разнастайнасцю страў. На бяседах і памінках, вяселлях, хрысцінах, ушанаваннях і т. п. — вялікая колькасць ежы, багацце страў. На стале апроч гарэлкі і піва з'яўляецца мядок і кіслае віно з бліжэйшага мястэчка, а ў больш заможных — кава і гарбата. Танцы шляхты — гэта ўжо не скокі і матляханні, а паланэз, англес, вальс, галопада, часам мазурка і овертас. Апрача набожных песень, калі надыдзе вясёлая пара, з прыемнасцю можна паслухаць песні, што спяваюць мужчыны: «Курдэш над Курдэшамі»[46], «Сядзіць заяц пад мядзведзем» і іншыя, альбо паненка заспявае: «Выйдзі, выйдзі, прыгожая, з хаткі», «Тыя некалькі бяроз», «Чаго вочкі заплакала», «Страціўшы шчыгла» і да т. п., якія для патрыёта роднай зямлі з'яўляюцца ўзорам тэксту і мелодыі.

Шляхта засцянковая лідская заўжды пільнуецца дому і гаспадаркі, рэдка выязджае за межы павета, таму часта ў размовах з людзьмі карыстаецца досыць скажонай польскай мовай, якае мае ўдзельныя, толькі ёй уласцівыя правінцыяналізмы і звароты мовы. Напрыклад: «Мусі быць в тым лесе веверкі ест», «Як я в бабкі паньскей служыл і седзял в столе пшы вечежы», альбо на пытанне «Пане С, чы сон юж ксенжа в косцеле?» шляхціч адказаў: «Ту сон вшыстке народы, але не вшыстке обычае», гэта значыць: тут людзі розных заняткаў, але духавенства няма; альбо на пытанне адной грамадзянкі: «Пані Р, ці добра аддала дачку замуж і за каго?» шляхцянка адказала: «Ласне я пані не мувіла? За Мядовскего», — «Чы добже?» — «Ат добже, недобже, ды пшынаймней пільноваць не тшеба!».

Пасля дажынак, восенню па Усіх Святых, шляхта адпраўляе памінальныя службы за душы памерлых родных. Гэтыя службы ў парафіях, населеных шляхтай, адпраўляюцца кожны дзень цэлы месяц і прыносяць немалы даход пробашчу. Пасля службы госці звычайна запрашаюцца на цэлы дзень і пры чарцы ўспамінаюць пра годнасці і прыгоды памерлых, пра лепшыя часы, у якія тыя жылі.

У шляхты лідскай ёсць сімпатыі да Францыі і вера, што толькі з яе дапамогай Край уздыхне. Вера гэта глыбокая і паходзіць з памяці старэйшага пакалення, што помніць яшчэ Вялікую армію Напалеона, якая ў 1812 годзе ішла праз Літву да Расіі. Пры набліжэнні француза ніводнага маскаля на Літве не было. Помню, аднаго разу вярнуўся я з Вільні, зайшоў да мяне сусед, шляхціц засцянковы Буйко, па навіны з горада, і калі я яму распавёў, што выйшаў указ, каб сыны грамадзян, маючых сто душ, абавязкова служылі ў вайсковай альбо цывільнай службе, Буйко з вялікай упэўненасцю сказаў: «Калі так, то будзе вайна, даю пану слова!» Пытаюся: «Адкуль такая ўпэўненасць і чаму павінна быць вайна?» Адказаў: «Француз гэтага не сцерпіць». Я змаўчаў на гэткі пераканаўчы аргумент.

Пераслед і ўціск на засцянковую шляхту праводзіўся касаваннем яе шляхецтва, запісам у аднаасобнікі і забіраннем у рэкруты, зняверанная і абдзіраная чынавенствам, з памяццю ад дзядоў і бацькоў пра свае даўнейшыя свабоды і роўнасці грамадзянскія, калі шляхціц на нарадзе быў паважаны за роўнага з ваяводам, шляхта засцярожылася ў сабе і старанна захоўвала ў сваіх сэрцах ва ўсіх пакаленнях любоў да Айчыны і дух пасвячэння для яе, а ў звычаях хатніх — народныя традыцыі з даўніны. Калі б пісьменнікі гістарычных

[46] Курдэш — ад турэцкага слова *karyndasz* (брат, кампаньён), у старажытных ліцвінскіх святочных песнях гэтым словам завяршалася страфа.

аповесцяў хацелі б праўдзіва намаляваць паспалітую шляхетнасць, то толькі і трэба, што змаляваць з натуры больш сталага па ўзросце прадстаўніка шляхты засцянковай лідскай.

Пасля заняпаду Рэчы Паспалітай і падзелу Краю шляхта лідская мала клапацілася аб навуцы і адукацыі сваіх сыноў. Зрэдку пасылала іх да школ піярскіх пры сваіх касцёлах, што фінансаваліся з розных прыватных фундушоў, пакуль тыя не былі забраныя ў скарб расейцамі; альбо аддавалі іх за паслужнікаў да ксяндзоў — прафесараў, альбо пры багацейшых панічах — студэнтах, з якімі разам вучыліся ў школах. Такія шляхецкія сыны па заканчэнні школ павятовых найчасцей мелі працу ў канцылярыі павета і не раз займалі высокія ступені ў чынавенскай іерархіі, не трацячы пры гэтым цалкам рысы народнага духу Рэчы Паспалітай. Другія паступалі ў семінарыі свецкіх ксяндзоў альбо да навіцыніятаў законных альбо арандавалі драбнейшыя маёнткі. Шляхцянкі ў кляштарах у законніц навучаліся работам і выходзілі да працы служанкамі і аптэкаркамі. Паўсюдна навука шляхціца і шляхцянкі засцянковай абмяжоўвалася веданнем катэхізіса, уменнем чытаць, пісаць і лічыць. Уменне набывалася ў шляхціца, што зімой кватараваў у доме, альбо ад мясцовага арганіста. Аднак значная частка шляхты наогул не ўмела пісаць.

Лідская шляхта давала на ўсю Літву аканомаў, намеснікаў, пісараў павятовых. З яе кола былі арганісты, садоўнікі, ключвойты[47]. Рамяством і гандлем, як і даўней, шляхціц не займаўся. Да службы вайсковай расійскай таксама не ўступаў, хіба што прымусова, калі былі перароблены на аднаасобнікаў.

У апошнія часы, калі шляхта засцянковая лідская жыла лепей, чым звычайныя грамадзяне, г. зн. па-паўпанску, узнікла патрэба вучыць дзяцей навукам, і шляхта пасылала сваіх сыноў не толькі ў школы, але і ва ўніверсітэты, а дачок, найчасцей з сем’яў аканомаў, навучалі ў прыватных пансіёнах. Паненкі затым працавалі гувернанткамі, а некаторыя праз шлюб з заможным чалавекам, падымалі з упадку ўсю сваю збяднелую сям’ю.

У 1831 годзе і ў апошнім паўстанні 1863 года шляхта засцянковая пастаўляла найвялікшы кантынгент моладзі ў шэрагі народныя, несла апошні грош на ахвяру дзеля Краю, таму шляхта засцянковая цярпела найбольшы праслед з боку ўрада. Спальваліся дамы і гаспадарчыя пабудовы, забіраліся маёнткі і цэлыя сем’і шляхецкія высылаліся этапам у Сібір альбо ўглыб Расіі, нават без аніякай прычыны, дастаткова было даносу першага жандара альбо паліцыянта, што захоўваецца зброя альбо што калісьці ў засценку ўкрывалі паўстанца. Так у Лідскім павеце ў Дэмбраўскай парафіі вынішчана цэлая ваколіца Шчукі і некалькі іншых.

На высылцы ў Расіі, наколькі я мог бачыць, шляхта засцянковая вызначалася працавітасцю, пачцівасцю, міласцю да веры дзядоў-прадзедаў сваіх і глыбокай верай у блізкае ўваскрашэнне і будучыню Айчыны.

Не зламаны праследам дух неаднойчы ўзбуджаў пашану ў саміх маскалёў. На высылцы ў Расіі найчасцей шляхціц браўся за рамяство і нават займаўся дробным гандлем.

У вязні ў Вільні ў кляштары Св. Пятра бачыў шляхціца засцянковага з-пад Ліды Стэфана Вільбіка. Ён набіраў добраахвотнікаў у аддзелы Людвіка Нарбута ў Лідскім павеце і дастаўляў жывёлу. Арыштаваны расейцамі з мандатам Урада Народнага, пасаджаны быў у вязню і аддаены пад ваенны суд. Захоўваў поўны спакой і моцную волю і нікога не скампраментаваў. У калегі па вязніцы, які яго мне прадставіў, Вільбік пытаўся: «Скажы, пан, які можа мне быць дэкрэт?» «Могуць павесіць», — той адказаў. Задумаўся трошкі Вільбік, але праз хвіліну спытаў: «А ці я буду ў гісторыі?» — «Абавязкова: гісторыя пераказвае нашчадкам імёны ўсіх, хто заслужыў у Айчыны», — адказаў той. На што Вільбік з усёй энергіяй выказаў: «Хвала Богу — няхай вешаюць!» Потым яго выслалі на цяжкія работы ў Сібір.

[47] Ключвойт — выбраны прадстаўнік ад жыхароў ўсяго ключа. Ключ — вялікі двор, які дзяліўся на фальваркі ці засценкі. — *Заўвага перакладчыцы.*

## ПАН ЮЗАФ ГРУЖЭЎСКІ[48]

Знаў я аднаго з дэпутатаў былога сейма, жыхара Лідчыны Юзафа Гружэўскага[49], які меў ўжо болей за 80 гадоў, афіцэра яшчэ з часоў Касцюшкі, дэпутата былога Трыбунала Літоўскага і прэзідэнта межавага суда ў Лідзе. Быў гэта ветэран сеймаў і чалавек рэдкай дасціпнасці і яснасці думак (precense d'esprit), так, што нават такому дзікаму варвару, як тагачасны губернатар гарадзенскі Мураўёў, здолеў спадабацца і ўсё ад яго атрымаў. Нават калі потым губернатар стаў міністрам дзяржаўных маёмасцяў, ён дапамог Гружэўскаму выйграць судовы працэс і набыць маёнтак Кульбакі.

Апавядаў мне мой бацька пра яго некаторыя анекдоты. Напрыклад.

Гружэўскі, будучы яшчэ маладым кавалерам, любіў іграць у карты і жыць напаказ, многа гаварыў пра свой дастатак, а кішэнь не заўсёды была поўная. У Вільні, калі быў дэпутатам Трыбунала, неяк перад кабетамі пахваліўся, што нібыта каля горада набыў прыгожы вясковы фальварак. Жанчыны ўпрасілі, каб у гэтай набытай маёмасці зрабіў вясковы падвячорак з танцамі. Гружэўскі авансам запрасіў іх, паабяцаўшы прызначыць дзень і паказаць дарогу, па якой належыць ехаць, але, выйшаўшы, задумаўся, як выбрацца з гэтага клопату. Успомніў сабе, што мае паблізу Вільні даўнейшага знаёмага сваіх бацькоў, пана чашніка Лучку — гаспадара маёнтка ў вельмі прыгожым кутку. Прыязджае да яго і просіць дазволу на прыём дам у яго доме. Пасля доўгіх адказаў і размоў пра марнатраўства чашнік згадзіўся. Узрадаваны Гружэўскі вяртаецца ў Вільню, рыхтуе ўсё, што патрэбна да вечарыны, запрашае гасцей і прыязджае, каб пераканацца, што ўсё прыгатавана як належыць. Смутная трывога нараджаецца ў яго, калі на выгане ён бачыць нераспакаваныя фурманкі і дазнаецца, што чашнік перадумаў і не дазваляе ў сябе аніякіх гуляў! Просіць яго зноў, даводзіць яму, што ён кампрамэтуе Гружэўскага, але дарэмна. Нарэшце згаджаецца, што праект няўдалы і што ён неадкладна вышле да Вільні лісты з прабачэннямі і адменіць гасціну. Пасля гэтага выходзіць на выган і прыказвае служкам неадкладна заняцца неабходнымі прыгатаваннямі, а сам, дабыўшы з воза некалькі бутэлек віна, вяртаецца да чашніка і прапануе перакуліць разам з ім пасяброўску бутэлечку. І пачынаюць піць! Калі пасля некалькіх бутэлек чашнік ужо добра даспеў, Гружэўскі прапанаваў яму, каб не пагаршаць справу, перайсці ў спальны пакой і там пры бяседзе прадоўжыць тосты. Праводзіць туды добра разамлеўшага чашніка, пераапранае яго ў шляфрок[50], чапец і ўгаворвае трошкі паспаць.

Той скора засынае. Гружэўскі замыкае яго на ключ, кажа зачыніць акно і ўжо свабодна кіруе падрыхтоўкай салону. З'язджаюцца госці, дамы хваляць прыгожую маёмасць і віншуюць з яе набыццём. Аднак калі пасля афіцыйнай часткі распачалася забава і танцы, чашнік прабудзіўся, бо спальны пакой яго быў каля салона, і пачаў галасіць, каб яго выпусцілі. Ствараецца агульнае замяшанне, Гружэўскі пачынае перапрашаць гасцей і расказвае, што мае сваяка дзядка, слабаватага на розум, які мае пункцік: пачувае сябе гаспадаром дому і лічыць, што з яго дому робяць карчму, таму ён, Гружэўскі, змушаны падчас прыёму гасцей у сябе закрываць дзядка. У гэты час адчыняюцца дзверы і паказваецца чашнік у неахайным туалеце, напалову п'яны. Прысаромлены, ён просіць адчыніць акно і вылазіць праз яго. Астатак ночы, пакуль не параз'язджаліся госці, праводзіць у доме прыслугі.

Пасля балу Гружэўскі папрасіў прабачэння, патлумачыўшы, што, прыціснуты абставінамі, быў вымушаны выставіць пана Лучку за вар'ята, неабходна ж было яму

---

[48] Miron-Bronisław Narbutt. Imc. W. Pan Józef Grużewski // Ziemia Lidzka. 1998. № 1 (29).

[49] Юзаф Гружэўскі, капітан войск польскіх, суддзя мяжовы Лідскага павета і апошні прэзідэнт гродскі лідскі, нарадзіўся ў 1760 г., памёр у 1845 г., у 1826 г. набыў ад герцага де Біёль фальварак Кульбакі, 11 км ад Ліды (у 1826 г. вёска Кульбакі, дамоў 24, душ мужчынскіх 60, жаночых 54) і тут жыў да смерці. — *Заўвага рэд.*

[50] Шляфрок — хатні халат. — *Заўвага перакладчыцы.*

запэўніць кабет, што ён асабіста і ёсць уладальнік маёнтка. Наступіла згода і новая папойка.

Калісьці ў Варшаве Гружэўскі іграў у карты і не меў крэдыту. Удаўся слабым і папрасіў гаспадара дому, у якім жыў, прывесці да яго адваката для напісання тастамента. У тастаменце аб'яўляе, што ён бяздзетны і не мае блізкіх крэўных, таму значную частку свайго дабра на Літве адпісвае сваім прыяцелям: пералічвае фальваркі, запісвае кожны фальварак канкрэтнаму ўладару, а адзін фальварак (належны да скарбу) даруе гаспадару, якога просіць быць сведкам тастамента. Між тым наракае на недакладнасць свайго агента, які не прысылае яму грошы. Гаспадар пераканаўся, што Гружэўскі ёсць пан заможны, сам яму пазычыў сто дукатаў, з якімі хітрун патаемна выехаў з горада. Доўг гэты потым адаслаў.

На сейме ў часы Мураўева ўмеў дасціпнымі і трапнымі рэплікамі выправадзіць з зала сейма прысланага ад урада пракурора і застаўся непакараны. Калі на іншым сейме адзін з грамадзян, жывучых на поўным пансіёне ў Гружэўскага, кінуў супраць яго чорную крэску (у вазон для галасавання, прагаласаваў супраць), Гружэўскі гэта запомніў і, вярнуўшыся дахаты падчас абеду, калі усе восем яго кватарантаў сабраліся разам, пачаў раздаваць суп з вазы — суповай місы. Перад тым палічыў асоб, паўтараючы, што ёсць памылка. Адзін з іх спытаўся, што гэта можа значыць, калі ў наяўнасці было восем каля стала. Адказаў: «Як да вазона, дык сем, як да вазы — дык восем, выразная памылка». Вінаваты моцна пачырванеў, а абед пайшоў далей аздоблены дасціпнай размовай Гружэўскага.

У найбольш цяжкіх становішчах, у якія не раз трапляў, заўжды яго ратаваў трапны выраз, яснасць думкі і хуткі розум.

## СЕЛЯНІН У ЛЕТАРГІЧНЫМ СНЕ[51]

З-за мяжы паміж зямельнымі ўладаннямі Гружэўскі меў судовую справу з суседам. Суседа жадаў настрашыць і прымусіць да саступак і згоды, карыснай для сябе, таму ўжыў такога фортэля.

На спрэчным кавалку зямлі здарылася свара і бойка паміж сялянамі Гружэўскага і яго суседа, якая скончылася сінякамі – варожыя бакі ўзаемна ўзнагародзілі імі адзін аднаго. Сярод браўшых удзел у бойцы быў селянін Гружэўскага — Мацей, хударлявы мужчына з бледна-жоўтай скурай.

Пан паклікаў яго і ўгаварыў, каб сказаў, што моцна збіты. Гэтым часам хутка робяць труну і назаўтра рана, пусціўшы пагалоску, што Мацей памёр, вязуць труну за 10 вёрстаў у павятовы горад Ліду. Мацей і некалькі людзей з вёскі, некалькі кабет, ідучы пры труне, весела гамоняць, а Гружэўскі па дарозе гэты картэж падганяе. Наблізіўшыся да горада ён пачаставаў усіх гарэлкай, загадаў Мацею лажыцца ў труну і прыкінуцца памерлым, кабетам — плакаць і галасіць, пералічваючы даброты нябожчыка, згодна са звычаем літоўскіх сялян; а сам, як міністр цырымоніі, павольна паехаў за труной. Заехалі ў горад Ліду — бабы яшчэ галасней плачуць. Збіраецца на вуліцы купка зацікаўленых. І тут Гружэўскі кажа пахавальнаму картэжу спыніцца, а сам, адаслаўшы двух коней да карчмы, ідзе да павятовага доктара, каб з ім пагаварыць аб выдачы пасведчання, што Мацей на самай справе забіты, завяраючы яго, што гэтае пасведчанне ўраду перададзена не будзе. Сустракае доктара на вуліцы і пачынае пераказваць свой інтарэс. Доктар Замяцін быў маскаль, але здаўна жыў у Лідзе, жонку меў тутэйшую, любіў выпіць, але быў больш сумленным ад сваіх землякоў і знаў сваю навуку; добра ведаў Гружэўскага і здагадаўся, што ў гэтый справе ёсць нейкая містыфікацыя. Не дазволіўшы яму скончыць аповед, пытаецца: дзе цела памерлага? Гружэўскага адказвае, што картэж затрымаўся на вуліцы за некалькіх крокаў, і разам з доктарам ідзе

[51] Miron-Bronisław Narbutt. Imc. W. Pan Józef Grużewski // Ziemia Lidzka. 1998. № 1 (29).

аглядаць нябожчыка. Гружэўскі стараецца адвесці яго як найдалей ад труны, але яны сустракаюць па дарозе павятовага справавода. Доктар прапаноўвае разам з ім напісаць патрэбны акт. Гружэўскі не мае часу папярэдзіць справавода, чаго ён уласна хоча, бо яны ўжо падыходзяць да труны. Пакідае ён усё на волю выпадку. Замяцін набліжаецца да труны, загадвае яе адчыніць і, зірнуўшы на селяніна, з упэўненасцю гаворыць: «Забіты!» Гружэўскі рады і зараз жа дамагаецца выдачы пасведчання, але доктар (разам з ім быў і цікаўны да ўсяго такога яго фельчар Маеўскі) удакладняе, што трэба зрабіць уздоўж цела разрэз, г. зн. ускрыць труп. Гружэўскі просіць адкласці такую рэч, але Замяцін патрабуе зрабіць гэта неадкладна і загадвае заехаць з памерлым на першы падворак і кажа фельчару: «Маевский, принеси инструменты!» Селянін ляжыць спакойна, бо, чуючы пра інструменты, думае, што будзе нейкая музыка. Гружэўскі, збянтэжаны, просіцца. Праз некаторы час прыносяць скрыню з хірургічнымі інструментамі. Доктар, дастаўшы скальпель, дае яго Маеўскаму і, падміргнуўшы, моцна крычыць: «Режь ему брюхо!» Мацей, пачуўшы такі вырак, падымаецца з труны. Настрашаны цікаўны люд разбягаецца ў розныя бакі, а нябожчык уцякае за плот. Доктар, справавод і фельчар смяюцца. Гружэўскі прыкідваецца аслупянелым ад здзіўлення.

Доктар наблізіўся да яго і гаворыць: «Пан Гружевский! Вы хотели старого доктора обмануть». Гружэўскі спакойна паўтарае: «Бедны Мацей быў у летаргічным сне!» Замяцін і справавод замаўчалі, потым пачалі зноў смяяцца, і ўся справа мела працяг пры бутэльцы і так пайшла ў нябыт. Мацей, вярнуўшыся дадому, ужо больш ніколі не ўдаваўся за памерлага.

Гружэўскі аддзячыў сялян, саступіў суседу ў справе аб мяжы, а гаворка пра гэты трагікамічны выпадак доўга кружыла ў павеце.

Юзаф Гружэўскі быў жанаты з Казімірай Нарбутоўнай — дачкой Антонія Нарбута — маршалка лідскага з лініі кобрынскай. Памёр бяздзетны. Маёнтак Кульбакі пасля яго смерці перайшоў да яго радні Вэндзігольцаў.

## ДУБІЧЫ[52]

У Лідскім павеце, у глыбіні лясоў, над вялікім возерам стаяў невялікі драўляны філіяльны касцёл у Дубічах, а ў ім у вялікім алтары — фігура Пана Езуса з цярновым вянком, падобная да фігуры, што знаходзіцца ў Вільні на Антокалі ў даўнейшым касцёле. Богу спадобілася гэтае места асвяціць сваімі ласкамі.

На працягу года ў Дубічах было некалькі фэстаў. Прыбывалі асабістыя панскія павозкі, брычкі шляхецкія, вазкі ўсялякага роду з пабожнымі і шмат пешых пілігрымаў. Усялякіх класаў людзі спяшаліся на вігілію на ўрачыстыя нешпары[53]. Маленькая літоўская вёска з некалькіх дамоў пры касцёле, невялікі домік ксяндза і адзіная карчма былі не ў стане змясціць прыбываючых. Гумны і свіраны служылі паням за будуары і салон, а люд вясковы большай часткай адпачываў пад голым небам і пры першым святле спяшаўся да спавядальніц. Зранку ў дзень фэсту прыязджалі яўрэі-крамнікі, развешвалі ў прызначаных будах розныя тавары: рознакаляровыя пацеркі, яскравыя хустачкі, іголкі, напарсткі, разнастайныя ніткі, зіхоткі, усё гэта цешыла вока, і кожная пакупніца спяшалася штонебудзь набыць. У другім баку прадавалася палатно хатняга вырабу, сушаныя грыбы, шапкі і боты мужчынскія.

Перад касцёлам у два шэрагі сядзяць жабракі. Рознага кшталту калекі спяваюць разнастайныя святыя песні альбо, паўтараючы раз і назаўсёды завучаныя вершаваныя слупкі, заклікаюць да літасці тых, хто выходзіць з касцёла. І сыплюцца грошы да іх рук,

52 Miron-Bronisław Narbutt. Dubicze // Ziemia Lidzka. 1998. № 2–3 (30–31).

53 Нешпары — чытанні малітваў нараспеў. — *Заўвага перакладчыцы.*

а хлеб — да торбаў. Гоман ад размоваў, крыкаў і плачучых спеваў жабракоў, рознакаляровыя строі сялян, яўрэяў, шляхты і паноў — усё гэта ўяўляла з сябе абразок, годны пэндзля мастака фламандскай школы.

Ксяндзы спавядалі не толькі ў касцёле, але і на могілках пры касцёле. Ісці за працесіяй можна было з цяжкасцю з-за людскіх тлумаў. Пасля св. імшы і нешпараў уся гэтая гурма людзей вярталася дадому, і на наступны дзень у Дубічах зноў панавала звычайная цішыня, аж да наступнага фэсту. Мясцовыя сяляне былі заможныя, богабаязныя і любілі Край, жылі з гаспадаркі і рыбалоўства.

У 1863 годзе, калі пачалося народнае паўстанне, лідскі аддзел пад кіраўніцтвам Людвіка Нарбута часта быў у Дубіцкіх лясах, і ў гэтых лясах у красавіку 1863 года адбылася бітва з расейцамі на чале з Цімафеевым, у якой цэлая партыя паўстанцаў здолела перайсці ў іншае месца, але яе кіраўнік з трынаццаццю ваярамі з блізкага атачэння лідскай шляхты палеглі. Салдаты маскоўскія абадралі трупы на полі бітвы і да Дубіч прывезлі іх нагія целы. Тагачасны генерал-губернатар віленскі Назімаў дазволіў ушанаваць памерлых пахаваннем у касцёле. Была сабраная патрэбная адзежа і зроблены труны. Целы гэтыя ляжалі тры дні ў бабінцы касцельным. Рыцарскі катафалк з дванаццаці простых трун паставілі ў касцёле, а слёзы люду віленскага і грамадства, енкі мацярок, сясцёр і сірот палеглых, быў найвыразнейшай мовай на іх пахаванні.

Усе прысутныя мелі за гонар несці гэтыя дарагія труны да места іх вечнага спачыну і пакладзены яны ўсе былі ў адной агульный магіле пры касцёле, а людзі ўпрыгожылі гэтае месца найпрыгажэйшым помнікам, бо курган быў насыпаны уласнымі рукамі з роднай зямлі. Магіла абаронцаў Волі была страшнай для ворагаў: людзі збіраліся ля магілы і чыталі малітвы. Рускія знеслі касцёл і, не баючыся святакрадства, раскідалі курган, зруйнаваўшы яго з зямлёй. Аднак не згінула праз гэта памяць пра верных сыноў Краю, захоўваецца яна ў сэрцах усіх справядлівых і годных ліцвінаў і палякаў.

## ШЛЮБНЫЯ ВОЙСКІ[54]

Часта і цяпер сярод лідзян старэйшага веку можна пачуць тытулы-мянушкі: «капітан войска Ляшсковіча», «маёр войска Валёвай» і т. п., якімі жартаўліва называлі людзей сямейных. А гісторыя з’яўлення такіх тытулаў наступная.

Быў у Лідскім павеце быў заможны стараста па прозвішчы Валь, уладар Ішчалны, Голдава і іншых вялікіх гаспадарак. Ён ужо у сталым веку ажаніўся з паннай з Шукевічаў і быў у яе так закаханы, што перад шлюбам апісаў на жонку ўсю сваю маёмасць. Пані Валёва была досыць энергічнай жанчынай і праз некаторы час самастойна кіравала не толькі маёнткам, але і асобай мужа, пра існаванне якога ўсе пачалі забывацца, бо ў размовах упаміналі толькі пра пані Валёву. Аднаго разу, калі ў маёнтку былі госці, Валь некалькі разоў паспрабаваў падтрымаць бяседу, аднак адна з госцяў цішком запыталася ў Валёвай: *«Як завуць гэтага старога, напэўна гэта эканом пані?»* І тая, пачырванеўшы, працадзіла праз зубы: *«Гэта мой муж»*. Сястра ж пані Валёвай была замужам за Каралем Лясковічам. Лясковіч быў чалавек небагаты, але меў добрую галаву і моцную волю. Сваёй жонкай кіраваў дэспатычна. Прыкладна гэтак жа, як Валь у жонкі, яна не мела аніякага голасу ў мужа. Абедзве пары жылі разам, бо Лясковіч быў даверанай асобай Валёвай і займаўся яе гаспадарчымі справамі.

Кароль Нарбут, лідскі крайчы[55] і земскі пісар, будучы чалавекам вясёлага характару, падзяліў сваіх жанатых землякоў на два войскі: *«войска Валёвай»* і *«войска Лясковіча»*.

---

[54] Miron-Bronisław Narbutt. Armije małżeńskie // Ziemia Lidzka. 2002. № 1 (48).

[55] Крайчы — пасада пры княжацкім двары з XIII ст.: наразаць ежу пасля таго, як стольнік прынёс стравы на княжацкі стол.

Усе мужчыны, якія былі пад абцасам у жонак, і тыя, якія паслухмяна выконвалі жаночыя загады, адносіліся да афіцэраў войска Валёвай.

А ў залежнасці ад ступені заслуг — хто больш ці менш быў пакорны і падатлівы, атрымоўвалі патэнт на званні, ажно да генерала. І наадварот, мужы, якія трымалі сваіх жонак моцна, былі афіцэрамі войска Лясковіча.

Армія Валёвай мела ў сваіх шэрагах і капеланаў. Гэтымі капеланамі былі пробашчы, заваяваныя сваімі гаспадынямі.

Патэнты войска Валёвай гучалі прыблізна так:

«Мы, з яснавяльможнай ласкі, фельдмаршал войска Валёвай, абвяшчаем усім навокал і кожнаму асобна, каму аб гэтым ведаць патрэбна, што капітану NN прызначаецца (пералічваліся заслугі (падзеі), якія давалі права на ўзнагароду) званне маёра; пра гэта абвясцілі і даводзім: усім генералам, штаб- і обер-афіцэрам, усім шараговым вышэйназванага NN прызнаваць за маёра і належным чынам вайсковы гонар аддаваць. Выдадзена ў нашым галоўным штабе».

Подпіс фельдмаршала і начальніка штаба, а таксама пячатка на воску. На пячатцы быў вобраз тоўстай бабы, якая сядзела ў фатэлі з пугай, а перад ёй укленчаны муж. Вакол іх надпіс: «Пячатка войска Валёвай». На пячатцы войска Лясковіча быў мужчына які карае схіленую перад ім жанчыну і ўнізе надпіс: «Гэта я, служка пана майго». Вакол надпіс: «Пячатка войска Лясковіча». Калі ж хто-небудзь з афіцэраў войска Валёвай знаходзіў адвагу стаць самастойным у сям'і, яго пераводзілі ў войска Лясковіча; аднак гэта здаралася рэдка, і часцей афіцэры войска Лясковіча пераходзілі да Валёвай, бо нездарма Красіцкі напісаў: «Мы кіруем светам, а намі жанчыны».

У войску Валёвай быў асобны катэхізіс: былі абавязаны верыць, што адкупіла і асвяціла іх Яе Мосць. Як узнагароду за заслугі вышэйшыя афіцэры атрымоўвалі ад Яе Мосці права звацца адмысловым дрожджавым блінам, спечаным без агню і вады белай ручкай пані на марсавых іх палічках. Добры шляхецкі гумар выяўляўся ў гэтых жартах. Жартавалі ўзаемна, не крыўдуючы. Прылічалі сябе да найстаражытнейшых рыцараў, бо першы чалавек Адам ужо ў раі прыслугоўваў Еве. Гэтыя званні так увайшлі ў моду ў Лідскім павеце, што амаль кожны абывацель меў пэўны вайсковы чын і прыпіску да аднаго з войскаў.

Аднойчы на балі ў вёсцы Перапечыца Рапніна пазнаёмілі з крайчым Нарбутам. Падчас знаёмства Рапнін сказаў: *«Я з'яўляюся фельдмаршалам*[56] *расійскай арміі і меў бы задавальненне даведацца аб тым тытуле, які я мог бы мець у войску, створаным панам Нарбутам»*. На што Нарбут адказаў: *«Гэта будзе залежыць ад заслуг Вашай княскай светласці, заўважаных на адпаведным полі славы, прызначаным выключна для гэтых войскаў»*.

Праз нейкі час дамы намовілі княжну Рапніну падысці да мужа, які іграў у карты, і палашчыць яго па твары, што яна і зрабіла. Прайшло некалькі хвілін, і камердынер прынёс вялікі запячатаны пакет, які падаў князю. Рапнін неадкладна адкрыў пакет і знайшоў у ім патэнт на чын падхарунжага *«войска Валёвай»*. Задаволены, ён, схаваўшы гэты патэнт, сказаў, што далучыць яго да іншых сваіх патэнтаў з вайсковымі тытуламі і ўзнагародамі.

*Пераклад Галіны ЛАЎРЭШ,*
*каментары Леаніда ЛАЎРЭША*

---

56 Імператар Павел 18 лістапада 1796 г. прысвоіў 62-гадоваму Рапніну чын генерал-фельдмаршала, а ў 1798 г. звольніў яго са службы. Гэта таксама дазваляе датаваць падзеі ў Перапечыцы паміж 1796 і 1798 гг.

# УНІЯЦКІ СВЯТАР АДАМ ПЛАЎСКІ

У гербоўніку Каспра Нясецкага род Плаўскіх фігуруе ў Слонімскім павеце[1].

З кнігі «Універсітэт Віленскі» Юзафа Бялінскага бачна, што Адам Плаўскі паходзіць з тэрыторыі Брэсцкай дыяцэзіі, у 1818–1822 гг. ён вучыўся ў Галоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце і закончыў яе са ступенню магістра[2]. У данясенні мітрапаліту Булгаку з Віленскага ўніверсітэта ад 6 ліпеня 1822 г. паведамляецца пра неабходнасць даслаць у Галоўную семінарыю двух клірыкаў з Брэсцкай епархіі замест *«скончыўшых чатырохгадовы курс навук Адама Плаўскага (са ступенню магістра багаслоўя) і Іосіфа Каяловіча*[3]*»*. Брэсцкая епархія мела пяць месцаў у семінарыі[4]. У Віленскай Галоўнай семінарыі ён вучыўся разам з галоўным «ліквідатарам» уніі Сямашкам.

Яшчэ ў лістападзе 1827 г., знаходзячыся ў Пецярбургу, протапрэсвітар Сямашка па прапанове расійскага ўрада, піша на імя дырэктара дэпартамента замежных веравызнанняў Карташэўскага запіску якая потым стала знакамітай, у якой прасіць урад ажыццявіць прапанаваныя ім рэформы, у выніку якіх уніяты *«непазбежна злучацца з праваслаўнай царквой»*. Неўзабаве 2 красавіка 1833 г. ва ўзросце 35 гадоў Сямашка прызначаны Літоўскім епархіяльным грэка-каталіцкім епіскапам. І ўжо 12 мая ён падпісвае прашэнне Сіноду аб асабістым далучэнні да Праваслаўнай царквы, але застаецца грэка-каталіцкім епіскапам. У гэтай паперы ён піша, што ўжо 6 гадоў лічыць сабе праваслаўным і калі да гэтага часу не змяніў веру афіцыйна, дык для таго, каб зручней было далучыць і 1,5 мільёна ўніятаў[5]. Па прапанове епіскапа Іосіфа, грэка-ўніяцкая калегія 7 лютага 1834 г. вырашыла прыняць для ўніяцкіх цэркваў служэбнік і кнігу спеваў пры набажэнствах маскоўскага друку (Маскоўскай сінадальнай друкарні)[6].

Першы вялікі пратэст супраць кніг маскоўскага друку быў у Навагрaдку, дзе для сустрэчы з Сямашкам сабралася да 60 святароў і наваградскі благачынны Ян Гамаліцкі ад іх імя прадставіў пісьмовае прашэнне, ён прасіў каб яны былі вызваленыя ад ужывання гэтых кніг (тэкст прашэння ў дадатку да артыкула). Нават не прачытаўшы дакумент, епіскап тут жа загадаў усім святарам чытаць па-стараславянску. Чыталі яны дрэнна і атрымалі вымову, пасля чаго епіскап дадаў, што меркаванне гэтых малаадукаваных святароў не можа лічыцца грунтоўным. Пасля закрыцця сходу Сямашка зрабіў строгую вымову благачыннаму з пагрозай, што сашле яго ў манастыр і пазбавіць прыхода (гэта значыць — сродкаў да існавання), калі ён праз тры дні не прадставіць пісьмовага адрачэння ўсіх святароў ад свайго прашэння і не выдасць завадатараў. Пасля моцнага ціску святары выдалі завадатараў і падпісаліся пад неабходнай паперай[7].

Сярод «завадатараў» быў і Адам Плаўскі, які, як высокаадукаваны чалавек, разумеў, што пераход на маскоўскія богаслужбовыя кнігі — гэта пачатак канца уніі. Сямашка

---

[1] Herbarz polski Kaspra Niesieckiego S. J. Lipsk. 1841. T. 7. S. 327.

[2] Bieliński Józef. Uniwersytet Wileński. Kraków. 1899–1900. T. I. S. 112.

[3] Бацька гісторыка М. Каяловіча.

[4] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 741.

[5] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна. 1893. С. 40, 70, 68.

[6] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 78.

[7] Киприанович г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 82.

і яго аднадумцы дэкларавалі, што імі ўсё робіцца для выгоды кліру і ўмацавання уніі[8], а святароў, якія разумелі, што справа ідзе да ліквідацыі іх царквы і не маўчалі, абвінавачвалі ў распаўсюдзе чутак. Трэба сказаць, што пераход на маскоўскія кнігі, вельмі ўсхваляваў нават міністра ўнутраных спраў Д. М. Блудава, міністр хваляваўся, што супрацiў можа выйсці з-пад кантролю урада[9], але Сямашка даказаў яму неабходнасць такога кроку і таму узяў на сабе адказнасць. Далей, каб перамагчы і не дапусціць выбуху незадавальнення, епіскап бязлітасна караў нязгодных і ізаляваў лідараў супраціву.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна захоўваецца справа 1834 г. «О переводе в Волнянский монастырь священников Плавского Адама, Дылевского Игнатия и Горбацевича Антона за распространение ложных слухов»[10]. Справа мае грыф «сакрэтна».

У першым дакуменце справы Сямашка піша: «Яго правасхадзіцельству спадару гродзенскаму губернатару М. М. Мураўёву»:

*27 верасня*
*Ва ўласныя рукі*
*Ваша правасхадзіцельства*
*Міласэрны Васпан.*

*Пра зламысныя дзеянні святароў — Любчанскага Адама Плаўскага, Навагрудскага Ігната Дылеўскага і Вядзьмянскага Антонія Гарбацэвіча. У бытнасць маю ў Наваградку, асабістым меркаваннем і пісьмовай аб'явай большай паловы духавенства Навагрудскага дэканата, пераканаўся, складзенае імі прашэння супрацьлеглае іхняму абавязку і здароваму сэнсу: за пісанне, інтрыгі і падманы, ужытыя імі, каб ўцягнуць іншых святароў да падпісання прашэння, за інтрыгі і сяўбу разладу паміж духавенствам, за распаўсюд... ілжывых чутак і выдуманых вестак, я прапанаваў кансысторыі падвергнуць гэтых святароў: Плаўскага, Дылеўскага і Гарбацэвіча, шасцімесячнай епітым'і ў Валнянскім манастыры, а звыш таго апошняга з іх зняць з займанай дэпутацкай пасады.*

*<...>*

*Пра маё распараджэнне... лічу неабходным паведаміць Вашаму правасхадзіцельству і пакорна прасіць, каб азначаныя вышэй святары Адам Плаўскі, Ігнат Дылеўскі і Антоні Гарбацэвіч у выпадку запаволення адпраўленыя былі мясцовай паліцыяй у Валнянскі манастыр Навагрудскага павета і каб за імі быў добры паліцэйскі нагляд. Прытым нялішнім лічу паведаміць Вашаму правасхадзіцельству, што я маю прыватныя звесткі, быццам да падачы згаданага вышэй прашэння падбухторвалі і ў складанні ўдзельнічалі Навагрудскія Дамініканы.*

*Вашага правасхадзіцельства пакорны слуга Іосіф, Літ. Г. У. епіскап* (апошні радок напісаны рукой Сямашкі. — *Л. Л.*)»[11].

9-й старонкай справы трох святароў з'яўляецца ананімная папера, на якой трыма рознымі вельмі неахайнымі почыркамі напісаны тэкст на 1,5 старонкі. З апошняга фрагмента тэксту можна зразумець, што справа ідзе аб навагрудскіх дамініканах. На старон-

---

[8] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 61.

[9] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 79.

[10] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 614.

[11] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 614. Арк. 1 — 1 аб.

цы губернскім пісарам прастаўлены № 877 і грыф «сакрэтна», дата 28 верасня 1834 г., на паперу накладзена віза «Завесці справу»[12].

Для расследавання справы ў Навагрудак накіроўваецца страпчы па крымінальных справах Гродзенскай губерні Каржанеўскі. Яго рапарт дае магчымасць зразумець, які «крымінал» учынілі навагрудскія святары.

*№ 222 Сакрэтна*

*Строга сакрэтна*

*Яго правасхадзіцельству гарадзенскаму губернатару — на правах Ваеннага губернатара па горадзе Гродна — генерал-маёру і кавалеру Міхаілу Мікалаевічу Мураўёву.*

*Гродзенскага губернскіх крымінальных спраў страпчы*

*Рапарт*

*У выкананне прадпісання Вашага правасхадзіцельства ад 28-га мінулага верасня за № 877 гонар маю пакорліва данесці, што па строгім і колькі магчыма сакрэтным вышуку наконт дзеянняў Навагрудскіх ксяндзоў Дамініканаў у зламысным падбухторванні грэка-ўніяцкіх святароў Адама Плаўскага, Ігната Дылеўскага і Антонія Гарбацэвіча да падання літоўскаму Грэка-ўніяцкаму епіскапу правялебнаму Іосіфу ў бытнасць яго ў Наваградку — некалькі прашэнняў, адкрываецца:*

*1) Першапачатковымі завадатарамі гэтага прашэння былі акрамя трох паймянаваных святароў і яшчэ Сенінскі святар Юльян Гарбацэвіч, ён першы падпісаў гэтае прашэнне, падаўшы прыклад іншым.*

*2) Неабходны рух перад прыбыццём, г. зн. 1-га чысла мінулага верасня, епіскапа Іосіфа ў Навагрудак, гэтае прашэнне падпісана было святарамі часткай у м. Любчы ў святара Плаўскага, а часткова ў Наваградку ў святара Дзеуорылоўскага (?), пра што ведае і благачынны Гамаліцкі.*

*3) Святар Плаўскі насіў гэтае прашэнне ў манастыр да Навагрудскіх ксяндзоў Дамініканаў ужо напісанае і падпісанае — чытаў ім яго — і яны пры адыходзе Плаўскага са слязьмі благаслаўлялі яго на поспехах.*

*4) У кастрычніку і на пачатку мінулага верасня Нясвіжскія і Навагрудскія ксяндзы Дамініканы… колькі па паверхні я даведацца мог, вырашылі паміж сабою пост — пост кожную… сераду — дзеля таго, каб унія не адхілілася ад рымскіх абрадаў: такім чынам яны былі ўдзельнікамі ў гэтым зламысным дзеянні… Навагрудскага базыліянскага Грэка-ўніяцкага манастыра манахі… трымалі пост у суботу.*

*5) Святары Адам Плаўскі і Ігнат Дылеўскі паводле распараджэння епіскапа — па маім патрабаванні — ужо адпраўленыя на епітым'ю ў Валнянскі манастыр, — Вядзьмянскі ж святар Антоній Гарбацэвіч яшчэ застаецца на сваім месцы — з-за не прызначэння з духоўнага боку дагэтуль іншага святара яго прыходскай царквы. Пра што я не забываю… нагадаць Навагрудскаму дэкану або благачыннаму.*

*6) З ліку схопленых завадатараў утаймаваны два толькі святары: Адам Плаўскі і Юльян Гарбацэвіч, з якіх першы катэгарычна сардэчна раскайваецца, абавязваючыся выконваць усе… распараджэнні яго духоўнага начальства і ў тым ліку вырак Вашага правасхадзіцельства: але з гэтых Юльяну Гарбацэвічу, па маладым яго ўзросце… протапрэсвітарам благачынным прадпісана яму як добранадзейнаму прыняць… пакінутую Плаўскім Любчанскую парафіяльную царкву… святары Дыльскі і Антоні Гарбацэвіч, сваякі Юльяна Гарбацэвіча, не перастаюць заставацца ўпартымі і даволі дзёрзкімі ў памылцы сваёй.*

[12] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 614. Арк. 9 — 9 аб.

*7) Акрамя грэка-ўніяцкіх святароў, каб хто менавіта з прыватных асобаў удзельнічаў у згаданым зламысным дзеянні, я пры ўсім маім старанні за такі кароткі час знайсці не змог: а заўважыў толькі, што наогул… памешчыкі… спрыяюць духоўным, каб унія не адыходзіла ад рымскіх абрадаў… напрыклад, калі святар Дыльскі атрымаў з Кансісторыі прадпісанне аб прызначэнні яму епітым'і, дык на другі дзень выправіўся ў маёнтак Райцы да памешчыка Раецкага, які і ўзнагародзіў яго, Дыльскага… дзясяткамі злотых.*

*Губернскі крымінальных*
*спраў стрäпчы*
*Подпіс (Каржанеўскі)*

*9-га кастрычніка*
*1834*
*г. Навагрудак*[13].

Такім чынам, «пост і малітва» манахаў лічыліся ўдзелам у «зламысным дзеянні», як і напісанне і падача цалкам легальнага прашэння. Паводле ўспамінаў відавочцы, прашэнне ўніяцкіх святароў было напісана так, што *«нават тыгра-забойцу перамяніла бы на ягнё»*. Плаўскі меў публічны выступ перад мноствам людзей, верагодна — святароў, *«пры гэтым епіскап слухаючы, бляднеў, а некаторыя казалі, што, наадварот, кроў прылівала да яго твару»*[14].

Епіскапа Сямашку не задаволіла пакаранне святароў у Валнянскім манастыры, 5 снежня 1834 г. ён піша Мураўёву: *«Благачынны Навагрудскі… Гамаліцкі даносіць мне, што з прызначаных мною на епітым'ю ў Валнянскім манастыры святароў, адны ходзяць па корчмах і па селішчах, іншыя раз'язджаючы па суседніх дамах, займаюцца распаўсюдам ілжывых вестак, на богаслужэнні ж зусім не глядзяць… жадаючы даставіць святарам Плаўскаму, Дылеўскаму і Гарбацэвічу надзейныя спосабы да выпраўлення, я прапанаваў Літоўскай Кансісторыі: 1. Перавесці азначаных святароў для заканчэння шасцімесячнай епітым'і з Валнянскага ў Быценскі манастыр. 2. Вызначыць падрабязна, з чаго будзе складацца гэтая епітым'я, так, каб яна сапраўды была карыснай для… выпраўлення памянутых святароў. 3. Прызначыць ім у манастыры асобную келлю і даручыць іх асабліваму нагляду і кіраўніцтву аднаго з… іераманахаў Быценскага манастыра»*[15].

Паводзіны Плаўскага, верагодна, тлумачацца тым, што ён меў вялікую сям'ю (8 дзяцей), відавочна, у яго душы ішла пастаянная барацьба паміж абавязкам святара-інтэлектуала і бацькоўскімі пачуццямі. Пакаяўшыся перад епітым'яй, ён скарыстаў час знаходжання ў манастырах для напісання пакуль што невялікай запіскі, у якой выклаў і абгрунтаваў свае погляды. Як законапаслухмяны святар, ён перадаў сваю працу ў Кансісторыю, чамусьці палічыўшы, што на людзей, якія свядома ліквідуюць сваю царкву, можна ўздзейнічаць логікай. Сямашка зрабіў выгляд, што адразу не зразумеў, якія паперы яму перадалі, бо пісаў: *«Прадстаўленнем ад 26 мінуўшага красавіка… кансісторыя, даносячы мне аб заканчэнні святарамі Плаўскім і Дылеўскім… епітым'і, прыклала нейкія запіскі першага з іх… на некалькіх лістах дробным шрыфтам… Не бачу… ні мэты, ні прычыны, па якіх прыкладзеныя гэтыя запіскі… мне не хапае часу займацца чытаннем нейкіх прыватных пустых*

[13] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 614. С. 11–13.

[14] Eustachy Antoni Iwanowski (pseud. Eu. Helleniusz). Wspomnienia narodowe. Paryz. L. Martinet, 1861. S. 173.

[15] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1. Воп. 27. Спр. 614. С. 17 — 17 аб.

*папер… кансісторыя прыняла гэтыя цыдулкі на простай паперы і ў неафіцыйнай форме… Калі б на гэтыя паперы варта было б чамусьці звярнуць увагу, дык сябры кансісторыі маглі б прыняць іх прыватна, тым больш яны маглі б павучыць таго, хто напісаў гэтыя запіскі, выявіўшага гэтым занадта абмежаваныя свае звесткі і недахоп здаровага сэнсу»*[16].

Аднак ужо 22 чэрвеня 1835 г. епіскап хадайнічаў перад міністрам унутраных спраў Блудавым *«пра выдаленне ў Магілёўскую губерню святара Адама Плаўскага, бо ён узбуджае паміж духавенствам процідзеянне начальству»*. Сямашка піша, што ссылка ў манастыр *«не прынесла… поспеху… у дачыненні да аднаго з тых святароў… Адама Плаўскага»*. Далей епіскап прыводзіць, мякка кажучы, бяздоказная факты пра дрэнны характар і неадпаведныя паводзіны магістра Плаўскага ў былым і потым паведамляе, што пасля паўгода ў манастыры святар падаў Сямашку *«дзве цыдулкі. У адной з іх ён мяркуе, што служэбнікі Маскоўскага друку не павінны прымяняцца ўніятамі, у другой бэсціць кормчую кнігу*[17]*. <…> Таму я лічу неабходным ужыць… больш дзейсныя сродкі ўтаймавання і выпраўлення і мяркую адхіліць яго ад займанага ім Любчанскага прыхода… і адправіць дзячком… у Магілёўскую губерню»*[18]. Ужо 8 ліпеня епіскап дае каманду навагрудскаму благачыннаму неадкладна выслаць Адама Плаўскага з усім сямействам ў Магілёўскую губерню[19]. Плаўскі быў сасланы ў Магілёўскую епархію ў панамары[20] з васьмю дзеткамі і жонкай[21], прычым Сямашка пісаў міністру Блудава, што *«было б карысна, каб паліцыя з самага пачатку паступала з Плаўскім як з дзячком і не дазвалялася яму па шляху ўжываць адзенне святара»*[22]. Пазней Сямашка пісаў, што святар быў сасланы ў Смаленскую губерню[23].

Акрамя трох святароў у навагрудскім благачыніі ў 1835 г. яшчэ 6 парахаў — Міхал Віторскі, Гедэён Савіч, Ігнат Марцыноўскі, Томаш Гарбацэвіч, Юльян Гарбачэвіч (пра яго пісаў страпчы), Віктар Гарбацэвіч, адмовіліся служыць па маскоўскіх кнігах, сярод іншага яны былі абвінавачаныя Сямашкам ў тым, што *«осмелились рассуждать»* і былі пераведзеныя ў прычэтнікі, іх неабходна было *«выслаць без усялякага запаволення да прызначаных для іх прычэтніцкіх месцаў, калі будзе патрэбным, дык і праз паліцыю, не дазволіўшы ім больш за тры дні для вырашэння сваіх гаспадарчых справаў у ранейшых прыходах»*[24]. І тым не менш благачынны Ян Гамаліцкі 31 ліпеня 1835 г. даклаў, што яшчэ 13 парахаў адмовіліся прыняць кнігі маскоўскага друку[25]. Хваляванні святароў пракаціліся па ўсёй Беларусі.

Плаўскі з сям'ёй не мог пражыць на жабрацкія грошы дзячка. Захавалася справа ад 1 чэрвеня 1836 г. аб пераведзеным у прычэтнікі святары, магістры багаслоўя Адаму Плаўскім. У справе знаходзіцца прашэнне мітрапаліту Булгаку аб аднаўленні яго на

---

16 Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 163–164.

17 Кормчыя кнігі — зборнікі царкоўных і свецкіх законаў, якія выкарыстоўваліся для кіравання Праваслаўнай царквой.

18 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 166–167.

19 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 173.

20 Дело о низведенном в причетники священнике магистре богословия Адаме Плавском. Р., 01.06.1836, д. 3401, 22 л. // Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы да гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў у Расіі». Мінск — Полацк, 1999. С. 176.

21 Chotkowski X. Pamiętniki Józefa Siemaszki. Krakow, 1885. S. 55.

22 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 173.

23 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 583.

24 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 174.

25 Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 188.

святарскай пасадзе і данясенне пра яго «ўзорныя паводзіны»[26]. Пісаў Плаўскі і епіскапу Лужынскаму[27].

Толькі ў 1838 г. ягоныя прашэнні пачалі разглядацца. У лісце да обер-пракурора Сінода Пратасава ад 24 лістапада 1838 г. з меркаваннем аб прашэнні Адама Плаўскага пра яго вяртанне ў Літоўскую епархію сярод іншага Сямашка пісаў: *«Я баюся, што раскаянне Плаўскага перад начальствам Смаленскай губерні і гатоўнасць падпарадкоўвацца… тычыцца толькі справы аб служэбніках Маскоўскага друку… Таму я лічу неабходным, каб святар Плаўскі падаў… прашэнне, у якім бы ён ясна выклаў сваю гатоўнасць далучыцца да праваслаўнай… царквы»*[28].

Апальны святар быў пераведзены святаром *«на бедны прыход»* у Магілёўскую епархію. Пасля шматлікіх прашэнняў святара перавялі ў *«добры»* Астрынскі прыход на Лідчыне. Іосіф Сямашка *«представил его к пособию в 200 рублей как совершенно обедневшего и принужденного воспитывать 8 человек детей после смерти жены»*. Жыццём сваёй жонкі — маці васьмі дзяцей — і галечай заплаціў беларускі святар-інтэлектуал за сваю веру і перакананні. Трактат Плаўскага супраць кніг маскоўскага друку і ліквідацыі уніі быў выдадзены за мяжой, потым перакладзены на розныя мовы і неаднаразова перавыдаваўся на працягу XIX ст. *«при помощи врагов России»*[29].

Верагодна, першы раз трактат Адама Плаўскага быў надрукавана ў Познані ў «Historia duchowieństwa Łacińskiego i Unickiego», выдадзенай у дзвюх кнігах[30]. Аўтар праз кніжны пошук на google.com, знайшоў шэраг кніг XIX ст. на розных мовах, у якіх расказваецца пра дзеянні ўніяцкага святара Плаўскага[31].

Расейскі гісторык-заходнярус беларускага паходжання Кіпрыяновіч пісаў: *«Ухіленне ад падпіскі* (аб далучэнні да праваслаўя. — *Л. Л.*) *протаіерэя Баброўскага (да 1837 г.) і протаіерэя Сасноўскага (да 1839 г.), нікчэмны лік падпісак у 1833–1834 гг. з боку даволі шматлікіх у той час святароў, былых выхаванцаў Галоўнай семінарыі, а так жа наваградскі пратэст магістра багаслоўя Адама Плаўскага, таварыша Іосіфа* (Сямашкі. — *Л. Л.*) *па Галоўнай семінарыі, ясна даказвае, што нават шматлікія духоўныя таго часу не адразу разгледзелі ўсю веліч пачатай Іосіфам справы»*[32]. Я думаю, усё наадварот, яны разгледзелі справу Сямашкі і менавіта таму, нават пад моцным ціскам уладаў, супраціўляліся ў меру сваіх магчымасцяў.

---

[26] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 1080.

[27] Прошения оршанскому епископу В. Лужинскому о назначении и перемещении по службе, о выдаче метрических выписей, об облегчении наказания священнику Плавскому и др. П. Р., 14.05.1835–12.01.1836, д. 1564, 81 л. // Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дакументы да гісторыі царквы ў Беларусі XV–XIX стст. у фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў у Расіі». С. 267.

[28] Записки Иосифа Митрополита Литовского. С. 403–404.

[29] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 96.

[30] Eustachy Antoni Iwanowski (pseud. Eu. Helleniusz). Wspomnienia narodowe. S. 173.

[31] Schlesisches Kirchenblatt. Breslau, 1854. T. 20. S. 218.; Österreichische revue. Wien, 1866. T. 4. Fragen 10–12. S. 20.; Revue du Monde Catholique. Paris, 1863. T. 7. P. 178.; Louis Zozime Élie Lescoeur. L'église catholique en Pologne sous le gouvernement russe. Paris, 1860. P. 39.; Karl Werner. Geschichte der apologetischen und polemischen Literatur der christlichen Theologie. Hurter, 1864. T. 3. S. 374.; Giacomo Margotti. Die Siege der Kirche in dem ersten Jahrzehent des Pontifikates Pius IX aus dem Italienischen von Pius Gams. Wagner, 1856. T. 3. S. 550.; Della Chiesa Russia in relazione alla cattolica e ad altre chiese cristiane. Padova, 1864. S. 97–98.; Journal historique et littéraire. Liège. T. 4. 1837. S. 384.

[32] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. С. 91.

## ДАДАТКІ

**Паданне 1834 г. епіскапу ад навагрудскіх святароў**, з кнігі *«Likowski Edmund. Dziei koscela unickiego na Litwie i Rusi w XVIII–XIX wieku. Czesc II. Warszwa. 1906. S. 84–86», у сваю чаргу, Лікоўскі падае тэкст у перакладзе з французскай мовы з кнігі «Vicissitudes de l'Église catholique des deux rites en Pologne et en Russie, ouvrage écrit en allemand, par un prètre de la congrégation de l'Oratoire (1845), tom. II, str. 298–300».*

**У перакладзе па-беларуску:**

З належнай павагай да Вашай Правялебнасці з нагоды прапанаванай змены грэка-ўніяцкага абраду мы тлумачым нашы запыты ў наступных пунктах:

а) Калі унія ўсходняй царквы з заходняй была ўрачыста аб'яўленая на агульным Фларэнційскім саборы ў 1439 г., таксама там было вырашана рэфармаваць грэцкія абрады, але дызуніцкая царква, разбураная праз неспакойнага Марка[33], епіскапа Эфескага, не захацела прыняць вынікаў сабору. Што тычыцца нас, мы па прыкладзе нашага мітрапаліта, Ісідора Кіеўскага[34] і Іосіфа[35], патрыярха Канстанцінопальскага, аднадушна падтрымліваем ужыванне вынікаў рэформы, бо рэформа для ўсёй грэцкай царквы была прынятая і мы, як і грэкі ўз'яднаныя, выконваць яе абавязаныя.

б) Пасля адпадзення паўночнай Русі руска-літоўскае духавенства ў часы мітрапаліта Міхала Рагозы[36] ўз'ядналася з Рымам на сінодзе ў Брэсце Літоўскім 1594 г., калі ж тая унія ў наступным годзе была пацверджаная папам Клементам VIII, той жа сінод даў нам як недатыкальныя прынцыпы: вызнанне веры і рэформы абраду, устаноўленыя сінодам Фларэнційскім.

в) Леў Кішка[37], мітрапаліт усяе Русі, на Замойскім сінодзе ў 1720 г. разам з усімі святарамі не толькі пацвердзіў упамянутую вышэй унію ў Брэсце, але, акрамя таго, для большага ўзмацнення уніі, адрозненні паміж дызуніцкімі і грэка-каталіцкай царквой падрабязна апісаў і рэфармаваў абрады ва ўніяцкім духу, вызначыў прылады і ўсё начынне, неабходнае для Літургіі, зыходзячы больш з вялікай пабожнасці і нацыянальных звычаяў, а не з старых абрадаў царградскіх. Аўтэнтычныя экзэмпляры тых пастаноў былі адпраўленыя для вечнага захавання духавенству венгерскаму, славацкаму, далмацкаму, харвацкаму і іншым, а нас пад прысягай абавязалі да захавання на вечныя часы еднасці з Святой Рымскай царквой.

г) Параўноўваючы самыя старыя выданні малітоўнікаў, выдадзеныя намаганнямі і падмацаваныя аўтарытэтам епіскапаў, як: малітоўнік, выдадзены ў 1659 г. мітрапалітам Кіпрыянам Жахоўскім[38] і прысвечаны князю Каралю Станіславу Радзівілу, з прыгожай прадмовай, якая заахвочвала духавенства да уніі; таксама малітоўнік, выдадзены ў 1727 г. праз мітрапаліта Кішку, і малітоўнік, друкаваны ў 1790 г. праз мітрапаліта Шаптыцкага, нарэшце, абмінуўшы шмат іншых, малітоўнік, выдадзены ў Вільні руплівасцю

---

33 Марк Эфескі (1392–1444) — мітрапаліт Эфескі, праваслаўны багаслоў, адзіны ўдзельнік Ферара-Фларэнційскага сабора, які не прыняў унію.

34 Ісідар Кіеўскі (1380/1390–1463, Рым) — мітрапаліт Кіеўскі, прыхільнік уніі.

35 Іосіф II, патрыярх Канстанцінопальскі, раней мітрапаліт Эфескі, абраны ў 1416 г., імкнуўся да ўз'яднання цэркваў, наведаў Фларэнційскі сабор і памёр у Італіі ў 1439 г.

36 Міхал Рагоза (1540–1599) — праваслаўны, потым уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі (з 1589).

37 Леў Кішка (1668–1728) — царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік і перакладчык. Уніяцкі біскуп Уладзімерскі і Берасцейскі (з 1711), мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі (з 1714). Доктар багаслоўя (1691)

38 Кіпрыян (Цыпрыян) Жахоўскі (1635–1693) — уніяцкі мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі (1674–1693).

дзейснага зараз мітрапаліта Язафата Булгака, дык вось, параўноўваючы ўсе гэтыя малітоўнікі, мы знаходзім, што яны нічым не розняцца. Акрамя таго, мы бачым, што ўсе рытуалы стасуюцца паміж сабой і розніца паміж імі вельмі малая. Усё гэта даказвае, што малітоўнікі і рытуалы маюць агульную крыніцу ва Усходняй царкве, таму што так шмат грэцкага — малітоўнікі ўніяцкіх епіскапаў маюць пацвярджэнне ў сівой даўніне.

д) Калі для выкарыстання грэка-ўніяцкім духавенствам малітоўнікі, друкаваныя ў 1831 г. у Маскве, адрозніваюцца ад нашых малітоўнікаў месцам аб паходжанні Святога Духа і некаторымі малітвамі, ні разу не ўзгадваецца Папа, якому мы пры нашым высвячэнні клятвенна абяцалі паслухмянасць і павагу, як і імператару, молім Правялебнага епіскапа не прымушаць нас прыняць гэта і пакінуць нам віленскі малітоўнік, які мы заўжды ўжывалі.

е) Люд рускі амаль два стагоддзі прывык кленчыць падчас службы, да Еўхарыстыі падчас урачыстых святаў і ў нядзелю, да шэсцяў і глыбокай павагі да Еўхарыстыі. Усё гэта патрэбна ў нашым абрадзе і не можа быць выдаленае без пакрыўджання народа, які, здаецца, будзе мець абурэнне супраць духавенства з-за новых зменаў.

Пад кіраўніцтам нашага Найлепшага цара, сярод стольскіх мільёнаў падданых, грэка-каталіцкае духавенства мусіць засведчыць шмат дабрадзействаў і чакае таксама яго бацькоўскай апекі. Яго найвышэйшая воля кожнаму пакідае поўную свабоду вызнаваць сваю рэлігію, таксама і грэка-каталіцкаму духавенству. Такім чынам, не меней за іншыя веравызнанні мы маем абавязак захавання старых абрадаў нашага набажэнства, абы мы не пагрэбавалі высокай дабрынёй нашага цара.

Нарэшце Навагрудскае духавенства, з належнай павагай да Правялебнага епіскапа, аб'яўляе просьбу, каб Грэка-ўніяцкая царква адрознівалася ад Праваслаўнай царквы, і заклікае да ўважлівага клопату пра сябе свайго выбітнага пастара. Гэтыя пажаданні, аб'яўленыя аднагалосна, падпісаныя кожным уласнай рукой.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ПРА МІХАЛА ШЫМЯЛЕВІЧА
## Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды

Мой цесць асабіста ведаў героя гэтага артыкула і чуў ягоныя расказы з гісторыі нашага горада. У 1930-я, адносна ціхамірныя гады, рэгулярна ў доме Сегеняў па вуліцы Вызвалення збіралася «колка» сяброў-выпускнікоў лідскай павятовай вучэльні: Міхал Шымялевіч, Сегені, Хрулі, Кароль Ёдка і г. д.[1]. Мой цесць, Іосіф Хруль, дзіцем удзельнічаў у гэтых «клубных» зборах разам з сваім бацькам, таксама Іосіфам Хрулем, і сваім стрыечным братам Адамам Хрулем. Бог даў майму цесцю, шляхціцу старажытнага лідскага роду, 84 гады жыцця, і я меў магчымасць на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пад добры кілішак весці бясконцыя размовы, падчас якіх часта ўзгадвалася гісторыя нашага горада. Праз нейкі час я таксама пачаў пісаць, бо нармальная для інжынера 1980-х гадоў цяга да гуманітарных навук вылілася ў галоўнае хобі майго жыцця — вывучэнне гісторыі Лідчыны. Да гэтага часу ў нашым горадзе ўжо адрадзілася супольнасць людзей, замілаваных гісторыяй Ліды, мне было дзе друкавацца, з кім кансультавацца і весці бясконцыя размовы на вузкаспецыяльныя тэмы. Як кажуць, на пустым месцы нічога не нараджаецца — супольнасць даследчыкаў гісторыі Лідчыны мае ўжо больш чым 200-гадовую гісторыю.

Для мяне (беларуса з КПЗБ-шнымі каранямі) найвышэйшай адзнакай як краязнаўцы былі словы майго цесця, які за святочным сталом, жартуючы пасля перакуленага кілішка, неаднаразова казаў: *«Ведаў у жыцці двух самых добрых знаўцаў нашай гісторыі — Шымялевіча і свайго зяця»*.

Таму я не мог не пачаць збіраць звесткі пра найлепшага ў XX ст. знаўцу лідскай гісторыі Міхала Шымялевіча і ў выніку напісаць пра яго.

**Міхал Шымялевіч** (18.10.1879–11.01.1969, Michał Szymielewicz (Szymilewicz)). Пра Міхала Іванавіча Шымялевіча напісана зусім мала, першы артыкул пра яго надрукаваны Станілавам Суднікам ў «Лідскім летапісцы»[2], другім з’яўляецца мой артыкул у «Нашым слове»[3].

У адным са сваіх артыкулаў — «Borcie i włość Borciańska» — Міхал Шымялевіч паведаміў, што, згодна з інвентаром Барцянскага староства 1765 г., барцяк вёскі Паўлока Міхал Шымялевіч меў 3/4 валокі зямлі і плаціў штогод 30 злотых, а, згодна з інвентаром 1798 г., ягоны сын Марцін Шымялевіч меў 1 дым (яго сям’я: 2 мужчынскія душы і 3 жаночыя) і 1 вала, 4/8 «osiadłych» валокі і 4/8 «pryjemnych» валокі, штогод адбываў паншчыну 2 дні ў тыдзень на дворнай зямлі і плаціў 40 злотых падатку. Другі сын Міхала, Ян, перасяліўся ў Падзітву. Сын Марціна і ўнук Міхала, таксама Міхал Шымялевіч, нарадзіўся ў Паўлоцы ў 1801 г. (маці Мар’яна з Вішнеўскіх) і жыў на адной валоцы зямлі сям’і сваёй жонкі ў вёсцы Пеляса. Згодна з інвентаром 1832 г., ён адбываў на дворнай зямлі ў Палашках ужо 3 дні паншчыны акрамя іншых абавязкаў і выплат. Тут, у Пялясе, 6 жніўня 1830 г. нарадзіўся бацька гісторыка — Ян Шымялевіч, сын Міхала.

Аўтар кнігі «Гербоўнік літоўскіх татар» Станіслаў Дзядулевіч пісаў, што продкам татар Яблонскіх герба «Ясенчык» быў татарын знакамітага роду Кураша, які ў 1511 г. атрымаў пацвярджэнне прывілеі вялікага князя Аляксандра на пустоўшчыну Станкоўшчыну ў Троцкім павеце, пра род Шумялевічаў гісторык тлумачыў, што яны мелі

[1] Сегені, бацька і сын, пакінулі два надрукаваныя ўспаміны, Хруль Іосіф і Караль Ёдка — па адным.

[2] Станілаў Суднік. Міхал Шымялевіч // Лідскі летапісец. 2008. № 2 (42). С. 18–20.

[3] Лаўрэш Леанід. Сябар ТБШ Міхал Шымялевіч // Наша слова. № 38 (1137). 18 верасня 2013 г.

адзіныя з Яблонскімі карані і дапускаў, што адзін з іх *«прыняў прозвішча, скажонае пад уздзеяннем беларускай мовы на "Шымялевіч",* і, акрамя гэтага, дадаваў, што*: «Нашчадкам яго быў Міхал Шымялевіч, аўтар брашуры, выдадзенай у 1896 г., (памылка, насамрэч у 1906 г.) «Szkice etnograficzne o Tatarach litewskich» і каштоўных нататак пра татараў лідскага павета, шматкроць у гэтай кнізе цытаваных»*[4].

Шымялевіч не пагаджаўся з «татарскай» версіяй паходжання свайго роду і лічыў, што Шымялевічы — род сялянскі і паходзіць з прускіх барцякоў[5].

Міхал Шымялевіч пачаў адукацыю ў Лідскай павятовай вучэльні[6]. Каля 1890 г., падчас яго вучобы, у Лідскім двухкласным павятовым вучылішчы выкладалі: штатны наглядчык (дырэктар), выкладчык матэматыкі і геаграфіі, надворны саветнік Сцяпан Сямёнавіч Свідэрскі, протаіерэй Каяловіч Іосіф Восіпавіч — настаўнік праваслаўнага веравызнання, ксёндз Іосіф Дэксніс — настаўнік каталіцкага веравызнання, настаўнік рускай мовы і гісторыі Уладзімір Паўлавіч Юзафовіч, настаўнік чыстапісання, чарчэння і малявання Мікалай Канстанцінавіч Кастанцінаў[7].

З памятнай кніжкі Віленскай губерні за 1901 г. бачна, што на пачатку стагоддзя малады Шымялевіч ужо працаваў у Лідскай судова-міравой акрузе, канцылярыі з'езда міравых суддзяў, памочнікам сакратара *(«на пасадзе з 12 сакавіка 1898 г., каталіцкага веравызнання»)*[8].

Пры канцы 1903 г. Шымялевіч выводзіцца «за штат»: *«Па Лідскім з'ездзе сусветных суддзяў. Загадам старшыні гэтага з'езда ад 30 лістапада 1903 г. пастаноўлена: памочніка сакратара з'езда Міхала Шымялевіча і судовых прыставаў пры з'ездзе Льва Вісманта і Мікалая Пашкевіча, згодна з 15 і 17 ст. правілаў прывядзення ў дзеянне палажэння аб земскіх участковых начальнікаў, пакінуць за штатам з 1 снежня 1903 г. на агульных умовах»*[9]. Знаходжанне па-за штатам — стан чыноўніка, які быў звольнены ў сувязі з рэарганізацыяй дзяржаўнай структуры (у сучаснай тэрміналогіі — па скарачэнні). Пакінутым па-за штатам выплачвалася «заштатнае» жалаванне да атрымання новай працы, але звычайна не больш за год.

У снежні 1906 г. у Лідзе было створанае сельскагаспадарчае таварыства (Kolko rolnicze), заснавальнікамі яго сталі: Міхал Шымялевіч, Адольф Сегень, Ян Грышэль і інш.[10].

У 1908 г.[11] Шымялевіч часова займаў пасаду выканаўцы абавязкаў сакратара павятовага з'езда[12]. У гэты час чыноўнік Шымялевіч працаваў у двухпавярховым цагляным будынку на 12 вокнаў з двума балконамі на другім паверсе, мезанінам з балкончыкам на трэцім, ляпнымі барэльефамі пад карнізамі, які быў пабудаваны ў XIX ст. у старасвецкім стылі і належаў Камянецкім. Акрамя павятовага суда, павятовай паліцыі, карчма з півам Мейлаха Носелевіча Пупко, у гэтым жа будынку знаходзіўся павятовы з'езд, якім кіраваў прадвадзіцель лідскага дваранства граф Людвік Грабоўскі.

---

4 Szymilewicz Michał. Borcie i wlosc Borcianska // Ziemia Lidzka. 1939. № 6. S. 167–168.

5 Тамсама.

6 Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. Вильно, 1901. С. 271.

7 Памятная книжка Виленской губернии на 1890 г. Вильно, 1889. С. 240–241.

8 Памятная книжка Виленской губернии на 1902 г. Вильно, 1901. С. 271.

9 Виленские губернские ведомости. № 2. 7 января 1904.

10 Kuryer Litewski. № 276. 5 (18) grudnia 1906.

11 Памятная книжка Виленской губернии на 1908 г. Вильно, 1908. С. 142.

12 Орган па сялянскіх справах у Расійскай імперыі, адміністрацыйна-судовая ўстанова, вышэйшая для земскіх начальнікаў і гарадскіх суддзяў.

Верагодна, першай надрукаванай працай Шымялевіча была кніга «Горад Ліда і Лідскі замак»[13]. Кніга выйшла ў 1905 г., праз год перавыдадзеная ў штогодніку «Віленскі каляндар». Гэтая праца не страціла сваёй навуковай каштоўнасці да нашага часу (напрыклад, на яе спасылаецца Алег Трусаў у кнізе «Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка»[14]) і сталася падмуркам усяго сучаснага лідскага краязнаўства. Колькасць выкарыстанага аўтарам матэрыялу не можа не ўражваць. Але, верагодна, самае галоўнае тое, што ў гэтай працы, як і ва ўсіх яго наступных працах, цытуюцца дакументы з асабістага архіву Шымялевіча, што яшчэ больш падвышае каштоўнасць яго тэкстаў.

З кнігі Станіслава Дзядулевіча па генеалогіі літоўскіх татараў мы даведваемся, што ў 1906 г. Шымялевіч выдаў кнігу: **«Szymielewicz Michał. Szkice etnograficzne o Tatarach litewskich. 1906.»[15] і «Szymielewicz Michał. O tatarach w powiecie lidzkim. Lida. 1914»[16] (верагодна, абедзве кнігі ўсё ж на рускай мове). З вялікай бібліяграфіі крыніц па ісламскай тэматыцы даведваемся пра кнігу «Шимелевич М. Литовские татары. Вильно, 1906»[17].**

Праз шмат гадоў даследчык успамінаў, як ён збіраў матэрыял для гэтых кніг: *«Болей за трыццаць гадоў таму* (тэкст напісаны ў 1930-я гг. — *Л. Л.*)*, будучы маладым, рухомы адзіна ўласнай цікавасцю, калі на вазу, а часцей пешшу абышоў дзясяткі татарскіх ваколіц і фальваркаў і некалькі мусульманскіх мячэцяў у паветах Лідскім, Віленскім, Ашмянскім і Наваградскім, пабываў у дабрадушных і гасцінных татарскіх сем'ях і ў выніку сваіх краязнаўчых вандровак напісаў такую невялікую працу пра літоўскіх татараў — этнаграфічныя нарысы. Гэтая кніжка, пасля таго як рэдактары прыбралі некалькі вельмі небяспечных, на тыя часы, старонак (напрыклад, пра ахвяраванне чорнага барана, супольныя з праваслаўнымі пілігрымкі на мусульманскія могілкі), пры канцы 1905 г. надрукаваная ў Вільні на 12 старонках»*[18].

З 1905 да 1908 г. прозвішча Шымялевіча знікае з даведнікаў Віленскай губерні. З успамінаў Яна Сегеня[19] (гл. дадаткі) вядома, што малады гісторык-аматар атрымаў грант ад нейкага польскага гістарычнага таварыства для вучобы ў Кракаве, верагодна, у знакамітым Ягелонскім універсітэце. Як вядома, Кракаў у той час знаходзіўся ў Аўстра-Венгрыі, і можна выказаць здагадку, што вучыўся таленавіты лідзянін за грошы нейкага польскага таварыства ў Кракаве. Атрымаўшы вышэйшую гістарычную адукацыю ў еўрапейскім універсітэце, даследчык вяртаецца ў Ліду.

24 лютага 1910 г., пастановай Лідскага павятовага з'езда, *«лідскаму месцічу Міхаілу Іванавічу Шымялевічу дазволена вядзенне чужых спраў, якія разбіраюцца земскім начальнікам Лідскага павета, гарадскім суддзёй г. Ліды, у Лідскім павятовым з'ездзе і ў Віленскім губернскім "присутствии"»*[20]. Як раз пра гэты перыяд ягонай дзейнасці

[13] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок: исторический очерк. Вильна: Типография «Русский Починъ», 1905.

[14] Трусаў А. Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць лідскага замка. Мінск, 1990.

[15] Stanisław Dziadulewicz. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. S. 329.

[16] Stanisław Dziadulewicz. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. S. XI.

[17] Marcinkowski Christoph. The Islamic World and the West: Managing Religious and Cultural Identities in the Age of Globalisation. LIT Verlag Münster, 2009. S. 107. (http://books.google.by/books? id=FvAcKe6OB_gC&pg=PA107&lpg=PA107&dq=Szymielewicz+tatary&source=bl&ots=6ieCYmGTYH&sig=xq91V3pVlswXZQ5hQ1S5IZfpx4c&hl=be&sa=X&ei=BZl3U82tMs_G7Abr8IGABQ&ved=0CCsQ6AEwAA#v=onepage&q&f=false)

[18] Szymielewicz Michał. Na marginesie «Tatarów Litrwskich» // Ziemia Lidzka. 1938. № 3. S. 37.

[19] Сын Яна Сегеня — сябра Шымялевіча, таксама Ян Сегень, інжынер, аўтар успамінаў «Lida (1938–1939). 5-tym Pułk Lotniczy, szkoła rzemieślnicza» (http://pawet.net).

[20] Виленские губернские ведомости. № 18. 3 марта 1910.

пісаў Ян Сегень: *«…ён працаваў прысяжным паверaным*[21] *(здаў нейкія дзяржаўныя экзамены ў Расійскай імперыі), вёў справы большасці маёнткаў вакол Ліды і меў вялікія магчымасці вывучаць дакументы продкаў шматлікіх сем'яў»* (гл. дадаткі).

Пра вывучэнне радавых папераў аднаго з лідскіх старажылаў — Казіміра Вісманта — і працяглыя размовы з ім напісаў і сам Шымялевіч ва ўспамінах: *«50 гадоў таму* (успаміны надрукаваныя ў 1937 г. — *Л. Л.*) *быў гэты чалавек у росквіце сіл, трохі сіваваты, трохі лысаваты, але шыракаплечы, румяны і да жанчын цікаўны. Яго белая хатка пад саламяным дахам, стаяла на Вісмантах пад Лідай, пры абсажаным бярозамі навагрудскім гасцінцы… У старога ў хатцы пад столлю стаяла скрынка, поўная старых пажоўклых папер, пісаных і па-славянску і па-польску, памятаючых часы караля Аляксандра Ягелончыка… Стары Вісмант ведаў на памяць свой вялікі шматаркушовы радавод з усімі датамі і ведаў шмат цікавых гісторый»*[22]. Вось у такі час пачынаў працаваць Шымялевіч, час, калі ў скрынях шарачковай беларускай шляхты старанна захоўваліся дакументы XV–XVI стст. на старабеларускай мове!

Казімір Вісмант меў сына, якога ён вучыў на арганіста і ажно чатыры дачкі. *«...Да пана Казіміра вечарамі хадзіла на пасядзелкі і размовы лідская прыгарадная моладзь, вядома, у доме тры дарослыя дачкі і чацвёртая, Броня, ужо ўбіваецца ў пёры»*. Моладзь гуляла ў гульні, часам распавядала ўсялякія цікавыя гісторыі, анекдоты, байкі, жахі альбо пра чары і незвычайныя з'явы. *«Часам дэкламавалі "Kiwona męczenika bożego"*[23]*, "Uchwałę gromady żydowskiej o oddaniu syna Chaśki w soldaty" за тое, што не хадзіў у лазню… альбо такія вершы, як "Панскае ігрышча" ці "Адказ на панскае ігрышча" і іншыя, якія праз нейкі час былі надрукаваныя ў Кракаве ў кніжачках Мацея Бурачка»*[24]. З гэтых некалькіх радкоў бачна, што вершы Францішка Багушэвіча на Лідчыне мелі папулярнасць яшчэ да выдання ягоных кніжак, перапісаліся і чыталіся падчас вячорак, што само па сабе з'яўляецца цікавым навуковым фактам. Вось так у Шымялевіча заўжды: у кожнай сваёй працы ён акрамя галоўнай тэмы часта ў некалькіх радках дае цікавую інфармацыю, якая шмат каштуе.

У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна. Праз шмат гадоў Міхал Шымялевіч напіша найцікавейшыя ўспаміны пра пачатак Першай сусветнай вайны ў нашым горадзе[25].

У 1914 г. у «Віленскіх губернскіх ведамасцях» з'яўляецца інфармацыя пра нейкага Івана Іванавіча Шымялевіча[26], верагодна, роднага брата гісторыка.

У 1915 г. Шымялевіч пакінуў родны горад, стаў бежанцам. Стары лідзянін Іосіф Хруль, мой цесць, успамінаў: *«Калі Шымялевіч уцякаў ад немца ў Першую сусветную вайну, ён свае рэчы адвёз на захаванне ў Ёдкі* (вёска пад Лідай. — *Л. Л.*)*, дык у яго толькі кніг быў поўны воз!»*[27]. Пэўна ж, у гэтым возе быў і архіў даследчыка.

Пасля 1918 г. Шымялевіч вярнуўся ў Ліду і перажыў усе навальніцы, якія прайшлі праз наш горад. Пішучы ў 1937 г. аб расстрэле Тухачэўскім у жніўні — верасні 1920 г. пад Лідай 40 бязвінных закладнікаў, ён заўважыў: *«Мой Божа! Ці ж гэты маладьы*

---

[21] Прысяжны паверaны — адвакат у Расійскай імперыі пры акруговым судзе або судовай палаце. На пасадзе патрабавалася вышэйшая адукацыя.

[22] Szymielewicz Michał. Z tamtego świata // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 125.

[23] Легенда пра Ківона, божага пакутніка. Гл.: Kiwon: Pociech, żywot i śmierć Kiwona bożego, męczennika żydowskiego. Bracia Worzałłowie, 1913.

[24] Szymielewicz Michał. Z tamtego świata. S. 126.

[25] Szymielewicz Michał. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1938. № 7–8. S. 185–198.

[26] Виленские губернские ведомости. № 73. 13 сентября 1914.; Виленские губернские ведомости. № 43. 6 июня 1915.

[27] Размова са старым шляхціцам // Лідскі летапісец. 2012. № 3 (59). С. 59.

*і хціўы да славы і ўлады, інтэлігентны афіцэр Тухачэўскі, якога бачыў я на вуліцах Ліды ў аўтамабілі, пакрытым чырвонай палярынай з залатымі махрамі, калі зацверджваў выракі асобага аддзела, ці думаў ён пра тое, што калісьці і сам ён будзе расстраляны ў патыліцу з браўнінга? Забіты так, як і няшчасных ахвяр забівалі па яго камандзе»*[28].

9 лістапада 1922 г. была абрана першае польскае лідскае павятовае самакіраванне ў складзе: Павятовы аддзел і Павятовы сеймік. Сярод 6 членаў Павятовага аддзела быў і Міхал Шымялевіч[29]. Гэта значыць, што гісторык адразу патрапіў у «вярхі» польскай павятовай улады. Але пасля стварэння ў кастрычніку 1926 г. у Лідзе гуртка «Таварыства беларускай школы»[30] Міхал Шымялевіч стаў сябрам гэтай арганізацыі. ТБШ была створаная ў 1921 г. у Вільні і імкнулася распаўсюджваць веды і дапамагаць асвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую асвету, у статуце арганізацыі было напісана: *«Пашыраць і памагаць асвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысціянскім духу»*.

У 1927 г. сябар ТБШ Міхал Шымялевіч удзельнічаў у выбарах у Раду г. Ліды. На гэтых выбарах беларусы выставілі свой асобны спіс і правялі свайго кандыдата. Цікава, што ў Лідзе падчас гэтых выбараў польская хадэцыя прапанавала беларусам тры месцы з умовай зблакавацца з імі супраць яўрэяў. Але беларусы на гэта не пагадзіліся[31]. Беларуская газета «Наша праўда» пісала пра гэтую падзею: *«Услед за Вільняй і ў Лідзе зроблены першы крок да заваявання места — 17.VII адбыліся выбары ў мястовую Раду і па сьпісу Беларусаў і тутэйшага працоўнага жыхарства прайшоў у Раду адзін беларус — Сябра Нагляднае Рады Лідзкае Акр. Упр. Т-ва Бел. Школы Міхал Шымялевіч… Самастойнае выступленьне беларусаў мае вялізарнае значэнне: 1) гэта — першая спроба ў больш шырокай меры, што паказала абуджэнне нацыянальнай сьвядомасьці ў тутэйшага жыхарства; 2) беларусы усё-ж такі маюць аднаго прадстаўніка ў Радзе (сабралі галасоў на 1,5 раднага); 3) выявіліся ўсе прадажныя і падлізьніцкія элементы нашага грамадзянства, якія аканчальна скампраміталіся ў вачох грамадзян места Ліды. Рэзультаты выбараў наступныя: № 1* (выбарчы спіс № 1. — *Л. Л.*)*. Дэмакратычныя хрысьціянскія мяшчане, урадоўцы і ўмысловыя працаўнікі (Група бурмістра Бэрмана), 3 мандаты; № 2. Прафэс. Саюзы, працоўная інтэлігенцыя, дробныя дамаўласнікі і неарганіз. работ (P. P. S.), 3 манд.; Блёк Хрысьц. (N. D. і Ch. D.) 6 манд.; № 4. Беларусы і тутэйшае працоўнае жыхарства, 1 мандат; № 5. Земляробы і дамаўласнікі — жыды (Група заступніка бурмістра Вінцукоўскага), 1 мандат; № 6. Жыдоўскі нац. блёк, 9 манд.; № 7. Жыдоўскі Работ. блёк, 1 манд.»*[32]. Газета «Сялянская ніва» так сама пісала, што *«па беларускаму сьпіску ў м. Лідзе прайшоў у мestавую раду адзін Беларус»*[33]. З віленскай газеты «Слова» даведваемся, што беларускі радны ў гэты час жыў па адрасе: вуліца Вызвалення, 82[34]. Радны Міхал Шымялевіч быў выбраны адным з трох членаў Ацэнкавай камісіі пры Скарбовай управе[35].

З 1928 г. лідскім старастам прызначаецца Генрык Багаткоўскі (1893–1967), праз год ён жэніцца з старэйшай дачкой гісторыка — Зоф'яй Шымялевіч (1907–1996) і ў 1930 г.

[28] Szymielewicz Michał. Z tamtego świata. S. 120.

[29] Życie Nowogródzkie. № 265 (299). 30 października 1928.

[30] Горны Аляксандр. Беларуская сялянска-работніцкая грамада ў Лідзе (Частка 1) // Лідскі летапісец. 2014. № 3 (67). С. 84.

[31] Наша праўда. № 32. 23 ліпеня 1927 г.

[32] Наша праўда. № 34. 30 ліпеня 1927 г.

[33] Сялянская ніва. № 57 (108). 23 ліпеня 1927.

[34] Slowo. № 166 (1479). 24 lipca 1927.

[35] Życie Nowogródzkie. № 293 (650). 24 października 1929.

нараджаецца першы ўнук — Земавіт (1930–2011). Генрык Багаткоўскі нарадзіўся ў горадзе Ловіч (каля Лодзі) і зрабіў хуткую кар'еру чыноўніка: ў 1926 г. ён абіраецца ў павятовую раду касы хворых[36] Ловіча[37], ужо ў 1927 г. ён працуе інспектарам па самакіраванні Навагрудскай ваяводскай управы[38] а з мая 1928 г. — лідскім старастам[39]. У першай палове 1930-х гг. Багаткоўскага пераводзяць у Варшаву на пасаду інспектара Міністэрства ўнутраных спраў[40].

24 лістапада 1929 г. адбылося пасяджэнне бацькоўскага камітэта Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча. Ва ўправу бацькоўскага камітэта гімназіі сярод іншых быў абраны і Міхал Шымялевіч, відавочна, навучэнкай гэтай установы тады была сярэдняя з трох дачок гісторыка[41].

У 1930 г. Міхал Шымялевіч быў сябрам Акруговай выбарчай камісіі № 62 у Лідзе на выбарах у Сейм[42].

Пра палітычную дзейнасць гісторыка да 1935 г. невядома, але ў 1932 г. яго ўжо няма сярод радных г. Ліды[43]. Аднак у 1935 г. ён зноў абіраецца ў Гарадскую раду[44]. У Гарадской радзе, абранай у красавіку 1939 г. Міхала Шымялевіча ўжо няма[45].

У 1936–1939 гг. Шымялевіч быў сябрам рэдакцыйна-выдавецкага камітэта часопіса «Лідская зямля» («Ziemia Lidzka»), дзе ён апублікаваў каля 30 краязнаўчых артыкулаў, яго матэрыялы друкаваліся ў кожным нумары. Гэтыя артыкулы былі розныя па тэматыцы: гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя, усе яны грунтаваліся на велізарным фактычным матэрыяле. Ягоныя артыкулы вызначаліся найвышэйшым навуковым узроўнем у спалучэнні з бытавымі ведамі з жыцця Лідчыны, бачана, што аўтар запісваў шматлікія размовы са старымі лідзянамі. Наогул у «Лідскай зямлі» былі надрукаваны дзясяткі арыгінальных, цікавых артыкулаў па гісторыі Ліды і яе наваколля, па гісторыі вызвольных і палітычных рухаў, аб асаблівасцях укладу мясцовага жыцця, народных звычаях, эканамічным стане і іншых пытаннях. З артыкулаў часопіса паўставала гісторыя вёсак, маёнткаў, мястэчак, культавых устаноў усіх канфесій, распавядалася пра даследаванні курганоў і іншых археалагічных і архітэктурных помнікаў, трагічныя падзеі паўстання 1863–1864 гг., ваенныя дзеянні 1918–1921 гг., асвятлялася самае шырокае кола сучасных праблем: стан сельскай гаспадаркі, эканамічнага жыцця горада, культуры. Напрыклад, у артыкуле М. Шымялевіча «Горад Ліда ў 1938 годзе» пададзена найпадрабязнейшая характарыстыка эканомікі, бюджэту горада, адміністрацыйнай сістэмы, этнічнага, сацыяльнага, прафесійнага і канфесійнага складу яго жыхароў. Пра значэнне «Лідскай зямлі» напісаў вядомы спецыяліст па краязнаўстве прафесар Віленскага ўніверсітэта М. Ліманоўскі, ён пісаў, што часопіс *«спрабуе адваліць магільную пліту забыцця з Лідчыны і на свет дзённы дастаць багацці гэтай зямлі»*[46].

---

36 Каса хворых — грамадская страхавая арганізацыя, якая забяспечвала фінансаванне аховы здароўя яе членаў, кіраўніцтва арганізацыі выбіраліся падчас мясцовых выбараў.

37 Łowiczanin. № 39. 24 września 1926.

38 Zycie Nowogrodzkie. № 1. 14 maja 1927.

39 Słowo. № 118 (1729). 25 maja 1928.

40 Dziennik Urzędowy Ministerstwa Spraw Wewnętrznych. 1936. № 34.

41 Życie Nowogródzkie. № 327 (684). 26 listopada 1929.

42 Wileński Dziennik Wojewódzki. № 5. 21 marca 1930.

43 Ogniwa. 1932. № 11. S. 21.

44 Szymielewicz Michał. Miasto Lida w 1938 roku // Ziemia Lidzka. 1938. № 11. S. 146.

45 Kurjer Wilenski. № 116 (4792). 28 kwietnia 1939.

46 Саітава Валянціна. Лідскія краязнаўцы ў 20–30-я гг. // Бібліятэчны свет. 1999. № 3. С. 31.

У той час тэксты Міхала Шымялевіча атрымалі агульнае прызнанне. Віленская прэса пры канцы 1930-х гг. адназначна вылучала Шымялевіча сярод аўтараў «Лідскай зямлі» і называла *«найлепшым знаўцам лідскай гісторыі і нястомным збіральнікам мясцовых народных звычаяў»*[47]. (Усе артыкулы Міхала Шымялевіча, надрукаваныя ў даваеннай «Лідскай зямлі», можна прачытаць на сайце «Павет». — *Л. Л.*) А лідскія гімназісты па ягоных матэрыялах нават праводзяць краязнаўчыя вечарыны, напрыклад, у суботу 26 лістапада 1938 г. у Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча прайшла краязнаўчая вечарына, якую арганізавалі вучні другога класа: *«Рэшту тэмаў для вечарыны моладзь узяла ў артыкулах найвыбітнейшага лідскага краязнаўцы Міхала Шымялевіча з газеты "Лідская зямля"»*[48].

Цікавую інфармацыю пра гісторыка ў 1930-я гг. расказаў старажыл горада, мой цесць, Хруль Іосіф Іосіфавіч: *«Я ведаю, што ён быў з Пелясы і быў адукаваны. Прыхільна ставіўся да левых партый і таму меў праблемы з уладай. Потым ягоная дачка выйшла замуж за лідскага старасту… і тады Шымялевічу стала лягчэй жыць, аднак і перастаў быць левым. Мой стрыечны брат, Адам Хруль*[49]*, з ім сябраваў… Яны нярэдка ў Яна Сегеня*[50] *сустракаліся, тут на Зарэччы*[51]*… Адам Хруль расказваў… што адзін раз сядзелі… пілі гарбату ў Януша Сегеня, сын Сегеня* (той самы, які напісаў успаміны пра гісторыка, гл. дадаткі. — *Л. Л.*) *быў яшчэ падлеткам, і разгаварыліся пра шляхту, пра гербы, сын Сегеня запытаў у Шымялевіча: "А якога пан гербу?", стала ціхаціха… Шымялевіч трохі памаўчаў і кажа: "А я герба вэнджанага селядца! Пеляскі мужык!"*[52]*… Дом яго ў Лідзе да апошняга часу стаяў. Вось як падыходзіш да мосціка па Энгельса*[53]*, па левым баку… бокам да вуліцы, ён ужо ўрос у зямлю…»*[54].

Дом, дзе жыў Міхал Шымялевіч, захаваўся да нашага часу, лідзянка Е. Ярмант успамінала што пры канцы 1930-х гг.: *«На скрыжаванні вуліц Гражыны*[55] *і Гарыстай*[56] *стаяў дом Шымялевічаў. Дом быў драўляны, дагледжаны, адгароджаны ад вуліцы прыгожым плотам»*. Цікавым было нацыянальнае самавызначэнне гісторыка пры канцы 1930-х гг., Ярмант пісала: *«Я ніколі не бачыла ўладальніка гэтага дома, але добра ведала яго па расказах бацькоў. Калі пана Шымялевіча пыталіся пра яго нацыянальнасць, той заўсёды адказваў, што ён "тутэйшы". Гэта быў, на нашу думку арыгінальны, але досыць поўны адказ. Ён побытам тутэйшы, здаўна жыве ў гэтым горадзе, і яго не цікавілі нацыянальнасці іншых жыхароў»*[57].

Іосіф Хруль успамінаў пра гэтыя часы жыцця гісторыка: *«…Шымялевіч трымаў натарыяльную кантору ў Лідзе, яна была яго, але зарэгістравана была на іншае імя. Канешне, ведалі ўсе, што кантора яго. Адам расказваў, што ён быў такі прабіўны чалавек. Але казаў, што не давалі яму тут разгуляцца»*[58]. У спісе лідскіх радных, як у 1928 г., так

[47] Slowo. № 70 (6352). 12 marca 1939.

[48] Kurjer Wilenski. № 328 (4646). 29 listopada 1938.

[49] Адам Хруль (1892–1950), войт радунскай гміны ў 1930-я гг.

[50] Ян Сегень (1875–1973), сусед і сябар Шымялевіча, сваяк Адама Хруля, аўтар «Успамінаў пра Ліду канца XIX стагоддзя», гл.: Лідскі летапісец. 2002. № 4 (20). С. 26.

[51] Раён горада, цяпер каля вуліцы Калініна.

[52] Хрулі з лідскай шляхты герба «Праўдзіц», Сегені з лідскай шляхты герба «Сыракомля».

[53] Цяпер праспект Пераможцаў.

[54] Хруль Іосіф. Успаміны старога шляхціца // Лідскі летапісец. 2012. № 2 (58). С. 57.

[55] Цяпер праспект Пераможцаў.

[56] Цяпер вуліца Стралкоўскага.

[57] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида, 1995. С. 46.

[58] Хруль Іосіф. Успаміны старога шляхціца. С. 57.

і ў 1935 г. пра прафесійную дзейнасць Шымялевіча было напісана «biuralista»[59], такім тэрмінам можа называцца як шараговы клерк, так і начальнік нейкага бюро, верагодна, якраз нейкай натарыяльнай ці юрыдычнай канторы.

На пачатку 1939 г. газеты «Кур'ер віленскі» і «Лідская зямля» друкуюць паведамленні пра шлюб малодшай дачкі Шымялевіча: *«13 лютага а 16-й гадзіне ў Фарным касцёле адбыўся шлюб панны Анны Шымялевіч (дачка знанага лідскага гісторыка) з панам паручнікам Адамам Махніцам»*[60], *«у шлюбе ўзялі ўдзел ксёндз-капелан мясцовага гарнізона, група афіцэраў на чале з камандзірамі палкоў, знаёмыя і сябры маладых»*[61].

У 1940 г. Міхал Шымялевіч быў вывезены ў Казахстан, ягоны дом плошчай 71,41 м$^2$ у Лідзе быў канфіскаваны[62]. У доме жылі настаўнікі, якія прыехалі з СССР[63]. Важным матэрыялам, з якога можна атрымаць звесткі пра лёс Міхала Шымялевіча, быў яго ліст, апублікаваны ў адноўленай газеце «Лідская зямля»[64] (гл. дадаткі).

13 красавіка 1940 г. 60-гадовы даследчык разам з сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра, быў кінуты ў вагоны для быдла і вывезены паміраць у казахстанскі стэп, сям'ю пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска. Жыў у самаробнай мазанцы, атрымаў працу пры інжынерах, якія шукалі нафту ў стэпах Казахстана. Хадзіў з усёй партыяй па стэпах, начаваў у палатках. Адмовіўся браць савецкі пашпарт, за гэта яго пасадзілі ў вязніцу на дзесяць гадоў. У канцы сакавіка 1948 г. яго па амністыі разам з іншымі няздольнымі да працы вывезлі ў Польшчу.

Каля 1950 г. Шымялевіч піша працу пра Ішымскі стэп (Szymielewicz Michał: Step Iszymski), якую ў выглядзе рукапісу на 35 старонках дэпануе ў Бібліятэцы імя Асалінскіх ва Уроцлаве[65]. У рукапісе разглядалася гісторыя Ішымскага краю, размяшчэнне, межы і плошча рэгіёна, геалогія, глебы, вада, клімат, навакольнае асяроддзе, насельніцтва і яго юрыдычны стан. Можа, нейкія рукапісныя матэрыялы Шымялевіча захаваліся ў тым жа «Асаленіюму», я шукаў толькі па каталозе, які апісвае геаграфічныя матэрыялы, а іншых не маю. У гэты час Шымялевіч ужо не меў сваіх архіваў, каб пісаць пра горад Ліду, які ён да смерці ў перапісцы з сябрамі заўжды называў *«наша каханая Ліда»*, але, можа, ён пакінуў свае ўспаміны?

Калі для ягоных папер і кніг у 1915 г. неабходны быў цэлы воз, дык, зразумела, да 1939 г. колькасць матэрыялаў значна павялічылася, бо ўсё жыццё Шымялевіч збіраў дакументы з гісторыі Лідчыны, меў вялікія асабістыя архівы. Ян Сегень пісаў, што даследчык *«сабраў бясцэнныя зборы дакументаў вялікай гістарычнай вартасці і вялікую бібліятэку старадрукаў і рукапісаў-мемуараў»* (гл. дадаткі). Напрыклад, у сваім артыкуле, напісаным на пачатку XX ст., «Горад Ліда і Лідскі замак» даследчык цытуе дакумент «Купчая крэпасць, выдадзеная лідскім мешчанінам Лаўрынам Паўлавічам Казюковічам на пляцы, зямлю і хату, прададзеныя ім Мацею Вайцяховічу і жонцы яго Парасе Фёдараўне 7 красавіка 1630 г.» з свайго прыватнага

[59] Slowo. № 166 (1479). 24 lipca 1927.; Szymielewicz Michał. Miasto Lida w 1938 roku. S. 146.

[60] Kurjer Wilenski. № 46 (4722). 15 lutego 1939.

[61] Ziemia Lidzka. 1939. № 2.

[62] http://news.tut.by/society/152184.html.

[63] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. С. 111.

[64] Ziemia Lidzka. 1999. № 2 (37).

[65] Katalog rękopisów geograficznych Biblioteki Zakładu Narodowego imienia Ossolińskich we Wrocławiu. Warszawa — Wrocław, 1965. S. 89–90.

архіва[66]. Аўтар кнігі па генеалогіі літоўскіх татараў Станіслаў Дзядулевіч у сваёй кнізе шматкроць спасылаецца на «Рукапіс М. Шымялевіча» ці на «Дакументы са збораў М. Шымялевіча». Менавіта Шымялевіч здабыў, збярог і надрукаваў у другой палове 1930-х гг. цікавыя мемуары Мірона Браніслава Нарбута пра Лідчыну, гісторык пісаў: *«Мемуары я атрымаў у 1913 г. з рук пана Мацея Марачэўскага, ганаровага суддзі Лідскага павета, якому тут за дазвол апублікаваць мемуары сардэчна дзякую. Божа адудзяч! Мемуары напісаны на 107 старонках фармату чвэрці звыклага аркуша паперы рукой аўтара… Сам тэкст мемуараў у некалькіх месяцах не чытаецца…»*[67].

Бядотным аказаўся лёс архіва гісторыка. У 1939 г. новую ўладу абсалютна не цікавілі архіўныя каштоўнасці Заходняй Беларусі, архіўныя матэрыялы, якія засталіся ў будынках польскай дзяржаўнай адміністрацыі мэтанакіравана знішчаліся. Так, у Навагрудку на тэрыторыі настаўніцкай семінарыі было спалена шмат дакументаў (цяпер немагчыма дакладна ўстанавіць іх колькасць), а значная частка збору фотаздымкаў палітычных вязняў была раскрадзеная. У падвале Навагрудскага раённага выканаўчага камітэта польскія архіўныя матэрыялы выкарыстоўваліся для распальвання печаў, а ў будынку мясцовага суда ў россыпе знаходзіліся дакументы і стужкі фільмаў. У Дзятлаве архіўныя матэрыялы ніхто не ахоўваў, яны паступова раскрадаліся мясцовым насельніцтвам. У Лідзе абутковая фабрыка «Ардаль» здала ў макулатуру 5 тон дакументальных матэрыялаў[68].

Але ў гэты ж час адмыслова дасланыя ў Ліду выкладчыкі БДУ пачынаюць займацца апрацоўкай архіваў Шымялевіча! Нават толькі гэта адзінае кажа пра вялікую каштоўнасць архіва лідскага гісторыка. Ян Сегень пісаў (гл. дадаткі): *«Усе яго зборы пасля арышту і вывазу разам з сям'ёй у Казахстан у 1940-м г. былі апячатаныя і потым каталагізаваныя выкладчыкамі ўніверсітэта з Мінска. Аднак не былі вывезеныя з горада (працы з імі працягваліся) і згарэлі разам з цэнтрам горада ў часе ваенных дзеянняў перад уступленнем гітлераўскіх войскаў у Ліду»*. У доме гісторыка пасяліліся настаўнікі «з усходу», таму, канешне, архіў быў вывезены з хаткі Шымялевіча, верагодна, у гарадскі музей (знаходзіўся па адрасе: Сувальская, 3, на месцы сучаснага магазіна «Юбілейны») ці ў памяшканне старостава (Сувальская, 15), дзе захоўваліся архівы павета.

Як вядома, у архіве лідскага старостава ў той час мелася 30 фондаў, якія налічвалі 150 000 польскіх архіўных дакументаў, і будынак архіва разам з усімі матэрыяламі быў спалены ў час баявых дзеянняў 23 чэрвеня 1941 г.[69]. З аэрафотаздымка, зробленым улетку 1944 г., бачна, што на месцы музея і магістрата наогул нічога не засталося, а спаленае старостава стаіць без даху.

Ёсць яшчэ адзін варыянт гібелі архіва нашага гісторыка — калі б архіў Шымялевіча каталагізаваўся ў гарадскім музеі. Лідскі музей быў паўторна адчынены ў 22 студзеня 1941 г. і пасля пачатку вайны савецкі дырэктар музея Свірыдаў нават паспеў эвакуяваць фонды, але каля Смаленска ў машыну патрапіла авіяцыйная бомба[70]. Такім чынам ці ў Лідзе, ці пад Смаленскам архівы даследчыка загінулі.

---

[66] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37–57.

[67] Ziemia Lidzka. 1936. № 5.

[68] Польшча Беларусь: Агульная гістарычная спадчына: даведнік па архіўных матэрыялах 1918–1939 гг. Том 1. Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. Варшава, 2013. С. 8.

[69] Тамсама. С. 16.

[70] Хацяновіч Наталя. Лідскі гістарычна-мастацкі музей // Лідскі летапісец. 2009. № 3–4 (47–48). С. 16.

У 1992 г. Шымялевіч быў рэабілітаваны, вось тэкст кароткай даведкі пра яго рэабілітацыю:

*«Шымялевіч Міхаіл Іванавіч. Нарадзіўся ў 1879 г., Польшча, Навагрудскае ваяводства, Ліда, паляк, адукацыя сярэдняя;*

*Пражываў: Паўночна-Казахстанская вобл., Бішкульскі р-н, в. Фурманаўка;*

*Арыштаваны 20 сакавіка 1943 г. Палудзінскім РА НКУС.*

*Прысуджаны: СК аблсуда 15 чэрвеня 1943 г., абвінавачване: 58–2 УК РСФСР.*

*Прысуд: 10 гадоў ППЛ.*

*Рэабілітаваны 23 чэрвеня 1992 г. Генпракуратурай РК. Указ Прэзідэнта СССР ад 13.08.1990.*

*Крыніца: Звесткі ДКНБ РК па Паўночна-Казахстанскай вобл»*[71].

14 студзеня 1969 г. газета «Балтыйскі дзённік» надрукавала аб'яву: *«11 студзеня 1969 г. раптоўна памёр наш самы каханы бацька, брат, цесць, дзед і прадзед, Святой Памяці Міхал Шымялевіч. Нарадзіўся 18.Х.1879 г. у горадзе Ліда, былы міравы суддзя*[72]*. Пахаванне адбудзецца 14.01 у 15–00 на камунальных могілках у Сопаце. Св. імша будзе адпраўлена 16.01 у 8–30 у касцёле Зорка Мора ў Сопаце. Смуткуем, дочкі і сям'я»*[73].

Улетку 2014 г. мой сябра Дзмітры Гамбург з сям'ёй адпачываў у Сопаце. Інтэлігентны, неабыякавы да гісторыі і культуры чалавек патраціў свой вольны час, каб знайсці магілу Міхала Шымялевіча. Як высветлілася, акрамя камунальных могілак, гісторык мог быць пахаваны на каталіцкіх могілках касцёла Зорка Мора, бо пры канцы 1960-х гг. гэтыя каталіцкія могілкі таксама выконвалі ролю камунальных. Аднак на абодвух могілках пахавання гісторыка няма. Як патлумачыла адміністрацыя, гэта азначае толькі адно — магіла Шымялевіча ўтылізаваная, бо ніхто не ўносіў грошы за яе існаванне. Дзмітры сфатаграфаваў запіс у касцёле пра адпяванне лідзяніна. З запісу бачна, што ён жыў у доме № 5 па вуліцы Шапэна. Мой сябра таксама сфатаграфаваў дом, дзе Шымялевіч жыў апошнія дзесяцігоддзі свайго жыцця. Дарэчы, высветлілася, што жыў ён у Сопаце ў камунальнай кватэры.

Два пакаленні сям'і Багаткоўскіх пахаваны ва Уроцлаве. Унук гісторыка Земавіт Багаткоўскі быў вядомым у Польшчы радыёаматарам-кораткахвалевіком, аўтарам кніг па радыёсправе.

**Міхал Шымялевіч — сапраўдны культурны герой Лідчыны. Ягоным імем трэба было б назваць адну з вуліц нашага горада, а магчыма, і адну з устаноў культуры і асветы, напрыклад музей ці гарадскую бібліятэку, гімназію ці ліцэй.**

---

71 http://lists.memo.ru/d37/f41.htm.

72 Міравы суддзя — у Другой Рэчы Паспалітай суддзя самага нізкага ўзроўню. Пасада ўведзена ў 1920-я гг. Спачатку ў разборы спраў акрамя міравога суддзі ўдзельнічалі два прысяжныя. З 1927 г. суддзя разбіраў справы аднаасобна. Суддзю выбіралі жыхары судовай акругі на пяцігадовы тэрмін. Кандыдат павінен мець узрост не меней за 30 гадоў, мець хоць бы сярэднюю адукацыю, карыстацца ўсімі грамадзянскімі правамі і мець добрую рэпутацыю.

73 Dziennik Bałtycki. 1969. № 11 (7621).

## ДАДАТКІ ДА БІЯГРАФІІ МІХАЛА ШЫМЯЛЕВІЧА

### Успаміны Яна Сегеня пра блізкага сябра свайго бацькі Міхала Шымялевіча[74]

Памятаю, як у кнізе майго роду, якую захоўваў мой с. п. бацька (гэтая кніга згарэла разам з нашым домам, а дакладней, разам з усім раёнам горада падчас пажару ў часе ваенных дзеянняў у 1941 г.), на першай старонцы быў намаляваны герб «Сыракомля»[75] — на гербавай тарчы «дзве пераварнутыя кроквы» і «зламаную стралу», а над тарчай шлем з «трыма страусавымі пёрамі». Над гербам быў надпіс «Герб сям'і Сэгэнь».

У кнізе змяшчаліся генеалагічныя табліцы, а таксама копіі і арыгіналы[76] метрык хростаў, шлюбаў і смерцяў і іншыя сямейныя дакументы. Дакументы былі вельмі старыя, арыгіналы былі ўсе паклееныя. Некаторыя, нечытэльная, мелі каля арыгінала старанна запісаныя копіі і каментары. Кніга была зробленая сябрам бацькі — Міхалам Шымялевічам, натарыусам. Па адукацыі і зацікаўленасці гісторыка Лідскай зямлі. У маладосці ён з запалам збіраў розныя гістарычныя дакументы, пісаў і друкаваў у рэгіянальных выданнях артыкулы, звязаныя з гісторыяй Лідскай зямлі, перапісваўся з гістарычнымі таварыствамі, словам, атрымаў вядомасць як аўтарытэтны даследчык-аматар. У выніку ён быў адпраўлены за кошт нейкага гістарычнага таварыства вучыцца ў Кракаў і атрымаў гістарычную адукацыю ў Ягелонскім універсітэце да Першай сусветнай вайны. Пасля вяртання ён працягнуў сваю працу ўжо як спецыяліст з адпаведнай падрыхтоўкай. Тым не менш ён працаваў прысяжным павераным (здаў нейкія дзяржаўныя экзамены ў Расійскай імперыі), вёў справы большасці маёнткаў вакол Ліды і меў вялікія магчымасці вывучаць дакументы продкаў шматлікіх сем'яў.

Сабраў бясцэнныя зборы дакументаў вялікай гістарычнай вартасці і вялікую бібліятэку старадрукаў і рукапісаў-мемуараў. Усе яго зборы пасля арышту і вывазу разам з сям'ёй у Казахстан у 1940 г. былі апячатаныя і потым каталагізаваныя выкладчыкамі ўніверсітэта ў Мінску. Аднак не былі вывезеныя з горада (працы з імі працягваліся) і згарэлі разам з цэнтрам горада ў часе ваенных дзеянняў перад уступленнем гітлераўскіх войскаў у Ліду.

Упарадкаванне сямейных дакументаў майго бацькі і апраўленне іх у «Кнігу Роду» была яго працай, каб зрабіць падарунак у знак дружбы.

Былі гэта, відочна, сардэчныя сябры. Жылі па суседстве, бачылі адзін аднаго амаль кожны дзень, вялі доўгія размовы і традыцыйна разыгрывалі партыю «66», якая часам цягнулася да позняй ночы. Гэта было свайго кшталту наркаманія. Але ва ўсякім выпадку гульня не замінала іх бясконцым размовам, для якіх яны ніколі не адчувалі недахоп тэмаў.

Гэта Ён [Шымялевіч] уласнаручна намаляваў наш герб на нейкай адмысловай паперы і ўставіў у тую кнігу.

Ён таксама ўсталяваў канчаткова дакладнасць арфаграфічнага напісання прозвішча: Seheń (Сэгэнь).

---

[74] З асабістага архіва сябра аўтара артыкула Януша Сегеня з Варшавы.

[75] Так званая 14-я разнавіднасць. Абданк з крыжападобнай стралой.

[76] Часцей копіі, арыгіналы — гэта выпіскі з метрыкальнай парафіяльнай кнігі.

## Ліст Міхала Шымялевіча Драмовічу, дасланы ў рэдакцыю «Лідскай зямлі» Вітольдам Драмовічам[77]

3.01.1959 г.

Паважаны і дарагі пане.

Атрымаў ліст ад пані Кацярыны Кліжашэўскай, і я вельмі-вельмі абрадаваўся, што ўратаваў сваё жыццё яшчэ адзін мой добры знаёмы пан Арэхва. Яшчэ віншую пана з Новым Годам і жадаю пану здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, усемагчымай удачы і спаўнення ўсякіх і ўсіх пажаданняў.

Я 13 красавіка 1940 года быў вывезены разам з сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра на ўсход.

Разам з намі было вывезена з Ліды і павета некалькі тысяч душ. Вывезеных раскідалі па некалькіх раёнах Паўночнага Казахстана. Каля тысячы нашых людзей яны пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска. Тут нешчасныя людзі рассяліліся па вёсках у жабрацкіх хатках, збудаваных з вялікіх неабпаленых цаглін з гліны, гною і саломы. Тыя бедныя хаткі мелі дахі з плеценых лазовых матаў, змазаных глінай. У хатках крайняя беднасць, і мы, колькі там жылі, жылі толькі з таго, што прадавалі сваю вопратку за бульбу, малако і вельмі рэдка за нейкі кілаграм мукі. Нашы людзі, а гэта былі практычна ўсе жанчыны з дзецьмі, жонкі паліцыянтаў, афіцэраў, сяржантаў, урадоўцаў, якія на вайне з Гітлерам былі забітыя, забраныя да няволі нямецкай або забраныя Саветамі, сядзелі ў вязніцах ці лагерах у Катыні, Казельску, Старабельску і іншых месцах. Мужчын было вельмі мала і то адны дзяды. Хто мог, пайшоў на працу. Хто рабіў у гразі і вадзе цэглу, хто запісаўся ў калгасы або саўгасы. Я атрымаў працу пры інжынерах, якія шукалі нафту ў стэпах Казахстана. Хадзіў з усёй партыяй па стэпах, начаваў у палатках. Што чалавек зарабляў, тое з'ядаў і не наядаўся. Лета было гарачае. 40 гр. цяпла.

Прыйшла зіма, снежная, марозная і доўгая. Мароз трымаўся 30–40 гр. Нашы людзі вымушаны былі разам з усімі ісці на цяжкія работы — ачышчэнне снегу з чыгуначнай каляі, на будоўлі нафтавых вышак, і ўсё гэта ў холадзе, у голадзе і практычна задарма. Прыйшла вясна 1941 г., толькі распачаліся летнія работы, як выбухнула вайна Сталіна з Гітлерам. Рускіх людзей пабралі ў войска, а нас, не пытаючыся, ці хочам, ці жадаем, запакавалі на цягнікі і вывезлі за паўтары тысячы кіламетраў у Кустанайскую вобласць і пасялілі ў палатках над рэчкай Таболам ды пагналі на работы — капаць і ўкладваць баласт на будоўлі новай чыгункі. Там зноў у гразі, у голадзе, у вошах правялі некалькі месяцаў.

Напалі на нас розныя азіяцкія хваробы, язвы, сверб і ліха ведае што. Ледзь восенню вырваліся з таго пекла і па вялікіх муках жменька нас вярнулася ў Паўночны Казахстан. Там мы пагінулі б, бо за першы год толькі з нашай групы палякаў памерла 50 чалавек, пераважна з голаду. Але Пан Бог усё-ткі выказаў сваю міласэрнасць. Генерал Сікорскі дамовіўся са Сталіным, выпусцілі польскіх вязняў, генерал Андэрс пачаў фармаваць там польскую армію, а нас, палякаў, Амерыка і Англія ўзялі пад сваю апеку. Далі нам сякую-такую дапамогу, і мы пачалі аджываць. Але калі наша польскае войска аказалася выпраўленым у Іран за Каспійскае мора, то Саветы ўсіх тых, хто не пайшоў у войска (жанчын, дзяцей, старых) затрымалі ў сябе ў якасці закладнікаў. Абвясцілі сваімі падданымі і загадалі выдаць нам савецкія пашпарты, як іх падданым. Плач, енк, што ўжо ніколі не вернемся да сваёй Айчыны. Сам я проста не хацеў гэтага прымаць і падгаворваў іншых, каб супраціўляліся і не бралі. Цвердзіў усім, што над намі апякуецца Англія і Амерыка і наш урад у Лондане. І нам не дадуць згінуць у Саветах. Суцяшаў, што ўсе вернемся

[77] Ліст надрукаваны ў газеце «Ziemia Lidzka». 1999. № 2 (37), пераклад Станіслава Судніка.

ў Польшчу. За гэта мяне пасадзілі ў вязніцу на дзесяць гадоў. Цягалі мяне па вязніцах і следствах практычна ўвесь 1943 год і ў канцы вывезлі ў лагер на поўдзень ад Караганды. Зімой, пры 30 гр. марозу, вязлі нас пяць сутак у вагонах для жывёлы на кавалку сухога хлеба і вядры халоднай вады з лёдам. У тым падарожжы адмарозіў сабе ногі. Потым сядзеў пару месяцаў на раздзельным пункце ў Карабасе, адкуль мяне з чорнымі гнілымі пальцамі на нагах перавезлі ў шпіталь у Далінцы. Там мне ампутавалі вялікія пальцы на нагах, а астатнія палячылі, але і цяпер заўсёды мне баляць ногі, асабліва на халоднае надвор'е. Пяць гадоў ганялі мяне там з лагера ў лагер, жыў тыя пяць гадоў без кашулі, у падранай, смярдзючай ватоўцы і ў такіх жа портках. У канцы 20 сакавіка 1948 г., роўна праз пяць гадоў вывезлі мяне разам з іншымі, не здольнымі да працы (па амністыі), у Польшчу.

Мая жонка была прывезеная ў Польшчу разам з іншымі палякамі яшчэ ў 1946 г. Тут знайшла старэйшую дачку настаўніцу Марыю Вось і пры ёй асела ў Сопаце. Я знайшоў адрас жонкі і дачкі і прыехаў да іх 20 траўня 1948 г. Жонка мая, будучы ў Казахстане на цяжкай працы, надарвалася, атрымала грыжу і хварэла, аж пакуль не памерла ў 1955 г., маючы 75 гадоў, і была пахаваная ў Сопаце.

Дачка мая, жонка афіцэра, жыла ў Казахстане з намі, а калі фармавалася там польская армія, быў выпушчаны з увязнення на Беламорканале яе муж Адам Махніц, знайшоў нас у Казахстане, прыехаў да нас, трохі адпачыў і паехаў у польскую армію, куды забраў потым і сваю жонку, нашую дачку. Ён, як афіцэр, а яна, як сястра міласэрнасці, прайшлі Іран, Сірыю, Палесціну, дзе спатkаліся з нашымі лідскімі габрэйчыкамі, потым прайшлі праз Італію і былі ў тым страшным баі пад Монтэ-Касіна. Там зяць быў паранены. Цяпер яны жывуць у Англіі, абое працуюць, і ім там някепска жывецца, а мне дапамагаюць.

Я атрымаў працу вахцёра пры музычнай школе, пільную парадак паміж вучнямі і атрымоўваю штомесяц 350 зл. і маю пенсію па старасці 548 злотых штомесяц. Жыву пры дачцэ настаўніцы і нейк трымаюся. Маю ўжо 80 гадоў, галава і вусы белыя як снег, але яшчэ хаджу дзёрзка і не горблюся. Ні на адну чынавенскую працу не пайшоў, бо пры сённяшніх парадках чалавек раз на возе і раз пад возам. А вахцёру ні пра што галава не баліць, глядзі, каб падлога была чыстая, каб вучні не сваволілі, каб хто чаго не ўкраў або не сапсаваў.

Суцяшаў сваіх людзей у Казахстане. А цяпер і тут суцяшаю. Прыйдзе час — і ўсе і мы, хто дачакае, вернемся да сваёй любімай старонкі, хто да Ліды, хто да Качанова[78]. Будзь пан пэўны, што яшчэ прыляціш пяхотай з Ліды да сваёй зямлі, да свайго доміка і да свайго млына, абдымеш яго за вугал і будзеш плакаць слязамі з радасці, што па тых гадах і муках дабіўся, аднак, да свае мілай ўласнасці.

Але толькі трымайся і не падай духам. Так будзе, як пішу. Пішы мне. Цікава, што стала з Бараноўскімі і Янам Шаптуноўскім.

Сардэчна абдымаю пана. Міхал Шымялевіч.

### Ліст напісаны ў 1963 г. Міхалам Шымялевічам сябру Яну Сегеню ў Варшаву

Цэлы месяц жнівень правеў ва Уроцлаве, у дачкі і зяця Багаткоўскіх (*Bogatkowskich*). Мая дачка Марыя Вось (*Maria Wosiowa*) таксама была ва Уроцлаве разам з намі два тыдні. У тым годзе, у палове ліпеня, прыязджалі да нас у Сопат з Лондана Махніцы — мая дачка Ніна з мужам. Бавілі ў нас у Сопаце 10 дзён, а потым паехалі ва Уроцлаў, былі там да паловы жніўня, прычым зяць ездзіў да сваіх крэўных, а дочкі ездзілі да сваіх крэўных па матцы. Калі былі ва Уроцлаве, справілі вяселле. Мой унук Земавіт

[78] Вёска пад Лідай, дзе Драмовіч мёў млын.

Багаткоўскі (33 года) ажаніўся з ладнай паннай Марыяй Туровіч, якая паходзіць з Львова, а працуе ва Уроцлаве на агранаміі. Яна аднагодка з мужам, толькі выглядае на 20 гадоў. Пасагу не было. Нават, як казалі цёткі маладога (размаўляючы паміж сабой), маладая брала шлюб у пазычаным строі крэмавага колеру і нават пазычыла пекныя пантофлі. Але затое вяселле было ладным. Шлюб адбываўся ў касцёле Св. Эльжбеты па вуліцы Грабішынскай. Касцёл гэты ўцалеў ад вайны, надта ладная старажытная готыка, з ладнымі вітражамі ў вокнах, ладная, у каляровую кафлю падлога, пекныя алтары. Падчас шлюбу, які працягваўся не так хутка, як раней у нашай каханай Лідзе, дзе бывала і па некалькі пар адразу і для ўсіх святой памяці арганіст пан Пухальскі іграў толькі адзін марш, — тут цырыманіяльная служба працягвалася палову гадзіны. Перад гэтым шлюбам такі самюткі. Доўга і ладна падчас службы іграў арганіст з хорам, а фатограф, калега маладога, зрабіў дванаццаць фатаграфічных здымкаў з розных пунктаў і ў розных хвілях цырымоніі.

Потым было вяселле. Два сталы з моцнымі і слабейшымі напоямі, досыць усякіх далікатэсаў. Чатыры цёткі маладой, з іх адна прафесар музыкі, іграла фартэпіяна і рабіла застолле прыемным, другая, эстрадная і оперная спявачка, добра спявала. Пасля стала распачаліся танцы пад радыёлу. Я з маці маладога, наша Золя і Маня ад'ехалі дадому, на іншы канец горада за 10 км, бо Золя спяшалася на працу на наступны дзень, а моладзь танчыла новыя танцы да світанку.

## УСПАМІНЫ МІХАЛА ШЫМЯЛЕВІЧА

### У цішы могілак…[79]

Пад канец XVIII ст. хрысціянскія могілкі горада Ліды знаходзіліся на ўзгорку паміж вуліцамі Гражыны, Вызвалення, Гарыстай[80]. Тут, над старым млынарскім ставам, стаяла драўляная ўніяцкая царква Уваскрашэння Гасподняга, пабудаваная з дрэва, разабранага парафіяльнага касцёла ў 1765 г., пры царкве знаходзіўся шпіталь для ўбогіх, г. зн. прытулак.

Згодна з сенацкім указам 24 снежня 1771 г. могілкі патрэбна было пераносіць за горад, у месца, якое знаходзіцца ад апошняга гарадскога будынка не бліжэй за сто сажняў, былыя могілкі не адпавядалі гэтым патрабаванням. Таму па распараджэнні губернскіх уладаў у 1797 г. былі закладзеныя новыя могілкі на замкавай зямлі, на іншым узгорку за ракой Лідзеяй у сасновым бары, які некалі займаў цэлыя Кузьмішкі — уладанні паноў Вісмантаў. Адпачатку новыя могілкі не мелі дакладна акрэсленых межаў, аднак каля 1840 г. на сродкі пані Клары Якавіцкай, як належала па прадпісанні, могілкі былі акапаныя ровам і агароджаныя невысокім валам. Роў і вал, аднак, не баранілі могілкі ні ад быдла, якое пасвілася побач, ні ад непажаданых асобаў. У 1886 г. на сродкі пані Ласковіч была выбудаваная брама на могілкі — чатыры мураваныя слупы з драўлянымі варотамі. Каля 1900 г. распачалася і праз некалькі гадоў закончылася будоўля новай мураванай агароджы могілак. У памяць гэтага ўлева ад увахода з унутранага боку была ўмураваная табліца з надпісам: «Агароджана ў 1903 г. коштам парафіян, стараннем ксяндза-дэкана Юзафа Сянкевіча, М. Пацэвіча, Я. Падгайнага, камення Стэфана Макрэцкага за якіх Здровась Марыя». Згаданы капітан Стэфан Макрэцкі, уладальнік маёнтка Вінькаўцы, праз нейкі час, як генерал зброі Войска Польскага, быў начальнікам Сярэдняй Літвы.

У 1805 г. ксёндз Вінцэнт Нарбут, пробашч і дэкан лідскі, пабудаваў тут досыць вялікую драўляную капліцу, якую высвяціў ў гонар св. Барбары, панны і мучаніцы, як

[79] Szymielewicz Michał. Z tamtego świata // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117–120.

[80] Былі і яшчэ адны ўніяцкія могілкі каля царквы Св. Мікалая ў цэнтры горада. Таксама рымакаталіцкія могілкі былі каля Фарнага і Кармеліцкага касцёлаў.

патронкі добрай смерці, абраз гэтай святой знаходзіўся ў вялікім алтары. Пасля скасавання ў Лідзе касцёла кармелітаў і пажару касцёла піяраў, падчас рамонту Фары, з дазволу дыяцэзіяльных уладаў, сюды былі часовы перанесеныя парафіяльныя набажэнствы. У 1848 г. капліца была грунтоўна рэстаўраваная. У 1905 г. невядомы злачынец падпаліў капліцу, але пажар быў патушаны. У капліцы калісьці быў стары арган, перанесены сюды з Фары, у 1904 г. гэты арган перададзены філіі ў Крупава, дзе ён згарэў разам з касцёлам ў 1919 г. Каля капліцы на двух слупах стаяла званіца з двума званамі: адзін вагой у пуд, другі — 30 фунтаў (12 кг). У 1885 г. Стэфан Буткевіч, былы маршалак Лідскага павета пабудаваў новую, ашаляваную і крытую гонтам званіцу. У 1930 г. кс. Гіпаліт Баярунец, пробашч і лідскі дэкан, на месцы старой капліцы пачаў мураваць новую, якая цяпер ужо накрытая.

На могілках здаўна стаяў драўляны шпіталь, невядома кім і калі пабудаваны і калі зруйнаваны, пасля зруйнавання ўбогія не мелі дзе жыць. Панна Марыя Ле Форт, гувернантка, адпісала для тутэйшых убогіх 66 рублёў срэбрам. Кс. Юзафат Вайшвіла, лідскі экс-піяр, які дажываў у лідскай парафіяльнай плябаніі, дадаў яшчэ 150 рублёў, і за гэтыя грошы ў 1845 г. пабудавалі новы драўляны шпіталь. У 1856 г. тут жылі 12 убогіх. Калі гэты шпіталь струхнеў, пані Ласковіч пабудавала за агароджай могілак драўляны шпіталь, які існуе і цяпер.

Раней, да арганізацыі каля 1865 г. асобных могілак для праваслаўных, на старых могілках хавалі нябожчыкаў усіх хрысціянскіх вызнанняў. Знайшоў тут вечны пакой пан Ксаверы Эстка (1787–1855), харунжы Лідскага павета з Дакудава, евангелік. На ягоным нагробку, работы віленскага разьбяра Вяржбоўскага, вялікая кніга з надпісам на ёй: «Браты! Тут пахаваны ваш бліжні, які хацеў падмануць сваю магілу». Недалёка ад гэтай магілы спачывае евангелік-лютэранін Фрыдэрык Неўман, падпалкоўнік (1813–1869). На камені яго нагробка надпіс: «Пане! Скажы яму: “Ідзі да мяне!”, мне скажы, Пане: “Не плач!”. Смуткуючая жонка паставіла гэты помнік». Трохі глыбей, за капліцай, спачывае пад моцнай глыбай барон Эрнест Медэм (1846 г.)[81]. Помнік нябожчыку паставілі таварышы па зброі з Галіцкага палка егераў. Помнікі з надпісамі па-расійску на помніках нябожчыкам праваслаўнага веравызнання: Пятра Масіны (1850 г.), Якуба Масіны (1860 г.), Марыі Патрэсавай (1861 г.).

Каля самай капліцы ляжыць вялікая гранітная пліта, на якой яшчэ можна прачытаць: «Юзаф Грабавецкі, герба Гржымала, з Падляшша, доктар Медыцыны і Акушэр, член Імператарскага таварыства лекараў у Вільні, калежскі асэсар, нарадзіўся 19 сакавіка 1786 г., памёр 4 снежня 1849 г.

*Для сям'і быў шчасцем,*
*Для гэтай краіны здароўем,*
*Дабрачынцам убогіх,*
*Мілоснікам дарагіх праўдаў.*

Выразаў у Вільне Гарбацэвіч».

Аўтарам гэтых радкоў быў згаданы вышэй кс. Юзафат Вайшвіла і фразу «Мілоснікам дарагіх праўдаў» ужыў не выпадкова і не для рыфмы, але толькі таму, што, каму патрэбна, вядома пра тое, што Юзаф Грабавецкі быў членам масонскай ложы Гарлівы Ліцвін у Вільні.

На другім баку капліцы сабраны магілы ксяндзоў, старых і маладых, тут ляжаць:

Юзаф Сянкевіч, пробашч і дэкан Лідскі (1905 г.),

Альберт Стэцкі, місіянер (1898 г.),

81 «Земскі спраўнік, адстаўны маёр Эрнест Аляксандравіч барон Медэм» — Памятная книжка Виленской губернии на 1845 год. Вильна, 1845. С. 105.

Антоні Кулакоўскі, місіянер (1904 г.),

Станіслаў Пацынка, вікары (1918 г.),

Ян Кандрат, вікары (1924 г.)[82].

Пад мармуровымі плітамі спачывае сям'я ўласнікаў Мелужына і Воранава:

«Юзаф Зарэцкі, сын Войцеха, герба Варня, генерал-лейтэнант корпуса інжынераў. Нарадзіўся ў Скамарохах 19 снежня 1800 г. Памёр у Пецярбургу 29 студзеня 1869 г.».

Каля яго ляжыць верная жонка «Ганна Зарэйкая, g(eboren) v(on) Гравеніц. 1 ліпеня 1807, † 1 лістапада 1891».

Іх сын Мікалай Юзаф Варня Зарэцкі, нарадзіўся 11 верасня 1843 г., памёр 12 студзеня 1883 г.

Яго жонка: Марыя Зарэцкая.

Іх дачка: Ганна Зарэцкая, памерла ў росквіце гадоў (1900 г.).

Амаль што кожны землеўладальнік у Лідскай парафіі меў тут зарэзерваваныя дзялкі для сваіх радоў, і так:

**Качанова і Касоўшчына**. Станіслаў Адамовіч (1780–1838), прэзідэнт павятовага лідскага суда Фелікс Адамовіч[83] (1783–1876), гродскі прэзідэнт Лідскага павета, Гаспар Адамовіч (1794–1856), суддзя Лідскага павета, Эмілія Буткевіч з Адамовічаў (1813–1879), маршалкова Лідскага павета, а яе муж, Стэфан Буткевіч[84] (1815–1896), лідскі маршалак, спачывае каля ўвахода на могілкі, пад фундаванай ім званіцай.

**Курэсеўшчына**. Мае адзінага прадстаўніка: «Ян Тюкала (1783–1867), капітан б. польскіх войск». Іншыя Тюкалы болей палюбілі Белае Балота з Гроднам, а Курэсеўшчыну пакінулі.

**Вялікая Перапечыца** мае некакалькі нагробкаў: «С. п. Ксаверы Рыло, Надворны саветнік і жыхар Лідскага павета. Жыў 62 гады, памёр 22 лютага 1836 г. Засмучаныя дочкі просяць аб "Здровась Марыя"».

Яго сын: «С. п. Канстантын Рылло, карнет гусарскага палка караля Нідэрландаў. Жыў 22 года, памёр 3 жніўня 1847 г. Сёстры ў суме просяць аб трох "Здровась Марыя"».

Дочкі, з надпісам: «Тут спачываюць парэшткі с. п. Альбертыны з Рылаў Садоўскай, памерла 17 мая 1867 г. ва ўзросце 53 гадоў».

Яе муж: «Тут спачываюць парэшткі с. п. Рафала Садоўскага, стацкага саветніка і кавалера. Памёр 8 жніўня 1869 г. ва ўзросце 58 гадоў».

Першай яго жонкі, ад якой Садоўскім належала Баяршчына пад Лідай (цяпер Тумялевічаў) «DOM. Максімілія з Даўгялаў Садоўская і двое дзяцей Людвіка і Яна, жонка лідскага павятовага лекара, калежскага асэсара, пакінуўшая гэты свет 13 лістапада 1845 г. ва ўзросце 27 гадоў». На нагробку верш:

*Не парэшткі памёрлай ляжаць пад гэтым валуном,*
*Разам шчасце чулай маці пахавана.*
*Сэрца мужа прабіта гэтым страшным ударам,*

---

[82] У 1986 г., ратуючы ад варварскага знішчэння, парафіяне перанеслі магілы гэты ксяндзоў на Слабадскія могілкі.

[83] «Фелікс Апалінар'евіч Адамовіч, дэпутат Камітэта па назіранні за продажам алкагольных напояў» — Памятная книжка Виленской губернии на 1845 год. Вильна, 1845. С. 103.

[84] Прадвадзіцель дваранства ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Сцяпан Дзяменцьевіч Буткевіч (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. Ч. 1. С. 110). Буткевіч С. Д. (1815 г. н.) выконваў абавязкі прадвадзіцеля з 12 кастрычніка 1855 г., адукацыю атрымаў у Шчучынскай павятовай вучэльні, быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ст., медалём у памяць вайны 1853–1856 гг. і знакам за 15 гадоў службы (гл.: Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. С.-Петербург, 1868. С. 90.).

*Чутны голас жалю і смутку,*
*Трое дзетак-сіротак пакінула на зямлі,*
*Каб навечна застацца з двумя памёрлымі.*

Без нагробка ляжаць тут сын павятовага лекара Ян Садоўскі (1905 г.), яго жонка з Кваткоўскіх, іх сын Ян Рафал Садоўскі і некалькі іншых членаў гэтай сям'і.

**Чэхаўцы**. «Тут спачывае с. п. Казімір Мяцеша сын Банькоўскі б. суддзя Лідскага павета, пам. 18 кастрычніка 1871 г., жыў 76 гадоў»[85].

**Скаўронішкі**. «Тут спачываюць с. п. Пётр Жаба і дачка Памэла Нарбут, пам. 18 сакавіка 1872 г. ва ўзросце 47 гадоў».

**Трацякоўцы**. «Тут адпачываюць парэшткі жыхара Лідскага павета Яна Калясінскага пам. 27 чэрвеня 1874 г. і жонкі Антаніны Калясінскай пам. 13 сакавіка 1863 г.».

«Магілы сям'і Станіслава Калясінскага. Яго сын Станіслаў пам. 7 лютага 1897 г., меў 24 гады».

Сям'я Крахельскіх, якая доўгі час жыла ў Лідзе, пакінула некалькі магіл:

«Магілы Крахельскіх. С. п. Тэафіла Крахельская пам. 20.II.1881 г. ва ўзросце 58 гадоў. Найлепшай з маці ад шчыра кахаючых дзяцей.

*Бацькі!*
*Тут пад гэтым халодным каменем ляжаць вашыя парэшткі*
*І трох сыноў падлеткаў, пахаваных разам.*
*Пяць асобаў зачынены ў панурых скляпеннях.*
*Які ж сум у нашых душах, якая вострая боль!*
*Асіроцелі сыны і дачка без бацькоўскай апекі,*
*Страцілі бацьку і найлепшую маці, сіроты навек!*
*Мінак, які чытаеш на гэтым смутным помніку,*
*Злітуйся як чалавек і пабожна памаліся:*
*«О Божа літасцівы, дай вечнае збавенне*
*Гэтым душам, чые парэшткі пакрывае гэты склеп».*

«С. п. Юзаф Крахельскі, казначэй і жыхар Лідскага павета. Меў 50 гадоў. Пакой твоёй душы, дарагі бацька!».

С. п. іхнія дзеці Уладзіслаў, Аляксандр і Віктар.

«Тут ляжыць Ружа з Туровічаў Крахельская, скарбнікава Лідскага павета. Памерла 19 мая 1837 г., мела 19 гадоў».

«С. п. Нарцыс Крахельскі, жыхар Лідскага павета. Нарадзіўся 14 кастрычніка 1829 г., памёр 11 снежня 1890 г.».

Густа «засяляюць» свае могілкі гарадскія жыхары:

Павятовы лекар Раймунд Гузе (1896 г.)[86].

Эмілія з Шостакаў Ляўданская[87], жонка спраўніка Лідскага павета (1893 г.).

Марцін Галаўня (1888 г.).

Ян Стасевіч, бургамістр (1901 г.).

Анна з Малашкевічаў Яцкевіч, бургамістрава (1840 г.).

Яна з Ліпінскіх Зэдлер, аптэкарова (1871 г.).

---

[85] Так у крыніцы. — Заўвага перакладчыка.

[86] «Надворны саветнік Раймунд Станіслаў Рудольфавіч Гузе, адукацыю атрымаў у С.-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 22 ліпеня 1879 г.» — Памятная книжка Виленской губернии на 1887 год. Вильна, 1886. С. 13.

[87] Яе муж, паліцэйскі спраўнік з 1888 да 1900 г. Сцяпан Мацвеевіч Ляўданскі. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 3-й ст. — Памятная книжка Виленской губернии на 1903 г. Вильно, 1902. ч. 3. С. 58.

Аркадзь Мразоўскі, землямер (1895 г.).

Род Яна Андрушкевіча, бургамістра[88].

Леон Стабінскі, бургамістр.

Лёг тут «Аляксандр Талочка, калежскі рэгістратар, пам. 7 красавіка 1846 г. ва ўзросце 27 гадоў.

*Гадоў жыў нешмат*
*Спачывай ты, сябар,*
*Хай гук трубы анёла*
*Заклікае на суд Найвышэйшы».*

Найбольш тут каменных нагробкаў паходзіць з другой чвэрці XIX ст. Выразаны яны ў Вільні. Каля 1880 г. у Лідзе па вуліцы Віленскай на ўласным плацы залажыў майстэрню нагробкаў Баляслаў Хруль, пасля яго смерці (1889 г.) майстэрняй кіравала яго ўдава Анэля з Малеўскіх Хруль. Некаторыя нагробкі паходзяць з майстэрні Волка-Карачэўскага ў Паддубне.

Найлепшы помнік пабудавала маці сыну з надпісам:

«Станіславу Хагмаер 23 красавіка 1906 г. — 18 верасня 1930 г. Каханаму адзінаму, памяць ад маці».

Ладны камень быў прывезены на магілу памерлага лідзяніна, старога кавалера, які пакінуў добрыя спадкі сваім далёкім крэўным. На камені выкананы бронзавы барэльеф з партрэтам нябожчыка і надпіс:

«Аляксандр Ёдка, памёр у Варшаве 17.XII.1933 г. у 75 гадоў. Прайшоў праз жыццё, робячы дабро. Удзячная радзіна».

Арыгінальна выглядаюць «магілы Граблісаў»: цэлы мураваны дом з дзвярыма і вокнамі.

Яшчэ гусцей могілкі запоўнены зраўнаванымі з зямлёй магіламі дробных сельскіх гаспадароў і земляробаў: Ёдкаў, Болтуцяў, Таўгінаў, Хруляў, Астравухаў, Падгайных, Бунькаў, Капачэляў, Стрыбуцёў, Клышэйкаў, Ходзькаў, Хутных, Ракаў, Буракоў, Трацякоў, Касякоў, Семакоў, Шостакаў, Латушкаў, Саладухаў, Кісялёў, Сегеняў, Брэйваў, Чарнякоў, Майсакаў, Пуйдакаў, Чарнавусаў, Белавусаў і т. д. і т. д.

А вось новая старонка гісторыі.

Першыя ахвяры Вялікай вайны ад 1915 г. Шэраг салідных драўляных крыжоў з надпісамі, выкананымі гатычнымі літарамі, якія пасля болей чым дваццаці гадоў яшчэ чытаюцца:

«Браніслаў Плюціцкі Саніт. Bialystoker Kriegs Hospital».

«Юзаф Зяневіч 400 мінскі полк».

«Баляслаў Скажынскі».

Першыя ахвяры польска-бальшавіцкай вайны 1919 г.: каля дзеда Яна Шкопа (1909 г.) магіла з надпісам: «С. п. Віктар Шкоп, валанцёр В. П. загінуў за Бацькаўшчыну ў барацьбе з бальшавікамі каля Лебяды 16 студзеня 1919 г., меў 19 гадоў».

Далей — красавік 1919 г., бой за Ліду, узяцце Ліды, адыход і зноў узяцце 28 верасня 1920 г.

---

[88] Магілы Андрушкевічаў знаходзяцца справа ад галоўнага ўвахода на могілкі. Цяпер помнік сям'і бургамістра горада парушаны. Ян Марколін Андрушкевіч (1823–1868). Мірон Браніслаў Нарбут пісаў пра бурмістра нашага горада Яна Андрушкевіча (ці «Ивана Степановича Андрушкевича — гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850. С. 82): *«чалавек праўдзівы, энергічны і разважлівы»* (Гл.: Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. 1997. № 4–5 (26–27)). У 1845–1852 гг. Ян Андрушкевіч быў начальнікам спачатку 2-га, а потым 4-га аддзела паліцыі ў Адэсе. Пасля вяртання ў Ліду стаў бургамістрам горада, ажаніўся з Марцянай з Яселаў і меў з ёй 9 дзяцей. Андрушкевіч валодаў маёнткам у Лідскім павеце і ў пасаг ад жонкі атрымаў цукерню ў Лідзе. Гэта цукерня ў 1860-я гг. стала цэнтрам грамадскага жыцця ў горадзе і шматразова ўзгадваецца ў розных мемуарах.

«Генрык Жылінскі, паручнік 1-га Сувальскага палка, загінуў у баях пад Лідай 16 красавіка 1919 г.»

Паручнік Юзаф Гундэрман

Паручнік Сяверын Шыманюк

Паручнік Фелікс Асецкі

Паручнік Юзаф Клемпінскі

Паручнік М. Шчалкоўскі

Паручнік Феліцыян Радкевіч

Вахмістр Францішак Марчык

Серж. Ян Вцёрка

Шар. Станіслаў Кураш

Шар. Мечыслаў Мінтле

Ст. Шар. Станіслаў Парыж

Кан. Ян Валковек

Ст. Шар. Ян Матэрак

Ст. Шар. Антон Долята

Кан. Юзаф Паўляк

Шар. Ян Петрашак

Шар. Стэфан Мікалайчык

Шар. Юзаф Баравіцкі

Шар. Уладзіслаў Алтер

Шар. Віктар Сэдляк

Кан. Павел Рухлік

Кан. Ян Ваўрыняк

Кан. Уладзіслаў Орпель

У той жа агароджы — супольная магіла ўсіх тых, якія загінулі ў ваколіцах Ліды ў 1919–1920 гг. і парэшткі якіх былі сабраныя тут у 1924 г. Супольная магіла з’яднала тут і тых, якіх летам 1920 г. у даліне пры збегу тракту і шашы Ліда — Гродна расстраляў асобны аддзел ЧК пры штабе арміі Тухачэўскага ў Лідзе. Надпіс на гэтай магілай:

«40 невядомых закладнікаў з Беластока, Гродна і Ваўкавыска, забітых бальшавікамі ў жніўні — верасні 1920 г.».

Мой Божа! Ці ж гэты малады, але хцівы да ўлады і славы, інтэлігентны афіцэр Тухачэўскі, якога я бачыў на вуліцах Ліды ў аўтамабілі, пакрытым чырвонай палярынай з залатымі махрамі, калі зацвярджаў выракі асобага аддзела, думаў пра тое, што калісьці і сам ён будзе расстраляны ў патыліцу з браўнінга? Забіты так, як і няшчасных ахвяр забівалі па яго камандзе.

Бо якім судом вы будзеце судзіць, такім і вас асудзяць, ды якою меркай вы будзеце мерац, такою вам адмерац. Мацвей VII, 2

Разам з братамі-жаўнерамі ўцяклі да Маці-Зямлі і тыя, хто пры жыцці меў адвагу адарвацца і ўзляцець за аблокі, да неба, але… загінулі смерцю лётчыка:

Паручнік Аляксандр Ціхоцкі.

Сяржанты-пілоты Баляслаў Паўляк, Францішак Чарнецкі, Павел Стэнцель.

У іншым месцы спачывае Уладзімір Біюць, падкамісар паліцыі на пенсіі (1928 г.), а каля яго грамада паліцэйскіх:

Ян Вільканец, паставы, 33 года, «загінуў ад рук бандытаў 21 мая 1922 г.»,

Юліян Каўняровіч, «загінуў смерцю храбрых 23 кастрычніка 1922 г.»,

Юзаф Алесь, «трагічна загінуў» (1935 г.).

Тут ляжаць настаўнікі, якіх забрала да вечнага спачынку «белая пані» сухота:

Юзаф Вось (1929 г.),

Анна Філіпкоўская (1930 г.),
Ядвіга Шкоп (1931 г.),
Францішак Краўчык (1935 г.),
Станіслаў Фэглер, прафесар дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе (1930 г.).

Недалёка ўвесь у кветках надгробак Ядзі Шыманскай, няшчаснай ахвяры нёманскага пляжа (4 ліпеня 1937 г.)[89].

Не меней як дзесяць тысяч парэшткаў лідзян ляжыць тут, на 4 гектарах, і ў цені сасновага бору не памятаюць ні пра свае няшчасці, ні пра свае радасці. З праху паўсталі і ў прах вярнуліся.

### З таго свету[90]

Хто ў Лідзе не знаў старога Казіміра Вісманта?

50 гадоў таму быў гэты чалавек яшчэ ў росквіце сіл, трохі сіваваты, трохі лысаваты, але шыракаплечы, румяны і да жанчын цікаўны. Яго белая хатка пад саламяным дахам, атуленая галінастай ліпай, стаяла на Вісмантах[91] пад Лідай і пры абсаджаным бярозамі навагрудскім гасцінцы была добра бачная ад самых парафіяльных могілак. За хаткай стаяла малая абора, а трохі далей — добра пабудаванае гумно. Хатку атачала прызба[92] з каменю, на якой было так прыемна пасядзець вечарам і, папіваючы смачны квас з бярозавага соку альбо яшчэ цёплае малако, паразмаўляць пра былое.

У старога ў хатцы пад столлю стаяла скрынка, поўная старых пажоўклых папер пісаных і па-славянску (па-старабеларуску. — *Л. Л.*), і па-польску. Паперы памяталі яшчэ часы караля Аляксандра Ягелончыка, калі пазнейшая ваколіца Вісманты называлася «імём Кузмянамі альбо Кузмішкамі… пад самай Лідай за замкам гаспадарчым ляжачай» і стала ўласнасцю гаспадарчага баярына Лук’яна Гайкі, ці Гаеўскага. Потым, у 1668 г., тут асеў землеўладальнік са Жмудзі пан Аляксандр Вайцехавіч Вісмант, ад якога і пайшоў род Вісмантаў лідскіх. Пра гэта сведчыў прыхаваны ў скрынцы вывадны дэкрэт Дэпутацыі Літоўска-Віленскай ад 12 студзеня 1799 г. з ладна намаляваным гербам Сас: «Жоўты маладзік на тарчы двума рагамі павернуты ўгору, на кожным яго рагу па залатой шасцікутнай зорцы, а з сярэдзіны яго ляціць уверх страла, у блакітным полі, на шлеме над каронай пёры паўліна прабітыя стралой управа». Стары Вісмант ведаў на памяць свой вялікі шматаркушовы радавод з усімі датамі і памятаў шмат цікавых гісторый.

---

[89] 4 ліпеня 1937 г. падчас Свята Мора працягвалася на рацэ Нёман у рацэ патанула вучаніца 3-га класа Купецкай гімназіі піяраў Ядвіга Шыманская, якая таксама прыехала святкаваць. Дзяўчынка разам з выпускніком Купецкай гімназіі каталася на лодцы па Нёмане і лодка перакулілася. Цела дзяўчынкі было знойдзена праз некалькі дзён у трох кіламетрах ніжэй Сяльца (гл: Kurjer Wilenski. № 184 (4147). 7 lipca 1937; Kurjer Wilenski. № 186 (4149). 9 lipca 1937).

[90] Szymielewicz Michał. Z tamtego świata. S. 125–127.

[91] Вісманты — тэрыторыя на поўдзень ад каталіцкіх могілак, якая прымыкае да сучаснага праспекта Пераможцаў. У 1507 г. паляўнічы Захарыяш Кузьміч атрымаў ад караля Жыгімонта 6 валок (128 гектараў) зямлі на паўднёвай ускраіне горада. Гэтая мясцовасць па меншай меры да 1717 г. так і называлася — Кузьмішкі. У 1668 г. Кузьмішкі перайшлі ва ўласнасць Аляксандра Вісманта. Пазней Кузьмішкі былі падзеленыя паміж шматлікімі сваякамі і пачалі называцца Вісманты. У 1797 г. у Вісмантах былі закладзеныя могілкі, якія ў наступныя паўтара стагоддзя служылі месцам супакаення каталіцкай шляхты. Род Вісмантаў займаў высокія пазіцыі ў лідскай эліце. Лявон Пётр Вісмант у 1906–1914 гг. быў бурмістрам горада.

[92] Прызба — збудаванне-насып уздоўж вонкавых сцен па перыметры драўлянага дома, служыла для засцерагання пабудовы ад прамярзання зімой. Можа быць проста земляны насып уздоўж сцен. У больш прасунутым варыянце ўладкоўваўся з каменю, дошак (якія для прыгажосці часам нават бялілі вапнай) або жэрдак, устаноўленых на адлегласці 30–50 см ад сцен хаты; паміж дошкамі і хатай засыпалі пілавінне, салому, кастрыцу, шлак, торф, зямлю (дзёран). Вышыня прызбы — да другога рада бярвення.

Яго бацька калісьці хацеў выгадаваць з сына паважанага чалавека і нават запісаў яго ў дваранскую школу ў Лідзе, але пану Казіміру неяк не пашанцавала і застаўся ён паважным земляробам на ўласнай зямлі. Меў ён трошкі болей за дваццаць гадоў, калі ў 1863 г. шляхта Лідскага павета ўзяла свае крамнёвыя стрэльбы, пісталеты і ржавыя шаблі і кінулася на прыгнятальнікаў. З той вайны пан Казімір выйшаў чыста, суха і гладка. Нават без падазрэнняў. Але пра вайну ніколі не распавядаў, бо пра «польский мятеж» расійскія ўлады ніколі не забывалі і ўспамінаць пра ўдзел у тых падзеях заўжды было небяспечна. Праз трыццаць гадоў пасля той вайны, калі пан Казімір ужо састарэў і стаў больш пабожным, чым у маладосці, бычылі яго, як пехам у пакоры пайшоў ён з Ліды, абносячы ад пробашча да пробашча цыдулку лідскага ксяндза Юзафа Сянкевіча — пастырскую візітацыю ксяндза-біскупа Аўдзеевіча, якая павінна была адбыцца ў дэканаце. Што здарылася? Ніхто не разумеў, толькі ўжо пасля смерці нехта, можа Станіслаў Калясінскі з Трацьякоўцаў, шапнуў камусьці з маладых, што пан Казімір меў нібы на сваім паўстанцкім сумленні ўдзел у экзекуцыі нейкага карчмара, ці ў Майстроўцы каля Цыбараў, ці ў іншай карчме, карчмара, прысуджанага паўстанцкім судом за даносніцтва.

У пана Казіміра быў сын, якога ён вучыў на арганіста, і ажно чатыры дачкі. Гэта былі часы, калі пачыналася будоўля чыгункі з Вільні на Роўна. Да гэтага часу Ліда была кутом, забітым дошкамі ад астатняга света. Пры будаўніцтве дарогі наплыла тут рознай басоты, пачалі рэзаць багацейшых ксяндзоў па плябаніях, нападаць на адзіночныя хутары. Часы былі страшныя. Да пана Казіміра вечарамі хадзіла на пасядзелкі і размовы лідская прыгарадная моладзь: вядома, у доме тры дарослыя дачкі і чацвёртая, Броня, ужо ўбіваецца ў пёры. Пан Казімір кожнага любіў пачаставаць тытунём і тым больш быў задаволены, калі той, каго пачаставаў, голасна чхаў. Часам, вечарам у нядзелю, вялікая кампанія гуляла ў «злапай курыцу» (цёця-бабка), «у суседа» (рух цэлай кампаніі), «спаведніка» і г. д. Часам распавядалі ўсялякія цікавыя гісторыі, выпадкі ў горадзе, анекдоты, байкі, жахі альбо пра чары ці пра Пінокія, ці якім іншым лялькаводзе. Часам маладзёны дэкламавалі «Kiwona męczenika bożego»[93], «Uchwałę gromady żydowskiej o oddaniu syna Chaśki w soldaty» за тое, што не хадзіў у лазню, альбо такія вершы, як «Панскае ігрышча» ці «Адказ на панскае ігрышча» і іншыя, якія праз нейкі час былі надрукаваныя ў Кракаве ў кніжачках Мацея Бурачка. Нярэдка прыходзілі з гармонікам і тады танчылі на глінянай падлозе кадрыль, лансье[94], польку, мазуркаву польку і вальс. Для забавы хлопцы любілі танчыць «мікіту», перакладаючы ногі праз кій, які трымалі ў руках, і пры гэтым прыпяваць: «мікіта, чы ты та». У карты не гулялі, толькі ў мужчынскім таварыстве бавіліся ў «шэсцьдзесят шэсць», «воза», «кіксу», а разам з паненкамі — на картах гадалі. У звычайны дзень у пана Казіміра ўвечары служыла для асвятлення наша родная каханая лучына, а ў святочны дзень — газавая лямпа, напачатку — капцілка без шкла, а потым, калі газа ў вялікай колькасці з'явілася ў продажы ў Вільні і Лідзе, — са шклом.

Дзень Усіх Святых лічыцца жалобным святам. Так ужо павялося, што на Усе Святыя і на Дзень Задушны ані вяселляў, ані хрэсьбін не робяць. Сабраліся ўвечары таго дня, як звычайна, у пана Казіміра некалькі маладых хлопцаў і пачалі апавядаць пра тое і гэтае, пра святых, пра нябожчыкаў, пра жахі, пра ксяндза, які з'яўляецца ў сутарэннях палаца ў Дворышчы, пра бледны агонь, які пастаянна блудзіць стала каля Няцечы, і пра іншыя цікавыя рэчы. Было каля адзінаццаці вечара, калі хтосьці з Расаловічаў кінуў словы пра тое, што ў гэтую пару, пэўна, ніхто з кампаніі не меў бы адвагі пайсці

---

93 Легенда пра Ківона, Божага пакутніка, гл.: Kiwon: Pociech, żywot i śmierć Kiwona bożego, męczennika żydowskiego. Bracia Worzałłowie, 1913.

94 Лансье — англійскі парны бальны танец, блізкі да кадрылі, складаецца з пяці фігур.

на могілкі і прынесці сюды, у дом, напрыклад, крыж з магілы. «А ты бы пайшоў?» — запыталі ў Расаловіча. «Аёй, чаму не? Што дасцё за гэта?» Пачалі таргавацца. Казалася пра кварту гарэлкі, пра рубель, нават пра кварту тытуню, але ні да чаго не дамовіліся. Раптам, калі гандляваліся за фунт цукерак, з цёмнага кута адазвалася Броня — та, наймалодшая.

— Я пайду і прынясу вам крыж, а што за гэта дасцё?

— Ты?.. Сікша! А што хочаш?

— Дайце фунт цукерак і дакажу, што не сікша! Яшчэ, халера, лаецца!

— Ваў!

— Але пабажыцеся, што не ашукаеце.

— Даліпан, — пабажыўся Расаловіч.

— Не, ты пабажыся па-сапраўднаму, па-каталіцку, скажы «далібог» і стукні сябе ў грудзі.

Усе засмяяліся, толькі Расаловіч зрабіў міну, быццам усё гэта несур'ёзна, ударыў сваёй правай рукой сталяра ў грудзі і вымавіў — «далібог!».

— Вось і пайду, вось і пайду…

Босая, у адной сукенцы, накінула хустку і, стукнуўшы дзвярыма, знікла. «Куды яна пойдзе, палова вярсты да магілах, дойдзе да брамы, пастаіць пад кутом і вернецца дахаты», — закончыў стары пан Казімір, усе праз хвіліну забылі пра спрэчку і пачалі размаўляць пра іншае.

Вісела чорная лістападаўская ноч. Зімны вецер шумеў і рваў голае галлё бярозаў на гасцінцы, раз-пораз кідаў у твар жмені мокрага восеньскага дажджу. Са Слабады даносіўся жалобны вой сабакі. Броня адважна выйшла на гасцінец, мінула вісмантаўскі выган, вайсковыя склады, гмінныя збожжасховішчы і падышла пад самыя могілкі. Навобмацак спусцілася ў роў, залезла на муры і слізганула па мокрых і халодных камянях муроў на могілкі. У могілкавых соснах вецер шумеў яшчэ страшней, дзесьці з боку пастуквала галінка дрэва, а над могілкавай капліцай заплакала сава. Фунт цукерак!.. Фунт цукерак!.. У каляровых паперках з залатымі літарамі. Карамель! Кожная з ягадкай! Пасунулася наперад і, расставіўшы рукі, навобмацак пачала шукаць. Галлё шыпшыны і язміну хвасталі і калолі яе твар і рукі. Ёсць! Намацала крыж. Але ён аброс імхом, стары і вялікі. Ня гэты. Пайшла далей. Зноў вые вецер, плача сава, зноў тыя ж шыпшына і язмін. Чарговая магіла з старой і крывой агароджай. Зноў крыж, але гладкі, новы, толькі такі сама цяжкі. Яшчэ адзін упарты рух наперад — і зноў крыж. Рухам рукі абмацала — гладкі, не вялікі, роўны з ёй ростам. Наступіла на свежую, яшчэ мяккую магілу, упёрлася рукамі ў мокрыя канцы крыжа і адчула, што крыж паддаўся і пахіліўся. Ухапілася і ўсім целам адкінулася назад — крыж нахіліўся разам з ёй. Яшчэ раз і з паваротам, яшчэ і з паваротам. А цёмна, аніц не бачна. Падважыла крыж плячом знізу, ірванула ўверх і крыж нахіліўся. Ухапіла крыж за плячыма, пахіліла ўправа і ўлева і пачала цягнуць з зямлі. Крыж доўгі і, здавалася, біўся аб труну. Але вырвала. Хапіла абедзвюма рукамі, павярнула і таўканула ўбок, туды дзе бачны чорныя дрэвы. Зноў магіла, знаў агароджа, мур, роў, гасцінец. Ухапіла крыж рукамі і папёрла наперад. Фунт цукерак! Вецер свістаў і падганяў яе ў спіну, крыж шараваў па мокрым пяску, а яна ўжо бегла. Што здарылася? Праз шум дрэваў пачула як быццам крыкі: Броня! Была ўжо насупраць выгану. І яшчэ раз: Броня! Ці гэта голас маці? А дадому яшчэ так далёка. Першы раз цапнуў яе за плечы мароз, і адчула страх. Хутчэй, хутчэй, але ногі не слухаюцца. А тысячы галасоў адусюль крычалі: Броняяя! Уляцела з крыжам на падворак, дрыжачымі рукамі адчыніла дзверы сяней, грымнула хатнімі дзвярыма і, непрытомная, уварвалася ў хату. Крыж упаў з яе рук і сама яна, белая як крэйда, абсела каля крыжа на гліняную падлогу.

Езус-Марыя, крыж! Аслупянелі ўсе, хто быў у хаце. Крыж з могілак! Ратуйце Броньку! Страціўшую прытомнасць Броню палажылі ў ложак, пачалі трэсці. Стары пан Казімір пeражагнаўся, падняў крыж з падлогі і абапёр аб печ. Усіх ахапіў чорны жах. На нейкі час зрабілася ціха, толькі ў ложку слаба дыхала бледная Броня, а за вокнамі на падворку шумеў вецер, і здавалася, што пад вокнамі нехта размаўляе. Старэйшая сястра Броні, узіраючыся ў чорнае акно, дзіка закрычала: «Нябожчык! Там нябожчык!» Усе паглядзелі ў вакно: там на самай справе рухалася белая цень, і здавалася, што праз шум і ўдары ветру можна было пачуць голас нябожчыка — «аддай мой крыж!». Усе пабялелі і пачалі жагнацца. Стары пан Казімір упаў на калені перад крыжам, а за ім упалі на калені ўсе, хто быў у хаце, і заспявалі «Анёл Панскі звеставаў Панне Марыі». Потым прамовілі літанію за душы памерлых верных і да ўсіх святых. Мінула поўнач. Калі закончылі астатні «Вечны адпачынак», у падпечку залапатаў крыламі певень, а потым голасна і доўга запеў раз, потым другі… сёмы. Вецер на дварэ паволі сцішаўся і наогул сціх. У вокны глядзела самая чорная ноч. Броня апрытомнела, агледзела ўсіх і шэптам прамовіла: «А фунт цукерак?» Моладзь, прыгнечаная паводзінамі малой авантурысткі, паўголасам загаварыла, якімі адважнымі бываюць дзяўчаты. Мінула другая гадзіна. Калі пачулі, што ў стрыя Сямёна зарыпала вага на студню, усе госці разам, сарамліва жагнаючыся, выйшлі з хаты. Пан Казімір вынес крыж у сені….

Наранку, калі развіднела, пан Казімір аднёс крыж на могілкі і ўставіў ў шырока расхістаны дол. Утаптаў пясок, адмовіў «Анёл Панскі» за душу непатрэбна патурбаванага нябожчыка і пайшоў у касцёл. У той дзень, як заўжды ў Задушны дзень, на могілкі надышло шмат народу. Тут і прычыталі, і плакалі, і разам маліліся. Доўга стаяла некалькі вяскоўцаў над зруйнаванай магілай іх знаёмага. Шапталіся, паціскалі плячыма. Потым доўга хадзілі размовы, што гэты нябожчык у пэўны час вылазіць са сваёй труны і прыходзіць аж да сваёй хаты, якая стаіць за некалькі вёрстаў ад могілак.

Сын пана Казіміра ў той самы Задушны дзень знайшоў на падворку пад вокнамі паламаную галіну бярозы з прычэпленай да яе старой мужчынскай кашуляй, невядома адкуль сарванай ветрам. Броня атрымала свой фунт цукерак за 15 капеек і пастанавіла ніколі больш не лазіць ноччу на могілкі. Яшчэ пару тыдняў хадзіла як зачараваная, уначы размаўляла ў сне, зрывалася з ложка. Старая Шоціха на маладзік уначы сабрала на могілках імху, тры разы тым імхом, добра змяшаным з лавандай, абкурыла Броню, і дзяўчына выздаравела. Яна потым вельмі добра выйшла замуж, за пана Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Ляхаўку, што пад Васілішкамі, але, бядачка, памерла маладой.

Вечны адпачынак
Дай ім, Пане,
А святло вечнае няхай ім свеціць.

Аман

## Ліда ў гады Вялікай вайны[95]

I

Лета 1914-га выдалася гарачае і сухое. Тэмпература паветра ў чэрвені і ліпені дасягала 40 градусаў у цені, а на працягу некалькіх тыдняў не выпала ні кроплі дажджу. Вада ў рэках, азёрах і ставах спала. На Нёмане ад Морына да Орлі не маглі прайсці платы, і сплаў дрэва спыніўся. Паветра напоўнілася дымам. На поўдні, за Нёманам, удзень уздымаліся аблокі дыму, а ўначы было бачна зарыва пажараў — гарэў лес. У Раманаўцах

[95] Szymielewicz M. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1939. № 7–8. S. 185–198.

над ракой Лебядой і ў Жыжме над ракой Жыжмай пад клубамі белага дыму цьмелі тарфянікі. Звычайна цяжкапраходныя Дакудаўскія і Дзітвянскія балоты высахлі, і па іх ездзілі, як па полі. Каб пайшоў дождж, у вясковых цэрквах і касцёлах служыліся набажэнствы, палі абыходзілі працэсіі з харугвамі і пабожнымі спевамі.

Ураджай сена і канюшыны ў тым годзе ў Лідскім павеце быў добры. Касьба і сушка травы прайшла вельмі ўдала. Сенажаці на лугах былі сухія і лёгкадаступныя, там не закладвалі стагоў на зіму, а вазілі сена адразу ў вёскі. Таксама быў добры ўраджай жыта і яравых, добра ўрадзіла бульба. Грыбоў у лясах не было, добра ўрадзіліся ягады, але праз спякоту і вялікую суш хутка даспелі і зніклі. Садавіна не ўрадзіла, але было шмат мёду. Словам, год быў добры, толькі што не струменіўся малаком і мёдам. На палях усё даспела адначасова, і для збору ўраджаю бракавала працоўных рук. Таму наёмным працаўнікам плацілі ўдвая — 1 рубель за дзень працы касцам, 60 капеек жнеям.

Ліда, як заўжды ўлетку, вылюднела: хрысціянская і яўрэйская інтэлігенцыя выехала на лецішчы ці нават у Друскенікі на салёныя воды, школьная моладзь раз’ехалася па вёсках — да бацькоў ці сяброў. Лясы і берагі рэк напоўніліся жыхарамі горада, якія швэндаліся без справы: службоўцамі, гандлярамі, настаўнікамі і моладдзю. Там і сям у цені навіслай алешыны дзесьці над Вярсокай ці Сольчай з вудай у руцэ сядзелі загарэлыя, як індзейцы, гімназісты, а па лясах з кошыкамі ці жбаночкамі ў руках блукалі квяціста апранутыя вучаніцы гімназіі Навіцкіх[96] з Ліды. Вечарамі на чыгуначных станцыях і паўстанках збіралася дачнае грамадства, каб каго-небудзь сустрэць або праводзіць ці папросту паглядзець на цягнікі. Дзесьці, сярод спірэю і язміну, пад плотам, некалькі хлопцаў з мандалінай, гітарай і балалайкай у руках цягнулі несмяротныя «Карабейнікі», «Свеціць месяц» ці «Вальс вар’ята».

28 (15) чэрвеня ў Сараева Гаўрыла Прынцып неяк лёгка зрабіў некалькі стрэлаў, з якіх пачаўся пажар Сусветнай вайны. У Лідзе чытачы газет толькі пацiскалі плячыма і дзівіліся, навошта трэба было забіваць спадчынніка трона Аўстра-Венгрыі ды яшчэ разам з жонкай. Але пакаленні, якія перажылі некалькі крывавых войнаў і памяталі забойства Аляксандра II[97], прэзідэнта Карно[98], каралевы Эльжбеты[99], Абрэнавічаў[100], вялікага князя Сяргея Аляксандравіча[101], Сталыпіна і шмат каго іншых, якія бачылі тэрор расійскай рэвалюцыі 1905 г., калі чыноўнікаў рознага рангу забівалі як пеўняў на птушніку, збольшага не ўразіліся падзеямі ў Сараева. І хто ведае, ці Гапоны і Азефы былі вынаходніцтвам толькі расійскай улады? Пагаварылі на тэму Сараева і забыліся. Значна большую цікавасць узбудзіла ў грамадстве спроба забойства ў вёсцы Пакроўскае Табольскай губерні Рыгора Распуціна, якому праз некалькі тыдняў пасля сараеўскага забойства нейкая баба на прыстані распарола нажом жывот. Распуцін,

[96] Прыватная жаночая гімназія ў Лідзе.

[97] Аляксандр II забіты нарадавольцамі ў 1881 г.

[98] Карно Мары Франсуа Садзі (1837–1894) — інжынер і палітык, прэзідэнт Францыі ў 1887–1894 гг. 24 чэрвеня 1894 г. пасля вітальнай прамовы на выставе ў Ліёне прэзідэнту было нанесенае смяротнае нажавое раненне італьянскім анархістам Сантэ Казерыа. Карно пражыў самае кароткае жыццё сярод усіх прэзідэнтаў Францыі, ён памёр на 57-м годзе жыцця.

[99] Каралева Эльжбета (1837–1898) — жонка імператара Аўстра-Венгрыі Франца Іосіфа I, забітая анархістам Луіджы Лукені, калі яна ў суправаджэнні адной са сваіх фрэйлін ішла па набярэжнай Жэневы.

[100] Аляксандр I Абрэновіч (1876–1903) — кароль Сербіі ў 1889–1903 гг., апошні прадстаўнік дынастыі Абрэновічаў. Забіты групай афіцэраў-змоўшчыкаў разам з жонкай, каралевай Драгай, падчас так званага Майскага перавароту.

[101] Вялікі князь Сяргей Аляксандравіч (1857–1905) — пяты сын цара Аляксандра II, маскоўскі генерал-губернатар. Загінуў ад бомбы рэвалюцыянера Каляева.

просты селянін з Сібіры, быў вядомы па ўсёй Расіі: ён быў здольны замаўляць крывацёк малому спадчынніку расійскага трона вял. кн. Аляксею, меў вольны доступ да цара і царыцы і цешыўся іх спагадай і прыязнасцю. Сярод пецярбургскай арыстакратыі Распуцін быў вядомы як пабожны старац, поўны духу з дарам прарока. Пасміхаючыся, але за зачыненымі вокнамі, у нас у правінцыі пра гэтага святога старца пераказвалі на вуха розныя непрыстойныя гісторыі. Можа быць, і выпадак з Распуціным быў зроблены і раздзьмуты толькі з мэтай адцягнуць увагу натоўпу ад катастрофы, якая ўжо насоўвалася, як чорная хмара, каб скіраваць увагу ў іншы бок. А тым часам, як звычайна працавалі, выконвалі службовыя абавязкі, гулялі ў прэферанс, збіраліся ў лідскім рэстаране вядомых братоў Вінаградавых на гулянкі, кахаліся, сварыліся і мучыліся ў штодзённым шэрым жыцці. Маленькія людзі, як чарвякі, выгіналіся вакол сваіх маленькіх штодзённых спраў, а вялікія людзі ўладжвалі вялікія інтарэсы. І ў тое шэрае штодзённае жыццё стукнула як гром з яснага неба — в а й н а!

II

Лідскі павет у 1914 г. складаўся з 23 гмін: Лідскай (Дуброўня), Дакудаўскай, Ганчарскай, Беліцкай, Жалудоцкай, Арлянскай, Ражанкаўскай, Радунскай, Шчучынскай, Лядскай (Дэмбрава), Астрынскай, Дубіцкай, Пакроўскай (Нарбутава)[102], Васілішскай, Лябёдскай, Тарноўскай (Белагруда), Мытлянскай, Забалацкай, Каняўскай, Эйшышскай, Беняконьскай, Александраўскай (Палецкішкі), Жырмунскай — і належаў да Віленскай губерні. Агульная плошча павета 5615,7 км$^2$, а лічба жыхароў (без г. Ліды) даходзіла да 250 000. Гміны Ліпнішская, Сядліцкая, Суботніцкая і Іўеўская, якія цяпер належаць да Лідскага павета[103], у тым часе ўваходзілі ў склад Ашмянскага павета, які сваёй плошчай (6885,1 км$^2$) і колькасцю насельніцтва (да 270 000) пераўзыходзіў усе астатнія паветы Віленскай губерні. Найвышэйшым чыноўнікам і прадстаўніком Лідскага павета быў павятовы маршалак шляхты граф Людвік Грабоўскі, прамы нашчадак апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага ад марганатычнага шлюбу з Эльжбетай Грабоўскай. З судова-адміністрацыйнага боку павет быў падзелены на 8 акруг з земскім начальнікам у кожнай акрузе, а з паліцэйскага боку — на 5 паліцэйскіх станаў з сядзібамі станавых прыставаў у Воранаве, Эйшышках, Шчучыне, Васілішках і Беліцы. На чале паліцыі павета стаяў павятовы спраўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко[104]. Сталіцай павета была Ліда, дзе месцілася ўся павятовая ўлада: канцылярыя маршалка шляхты, шляхецкая апека, вайсковы камісарыят, павятовы з’езд, паліцэйская ўправа, сельскагаспадарчая ўправа, скарбовы інспектар, скарбовая каса, управа 5-й акцызнай акругі, павятовы вайсковы начальнік, школьны інспектар і т. д. Горад Ліда меў 16 000 жыхароў, дзяржаўную мужчынскую гімназію, прыватную жаночую гімназію Навіцкіх, дзве прыватныя прагімназіі, вышэйшую пачатковую школу, дзве паравільныя школы — мужчынкую і жаночую, народную вучэльню, талмуд-тору і слаўную іешыву рабіна Райнеса. У Лідзе знаходзіліся фабрыкі і заводы: два бровары — Папірмайстра і Пупко, спіртзавод Стругача, тартак Палячака, ліцейны завод братоў Шапіраў, тытунёвая фабрыка Віленчыка, фабрыка па вырабе мылаКівяловіча, фабрыка разліву манапольнага

[102] Цяпер — вёска Першамайская Шчучынскага раёна, гістарычная назва — Сабакінцы, перад Першай сусветнай вайной мястэчка пераназванае ў Пакроўскае, перад Другой сусветнай — у гонар Людвіка Нарбута ў Нарбутава.

[103] Пры канцы 1930-х гг. гэтыя абшары ўваходзілі ў Лідскі павет.

[104] Яўген фон Гротэ дэ Буко (1862–1944), лідскі спраўнік, у 1915 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт, у 1917 г. атрымаў чын генерал-маёра, у 1918 г. — лідар беларускага руху ў Лідзе, пра яго гл. Лаўрэш Леанід. Генерал Яўген фон Гротэ дэ Буко // Лідскі летапісец. 2014. № 1 (65). С. 59–64.

алкаголю, шмат крам і аптовых складаў. З фінансавых устаноў у горадзе меліся: Таварыства ўзаемнага крэдыту, Яўрэйскі супольны банк, Банкаўская кантора Янушкевіча. Дзякуючы свайму знаходжанню на скрыжаванні дзвюх чыгуначных ліній Ліда сваімі фабрычнымі вырабамі, таварнымі складамі, банкаўскімі і адукацыйнымі ўстановамі лічылася дастакова значным горадам у прамежку паміж Вільняй і Баранавічамі, Маладзечнам і Ваўкавыскам. Бурмістрам горада быў надворны дарадца Лявон Пётр Вісмант, ягоным намеснікам — падпалкоўнік запасу Баляслаў Гейштаўт, абодва лідзяне-каталікі і трапілі на свае пасады праз выбары.

У Лідзе стала, з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай, дыслакаваліся расійскія войскі. У 1872–1887 гг. тут знаходзіўся штаб 4-га палка данскіх казакоў, прычым сам полк часткова месціўся ў горадзе, а часткова ў ваколіцах горада. У 1887–1891 гг. у Лідзе кватараваў 2-й чыгуначны батальён. Пасля пераводу гэтага батальёна ў Баранавічы ў горад перадыслакаваўся 89-ы рэзервовы батальён пяхоты з Дынабурга. Хутка гэты батальён перафармаваны ў 2-батальённы 185-ы Лідскі рэзэрвовы полк, з якога потым створаны 4-батальённы 172-і Лідскі полк пяхоты. Гэты полк адпачатку кватараваў у прыватных наёмных дамах, часткова размяшчаўся ў маёнтку Нясікаўшчына пад Лідай, у мястэчку Беліца і нават у Алькеніках. Кожны год 28 (15) мая полк выязджаў у летні лагер пад Араны, адкуль вяртаўся звычайна 28 (15) верасня. У 1908–1912 гг. на землях, падораных горадам, ваенная будаўнічая камісія на чале з генерал-маёрам Канабіхам пабудавала для Лідскага палка прасторныя і на той час добра абсталяваныя казармы, куды полк пераехаў у 1912 г. У гэтым палку служылі жаўнеры з сярэдняй і ўсходняй Расіі. Афіцэраў мясцовага паходжання налічвалася толькі некалькі чалавек. Камандзірам палка быў палкоўнік Уладзімір Раманаў.

Пасля дэмабілізацыі Манжурскай арміі ў 1906 г. з Далёкага Усходу ў Ліду была пераведзеная 9-я паветраплавальная рота, якая першапачаткова дыслакавалася ў прыватных хатах па вуліцы Віленскай, каля праваслаўных могілак. У 1910 г. у Лідзе была сфармаваная 4-я паветраплавальная рота. Будаўнічая камісія на перададзенай дзяржаўным скарбам зямлі маёнтка Перапечыца, які належаў Яну і Міхалу Садоўскім, пабудавала казармы і іншыя патрэбныя будынкі, у тым ліку вялізны элінг для дырыжабляў — драўляны на металічным каркасе.

Каардынаваў дзейнасць цывільных уладаў з вайскоўцамі павятовы вайсковы начальнік, які прымаў ад вайсковага камісарыята прызванага на службу рэкрута, праводзіў адбор і рассылаў рэкрутаў па палках. Жаўнеры пасля адбыцця кадравай службы ці працягвалі службу ў рэзерве, ці прыпісваліся ў народнае апалчэнне і таму захоўвалі па хатах нават неабходны рыштунак. Над усімі вайсковымі ўладамі стаяў камендант горада падпалкоўнік Кароўнікаў.

Галоўным ваенным асяродкам нашых земляў была Вільня: тут стала знаходзіўся камандуючы вайсковай акругай са сваім штабам і ўсімі неабходнымі службамі і ўправамі, камандаванне 3-га армейскага корпуса, камандаванне 27-й і 43-й дывізій, некалькі палкоў пяхоты і кавалерыі, артылерыя, інжынерныя аддзелы і т. д. Камандуючым войскамі Віленскай акругі быў генерал-а'ютант, генерал ад кавалерыі Павел фон Рэненкампф, які пасля пачатку вайны аўтаматычна станавіўся камандуючым арміяй.

На дабрабыт такіх гарадоў, як Вільня, Коўна, Гродна, Ліда, Баранавічы, Слонім і інш., значны ўплыў рабілі вялікія грошы, якія даваліся на ўтрыманне войска і дадавалі значную частку да гандлёвага абароту гэтых гарадоў, стымулюючы развіццё рознічнага і аптовага гандлю, павялічваючы падаткі і забяспечваючы хуткі рост гарадоў. Іншыя павятовыя гарады — Навагрудак, Ашмяны, Вілейка і т. д., якім бракавала гэтай «жыццядайнай крыніцы», — знаходзіліся ў нэндзе і развіваліся значна павольней.

III

У Дзяржаўнай думе ў Пецярбургу і ў расійскай прэсе доўгі час абмяркоўвалася справа даўзбраення арміі. Левыя партыі былі супраць выдаткаў на мілітарызацыю і прапагандавалі пацыфізм. У другой палове чэрвеня, у часы побыту ў Пецярбургу прэзідэнта Францыі Пуанкарэ, там страйкавала вялікая колькасць фабрычных рабочых, адбываліся вулічныя дэманстрацыі, якія праходзілі з гвалтам. Тут, у Лідзе, разумелі, што хтосьці, не жадаючы саюзу з Францыяй, такім чынам пераконваў французаў у няпэўнасці Расіі як саюзніка, хворага на рэвалюцыю. Тым часам з нагоды сараеўскага забойства вяліся дыпламатычныя перамовы.

23 (10) ліпеня аўстра-венгры ўручылі ў Белградзе ультыматум з патрабаваннем адказу да 6 вечара 25 (12) ліпеня. Аднак адказ Сербіі не задаволіў аўстра-венграў, і таму ў той жа дзень яны абвясцілі частковую мабілізацыю. 26 (13) ліпеня былі разарваныя стасункі з Сербіяй, а праз два дні пачалося бамбадаванне Белграда. Расія, якая здаўна супернічала з Аўстра-Венгрыяй за першынства на Балканскім паўвостраве, заступілася за Сербію. Не было сумневу, што Францыя выступіць на баку Расіі. Аўстра-венгры абапіраліся на Германскую імперыю, якая ў адпаведнасці з трактатам трайнога саюза абавязана была падаць ім усялякую дапамогу ў выпадку вайны. Справа міру або вайны ляжала ў руках Англіі, без дапамогі якой Расія і Францыя не жадалі пачынаць вайну з немцамі. Пра гэта ўсё адкрыта пісалася ў газетах і зусім вольна абмяркоўвалася на вуліцах. Насельніцтва прарочыла буйнамаштабную вайну. Нараcталі страх і нервовае хваляванне. У паветры моцна запахла порахам, але ўвогуле не дапушчалася, каб цывілізаваныя народы у XX ст. «взбесились от жира» і пачалі самую агідную разню па ўсім свеце.

25 ліпеня 1914 г. на лідскай чыгуначнай станцыі, як і на іншых станцыях, была вывешаная аб’ява, перададзеная тэлеграфам, пра тое, што чыгунка здымае з сябе ўсялякую адказнасць за тэрміны перавозу грузаў. Была гэта першая афіцыйная ластаўка, якая прадвяшчала надыходзячую буру. У той жа дзень на палігоне пад Аранамі, калі артылерыя выставіла свае гарматы і рыхтавалася да вучэбных стрэльбаў, раптам была атрыманая тэлеграма з загадам спыніць вучэнні і выступіць на месца пастаяннай дыслакацыі — на зімовыя кватэры. Адначасова юнкерам Віленскай вайсковай вучэльні, якія знаходзіліся ў тым жа лагеры пад Аранамі, начальнік вучэльні генерал-маёр Адамовіч зачытаў загад аб прысваенні вайсковых званняў 170 юнкерам выпускнога курса. Такія імпрэзы, як правіла, праводзіліся ў дзень Праабражэння Гасподняга, 19 (6) жніўня. Маладым афіцэрам уручылі толькі афіцэрскія шаблі, бо абмундзіраванне яшчэ не было гатовае. Праз некалькі гадзін лагер ліквідавалі і войска пачало марш. Сярод афіцэрскіх і падафіцэрскіх жонак пачаўся перапалох, кінуўшы ўсё, яны з лецішчаў накіраваліся ў гарады.

У нядзелю, 26 (13) ліпеня, калі па чыгунцы з Аран пачалі прыбываць аддзелы палка, у горадзе ўжо ведалі: пачынаецца в а й н а! Першыя прыбылыя аддзелы Лідскага палка ўзялі пад ахову ўсе чыгуначныя аб’екты: масты, водаправоды і іншыя тэхнічныя сродкі абслугоўвання, а таксама сувязь. Усюды стаялі ўзброеныя салдаты, забараняўся нават выхад на перон вакзала. Для нас, цывільных, усё гэта выглядала дзіўна і несамавіта. Паліцыя і жандары «па сакрэце» расказвалі гараджанам, што такія экстраардынарныя меры бяспекі выкліканы небяспекай страйку чыгуначнікаў. Сельскае насельніцтва, занятае сваімі штодзённымі справамі і клопатам, у найменшай ступені разважала пра катастрофу, якая на нас насоўвалася. Таму ў бліжэйшую нядзелю ў касцёлах і цэрквах, як і заўжды, браліся шлюбы, людзі з музыкай і танцамі святкавалі вяселлі і хрэсьбіны.

29 (16) ліпеня Расія абвясціла мабілізацыю Кіеўскай, Маскоўскай і Казанскай вайсковых акруг. Пра гэта мы даведаліся з газет пад вечар наступнага дня, у чацвер 30 (17) ліпеня. На вуліцы Віленскай[105] горада сабраліся групкамі гараджане, яны чыталі толькі што атрыманыя з цягніка газеты, і кожны на свой капыл каментаваў бягучую сітуацыю ў свеце. Мабілізацыя яшчэ не пачалася, і агульным перакананнем было тое, што Расія толькі робіць дэманстрацыю сваёй магутнасці, а насамрэч вайны не будзе, бо ніхто яе не хоча. Зрэшты, балканскія справы для Расіі ўвогуле заўжды былі самымі складанымі і толькі шкодзілі ёй. Праз некалькі гадоў слушна сказаў міністр замежных спраў Ізвольскі, што няма ніякага сэнсу змушаць разанскага селяніна праліваць сваю кроў за незразумелыя для яго інтарэсы Сербіі. Над Лідай, выконваючы вучэбны палёт, нізка кружыў аэраплан «Фарман». Ён зрабіў круг над рынкам[106] і паляцеў на ўсход. Раптам аэраплан пачаў хутка зніжацца і падаць. Натоўп раззявак, думаючы, што аэраплан упадзе ў зарасці вольхі каля рэчкі Лідзейкі, кінуўся ў бліжэйшыя завулкі — Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі[107]. Але пілот выраўняў машыну, і яна зноў узвілася пад аблокі. Раззявакі пачалі вяртацца да цэнтра, і якраз у гэты час па Віленскай вуліцы на дрожках да паліцэйскай управы імчаўся, трымаючы ў руцэ дэпешу, павятовы паліцэйскі спраўнік Гротэ дэ Буко. Адразу ўсе зразумелі: м а б і л і з а ц ы я! У імгненне вока вуліца апусцела. Да позняй ночы горад не спаў. Кожны зразумеў, што вайна непазбежная і нікога яна не абміне.

Мабілізацыю ў горадзе павінны былі праводзіць: управа вайсковага начальніка, прызыўная камісія і паліцыя. Маршалак шляхты граф Грабоўскі, які павінен быў узначаліць мабілізацыю ў павеце, ад вясны лячыўся ў Пецярбургу — ён меў камяні ў жоўцевым пузыры і ў нырках. Яго абавязкі выконваў земскі начальнік 1-га ўчастка Міхаіл Трафімаў. Павятовы спраўнік фон Гротэ дэ Буко, капітан рэзерву, яшчэ да пачатку вайны падаў у адстаўку па ўзросце, чакаў загаду аб выхадзе на пенсію і таму знаходзіўся ў адпачынку. У сувязі з набліжэннем вайны віленскі губернатар Вяроўкін перапыніў яго адпачынак і загадаў выконваць свае абавязкі. Ва ўправах ужо некалькі дзён працавалі, рыхтуючы розныя паперы, неабходныя пры мабілізацыі сельскага насельніцтва ў павеце. На бяду, у той жа час у Беняконях згарэла ўправа гміны з шафкай, у якой былі падрыхтаваныя мабілізацыйныя дакументы. На гэтую тэму шмат балбаталі, але выпадак ніякіх наступстваў за сабой не пацягнуў, акрамя ўзмоцненай працы, каб аднавіць знішчаныя лісты. Праца ва ўстановах вялася ўдзень і ўночы.

30 (17) ліпеня аб 11-й гадзіны ночы выконваючы абавязкі маршалка шляхты Трафімаў атрымаў дэпешу, змест якой дазваляў думаць, што мабілізацыйныя справы варта прыпыніць. Усе працуючыя ў прызыўной камісіі з прычыны гэтага слабага пробліску надзеі ўздыхнулі з палёгкай і ледзь не пайшлі дахаты. Праз некалькі гадзін новая дэпеша адмяніла папярэднюю і загадала далейшы працяг працы. Калі бракавала бланкаў, паліцыя будзіла друкара Айзіка Эпштейна, які ўжо спаў, і выпраўляла ў друкарню яго працаўнікоў, бланкі тэрмінова друкаваліся. А тым часам конная паліцыя ўсю ноч імчалася ўсімі дарогамі ў цэнтры гмін і да паліцэйскіх прыставаў, уручаючы ім мабілізацыйныя распараджэнні.

105 Цяпер Савецкая.

106 Сучасная плошча Леніна.

107 Гэтыя вуліцы вялі ў бок рэчкі Лідзеі.

IV

У пятніцу 31 (18) ліпеня Ліду і ўсе вёскі ў павеце ўпрыгожылі каляровымі плакатамі. З іх:

1) чырвоныя прызывалі ў войска шарагоўцаў рэзерву;

2) блакітныя — народнае апалчэнне з прызыву 1908–1913 гг., прычым ваеннаабавязаныя старэйшых узростаў былі залічаныя ў народнае апалчэнне з рэзерву;

3) белыя загадвалі пастаўку коней у войска, і

4) белыя паведамлялі кошты на прадметы экіпіроўкі, якія прызыўнікі павінны былі прынесці з сабой.

Акрамя таго, вялікі плакат з подпісам камандуючага войскам генерал-адьютанта ген. фон Рэненкампфа апавяшчаў жыхароў гарадоў і вёсак пра салідарную адказнасць за захаванне чыгункі, тэлеграфа і іншых сродкаў камунікацыі і сувязі. Адначасова камандуючы войскам забараніў продаж алкаголю як у дзяржаўных, так і ў прыватных месцах продажу. Горад і вёска былі заспетыя мабілізацыяй знянацку, бо яшчэ некалькі дзён таму ніхто не дапушчаў, што справы зойдуць так далёка. У кавярні Маліноўскага (цяпер крама Бердаўскіх каля кінатэатра «Эдысон») афіцэры лідскага гарнізона пілі каву і палітызавалі на тэму, што «Германцам следует побить морду!» (Германцам варта пабіць пысу). Затое натоўпы інтэлігенцыі і простых гараджан як па камандзе рынуліся да акенцаў ашчадных кас, у банкі і банкаўскія канторы, каб забраць свае ўклады. У Лідзе каля скарбовай касы пры казначэйстве стаяла чарга даўжынёй у паўкіламетра, якая некалькі разоў абвівала касу. Каб вярнуць свае грошы, у чарзе стаяла каля паўтары тысячы чалавек. У Вільні з вуснаў у вусны перадаваліся весткі пра тое, што запасы золата з віленскіх банкаў ужо вывезены ў Ніжні Ноўгарад, і таму ў Віленскім дзяржаўным банку быў такі вялікі натоўп адборнай публікі, што шыкоўна прыбраныя пані парвалі свае багатыя строі, страцілі брыльянты і капелюшы, падрапалі твары і пашкодзілі рукі і ногі. Але банкаўскія чыноўнікі ў Лідзе і Вільні спраўна выдалі людзям іх грошы.

У суботу 1 жніўня (19 ліпеня) раніцай з самых дальніх кутоў Лідскага павета, усімі дарогамі, на вазах і пешшу ў горад збіраліся ваеннаабавязаныя мужчыны, зганялі мабілізаваных коней. Не абышлося без эксцэсаў: натоўп мабілізаваных мужчын, якія ішлі ў Ліду па Гродзенскім тракце, атакавалі гарэлачную краму ў Арлянцы (каля ракі Дзітва), разрабавалі і спалілі яе. Разам з манапалькай згарэла вялікая старажытная карчма графа Маўраса, якая стала на другім баку тракту, насупраць гарэлачнай крамы. Падобныя эксцэсы былі і ў іншых паветах, а дзе-нідзе ў патрыятычным угары грамілі местачковыя крамкі і таўклі гандляроў-яўрэяў. Гэта была расійская звычка, з якой пачынаецца ўсякая вайна. Добры паказаў такі пагром у Запарожжы Мікалай Гогаль у аповесці Тарас Бульба, а Гогаль з'яўляецца карыфеем расійскай літаратуры, на творах якога, як на ўзорах нянавісці да палякаў і яўрэяў, выгадаванае цэлае пакаленне ў царскай Расіі[108]. Праз некалькі дзён віленскія газеты надрукавалі загад генерала Рэненкампфа, згодна з якім былі павешаныя чатыры чалавекі, вінаватыя ў пагроме гэтай манапалькі, у тэксце загада нават не ўказваліся прозвішчы павешаных і месца пакарання. Загад быў надрукаваны як улётка і развешаны па горадзе і вёсках. На чыгунцы адмянілі ўсе пасажырскія цягнікі, якія праходзілі праз Ліду. У Ліду з іншых чыгунак прыбылі брыгады машыністаў, кандуктараў і іншых ўсякага кшталту чыгуначных адмыслоўцаў, а таксама шмат лакаматываў. Удзень і ўначы без перапынку імчаліся ваенныя эшалоны з усходу на захад. З 12-гадзінным спазненнем ледзь працiскаліся па

108 Як тут не ўспомніць апошнюю экранізацыю «Тараса Бульбы» рэжысёра Борткі з ура-патрыятычным зместам, як кажуць — «нічога новага».

шчыльна застаўленых рэчамі станцыях паштовыя цягнікі. Уезд у Вільню і выезд без дазволу ўладоў быў забаронены. На гарадскі магістрат лёг абавязак размяшчаць войскі і мабілізаваных. Бургамістр Ліды Вісмант праводзіў свой адпачынак на Чорным моры і таму быў выкліканы адтуль тэлеграмай. Нават маючы дазвол для праезду, ён моцна спазніўся на працу. Пакуль не было бургамістра, яго абавязкі выконваў намеснік Гейштаўт, а размяшчаў мабілізаваных пашпартыст Іосіф Якубоўскі. Без адпачынку лётаў ён па горадзе, вызначаў жытло, арганізоўваў кухні, месцы для мабілізаваных коней, знаходзіў харчы і фураж. Для жаўнераў былі рэквізаваные будынкі мужчынскай гімназіі па вуліцы Камерцыйнай, жаночай гімназіі Навіцкіх па вуліцы Каменскай, пачатковая школа каля замка, абедзве парафіяльныя школы, іешыва, клуб Таварыства дабрачыннай пажарнай аховы, піўныя і іншыя будынкі. У горадзе сабралася каля 5000 мабілізаваных людзей і 2000 коней. Рэгістрацыя і агледзіны мабілізаваных жаўнераў адбываліся ў гарадскім парку па вуліцы Каменскай[109], дзе раслі стагадовыя вольхі. Тут, у парку, быў летні тэатр — зробленая з дошак пабудова з лаўкамі без даху. Менавіта тут размясцілася вайсковая камісія. У летнім тэатры лекары аглядалі мабілізаваных, пісары вялі рэгістрацыю. А з парку даносіліся енкі жанчын і дзіцячы плач — сем'і развітваліся з сваімі «кармільцамі». Людзі памяталі, што ад прызыву ў войска на Руска-японскую вайну ў 1904 г. вызваляліся тыя, хто меў чацвёра і больш малых дзяцей, таму некаторыя на вазах везлі з сабой усю сям'ю. Большасць з іх больш ніколі не пабачылі сваіх дзяцей. У тыя дні быў уладкаваны адзіны ва ўсім Лідскім павеце невялічкі дзіцячы прытулак у Жалудку на сродкі князёў Святаполк-Чацвярцінскіх. Далейшы лёс гэтых пакінутых бацькамі дзяцей залежаў толькі ад літасці чужых людзей. У малых і вялікіх абшарніцкіх дварах, у надзеі на хуткі канец вайны, па меры магчымасці не выганялі з кватэр пакінутых жонак і дзяцей мабілізаваных парабкаў і выплачвалі ім некаторы час грошы, якія раней зараблялі іх мужы і бацькі.

Адначасна на гарадскім Выгане каля вуліцы Фалькоўскага[110], па вуліцы Віленскай каля праваслаўных могілак і на выездзе ў бок Навагрудка, каля каталіцкіх могілак, ішоў адбор коней. Большасць людзей спакойна прадавалі сваіх коней, бо кошты дзяржаўнага закупу былі добрыя. Аднак былі і тыя, хто, прадаючы, плакалі па сваіх конях. Закупачныя камісіі працавалі як машыны. Шапталіся потым, што на мабілізацыі коней гэтыя камісіі добра нажыліся. Пасля рэгістрацыі мабілізаваных мужчын пераводзілі ў замак, дзе іх прымалі унтэр-афіцэры, адтуль адных адпраўлялі ў казармы Лідскага палка, а другіх вялі на чыгунку і размяшчалі па вагонах для перавозу ў іншыя палкі.

Афіцэры запасу і рэзерву самі прыходзілі да павятовага вайсковага начальніка.

## V

Тым часам у ноч 1 жніўня (19 ліпеня), як пра гэта трохі пазней прачыталі мы ў газетах, у Пецярбургу нямецкі амбасадар граф Пурталес уручыў міністру замежных спраў Сазонаву ноту з патрабаваннем адмовы ад мабілізацыі і папярэдзіў, што калі Расія не зробіць гэтага на працягу 12 гадзін ад моманту ўручэння ноты, дык немцы пачнуць мабілізацыю сваёй арміі. Пасля прачытання ноты міністр Сазонаў спытаў: «Гэта вайна?» «Не, — адказаў амбасадар, — гэта толькі крок ад вайны». Нямецкая мабілізацыя планавалася так, што ў кожны момант магла быць прыпыненая, а потым адноўленая зноў, у той час як расійскую, як потым казалі, прыпыніць было немагчыма. Прыпыненне і потым аднаўленне расійскай мабілізацыі выклікала б хаос і велізарныя матэ-

[109] Прыкладна тут цяпер стаіць кінатэатр «Юбілейны».

[110] Цяпер тут гарадскі парк.

рыяльныя страты, прычым аднаўленне мабілізацыі было б магчымым толькі адпачатку, па новай праграме. Для гэтага трэба было б стварыць новую праграму мабілізацыі, на што спатрэбілася б шмат часу і працы адмыслоўцаў. За гэты час непрыяцель мог бы маршавым крокам прайсці ўсю Расію. Расійская мабілізацыя была як лавіна і не было спосабу яе прыпыніць. Каля 7-й гадзіны вечара 1 жніўня (19 ліпеня) нямецкі амбасадар прыбыў да міністра замежных спраў з нотай аб'яўлення вайны, але перад тым, як уручыць ноту міністру Сазонаву, ён засведчыў, што калі расійскі ўрад вырашыць згадзіцца на дэмабілізацыю, дык ноту з абвяшчэннем вайны ўручаць не трэба. Сазонаў адказаў, што не баіцца пагроз і гатовы прыняць ноту. Амбасадар уручыў ноту, але пры гэтым вельмі хваляваўся, у яго так дрыжэлі рукі, што ён ледзь не ўпусціў ноту на падлогу. Нота была адасланая цару ў Пецяргоф. Увечары таго ж дня ў Берліне кайзер Вільгельм з балкона свайго палаца вітаў тлумы маніфестуючых немцаў, якія прыйшлі да палаца, каб падтрымаць пачатак вайны і слаўнае нямецкае войска. «Узняўшы меч, — закончыў кайзер, — зноў у похву яго можна ўкласці толькі з гонарам». 2 жніўня (20 ліпеня) у Пецярбургу ў Зімовым палацы цар Мікалай II пасля набажэнства таксама звярнуўся да прадстаўнікоў арміі і флоту з прамовай, якую закончыў: «Урачыста тут сведчу, што не атрымаю спакою да той хвіліны, пакуль апошні непрыяцельскі жаўнер не пакіне нашу зямлю». Ніводны з гэтых манархаў не атрымаў ад гісторыі шанец стрымаць свае слова гонару.

Увечары ў нядзелю 2 жніўня (20 ліпеня) у газетах вялікімі літарамі сцісла паведамлялася: «Пецярбург. 19.VII. Амбасадар нямецкі ўручыў міністру замежных спраў ад імя свайго ўрада аб'яўленне вайны Расіі».

У той жа дзень 2 жніўня (20 ліпеня) абвешчана, што Пецярбург і губерні — Пецярбургская, Інфлянцкая, Курляндская, Ковенская, Віленская, Віцебская, Гродзенская, Валынская, Падольская, Бесарабская, Мінская — і ўсё Каралеўства Польскае знаходзяцца ў стане вайны і апублікаваны ўказ пра ваенную цэнзуру. Ваеннымі цэнзарамі ў Лідскай паштова-тэлеграфнай управе былі прызначаны: начальнік паштовай управы, надворны дарадца Калянкоўскі і чыноўнік дваранскай апекі Брухаў. Згодна з гэтым указам, абавязкам цэнзара стаў прагляд міжнароднай перапіскі, а таксама прагляд і вынятак у вызначаных выпадках мясцовай перапісцы. Адначасова абвешчаны мараторый на вэксалі.

У панядзелак 3 жніўня (21 ліпеня) у Лідзе мабілізаваныя ў войска настаўнікі народных школ у адпаведнасці з загадам школьнага інспектара Баўбліса арганізавалі патрыятычную маніфестацыю, хадзілі па горадзе з царскім партрэтам і трохкаляровымі сцягамі і спявалі «Боже, царя храни» і «Славься, славься русский царь» і т. п. Некалькі баязлівых мясцовых абывацеляў і нават некалькі гандляроў далучыліся да гэтай маніфестацыі і дапамагалі крычаць «ура». Напрыканцы маніфестанты групкамі разышліся па патайным шынкам, дзе яшчэ можна было дастаць забаронены алкаголь, выпіўка справакавала некалькі скандальных боек, у якіх узялі ўдзел асобы, вельмі паважаныя ў тутэйшым грамадстве.

У Лідзе, як, зрэшты, і ва ўсім краі, у выніку загаду зверху ў касцёле, царкве і ў сінагозе здзяйсняліся набажэнствы за перамогу. На гэтыя набажэнствы з'яўляліся толькі афіцыйныя асобы, была адпраўленая тэлеграма імператару з выяўленнем вернападданых пачуццяў абывацеляў горада Ліды, збіраліся капейкавыя і рублёвыя ахвяраванні на вядзенне вайны, на Чырвоны Крыж і да т. п. Абшарнікі Лідскага павета (не ўсе, аднак) пасля аб'яўлення вайны падпісалі ў Вільні цару ганаровы адрас з падтрымкай.

Раніцай у чацвер 6 жніўня (24 ліпеня) на пляцы каля казармаў пашыхтаваўся 172-і Лідскі полк з поўным паходным рыштункам. Палкавы святар адслужыў малебен,

а камандзір палка Раманаў вітаў асабісты склад, пажадаў хуткай перамогі і вяртання з фронту да родных агменяў. На цырымоніі іграў палкавы аркестр, прысутнічалі тысячы гараджан: дзеці, жонкі, сваякі і знаёмыя тых, хто ішоў на вайну. Пры развітанні быў такі жудасны лямант і плач, што ніхто з прысутных не мог утрымацца ад слёз. Полк па-батальённа, з музыкай і сцягамі пайшоў на станцыю для пагрузкі. Пры адпраўленні кожнага эшалона паўтараліся сцэны развітання з дарагімі людзьмі, якія ішлі на смерць. Разгорнуты да колькасці ваеннага часу 172-і полк налічваў 4000 штыкоў. У войску Рэненкампфа полк заняў месца на левым крыле ўздоўж Аўгустоўскіх лясоў. Пасля вайны і рэвалюцыі ў Расіі з былой імперыі і з нямецкага палону ў Ліду і Лідскі павет вярнулася не болей пятай часткі шарагоўцаў і некалькі афіцэраў.

Пазней з народнага апалчэння старэйшых узростаў была сфарміравана 385-я пешая Віленская дружына дзяржаўнага апалчэння, якую ўзначалілі два лідзяніны — падпалкоўнікі запасу Адольф Малеўскі і яго намеснік Баляслаў Гейштаўт. Таксама была сфармаваная 66-я конная сотня, якую ўзначаліў падпалкоўнік запасу Пізанім. Віленская дружына была адпраўленая ў Вільню, конная сотня — у Эйшышкі.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# Пачнем збіраць зярно к зярняці...



# ДА ПАЛІТЫЧНЫХ БІЯГРАФІЙ АЛЯКСАНДРА ЧАРВЯКОВА І МІКАЛАЯ ГАЛАДЗЕДА

У Беларусі праблема з навуковымі біяграфіямі. Іх няма. Такая ж праблема і з біяграфіямі палітычнымі, якія, адзначу, павінны разглядацца як адзін з відаў біяграфій навуковых. У такіх біяграфіях жыццё і дзейнасць палітыка разглядаецца ў шырокім грамадска-палітычным кантэксце, аўтары імкнуцца да максімальнай аб'ектыўнасці ў паказе дадатных і адмоўных бакоў яго характару, прычын і матываў тых ці іншых яго ўчынкаў, тых ці іншых наступстваў яго дзеянняў ці бяздзеяння.

Нельга сказаць, што дзве цэнтральныя постаці міжваеннай БССР — Аляксандр Чарвякоў і Мікалай Галадзед — былі абдзеленыя ўвагай даследчыкаў. У свой час увагу чытачоў прыцягнулі кнігі Уладзіміра Якутава «А. Г. Червяков» (1978) і «Н. М. Голодед» (1981). Тады, у час брэжнеўскага застою і неасталінізму, пэўна, толькі так і трэба было пісаць: з налётам мастацкасці і замоўчваннем не аднаго вострага моманту. Адзначыўшы, што У. Якутаў — таксама аўтар кніжкі для дзяцей «Александр Червяков» (1986) і брашуры з трохі дзіўным загалоўкам «Вровень з веком (Страницы биографии о Н. М. Голодеде)» (1989), звернем увагу і на тое, што ўжо ў незалежнай Беларусі выйшла складзеная пісьменнікам і журналістам Валянцінам Мысліўцом кніга выбраных артыкулаў і прамоў Чарвякова і ўспамінаў сучаснікаў пра яго «…я ніколі не быў ворагам» (1992).

Нельга не згадаць тут гісторыка і архівіста прафесара Расціслава Платонава, які быў прамотарам выдання шэрагу кніг з міжваеннай гісторыі БССР. У адной з гэтых кніг («Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30-х гг. — Мінск: БелНДІДАС, 1996) Р. Платонаў апублікаваў нарысы «Старшыня ЦВК: Застрэліўся? Застрэлілі? (Аб трагедыі Аляксандра Чарвякова)» і «Адкрыем заслону тайны (Аб расправе над старшынёй СНК БССР Мікалаем Галадзедам)». Гэта быў ужо якасна новы падыход да паказу часу і грамадска-палітычнай сітуацыі, у якой давялося жыць і працаваць абодвум дзяржаўным дзеячам, і да паказу маральнага выбару, які кожны з іх здзейсніў у вырашальны момант.

Кнігі, прамотарам выдання якіх быў Р. Платонаў, выходзілі дзякуючы энтузіязму вучонага і яго супрацоўнікаў, не ў рамках нейкай дзяржаўнай праграмы даследаванняў, хоць відавочна: калі б у нас была дзяржаўная праграма даследаванняў ці калі б такую праграму склала і змагло фундаваць незалежнае грамадства, у першую чаргу трэба было б выдаць біяграфіі Антона Луцкевіча, Аляксандра Чарвякова ды Усевалада Ігнатоўскага. Гэтыя тры асобы былі цэнтральнымі постацямі беларускага руху, яго своеасаблівым трыумвіратам. З сярэдзіны 1920-х на беларускім небасхіле ўзышла зорка Мікалая Галадзеда. З часам яна пачала супернічаць з зоркай папулярнага Аляксандра Чарвякова.

Ідэя публікацыі, якую я прапаную ўвазе чытачоў, не з'яўляецца новаю. На стэнаграму XVI з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі (КП(б)Б) як гістарычную крыніцу, бадай, першы — у нарысах пра А. Чарвякова і М. Галадзеда — звярнуў сур'ёзную ўвагу Р. Платонаў. Знаёмства з гэтым дакументам (своеасабліваю п'есаю) пераканала мяне ў тым, што публікацыі заслугоўваюць вялікія фрагменты стэнаграмы. Яны і самі па сабе з'яўляюцца каштоўным дакументам, і ўтрымліваюць у сабе падказкі даследчыкам, дзе (у матэрыялах якіх партыйных і дзяржаўных форумаў ды ўстаноў) шукаць дадатковыя матэрыялы да палітычных біяграфій А. Чарвякова і М. Галадзеда. Нарэшце, у гэтай стэнаграме ў асноўным паказана кола людзей, з якімі ў той ці іншай меры супрацоўнічалі і сутыкаліся абодва дзеячы.

* * *

XVI з’езд КП(б)Б праходзіў 10–19 чэрвеня 1937 г. У ліпені 1937 г. магло споўніцца 17 гадоў з таго часу, як выпускнік Віленскага настаўніцкага інстытута, былы сябар Беларускай Сацыялістычнай Грамады, афіцэр расійскай арміі, камісар Беларускага нацыянальнага камісарыята пры Народным камісарыяце нацыянальнасцяў Савецкай Расіі, камісар асветы ў Часовым рабоча-сялянскім савецкім урадзе Беларусі, намеснік народнага камісара асветы Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі, член, а потым і старшыня Менскага губернскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта (ВРК) А. Чарвякоў стаў старшынёю ВРК Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі (ліпень — снежань 1920). На ІІ Усебеларускім з’ездзе Саветаў, які адбыўся 13–17 снежня 1920 г., яго выбралі ў склад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) ССРБ. А неўзабаве ён стаў старшынёю ЦВК. І на гэтай пасадзе заставаўся амаль 17 гадоў.

Мусіць, трэба нагадаць, што ССРБ 1920–1924 гг. займала тэрыторыю няпоўных Барысаўскага, Ігуменскага, Мазырскага, Менскага, Слуцкага і, здаецца, цэлага Бабруйскага павета Менскай губерні. Уваходзілі ў склад тагачаснае ССРБ і фрагменты Вілейскага павета Віленскай губерні.

У невялічкай рэспубліцы можна і нават трэба было пасаду старшыні ЦВК спалучыць з пасадаю старшыні Савета Народных Камісараў БССР (СНК, Саўнаркам). Пэўны час «прэзідэнт» і «прэм’ер-міністр» А. Чарвякоў з’яўляўся адначасова і народным камісарам (наркамам) замежных спраў ССРБ. Гэтая пасада была ліквідаваная пасля таго, як у канцы 1922 г. быў утвораны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР). У выніку аб’яднання савецкіх рэспублік А. Чарвякоў стаў адным з чатырох старшыняў ЦВК СССР і заставаўся на гэтай пасадзе да сваёй смерці. Не забудзьма таксама, што ў 1920–1924 гг. Чарвякоў уваходзіў у Цэнтральнае Бюро (ЦБ) КП(б)Б.

Дзякуючы пэўным чыннікам беларускім нацыянал-камуністам (потым іх назавуць нацыянал-ухілістамі, нацыянал-апартуністамі і нават — у другой палавіне 1930-х гг. — нацыянал-фашыстамі) удалося дамагчыся, каб Расія вярнула ў склад Беларусі частку земляў былых Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губерняў, якія яна прыўлашчыла ў 1919–1920 гг. На бальшавіцкім жаргоне гэта было названа першым узбуйненнем ССРБ. У выніку такой акцыі за А. Чарвяковым засталася пасада старшыні ЦВК БССР. Старшынёю СНК стаў Язэп Адамовіч. У сувязі з тым, што КП(б)Б у 1924 г. істотна вырасла, Цэнтральнае Бюро КП(б)Б было пераўтворанае ў Цэнтральны Камітэт (ЦК). Да сваёй смерці А. Чарвякоў будзе членам ЦК КП(б)Б і яго Бюро.

На час вяртання ў склад Беларусі яе цэнтральных і часткі ўсходніх земляў замест ЦБ КП(б)Б было створанае Часовае беларускае бюро Цэнтральнага Камітэта Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў), або ЧББ ЦК РКП(б). Магчыма, у час працы гэтага партыйнага органа А. Чарвякоў упершыню сустрэўся ці бліжэй пазнаёміўся з выканаўцам абавязкаў сакратара Горацкага павятовага камітэта РКП(б) Мікалаем Галадзедам, чалавекам з Навазыбкаўскага павета, які скончыў народнае вучылішча, паехаў у Крывы Рог і вывучыўся там на электрамеханіка і, як пісаў гісторык Уладзімір Якутаў, на машыніста ды ўвайшоў такім чынам у рабочую арыстакратыю. (Тут дарэчы будзе спаслацца на вядомага меншавіка Пятра Гарві, які нямала папрацаваў у падпольных гуртках у Расіі і добра ведаў рабочы клас. Дык вось, кваліфікаваныя работнікі называлі сябе *мастеровыми*, а рабочымі яны называлі некваліфікаваных.)

Прызваны ў войска, М. Галадзед абслугоўваў электраабсталяванне ў авіяцыйным падраздзяленні 8-й расійскай арміі. Ён быў малодшым камандзірам, спраўна нёс службу і заслужыў падзякі камандавання і нават, як сцвярджалі былыя яго таварышы па партыі, Георгіеўскі крыж. Яшчэ трэба даследаваць, да якога чыну даслужыўся М. Галадзед, якія

падзякі і ўзнагароды атрымаў, але можна думаць, што ён ані не марыў аб паражэнні Расіі ў вайне. Гэта і тое, што 8-й арміяй, у якой ён служыў, пэўны час камандаваў адзін з пачынальнікаў белага руху, генерал Лаўр Карнілаў, было ў вачах бальшавікоў цяжкою правінай.

Паўтараю: як у спраўднасці праходзіла салдацкая служба М. Галадзеда, яшчэ трэба даследаваць, але як бы яно ні было, віхура, распачатая Вялікай рэвалюцыяй на пачатку 1917-га, не магла не ўцягнуць і яго. Яшчэ трэба даследаваць, наколькі праўдзівыя былі абвінавачанні, сабраныя яго таварышамі па партыі і агучаныя на XVI з'ездзе КП(б)Б (прыналежнасць да Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, разрыў арганізацыйнай сувязі з Навазыбкаўскай бальшавіцкай арганізацыяй, аднаўленне ў партыі і г. д.), яшчэ трэба вывучыць, ці сапраўды М. Галадзед служыў у Чырвонай Арміі і працаваў у падполлі падчас Гетманшчыны, як пра тое мы чытаем у адной з ягоных анкетаў. Але для нас відавочны факт: трапіўшы ў Горкі, здольны да вучобы сялянскі сын, кваліфікаваны рабочы хацеў стаць высокакваліфікаваным спецыялістам сельскай гаспадаркі, таму і паступіў на рабочы факультэт, каб падрыхтавацца да вучобы ў сельскагаспадарчым інстытуце. Ды ў бальшавіцкай партыі дзейнічала правіла: асабістае павінна быць падпарадкаванае агульнапартыйнаму. І малады М. Галадзед становіцца старшынёю Горацкага павятовага выканкама Гомельскай (з ліпеня 1922 г. — Смаленскай) губерні. У 1924 г. ён прадстаўляе губерню ў Часовым беларускім бюро ЦК РКП(б). Там ён ці то ўпершыню, ці то бліжэй знаёміцца з А. Чарвяковым, з беларускімі камуністамі (якіх, звяртаю ўвагу, трэба адрозніваць ад бальшавікоў).

У стэнаграме XVI з'езда КП(б)Б можна сустрэць інфармацыю, што М. Галадзед некалькі разоў мяняў сваю нацыянальнасць, і нават сцвярджэнне, што ён гандляваў сваёй нацыянальнасцю. Па-мойму, усё прасцей. У анкеце дэлегата на VIII з'езд КП(б)Б (май 1924 г.) у графе «Нацыянальнасць» М. Галадзед запісаў, што ён рускі, а ў графе «Якую мову лічыць роднай» напісаў: *научился говорить по-русски* (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 1258. Арк. 65). Вось такі парадокс: «рускаму» чалавеку спатрэбілася вучыцца гаварыць па-расійску. Значыць, расійская не была яго роднаю моваю. І ён гэта добра ўсведамляў.

VIII з'езд КП(б)Б быў першы пасля таго, як у склад ССРБ былі вернутыя цэнтральныя і частка ўсходніх беларускіх земляў. Ад гэтага часу жыццё і лёс М. Галадзеда звязаныя з Беларуссю, і ён самавызначаецца як беларус. У снежні 1925 г. ён становіцца другім сакратаром ЦК КП(б)Б. Разам з беларускімі камуністамі ён будзе весці працу дзеля вяртання Беларусі рэшты яе ўсходніх этнічных земляў. Многага дамагчыся не ўдалося. Складоваю часткаю ССРБ сталі Рэчыцкі і Гомельскі паветы. Родны М. Галадзеду Навазыбкаўскі павет, як і іншыя ўсходнія тэрыторыі, Масква пакінула ў складзе Расіі.

Тут дарэчы будзе сказаць, што пасля вяртання ў склад Беларусі цэнтральных і часткі ўсходніх земляў была прынятая новая канстытуцыя Рэспублікі (1927), у адпаведнасці з якой ССРБ стала афіцыйна менавацца Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і была ўзаконеная абрэвіятура БССР.

У 1927 г. адбылася і перамена ў становішчы М. Галадзеда. У кіраўніцтве Савецкай Беларусі ад самых яе пачаткаў ніколі не было адзінства. Звычайна канфлікты ўсчыналіся паміж «мясцовымі» і «прыезджымі». Пра гэтыя канфлікты, пра тое, як «мясцовыя» «выжывалі» з Беларусі першых сакратароў КП(б)Б, чытачы могуць нешта даведацца з фрагментаў стэнаграмы XVI з'езда Кампартыі Беларусі, якія публікуюцца тут. У 1927 г. выбухнуў чарговы канфлікт, які палічылі за лепшае звесці да міжасабовага канфлікту паміж старшынёй СНК Язэпам Адамовічам і першым сакратаром ЦК КП(б)Б Аляксандрам Крыніцкім. Калі Масква выдаліла іх абодвух з Беларусі, М. Галадзед стаў старшынёй урада БССР. На гэтай пасадзе ён прабудзе да канца мая 1937 г.

* * *

Як бачым, у 1927–1937 гг. А. Чарвякоў і М. Галадзед становяцца цэнтральнымі постацямі ў жыцці БССР, асабліва калі ўзяць пад увагу, што разам яны «перажылі» чатырох першых сакратароў ЦК ЦК(б)Б: Вільгельма Кнорына, Яна Гамарніка, Канстанціна Гея і Мікалая Гікалу.

М. Гікалу вызвалілі ад абавязкаў першага сакратара ЦК КП(б)Б у студзені 1937-га, а ў наступным месяцы ён стаў першым сакратаром Харкаўскага абласнога камітэта Кампартыі (бальшавікоў) Украіны. Як кандыдат у члены ЦК УсеКП(б) — Усесаюзнай камуністычнай партыі (бальшавікоў), — ён, пэўна ж, як і М. Галадзед, прысутнічаў на пленарным пасяджэнні (пленуме) гэтага органа 23 лютага — 5 сакавіка, з якога пачаўся чарговы крывавы перыяд савецкай гісторыі, неправамерна, як на маю думку, названы Вялікім тэрорам.

Тэрор перыяду распаленай бальшавікамі Грамадзянскай вайны таксама быў вялікі, як і тэрор перыяду калектывізацыі сельскай гаспадаркі, «ліквідацыі кулацтва як класа» і Галадамору. Адрозненне 3-га вялікага тэрору ад двух папярэдніх было ў тым, што цяпер ён інтэнсіўна праводзіўся і ўнутры тэрарыстычнай партыі. Ужо адбыўся працэс Льва Каменева і Грыгорыя Зіноўева (ён жа працэс «Антысавецкага аб'яднанага трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра», ён жа працэс 16-ці; жнівень 1936 г.). У студзені 1937-га адбыўся працэс «Паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра» (ён жа працэс 17-ці). І вось, 23 лютага пачаўся лютаўска-сакавіцкі пленум ЦК УсеКП(б). Стэнаграма яго даступная. Таму не буду ўдавацца ў дэталі. Усе ўдзельнікі пленума чакалі даклад генеральнага сакратара ЦК партыі. З вуснаў жа Іосіфа Сталіна яны пачулі, што «шкодніцкая і дыверсійна-шпіёнская праца агентаў замежных дзяржаў… закранула ў той ці іншай меры ўсе або амаль усе нашы арганізацыі — як гаспадарчыя, так і адміністрацыйныя і партыйныя». Па-другое, «агенты замежных дзяржаў… праніклі не толькі ў нізавыя арганізацыі, але і на некаторыя адказныя пасады». Па-трэцяе, «некаторыя нашы кіруючыя таварышы… не толькі не здолелі разглядзець сапраўдны твар гэтых шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў, але… нярэдка самі садзейнічалі прасоўванню агентаў замежных дзяржаў на тыя ці іншыя адказныя пасады». Безумоўнымі агентамі замежных дзяржаў, сцвярджаў Сталін, былі трацкісты, якія паўсюль стваралі гнёзды шкоднікаў і шпіёнаў-дыверсантаў. Трацкізм 1930-х, казаў Сталін, гэта не палітычная плынь у рабочым класе, а «беспрынцыповая і безыдэйная банда шкоднікаў, дыверсантаў, разведчыкаў, шпіёнаў, забойцаў, банда заклятых ворагаў рабочага класа», якія дзейнічаюць як наймiты разведвальных службаў замежных дзяржаў. Іх сіла «заключаецца ў партыйным білеце, у валоданні партыйным білетам». Адсюль вынікала задача — ачысціць партыю ад сапраўдных і ўяўных прыхільнікаў Льва Троцкага.

Запазычаны ва Уладзіміра Леніна «дыялектычны метад» дазваляў Сталіну і карным органам партыі-дзяржавы ствараць самыя неймаверныя альянсы. Пікам гэтай «творчасці» стане працэс «Праватрацкісцкага блоку» (сакавік 1938 г.), калі на лаве падсудных разам з былымі прыхільнікамі Троцкага (Мікалай Красцінскі і Хрысціян Ракоўскі) апынуліся яго апаненты (Мікалай Бухарын і Аляксей Рыкаў), калі праціўнік сталінскай калектывізацыі сельскай гаспадаркі Бухарын стаў «падзельнікам» калектывізатара Якава Якаўлева.

З прамовы Сталіна на пленуме ЦК УсеКП(б) вынікала, што барацьба з «агентамі замежных дзяржаў» можа набыць перманентны характар, бо «пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы». Мала таго, Сталін сцвярджаў: «…чым больш будзем рухацца наперад, чым больш будзем

мець поспехаў, тым больш будуць азлабляцца рэшткі разбітых эксплуататарскіх класаў, тым хутчэй яны будуць ісці на больш вострыя формы барацьбы, тым больш яны будуць паскудзіць савецкай дзяржаве, тым больш яны будуць хапацца за самыя адчайныя сродкі барацьбы як апошнія сродкі асуджаных».

У сучаснай марксісцкай літаратуры можна прачытаць, што праз 3-і вялікі тэрор Сталін расчышчаў дарогу для кар'ернага росту новай генерацыі бальшавіцкіх дзеячаў. Гэтага не хаваў і сам генеральны сакратар. Падзяліўшы ў сваёй прамове партыйныя кадры на генералітэт, афіцэрства і унтэр-афіцэрства, правадыр паставіў задачу: «Падняць ідэалагічны ўзровень і палітычную загартоўку гэтых камандных кадраў, *уліць у гэтыя шэрагі свежыя сілы, якія чакаюць свайго вылучэння…*» (курсіў наш. — *А. С.*). Каб заспакоіць прысутных на пленуме, Сталін завяршыў гэты сказ словамі: «…і пашырыць такім чынам склад кіраўнічых органаў». Ва ўмовах таталітарнай дзяржавы, акрамя тэрору, іншага шляху істотнага абнаўлення кіроўнай групоўкі няма. Так, нагадаю, праводзіў ратацыю кіраўнічых кадраў у кантынентальным Кітаі Мао Цзэдун («вялікая пралетарская культурная рэвалюцыя»). Пры гэтым нязменным застаецца сам правадыр. Калі ж кадры доўга не мяняць, атрымліваецца застой, як у СССР у час Леаніда Брэжнева.

Была ў прамове Сталіна і «прагаворка па Фройду». Кажучы, што шкоднікі «звычайна прымяркоўваюць галоўную сваю шкодніцкую працу… к перыяду парэдадня вайны ці самой вайны», генеральны сакратар тым самым абвяшчаў, што Савецкі Саюз знаходзіцца напярэдадні вайны. Можна меркаваць, што Сталін вырашыў праз 3-і вялікі тэрор правесці зачыстку тылу ад сваіх актуальных і патэнцыйных апанентаў. А гэта былі, як правіла, людзі з больш-менш салідным стажам партыйнай і дзяржаўнай дзейнасці, службы ў арміі і на флоце.

Быў у 3-га вялікага тэрору яшчэ адзін аспект. У канцы 1929 г. Сталін узяў у свае рукі кіраўніцтва бальшавіцкай партыяй і Савецкім Саюзам. Пасля забойства Сяргея Кірава (1 снежня 1934 г.) у яго практычна не засталося канкурэнтаў. Аднак у саюзных і аўтаномных рэспубліках за час ад 1917 г. сфармаваліся свае эліты. Кіраўнікі рэспублік нярэдка былі, як Чарвякоў, «айцамі» гэтых дзяржаўных або, калі заўгодна, квазідзяржаўных утварэнняў. Нароўні са Сталіным і іншымі членамі Палітбюро ЦК УсеКП(б) іх выбіралі ў ганаровыя прэзідыумы ўсякіх з'ездаў, канферэнцый, пасяджэнняў, іх партрэты неслі падчас наладжаных уладаю дэманстрацый. У стэнаграме XVI з'езда КП(б)Б можна прачытаць пра тое, што партрэты Галадзеда віселі ў ленінскіх кутках воінскіх падраздзяленняў, што яго абвяшчалі і ганаровым танкістам, і ганаровым курсантам… 3-і вялікі тэрор паслужыў усталяванню ў СССР абсалютнага культу асобы Сталіна. Ад гэтага часу партрэты кіраўнікоў рэспублік знікаюць з дзяржаўных і партыйных устаноў, іх не носяць падчас дэманстрацый, кіраўнікоў рэспублік не выбіраюць у ганаровыя прэзідыумы. Гэтая прывілея належыць толькі Сталіну і членам Палітбюро. Але перш чым устанавіць такое правіла, Крамлю належала пазбыцца «старых» элітаў у саюзных і аўтаномных рэспубліках. (Слова «стары» я пішу ў сэнсе стажу, а не ўзросту кіраўнікоў рэспублік, бо таму ж Чарвякову ўвесну 1937 г. споўнілася 45 гадоў, а Галадзеду — на два гады менш.) «Тэарэтычным грунтам» для элімінацыі «старога» кіраўніцтва рэспублік стаў даклад Сталіна на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК УсеКП(б), у якім, нагадаю, генеральны сакратар партыі сцвярджаў, што «агенты замежных дзяржаў… праніклі не толькі ў нізавыя арганізацыі, але і на некаторыя адказныя пасады».

* * *

Гэта толькі так сказана: «на некаторыя адказныя пасады». У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца папка з аглядам «вынікаў разгрому антысавецкага падполля ў БССР», складзеным «паводле матэрыялаў следства», якое ў 1937–1938 гг. вёў 4-ы аддзел упраўлення дзяржаўнай бяспекі наркамата ўнутраных спраў БССР (Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 13277). Гэты дакумент настолькі фальшывы, што яго можна было б назваць «мастацкім свістам», выдумкай «досужего ума», калі б не яго злавесны змест. Гэбісты паведамлялі, што ўсяго было арыштавана 2570 удзельнікаў аб'яднанага антысавецкага падполля, а потым ішла «раскладка» — колькі трацкістаў і зіноўеўцаў, правых, нацыянал-фашыстаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў, бундаўцаў, меншавікоў, сіяністаў, царкоўнікаў, сектантаў і клерыкалаў.

Гэтаму агляду папярэднічаў яго план-накід, прадстаўлены ў ЦК КП(б)Б, відаць, для зацвярджэння ці то ўзгаднення (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 13278). У тым накідзе чытаем, што антысавецкі аб'яднаны блок у БССР пачаў складвацца яшчэ ў 1930–1931 гг., гэта значыць у той час, калі ў кабінетах бальшавіцкай партыі і Дзяржаўнага палітычнага упраўлення (ДПУ) фальшавалася справа так званага Саюза вызвалення Беларусі. «Антысаветчыкі-падпольшчыкі», як вынікае з дакументаў, сканцэнтраваліся былі ў ЦВК і СНК БССР, ЦК КП(б)Б, Дзяржаўнай планавай камісіі, у наркаматах (асабліва земляробства, асветы, мясцовай прамысловасці ды лёгкай прамысловасці), у гандлёвым апараце, Акадэміі навук, вышэйшых навучальных установах, Саюзе пісьменнікаў. У сваю «сетку» гэтыя «ворагі народа» ўцягнулі людзей з усёй БССР. Гэбісты сцвярджалі, што на момант напісання агляду групы антысаветчыкаў-падпольшчыкаў яшчэ існавалі ў Менску, Магілёве, Бабруйску, Слуцку, Мазыры, Горках, Капылі, Сянно, Круглым, Навабеліцы ды іншых населеных пунктах.

Адкуль набралася такая густая сетка агентаў розных разведак? Адказ быў просты: адны «ворагі народа» падчас Першай сусветнай вайны былі ў нямецкім ці аўстрыйскім палоне, другія жылі на паднямецкай тэрыторыі, трэція браталіся з нямецкімі салдатамі на фронце; а потым была савецка-польская вайна за Беларусь і Літву, і многія дзеячы жылі на тэрыторыі, захопленай Войскам Польскім, былі ў польскім палоне; нямала дзеячаў БССР паходзілі з Польшчы і Заходняй Беларусі, з Латвіі, Літвы і Эстоніі, некаторыя сутыкаліся ў час грамадзянскай вайны ў Расіі з інтэрвентамі, знаходзіліся ў палоне ў белых, а яшчэ былі тыя, хто за царом трапіў нават у Амерыку і ў каго меліся там родзічы….

Што тычыцца А. Чарвякова, дык ён ні пад адну гэтую катэгорыю не падпадаў. І ўсё роўна ён быў абвешчаны польскім шпіёнам. На якой падставе? Пэўна, таму, што быў у адной партыі, працаваў у партыйных і савецкіх органах разам з палякамі або з тымі, хто паходзіў з Польшчы і Заходняй Беларусі. Была ў біяграфіі Чарвякова адна істотная «закавыка»: ён быў сябрам Беларускай Сацыялістычнай Грамады (дарэчы, дагэтуль невядома, у якім годзе ён уступіў у БСГ). Другая «закавыка» была ў тым, што ўлетку 1920 г. Чарвякоў разам з іншымі дзеячамі Кампартыі Літвы і Беларусі — «польскімі агентамі» Адамам Славінскім і Язэпам Адамовічам ды «латвійскім агентам» Вільгельмам Кнорыным — прыняў у бальшавіцкую партыю Беларускую камуністычную арганізацыю (БКА) на чале з Усеваладам Ігнатоўскім (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 13277. Арк. 11). А БКА, пісалі гэбісты, была створаная (пасля наўпроставай дырэктывы Юзафа Пілсудскага) афіцэрам II аддзялення польскага генштаба Сільвестрам Ваявудскім (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 13277. Арк. 9). Другое ж аддзяленне («двуйка») займалася пытаннямі выведкі і контрвыведкі, і стварала яно БКА як шпіёнскую і шкодніцка-дыверсійную структуру, пра што мы можам прачытаць у стэнаграме XVI з'езда КП(б)Б.

Са стэнаграмы XVI з'езда можна даведацца, што Чарвяковааднаасобна вінавацілі і за тое, што ён «заслаў» на падпольную працу ў Заходнюю Беларусь Міхала Гурына-Маразоўскага — чалавека, рашуча настроенага супраць палякаў, у тым ліку супраць польскага камунізму. Настолькі рашуча, што ён хацеў вывесці Камуністычную партыю Заходняй Беларусі (КПЗБ) з падпарадкавання польскім камуністам (так званая сэцэсія) і пераўтварыць яе ў самастойную секцыю Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Калі ж ягоная ініцыятыва сустрэла супраціў і бальшавіцкага кіраўніцтва ў Маскве ды Менску, і кампартыі Польшчы, і пэўнай часткі КПЗБ, Гурын-Маразоўскі пайшоў на супрацоўніцва з польскай «бяспекай» і стаў ці не галоўным сведкам абвінавачання ў справе Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады — масавай арганізацыі (некаторыя называюць яе партыяй), якую бальшавікі вырашылі выкарыстаць (і пачалі выкарыстоўваць) у сваіх інтарэсах.

Вось такія тры галоўныя «злачынствы» супраць бальшавіцкай партыі інкрымінавалі Аляксандру Чарвякову. Чацвёртае яго «злачынства» было ў тым, што ён так і не стаў актыўным удзельнікам тэрору, развязанага бальшавікамі ўнутры сваёй партыі, не дапамагаў выкрываць «ворагаў народа», «агентаў разведак», «шкоднікаў» і «дыверсантаў», хоць ад яго гэтага настойліва патрабавалі. Не меншым «злачынствам» Чарвякова было і тое, што яго паважала беларуская інтэлігенцыя, што «всякие контрреволюционные, нацдемовские группы, которые на протяжении долгих лет боролись против советской власти», выстаўлялі яго «своим знаменем». Мала таго, гэты «чалавек-сцяг» меў іншы раз мужнасць заступацца за некаторых абвінавачаных у злачынствах супраць улады[1].

Са стэнаграмы XVI з'езда вынікае, што часцей за абвінавачаных у злачынствах супраць улады заступаўся Мікалай Галадзед. Яно і зразумела: старшыня СНК адказваў за народную гаспадарку БССР, за дабрабыт народа, і яму патрэбныя былі спецыялісты, людзі, якія ўмелі рабіць канкрэтную справу, а не балабоніць. Як і Чарвякова, Галадзеда вінавацілі таксама за тое, што яго паважае інтэлігенцыя. Называлі яго і натхняльнікам «прышчэпаўшчыны» — палітыкі хутарызацыі, палітыкі стварэння моцных сялянскіх таварных гаспадарак і іх добраахвотнай кааперацыі, якую ў 1920-я гг. праводзіла КП(б)Б. Былы другі сакратар ЦК КП(б)Б Даніла Валковіч, які на кароткі час сядзе ў крэсла старшыні СНК БССР, нават прапанаваў і тэрмін адмысловы — галадзедаўшчына. Ды перш-наперш справу Галадзеда ўвязалі са справай «вайсковай змовы», «антысавецкай трацкісцкай вайсковай арганізацыі», больш вядомай як «справа Тухачэўскага».

У мяне такое адчуванне, што пачатак працы XVI з'езда КП(б)Б адмыслова быў перанесены на 10 чэрвеня 1937 г., бо пленум ЦК, які адбыўся 14–18 сакавіка, вырашыў быў склікаць з'езд 12 мая. Пэўна, у Маскве адбыўся нейкі збой, і з'езд пачаў сваю працу на месяц пазней. На другі дзень яго працы Спецыяльная судовая прысутнасць Вярхоўнага суда СССР вынесла смяротны прысуд групе савецкіх военачальнікаў на чале з маршалам Міхаілам Тухачэўскім. Зняты з пасады старшыні СНК БССР М. Галадзед быў заняты сваёй палітычнай рэабілітацыяй і чакаў прыёму ў Сталіна. Ён не мог прысутнічаць

[1] Лягчэй было заступацца за тых, каго яшчэ не арыштавалі. За арыштаваных і афіцыйна абвінавачаных заступацца было немагчыма. Так, 13 мая 1937 г. сябрам ЦК КП(б)Б была даслана прынятая ў той самы дзень пастанова Бюро аб выключэнні былога наркама асветы Ананія Дзьякава з партыі і са складу кандыдатаў у члены ЦК КП(б)Б. Пастанову Бюро патрабавалася правесці як пастанову пленума ЦК. Сябры Цэнтральнага Камітэта павінны былі паставіць свой подпіс або ў графе «За», або ў графе «Супраць». Ніхто, у тым ліку М. Галадзед, Г. Убарэвіч і А. Чарвякоў, не паставіў свой подпіс у графе «Супраць».

на з’ездзе, хоць і быў абраны дэлегатам, а таму і не мог чуць, у чым яго вінавацілі. (Зрэшты, яго маглі і не пусціць у залу, дзе адбываліся пасяджэнні: гэта быў з’езд, у час працы якога праводзіліся арышты дэлегатаў.) А вінавацілі Галадзеда ў цеснай сувязі з камандуючым войскамі Беларускай вайсковай акругі Геранімам Убарэвічам (расстраляны 12 чэрвеня), з іншымі военачальнікамі акругі. Не ведаю, якія паказанні супраць Галадзеда выбілі з Убарэвіча, але схема вымалёўвалася такая: Галадзед і Убарэвіч на чале вайскова-палітычнай змовы ў Савецкай Беларусі. Узяўшы пад увагу тое, што начальнік галоўнага палітычнага ўпраўлення Чырвонай Арміі Ян Гамарнік быў у свой час першым сакратаром ЦК КП(б)Б і што да яго «мясцовыя», у тым ліку Чарвякоў, ставіліся прыхільна (дадам у дужках: было за што), удзельнікам вайскова-палітычнай змовы гэбісты лёгка маглі зрабіць і старшыню ЦВК БССР.

Не выклікае сумненняў, што ў БССР рыхтаваўся вялікі палітычны працэс на ўзор маскоўскіх, аднак намеры гэбістаў і іх галоўнага натхняльніка былі сарваныя. У 1930–1931 гг. Янка Купала сваім «харакіры», а потым У. Ігнатоўскі самагубствам не далі бальшавікам арганізаваць працэс у справе так званага Саюза вызвалення Беларусі. У 1937 г. задуме гэбістаў і іх натхняльніка не далі здзейсніцца Язэп Адамовіч (выкліканы ў Маскву, застрэліўся 22 красавіка 1937 г. у дарозе), Ян Гамарнік (застрэліўся перад арыштам 31 мая), Аляксандр Чарвякоў (застрэліўся 16 чэрвеня) і Мікалай Галадзед (скончыў жыццё самагубствам 31 чэрвеня ў турме НКУС БССР). Без галоўных фігурантаў працэс быў бы непаўнацэнны.

* * *

Стэнаграма XVI з’езда КП(б)Б дае магчымасць зразумець, што ў дачыненні да Чарвякова і Галадзеда былі выбраныя дзве розныя тактыкі.

Жыццё Чарвякова (прынамсі з 1917 г.) праходзіла публічна. Ён быў майстар акругленай фразы, пазбягаў рэзкіх рухаў, і таму з дзевяці беларусаў — членаў Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі – першарадную ролю ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі 1920–1930-х гг. адыгрываў толькі ён. Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Язэп Дыла ды Зміцер Чарнушэвіч былі акторамі другога і нават трэцяга планаў. Астатнія, не кажучы пра даволі загадкавую асобу Аляксандра Квачанюка, або сталі ахвярамі бальшавіцкага тэрору (Фабіян Шантыр), або (Іларыён Пузыроў, Іван Савіцкі і Усевалад Фальскі) бясследна зніклі, пры гэтым У. Фальскі, якому прысудзілі былі расстрэл, пабываў на савецкай катарзе.

Для таго каб вінаваціць чалавека ў смяротных грахах супраць сістэмы, трэба было або памяняць яе рэжым, або стаць на шлях фальшавання яе гісторыі, або рабіць і тое, і другое адначасова. Рэжым сістэмы памяняўся пры пераходзе ад новай эканамічнай палітыкі (1921–1928) да паскоранай індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і «ліквідацыі кулацтва як класа». Ужо ў 1930 г. сакратар ЦК КП(б)Б Васіль Шаранговіч (ведама ж, выконваючы волю вышэйстаячых партыйных інстанцый) спрабаваў «стварыць» у Кампартыі Беларусі групу Ігнатоўскага — Чарвякова, аднак прэзідэнт Беларускай акадэміі навук адмаўляў існаванне такой групы. Зрэшты, Ігнатоўскага і ўзначаленую ім БКА яшчэ не вінавацілі ў шпіянажы, дыверсійна-шкодніцкай дзейнасці і да т. п. На новым вітку гісторыі ці то В. Шаранговіч, ці то гэбісты вярнуліся да старой ідэі аб групе Ігнатоўскага — Чарвякова. На пачатку 1937 г. «органы» вырвалі патрэбныя паказанні супраць Ігнатоўскага і БКА з былога члена гэтай арганізацыі Міхася Чарота. Цяпер справа набывала новы, небяспечны паварот: Чарвякоў прымаў у партыю не аднаго агента «двуйкі», а цэлую шпіёнска-дыверсійную арганізацыю.

Мала таго, ужо сцвярджалася, што «Червяков был руководителем и организатором группы Игнатовского». Астатнія абвінавачанні былі дадаткам («довеском») да асноўнага.

14 чэрвеня на ранішнім пасяджэнні XVI з'езду КП(б)Б Чарвякоў выступіў з прамовай. Гэта былі апошні партыйны з'езд з яго ўдзелам і апошняя яго прамова. Чарвякоў, якога вінавацілі ў нацыянал-фашызме, якога называлі сцягам нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, як і 99 адсоткаў дэлегатаў, прамаўляў па-расійску (па-беларуску выступіў адзін толькі Іосіф Хаўкін). Зазначыўшы, што апошняя прамова Чарвякова — а гэта блізу 40 старонак стандартнага машынапісу — патрабуе асобнай публікацыі і асобнай каментатарскай працы, задамо пытанне: на што спадзяваўся старшыня ЦВК, выступаючы па-расійску і па-расійску запоўніўшы анкету дэлегата? Але асаблівую ўвагу звернем на тое, што ягоная прамова выклікала незадавальненне і нават абурэнне: «усебеларускі стараста» не стаў на шлях «выпраўлення», не пачаў дапамагаць партыі выкрываць «ворагаў народа».

Чарвякоў не мог ведаць, што ў той самы дзень, 14 чэрвеня 1937 г., першы сакратар ЦК КП(б)Б Шаранговіч накіраваў шыфратэлеграму Сталіну, у якой паведаміў, што арыштаваныя былыя наркамы Казімір Бэнек і Анані Дзьякаў, былы намеснік старшыні Дзяржплана Іван Пятровіч (Янка Нёманскі), былы старшыня Мазырскага акруговага выканаўчага камітэта Антон Дубіна і былы камандзір 16-га стралковага корпуса Андрэй Мелік-Шахназараў далі паказанні аб існаванні ў БССР контррэвалюцыйнай шкодніцкай і шпіёнскай арганізацыі, на чале якой стаялі ён, Чарвякоў, і Галадзед. Шаранговіч пісаў Сталіну: «…лічу, што Чарвякова трэба зняць з пасады старшыні ЦВК Беларусі» (http://www.alexanderyakovlev.org/fond/issues-doc/61082). І Сталін у той самы дзень даў адказ: «Галадзед арыштаваны. Раім не перашкаджаць з'езду праваліць Чарвякова. Калі з'езд вырашыць зняцце Чарвякова з пасады старшыні ЦВК Беларусі, мы пярэчыць не будзем».

Супастаўленне стэнаграмы XVI з'еда КП(б)Б і шыфратэлеграмаў Шаранговіча і Сталіна дае мне права зрабіць адну выснову: у Маскве і Менску быў распрацаваны сцэнар элімінацыі А. Чарвякова, і гэтую элімінацыю належала аформіць як выяўленне волі партыйных масаў.

Атрымаўшы вестку аб арышце Галадзеда, Шаранговіч, каб паведаміць навіну, бярэ слова на з'ездзе, а другі пасля яго выступае Аркадзій Шусцін, які агучвае думку аб пазбаўленні Чарвякова пасады старшыні ЦВК. Раніцай 15 чэрвеня Васілій Чарнышоў падтрымлівае прапанову Шусціна і ставіць перад дэлегатамі пытанне пра неўключэнне Чарвякова ў склад ЦК КП(б)Б. Раніцай 16 чэрвеня сваё слова вуснамі Аляксандра Аўгустайціса сказаў і камсамол: «…дальнейшее избрание тов. Червякова в члены ЦК и оставление его на посту председателя Центрального Исполнительного Комитета БССР — невозможно». Яшчэ далей пайшоў Раман Соскін з Оршы: ён заявіў, што Чарвякову «не должно быть места… в партии».

Знаўца апаратных гульняў, Чарвякоў зразумеў, што яго, як і іншых дэлегатаў, могуць не сёння, дык заўтра арыштаваць. У яго заставаўся быў адзін-адзіны спосаб захаваць гонар і годнасць. Іншых спосабаў у таталітарнай дзяржаве не было.

Што тычыцца Галадзеда, дык у дачыненні да яго была выбрана іншая тактыка. Постаць будучага старшыні СНК БССР была да 1924 г. не такою прыкметнаю, як постаць Чарвякова. Прыкметнаю яна стала тады, калі Горацкі павет зноў стаў складовай часткай Беларусі. Са стэнаграмы XVI з'еда КП(б)Б можна даведацца, што на Галадзеда працяглы час таварышы па партыі збіралі кампрамат і што асноўная ўвага была звернутая якраз

на «дабээсэсэраўскі» перыяд яго дзейнасці. Са стэнаграмы вынікае, што зборам кампрамату кіравалі такія дзеячы, як Мікалай Гікала (яго замяніў Васіль Шаранговіч), Даніла Валковіч і Арон Рыскін, а канкрэтным пошукам кампрамату займаліся супрацоўнікі Інстытута гісторыі партыі на чале з яго дырэктарам Сяргеем Пасэ. Паўтараю: будучым гісторыкам, будучым аўтарам палітычнай біяграфіі Галадзеда трэба будзе даследаваць кожны пункт абвінавачання, прад'яўленага Галадзеду, адвеяць выдумку ад праўды. Думаю, што перад намі паўстане вобраз дзяржаўнага дзеяча, які дзеля карысці справы мусіў займацца і паднашэннямі кіраўнікам савецкіх і гаспадарчых органаў у Расіі. Калі гэтыя людзі трапілі пад каток тэрору, Даніла Валковіч, удаючы з сябе наіўнага чалавека, з трыбуны з'езда скажа, што яго папярэднік адпраўляў падарункі «целыми вагонами своим единомышленникам». Ды не, у савецкай сістэме ўжо даўно запанаваў прынцып «ты мне — я табе», і той самы Валковіч, калі б ён даўжэй пабыў старшынёю СНК БССР, таксама мусіў бы пасылаць «целыми вагонами» падарункі за метал, за вугаль, за станкі і многае іншае, патрэбнае рэспубліцы.

Або вось наркам Андрэй Турлай наракае: з увагі на бяскорміцу ён прапанаваў Галадзеду скараціць план нарыхтовак у саўгасах, а Галадзед, наадварот, кажа, што план трэба павялічыць. Гэта не Галадзед кажа. Гэта вуснамі Галадзеда гаварылі вышэйшыя за яго інстанцыі, але наступіў зручны момант зваліць віну і за бяскорміцу, і за зрыў вытворчых планаў на Галадзеда. Магілёўскі партыйны сакратар Мацвей Клімчук вінаваціць Галадзеда за тое, што ён сабатаваў рашэнні ЦК. Гэта быў, хутчэй, не сабатаж, а «спусканне на тармазах». А што заставалася рабіць, калі ў партыйных кабінетах нярэдка прымалі рашэнні, якія цяжка або зусім нельга было выканаць?

Калі мы чытаем у стэнаграме, што ўтрыманне дачы Галадзеда каштавала вялікую суму, дык трэба высветліць, дзе тут была ўстаноўленая для наменклатуры норма, ад якой (як і ад гэбісцкага «эскорту») нельга было адмовіцца, а дзе — задавальняўся капрыз старшыні СНК. Так і з выплатамі военачальнікам Беларускай вайсковай акругі: атрымлівалі яны належнае ці неналежнае?

Арыштаваны ў Маскве пасля прыёму ў Сталіна, які не доўжыўся і пяці хвілін, М. Галадзед быў дастаўлены ў Менск. Тут яго чакалі допыты і вочныя стаўкі, а галоўнае — катаванні. Супраць яго ўжо былі выбітыя паказанні. Напрыклад, адным з фігурантаў «справы Тухачэўскага» быў старшыня Цэнтральнага савета Таварыства садзеяння абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву камандзір корпуса Роберт Эйдэман. А ў Беларусі гэтае таварыства пэўны час узначальваў Антон Дубіна. Мог ён стаць удзельнікам змовы? Мог. Таму А. Дубіну арыштавалі. Вядома, што Дубіна быў у добрых стасунках з Галадзедам. Мог узнікнуць трохкутнік Галадзед — Дубіна — Эйдэман? Мог. А вось дэлегат партыйнага з'езда Даніла Сердзіч казаў з трыбуны, што Галадзед і Убарэвіч не паклікалі яго з сабою на Галадзедаву дачу. Але ж да гэтага яны былі ўтрох? Былі. Значыць, маглі пра нешта дамовіцца? Маглі. Таму дэлегат Сердзіч і быў арыштаваны. Цяпер гэбістам належала выбіць прызнанні з самога Галадзеда. Аднак і Галадзед абраў той шлях, па якім пайшлі ўжо Я. Адамовіч, Гамарнік, Чарвякоў…

* * *

Чытаючы стэнаграму XVI з'езда КП(б)Б, думаеш: што змушала людзей збіраць кампрамат на таварышаў па партыі, выступаць з абвінавачаннямі, патрабаваць расправаў? Жаданне зрабіць кар'еру? Сяргей Пасэ, калі абмяркоўвалі яго кандыдатуру ў склад кандыдатаў у члены ЦК, дэманстраваў свае заслугі: «Я сцвярджаю,

што пры маім непасрэдным удзеле былі выяўлены ўсе дакументы, якія датычаць Галадзеда ў мінулым. Я сцвярджаю, што пры маім асабістым удзеле былі выяўлены дакументы, датычныя Чарвякова, што цэлы шэраг дакументаў цяпер быў выяўлены». Можна западозрыць у кар'ерызме і Валковіча. Пэўна, яго вабіла крэсла старшыні СНК. Але ці разумеў ён усю сваю ўразлівасць, слабасць, прыступнасць? Нарадзіўся ж у Заходняй Беларусі, там родзічы, а адзін брат — у ЗША. Ну і што з таго, што амерыканскі брат Валковіча — камуніст? Хіба не можа быць чалавек з партыйным білетам ворагам? Ну што з таго, што ён, Валковіч, не мае кантактаў з заходнебеларускімі родзічамі? Меў жа іх? Меў. Мог быць завербаваны? Мог. А Шаранговіч? Быў у польскім палоне? Быў. Мог быць завербаваны «двуйкай»? Яшчэ як мог! Значыць, і жаданне ўратаваць сабе жыццё таксама змушала капаць яму для іншых. Як таго сына армянскага святара, Авецiса Тавакаляна, які меў да таго ж няшчасце нарадзіцца ў мясцовасці, што трапіла ў склад Турцыі. Ці не спадзяваннем выжыць тлумачыцца і тое, што наркам фінансаў Іван Кудзелька, зямляк «выкрытага ворага народа» Міхася Чарота і брат «выкрытага ворага народа», у сваёй прамове на з'ездзе пачынае тапіць іншых?

Іншы раз уражвае, як людзі стараліся дзеля партыі. Здавалася б, якія адносіны да следства мог мець наркам асветы? А тым часам Аляксандр Варончанка спасылаецца на матэрыялы з кабінетаў НКУС. Ён яшчэ не здагадваецца (ці ўсё ж здагадваецца?), што і на яго пішуць данос. Як мы даведваемся, данос на Варончанку пісаў інструктар ЦК КП(б)Б Гласаў С. М., які ў канцы 1950-х будзе намеснікам міністра сельскай гаспадаркі (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 100. Адз. зах. 26. Арк. 19–20).

У расстрэльныя «сталінскія спісы» трапяць і тыя, каго вінавацілі з трыбуны XVI з'езда, і тыя, хто вінаваціў: Пётр Амбражунас, Мікалай Андрасюк, Мікалай Арабей, Сямён Бабкоў, Антон Баліцкі, Іван Бурдыка, Эдзід Вайнман (у спісе Эдзіт Вайман), Іван Васілевіч, Аляксандр Варончанка, Мікалай Ганчароў, Леў Готфрыд, Антон Дубіна, Анані Дзьякаў, Карнілій Жалудоў, Емяльян Жуковіч, Захар Кавальчук, Саламон Камянштэйн, Мацвей Клімчук, Іван Кудзелька, Якуб Ластоўскі, Навум Літвін, Арцём Любовіч, Аркадзь Ляшчынскі, Андрэй Мелік-Шахназараў, Сяргей Міцькоў, Аляксандр Ной, Павел Паніматка, Сяргей Пасэ, Іван Пятровіч (Янка Нёманскі), Грыгорый Рубінштэйн, Раман Соскін, Якаў Спектар, Іван Сурта, Авеціс Тавакалян, Андрэй Турлай, Яўген Хрыпач, Аляксандр Чарнушэвіч, Васілій Чарнышоў, Сцяпан Шаболтас, Павел Шастакоў, Васіль Шчарбакоў (http://stalin.memo.ru/regions/regi4.htm).

* * *

У кабінетах і лёхах НКУС гэбісты фармуюць аб'яднанае антысавецкае падполле, а ў іншым будынку адно за адным праходзяць пленарныя пасяджэнні ЦК КП(б)Б.

Першае пасяджэнне адбылося 20 чэрвеня 1937 г. Былі выбраныя сакратары і Бюро ЦК. Першым сакратаром партыі ЦК стаў Васіль Шаранговіч, другім сакратаром — Мікалай Дзеніскевіч, сакратаром — Уладзімір Патапейка.

5–7 ліпеня кіраўніцтва бальшавікоў Беларусі абмяркоўвала вынікі пленума ЦК УсеКП(б). Даклад Васіля Шаранговіча і інфармацыя наркама ўнутраных спраў Барыса Бермана не стэнаграфаваліся. Затое ёсць пастанова, у якой чытаем, што ў БССР «выкрыты буйныя контррэвалюцыйныя арганізацыі з правых — трацкістаў, нацыянал-фашыстаў і польскай арганізацыі вайсковай, якія ўзначальваліся агентамі япона-германскага і польскага фашызму — Галадзедам-Чарвяковым-Убарэвічам-Бенекам» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10957. Арк. 130).

29 ліпеня зноў пасяджэнне ЦК. Разглядалася пытанне аб рашэнні ЦК УсеКП(б) ад 29 ліпеня 1937 г. аб кіраўніцтве ЦК КП(б)Б. Такая вось аператыўнасць: 29-га ў Маскве прымаюць пастанову і 29-га яе абмяркоўваюць у Менску. Дзеля гэтага ў сталіцу БССР прыехалі важныя госці — загадчыкі аддзелаў ЦК УсеКП(б) Якаў Якаўлеў і Георгі Малянкоў. У стэнаграме (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10959) не паказана, хто старшынюе, няма даклада Якаўлева, але ёсць рэзалюцыя па яго дакладзе. З запісаў вынікае, што Якаўлеў назваў Шаранговіча (разам з Галадзедам) агентам Польшчы. Ворагам названы другі сакратар ЦК Дзяніскевіч. ЦК КП(б)Б ухваляе пастанову ЦК УсеКП(б) аб зняцці з пасад Шаранговіча, Дзяніскевіча і наркама земляробства Мікалая Нізоўцава.

А хто ж на месца Шаранговіча? Даведнікі і прафесар Эмануіл Іофе паведамляюць: наш зямляк (родам з Горадна) Я. Якаўлеў. Ды вось у адным дакуменце сцвярджаецца, што Кампартыяй Беларусі ў 1937 г. нейкі час адначасна кіравалі загадчык сельгасаддзела ЦК УсеКП(б) Я. Якаўлеў і загадчык аддзела кіруючых партыйных органаў ЦК УсеКП(б) Г. Малянкоў (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 100. Адз. зах. 26. Арк. 3).

Якаўлеў (ці дуумвірат Якаўлеў — Малянкоў?) быў ужо чацвёрты — пасля Гікалы, Валковіча[2] і Шаранговіча — кіраўнік ЦК КП(б)Б у 1937 г.

11 жніўня 1937 г. члены ЦК зноў сабраліся на пленум — каб выбраць першага сакратара. З Масквы прывезлі кандыдата на гэтую пасаду — Аляксея Волкава. З матэрыялаў пленума (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10961) вынікае, што была выбраная падліковая камісія (старшыня Б. Берман) і што быў абвешчаны перапынак для таемнага галасавання. Значыць, Волкава выбралі першым сакратаром ЦК КП(б)Б? Так, сцвярджаецца ў адным дакуменце (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 100. Адз. зах. 26. Арк. 3), на пленуме 11 жніўня 1937 г. першым сакратаром ЦК быў выбраны Аляксей Волкаў, а другім — Аляксей Лявіцкі. Але ў літаратуры Волкава, як і Якаўлева, называюць в. а. першага сакратара. Аказваецца, выбіралі не першага і другога сакратароў, а выканаўцаў іх абавязкаў. Мала таго, Волкаў і Лявіцкі не былі ні членамі ЦК, ні членамі (да 31 студзеня 1938 г.) Бюро ЦК КП(б)Б, але партыяй кіравалі.

На чале КП(б)Б Волкаў прабудзе да 18 чэрвеня 1938 г. На яго і была ўскладзеная задача працягваць тэрор. У дакументах пленума ЦК, які адбыўся 17–19 жніўня 1937 г. (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10963. Арк. 190–191), у спісе яго членаў значацца 37 чалавек з 64, выбраных з'ездам, а ў спісе кандыдатаў у члены ЦК — 14 чалавек з 21 выбранага. Спіс, магчыма, недакладны ў той частцы, што датычыць кандыдатаў у члены ЦК.

25 кастрычніка было скліканае яшчэ адно пленарнае пасяджэнне ЦК КП(б)Б. Удзел ім бралі 24 члены ЦК і 8 кандыдатаў у члены ЦК. Пад канец пленума застаўся 21 член ЦК, бо праз «лазню», якую ім наладзілі, не прайшлі сакратар ЦК Уладзімір Патапейка, наступнік Чарвякова на пасадзе старшыні ЦВК Міхаіл Стакун і навaспечаны намеснік старшыні СНК Іван Жураўлёў. Усіх трох знялі з пасадаў, вывелі са складу ЦК, «а остальное всё — по принадлежности», як сказаў Волкаў. Але перш чым наладзіць судзілішча на гэтымі трыма, сабраныя члены ЦК выключылі з партыі як ворагаў народа і арыштантаў 19 сваіх калегаў, у тым ліку і тых, хто з трыбуны з'езда «выкрываў» Чарвякова і Галадзеда: А. Аўгустайціса, А. Варончанку, Г. Рубінштэйна, Л. Готфрыда, А. Турлая, В. Чарнышова, І. Сурту і наступніка Галадзеда на пасадзе старшыні СНК Д. Валковіча (ён будзе расстраляны 27 лістапада 1937 г.). Як выключаных з КП(б)Б першаснымі партыйнымі арганізацыямі з ЦК вывелі яшчэ чатырох яго членаў, у тым ліку І. Ліхачова. Пытанне аб партыйнасці яшчэ 2 членаў ЦК перадалі на разгляд першаснай

[2] Э. Іофе сцвярджае, што Д. Валковіч кароткі час выконваў абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б пасля ад'езду М. Гікалы.

арганізацыі, а з Цэнтральнага Камітэта іх прадбачліва вывелі. Такім чынам, на адным гэтым пасяджэнні са складу ЦК КП(б)Б было выдалена 28 чалавек. Паўстала пытанне аб кааптацыі ў склад ЦК кандыдатаў у члены Цэнтральнага Камітэта, выбраных XVI з'ездам. У адным дакуменце запісана, што «з 21 кандыдата ў члены ЦК не маглі знайсці ніводнай дастойнай кандыдатуры, бо частка кандыдатаў у члены ЦК ужо была арыштавана, а астатнія абвінавачваліся ў варожай дзейнасці» (НАРБ. Ф. 4п. Воп. 100. Адз. зах. 26. Арк. 4). Гэта не зусім так. «Наскрэблі» 16 кандыдатаў у члены ЦК, але два з іх — вайскоўцы — выехалі за межы БССР, аднаго, П. Чундзерава, тут жа выключылі з кандыдатаў у члены ЦК, а з астатніх 13 давер аказалі толькі двум; да ўсіх іншых, у тым ліку да пісьменніка Міхася Лынькова, меліся пытанні і прэтэнзіі. Пра ўсё гэта можна прачытаць у стэнаграме і пратаколе пасяджэння ЦК КП(б)Б ад 25 кастрычніка 1937 г. (НАРБ. Ф. 4п. Воп 1. Адз. зах. 10969, 10970).

На наступнае пасяджэнне ЦК КП(б)Б, якое адбылося 30–31 студзеня 1938 г., прыехалі 17 яго членаў[3] і 6 кандыдатаў у члены Цэнтральнага Камітэта. Удзельнікі пасяджэння выключылі са складу ЦК трох яго членаў, якія выбылі за межы Беларусі, пазбавалі партыйнага білета і членства ў ЦК 5 «ворагаў народа», выключылі з партыі таксама 5 кандыдатаў у члены ЦК. З 11 членаў Бюро ЦК, выбраных на пленуме 20 чэрвеня 1937 г., 31 студзеня 1938 г. у партыі пакуль што заставаўся адзін Б. Берман. З 7 кандыдатаў у члены Бюро, выбраных 20 чэрвеня, ужо да 25 кастрычніка 1937 г. у партыі не засталося ніводнага.

* * *

Пры падрыхтоўцы гэтай публікацыі выкарыстоўваўся асноўны экзэмпляр стэнаграмы XVI з'езда КП(б)Б. У фондзе 4п (вопіс 1) Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь гэта адзінкі захавання 10917, 10919, 10921, 10923, 10925. Гэты асобнік асноўны таму, што дэлегаты аўтарызавалі свае выступленні шляхам унясення ў іх правак, дапаўненняў, а таксама шляхам скарачэнняў.

Стэнаграму з'езда можна чытаць таксама ў папках 10918, 10920, 10922, 10924 і 10926, аднак яе нельга называць копіяй ці другім экзэмплярам асноўнага асобніка, бо раздрукоўкі адрозніваюцца паміж сабою перш-наперш пагінацыяй.

Маецца таксама папка 10927, у якой захоўваюцца дадатковыя асобнікі справаздачы ЦК КП(б)Б з'езда, з якой выступаў В. Шаранговіч, яго заключнае слова і іншыя дакументы.

З тае прычыны, што справаздача ЦК, з якой выступаў Шаранговіч, яго заключнае слова пасля спрэчак па справаздачы, а таксама прамова на апошнім пасяджэнні з'езда апублікаваныя ў часопісе «Бальшавік Беларусі» (1937. № 6. С. 11–73), я не палічыў патрэбным публікаваць фрагменты гэтых тэкстаў. Часткі тэкстаў, апублікаваных у «Бальшавіку Беларусі», і стэнаграмы з'езда, датычныя А. Чарвякова і М. Галадзеда, не тоесныя, аднак істотных разыходжанняў паміж імі няма. Ведама, даследчык абавязаны цытаваць не «прылізаны» часопісны тэкст, а стэнаграму з усімі яе каструбаватасцямі.

Мушу зрабіць агаворку наконт заключнага слова В. Шаранговіча пасля спрэчак па справаздачы ЦК. Там ёсць словы, якія першы сакратар прамовіў з трыбуны, але потым (магчыма, з этычных меркаванняў) вырашыў выкасаваць са стэнаграмы. Той, хто будзе чытаць тэкст заключанага слова ў «Бальшавіку Беларусі», пасля сказа «Не такі

[3] З выбраных з'ездам прыехалі 15 членаў ЦК, але, як мы памятаем, 25 кастрычніка 1937 г. у склад ЦК былі пераведзены 2 кандыдаты ў члены ЦК.

Чарвякоў быў бедненькі» не знойдзе словы: «Во всяком случае туда ему и дорога, раз он покончил самоубийством. *(Смех, аплодисменты.)*». Гэтыя словы (за выключэннем рэмаркі «Смех, аплодисменты») у асноўным асобніку стэнаграмы з'езда закрэсленыя, але чытаюцца (Адз. зах. 10923. Арк. 77). Не закрэсленыя яны ў іншым экзэмпляры стэнаграмы (Адз. зах. 10924. Арк. 81), а таксама ў асобным машынапісе заключнага слова (Адз. зах. 10927. Арк. 201).

Рыхтуючы фрагменты стэнаграмы XVI з'езда КП(б)Б да публікацыі, мусіш займацца тэксталогіяй. Асабліва гэта датычыць правак, унесеных прамоўцамі ў асноўны тэкст стэнаграмы. Пакуль Галадзед не быў арыштаваны, прамоўцы, якія вінавацілі яго, не адважваліся называць былога старшыню СНК БССР ворагам народа. Пасля таго як Шаранговіч паведаміў аб арышце Галадзеда і сказаў, што «товарищам, выступавшим здесь, придется соответствующим образом исправлять… свои стенограммы», некаторыя кінуліся шчыраваць. Гэта і Андрэй Турлай, і Мацвей Клімчук, і Іван Жураўлёў (гэты не забыў і прагнуцца перад Шаранговічам), і Мікалай Казюк, і Міхаіл Стакун, і Грыгорый Рубінштэйн. Леў Готфрыд правіў тэкст сваёй прамовы і чарнілам, і алоўкам, а старшыня калгаса «Серп і Молат» Гарадоцкага раёна Кузьма Пяткоўскі напісаў антычарвякоўскія інвектывы на асобных лістках паперы, ушытых паміж аркушамі стэнаграмы.

І яшчэ адна заўвага. Стэнаграму з'езда нельга назваць поўнай, бо ў ёй адсутнічае прамова на вячэрнім пасяджэнні 13 чэрвеня наркама ўнутраных спраў БССР Бермана. У адпаведнай папцы змешчана даведка: «Выступление т. Бермана взято т. Долговым. 13/VI.37». І дапісана, што яна знаходзіцца ў асобай папцы, а асобая папка, як тлумачаць архівісты, знаходзіцца ў прэзідэнцкім архіве ў Маскве.

* * *

Пры падрыхтоўцы гэтай публікацыі давялося сутыкнуцца з поўнай або частковай адсутнасцю ў літаратуры біяграфічных звестак як пра тых, хто выступаў на XVI з'ездзе КП(б)Б, так і пра тых, чые прозвішчы называлі прамоўцы. У бальшавіцкай дакументацыі міжваеннага часу ў абсалютнай большасці выпадкаў абыходзіліся без імёнаў і без ініцыялаў дзеячаў, якія прысутнічалі на розных пасяджэннях, якіх прызначалі на пасады і звальнялі з пасад, якіх хвалілі і ганілі. Іншы раз у дакументацыі прозвішчы і імёны скажаліся (напрыклад, Жалудова (Желудова) называлі Жолудзевым, Вайнмана — Вайманам). Гэта ў немалой меры ўскладняла пошук патрэбных звестак. У гэтым пошуку былі выкарыстаныя наступныя крыніцы:

а) сама стэнаграма XVI з'езда КП(б)Б: кандыдаты ў члены ЦК партыі выкладалі — хто коратка, хто больш разгорнута — свае біяграфіі дэлегатам;

б) анкеты дэлегатаў IV–XVI з'ездаў КП(б)Б;

в) анкеты членаў ЦК, ЦРК і ЦКК, выбраных XI–XVI з'ездамі;

г) выпіскі з пратаколаў Бюро і Сакратарыята ЦК КП(б)Б аб перамяшчэнні і прызначэнні работнікаў на адказныя пасады за 1926–1928 гг.;

д) немалая колькасць пратаколаў канферэнцый і пасяджэнняў камітэтаў акруговых і раённых партыйных арганізацый з былога 6-га вопісу фонду 4п (цяпер гэта складовая частка 1-га вопісу).

Была таксама выкарыстана даведачная літаратура, перш за ўсё Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Беларуская энцыклапедыя і Ваенная энцыклапедыя Беларусі.

Былі выкарыстаныя таксама звесткі, якія ўтрымліваюцца на сайце Міжнароднага гісторыка-асветніцкага, праваабарончага і дабрачыннага таварыства «Мемарыял» і ў іншых электронных сродках інфармацыі.

Калі біяграмы дзеячаў маюцца ў Беларускай Энцыклапедыі, Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, Ваеннай энцыклапедыі Беларусі, у зносках называюцца толькі іх імёны і прозвішчы і пасады, якія яны займалі ў час працы з'езда або перад арыштам. Тое ж у большасці выпадкаў тычыцца і асобаў, звесткі пра якіх ёсць у наступных кнігах:

Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: жыццярысы, мартыралогія, успаміны. Мінск — Мюхнен, 1999.

Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: энцыклапедычны даведнік. У 3 т. Т. 1. Абрамовіч — Кушаль. Мінск: Athenaeum, 2004.

Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: энцыклапедычны даведнік. У 3 т. Т. 2. Лавіцкі — Ятаўт. Мінск, 2003.

Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: энцыклапедычны даведнік. У 3 т. Т. 3. Кн. 1. Абакановіч — Кучынская. Мінск, 2004.

Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: энцыклапедычны даведнік. У 3 т. Т. 1. Кн. 2. Лабадаеў — Яцына. Мінск, 2005.

Маракоў Л. У. Ахвяры і карнікі. Мінск, 2007.

На крутым павароце: Ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў 1929–1931 гг.: дакументы, матэрыялы, аналіз / аўт.-склад. Р. П. Платонаў. Мінск: БелНДІДАС, 1999.

Памяць: Гістарычна-дакументальная хроніка Мінска. У 4 кн. Кн. 3-я / укл. В. С. Семенякоў, А. А. Ляўшэвіч; навук. рэд. Г. В. Штыхаў. Мінск: БЕЛТА, 2004.

Пасля крутога павароту: Ідэолага-палітычная барацьба ў Беларусі. 1932–1936 гг.: Дакументы, матэрыялы, аналіз / аўт.-склад. У. І. Адамушка і інш. Мінск: БелНДІДАС, 2008.

Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925–1928): Отражение времени в архивных документах / авторы-составители: Р. П. Платонов и др.; под ред. Р. П. Платонова. Мінск: БелНИИДАД, 2001.

Платонаў Р. Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20–30-х гадоў. Мінск: БелНДІДАС, 1998.

Платонаў Р. П. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30-х гг. Мінск: БелНДІДАС, 1996.

Черушев Н. С., Черушев Ю. Н. Расстрелянная элита РККА (командармы 1-го и 2-го рангов, комкоры, комдивы и им равные): 1937–1941. Биографический словарь. М.: Кучково поле; Мегаполис, 2012.

У гэтай публікацыі падаюцца больш разгорнутыя біяграмы тых дзеячаў, звестак пра якіх няма ў літаратуры і ў электронных сродках інфармацыі.

У некаторых выпадках звесткі, якія ўтрымліваюцца ў літаратуры і ў электронных сродках інфармацыі, я ўдакладняў і папаўняў.

Разумею, што звесткі пра многіх дзеячаў лапідарныя, фрагментарныя і, магчыма, у нечым памылковыя. Спадзяюся, што яны будуць удакладненыя, пашыраныя, упарадкаваныя ў ходзе далейшых пошукаў нашых гісторыкаў.

* * *

Пры падрыхтоўцы гэтай публікацыі была ўжытая агульнапрынятая ў свой час сістэма скаротаў, абрэвіятур, якія ёсць сэнс падаць з увагі на тое, што маладое пакаленне чытачоў і нават даследчыкаў не заўсёды іх ведае.

АВК — акруговы выканаўчы камітэт;

АК — акруговы камітэт;

АКК — акруговая кантрольная камісія;

АКПО — аддзел кіруючых партыйных органаў;

АНА — аддзел народнай адукацыі;

АПА — агітацыйна-прапагандысцкі аддзел;

БАН — Беларуская акадэмія навук (першапачатковая назва Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі);

БВА — Беларуская вайсковая акруга;

БКА — Беларуская камуністычная арганізацыя (існавала ў 1920 г.);

БКО — тое, што БКА;

БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (існавала ў 1918–1924 гг.);

БСГ — Беларуская Сацыялістычная Грамада;

БСРГ — Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада

Бунд — Усеагульны габрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі;

ВРК — вайскова-рэвалюцыйны камітэт;

ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі;

выканкам — выканаўчы камітэт;

ГВК — гарадскі выканаўчы камітэт;

ГК — гарадскі камітэт;

ГПУ — Государственное политическое управление (назва бальшавіцкай палітычнай спецслужбы ў савецкіх рэспубліках у 1922–1934 гг.; пасля ўтварэння Савецкага Саюза з 1923 г. дзейнічала Аб’яднанае галоўнае палітычнае ўпраўленне пры СНК СССР);

ДПУ — тое, што ГПУ;

губ. — губерня;

Дзяржплан — дзяржаўная планавая камісія;

КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя Літвы і Беларусі (існавала ў 1919–1920 гг.)

КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі;

ЛКСМБ — Ленінскі камуністычны саюз моладзі Беларусі;

МТС — машынна-трактарная станцыя;

наркомат — народный комиссариат;

наркомпрос — народный комиссариат (комиссар) просвещения;

НК — народны камісарыят, наркамат;

НКА — народны камісарыят (наркамат) асветы;

НКЗ — народны камісарыят (наркамат) земляробства;

ПСР — Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (расійская);
РВК — раённы выканаўчы камітэт;
РК — раённы камітэт;
РКК — раённая кантрольная камісія;
РСІ — рабоча-сялянская інспекцыя;
РСЧА — Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія;
ЦКК — Цэнтральная кантрольная камісія;
ЦСПСБ — Цэнтральны савет прафесійных саюзаў Беларусі (БССР).

*Анатоль СІДАРЭВІЧ*

# ФРАГМЕНТЫ СТЭНАГРАМЫ XVI З'ЕЗДА КП(Б)Б

*1-е пасяджэнне. 11 чэрвеня. Раніца*

**З уступнага слова В. ШАРАНГОВІЧА**

Товарищи, мы должны помнить и ни на минуту не забывать предупреждение тов. Сталина о том, что мы находимся и работаем в капиталистическом окружении, помнить о подрывной работе троцкистов, правых, националистов, японо-немецких и польских агентов, диверсантов, шпионов и вредителей, этой фашистской нечисти. Мы должны помнить, что фашизм готовит усиленными темпами войну против нас, и это особенно надо помнить нам, большевикам и всему белорусскому народу, работающим на границе с фашистской Польшей. <…>

Товарищи, мы должны поднять нашу большевистскую бдительность. Все факты показывают, что она в КП(б)Б не была на должной высоте, иначе ничем нельзя объяснить таких фактов[4], когда, несмотря на все сигналы, оставались не разоблаченными такие матерые враги народа, как Бенек[5], Дьяков[6], Уборевич[7] и целый ряд других презренных предателей нашей родины[8].

*4-е пасяджэнне. 12 чэрвеня. Раніца*

**З прамовы Э. ВАЙНМАНА[9]**

Голодед считал себя признанным «вождем» белорусского народа, иначе он и не мыслил, иногда, правда, не всегда, он получал отпор и со стороны членов ЦК, хотя отпор был либеральный. Вместо большевистской принципиальной борьбы возились с этим зазнавшимся двурушником, который все время обманывал нашу партию, будучи в прошлом эсером, являлся в 1923 г. троцкистом, потом путался с националистами-фашистами. <…>

Я хочу не быть голословным и привести несколько фактов. Что значит работа Голодеда в отношении групповщины? Людей недовольных, «обиженных» он группировал вокруг себя. Возьмем Чернушевича[10], который был членом Бюро ЦК. Кто взял его под защиту, как не Голодед? <…>

---

[4] Так у стэнаграме.

[5] Бенек Казімір (1895–1938), у 1923–1924 гг. сакратар Барысаўскага павятовага камітэта КП(б)Б, у 1927–1937 гг. пачаргова наркам працы, наркам гандлю, наркам земляробства БССР, у 1930–1934 гг. намеснік старшыні СНК БССР, у студзені 1930 — маі 1937 г. член Бюро ЦК КП(б)Б.

[6] Дзьякаў (Дзякаў) Анані (1896–1937), у красавіку 1936 — маі 1937 г. наркам асветы БССР.

[7] Убарэвіч Геранім (Іеранім; 1896–1937), камандарм 1 рангу (1935), у 1931–1937 камандуючы войскамі БВА.

[8] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 1–3.

[9] Вайнман (Вайман) Эдзід (1895, м. Шацк Ігуменскага пав. — ?), сын каваля, каваль, член УсеКП(б) са жніўня 1917 г. З 1915 г. служыў у царскай арміі. Удзельнік Вялікай рэвалюцыі і Кастрычніцкага перавароту 1917 г. Служыў у РСЧА. З 1921 г. у Ігуменскім павятовым рэвалюцыйным трыбунале, пазней на партыйнай працы: з 1924 г. функцыянер спажывецкай кааперацыі і член партыйнай тройкі ў Барысаўскім павеце (потым акрузе), у 1926–1927 гг. член сакратарыята і загадчык арганізацыйнага аддзела ў Барысаўскім АК КП(б)Б, у 1927 г. — інструктар, загадчык арганізацыйнага аддзела ў Магілёўскім АК КП(б)Б; у 1933–1934 гг. начальнік палітаддзела Рагачоўскай МТС, у 1937 г. сакратар Бабруйскага раённага камітэта КП(б)Б.

[10] Чарнушэвіч (Чарнышэвіч у анкеце дэлегата XI з'езда КП(б)Б) Аляксандр (Алесь; 1899–1937), член УсеКП(б) з 1920 г., у 1924 г. сакратар Грэскага РК, у 1926–1927 гг. у Мазырскай акрузе, у 1927 г. загадчык арганізацыйнага аддзела Бабруйскага АК КП(б)Б, у сакавіку 1933 — лютым 1936 г. наркам асветы БССР, потым загадчык аддзела забеспячэння Беларускай геалагічнай разведкі, у студзені 1931 — сакавіку 1934 г. член Бюро, у красавіку 1935 — студзені 1936 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б.

Или же дело Митькова[11] — этого агента фашизма. Кто его взял под защиту? <…>

Голодед — ведь он втянул Дубину[12] и Свиридова[13] в групповщину. Наконец, он же пригласил контрреволюционного троцкиста Голендо[14] в Госплан. Ведь он взял на работу контрреволюционного троцкиста, не помню его фамилии, который наркомвнешторг в БССР.

(ГОЛОСА. Фдиора[15].)

Ведь он взял Эгле[16], который имеет ряд троцкистских дел, и т. д. <…>

Возьмите… человека, который здесь сидит, много раз на пленумах бывает, Ластовского[17], постпред в Москве. Товарищи, он является членом ЦК, но я лично должен вам сказать, что я как член ЦК никогда не слыхал его на пленуме ЦК или где-либо и не знаю, кто-либо из других членов ЦК слыхал ли его как члена ЦК. Вы думаете, он пассивный человек? Нет, где нужно, он активный, факт. В Москве существовал так называемый белорусский клуб, который объединял разное нацдемовское охвостье. В 1936 г. Бюро обсуждало вопрос этот, и было предложено дать взыскание Ластовскому, который вместе с Голодедом поддерживал этот клуб. Тов. Голодед, конечно, защищал Ластовского на Бюро, Дьяков выступал в другой роли — наступал на Ластовского. Мы тут видим маневр этих лиц, Голодеда и Дьяков[а], их интересы сошлись. Но где же ЦК? Почему не было вынесено решение такое, какое нужно было, почему не наказали за это дело человека и он является человеком, который носит звание члена ЦК? Я считаю, что он не только не достоин звания члена ЦК, но он подхалим, он только чемоданы в состоянии носить Голодеду и больше ничего.

(ГОЛОСА. Правильно.)

---

[11] Міцькоў Сяргей (1896–1937), член УсеКП(б) з 1923 г., у 1924 г. загадчык арганізацыйнага аддзела ў Полацкім павятовым камітэце партыі, у 1925 г. сакратар Мсціслаўскага РК КП(б)Б, у 1926–1927 гг. загадчык арганізацыйнага аддзела ў Калінінскім АК КП(б)Б, у ліпені 1927 г. сакратарыятам ЦК КП(б)Б рэкамендаваны на пасаду загадчыка арганізацыйнага аддзела ў Магілёўскім АК КП(б) Б, затым працаваў у Гомельскім АК КП(б)Б, з сакавіка 1929 г. загадчык аддзела па рабоце ў вёсцы ЦК КП(б)Б, у 1932 г. старшыня Белкагасцэнтра, у 1933 г. старшыня Аршанскага РВК, у 1937 г. дырэктар гідролізнага доследнага завода НК мясцовай прамысловасці БССР, у чэрвені 1930 — снежні 1932 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б.

[12] Дубіна Антон (1885–1937), сябар УсеКП(б) з 1918 г., у 1925–1927 гг. старшыня Магілёўскага АВК, з 1925 г. старшыня Мазырскага АВК, у 1927 г. старшыня Белсельбанка, у 1932–1937 гг. упаўнаважаны НК пошты і тэлеграфа (НК сувязі) СССР у БССР, у 1933–1934 гг. старшыня Цэнтральнага савета Асавіяхіма БССР, у 1937 г. старшыня Мазырскага АВК.

[13] Цяжка высветліць, які Свірыдаў меўся на ўвазе. Вядомыя Свірыдаў Андрэй (1891—?), член УсеКП(б) з 1918 г.; Свірыдаў Іван (1886—?); Свірыдаў Павел (1889?—?), сябар УсеКП(б) з 1919 г., у 1929 г. сакратар Церахоўскага РК КП(Б)Б.

[14] Галенда Мацвей (1894–1936), член УсеКП(б) з 1916 г., у 1924–1929 гг. на адказнай пасадзе ў Дзяржплане СССР, у 1930–1933 гг. член калегіі і намеснік наркама земляробства СССР, са жніўня 1933 да студзеня 1935 г. намеснік старшыні СНК — старшыня Дзяржплана БССР; выключаны з партыі 13 студзеня 1935 г, арыштаваны 15 ліпеня 1936 г.

[15] Так у стэнаграме. На ўвазе меўся Фліёр І. (1892—?), член УсеКП(б) з 1918 г., у кастрычніку 1932 — студзені 1935 г. упаўнаважаны НК знешняга гандлю СССР у БССР. Выключаны з партыі ў студзені 1935 г.

[16] Эгле Рэйнгольд (1896—?), сябар УсеКП(б) з 1912 г., у 1925–1926 гг. сакратар Магілёўскага гаррайкама КП(б)Б, у 1926–1927 гг. загадчык арганізацыйнага аддзела Полацкага АК КП(Б)Б, у 1932 г. намеснік упаўнаважанага НК шляхоў зносін СССР у БССР, у 1933–1934 гг. старшыня Паліўнага камітэта.

[17] Ластоўскі Якуб (Якаў; 1892?—?), член УсеКП(б) з 1918 г., у 1924–1926 гг. намеснік старшыні Мазырскага АВК, 6 красавіка 1926 г. вылучаны па пасаду старшыні АВК, у лістападзе 1926 — маі 1927 г. намеснік старшыні Калінінскага АВК, старшыня кантрольнага савета акруговага сельбанка, 8 чэрвеня 1927 г. у сувязі з ліквідацыяй акругі накіраваны пад загад Гомельскага АК КП(б)Б, потым прызначаны старшынёю Рабочага банка ў Гомелі, у 1928 г. стаў старшынёю Мазырскага АВК, у 1930 г. кіраўнік Саюзкалгасбанка, у 1931–1937 гг. пастаянны прадстаўнік СНК БССР пры СНК СССР.

…позволительно спросить у политработников, в частности у тт. Юнга[18] и Сердича[19] — работников этого корпуса, которых мы здесь часто видим на съездах, [в] президиумах и т. д., что они сделали для того, чтобы бороться с Уборевичем, который хотел оторвать армию от партийных организаций. Ведь мы знаем, что Юнг умеет выступать, и иногда с апломбом, не раз бывал на банкетах с Уборевичем, которые устраивал Голодед за счет государства (Голодед любил устраивать банкеты), а это была прямая обязанность политработников армии, особенно Юнга, — поставить вопрос перед соответствующими парторганизациями[20].

### З прамовы М. ГОФМАНА[21]

Вот этот Уборевич. Я задаю вопрос тов. Червякову, я на съезде Советов преподнес съезду работу оборонного значения, вручил тов. Червякову, тов. Червяков, понаслышке, передал их Уборевичу, и до сегодня об этой работе ни слуху, ни духу. Я ничего не знаю об этой работе, над которой я работал целый год.

Почему тов. Червяков не мог, как и в ЦК партии, как тов. Шарангович, заинтересоваться моей работой, а то по-канцелярски отдали, и больше ни слуху, ни духу[22].

### З прамовы І. СЕЛІВАНАВА[23]

Сейчас мы только начинаем говорить в Голодеде. Надо сказать, что наша Витебская партийная организация и Минская партийная организация до этого момента критиковали Голодеда сквозь зубы, считаясь с тем, что это председатель Совнаркома. Враг, между прочим, использывает это в свою пользу[24].

### З прамовы А. КАВАЛЁВА[25]

С Бенеком вместе работал тов. Червяков — член Бюро ЦК, тов. Волкович. Мне кажется, что т. Шарангович тоже работал с этим врагом Бенеком. Мало того, ведь были сигналы со стороны низовых партийных организаций и отдельных рядовых членов партии о том, что Бенек в свое время защищал платформу махрового врага Троцкого.

Петрович[26] был исключен из партии первичной партийной организацией. Бюро ЦК занималось этим вопросом, но Бюро поверило на «честное» слово Голодеда, что Петрович человек политически проверенный. Тем самым Голодед старался защищить этого врага-фашиста.

Бюро ЦК и члены Бюро ЦК не учли сигналов первичных партийных организаций. Почему, товарищи, так легко отделался за это дело Голодед — я пока не знаю, какие меры приняты к нему за это дело[27].

---

18 Юнг Мікалай (1898–1938), з мая 1933 г. памочнік камандзіра 3-га кавалерыйскага корпуса па палітычнай частцы.

19 Сердзіч Даніла (1896–1938), з чэрвеня 1935 г. камандзір і вайсковы камісар 3-га кавалерыйскага корпуса.

20 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 161, 162, 164, 166.

21 Гофман Мордух (1900?—?), член УсеКП(б) з 1932 г., у 1937 г. галоўны механік Віцебскага шчаціннага завода.

22 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 177–178.

23 Селіванаў Ісідар (1890?—?), член Усе КП(б) з 1917 г., у 1937 г. дырэктар Віцебскай ватнай фабрыкі.

24 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 187.

25 Кавалёў Апанас (1903–1993), сябар УсеКП(б) з 1926 г., у 1934–1937 гг. сакратар парткама швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (Віцебск), у 1937–1938 гг. старшыня СНК БССР; пакінуў успаміны.

26 Пятровіч Іван (Янка Нёманскі; 1890–1937), акадэмік, эканаміст, пісьменнік, грамадскі дзеяч.

27 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 200–201.

### З прамовы І. МІРУЦА[28]

Когда приезжал тов. Червяков в Ветринский район? Я лично просил его: приезжайте, тов. Червяков, вы же председатель ЦИК, член Бюро ЦК, посмотрите, как живут пограничные колхозы, в чем они нуждаются. Не знаю, мог он или не мог приехать, но тов. Червяков не приехал и не посмотрел, что у нас делается, а положение исключительно тяжелое, и в этом году нам нужна большая помощь колхозам. В колхозах на самой границе пораскрывали крыши, чтобы кормить скот. Надо их понакрывать, необходимы значительные средства…[29].

### З прамовы А. ТУРЛАЯ[30]

Хочу остановиться на вопросе о Голодеде[31], этом враге народа. Бюро Центрального комитета и секретарям ЦК тт. Волковичу[32] и Гикало[33] безусловно были известны настроения партийных работников и в первую очередь секретарей райкомов партии, партийного актива в отношении Голодеда, и вместо развернутой большевистской самокритики[34] безобразной работы Совнаркома со стороны секретарей ЦК и членов Бюро ЦК были торможения критики. Даже если вспомнить последний, мартовский, пленум ЦК [КП(б)Б], который проходил после февральского пленума ЦК ВКП(б), то как он проходил? Когда целый ряд товарищей выступали с резкой критикой, то Голодед форменным образом зажимал критику. Он не давал говорить, а был почему-то такой порядок, что Голодед всегда председательствовал, и я с уверенностью могу сказать, что Голодед регулировал выступления отдельных членов ЦК партии на пленуме. И все же, несмотря на такое поведение Голодеда на пленуме, несмотря на зажим самокритики с его стороны, к этому вопросу отнеслись либерально. Мной был поднят вопрос о том, что нельзя терпеть такого положения, но все же Голодеду это прошло, ему не дали настоящего отпора, не взяли его под острую настоящую большевистскую критику[35] и не разоблачили его. <…>

Я приведу несколько характерных фактов. Тут дело не только в проведении Голодедом правооппортунистической линии. Когда я пришел в наркомат совхозов, то у меня никто не спросил, как организовывается новый наркомат, каково положение в наркомате, а ведь положение в совхозах было такое, что поголовье не было чем кормить, а у нас поголовье более 100 000. Ведь совхозы имеют за прошлый год громаднейшие убытки. У нас поголовье дохнет десятками и сотнями ежедневно. Требовалось разрешить во-

---

[28] Міруц Іван (1900—?), член УсеКП(б) з 1920 г., у 1924 г. кіраўнік 4-га скурзавода ў г. Менску, вылучаны на пасаду загадчыка Ляхаўскага раённага народнага дома, у лютым 1925 г. вылучаны на пасаду старшыні страхавой касы ЦСПСБ, з 1930 г. функцыянер прафсаюза дрэваапрацоўшчыкаў, у 1933–1934 гг. начальнік палітаддзела саўгаса «Нача-Шпакоўшчына» Полацкага раёна, у 1937 г. першы сакратар Ветрынскага РК КП(б)Б.

[29] Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10919. Арк. 208.

[30] Турлай Андрэй (1894–1937), член УсеКП(б) з 1918 г., у 1924 г. старшыня Барысаўскага акруговага прафсаюзнага бюро, у 1925 г. загадчык аддзела ў ЦСПСБ, у лютым 1926 г. уведзены ў склад бюро Менскага АК КП(б)Б, у ліпені 1926 г. рашэннем Бюро ЦК КП(б)Б вылучаны на пасаду першага намесніка старшыні ЦСПСБ, у 1932 г. намеснік старшыні ЦКК і наркама РСІ БССР, у 1933–1937 гг. сакратар, першы сакратар Полацкага РК КП(б)Б, са студзеня 1937 г. наркам саўгасаў БССР.

[31] Наступныя тры словы ўпісаныя ад рукі.

[32] Валковіч (Ваўковіч) Даніла (1900–1937), у лютым — жніўні 1934 г. намеснік наркама земляробства БССР, у жніўні 1934 — маі 1937 г. другі сакратар ЦК КП(б)Б, у маі — верасні 1937 г. старшыня СНК БССР.

[33] Гікала Мікалай (1897–1938), у студзені 1932 — сакавіку 1937 г. (са студзеня намінальна) першы сакратар ЦК КП(б)Б.

[34] Так у стэнаграме. Тут і далей словам «самакрытыка» ў бальшавіцкім партыйным жаргоне заменена слова «крытыка».

[35] Наступныя чатыры словы ўпісаныя ад рукі.

прос о финансовой помощи совхозам. Я добился в Москве через голову вредителя Калмановича[36] и через голову Голодеда разрешения вопроса хотя [бы] об отсрочке 7,5 млн руб.[37]. Во время пленума ЦК ВКП(б) (т. Волкович об этом знает) я просил, чтобы мне помогли разрешить финансовый вопрос в Москве. Тов. Волкович направил меня к Голодеду. Я Голодеда два раза поймал и умолял разрешить этот вопрос, однако он отказался этот вопрос разрешать, и только через месяц, когда я его припер, нам удалось его разрешить. А сколько за этот месяц погибло поголовья скота?

Еще один вопрос — это вопрос о животноводстве.

У нас сейчас в отношении животноводства исключительно тяжелое положение в связи с тем, что мы ликвидировали большую группу совхозов, и 55 совхозов затронуто довольно крупными обрезками[38]. Поэтому мы не в состоянии сейчас удержать то поголовье, которое у нас было в прошлом году, ибо мы не можем его обеспечить ни производственными постройками, ни кормами. И когда я пришел к Голодеду с цифрами о плане развития животноводства на 1937 г., учитывая это положение совхозов, то Голодед мне прямо заявил, что он с моими цифрами не согласен и что план надо будет увеличить. Но что значит увеличить, когда нет кормовой базы? Голодед на это отвечает так: на Мозырщине есть сено, надо оттуда это сено возить на север, и тогда будет решен вопрос о кормовой базе. Но для каждого ясно, что значит возить сено из Мозырщины на север, в какую цену обойдется и само сено, молоко, масло и мясо.

Таким образом, я считаю, что Голодед проводит линию вредительства в сельском хозяйстве[39].

Еще несколько слов о Госплане и работе т. Любовича[40]. <…> Разве Госплан в данном случае не проводит ту же линию, которую проводил Голодед?[41].

### З прамовы С. КАМЯНШТЭЙНА[42]

Следующий вопрос, тут все говорили о Голодеде. Я хочу также сделать несколько замечаний по поводу Голодеда и его действа[43].

Надо прямо сказать, что в делах Голодеда весьма виновато Бюро ЦК КП(б)Б, виноваты, при всем нашем уважении, тт. Гикало и Волкович[44], виноват т. Гикало. Он много говорил о вредности местного вождизма, но решительных, настоящих мер не было

---

[36] Калмановіч (Кальмановіч) Майсей (1888–1937), у студзені — лютым 1919 г. член Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі; з 1934 г. наркам збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў СССР.

[37] Першапачатковая рэдакцыя сказа: *И было такое положение, что я добился в Москве у такого же вредителя, а может быть и большего, — Калмановича разрешения финансового вопроса, хотя [бы] об отсрочке 7,5 млн руб.* Пэўна, гаворка была пра адтэрміноўку пагашэння крэдыту.

[38] На ўвазе мелася скарачэнне плошчаў угоддзяў, якімі распараджаліся саўгасы.

[39] Першапачатковая рэдакцыя сказа: *Таким образом, я считаю, что Голодед в данном случае проводит линию, совершенно противоположную той, которую нужно было бы проводить в сельском хозяйстве.*

[40] Любовіч Арцём (1880–1938), член УсеКП(б) з 1917 г., у 1935–1937 гг. намеснік старшыні СНК — старшыня Дзяржплана БССР, у 1937 г. намеснік наркама сувязі СССР (http://lists. memo. ru/index12. htm).

[41] НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 213–216.

[42] Камянштэйн Саламон (1895–1937), член Бунда ў 1916–1917 гг., член УсеКП(б) з 1918 г., у 1921–1922 гг. адказны сакратар Барысаўскага павятовага камітэта КП(б)Б, у 1923 г. сакратар Бабруйскага павятовага камітэта, у 1925 г. сакратар Капыльскага РК КП(б)Б, потым загадчык арганізацыйнага аддзела Слуцкага АК, у 1927 г. інструктар ЦК КП(б)Б, у 1931–1932 загадчык сектара ў ЦСПСБ, у 1937 г. першы сакратар Слуцкага АК КП(б)Б.

[43] Першапачатковая рэдакцыя сказа: *Я хочу также свести к этому микробу, к тому червоточению, которое очернило КП(б)Б.*

[44] Далей выкасаваны словы: *этим честным солдатам революции*.

принято[45]. А Голодед, зазнавшись, все время вел скрытую борьбу против ЦК, группируя вокруг себя как…

Тут говорили о правом оппортунизме. Вот покажу наглядный факт, на мой взгляд, подтверждающий правизм Голодеда.

В 1934 г. созывается пленум ЦК Коммунистической партии Белоруссии. На пленуме стоит отчет Голодеда о Пленуме ЦК ВКП(б).

Как вы помните, товарищи, в 1934 [г.] все мы под руководством нашей партии положили немало сил в деле массового перехода середняков в колхоз[ы].

Как выглядело у Голодеда то место в его выступлении, когда он коснулся коллективизации?

Многие из вас, присутствовавших на пленуме, помнят, как ухнул пленум, когда Голодед, говоря о коллективизации, недвусмысленно выразился, что середняка мы, мол, загнали в колхоз на основе перегибов, переборов, на основе налогов. Я помню, как все ахнули, но никто по-настоящему не ухнул Голодеду по уху. Что это означает? Это, видать, означает его неверие в дело коллективизации, клевета, непонимание, что индустриализация, строительство социализма[46] окончательно убедило нашего середняка в преимуществе колхозного строя. Тогда многие полагали, что это как будто оговорка.

Как Голодед построил свое заключительное слово.

Голодед имел «дурную» привычку обижаться на самокритику[47], обижаться на партию. Он недаром теперь пишет протесты по поводу Минской партийной конференции, мол, меня незаслуженно прорабатывают.

Чем он закончил. Он дал официальную справку, это можно найти в стенограмме, хотя возможно, что мы не найдем. Кто знает Голодеда, знает, что он никогда в жизни не оставлял стенограмм, а забирал все три экземпляра в карман с тем, чтобы его первоначальный уст [нечытэльна] текст когда-нибудь не пошел ему во вред.

Как он оправдывался. Я буквально помню, он сказал следующее: я был на пленуме ЦК ВКП(б), и позвольте мне мой доклад построить так, как я считаю нужным[48].

Тов. Шарангович в своем докладе сделал с этой трибуны заявление, что в БССР мы имеем 100 тыс. единоличников. Где же мы имеем этих 100 тыс. единоличников? Мы их имеем в пограничной республике. Мы их имеем на границе. <…>

Я спрашиваю конкретно: в чем была проявлена деятельность Голодеда в отношении этой социальной группы? Не вижу. Решительно ничем, ни в чем. Я спрашиваю дальше. Я понимаю положение Николая Федоровича [Гикало], когда ЦК ВКП(б)Б записал: «работать в одной упряжке». Это все правильно. Но где была принципиальная серьезная линия ЦК [КП(б)Б] после того, как эта упряжка Голодедом ежедневно рвалась, ибо не может работать честный солдат с человеком, который вошел в нашу партию[49], пряча от нас СР прошлое.

---

[45] Наступны сказ упісаны ад рукі. З прычыны таго, што другая частка сказа напісана на левым полі аркуша, прачытаць яе не ўдалося.

[46] У канцоўцы гэтага сказа ў першапачатковай рэдакцыі (*заставили нашего середняка идти прочно в колхоз)* Камянштэйн прагаварыўся, бо ён — як удзельнік калектывізацыі — ведаў, што ў 1930–1933 гг. сераднякі то ўступалі ў калгасы, то выходзілі з іх, і ведаў таксама, з якіх прычын асноўная маса серадНякоў, уступіўшы ў 1934 г. у калгасы, ужо не выходзіла з іх.

[47] Слова ўпісанае замест выкасаванага *инакомыслящих*.

[48] Першапачатковая рэдакцыя сказа: *Я буквально помню, он сказал следующее: я являюсь членом [потым упісана і выкасавана: кандидатом в члены] ЦК ВКП(б), и позвольте мне мой доклад построить так, как я считаю нужным*. За гэтым сказам выкасаваны наступны: *А он заявил, что коллективизация идет за счет перегибов, за счет налогов, за счет переборов*.

[49] Наступныя словы ў гэтым сказе ўпісаныя замест выкасаваных: *у которого остались все эсеровские отрыжки*.

Я считаю, что утаивание этого обстоятельства от ЦК ВКП(б), т. Сталина — серьезнейшая ошибка ЦК. Я понимаю, что мы также несем полную ответственность за те безобразия, которые имели место. Но нас не часто баловали информацией о настоящем положении дел в Бюро ЦК. Было бы лучше, если бы на пленумах ЦК члены ЦК знали знали о[бо] всем. На отдельных заседаниях Бюро ЦК кто не замечал, что у т. Гикало часто ворочит[50] и всякое терпение иссякает.

Возьмем вопрос о перегибах.

Я вполне согласен с тем, что окружные комитеты здорово проглядели, плохо смотрели, плохо работали. Мы на сегодняшний день исправили нарушения по 1200 хоз[яйствам], осталось еще 43. Но я спрашиваю. В республике происходит такой процесс грубого нарушения револ[юционной] законности. Где же был СНК, где народные комиссары, т. Куделько[51], где руководство СНК, где руководство Голодеда? Я убежден, что дальнейшее многое объяснит и в этом вопросе…

Я с болью коммуниста выслушал и вынужден согласиться с мнением т. Шаранговича, что пограничные округа не стали еще подлинным центром политической и хозяйственной жизни. Товарищи, это верно. Но я спрашиваю — по линии советской, что Голодед как председатель Совета Народных Комиссаров конкретно сделал для упрочения советской власти на границе? Он приехал. Чем был связан его приезд? Он побывал в ряде колхозов, в один колхоз распустил куриную ферму и получил кличку благодетеля[52].

Он приехал в другой колхоз и выдвинул два лозунга о единоличнике, что единоличник, который не идет в колхоз, — враг народа. Это было в Старобинском районе в колхозе «Прамень Камуны», в «Большевике».

Что он сделал? Проехался на гусеничном тракторе, одел комбинезон (мы горели со стыда) и пошел в комбинезоне в население[53].

Не зашел в окрисполком, не созвал заведующих отделами. Распустил только куриную ферму и говорит мне перед отъездом: «Вот как надо работать, надо оставить в каждом колхозе след». Я и говорю ему: «Позвольте, если это так (Жолудев[54] тогда присутствовал), разрешите мне распустить некоторые фермы, и тогда слух о[55] моей благодетельности будет слышен во всем округе».

Смотрите, у нас теперь по совету тов. Шаранговича поставлен вопрос о фермах. Но в какой плоскости? С точки зрения государственного просмотра рационального размещения и планирования скота. Это очень важный серьезный государственный вопрос. А разве государственные вопросы разрешают только тем, что приехал

---

50 Так у стэнаграме.

51 Кудзелька Іван (1891–1938), у 1924–1925 гг. сакратар партыйнай ячэйкі дэпо станцыі Жлобін, член Жлобінскага РК КП(б)Б, у сакавіку 1925 г. меркавалася перавесці на пасаду сакратара Клічаўскага РК, у 1925 г. сакратар Гарадзецкага РК КП(б)Б Бабруйскай акругі, да кастрычніка 1927 г. старшыня Глускага РВК, з кастрычніка 1927 г. намеснік старшыні Бабруйскага АВК — старшыня акруговай планавай камісіі, у 1935–1937 гг. наркам фінансаў БССР, у красавіку 1935 — чэрвені 1937 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б.

52 Першапачатковая рэдакцыя: *Он приехал в один колхоз и распустил куриную ферму. Он получил кличку благодетеля.*

53 Далей выкасаваны сказ: *А тут вы знаете мое положение — он в комбинезоне, а я без комбинезона, а так как мы были оторваны от масс, то каждый подходит ко мне и говорит: «Здравствуйте, товарищ председатель Совнаркома».* (Смех.)

54 Жалудоў (Желудов) Карнілій (1892–1938), член УсеКП(б) з 1917 г., у 1924–1925 гг. упаўнаважаны ЦКК КП(б)Б і РСІ БССР у Аршанскай акрузе (старшыня партыйнай тройкі; потым старшыня АКК), намеснік старшыні АВК, у 1926–1927 гг. старшыня Магілёўскай АКК КП(б)Б, у 1932 г. намеснік наркама РСІ, у 1937 г. старшыня Слуцкага АВК. (Асабовая справа: НАРБ. Ф. 4п. Воп. 2. Адз. зах. 1843.)

55 Наступныя два словы ўпісаныя замест выкасаваных *обо мне*.

председатель Совнаркома, что в порядке филантропии распустил куриную ферму и попал на киносъемку?[56].

*5-е пасяджэнне. 12 чэрвеня. Вечар.*

**З прамовы У. ВАЛАБУЕВА**[57]

Я не буду говорит о выступлениях Голодеда. Мне кажется, что Витебская партийная конференция очень хорошо записала. Голодед просто с апелляцией обратился к Витебской партийной конференции: товарищи, пощадите, меня со всех сторон жмут. Это ему не удалось, наоборот, после[58] в заключительном слове секретаря горкома т. Журавлева, который дал ему надлежащий отпор, что конференция и записала ему в своей резолюции[59].

**З прамовы М. КЛІМЧУКА**[60]

Хотя времени у меня мало, но остановлюсь на том, как работал Голодед.

Голодед на протяжении всей своей работы в Совнаркоме вел антипартийную линию, противопоставляя себя Центральному Комитету партии; решения Центрального Комитета, решения Бюро он сознательно игнорировал и не выполнял. Мне известны факты, которые показывают, что еще в 1934 г. Голодед вел линию саботажа решений ЦК. Хотя т. Гикало как секретарь Центрального Комитета целый ряд вопросов ставил жестко, но по отношению к Голодеду, Дьякову, Арабею[61] он проявил либеральное отношение. <…>

Я помню, как Голодед высказывал сожаление о том, что мы из нашей КП(б)Б исключили солидную группу чуждых, разложившихся людей, врагов, шпионов, жуликов. Он сожалел о том, что мы много таких исключили из партии. Как ставил Голодед вопрос на пленуме ЦК? Он говорил, что мы очень хороших людей поисключали из партии. Мне стало ясно, что Голодед не хочет работать с действительными большевиками, которые дерутся за линию партии, что он жалеет исключенных людей, смыкается со всей этой публикой. Тов. Шарангович правильно подметил, что Голодед внешне как будто бы был против Бенека, Дьякова и других, а на самом деле вместе с ними проводил контрреволюционную работу.

Теперь, товарищи, Центральный Комитет партии при помощи органов НКВД и ЦК ВКП(б) раскрыл глаза нашей партийной организации. Теперь мы видим, что тут сидел враг и работы не было. Имея такую солидную группу в Центральном Комитете, Голодед смело проваливал работу в Совнаркоме, занимался политиканством, подбором своих людей. Если ему предлагали поездку, он готов был ехать в Мозырь, в Полоцк — туда, где его встретят с хлебом-солью. Он не ехал в районы, где нужна была помощь. Во многие рай-

---

56 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 226–229.

57 Валабуеў Уладзімір (1896–1937), член УсеКП(б) з 1919 г., у 1937 г. камандзір 80-га стралковага палка ў складзе 27-й стралковай дывізіі (http://lists.memo.ru/index3.htm).

58 Наступныя словы ўпісаныя замест выкасаваных: *выступления секретаря райкома вместо помощи его хорошенько ошарашили за эту петицию*.

59 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 248.

60 Клімчук Мацвей (1894–1937), член Амерыканскай сацыялістычнай партыі ў 1918–1919 гг., член УсеКП(б) з 1920 г., у 1924–1927 гг. у Барысаўскай акруговай арганізацыі КП(б)Б (сакратар Зембінскага і Лепельскага райкамаў, потым загадчык арганізацыйнага аддзела ў АК), у 1929 г. сакратар Фрунзенскага РК КП(б)Б у Менску, у 1933–1934 гг. сакратар Мазырскага РК КП(б)Б, у 1937 г. першы сакратар Магілёўскага ГК КП(б)Б (http://lists.memo.ru/index11.htm).

61 Арабей Мікалай (1899–1937), у 1935–1936 гг. загадчык аддзела школ і навукі ЦК КП(б)Б, у студзені — чэрвені 1936 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б.

оны Голодеда никак не затянешь, потому что там нет таких, как Дубина, как Свиридов, которые[62] были Голодеду по душе. <…>

Можно привести целый ряд примеров, которые подтверждают, что групповая борьба, которая была здесь, в Белоруссии, отражалась на нашей плодотворной работе. И только сейчас начинает чувствоваться на местах свежая струя, когда за дело крепко взялся тов. Шарангович.

Ведь многие товарищи знают, как рассуждал Голодед. Когда уезжал тов. Гикало, Голодед решил, что только ему впору стать секретарем [ЦК КП(б)Б]. Были такие разговоры, что секретарем станет белорус. Вот Голодед и решил, что первая кандидатура — это, наверно, его. Потом, когда оказалось, что белорус, да не тот, тогда Голодед открыто противопоставил себя всей нашей КП(б)Б. И тов. Шарангович по-большевистски поставил перед ЦК ВКП(б) вопрос о том, что Голодед не может работать и что надо оздоравливать советский аппарат.

Центральный Комитет решил послать в Совнарком тов. Волковича. Это действительно оздоровит не только Совнарком, но и весь советский аппарат[63].

### З прамовы І. ЖУРАЎЛЁВА[64]

В нашей работе, в работе ЦК КП(б)Б отсутствовала элементарная большевистская скромность. Мы имели процветание вождизма, подхалимства в КП(б)Б. <…> Если взять все выступления Голодеда, все его книжки, его доклады, беседы с отдельными стахановцами — весь этот патр…[65], который сильно был распространен здесь, в Белоруссии, — то эти факты говорят относительно вождизма, относительно процветания подхалимства в КП(б)Б[66]. <…>

Я должен сказать, что решение ЦК ВКП(б) об [одной] упряжке в работе ЦК и Совнаркома, об оперативности в работе Совнаркома было совершенно неправильно понято со стороны со стороны Бюро ЦК. А враг[67] Голодед истолковывал это очень важное решение ЦК нашей партии, о котором мы все знаем, против партии, он считал, что это решение является решением поддержки Голодеда против ЦК КП(б)Б.

Когда уже был вопрос совершенно ясен, что из этой упряжки ничего не выйдет, было ясно, что Голодед [нечытэльна] из этого решения ЦК ВКП(б) [сделал] антипартийные выводы, Бюро ЦК КП(б)Б вместо того, чтобы поставить вопрос очень крепко, по-большевистски, поставить вопрос об антипартийном поведении Голодеда, ограничивался разговорами внутри Бюро ЦК, разрешал этот вопрос по-обывательски, а не по-большевистски. Ни одного вопроса принципиально политического о работе Совнаркома Бюро ЦК не поставило, а, пользуясь этим, Голодед [стал] еще больше проводить враждебную линию. А Бюро ЦК вместо того, чтобы одернуть этого оппортуниста, поставить вопрос на пленуме ЦК, с корнем вырвать эту антипартийную, антибольшевистскую враждебную линию и практику, которую проводил враг Голодед, зажимало критику, не давало критиковать правооппортунистические ошибки

---

62 Апошнія словы ў гэтым сказе ўпісаныя замест выкасаваных *тоже занимались групповщиной*.

63 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 254–256.

64 Жураўлёў Іван (1898, в. Непацягава Гаўрылава-Пасадскага павета Уладзімірскай губ. — 1938), член УсеКП(б) з 1918 г., з мая 1933 г. загадчык аргаддзела, з чэрвеня 1933 г. сакратар, у лютым 1935 — чэрвені 1937 г. першы сакратар Віцебскага ГК КП(б)Б, у ліпені — кастрычніку 1937 г. намеснік старшыні СНК БССР, у студзені — сакавіку 1934 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б, з 20 чэрвеня да 25 кастрычніка 1937 г. член Бюро ЦК КП(б)Б. Арыштаваны 4 кастрычніка 1937 г.

65 Далей у стэнаграме ў слове *патриотизм* зроблена праўка ад рукі і новае слова не чытаецца.

66 Сказ тут друкуецца без уліку правак І. Жураўлёва.

67 Гэтыя два словы ўпісаныя ад рукі.

Голодеда. Эта практика в работе ЦК КП(б)Б мешала раскрывать врагов в КП(б)Б и[68] разоблачить врага народа Голодеда.

И только в последнее время, я считаю, совершенно правильно, со всей, что называется, большевистской принципиальностью и остротой т. Шаранговичем — и, я считаю, в этом его большая заслуга — был поставлен вопрос о Голодеде как правом, как о враге народа[69].

Тов. Шарангович в ЦК ВКП(б) совершенно правильно поставил вопрос о том, што Голодед является правым[70], что он проводит правую практику в работе Совнаркома, увязав это с контрреволюционным прошлым Голодеда.

Снятие Голодеда — это не вопрос перестановки личности, это вопрос борьбы партии за правильное проведение линии партии в работе Совнаркома. Голодед проводил правую контрреволюционную практику в работе Совнаркома. Он вел групповую борьбу против ЦК нашей партии, это есть тактика врага. Надо прямо сказать, что вместе с Уборевичем, этим заядлым врагом народа, готовил свою антипартийную контрреволюционную группу, чтобы на 16-м съезде повести линию против руководства ЦК КП(б)Б.

Выступление Голодеда на Витебской партийной конференции было глубоко антипартийным выступлением, направленным на свертывание самокритики в КП(б)Б. Это выступление было направлено против решений пленума ЦК партии. Так расценила наша партийная конференция выступление Голодеда. Голодед на Витебской партийной конференции сделал такое антипартийное заявление, что он на пленуме ЦК КП(б)Б покритиковал редакцию газеты «Звезда», это подхватила «Правда», и теперь «Звязда» меня, мол, начинает щелкать, я являюсь в «Звезде» мишенью, именинником, Юрков[71] разъезжает по конференциям для инструктирования своих корреспондентов, как нужно критиковать Голодеда. Я, мол, допустил в своей работе только одну ошибку — о Петровиче, насчет врага Бенека неправильно «Звезда» меня критикует, взваливает всю вину на меня, я отвечаю наравне с другими членами Бюро ЦК, я всегда выступал против Бенека, а его, мол, защищал Гикало.

(ГОЛОС. Он врал.)

Сейчас мы имеем документы, Бенек сознался в НКВД относительно того, что Голодед выдвинул его заместителем председателя СНК, потому что Голодед боялся выдвигать белорусов, чтобы они его не подсидели, выдвинул контрреволюционера Бенека, поляка, чтобы ориентироваться на Польшу, а не на Советский Союз. Бенек сейчас это дело в своих показаниях раскрывает.

[Кажучы, пра тое, што ў Віцебску з прычыны адсутнасці цэглы, цэменту, жалеза ды іншых матэрыялаў спынілася будаўніцтва пэўных прамысловых аб’ектаў, прамоўца вінаваціў у гэтым СНК і ўпісаў у стэнаграму словы пра тое, што Галадзед «делал это умышленно».]

…все знают, что т. Червяков, который стоит во главе ЦИК Белорусии, имеет ряд политических, нацдемовских, оппортунистических ошибок.

Тов. Червяков на Минской партийной конференции, говоря об этих ошибках, примерно так сказал: я даже не могу перечислить на память своих ошибок, потому что их

---

[68] Наступныя словы ў гэты сказе ўпісаныя ад рукі.

[69] Першасная рэдакцыя сказа: *И только в последнее время, я считаю, совершенно правильно, со всей, что называется, большевистской принципиальностью и остротой был поставлен вопрос о Голодеде.*

[70] Наступныя словы ў гэтым сказе ўпісаныя ад рукі.

[71] Юркоў Дзмітрый (1904, г. Серпухаў, Расія — ?), член УсеКП(б) з 1919 г., служыў у Чырвонай Арміі, вучыўся ў Камуністычным універсітэце імя Свярдлова і ў Інстытуце аспірантуры, быў намеснікам старшыні кафедры палітэканоміі ў Інстытуце масавага завочнага навучання пры ЦК УсеКП(б), намеснікам рэдактара «Экономической газеты», у 1937 г. адказны рэдактар газеты «Звязда», з 20 чэрвеня 1937 да 31 студзеня 1938 г. кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б.

очень много. По-моему, эти ошибки, как он ни пытается раскритиковать где-нибудь на любом ответственном партийном и беспартийном собрании, он до конца никогда не раскритиковал своих ошибок, не откровенен до сих пор. Мне кажется, что так обстоит вопрос, потому что практика работы так показывает.

Была поверка и обмен партийных документов. Тов. Червяков, что называется, уже в Белоруссии старый работник, знает кадры Белоруссии, знает и врагов и во время проверки и обмена партийных документов ничего абсолютно не сказал, не раскрыл этих врагов, бывших нацдемов и всяких фашистов. И плюс к этому тов. Червяков знал, он был тогда на Бюро ЦК, когда Бенек выступал с троцкистской платформой, с защитой Троцкого на Бюро ЦК в 1922 году[72], и, между прочим, он до сих пор молчал. Почему? В чем дело? Мы должны спросить и очень крепко спросить тов. Червякова за это дело. Он должен нести ответственность за то, что, зная об этом троцкистском выступлении Бенека, не говорил об этом. И не мог он, конечно, не знать ряд врагов, которых мы вскрыли помимо тов. Червякова. У меня создается впечатление, что т. Червяков до конца не признал своих ошибок, не осознал свою вину в этом деле, не сделал после решения ЦК ВКП(б) и выступления тов. Сталина никаких выводов из своей работы. И в этой связи мне кажется очень подозрительным затишье, которое имеется в ЦИК, и молчание т. Червякова. Я думаю, что мы на съезде партии должны потребовать от т. Червякова до конца признать свои ошибки и разоблачить врагов, которых он обязан знать.

Я думаю, товарищи, как практический вывод, мы должны[73] превратить ЦИК из затхлого учреждения в руководящий орган советской власти в Белоруссии, укрепить этот аппарат ЦИК лучшими работниками, чтобы он был действительно руководящим органом, воспитывающим советские кадры в духе большевизма, в духе решений [февральско-мартовского] пленума ЦК ВКП(б)[74].

**З прамовы Я. ХРЫПАЧА**[75]

Тут много говорили о Голодеде. Мне вспоминается такой факт в 1935 г., на пленуме ЦК. Голодед, делая доклад об итогах пленума ЦК ВКП(б), допустил совершенно оппортунистическое контрреволюционного порядка заявление по вопросу о единоличнике. Мне помнится, что тогда тов. Журавлев выступил на пленуме и попросил Голодеда исправить эту неправильную установку. Чем же дело кончилось? В заключительном слове Голодед так отчесал Журавлева, что, я думал, от него места не останется, и заявил таким тоном: во-первых, вы в этих делах ничего не понимаете, а во-вторых, не учите меня, потому что я эти установки получил и слышал в ЦК ВКП(б). Я считаю, что пленум ЦК, который выводил Голодеда из пленума[76], не доделал до конца, ибо Голодеда надо было решительно исключить из партии[77].

---

72 У 1922 г. Цэнтральнага Камітэта ў КП(б)Б не мелася; партыйную арганізацыю ССРБ узначальвала Цэнтральнае Бюро.

73 Далей ад рукі ўпісана слова *зделать,* аднак слова *превратить* не выкасавана.

74 НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 265–272.

75 Хрыпач Яўген (1896–1937), член УсеКП(б) з 1920 г., у 1924–1926 гг. начальнік Слуцкага павятовага, потым акруговага зямельнага аддзела, з лютага 1927 г. старшыня Слуцкага РВК, з кастрычніка 1927 г. старшыня Глускага РВК, у 1937 г. другі сакратар Магілёўскага ГК КП(б)Б (http://lists.memo.ru/index22.htm).

76 Членамі пленума на партыйным жаргоне называлі сябраў Цэнтральнага Камітэта — правамоцных удзельнікаў пленарных пасяджэнняў (пленумаў) ЦК, — а іншы раз і кандыдатаў у члены ЦК, якія мелі на пленумах дарадчы голас.

77 Ф. 4п. Воп. 1. Адз. зах. 10917. Арк. 280–281.

лендары С. Шушкевіча зусім па часе. І Вам варта свае думкі высказаць. Я пісаць нічога ня буду, але хацела б паслаць С. Шушкевічу сваю «Гісторыю бел[арускага] адр[ыўнога] календара». Ці не маглі б Вы прыслаць яго адрас? Я калісьці атрымала ад яго адну яго кніжачку і пісала яму, але адрас не захаваўся.

І яшчэ адно: забылася запытацца мастакоў адрас З. Пазьняка. Маю, але ня ведаю, ці не зьмяніўся. Мо зможаце мне прыслаць адрас? Я напішу яму на стары, але, магчыма, ня дойдзе.

Штораз больш падабаецца мне пастава літоўскага студэнта. Гэта чалавек, які мае вялікае сэрца. Цікава, ці мае тут у нас у Вільні сувязь з кім зь беларусаў? Мо меў бы ахвоту пазнаёміцца з маёй сям'ёй? Усё ж мы нядрэнныя беларусы і мову захоўваем ня толькі напаказ. Калі яму гэта было б прыемна, мы з радасьцяй яго прывітаем. Я асабіста то таварыства нецікавае — паразумецца са мной цяжка, але рэшта маіх — людзі ласкавыя, а для Слаўкі гэта было б вельмі карысна.

А ведаеце, той верш «Беларуская мова»[27] я паслала ў Польшчу ці, лепш сказаць, у Сакольшчыну, старому (74 гадоў) беларусу[28], які стараецца ня толькі сам гаварыць па-беларуску, але і вучыць сваіх унукаў, паміма што ўсе навокал маладыя сваёй мовы адракліся. А ці ня будзе гэты верш у друку?

Яшчэ маю новую кніжку Аляксандры Бэргман па-польску — «Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiću». Салідная праца. «Зямлю пад белымі крыламі» У. Караткевіча маю, прывязьлі мне мастакі, нават 2 экз. Цудоўная рэч! Мушу напісаць У. Караткевічу.

Усяго найлепшага. Чакаю адказу. Ад маіх — прывітаньне. *Л. В.*

## МІКОЛУ ЕРМАЛОВІЧУ

*17 лютага 1978 г. Вільня*

Паважаны Мікалай Іванавіч.

Дзякую за цікавыя весткі. Вядома, вельмі шкада, што такая важная для Беларусі дата ня зможа быць адсьвяткаваная афіцыяльна, як гэта было ў Польшчы. Але калі хоць паасобныя групы людзей аб гэтым успомняць, то і то будзе добра. Шчыра зычу Вам скончыць сваю працу да гэтай даты. Але ці яна зможа быць надрукаванай? Часта аб гэтым думаю ў сувязі з рознымі нямілымі для нас падзеямі.

Гісторыя… Ня толькі гісторык, але і кожны пісьменьнік павінен мець вельмі чуткае сумленьне, не гаворачы ўжо аб ведах, каб не дапусьціць ані крышкі фальшу. На жаль, у нас, асабліва ў нас, беларусаў, з гэтым не найлепш. Лічаныя пісьменьнікі зьвяртаюць увагу на праўду і няпраўду. Часам гэта, на першы погляд, драбніцы, якіх не заўважаюць асабліва людзі з маладога пакаленьня. Але адна памылка цягне за сабой другую і паўстае зусім фальшывы абраз падзеяў.

Нас, старых, асталося вельмі мала, ды і ня ўсе маюць добрую памяць, і ня ўсім гэта баліць.

Вось выйшлі дзьве добрыя кніжкі — «Rzecz o Bronislawie Taraszkewiczu» А. Бэргман і «Ветразі Адысея» У. Калесьніка. І ў адной, і ў другой — памылкі. Дробныя, але і такіх не павінна быць.

У кніжцы аб Б. Т[арашкеві]чу дзьве памылкі тычацца мяне асабіста. Першая — напісана, што я ў Менску рэдагавала «Саху»[29]. Як усім вядома, «Саху», як у Вільні, так і пасьля ў Менску, рэдагаваў А. Уласаў. Калі я прыехала ў Менск (увосені 1915 г.), «Саха» наагул не выходзіла. Другое — аўтарка піша, што ў Вільні я *рэдагавала*… Афіцыяльна я была адміністратаркай, а гэта вялікая розьніца. А рэдагавала «Заранку» і «Беларускую борць» — зусім незалежна ад грамадаўскай прэсы. Аўтарка мяне перапрасіла. Што з гэтага? Надрукаванае ня вымажацца.

Што тычыцца Б. Тарашкевіча. Аўтарка піша, што яго заўсёды можна было знайсьці або ўдома, або ў рэдакцыі… Перадусім паслы найбольш былі ў Варшаве або езьдзілі па ўсёй Заходняй Беларусі. А па-другое, Тар[ашкеві]ч *ніколі* ў рэдакцыі не бываў. Рак-Міхайлоўскі і Мятла[30] заглядалі час ад часу. А Б. Т-ча ў працягу пяці гадоў я бачыла ў рэдакцыі *адзін раз*, калі прыйшоў да мяне патрабаваць, каб я ў «Заранцы» зьмясьціла перадвыбарчы агітацыйны матэрыял… Зразумела, такога абсурду зрабіць я не згадзілася.

Але найгоршае, што напісана, быццам на Віленскай, 12, на партэры, разам з рэдакцыяй і ТБШ, была друкарня Марціна Кухты. Я проста ахнула. Я працавала на Віленскай, 12 пяць гадоў. Ніколі ніхто ні адным словам ня ўспомніў, што там была друкарня. Пачала пытацца тых, хто там бываў. Ніхто нічога ня чуў…

Вось і пачалі мы шукаць — дзе ж тая друкарня была? Насамперад ад Г. Кісялёва я даведалася, што ў 1914–15 г. друкарня М. Кухты была на Татарскай, 20. А дзе пасьля? Усё яшчэ шукаем. Ужо крыху вестак аб М. Кухце ёсьць. Думаю, што высьветлім усё да канца. Я сама няшмат магу зрабіць — нікуды не хаджу, нікога ня бачу. Толькі пішу, пытаюся. На шчасьце, людзі разумеюць і робяць, што могуць.

За кніжку Калесьніка я бралася з пэўнымі засьцярогамі. Астаўся ў мяне да гэтага аўтара недавер, выкліканы адной падзеяй. Яго запыталіся раз пра Макара Косьцевіча (М. Краўцова)[31]. Ён адказаў: «Не займайцеся ім, ён — дэфэнзыўшчык». Мяне гэта страшна абурыла. Я ведала М. К-ча і яго жонку, ведала, што закід няпраўдзівы, але пачала яшчэ распытываць людзей, якія добра М. К. ведалі. Усе запярэчылі — няпраўда. Лісты маю. Ці можна верыць такому аўтару?

Ну, кніжка апрацаваная добра, напісаная цікава, але ці паважны, шануючы сябе аўтар можа так злосна і глупа адносіцца да людзей, якія яму не адпавядаюць (яго паглядам)? Гэтыя кпіны з выгляду, адзежы А. Навіны[32] і іншых… Бачу — недалёка адышоў ад Машары[33].

А на самым пачатку кінулася мне ў вочы: на Захараўскай вуліцы быў *клюб*, улады выселілі яго на Камароўку ў барак і г. д. Усё — мана. На Захараўскай, 18 быў ня клюб, а сталоўка пад назовам «Беларуская хатка», адчыненая Т[аварыст]вам помачы ахвярам вайны. У 1917 г. сталоўку перанесьлі ў большае памяшканьне на Маскоўскі завулак, а тут было бюро розных установаў Т-ва помачы, Беларускай сацыялістычнай грамады, Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і г. д. Я была сакратаркай ва ўсіх і сядзела тут праз цэлы 1917 год.

Пасьля тут жыў Я. Лёсік і была рэдакцыя «Вольнай Беларусі», і жыў у адным пакоі Алесь Гарун. А калі Я. Лёсік ажаніўся з дачкой Ядвігіна і яны выбраліся на Старажоўскую, памяшканьне заняў З. Бядуля. Увосені 1919 г. я ў іх была, калі прыяжджала ў госьці да сваякоў. Значыцца, ніякія ўлады не высялялі. І клюбу «Беларуская хатка» не было.

Калі Ждановіч са сваёй трупай занялі тую буду (барак) на Камароўцы, ёй прысвоілі назоў «Беларуская хатка», але з папярэдняй «Беларускай хаткай» нічога супольнага не было. Я аб сталоўцы «Бел. хатка» пісала ясна ў сваіх успамінах аб М. Багдановічу «Пяць месяцаў у Менску». Толькі што гэта нікім не бярэцца пад увагу.

Вось сколькі горычы я выліла перад Вамі. Можа, гэта і драбяза, нявартая ўвагі? Але мне здаецца, што і з такой драбязы складаецца жыцьцё і яго гісторыя. Наагул, нашая сталоўка «Беларуская хатка» мае «шчасьце» да розных выдумак. Так, Я. Рамановіч казаў Уладзіміру Содалю: «Такая сталоўка была, але не на Захараўскай вуліцы, а на Захараўскім завулку». Проста гора — як усе «лепш ведаюць». А Я. Рамановічу было ў той час нешта 11 ці 12 гадоў. На шчасьце, я маю лісты, адрасаваныя ясна: *Мінск, Захараўская, 18, «Беларуская хатка»*.

Замучыла я Вас. Выбачайце. Усяго Вам найлепшага! Здароўя, спору ў працы. Ад маіх — прывітаньне. *Л. Войцікава*.

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*28 мая 1978 г. Вільня*

Паважаны пане Юры.

Дзякую сардэчна за выразку і за спагадлівыя словы. Я з П. Ластаўкай[34] асабіста знаёмай не была, але так здарылася, што мой ліст, пасланы ў Беласток, у «Ніву», з запытаньнем, хто з варшаўскіх беларусаў ведаў с. п. адваката А. Бычкоўскага[35], пераслалі П. Ластаўцы. Ён мне адказаў, прыслаў падрабязны ўспамін аб А. Б-м, яго жыцьці, працы грамадзкай і сьмерці ды выразіў ахвоту стала ліставацца.

Нашая лістоўная сувязь трывала да самай яго сьмерці. У лістах П. Л[астаў]кі шмат цікавых думак, паглядаў, і я хачу ўнясьці яго біяграфію (і здымак), дапоўненую весткамі зь яго лістоў, у свой рукапісны зборнічак біяграфіяў пераважна віленскіх беларускіх дзеячоў, каторых ведала і карэспандавала зь імі. Такіх біяграфіяў (і аўтабіяграфіяў) маю 15. Усё людзі, аб якіх афіцыяльна не ўспамінаецца.

Пытаецеся, ці мяне задаволіць выразка? Я была б вельмі рада атрымаць дадаткова сьпісак яго літаратурных працаў і публіцыстыкі. Ёсьць і яшчэ адна справа. Я добра была знаёмая (з 1913 г.) з Гальяшом Леўчыкам і доўга зь ім перапісывалася. Усе лісты захаваліся. Але неяк у 2-ю сусьветную вайну кантакт перарваўся, і аб апошніх гадах жыцьця Г. Л-ка і яго сьмерці нічога ня ведаю.

Я папрасіла П. Ластаўку напісаць мне аб гэтым часе жыцьця Г. Л-ка. Ён абяцаў. Перашкаджала яму хвароба. У адным з апошніх лістоў піша: «Я цяжка перахварэў. Цяпер лепш. Абяцанае выпаўню». Пісаў таксама, што зьбіраецца ўсе памяткі аб адвакаце А. Бычкоўскім і яго рукапіс сцэнічнага твору «У сваты» пераслаць у Гродзенскі музэй: «Няхай усё будзе там, дзе А. Бычкоўскі вучыўся і дзе пачынаў грамадзкую працу».

Паміж іншым, А. Бычкоўскі быў адным з арганізатараў і першым старшынёй Горадзенскага гуртка беларускай моладзі, арганізаванага ў 1909 г. Я ня радзіла туды высылаць, бо Гродзенскі музэй і яго атмасфэру ведаю…

Даведаўшыся аб сьмерці с. п. П. Ластаўкі, я, хоць з жалем, пагадзілася, што ўспамінаў аб Г. Л[еўчы]ку мець ня буду. Па нейкім часе я зь вялікім зьдзіўленьнем даведалася, што ўспаміны аб Г. Леўчыку (абяцаныя мне) і рукапіс сцэнічнага твору Бычкоўскага (гэты твор, апрацаваны П. Ластаўкай да друку, меўся быць надрукаваны ў альманаху «Белавежа» ў 1967 г., у 30-я ўгодкі сьмерці А. Быч[коўска]га), апынуліся ў Слоніме, і то ў прыватных руках! Я w drodze laski[36] дастала машынапіс твору «У сваты», апрацаваны П. Ластаўкай, і больш нічога.

Што ня маю вестак аб апошніх гадах Г. Леўчыка — прыкра. Але найгорш, што той панок[37], хвалюючыся, што «цяпер ён аб Леўчыку найбольш ведае», не дае тых вестак выкарыстаць для зложанага ўжо зборніка твораў Гальяша Леўчыка (складальнік — Янка Саламевіч), які мае выйсьці ў 1980 г., у 100-ю гадавіну нараджэньня паэта.

Даведаўшыся ад Вас, што архіў П. Л[астаў]кі захаваўся, падумалася мне, а можа, астаўся чарнавік тых успамінаў? Калі б Вам не было вельмі цяжка даведацца, была б Вам вельмі ўдзячная. І ня толькі я.

А цяпер аб галоўным для Вас. На жаль, я Вашага бацькі[38] ня ведала. Прыехала ў Вільню настала ў канцы 1923 г. Вясной гэтага ж году прыяжджала ў Вільню на пару дзён і спаткалася са студэнтам Станіславам Грынкевічам[39], які прыйшоў са сваім сябрам… Нешта як праз сон успамінаецца, ці ня быў гэта Ваш бацька? Гэта ўсё.

Але я ўжо напісала да тых, хто Вашага бацьку мог ведаць асабіста або што аб яго жыцьці і працы. Як толькі што даведаюся, зараз жа напішу. Напісала да 3-х асоб. Можа, хоць хто канкрэтна адкажа. Мала тут нас, старых, засталося. Калі б Вам якія віленскія весткі былі патрэбныя, калі ласка, пішыце. Усё магчымае пастараюся зрабіць.

Вітаю і зычу ўсяго найлепшага ў жыцьці і працы. *L. Wojcikawa*.

Adras moj na dačku, bo da mianie pošta nie dachodzić. Вось як бывае — няведама чаму перайшла на лацінку! *Л. В*.

Ці німа ў Вас якога (у малым фармаце) здымку П. Ластаўкі? Баюся, што з газэты перафатаграфаваць ня ўдасца.

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*18 верасьня 1978 г. Вільня*

Паважаны Уладзімір Ільіч.

У той дзень, як я атрымала Ваш ліст, мне ад самай раніцы пападалі на вочы павукі. Француская прымаўка кажа: павук раніцай — вялікае засмучэньне. І я ўсё думала, што за нягода мяне чакае? Адчыняю Ваш ліст, а там ня толькі нягода, а проста роспач. Што за людзі ўзяліся за передрукаваньне «Коласа [беларускай нівы]»[40]? Каб разумелі, што галоўнае — *захаваць усё, як было*. І так ёсьць розьніца, бо арыгінал пісаны лацінкай. Гэта мог бы зрабіць толькі С. Новік. Ён з натуры вельмі акуратны і да ўсяго старога адносіцца з пашанай. Але што зрабіць, калі ён стары, хворы і нават узятага на сябе экзэмпляру з рысункам яшчэ не зрабіў. Хоць маю надзею, што да канца месяца зробіць і прышле.

А тут старыя сябры і сваякі той групы, што рабіла «Колас…», чакаюць яго зь нецярплівасьцю. Так мне прыкра, што я Вам гэтую гісторыю зь передрукаваньнем зваліла на галаву. І бяз гэтага маеце даволі клопатаў.

Што такое ўнівэрсытэт марксізму-ленінізму — ведаю. Мая дачка[41] праходзіла праз гэта, як працавала ў Гродзенскім пэдінстытуце, а я якраз тую зіму была ў яе. Вечарам дачакацца яе не магла, а прыйдзе — зараз жа садзіцца пісаць, апрацоўваць і г. д.

Ахвотна даю камэнтарыі, якія Вам патрэбныя. Трэба помніць, што ў той час, аб якім Ванда піша, яна зь дзяцьмі беларускага прытулку была ў Ратамцы, але гэта ўжо ня быў самастойны беларускі прытулак, а дзеці, належныя да дзяржаўнага прытулку Тацьцянінскага камітэту. Толькі на наша жаданьне вучыліся асобна і мелі сваіх вучыцелек. Дадаю — вучыліся па-беларуску (паміж іншым — ня так, як цяпер у Бел[арускай] рэспубліцы…).

Сястра Л. Талстога візытавала ўсе дзяржаўныя прытулкі, у тым ліку і ў Ратамцы. На яе спатканьне ладзілі нейкі там спэктакль. Дык мы пастанавілі, што нашы дзеці выступяць асобна — у сваёй мове. Не было адпаведнай кароткай п’есы, так я дала сваю (у маім перакладзе з польскай), вершаваную, пад загалоўкам «Пастушка». Перакладала я яе яшчэ ў Гродне — для малодшых сяброў Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Аўтара ня помню. Тэксту таксама ня помню — толькі зьмест. На жаль, Ванда, выкарыстаўшы п’есу, яе мне не вярнула. Вось уся гісторыя…

Калі яшчэ што трэба будзе — пытайцеся. Работы крыху маю, падкідаюць з усіх бакоў. Але нямала і гаспадарскай — восень: яблыкі, грыбы, усё трэба выкарыстаць. Салю, сушу, вару… Учора Слаўка сабраў яблыкі з адной яблыні — 100 кг. 90 кг лепшых злажыў на падстрэшак на сена (да маразоў), а 10 кг дробных, папсаваных ссыпаў на падлогу ў пакоі. Капаюся ў іх. А яшчэ ж ёсьць на іншых яблынях.

Найгоршая бяда з памідорамі — гніюць усе. Пасадзілі каля 200 кустоў, а будзем мець добрых памідораў у найлепшым выпадку некалькі дзясяткаў. Дажджы без канца, а сяньня шалёны вецер і тэмпэратура падае. Прагнозы як найгоршыя. Сумна, калі прападае ўся веснавая і летняя работа.

Дзякую за вестку аб Абрамовічу, але і я мела ад яго некалькі слоў. Пісаў, што стараецца выпаўніць тое, што абяцаў Вам і мне. Толькі я малую на гэта маю надзею. Ён жа мае поўных 86 гадоў і яшчэ тры месяцы. Я — 86, бяз двух тыдняў. Усё вісіць на валаску.

Хоць я ня чуюся горш, чым было. Але ўсё можа быць. Ды німа аб чым гаварыць. Усё будзе так, як наканавана.

Пакуль што памяць служыць добра. Можа, гэта сталы трэнінг памагае? Пішыце, што ў Вас добрага. Доўга будзе гэты марксізм-ленінізм? Баюся, што там у Менску хварэюць. Напрыклад, А. Ліс даўна не пісаў. І С. Новік маўчыць.

Усяго найлепшага. *Л. В.*

Учора напісала гэты ліст — сяньня дапісываю. У Гродне, у тым сцэнічным абразку «Пастушка», які ставілі нашы малодшыя сябры 4. 10.1912 г., выступала двое дзяцей, мне вельмі блізкіх. Мой далёкі сваяк і дзяўчынка, якая гадавалася ў нашай сям'і. Абое жывуць у Варшаве. Дагэтуль вельмі часта перапісываліся, яны нават прыяжджалі сюды да мяне. А сяньня атрымала вестку, што мой сваяк, які даўна хварэе, чуецца шмат горш — ужо не ўстае. А ад тае «дзяўчынкі» я даўна ня маю весткі, а яна таксама цяжка хворая на сэрца. Моцна перажываю… Так гэта пераплялося з «Пастушкай», з успамінамі пра той далёкі час…

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*28 студзеня 1979 г. Вільня*

Паважаны пане Юры.

Дзякую за ліст, а таксама за каляндар, які даўна атрымала. Не магла аніяк сабрацца адразу падзякаваць. Крыху дрэнна чуюся ўвесь гэты час, а да таго мела важную і нэрвуючую работу.

Прыслалі мне на перагляд «успаміны» аднаго «дабрадзея»[42], у якіх поўна, далікатна кажучы, недарэчнасьцей, якія тычыліся Віленскай Беларускай гімназіі і іншых віленскіх справаў. Напісала пару дзясяткаў лістоў да былых вучняў Віленскай Беларускай гімназіі, зьбірала факты, весткі… Нарэшце скончыла, і толькі трэба ўсё перапісаць. А мае недамаганьні не даюць мне доўга сядзець.

Што да Вашай просьбы. І я ня маю прэсы з таго часу, бо 1917 год і палову 1918-га была ў Менску. Але дзеля таго, што сама прыймала ўдзел у зьездах, кангрэсе і была сакраташкай Беларускага нацыянальнага камітэту, Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый і Вялікай беларускай рады, — асабіста магу сьцьвердзіць, што Вацлаў Іваноўскі ў той час наагул у Менску ня быў. А мо быў, але да нічога не належаў? Але гэта немагчыма. Я яго бачыла адзін раз — у 1916 г. у Пецярбургу, калі езьдзіла туды ў справах Беларускага камітэту помачы ахвярам вайны.

Але чым жа я гэта дакажу? Мусіце прыняць на веру. Ёсьць у мяне, праўда, здымак — група ўдзельнікаў першага зьезду, ёсьць білеты як сябры Цэнтр[альнай] Рады беларускіх арганізацый, ёсьць падрабязныя ўспаміны з тых часоў, ёсьць пратаколы зьезду. Усё гэта пабачыце, як прыедзеце. Толькі вельмі не адкладайце, бо хто ведае, як доўга я яшчэ буду на сьвеце.

Ці быў сябрам Цэнтр[альнай] рады Віленшчыны і Гродзеншчыны? Ня ведаю. Я ад жніўня 1918 г. да восені 1923 г. пражыла ў Сакольскім павеце пад Новым Дваром, дзе жыве К. Грынкевіч. У мяне былі такія абставіны, што толькі час ад часу бывала ў Гродне. Бывала там паміж беларусамі, прысылалі мне газэты, але неяк дзіўна мала помню з таго часу.

Самі гродзенчукі цяпер мяне пытаюцца, як і што тады там было, а я мала магу што сказаць. Аб Бел[арускім] цэнтральным камітэце Віленшчыны і Гродзеншчыны, можа, што знайшлося б у віленскіх архівах. Падобна, тады выходзіла газэта «Слова», у якой былі артыкулы Я. Натусэвіча[43] хіба з тых часоў. Але на працу ў архівах трэба мець скіраваньне. Мо хто зь Менска прыедзе сюды працаваць у архівах — буду помніць.

Хіба Вы ведаеце, што падчас нямецкай акупацыі Вацлаў Іваноўскі быў бурмістрам Менска? Быў там забіты ў 1943 г. Ці бясьпечна для Вас пісаць аб ім? Ці наагул будуць аб ім друкаваць? Хіба ў сэнсе нэгатыўным…

Хіба, што да імені, не мыляюся. Іх, Іваноўскіх, было 3-х братоў. Адзін — паляк[44], другі — літовец[45], трэці — беларус. Відаць, бываюць і такія выпадкі.

Псэўдонімаў ня ведаю. Ужо напісала да Саламевіча, ён мае апрацаваны слоўнік псэўдонімаў. Сабраў іх каля 3 тысяч. Працаваў над гэтым 15 гадоў. Ужо праца была зданая да друку, была ў плянах, але чамусьці зьнялі. На які час — няведама… Як толькі Я. Саламевіч мне адкажа, бо думаю, што так, то зараз Вам перашлю. Ён мае поўны збор беларускіх календароў, то хіба і гэтымі псэўдонімамі зацікавіўся.

За «Ніву» шчыра Вам дзякую. Аднаднёўку вышлем у найбліжэйшыя дні. Рада буду, калі напішаце, што аб ёй думаеце. Улічыце, што гэта работа моладзі зусім самастойная.

Аб сьмерці с. п. Вінцука Адважнага ведала. Пісаў мне М. Пецюкевіч. А ў нас хіба апошнія дні дажывае др. Іван Пятровіч Геніюш. Лекары ўжо ня робяць надзеі…

Маразы былі ў нас да –30°, але коратка. Усё ж у садзе шмат што прымерзла. Сьнегу шмат, і ўсё яшчэ падае.

Усяго Вам найлепшага! *Л. Войцікава*.

ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*9 сакавіка 1979 г. Вільня*

Паважаны пане Юры.

Учора атрымала анталёгію[46]. Вельмі рада, і шчыра Вам дзякую. Пераклады добрыя. Чытаецца з прыемнасьцю. Асабліва вершы тых, каго я ведала асабіста, — як М. Багдановіча, Гаруна, Г. Леўчыка, З. Бядулі… Хоць што да Бядулі, страціла я да яго сымпатыю і паважаньне пасьля адной яго публікацыі. Грубай маны даравацъ нельга.

А вось калі Вы ведаеце асабіста перакладчыка Я. Гушчу[47], скажыце яму, калі ласка, што *шыпшына* — гэта ня *głóg*, а *dzika róża*. Дзьве зусім іншыя рэчы. Шыпшына на лаціне *rosa canina*, а *głóg* (беларускі назоў — *галабень*) — *grataegus*. Я ўжо гады ваюю за праўдзівыя назовы расьлінаў, аднак мала памагае.

Калі ўжо гутарка аб батаніцы — мяне паведаміла загадчыца аддзелу рэдкай кнігі пры Фундамэнтальнай бібліятэцы АН БССР, што яны маюць 2 экзэмпляры майго «Батанічнага слоўніка» і могуць адбіць на «Эры» копію, але толькі тады, калі будуць мець *дакладны адрас бібліятэкі*, якой гэты слоўнік патрэбны. Адбіўшы, самі вышлюць, зазначыўшы, што робяць гэта на маю просьбу. Для асоб прыватных рабіць копіі ня маюць права, а для ўстановы можна.

Я думаю, што гэта добры выхад. Калі Вы згодны са мной, то, калі ласка, прышліце *мне* адрас той бібліятэкі. Мне патрэбная яшчэ адна копія — для Гродзенскага мэдычнага інстытуту, для іх музэю. Дастану і адрас таго музэю і абодва адашлю ў Менск.

Атрымала я таксама і «Ніву» — дзякую. Хачу запытацца, што Вы скажаце на артыкул у «Ніве» (№ № 7, 8) «Заручаныя зь песьняй». Што гэта такое? Сарафаны, какошнікі, «Уральская рябинушка» — радасьць, што ўпадобніліся да савецкага хору, подпісы парасейску і па-польску і г. д. Беларускага нічога? Падпісацца па-беларуску ня ўмеюць ці сорамна? Вопраткі чыста беларускай німа ні ўспаміну? Сарафаны… Ведаю — і тут, у Лідзе, выступаюць у сарафанах і называюць сябе беларускім хорам…

Ці гэта я ўжо такая старая, што нічога не разумею, ці сапраўды слова Беларусь — гэта ўжо толькі назоў без глыбейшага сэнсу…

Я ўвесь час чакала ліста ад Вас, а яго німа. А мо Вы пісалі, і ліст прапаў? Апошні час нешта пачалі лісты гінуць — нават зь Менска. А мо ня пішаце таму, што, магчыма, Ваўкавыцкі[48] забракаваў успаміны аб ГГБМ?

А ці атрымалі Вы аднаднёўку «Колас беларускай нівы»? Адначасна быў пасланы «Колас…» для сястры др. Ст. Грынкевіча — калегі па ўнівэрсытэце Вашага бацькі. Яна атрымала.

Вось і марозная зіма мінула. Надыходзіць яўная вясна. Хоць пакуль што халодная і хмарная. Усё ж дажылі…

Усяго найлепшага! Чакаю адказу. *Л. Войцікава*.

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*27 мая 1979 г. Вільня*

Дарагі Уладзімір Ільіч!

Шчыра дзякую за ліст, за весткі аб «Родным слове»[49]. Віншую зь посьпехам, зычу далейшага. «Роднаму слову» зычу, каб яно прынясло сапраўдную карысьць нашай мове, нашай народнай культуры.

Я пішу Вам зусім прыватна, таму шчыра выказываю свае думкі, свае няпэўнасьці. Вельмі ж далёка разыходзяцца добрыя намеры «Роднага слова» і падзеі ў беларускім школьніцтве. Поўныя роспачы перажываньні выкладчыкаў беларускай мовы ў школах. Перажываньні выняткавым заняпадам роднай мовы, мякка кажучы, ігнараваньнем яе… Лепшыя з выкладчыкаў шукаюць ратунку. Але дзе яго шукаць? У чым? У каго? Вось тэма… але я ведаю, што яе парушаць нельга. І гэта трагедыя…

Кожны год праводзяцца Купалаўскія і Коласаўскія дні. Езьдзяць туды пісьменьнікі. А ці хто заўважыў, што ў Мікалаеўшчыне ў школе імя Я. Коласа вучні *сваёй* мовы не ўжываюць? Аб гэтым мне пісаў чалавек, якому я мушу верыць. Але кіну аб гэтым. Мне няможна нэрвавацца, няможна нічога рабіць: нахіляцца, працаваць на гародзе, быць на сонцы і г. д. Чуюся вельмі дрэнна. Ці мо гарачыня шкодзіць, ці высокі ціск — пакуль што ня ведаю. Ведаю, што выбітая са звычайнай дарогі жыцьця — на эмэрытуры… Добра яшчэ, што пісаць не забаронена, і на лісты адказываю, хоць ня вельмі хутка.

Аб датах выхаду «Роднага слова» я свайму знаёмаму ў Гродна пісала. Але што гэта дасьць — ня ведаю, бо я ад яго ўжо даўжэйшы час ня маю вестак. Чаму — не бяруся судзіць. Ад Зыгмунта А[брамовіча] вестак ня маю, але ад людзей ведаю, што ён ляжыць хворы. І гэта сумна. Ён жа — мой равесьнік.

Мела я некалькі слоў ад Канст. Антонаўны [Буйло] (па-беларуску). Жаліцца на дрэннае здароўе: высокі ціск, болі ў сэрцы і г. д. Я даведалася, што гэты мой знаёмы доктар з Гродна быў добра знаёмы зь сястрой Канст. Ант. і яе шваграм. Побач жылі. Канст. Ант. вельмі гэтым зацікавілася. Хацела б даведацца бліжэй аб успамінах аб яе сястры. Пастараюся гэта зрабіць.

Пішаце, што прыймаеце мае ўсе заўвагі да «У Коўне», а *тутавае* дрэва ў Вас астаецца чыста рускім — тутавым. Украінцы называюць яго *морва* (паходзіць ад лацінскага *morus*). Чаму мы маем гэтага слова баяцца? Але, праўду кажучы, ня ведаю, ці рэдакцыя Вам гэты назоў прапусьціць.

Чым морва магла прыцягнуць увагу Ф. Багушэвіча, я Вам, здаецца, ужо пісала. Ягадамі, якія якраз у палове ліпня сьпеюць. Ягады бываюць або белыя, або чорныя. Падобныя да ажынаў (*ежевики*), толькі большыя, салодкія. На дрэве іх вельмі шмат.

Мы маем цяпер толькі 2 дрэвы, і то прымерзлыя, так што ягад сёлета, мусі, ня будзе. Раней было 4 дрэвы. У добры год зьбіралі ягад па пару вёдраў. Лісьцё на дрэвах бліскучае, прыгожае. Распускаецца, праўда, позна, але ўвосені трымаецца доўга.

Якое ўражаньне зрабіла на Вас выстаўка працаў Я. Драздовіча? На адкрыцьцё езьдзіў мой зяць. Мастакі прыслалі мне цікавыя сувэніры. Магчыма, і дачка ды Слаўка на выстаўку пад’едуць.

Слаўка езьдзіў на экскурсію ў Армэнію. Вельмі здаволены. Шмат цікавага пабачыў. А цяпер ён мае месячны адпачынак. Увесь час удома. Пры маім стане здароўя гэта

шчасьце. Дачка таксама цяпер сталых лекцыяў ня мае, так што пільнуе мяне і сама вядзе ўсю хатнюю гаспадарку.

Усяго Вам найлепшага! Ад маіх — прывітаньне. *Л. В.*

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*16 кастрычніка 1979 г. Вільня*

Паважаны і дарагі Фёдар Міхайлавіч.

Сардэчна дзякую за «Абразкі»[50], добрыя пажаданьні, а найбольш — за навязаньне кантакту. Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі прапанаваў мне напісаць да Вас, падказаць нейкую цікавую (для мяне) тэму пошукаў беларускіх назоваў. Я адказала, што мяне, як заўсёды, цікавяць назовы расьлін і птушак, а якраз гэтым нашы мовазнаўцы найменш цікавяцца.

Тым часам, прачытаўшы Вашыя «Абразкі», я бачу, што Вас гэта можа зацікавіць, бо ў Вас прырода, знаёмства зь ёю займаюць не апошняе мейсца. Мне здаецца, што сярод моладзі, ды і ня толькі моладзі, можна заўважыць поўнае няведаньне беларускіх назоваў расьлін і птушак, нават паміж тымі нешматлікімі, якія наагул прыроду бачаць. А як гэта ня толькі нэрвуе, але і баліць, калі тое, што нас акружае, называецца чужаземнымі імёнамі… Асабліва гэта шкодна ў дзіцячай літаратуры. А нашы назовы вельмі вобразныя, арыгінальныя.

Узрушылі мяне моцна Ваш абразок «Люблю Нёман» і Вашыя адносіны да Гродзеншчыны і Гродна. Гродна — гэта горад майго бацькі і дзядоў. Хоць я радзілася на Украіне, але ад маленства кожнае лета праводзіла ў Сакольскім павеце — у фальварку майго дзеда па маці і, зразумела, часта бывала ў дзядоў у Гродне.

Мяне 6-гадовую бацька вадзіў на Каложу, бацькі і дзед вазілі лодкай па Нёмане. У Гродне я канчала гімназію (пачынала ў Кіеве). І цяпер, хоць ужо 54 гады жыву ў Вільні, мой Край там…

Заўсёды шкадую, што якраз Сакольшчына адышла за мяжу. У Гродзенскім гуртку беларускай моладзі найбольш сяброў набіралася якраз адтуль, асабліва з ваколіцаў Сухаволі. І што важна, моладзь адтуль была зусім сьвядомая. Вельмі добра па-беларуску ня толькі гаварылі, але і пісалі. А мова там была выключна цікавая і вельмі спэцыфічная. Маю ад тых сяброў лісты — з 1913–15 гадоў. Мо Вас яны зацікавяць? Калі так, то будзьце ласкавы, прыяжджайце. Буду рада падзяліцца тым, што маю. Мо прыдасца.

Яшчэ раз дзякую і чакаю ласкавага адказу. Усяго добрага. *Л. Войцік (Зоська Верас).*

P. S. Не магу ўстрымацца, каб не дадаць, што вельмі цікавыя ў Сакольшчыне былі назовы вёсак. Пішу *былі*, бо хто ведае, што там са старога асталося…

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*3 лістапада 1979 г.*

Паважаны пане Юры.

Прачытаўшы артыкул (радасны) А. Бэргман аб адкрыцьці мэмарыяльнай дошкі (у Вільні) у гонар Б. Тарашкевіча, хачу Вас паведаміць, што ня ўсё так радасна, як аўтарцы здаецца — ці таму, што здалёк, ці яна апіраецца на паведамленьні (я так думаю) ініцыятара гэтай падзеі Антона Янкоўскага[51].

Выйшла ўсё вельмі прыкра, што найменш. Дошку адкрылі — праўда, але, відаць, не як Б. Тарашкевічу — беларускаму дзеячу, а як Б. Тарашкевічу — дзеячу партыйнаму… Людзей было вельмі мала. Прамовы — толькі па-літоўску і па-расейску. Па-беларуску — ні аднаго слова… А дошка ў 2-х мовах — літоўскай і расейскай…

Дзе ж тут Тарашкевіч-беларус? Галоўную ролю іграла яго *жена и сподвижница* Ніна Аляксандраўна[52]… Яшчэ шчасьце, што дрэнны стан здароўя не пазволіў прыехаць

Веры Андрэеўне — першай жонцы Б. Т[арашкевіча]ча. Бо якое ж было б яе становішча? А яна ж была пры Тарасе (як яго тут называлі) у самыя цяжкія для яго гады, і якую ён пакінуў тут разам з маладзенькім сваім сынам.

Дзіўлюся нахальству гэтай маскоўскай жанчыны. Яна ж і ў Польшчу езьдзіла і ўсюды выступае. Зарабляе сабе папулярнасьць.

Думала напісаць у «Ніву», але там гэтага не зразумеюць, як не разумее і А. Бэргманова. А нам тут балюча… Мо каб хто іншы быў ініцыятарам, інакш бы справу паставіў. А гэты А. Янкоўскі — чалавек недалёкі, а — заразумелы… На нашую бяду. Такія ў нас навіны. Як бачыце — невясёлыя. А што ў Вас?

Пісала я ў справе артыкула М. Гайдука[53] (да яго) аб З. Абрамовічу. З. Абрамовіч — мой стары сябра па Гродзенскім беларускім гуртку, які быў створаны роўна 70 гадоў таму. Што ў яго расказах ёсьць шмат blagi[54] — няхай сабе, гэта тычыцца яго самога і нікому ня шкодзіць, але я мусіла выясьніць тое, што ён беспадстаўна расказвае аб спатканьні з І. Буйніцкім у Менску ў клюбе моладзі «Беларуская хатка». Такога «клюбу» там не было, і спатканьне адбылося ў іншым мейсцы. Наблытаў стары дзед — ён ад мяне старэйшы аж на 3 месяцы! Ці М. Гайдук атрымаў гэты мой ліст — ня ведаю.

Усяго найлепшага ўсёй Вашай сям'і. Ад маіх — шчырае прывітаньне. *Л. Войцікава*.

ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*27 лістапада 1979 г. Вільня*

Паважаны пане Юры.

Учора выслала да Вас ліст — адказ на той дзіўны. Сяньня атрымала выясьненьне, у чым справа, і сьпяшаюся напісаць.

Што да таблiцы, я прытрымліваюся свайго пагляду. Літоўцы літоўцамі, але зь Вільні — калыскі беларускага руху, безь якога не было б Б. Тарашкевіча як такога, — духу беларускага выганяць ніхто ня мае права. Каб справа не была пастаўлена *аднабока* (Вы хіба дагадаецеся, што маю на думцы), то нават тым недабіткам-беларусам, якія тут асталіся, можна было б даць голас. Занадта крыўдна, што галоўнай была *жена и сподвижница*…

А найгоршае, што табліца не азначае ясна, *дзе* жыў Б. Т[арашкевіч], дзе была рэдакцыя (аб якой піша А. Бэргман), а гэта можна было зрабіць — абы хацець. Слова *белорусский*, на вялікі жаль, цяпер мала што гаворыць ня толькі тут, але і ў самой Бел[арускай] Рэспубліцы.

Быў у нас тут які зіц-рэдактар са Слонімшчыны[55] (Зэльвенскі раён). Ён мне пісаў, нават некалькі гадоў таму прыяжджаў адведаць. Пісаў па-беларуску, нават добра, хоць прызнаваў, што «ў нас афіцыяльная мова — руская». А цяпер і сам ужо па-беларуску ня піша. І гэта стары чалавек, а што гаварыць аб маладых… Але аб гэтым і гаварыць ня варта. Галаву даць — не паможа.

Мы, віленчукі (хоць я і не прызнаю сябе віленскай), якія помнім і «Нашу ніву», і пазьнейшую заўзятую барацьбу за сваю мову, за захаваньне беларускага духу, тут на мейсцы асабліва чулыя на зьніштажэньне гэтага духу. Ёсьць і літоўцы, якія гэта прызнаюць. Ну, што сталася — не адробіцца…

Што да ўспамінаў аб Г. Леўчыку — я перад тым, як іх выслаць Вам, радзілася Янкі Саламевіча — што рабіць? Ён мне адказаў: «Пасылайце абавязкова. Тое, што ў "ЛіМе", — гэта толькі частка. Ваш рукапіс скараціў я, а рэдакцыя яшчэ скараціла». І сам перадрукаваў на машынцы, нават у 3 экзэмплярах. Яму ішло аб тое, што там маіх уласных успамінаў вельмі мала, а пераважна лісты самога Г. Л[еўчы]ка. Але трудна. Не — дык не…

Горш будзе пакрыўджаны Сяргей Новік-Пяюн, які выслаў рэдактару Г. Ваўкавыцкаму свае ўспаміны «Дзядзька Гальяш», якія «ЛіМ» друкаваць адмовіўся, а рэдактар

Г. Ваўкавыцкі абяцаў. Цяпер, калі ведаю, што мой матэрыял ня пойдзе ў друк, усе мае просьбы да Вас (аб 3 экз. календароў, «Гісторыі Беларусі»), ясна, адпадаюць.

На ўспаміны аб гуртку ў мяне яшчэ менш надзеі — іх і сама рэдакцыя не прапусьціць. Зрэшты, тэрмін — 1981 г. — гэта ўжо не на мае гады і не на маё здароўе.

Ведаеце, дзіўна, але я аб брашурцы «Грыбы» першы раз чую. Перагледзела ўсю «Беларускую борць», «Саху», сьпіскі тагачасных і ранейшых выданьняў і — сьледу не знайшла. Але буду пытацца, можа, што даведаюся. У «Беларускай борці» быў нават аддзел «Грыбазнаўства», але там толькі адзін артыкул — «Зьбіраньне і сушэньне смаршчкоў» Кіры Матушкевічанкі.

Пераглядаючы «Беларускую борць», знайшла ў аддзеле «Гігіена і мэдыцына» кароткую зацемку: «Ёсьць беларуская малая, але добрая і танная кніжачка аб гадаваньні дзіцяці: "Dr. Br. Turonak. Higiena uzhadawańnia dzicjaci. Wilnia, 1928"». Вы хіба аб гэтым ведаеце?

Здавалася мне, што маю здымак *таго* дому ў панадворку Віленскай, 12, дзе фактычна на паверху жыў Б. Т[арашкеві]ч, а на партары былі: рэдакцыя грамадаўскай прэсы (я там працавала 5 гадоў), ТБШ, кватэра Антона Грыневіча і Беларускі студэнцкі саюз. Але прыпомніла, што я гэты здымак уклеіла ў сшытак сваіх успамінаў, які дагэтуль у Я. Саламевіча. Магчыма, Вы яго заўважылі?

Усяго найлепшага! *Л. Войцікава*.

Выбачайце за розныя папраўкі і мазаніну, але вельмі дрэнна чуюся.

ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*16 сьнежня 1979 г.*

Паважаны пане Юры.

Шчыра дзякую за ліст і за сьвяточныя павіншаваньні. Шкадую, што не магу нічога канкрэтнага напісаць аб др. Кастравіцкім[56]. Апрача таго, што ёсьць у маіх успамінах, нічога ня ведаю.

Спаткала раз ці два на сходках Нацыянальнага Беларускага камітэту — там крыху пагаварылі. Я нават зьдзівілася, калі ён зарэкамэндаваўся, што раней ня чула пра брата К. Каганца, аб якім усё ж ведала яшчэ з «Нашай нівы».

Пасьля, калі ён зацікавіўся дзіцячым беларускім прытулкам, які быў тады на летнішчы ў маёнтку Ядвігіна Ш. — у Карпілаўцы, я скарыстала і папрасіла аб некаторыя мэдычныя парады. Др. Кастравіцкі вельмі ахвотна адказаў на мае пытаньні, а пасьля скамплектаваў для прытулку аптэчку з усімі неабходнымі лекамі, якія ў той час было нялёгка дастаць. Гэта была для нас вялікая помач.

Камітэт Таварыства помачы ахвярам вайны свайго лекара ня меў, грошы — таксама вельмі мала. Др. Кастравіцкі ў Менску быў коратка, а пасьля я ўжо аб ім нічога ня чула, тым больш што ў палове 1918 г. зь Менска выехала ў Гродзеншчыну, дзе жыла да 1923 г.

Мае стараньні даведацца аб брашурку аб грыбах таксама нічога не далі. Я пыталася Янку Багдановіча, які працаваў у Скарынінскай друкарні і адначасна быў рэдактарам і супрацоўнікам «Шляху моладзі». Ён мне адказаў, што нічога ня помніць, але перагледзеў гадавік «Шляху моладзі» за 1937 г. і там у аддзеле «З выдавецкай нівы» знайшоў зацемку: «Выйшла з друку брашурка "Аб садах і грыбах", 32 стар.», але не паданы ні аўтар, ні выдавецтва. Магчыма, будзеце мець больш шчасьця, шукаючы сьлядоў гэтай брашуркі ў Менску.

Прачытаўшы ў «Ніве» артыкул А. Бэргмановай аб М. Бурсэвічу[57] і сувязі, якую яна навязала з сынам Бурсэвіча Ігарам[58], я моцна занепакоілася, каб п. Бэргман ня выкарыстала і іншых успамінаў Ігара Б-ча. Ня ведаю, ці я Вам успамінала аб тых «успамінах» ці не? На ўсялякі выпадак крыху напішу.

Ён чамусьці прыслаў свае «ўспаміны» ў Гудзевіцкі школьны музэй. Загадчык музэю А. М. Белакоз, прачытаўшы тую частку, што тычыцца Вільні і Віленскай Беларускай гімназіі, пабачыў, што там шмат — як сказаць? — незразумелага, загадкавага. І прыслаў гэтую частку мне — пераглядзець. Я не хацела браць усяго на сваю адказнасьць, апірацца толькі на сваю памяць. Пачала пісаць лісты да былых вучняў гімназіі, былых віленскіх дзеячоў. Выслала лістоў пару дзясяткаў.

Усе абураліся, усе пратэставалі процiў «успамінаў» І. Бурсэвіча. Дзівіліся, што яго змушае так пераінaчываць факты. Маючы такую падтрымку і помач, я напісала спраставаньні да ўспамінаў І. Б-ча і паслала ў Гудзевічы. Заняло мне гэта месяцы 3. Сабе аставіла: копію тых «успамінаў» і копію майго спраставаньня.

Дзеля арыентацыі падам дзьве яго «кветачкі». 1. Калі беларуская моладзь хацела паступіць у Віленскі ўнівэрсытэт, улады вымагалі, каб яна адракалася ад сваёй нацыянальнасьці. 2. У Віленскай Беларускай гімназіі выдаваўся школьны часопіс *«Снапок»*[59], які рэдагаваў С. К. Паўловіч[60] (дырэктар), удзельнічала ў выдавецтве школьная моладзь. «Снапок» быў пад уплывам КПЗБ…

Мо не зусім даслоўна падаю, але сэнс ня зьменены. Вы, напэўна, ведаеце, што такое быў «Снапок» — пад чыім уплывам і *дзе* выдаваўся. Калі будзе трэба — выясьню. Вось такімі інфармацыямі запоўненыя «ўспаміны» Ігара Бурсэвіча.

Што да літоўцаў як да гаспадароў свайго Краю — я іх шаную, дзіўлюся і — зайздрошчу. Ці Вы, п. Юры, у сваёй падарожы па Літве былі ў іх скансэне? Мой унук быў у пазапрошлым годзе — захоплены тым, што патрафілі зрабіць на тых 640 гэктарах. А цяпер робяць там фільмы. Нядаўна мы такі фільм бачылі ў тэлевізары. У нас ён каляровы, так што ўсё выглядала натуральна. Будынкі, платы, нацыянальныя вопраткі харыстаў, танцораў і г. д. Паказывалі Жэмайтыю. Мова аўтэнтычная — жмудзкая. Вось як робіцца. Нават скрыначкі з цукеркамі — з абразкамі скансэну.

А ў нас? Нават тых няшчасных 100 гэкт. ня могуць загаспадарыць. Што ж, засядаюць на розных узроўнях, радзяцца… А час ідзе. А ўкраінцы скансэн ужо маюць. Хоць таксама малы — 100 гэкт., але ўжо здымкі і артыкулы ў прэсе ёсьць. Праўда, у нас «палітыка» час займае… і — разбурэньне старажытных помнікаў…

Ліст горкі — выбачайце. Апрача ўсяго вельмі дрэнна чуюся. Усяго найлепшага. *Л. Войцікава.*

ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*27 студзеня 1980 г. Вільня*

Паважаны і дарагі Фёдар Міхайлавіч.

Сардэчна дзякую за цёплы (ці заслужаны?) надпіс на Вашых «Абразках». Чаму адразу пішу? Бо ўчора, пажагнаўшыся зь мілымі гасьцямі і з прыкрасьцю падумаўшы, што ня маю чым падзяліцца з Вашым інстытутам, раптам прыпомніла, што маю свой рукапіс з 1920–21 году — «Мёдадайныя расьліны» (цяпер пішуць — *мёданосныя*). Частка яго друкавалася ў «Беларускай борці». Рэшта ляжыць. Гэта амаль тое самае, што «Батанічны слоўнік», нават у чатырох мовах, бо ёсьць і ўкраінскія назовы расьлін. Сяньня да друку не надаецца. Праўда, шмат палянізмаў, але не ў назовах расьлін — там усё чыста.

Калі Вас гэта цікавіць, калі ласка, напішыце некалькі слоў — адразу вышлю. Спатрэбіцца — добра, не — кінеце ў печку. У мяне ляжыць без усялякага ўжытку. Праўда, у Вас печкі німа…

Што тычыцца майго «Батанічнага слоўніка», то яшчэ летась Лідзія Іванаўна Збралевіч[61] паведаміла мне празь Сяргея Новіка-Пеюна, што ў яе ў бібліятэцы ёсьць 2 экз., і таму адзін можна ахвяраваць на рэпрадукцыю. Для прыватных асоб рабіць

рэпрадукцыі нельга, але для ўстаноў — можна. А мне трэба для Інстытуту мэдыцыны ў Гродне і для Гудзевіцкага музэю, бо яны там проста плачуць. А слоўнік, які я ім дала ў 1968 г., ад безупыннага ўжываньня зусім рассыпаецца.

Тым часам мінула больш за паўгоду, а рэпрадукцыяў німа. Цяпер я даведалася, што Акадэмія не дастала нейкага парашку, патрэбнага для гэтай работы, і калі сёлета дастаць парашок, то, напэўна, абяцаньне выпаўняць. Мо пры гэтай нагодзе і для Вашага інстытуту зробяць? Але гэта ўжо Вам трэба ад імені інстытуту папрасіць.

Нядаўна я даведалася, што Вы знаёмыя з др. М. М. Марцінчыкам[62] з Гродна. Гэта мой стары знаёмы — яшчэ з 1924 г. Ён таксама пераживае (як і я) усе памылкі ў нашай мове. Патрапіць нават, аглядаючы ў тэлебачаньні «Роднае слова», падлічыць, колькі разоў вядучы паўтарыў чужое для нас слова. Пачне ў лісьце пералічваць памылкі, а пасьля абрывае: ня буду больш псаваць Вам нэрвы.

Да нас менскае тэлебачаньне не даходзіць, але У. І. Содаль прысылае мне сцэнарыі, каб я арыентавалася, што і як робіцца. І я яму за гэта ўдзячная.

Цяпер у іншай справе. Я даведалася, што ў Вас арытмія сэрца. Ці не парадзіў бы Вам лекар піць зёлкі — сардэчнік (рас. *пустырник*, лац. *erythraea centaurium*). Калі гэтая самая хвароба заатакавала Янку Маркавіча Хвораста[63], я папрасіла, каб ён свайго лекара запытаўся, ці можна яму піць сардэчнік. Лекар адказаў, што ня толькі можна, але і вельмі пажадана. Я паслала (сушу шмат усялякіх зёлак), і ён піў даўжэйшы час. Пісаў, што добра дзеіць. Але пасьля неадпаведныя ўколы моцна пагоршылі стан яго здароўя. Што зь ім цяпер — ня ведаю.

Калі Вы хочаце папрабаваць піць сардэчнік, то шчыра напішыце. Маю нямала сьвежага і з прыемнасьцю прышлю. Ведаю, што Вы ўлетку спатыкаліся зь Юрым Туронкам, таму пасылаю Вам здымак, зроблены падчас яго побыту ў нас. Можа, гэта зробіць Вам прыемнасьць.

Трэба мець надзею, што Вашае здароўе палепшае, і мы зможам пабачыцца. А калі хочаце пазнаёміцца з даўнімі лістамі сялян-пчаляроў (маю іх шмат), якія пісалі ў «Беларускую борць», то прысылайце каго з Вашых вучняў. Мо знойдзецца што цікавае, а сяньня і па вёсках забытае.

Усяго Вам найлепшага! Зычу з добрымі вынікамі змагацца з хваробай. *З. Верас*.

НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*18 кастрычніка 1980 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сямёнавіч.

Выбачайце, што забіраю час, але, мне здаецца, што Вы хутчэй мяне зразумееце, чым хто іншы… Справа ў маім старым-старым (ад 1927 г.) знаёмым і супрацоўніку «Заранкі» С. М. Новіку-Пеюну. Ён мне піша: прыходзіла да яго дзяўчынка — вучаніца блізкай школы, нават часам з маткай. Памагала яму ўтрымаць у памяшканьні чысьціню — падмясьці, сьцёрці пыл… Што яму, старому, хвораму ды яшчэ з хворымі вачамі, было пэўнай падтрымкай — і фізычнай, і маральнай.

І што ж? Настаўніца гэтай дзяўчынкі хадзіць да С. М. Новіка-Пеюна — *забараніла*! Бо: «Ён хворы, і ня трэба яму дакучаць!». Дзе тут лёгіка? Не разумею…

Заместа таго, каб моладзь *па-людзку* адносілася да старых людзей, стварыла нейкія «групы апекі», як гэта бачым у іншых краінах, — забараняць такую акцыю ў адным выпадку…

У яго ж і матэрыяльнае становішча цяжкае. Нейкая помач патрэбная. Незразумела гэта і — балюча. І што рабіць-парадзіць? Магчыма, я зусім не па належнаму адрасу зьвярнулася? Дык выбачайце…

З зычлівасьцю і павагай — *Л. Войцікава*.

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*9 лістапада 1980 г. Вільня*

Паважаны пане Юры.

Учора выслала ліст да Вас і толькі пасьля агледзелася, што ні слоўка не напісала аб тым «слаўным» артыкуле Якуба Міско[64] ў «Маладосьці». Я той артыкул адразу, як атрымала часопіс, прачытала і, абураная, паказала Лявону. І яго гэта нямала знэрвавала, я думаю.

І што з такімі тыпамі, як той аўтар, рабіць? Пратэставаць у прэсе? Немагчыма, бо ў нас німа звычаю зьмяшчаць пратэстаў. Ніякая мана не аспрэчываецца. І гэтая, калі ідзе аб Заходнюю Беларусь, — нармальна.

У адным з нумароў гэтай самай «Маладосьці» быў артыкул У. Калесьніка, у якім ён вельмі падрабязна апісывае працу розных меншых і большых беларускіх палітычных згрупаваньняў, зразумела, у надзвычайна пазытыўным тоне. Няхай — гэтаму ніхто не запярэчыць, але зь якой мэтай дадае: «Былі тут розныя каапэратывы — розныя рэдакцыі, і мы іх *цярпелі*». Зразумела, мае на думцы каапэратывы і рэдакцыі беларускія. А што мы дрэннага рабілі? Якую шкоду рабілі беларускай справе?

Каапэратывы былі: Беларускі каапэрацыйны банк, Спажывецкі каапэратыў (вельмі коратка), Пчалярскі каапэратыў «Пчала». Рэдакцыі (апрача грамадаўскай, якая, зразумела, пад увагу не бярэцца): «Студэнцкая думка», «Шлях моладзі», «Заранка».

Чым гэта ўсё было шкоднае і што палітычным згрупаваньням перашкаджала? Сяньня, калі вельмі мала хто ясна арыентуецца ў грамадзкай працы тых часоў, а шмат што наагул затушоўваецца, такія словы У. Калесьніка гучаць вельмі тэндэнцыйна і фальшуюць тагачасныя падзеі.

Яшчэ раз усяго добрага. *Л. Войцікава*.

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*4 сьнежня 1980 г. Вільня*

Паважаны Уладзімір Ільіч.

Дзякую за ліст, які ўжо даўно атрымала. Зайздрошчу Вашай занятасьці, Вашаму жыцьцю, якое кіпіць дзейнасьцю. Гэта нічога, што бывае цяжка і не пасьпяваеце ўсяго зрабіць у свой час. Як жа я некалісь любіла такое жыцьцё! Чым большы каля мяне быў вір, тым, здаецца, больш прыбывала энэргіі, тым хутчэй усё выпаўнялася. І стома ня брала, і адпачываць не хацелася. А цяпер як жа цяжка некалькі лістоў запар напісаць! Ніколі гэтага не было, а цяпер і задрамаць седзячы здараецца. Аж сорамна… але што рабіць? Гады сваё бяруць, нідзе ад іх ня дзенешся.

Яшчэ добра і тое, што памяць ня траціцца. Уся мінуўшчына перад вачамі — як жывая.

А мо гэта і горш? Бо вось Вы пішаце, што карэспандуеце з дочкамі А. Паўловіча[65]. І мне прыпомніліся ўспаміны гэтай самай Тамары[66] ў кніжцы Альбэрта Паўловіча — яго зборніку. Чаго яна там ні панапісывала! І хатнія канцэрты (што ж, магчыма), і беларускія пісьменьнікі да іх зьяжджаліся — толькі дзіўна, чаму ж ніколі ніхто не бываў з тых, што жылі і працавалі ў Менску? Цікава, чаму не было сувязі паміж А. Паўл[овічам] і Ядвігіным Ш. ды яго дачкой? А што, як яна піша, бываў у іх Максім Багдановіч, то гэта ёй, мусі, прысьнілася. Максім *ніколі* ў іх ня быў і пазнаёміўся з А. Паўловічам (як і мы ўсе) і зь яго дачкой Уладкай (Уладыславай) і зь зяцем Я. Фарботкам[67] толькі ў «Беларускай хатцы» на спатканьні Новага 1917-га году.

І скуль у іх сям'і ўзялося імя «Тамара»? Хіба пасьля сябе так назвала, бо ў іх усе дзеці мелі каталіцкія імёны. Іх сям'я *не прыймала* ніякага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці Менска тых часоў — 1915–1918. Не кажу аб зьездах, кангрэсе. Ня кожны хоча ў палітыцы сябе выяўляць, але ў такой установе, як Т[аварыст]ва помачы ахвярам вайны, дзе кожныя

рукі былі патрэбныя? Гэта дзіўна і незразумела. І ў канцы пытаньне: дзе яны жывуць і чаму сваёй мовы адракліся? А с. п. Ванда да канца жыцьця інакш не гаварыла і са сваімі дзяцьмі, што яны стала прыпамінаюць.

Я Вам пісала, што паслала Алесі Лёсік II том «Гісторыі літаратуры» А. А. Лойкі. Яна атрымала і зараз мне напісала вельмі сэрдэчны ліст. З кніжкі рада. Піша: «Чытаем усёй сям'ёй». Значыцца, яна чытае сваёй дачцэ і ўнукам і, напэўна, тлумачыць словы, якіх тыя, магчыма, не разумеюць. Хоць гэтак да пра-праўнукаў Ядвігіна Ш. даходзіць беларускае слова. Добра і гэта.

Алеся працуе апошні год. Магла ўжо быць на пэнсіі, але і ўлады школьныя, і бацькі дзяцей прасілі, каб давяла свой клас да канца. Цяпер Алеся прасіла, каб я ёй прыслала ўспаміны аб яе матцы. Я абяцала. Як ведаеце, яны ў мяне ўжо ёсьць, але хачу яшчэ дадаць некалькі драбніц з нашага зь ёю супольнага жыцьця. Тады і пашлю.

Мушу падзяліцца з Вамі вельмі непрыемнай для мяне падзеяй, хоць, праўду сказаць, зь Менска ўсяго можна спадзявацца. Атрымала я з Купалаўскага музэю прапанову-просьбу напісаць успаміны аб Я. Купале да кніжкі, якая рыхтуецца на яго 100-годзьдзе. Скажаце, што гэта, наадварот, прыемна? Перадусім, я Купалы *ня знала* зусім. Раз, праходзячы, бачыла. Гэта, зразумела, напісаць ім лёгка, і ніякай прыкрасьці ў гэтым німа.

Справа ў іншым: просьба напісаная *па-расейску!* З подпісамі А. Кулакоўскага і Цьвіркі. Скажыце мне, зьлітуйцеся, што гэта значыць? Няўжо ўсе ўстановы у г. зв. БССР вядуць карэспандэнцыю ў чужой мове? А тым больш *Купалаўскі музэй?* А дзе ж дзелася Ядвіга Юліянаўна Раманоўская[68]? І яна, і яе дачка пісалі мне пару разоў па-беларуску. А Я. Ю. нават была ў мяне. А што за «зьверы» — пісьменьнікі Цьвірка і Кулакоўскі? Друкуюцца, ведаю, хоць па мове ў іх артыкулах відаць, што ў гутарцы яны ёю не карыстаюцца. І як ім адказаць? Зразумела, па-беларуску — я інакш не пішу, але каб яны зразумелі ўсю агіду свайго паступку, усю абразу і мяне, і хіба Я. Купалы? Цікава, што Вы мне парадзіце…

Усяго Вам найлепшага! Шмат энэргіі і вытрываласьці! Як маецца Іван Уладзіміравіч? *Л. В.*

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*4 студзеня 1981 г. Вільня*

Дарагі Фёдар Міхайлавіч.

Дзякую Вам за такія цёплыя словы і пажаданьні. Хачу падзяліцца з Вамі адной прыемнай падзеяй, бо ў прэсе, зразумела, аб гэтым нічога німа, а ў Менску хіба мала хто ведае.

9 сьнежня ў Брэсцкім тэлебачаньні была перадача да 80-годзьдзя Міхася Забэйды. Пішу аб гэтым таму, што ведаю аб Вашай прысутнасьці на вечары, які ладзілі менскія мастакі з гэтай самай нагоды. І вось перадача «Песьняй акрылены», падобна, была вельмі ўдалая. На сцэне — вялікі партрэт сьпевака ды шмат іншых яго здымкаў паказана. Прагучалі 4 песьні ў яго выкананьні з кружэлак.

Ладзіў перадачу малады і, па-мойму, вельмі здольны пісьменьнік Уладзімір Ягоўдзік, які працуе ў Брэсцкім тэлебачаньні. Ён скончыў менскі ўнівэрсытэт — філялёгію. Было пару яго невялікіх твораў у «ЛіМе» — «Стрэл дуплетам» і «Стронга». Тэмы сьвежыя, добры стыль і мова.

Калі ён быў яшчэ вучыўся, прыяжджаў да мяне з цэлай групай студэнтаў. Іх прысылаў Алег Антонавіч Лойка, каб я расказала пра Максіма Багдановіча. Так мы з У. Ягоўдзікам пазнаёміліся. Некалькі разоў прыяжджаў, піша мне, дзеліцца сваімі праектамі. Вельмі яму хацелася зрабіць перадачу аб М. Забэйдзе. Бачыў у нас альбом «На вышыні мастацтва» — аб сьпеваку. У альбоме — нарыс аб ім (аўтар — с. п. Янка Шутовіч[69]) і шмат добрых здымкаў.

Мне ня вельмі верылася, што яму такую перадачу зрабіць дазволяць. Але вось свайго дабіўся! Ад нас дастаў патрэбныя здымкі. Паехаў у родную вёску сьпевака, там рабіў здымкі да паведаміў сваякоў і знаёмых М. Забэйды аб часе перадачы, каб паглядзелі, паслухалі. Хто бачыў, пісалі мне, што вельмі добра ўсё ўдалося. Я вельмі за Валодзю Ягоўдзіка рада. Цяпер у яго нейкая новая задума. Шукае матэрыялаў, але што там мае быць — пакуль маўчыць.

Як заўсёды, з прыемнасьцю чытаю Вашыя «Абразкі», і то не па аднаму разу. Вельмі спачуваю Вам у Вашых фізычных недамаганьнях. Як цяжка тады працаваць, як трэба напружываць сваю сілу волі — ведаю па сабе, бо апошнія часы вельмі дрэнна чуюся.

Німа майго доктара Міколы Міхайлавіча Марцінчыка… Німа каму так шчыра і сардэчна даваць парады, як гэта ён умеў рабіць. Мы зь ім былі знаёмыя 54 гады, а гэта нешта значыць.

Хопіць займаць Вам час. Бывайце. Няхай Вам гэты год дасьць усё найлепшае. *Зоська Верас.*

## СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

*10 лістапада 1982 г. Вільня*

Дарагі Станіслаў Пятровіч.

Дзякую за павіншаваньне са сьвятам Кастрычніка. Хацела б на Вашае пытаньне адказаць найбольш зьмястоўна. Але ня ведаю, якія мае ўспаміны Вы чыталі? Ці машынапіс у Івана Уладзіміравіча Саламевіча, ці фрагмэнт «Мінск», які прыгатавалі (хто — ня ведаю) да друку ў альманаху «Спадчына»[70]. Калі машынапіс — то там усё дакладна, вельмі дакладна пра ўсе 3 гады майго жыцьця ў Менску — пра Камітэт помачы ахвярам вайны, яго працу: сталоўкі, прытулак і г. д. Калі ж — матэрыял, прыгатаваны да друку, то там можа быць шмат прапушчана, шмат скарочана…

Калі буду ведаць, што Вы чыталі, — напішу падрабязна. Цяпер толькі скажу, што ні прыгараду Капеевічы, ні таго дзіцячага дому я ня ведала. А хто той дзіцячы дом ці прытулак арганізаваў, якая ўстанова? Справамі бежанцаў займаўся г. зв. Тацьцянінскі камітэт і «Всероссийский земский союз».

Нашаму беларускаму дзіцячаму прытулку даваў сякую-такую помач Тацьцянінскі к[амітэ]т. Апрача таго, даставалі прадукты з Саюзу гарадоў. Як жа я ўсё гэта помню! Здаецца, учора было.

Што Вас найбольш цікавіць — пішыце, пытайцеся, з прыемнасьцю адкажу. А можа, бываеце ў Вільні? Тады маглі б мяне адведаць. Маю з таго часу розныя нататкі, лісты.

Усяго добрага! З прывітаньнем — *Л. Войцікава*.

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*5 сьнежня 1982 г.*

Паважаны пане Юры.

Дзякую за ліст ад 13/XI і за весткі аб Дні беларускай літаратуры і культуры. Я вельмі шкадую, што ня ведала раней аб гэтай імпрэзе, а галоўнае, што едуць у Варшаву зь Менска. Мне трэба абавязкова перадаць у Варшаву матэрыялы — жыцьцяпісы 2 людзей і іх здымкі. Праз пошту баюся… Калі б прапалі, то трэба было б ізноў перапісываць усё нанова, а мне проста не хапае ўжо на гэта сілы.

Справа такая, што ў Варшаве жыве сын маёй сяброўкі зь дзяцінства і маладосьці — яна была зь беларускай сям’і з Сакольшчыны, сям’і, знаёмай мне ад самага раньняга майго дзяцінства. А яе муж — паляк, і то паляк-шавініст, які сваіх дзяцей адгарадзіў зусім ад матчынай сям’і.

Цяпер іх сын (знаёмы мне асабіста, я стала зь ім лістуюся), чалавек разумны, вельмі хоча падрабязна ведаць аб жыцьці і дзейнасьці матчыных братоў — сваіх дзядзькоў. Я маю іх жыцьцяпісы і здымкі. Жыцьцяпісы пісаны па-беларуску, і я іх мусіла перакладаць на польскую мову. Ведаеце, што заўважыла? З польскай на беларускую лягчэй перакладаць, чым наадварот. Не разумею — чаму?

І вось цяпер надзея на перасылку гэтых матэрыялаў толькі на Вашага сябру Аляксея К[аў]ко. Ён мне час ад часу піша. Але цяпер не магу яго злавіць. Напісала на маскоўскі адрас і на г. зв. палёвую пошту і — чакаю.

Аб спадчыне М. Забэйды, што ў Варшаве, пісьменьнікі ведалі ад мяне. На мой дзень нараджэньня прыяжджалі зь Менска працаўнік Акадэміі Генадзь Каханоўскі і паэт Сяргей Панізьнік. Я ім сказала, а С. Панізьнік паведаміў аб гэтым А. Мальдзіса. Цяпер С. Панізьнік быў пару дзён у нас. Ён мне казаў, што справа спадчыны Забэйды ў Празе наладжваецца. Казаў: «У Празе ацанілі спадчыну вельмі нізка і прапанавалі нам (Менску) зусім ад яе адмовіцца, бо выдаткі на перавоз не аплоцяцца. Але нашы ўсё роўна згадзіліся ўзяць, і ЦК, і іншыя ўстановы — “за”, і музэй — “за”, і будзе браць». Вось такія справы. То, можа, і тую спадчыну, што ў Варшаве, возьмуць?

Хіба пара ўжо нешта зрабіць. 21 сьнежня — ужо год ад сьмерці сьпевака. У Празе паставілі яму мармуровы помнік. Дык надпісы па-беларуску і па-чэску. У мяне шмат лістоў ад М. Забэйды. А цяпер я лістуюся з Надзеяй Кастэцкай, якая са сваім мужам (чэхам), артыстам-скрыпачом, апекаваліся Забэйдай і вельмі былі зжытыя зь ім. Яна, Н. Кастэцкая, сама з Баранавіч, пяяла некалісь у хоры Г. Цітовіча. Сама прызнае, што толькі дзякуючы знаёмству і прыязьні з Забэйдай, захавала сваю мову. Значыцца, ён заслужыў удзячнасьць сваёй Бацькаўшчыны ня толькі як пашыральнік яе песьняў, але і як захавальнік роднай мовы.

А ў Менску ёсьць выкладчыкі беларускай мовы, якія пытаюцца: «Забэйда? Першы раз чую. Хто гэта такі?».

Пасылаю Вам пару здымкаў са свайго юбілею. Маю надзею, што да Вас даедуць. Дзякуем за каляндар. Гэта ўжо другі экзэмпляр — першы прыслаў нам з Масквы Аляксей Каўко.

Усяго найлепшага! Прывітаньне сям'і. Шчыра зычлівая *Л. Войцікава*.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*7 чэрвеня 1983 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Сардэчна дзякую за кніжкі. Парывалася адразу напісаць, падзякаваць, але ня мела Вашага адрасу, толькі сяньня яго дастала ад А. Наліваева[71].

Зборнік паэзіі зрабіў мне вялікую прыемнасьць. Колькі разоў ужо прачытала «Сінюю Пушчу»[72]. Першы раз у нашай літаратуры спаткала такое глыбокае зразуменьне прыроды… А пра нашы народныя песьні? Яны мяне перанясьлі ў тыя далёкія часы маёй маладосьці… У 1909 г. — час арганізацыі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі… Была мая першая сустрэча з М. Федароўскім, г. зн. зь яго першымі 3-ма тамамі «Ludu Białoruskiego». Пасьля, у 1914-м, спаткалася і з самім аўтарам.

Далей — выбраньне бібліятэкарам нашага гуртка, як мы яго кансьпірацыйна называлі — ГГБМ. Выпісывала з суполкі «Загляне сонца ў наша ваконца» кніжкі і «Сьпеўнік» А. Грыневіча. Ім карыстаўся наш гуртковы хор. Паміж іншым, кніжкі, сьпеўнікі, як і «Наша ніва» ды календары, выпісываліся па некалькі экзэмпляраў (календары — па 100 штук) — дзеля распаўсюджваньня па вёсках Сакольшчыны, адкуль, пераважна, былі нашы сябры.

І сяньня захоўваюцца ў мяне тыя запісы — па колькі чаго было выпісана. Ужо ў Вільні ў 1924–25 гг. пазнаёмілася асабіста з Антонам Грыневічам. Бачыліся часта, бо ён жыў у тым самым доме, дзе я працавала, — Віленская, 12.

Крышачку песьняў, прыпевак (не прызнаю слова *частушкі*) і дзіцячых калыханак я сама запісала ў сваёй Сакольшчыне. Драбяза гэта, але прыемна часам пераглядзець, паўспамінаць. Такое далёкае-далёкае…

Мо таму так доўга трымаюся, што жыву ў цудоўным лясным куточку. Шмат хто да мяне прыяжджае, але мала хто гэтае хараство заўважае.

Як на першы ліст, напісала мо больш чым трэба. Калі б Вас што цікавіла, калі ласка, пішыце, пытайцеся. Нехта, ня помню ўжо хто, пісаў мне, што Вы, паважаны Ніл Сымонавіч, зьбіраліся прыехаць. А можа, сапраўды можна было б гэта зьдзейсьніць? Была б вельмі рада.

Шчыра вітаю Вас — *Зоська Верас*.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*2 ліпеня 1983 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Сардэчна дзякую за ліст, за шчырыя высказываньні сваіх думак. Гэта так рэдка здараецца. Адныя баяцца, другія (іх большасьць) абыякавыя да фальшу і хлусьні. А як гэта цяжка і балюча, калі апаганіваюць тое, што для нас павінна быць самым дарагім, самым чыстым, бо гэта нашыя крыніцы.

А ці гэта толькі ў адной кніжцы пра Купалу[73]? А розныя дробныя артыкулы пра Віленскую Беларускую гімназію? А ўспаміны пра яе, якія, на шчасьце, не друкаваліся, а высылаліся ў школьныя музэі? Ды ці аб усім напішацца ў лісьце?

Але я ўсё гэта маю, і маю крыху напісанага аб гэтым у крытычным духу — не да друку, ніхто б і не друкаваў, а так для сябе і для тых, каго варта пазнаёміць з праўдай. А найбольшы клопат маю зь Бядуліным «Страцім-Лебедзем». Большай і беспадстаўнай хлусьні ў жыцьці не спаткала, а высьветліць яе аніяк не ўдаецца.

Пару гадоў таму быў у мяне дырэктар Музэю М. Багдановіча. Я яму зьвярнула ўвагу, што мае ў сябе зусім фальшыва асьветленае жыцьцё Максіма Б. у Менску — г. зв. успаміны З. Бядулі «Страцім-Лебедзь» у кніжцы «Шлях паэта». Ён папрасіў напісаць аб гэтым і прыслаць яму. Я гэта зрабіла. Але, як ведаю, маё выясьненьне сапраўдных фактаў схаванае глыбока, бо «баяцца скандалу, які магла б зрабіць Бядуліна жонка». Але хопіць аб гэтым…

Што да маіх успамінаў, я іх маю напісаныя даўна і вельмі падрабязна. Ад 1909 году, калі распачаў сваю працу Гродзенскі гурток беларускай моладзі, аж да 1938 г., калі выйшаў апошні нумар «Беларускай борці». А і крыху пазьнейшых работ, як «Праўда аб арганізацыі працы ў рэдакцыі грамадаўскіх газэтаў» — выклікана фантазіямі на гэтую тэму М. Машары. Яшчэ крыху падобных…

Аб М. Федароўскім — зусім мала — у разьдзеле «Дзесяць месяцаў у Варшаве». А аб А. Грыневічу асобная старонка — як дадатак да разьдзелу «Вільня». Апрача гэтага, маю каля 6000 лістоў — пачынаючы ад некалькіх з нашаніўскага часу. Яшчэ і цяпер пакрысе цікавы матэрыял зьбіраецца праз карэспандэнцыі са старымі знаёмымі беларусамі.

Я вельмі, вельмі рада, што не пакідаеце думкі прыехаць у Вільню. Толькі не на гадзінку, а найменш на цэлы дзень — ад цягніка да цягніка, або машынай, калі ёсьць такая магчымасьць. Думаю, што не пашкадуеце.

Адзіны клопат — як знайсьці дарогу да мяне. Бо ж я даслоўна жыву ў лесе. Заўсёды, хто едзе першы раз, дамаўляюцца па тэлефону з маім зяцем Лявонам Антонавічам Луцкевічам і назначаюць спатканьне, а ён спатыкае і прыводзіць да нас. А калі не па тэлефону (бо цяпер зяць нерэгулярна працуе, а і ў сябе на кватэры ў горадзе рэдка бывае, найбольш тут у нас), то лістоўна, як заўсёды, на Архітэкту, 132–69.

А што гэта трэба зрабіць сёлета, то інакш і быць ня можа. У мяне, такой старой, ня толькі месяцы, але і тыдні лічацца.

Усяго найлепшага і да пабачэньня. *Л. Войцікава.*

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*11 ліпеня 1983 г. Вільня*

Дарагі Уладзімір Ільіч.

Учора атрымала Вашую бандэроль. Дзякую за «Дарогамі Максіма»[74]. Першае выданьне маю, а цяпер рада, што аўтар выправіў тое, што трэба было выправіць. Хоць ня ўсё, што я яму радзіла…

Як абухом ударыла мяне вестка аб хваробе Я. С. Пархуты. І так — адно за другім. Хіба ж Вы ведаеце, што 1 ліпеня памёр у Мінску Янка Маркавіч Хвораст — харэограф, энтузыяст беларускіх народных танцаў. Былы вучань Віл[енскай] Бел[арускай] гімназіі, Віленскага ўнівэрсытэту. Даўна цяжка хворы, амаль да апошніх мінут працаваў — запісываў, прыгатаўляў да друку старыя бел. танцы так, як патрабуе гэтага мастацтва харэографа. Напісаў і здаў шмат, але нічога не друкавалі, усё складалі на кучу.

А вось украінцы ў Кіеве ў сваёй багатай дзіцячай літаратуры зьмяшчалі беларускія дзіцячыя гульні зь песьнямі, якія ім Я. Хвораст пасылаў. Ці не балючая няўвага да сваёй старасьвеччыны? У нас толькі хлусьня заслугоўвае на распаўсюджваньне. На гэта і папера знаходзіцца.

Што да нашага саду… Я ня маю намеру ім хваліцца — напэўна, знойдуцца лепшыя і цікавейшыя, але хацелася б выкарыстаць такую магчымасьць, каб кінуць у вочы ўсім нашым паважаным паэтам, пісьменьнікам, як яны бяздумна і бяссорамна засьмечваюць нашу мову, называючы кветкі, зёлкі, кусты чужаземнымі імёнамі або іх калькай.

Не далей, як у апошнія дні, адчыняю «Родную прыроду» — вялікі артыкул пад загалоўкам «Глог». Ня душыць Вас гэтае слова пры вымаўляньні? А гэта ж чысты польскі назоў! На лаціне — *crataegus oxyacantha*, па-расейску — *боярышник*, па-польску — *glog*, па-ўкраінску — *глід*, па-беларуску — *галабень*. То чаму ж не ўжываць беларускі назоў? Ня ведаюць? То няхай даведаюцца, пашукаюць.

Учора атрымала ліст зь Беларусі! Хваляцца: «У нас у агародзе цэлая аптэка — пустырнік (расейск.) — бел. *сардэчнік*; зьверабой — бел. *сьвятаяньнік*; мацьмачыха — бел. *падбел*». Ці ня страшна? А што будзе далей, калі старыя паўміраюць? І мова як такая памрэ. Астанецца толькі граматыка, сынтаксіс, фразэалёгія — сухое мовазнаўства, сухая навука аб неіснуючай мове. І такая блытаніна ня толькі ў батаніцы, тое ж і ў арніталёгіі. Вось што мне баліць, а сілы ды часу штораз менш і менш.

А рэпартаж напісаць (і да часу палажыць) мог бы хто іншы. Добрыя рэпартажы піша Ждановіч[75]. А можа, мог бы папрабаваць Уладзімір Ягоўдзік, які цяпер працуе ў «ЛіМе»? У яго добрыя стыль і мова. Мы знаёмыя зь ім даўна, як яшчэ ён быў студэнтам. Якраз зьбіраецца прыехаць да мяне. Можа, Вы яму запрапануйце, калі ўважаеце за патрэбнае. На ўсялякі выпадак адрас яго дасылаю: *Мінск, вул. Валгаградзкая, д. 15а, кв. 13, Ягоўдзік Уладзімір Іванавіч.*

Ад маіх — прывітаньне, і ад нашага саду, дзе мора кветак, штораз шырэйшае. Шчыра — *З. Верас.*

## СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

*29 студзеня 1984 г. Вільня*

Паважаны Станіслаў Пятровіч.

Вельмі мне прыкра, што ня выпаўніла Вашай просьбы і — свайго абавязку. Увесь час вельмі дрэнна чуюся. Не ляжу стала, але і працаздольнай не магу сябе лічыць.

У вельмі сьпешных справах стараюся, па магчымасьці, адказываць, а некаторыя лісты, у тым ліку і Ваш, калі трэба было больш думаць, адкладала да лепшага часу. Сяньня ня маю надзею, каб гэты «лепшы час» хутка зьявіўся, таму хоць некалькі слоў Вам асабіста (вядома, не для друку) стараюся напісаць. Ня будзе гэта мо здавальняюча напісана, але — выбачайце. На што хапае сілы.

Наогул, задума вельмі добрая. Прырода, зьвяры, грыбы… Што можа быць больш пажаданае дзеля знаёмства дзяцей з роднай зямлёй? Верш Ваш зычны, лёгкі, мілагучны… Я крыху зьмяніла б расплянаваньне і пасьля разьдзелу «Наш родны і цудоўны Край» дала б «Дзе ні ступі — тут чары-казкі», а «Славу дзён былых мы не забудзем» — на канцы…

«Грахі» проці чысьціні роднай мовы? У Вас агульныя зь іншымі пісьменьнікамі. Чыя тут віна? Ня ведаю… Можа, мовазнаўцаў? Шчыра дбаюць, каб усе (і пісьменьнікі ў тым ліку) ведалі добра граматыку, правапіс і г. д. А хто павінен думаць, каб не засьмечвалася мова чужымі словамі і зваротамі?

Народ прыйме бяздумна тое, што чуе каля сябе. Але пісьменьнікі хіба павінны адрозьніваць сваё, народнае, даўняе, чыстае ад таго, што прыляпілася цяпер. Я не магу пагадзіцца на ўжываньне слоў: *кошка* — замест *котка*, *коцік* замест *каток*, *іней* — замест *шэрань*, *утаміцца* — замест *замарыцца*, *абдуванчык* — замест *малачай* ці *багатка*. А ўжо ў першую чаргу не магу пагадзіцца на слова — *церам*.

На гэтым скончу. Думаю, што не пакрыўдзіцеся — я ж пішу толькі Вам асабіста аб Вашай кніжцы. А наагул, з чужаземнымі зваротамі, назовамі ваюю ўсюды і з кожным… А ўсё ж вершы ў Вашай кніжцы чытаю з прыемнасьцю.

Усяго добрага! Здароўя Вам зычу і яшчэ шмат такіх падарункаў нашым дзеткам. Зычлівая — *Л. Войцікава*.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*19 сакавіка 1984 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Я да Вас з такой справай і просьбай. У Гудзевіцкім школьным краязнаўчым музэі ствараецца новы аддзел «Нашы лекавыя зёлкі». Я падумала, што апрача таблічак з апісаньнем зёлак і іх лекавай вартасьці з адпаведнымі рысункамі цікава было б даць і крыху легендаў аб іх ды вершаў.

Перадусім у мяне ў памяці Ваш верш «Трыпутнік», вельмі адпаведны дзеля гэтай мэты. Калі ласка, не пашкадуйце часу — перапішыце сваёй рукой і з даравальным подпісам пашліце ў той музэй.

А мо яшчэ нешта падобнае маеце? Або ведаеце ў іншых аўтараў? Вядома, калі ўжытыя імі назовы расьлін чыста па-беларуску гучаць. Аб гэта найбольш ідзе ў гэтай працы.

З павагай — *Л. Войцікава*.

Адрас: *БССР, п/а Гудзевічы, Гродзенская вобл., Мастоўскі р-н, Белакозу Алесю Мікалаевічу.*

6 ліпеня 80 г. 1

Паважаны наш батанічны бог!

Пішу Вам з Друскенік. Хацеў па дарозе назад заехаць да Вас у Вільню, але тут жонка дала тэлеграму, што заедзе па мяне Васіль [illegible] (недзе ён тут круціцца) і павязе мяне ў Мінск праз Гродню, бо так яму выпадае. Так что вымушаны буду крыху адкласці сустрэчу, бо ў Вільню мне так і так скора трэба будзе.

Ці Лявон мяне не так зразумеў, ці Вы не так зразумелі Лявона. Я аніяк не хацеў (ды і не меў права) прасіць у Вас апошні экзэмпляр слоўніка. Я хацеў даслаць Вам грошы (бо аб экзэмплярах у БДУ я ведаю, і не хацеў, прыватная асоба, прыніжацца перад імі просьбаю), і каб

2

у Вільні зрабіць мне фотакопію, каб я меў негатыў (як маю поўны негатыў „Шляхціца Завальні", „Дзённіка" Марыі Пузыновіч, дзяўчыны, якая сыграла такую нядобрую ролю ў лёсе Кастуся Каліноўскага і г.д.), а з яго зрабіў бы сабе фотаэкзэмпляр і Вам хоць дзесяць фотакопій. Мне ж не для бібліяфільства гэта было трэба, а для работы. У Гудзевічам-музей. Там Ваша копія будзе ляжаць побач з рукапісамі, лістамі, рэчамі дзеячоў культуры. А я сабе не бібліятэку збіраю. Каб я не меў „Слоўніка" Насовіча (пашанцавала, маю), то мне і фотакопія служыла-б.

Ну што ж, калі немагчыма дык немагчыма. Пайду ў БДУ, папрашу, вазьму з сабой фатографа. Дазвольце з

Druskininkai. Paminklas M. K. Čiurlioniui (skulpt. Vl. Vildžiūnas)
Друскининкай. Памятник М. К. Чюрлёнису (скульптор В. Вильджюнас)
Druskininkai. M. K. Ciurlionis Monument by Vl. Vildžiūnas
Druskininkai. M. K. Ciurlionis Denkmal von Vl. Vildžiūnas
Nuotr. ... Bulmeikienės
„Mintis", Vilnius, 1978
V. Kapsuko-Mickevičiaus ...
Užs. Nr. 841

Druskininkai. Ežerėlis „Mergelės akys"
Друскининкай. Озеро «Девичьи очи»
Druskininkai. Maiden Eyes Lakelet
Druskininkai. Waldsee „Mädchenaugen"
Nuotr. ... Bulmeikienės
„Mintis", Vilnius, 1978
V. Kapsuko-Mickevičiaus ...
Užs. Nr. 841

«Паважаны наш батанічны бог…».
Паштоўка ад Уладзіміра Караткевіча.

## УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

*10 красавіка 1984 г.*

Паважаны Уладзімір Сымонавіч.

Толькі цяпер я даведалася аб Вашай няўдалай падарожы да нас[76]. Як жа гэта так выйшла? Вельмі, вельмі шкадую… Але маю надзею, што Вас гэта не зьнеахвоціла, і вясной пастараецеся да нас дабрацца. Для мяне гэта была б вялікая радасьць.

Толькі каб ізноў не рызыкаваць, паведамце, калі ласка, загадзя, дзе Вас спаткаць. Сын мой спаткае Вас. У нас тут вельмі прыгожа. Апрача таго, маю крыху старых фатаграфіяў, лістоў, дакумэнтаў, якія, магчыма, Вас зацікавяць.

Ведаеце, стары чалавек ня ведае свайго дня ані гадзіны, так што вельмі не адкладайце… Праўда, цяпер яшчэ ў нас сьнег ляжыць, але ў маі — цудоўна.

Наш лес — недалёка дому — кланяецца Вам і перапрашае, што зьбіў з дарогі.

Усяго найлепшага! *Л. Войцікава*.

## ЮРЫЮ ТУРОНКУ

*18 красавіка 1984 г.*

Паважаны пане Юры.

Перачытывала я лісты с. п. Мар’яна Пецюкевіча. У адным зь іх ён піша: «Хацеў бы, каб маёй спадчынай заняўся Юры Туронак. Хатнія ў гэтым не разьбяруцца» і г. д.

Ведаю, што на хаўтуры езьдзіў (сяньня ўжо таксама сьвятой памяці) Язэп Александровіч[77], а пасьля, ужо хіба астаткам, ён езьдзіў памагчы спарадкаваць спадчыну. Як і што і куды параздавалі, Я. Але[ксандро]віч мне падрабязна напісаў. Асталася няяснай справа картак-матэрыялаў да слоўніка мовы Браслаўшчыны. Аўтар (М. П.) хацеў, каб гэтыя карткі былі дасланыя ў Менск. Поштай зрабіць гэта было немагчыма…

Што цяпер зь імі зрабілі — ня ведаю. Калі яны яшчэ існуюць, то цяпер была б магчымасьць іх прывязьці ў Вільню, а адсюль бы перадалі ў Менск — у адпаведныя рукі. Справа ў тым, што паехаў зь Вільні ў Польшчу сябра і прыяцель Гэнрыка Фалькоўскага. Перад ад’ездам быў у мяне. Абяцаў, як вернецца ў маі, прыйсьці. Вось ён бы мог гэтыя матэрыялы прывязьці. Як думаеце? Адрас Г. Фалькоўскага ды і яго самога Вы ведаеце.

Я пісаць да ўдавы ці дачкі М. Пецюкевіча не хачу. Яны пасьля сьмерці с. п. Мар’яна да мяне не напісалі. Паведамілі аб сьмерці маю дачку (яна ніколі да Мар’яна не пісала) вельмі афіцыяльна і *па-расейску*. Паміма таго, што я паслала ім словы спачуваньня адразу, як паведамілі мяне зь Менска пляменьнік Мар’яна[78] і са Злотава Зыгмунт Абрамовіч.

Буду чакаць Вашага адказу. Чуюся вельмі дрэнна, але стараюся яшчэ тое-сёе зрабіць, пакуль рука пяро трымае. Усяго добрага! *Л. Войцікава*.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*23 жніўня 1984 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Прыслалі мне зь «Юнацтва» першую карэктуру. Шчыра дзякую за цёплыя словы прадмовы. Выбачайце, што забірала Вам час, параіўшы У. Ракіцкаму[79] прасіць у Вас парады ў справах выдавецтва.

Ня столькі я сама, сколькі маладыя мастакі захапіліся справай чысьціні назоваў расьлін, а ў гэтым выпадку — лекавых зёлак. Аж дзіўна, што не прыродазнаўцы, не этнографы, а маладыя мастакі. Зь Менска, Гродна, Віцебска… Проста вядуць прапаганду за беларускія народныя назовы процiў *зьверабояў* (сьвятаяньнік), *адуванчыкаў* або *дзьмухаўцоў*, *глогаў* і г. д.

Сьмерць сьв. памяці Уладзіміра Караткевіча адабрала мне ахвоту да ўсялякай дзейнасьці… Але гэта зь ім мы пачалі перапісывацца ў справе беларускіх назоваў яшчэ тады, як выйшлі з друку першыя старонкі «Каласоў пад сярпом…». Можа, і цяпер ня маю права замаўчаць, і трэба самым маладым аматарам памагчы?

Ваш сцэнічны твор аб расьлінах чытала ня раз. Так бы хацелася, каб людзі зьвярнулі на Ваш голас увагу. І каб шукалі, шукалі чыста беларускіх народных назоваў, патрапілі адрозьніць словы беларускія, чыстыя ад калькі з мовы рускай ды польскай. Вельмі хацела б ведаць, ці адклікнуўся хто-небудзь на Ваш «Начлег на бусьлянцы»[80]?

Са шчырай павагай і зычлівасьцю — *З. Верас*.

P. S. Так неяк выйшла, што я не зьвярнула ўвагі, што мяне ў маёй працы цікавяць выключна лекавыя расьліны і ўжываньне іх у народзе. Гэта тое, што я раблю для Гудзевіцкага музэю. Ці здалею далей рабіць? І ці гэта варта? *Л. В.*

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*16 лістапада 1984 г. Вільня*

Паважаны Фёдар Міхайлавіч.

Атрымала абодва Вашыя лісты і бандэролі. Бязьмежна ўдзячная за ўвагу да мяне, маіх справаў. Але адначасна бянтэжуся, што траціце на мяне час, бярэце на сябе такія клопаты. Як і чым адудзячуся? Ці буду мець на гэта магчымасьці і час?..

Адзін зь вершаў С. Грахоўскага ў апошнім нумары «Полымя» так ясна, выразна, прыгожа выразіў і мае думкі. Толькі што я маю большае права так думаць, бо шмат старэйшая. Але што суджана — тое збудзецца.

Як Вам дзякаваць за цудоўныя альбомы? У адным — архітэктурныя помнікі Гродна, якія так шмат прыпамінаюць. Я ж пачала знаёміцца зь імі вельмі рана. З Каложай, з Фарай — маючы гадоў шэсьць. Вадзіў мяне бацька. Паказываў, расказываў тое, што дзіцячаму розуму было даступна. Пасьля — чым далей, тым больш усяго пазнавала.

Другі альбом — якія краявіды! А якая старанная, мастацкая работа! Каб не адно але… Чаму мастакі аб сваю работу дбаюць, стараюцца выканаць яе найлепш? А аўтары тэксту проста раняць і вочы, і сэрца, не стараючыся назваць расьліны іх уласным беларускім імем? Памылка за памылкай… Або калька — даслоўны пераклад з чужой мовы або яўна чужы назоў. Быццам мы сваёй мовы ня маем… Бо ці ж назовы рэчаў, расьлін — гэта ня мова? Ня частка яе?

Ня буду ўсяго пералічываць, дам пару прыкладаў. Падана: *наперстаўка* (рас. *наперстянка*, польск. *naparstnica*); знача, беларускі назоў з гэтых створаны. Па-беларуску трэба: *палечнік*. Далей — *першацьвет* (рас. *первоцвет*); па-беларуску: *ключыкі* або *грабелькі*. Чыста расейскае і *сон-трава*; па-беларуску — *сончыкі*. Таксама і *курасьлеп* — чыста расейскае; па-беларуску — *канапелькі*. Выбачайце, села на свайго старога коніка, а што гэта паможа?

Аб тым, што Вашым стараньнем было адзначана 60 гадоў «Батанічнага слоўніка», я ўжо ведала ад Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага і была вельмі ўзрушаная. Што да кніжак — і адну, і другую маю ад аўтараў. А ці часам не памыліліся вы, высылаючы «Вечнага вандроўніка»[81] з аўтографам для Вас — мастака Купавы? Думаю Вам яе вярнуць. Дзякую за паштоўкі. Пашлю тым, хто носіць у сваім сэрцы імя Адама Міцкевіча.

З вялікай удзячнасьцю і павагай — *З. Верас*.

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*23 лістапада 1984 г. Вільня*

Паважаны Фёдар Міхайлавіч.

Дзякую за добры ліст, дзякую, што разумееце мяне. Каб Вы ня толькі радзілі, але і *загадалі* мне прайсьціся па кніжках і зрабіць адпаведныя ўвагі, не было б нічога дрэнна-

га, крыўднага. Але я ўжо прайшлася, і то не па мастацкай літаратуры, а па энцыкляпэдыі «Прырода Беларусі»! Дастала 2 тамы ад Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага. Увагі-папраўкі яму паслала.

Наладзіцца, здаецца, друк маіх матэрыялаў пра лекавыя зёлкі, якія апісываю для Гудзевіцкага музэю. Гэтай справай — выданьнем друкам — заняўся этнограф Станіслаў Фёдаравіч Цярохін[82].

Маю гатовымі 45 зёлак. Хачу давясьці да 60-ці. Можа, яшчэ дам рады. У справе назоваў расьлін маю шмат Вам сказаць, але сяньня ня маю часу.

Пасылаю капэрту, выпушчаную тыражом 3 мільёны стараньнем Гудзевіцкага этнаграфічнага музэю. З радасьцю паведамляю, што едзе ў Гудзевічы тэлевізійная экіпа — рабіць здымкі і запісы для «Роднага слова». Шкадую толькі, што Менскае тэлебачаньне ў Вільню не даходзіць. Але, можа, Уладзімір Содаль нейкіх пару здымкаў для мяне скамбінуе.

Уцешылася, што, можа, удасца Вам прыехаць у Вільню, але пачалася зіма, сьнег — пара неадпаведная для падарожжа. Мушу ўжо аддаваць ліст — дачка чакае.

Усяго Вам найлепшага. З зычлівасьцю і павагай — *З. Верас*.

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*[1984 г.]*

Паважаны і дарагі Фёдар Міхайлавіч!

Учора атрымала Ваш ліст. Сьпяшаюся адказаць. З прыемнасьцю пашлю Вам 25 эксьлібрысаў. Але яны бяз подпісу В. Целеша[83]. Бо тых некалькі, што былі зь яго подпісам, ужо разышліся амаль. Парачку мушу аставіць сабе.

Аб грашах ня можа быць і гутаркі. Я эксьлібрысы не заказывала, не прасіла, а дастала іх ад мастака ў падарунак. Вячаслаў Целеш апрацаваў эксьлібрыс у 1982 г. — да майго 90-годзьдзя. Паслаў у Менск, просячы, каб мастакі з саюзу пастараліся іх адбіць. Але яны нічога не зрабілі. Тады В. Целеш дамовіўся з латышскім Саюзам мастакоў. У 1983 г. зрабілі пробныя, а толькі сёлета адбілі нармальныя, і Вячаслаў Міхайлавіч прыслаў мне іх на дзень майго нараджэньня.

Мы з В. Целешам, калі ён прыяжджаў, перабіралі, разглядалі старыя паштоўкі Гродна, якіх у мяне нямала — з бацькавай калекцыі. Я яму расказывала, якія мейсцы зьвязаныя са мной, з маімі дзядамі, бацькамі. Тое самае — зь менскімі мясьцінамі. Бачыў ён у мяне і «Заранку», і «Беларускую борць». Гаварылі і аб «Нашай ніве» — аб маёй сувязі зь ёю. Так, відаць, і паўстаў у яго плян эксьлібрысу. А выйшла — цудоўна! Узрушыла мяне да сьлёз. Гляну — і бачу сябе: то малой на каленях у бабкі, то падросткам у гімназіі, то ў Менску ў «Беларускай хатцы» — побач з Максімам Багдановічам. А пасьля — Вільня, «Заранка», лісты дзяцей-падпісчыкаў…

На вялікі жаль, архівы «Заранкі» загінулі. Затое архівы Беларускага каапэратыўнага т[аварыст]ва «Пчала» і яго органу «Беларуская борць» усе захаваліся да найменшай паперачкі. І ўспаміны аб працы (10-гадовай!) «Пчалы» ляжаць. Толькі надрукаваць іх, пазнаёміць людзей з нашай працай ніяк не ўдаецца…

Пісьменьнікі без канца паўтараюць тое, што было блага, а тыя галіны, у якіх можна было працаваць у цеснай сувязі зь вёскай, з зацікаўленымі гаспадарскімі будзённымі справамі сялянамі, да агульнага ведама не дапускаюць. А не адной жа палітыкай вёска жыла! Але гэта я закранула сваё балючае мейсца. Гэта ж не я адна працавала, працавалі і іншыя — аддана, з цэлага сэрца, і не за грошы, не за ганарары пісалі ў «Борць», не за грошы правялі завочныя карэспандэнцыйныя курсы па арганізацыі збору лекавых зёлак. І ня мелі мы ніякіх навуковых тытулаў, славы — толькі гарачае жаданьне прынясьці карысьць свайму народу…

Усе гэтыя думкі, думкі-ўспаміны разбудзіў — эксьлібрыс. Але хопіць. Забіраю Вам час і хіба дзею на нэрвы невыразным почыркам. Гэта віна майго хранічнага бранхіту, які абвастрыўся і моцна дакучае.

Толькі што гаварыла са сваім зяцем Лявонам Луцкевічам. Ён купіць пару камплектаў паштовак, а тады і паштоўкі і эксьлібрысы разам вышлем.

З павагай і прыязьню — *Зоська Верас*.

НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*[1984 г.]*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Сардэчна дзякую за кніжку, за цёплыя словы аўтографу. Прачытала зь цікавасьцю — за адну ноч (ня сьпіцца…). З асаблівай увагай — «Начлег на бусьлянцы». Закранутая тэма вельмі важная, а для мяне асабіста блізкая. Можна сказаць — зь дзяцінства.

Апрацоўваючы свой «Батанічны слоўнік», у прадмове да яго я напісала (у 1920 г., выйшаў з друку ў 1924-м у Вільні): «Чалавеку зацікаўленаму, знаёмаму з назовамі расьлінаў у яго роднай мове, і то з назовамі ня штучнымі, выдуманымі (або ў перакладзе зь іншых моваў — *дапісала цяпер*), а чыста народнымі, кожная расьлінка, кожнае зелейка раскажа ня толькі "дэталі" свайго ўласнага жыцьця, гісторыю свайго роду, але ж таксама прыпомніць аб той ролі, якую яны іграюць у жыцьці нашых сялян, у іх мэдыцыне, чарах і варожбах… Часам адзін характэрны назоў раскрые перад нашымі вачыма ўсю паэтычнасьць і багатую фантазію нашага народу (*1920 г., Альхоўнікі пад Гродна*)».

Як гэта даўна было… Цяпер, калі я на прапанову Алеся Мікалаевіча Белакоза ўзялася апрацоўваць адпаведныя табліцы «Нашы лекавыя зёлкі», у мяне была галоўная мэта — выкарчаваць да грунту ўсю чужаземшчыну і пераклады. Каб назовы зёлак загучалі чыста, па-нашаму.

Аб назовах, сабраных у Вашым расказе, ня буду гаварыць — гэта справа даўгая і дыскусійная. Асабліва што датычыць расьліны *брат-сястрыца*. Калі Вас гэта цікавіць, напішу — выясьню сваю думку шырэй. Калі ўдасца, хопіць сілы, займуся зёлкамі далей.

Калі дажыву, то ў мяне ў кастрычніку своеасаблівы юбілей — 75 гадоў ад дня стварэньня ў Гродне Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Маю аднаго сябру, зь якім гурток, яго сяброў, яго дзейнасьць успамінаем. А ўспомніць ёсьць што… Столькі гадоў, а так жыва, так ясна ўсё стае перад вачыма…

З удзячнасьцю думаю аб той маральнай падтрымцы, што аказываеце Алесю Мікалаевічу [Белакозу]. Гудзевіцкі музэй мне вельмі блізкі. Гэта ж Гродзеншчына — зямля маіх дзядоў і прадзедаў. Але — хопіць. Пішу блага, чытаць будзе цяжка.

Усяго добрага ў жыцьці і працы. Шчыра зычлівая *Л. Войцікава (З. Верас).*

УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*3 красавіка 1986 г. Вільня*

Дарагі Уладзімір Ільіч.

Так, мусі, я ўжо Вас не дачакаюся… Але сяньня ня ў тым справа. Ня ведаю, ці Вы знаёмыя зь пісьменьнікам Алесем Асташонкам[84]. Ён зьбіраецца пісаць да 100-годзьдзя М. Багдановіча аб ім раман і нават п’есу. Я сама запрапанавала праз Ніну Барысаўну Ватацы[85] пазнаёміць яго з маімі ўспамінамі і рознай драбязой, што я пісала ў сувязі з М. Багдановічам.

Вось ён учора нечакана прыехаў. А ў мяне, на бяду, амаль ніякіх матэрыялаў у руках німа. Цэлая папка — сьмешна называць гэта маімі творамі — у Я. Саламевіча. Шмат разважаньняў аб М. Багдановічу, яго адносінах да Ванды Л[явіцкай] ды розных леген-

дах аб Максіму Б. — у лістах да Вас. У мяне — ні чарнавікоў, ні якой карталюшкі, каб на гэта апірацца. А расказываць экспромтам — цяжка. Асабліва цяпер, калі вельмі дрэнна чуюся.

Учарашняя сустрэча з А. Асташонкам зусім бяз вынікаў. Матэрыялаў у руках — ніякіх, гаварыць учора мне было асабліва цяжка. Ці не згадзіліся б Вы пазнаёміць Асташонка з тым, што я ў сувязі з Максімам да Вас пісала? Адсылаць-варочаць мне мае лісты хіба ня варта. Можа, лепш даць яму прачытаць на мейсцы? А памагчы яму, хоць бы дзеля праўды, варта. Гэта паважны пісьменьнік. Піша добра. Добрая мова, добры стыль. Няхай бы сапраўды нешта вартае пра Максіма зьявілася… Што Вы на гэта скажаце? Дайце мне, калі ласка, адказ. Чакаю.

А як будзе з падрыхтоўкай матэрыялаў для «Роднага слова» аб выдавецтве «Загляне сонца…». У мяне такія багатыя матэрыялы… Вы пісалі, што гэта ў красавіку трэба зрабіць? А я ўжо, здаецца, адной нагой на тым, лепшым сьвеце… Надакучыла змагацца з рознымі болямі. І то змагацца безь ніякага рэзультату…

А што ў Вас? Як здароўе? Ці ў Менску і цяпер пануе грыпа? Пагода дрэнная, сонца мала. Але тое-сёе зь зямлі вылазіць. А самыя раньнія кветкі ўжо цьвітуць.

Усяго Вам найлепшага! Хацелася сказаць «да пабачаньня», але гэта не ад мяне залежыць. Шчыра зычлівая — *Л. В.*

На ўсялякі выпадак адрас Алеся Асташонка: *220065, Мінск, вул. Кузьнечная, д. 15, к. 1, кв. 506.*

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*22 кастрычніка 1987 г. Вільня*

Даражэнькі Уладзімір Ільіч.

Аб Губэрнатарскім доме магу расказаць даволі дакладна. З вуліцы ўваходзілася ў калідор. Направа — дзьверы ў губэрнатарскі кабінэт. Тады губэрнатарам быў нейкі князь — прозьвішча ня помню. Уявіце сабе — ніякіх сакратарак, запісаўся на прыём, і ў назначаныя гадзіны кожны мог без цырымоній зайсьці ў кабінэт па сваёй справе. Дзясяткі разоў я там была — найбольш прасіла дазволу на скарбоначны збор. Апошні раз — прасіла аб дазвол на курсы агародніцтва, садаўніцтва ды пчалярства, якія мы хацелі правясьці для бежанцаў. Губэрнатар адказаў, што гэта не ў яго кампэнтэнцыі, і парадзіў зьвярнуцца да Міністэрства земляробства. Мы напісалі і надзіва хутка дазвол атрымалі. Гэта былі першыя курсы ў беларускай мове…

З калідора вялі сходы на першы паверх, проста ў залю, дзе мы пасьля фатаграфаваліся. Там яшчэ раней праходзіў Вайсковы зьезд, а Усебеларускі — у тэатры. Фатаграфаваліся разам сябры абодвух зьездаў. Садзіліся і стаялі, дзе хто хацеў і з кім хацеў. Вядома, каля стала сядзелі самыя заслужаныя.

Вы пытаецеся, чаму я з Чарвяковым[86]? Проста так выйшла. Ніякай асаблівай прычыны тут не было. Апрача галоўнай залі, было яшчэ шмат пакояў, пакойчыкаў і на гэтым паверху, і на другім. У гэтых пакоях жылі ўсе сябры Вайсковай Рады. Была там і рэдакцыя часопіса «Вайсковая Рада». На вялікі жаль, ён выходзіў па-руску, рэдактарам быў капітан Ярашэвіч.

Што я Вам магу аб Чарвякове сказаць? Ён, як і ўсе прыехаўшыя на зьезд беларусы Заходняга фронту, быў у войску. Уся Вайсковая Рада жыла на мейсцы, у Губэрнатарскім доме. Скуль я магу ведаць, хто з кім сябраваў, хто з кім дзяліўся думкамі? Сходы, паседжаньні праводзілі разам — і Вайсковая Рада, і Вялікая Рада ці Нацыянальны камітэт. Хоць я была сакратаркай на такіх паседжаньнях — бо лепш ведала беларускую мову, а пісаць пратаколы ўмела яшчэ з Гродзенскага гуртка — унікаць у сяброўскія ці іншыя адносіны прысутных магчымасьці не было. А ў «Беларускую хатку» вайскоўцы

амаль не заглядалі. А калі так здаралася, што Чарвякоў мяне праводзіў, як я Вам ужо пісала, аб нічым паважным не гаварылі. Не было ўжо на гэта сілы… Трэба было ад паважных тэмаў, а то і спрэчак адпачыць, аддыхацца. Вельмі шкадую, але ніяк не магу на Вашы пытаньні што-небудзь цікавае ды канкрэтнае адказаць…

Паглядзела яшчэ раз Ваш ліст. Вы пытаецеся, паміж іншым, як Чарвякоў быў апрануты? Ён прыехаў на Вайсковы зьезд, бо ж сам быў ваенны, быў на фронце і, як усе, хадзіў у шынялі, у ботах, у блузе зашчытнага колеру. У якім быў чыне — сапраўды ня ведаю. Не асабіста яго на зьезд выклікалі, а, мусіць, дастаў, як і ўсе на Заходнім фронце, адпаведныя адозвы.

Вайсковы зьезд арганізаваў С. Рак-Міхалоўскі. Ён рабіў чарнавікі адозваў, складаў плян зьезду, зрабіў сьпіскі дывізіяў, палкоў і іншых часьцей. А рэшту — друк адозваў, высылку іх па адрасах — рабіла я. Аб кватэрах, харчах стараўся Мікалай Шыла — таксама салдат тагачаснага войска, а можа, ня проста салдат, а які яфрэйтар ці што? Ня ведаю ды і не цікавілася, не было часу. У мяне абодва зьезды вельмі дакладна апісаны, і пратаколы Усебеларускага зьезду ёсьць.

Пытаецеся яшчэ, каго я найлепш ведала з тых, хто ёсьць на здымку. З тых, што сядзяць ці стаяць каля стала: Ядвігіна Ш., Я. Лёсіка, Дварчаніна, Мамоньку, яшчэ лепш Л. Дубейкаўскага, бо яшчэ з Варшавы, Андрэя Зязюлю (кс. Астрамовіча), Рака-Міхайлоўскага вельмі добра, Варонку, Данілевіча… Хіба хопіць? Ды тут і ня ўсе ёсьць. На Усебеларускім нацыянальным зьезьдзе было і шмат іншых: Ф. Шантыр, Тамаш Грыб, П. Бадунова, Э. Будзька, У. Фальскі (вельмі добры знаёмы), Л. Заяц, Смоліч, Тарашкевіч, П. Аляксюк, У. Галубок, А. Уласаў… Ды ці ўсіх пералічыш?..

Вам трэба было б прыехаць, пачытаць мае ўспаміны. Ня ўсё будзе друкавацца. А чытаць тут у мяне, то адразу атрымаеце патрэбныя камэнтарыі… Я ж вечна жыць ня буду… Як мяне ўжо ня будзе, што тады? Я ж апошняя… Карыстайцеся, пакуль яшчэ так-сяк жыву…

Яшчэ раз глянула на старонкі Вашага ліста. Пытаецеся, ці магла б што сказаць пра людзей, якіх найлепш ведала? Маю цікавы вельмі матэрыял пра Аркадзя Смоліча, яго біяграфію ды бібліяграфію. Далей — Усевалад Фальскі. Аб ім успамінаюць у Бел[арускай] энцыкляпэдыі як аб тэатральным дзеячу. У мяне запісана крыху як аб чалавеку ласкавай, чулай душы. Перапісываць не магу, накрэмзаць ліст і то цяжка. Адна рада — прыяжджайце! Можа, яшчэ з кім «пазнаёмлю»…

Усяго добрага! Сардэчна зычлівая *Л. Войцік*.

## НІЛУ ГІЛЕВІЧУ

*19 лістапада 1987 г. Вільня*

Паважаны Ніл Сымонавіч.

Шчыра дзякую за адказ, за ўвагу да маіх слоў. Пішаце, што Сяргей Міхайлавіч [Новік-Пяюн] — наш стары пясьняр. Шчыра — паміж намі — кажучы, я яго зборнічкам ня вельмі захапляюся. Але ёсьць у С. М. заслугі, аб якіх мала хто ведае. Ня кажучы ўжо, сколькі ён для мяне зрабіў, друкуючы на машынцы розныя мае дробязі (а ёсьць і ня дробязі — як «Гродзенскі гурток беларускай моладзі», «Гісторыя першага беларускага адрыўнога календара» ды іншае).

Усё гэта перадрукавана з пасыланых яму рукапісаў і прыгожа аформленае. Ды не ў адным, а ў трох экзэмплярах — адзін для мяне, другі я падпісывала яму, а трэці — на імя Л. І. Збралевіч у Акадэмічную бібліятэку, у аддзел рукапісаў. Такім чынам я ведала, што гэта хоць нідзе і не друкуецца (нідзе — гэта значыць у Беларусі, бо ў беластоцкай «Ніве» ды календарах друкавалі), але і ня зьнікне.

Апрача таго, С. М. сабраў і надрукаваў на машынцы ня выйшаўшыя ў сьвет творы Г. Леўчыка «Беларускі жаўранак». Прыслаў гэты машынапісны зборнічак мне, а пасьля са згоды С. М. я аддала ў Слонімскі школьны музэй. І гэта ня ўсё.

Ён, маючы ўсе патрэбныя прылады, аправіў-аформіў альбом «Віленская Беларуская гімназія», вялікі альбом М. Забэйды-Суміцкага і два малыя альбомы — «Радашкаўская Беларуская гімназія» і «Нясьвіжска-Клецкая Беларуская гімназія». Першыя два вялікія альбомы дагэтуль у мяне. Зяць пачаў рабіць іх копіі.

Калі ў мяне была першы раз дырэктар Музэю-архіву Г. І. Сурмач[87], я пажартавала: «Ганна Іванаўна, не зьніміце мне галавы, што я гэтыя альбомы ў сябе трымаю дагэтуль. Але да мяне шмат хто прыяжджае з Гродна, з правінцыі, людзі, якія спэцыяльна ў Менск у музэі ня езьдзяць. Вось і знаёмяцца з нашай мінуўшчынай».

А пасьля ўсё будзе там, дзе яму мейсца. Вось за ўсю гэтую работу я Сяргею Міхайлавічу вельмі ўдзячная. І тым больш трывожыць яго становішча… Выбачайце, што дала Вам работу — прачытаць мае каракулі. Але рука зусім ня слухаецца, а і галава працуе ня надта. Мусі, пара ўжо і адпачыць вечным адпачынкам…

Са шчырай удзячнасьцю чытаю і чую аб Вашых выступах на пленумах і ў прэсе — за нашую мову, за нашую Беларусь! Усяго Вам найлепшага ў жыцьці і далейшай працы.

Сардэчна зычлівая *Л. Войцікава*.

ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*21 студзеня 1988 г. Вільня*

Дарагі Фёдар Міхайлавіч.

Шчыра дзякую за ліст. Заўсёды з радасьцю іх атрымліваю, чытаю. Адно засмучае, што нядобра чуецеся і што пагражае Вам шпіталь. І я гэтага вельмі не любіла, а пару разоў прыйшлося паляжаць. Аднойчы і нямала — цэлы месяц, з апэрацыяй нагі. Была флегмона ў калене. Нацярпелася болю — страх успомніць. А пасьля яшчэ доўга хадзіць не магла. Адзіны добры ўспамін, што дзецям маім — сыну і дачцэ — пазволілі кожны дзень прыходзіць.

А што да сну, то я і цяпер не магу спаць. Апошнюю ноч ня спала ні гадзіны. Таблеткі ня дзеюць — толькі што пасьля таблеткі цэлую ноч пазяхаю, аж сківіцы баляць. Адзін мой знаёмы на ўспакаеньне п’е *сардэчнік* са *сьвятаяньнікам*. Кажа, што ўспакаівае, і сьпіцца пасьля гэтых зёлкаў лепш. А можа, Вы папрабуеце? Маю гэтыя зёлкі свайго збору, сьвежыя. Думала сама папрабаваць. Сэрца ў мяне здаровае, часам, рэдка, бывае арытмія, але нэрвы не ў парадку. Прычынаў на гэта шмат. Здаецца, пачалася зіма. Крышачку сьнегу на зямлі і на галінах дрэваў, невялікі мароз. Але значна пасьвятлела, хоць і хмарна.

Дзіўлюся, што я не атрымала «Беларусі». Можа, у Вільню прыйшла, толькі да маіх рук ня трапіла? Бывае і гэтак… Бо ня помніць Вашых разважаньняў пра «спадарыню» не змагла б. Гэтае слова зь лексыкону др. Янкі Станкевіча? Праўда? А як Вы прыймаеце словы *спадар, спадарка* або *спадарыня*? Ведаеце, у цяперашнім Беластоцкім ваяводзтве, у Сакольскім павеце (гэты павет — былая Гродзенская губэрня — зямля маіх дзядоў і прадзедаў) ёсьць мястэчка Новы Двор, вельмі мне блізкае. Я цяпер маю там старога чалавека, зь якім карэспандую. Ён ужывае гэтыя словы, піша да мяне: *дарагая спадарка*. Ну і я яго ўзаемна *спадаром* называю. Напішу *спадар* і адразу перад вачыма стае др. Янка Станкевіч…

Я ўжо скончыла пісаць біяграфіі людзей, што былі знаёмыя ў Менску з Максімам Багдановічам. Усяго 7 жыцьцяпісаў. 5 адаслала, а 2 яшчэ ў мяне. Чакаю, можа, прыедзе Янка Саламевіч — аддам яму ў рукі, а разам і здымак Лявона Гмырака (Мечыслава Бабровіча)[88]. Пасылаць здымак поштай баюся, бо ён адзіны і ў мяне, і наагул…

На гэтым і скончу, бо вельмі разбалелася галава. Такая мая бяда — сяду, 2–3 лісты напішу, і ўжо галава баліць немагчыма — ад патыліцы, у вушах, нават нос. А лістоў — цэлая гара, ніяк ня меншае.

Усяго Вам найлепшага! Хоць крыху каб палепшаў стан сэрца і сон. Сардэчна зычлівая *Л. Войцікава.*

## ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ

*2 лютага 1988 г. Вільня*

Дарагі, шаноўны Фёдар Міхайлавіч.

Шчыра дзякую за весткі, за старонкі «Беларусі». Прачытала — зразумела. А ўчора атрымала ліст з былой Сакольшчыны (сяньня — Беластоцкае ваяводзтва) ад старога чалавека (за 80 гадоў), і ён мяне тытулуе: *дарагая спадарка*. І я яго *спадаром* называю.

Добра, што скончыла пісаць біяграфіі для энцыкляпэдыі Максіма Багдановіча, бо ня ведаю, ці цяпер змагла б гэта зрабіць. Так знэрвавалася, прачытаўшы ў «Маладосьці» (№ 11–12 за мінулы год) твор Генрыха Далідовіча «Пабуджаныя»[89] — разьдзелы з раману. Што за агідная фантастыка! Усё перакручана, перамешана — адна бессэнсоўшчына. Я ж ва ўсім гэтым прыймала ўдзел! Усё помню, усё перад вачыма, як на экране. І Усебеларускі зьезд, і Вайсковы зьезд таксама. Апрача таго, маю аўтэнтычныя друкаваныя Пратаколы Зьезду 25–27 сакавіка 1917 г. Наскольки ведаю, гэтых пратаколаў наагул нідзе ні ў каго німа[90]. Трэба было б зрабіць ксэракопіі. Але хто гэта зробіць і дзе? Магу даць у рукі толькі самаму надзейнаму чалавеку…

І здымак-групу маю — сяброў гэтага Зьезду, разам зь сябрамі зьезду Вайсковага. Таксама трэба зрабіць копіі. Усё гэта абгаварыць-абдумаць можна толькі пры асабістай сустрэчы, а не лістоўна. Тым часам, да каго ні зьвярнуся, усе ня маюць часу. І аб гэта ўсё разьбіваецца. А я ж ня вечная…

Пішаце аб болі ў плячах? Тут зёлкі не памогуць, а калі гэта рэўматызм, то можна і зёлкі ўжываць (не сьвятаяньнік!), але дзеюць не адразу — памаленьку. А ці не прабавалі мазь віпрасін — гэта мазь са зьмяіным ядам. Ад рэўматызму, атрэтызму, ішыясу. Я яе ўжываю ад болю ног і раблю прытым масаж — такім драўляным масажорам — памагае. А яшчэ добра і гарчычнікі пад цыратку. Бачыце, які зь мяне лекар-знахар…

Усяго Вам найлепшага! Каб нейк да вясны, да цяпла… Сардэчна зычлівая *Л. Войцікава*.

P. S. «Моўныя адзінкі»[91] атрымала, 2 экзэмпляры. Дзякую. Адзін захавала, другі дала нашым тутэйшым маладым мастакам.

## УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ

*1 чэрвеня 1988 г. Вільня*

Даражэнькі Уладзімір Ільіч.

Дзякую за ліст. Здаецца, Вы адзін зразумелі, як мне цяжка астацца з рэшткамі ўзроку — нават лінеек добра ня бачу.

Аднаго Вы не зразумелі (а мо я няясна напісала), што я чытаю толькі пісьмо ручное, вялікімі літарамі ясна напісанае — як для дзяцей дзіцячага саду. Машынапісу ці дробнага друку зусім прачытаць не магу — усё зьліваецца ў адну шэрую лінію.

Таму мусіла прасіць зяця, каб перапісаў Ваш ліст ад рукі. Яго почырк чытаю пакуль што. Вельмі ўсё баліць. Да чытаньня маю лупу, але яна вельмі слабая. Каб гэта дастаць сільную лупу… Хоць бы чытаць магла б…

Акулістка выпісала акуляры, але яны мне да нічога. Зяць кажа: «Значыцца, акуляры наагул непатрэбныя». Але хопіць аб сабе. Пажыла даволі. Відаць, ужо зашмат. Хоць яшчэ і цяпер незнаёмыя людзі зварочваюцца з пытаньнямі. А як тут адказаць, гэтак пішучы?

Усё думаю — адкуль гэтая бяда так раптоўна прыйшла? Можа, розныя ў апошні час перажытыя вялікія прыкрасьці выклікалі нейкія зьмены ў арганізьме? Як бы ні было — бяда. Цікава — Вашага машынапіснага ліста прачытаць не змагла, а рукой перапісанага прачытала лёгка.

Ці яшчэ пабачымся хоць раз? Пераглядаю розныя альбомы са старога часу, калі рабілі першы фільм пра М. Багдановіча — для школьнікаў. Гэта яшчэ — хоць ня вельмі ясна — бачу. Адна думка — дзе шукаць моцную лупу? Мо ў Маскве? Напісаць да Аляксея Каўко? Але ці варта? Бо ўжо і ногі слаба ходзяць. Час на вечны адпачынак.

Усяго, усяго Вам самага лепшага! У жыцьці, у працы, у сям'і. Са шчырай удзячнасьцю за ўсе добрыя словы — *Л. Войцікава*.

Ага, Менск мяне «пацешыў». Маю кніжку заплянавалі на 1992 г. — на маё стагодзьдзе. Напісаць напісала, а што — не прачытаю…

## ЗАЎВАГІ

[1] *Шнаркевіч Надзея* (1897–1974) — настаўніца, супрацоўніца галоўнай управы Таварыства беларускай школы, рэдактарка часопіса «Жаночая справа»; *Шнаркевіч Язэп* (?—1981) — настаўнік, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі.

[2] *Шантыр Фабіян* (1887–1920) — муж З. Верас; паэт, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч; камісар па нацыянальных справах у Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі (1919); быў расстраляны бальшавікамі.

[3] *«Świetač»* — грамадска-палітычны тыднёвік, выходзіў у 1916 г. у Петраградзе пад рэдакцыяй Э. Будзькі.

[4] *«Прадыслава»* — аповесць Вольгі Іпатавай, апублікаваная ў часопісе «Маладосць» (1971, № 12).

[5] Маецца на ўвазе *Станіслава Дуж-Душэўская* — жонка Клаўдзія Дуж-Душэўскага (1891–1959) — архітэктара, палітычнага дзеяча, выдаўца, аднаго з кіраўнікоў Беларускага цэнтра ў Літве.

[6] Гаворка пра *Яраслава Война*, унука З. Верас.

[7] *Беларускі музей імя Івана Луцкевіча* існаваў у Вільні з 1921 да 1945 г.

[8] Часопіс *«Крывіч»* выдаваўся з 1923 да 1927 г. у Коўне В. Ластоўскім і К. Дуж-Душэўскім; выйшла 12 нумароў.

[9] *Ciekawość pierszy stopień do piecla* (польск.) — Цікавасць — першая прыступка да пекла.

[10] *Абрамовіч Зыгмунт* (псеўд. *Антон Забель*; 1892–1988) — актор тэатра Ігната Буйніцкага; жыў у Злотаве (Польшча).

[11] *Нагродскі Зыгмунт* (1866–1937) — пісьменнік і прадпрымальнік, заснавальнік віленскага «Народнага выдавецтва», якое выпускала і беларускія кнігі.

[12] *«Заранка»* — ілюстраваны часопіс для дзяцей; выходзіў у Вільні ў 1927–1931 гг. пад рэдакцыяй З. Верас.

[13] *Новік-Пяюн Сяргей* (1906–1994) — паэт, эсперантыст, вязень польскіх, нямецкіх і савецкіх турмаў.

[14] *Паўлюкоўскі Уладзіслаў* (псеўд. *Улад Ініцкі*; 1895–1955) — пісьменнік і мастак, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі; пасля вайны працаваў дырэктарам Літаратурнага музея А. Пушкіна ў Вільні.

[15] *«Шлях моладзі»* — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс; выходзіў у Вільні з 1929 да 1939 г.

[16] *Багдановіч Янка* (1906–1990) — журналіст і выдавец; жыў у Вільні.

[17] *Пачопка Янка* (1898–1977) — грамадскі дзеяч, аграном, журналіст.

[18] *Каруза Павел* (1900–1988) — музычны і грамадскі дзеяч, адзін з лідараў БХД у міжваенны перыяд.

[19] *Рамановіч Яўген* (1905–1979) — даследчык гісторыі беларускага тэатра, актор і рэжысёр; яго кніга «Рэкі цякуць з ручаёў» выйшла ў 1969 г.

[20] *Бібіла Юлія* (1897–1974) — бібліёграф; займалася таксама ткацтвам.

[21] Маецца на ўвазе палітычная і літаратурная газета *«Голос»,* якая выходзіла ў Пецярбургу ў 1863–1881 гг. (рэдактар-выдавец А. Краеўскі).

[22] *Белакоз Алесь* (нар. 1928) — краязнавец, педагог, мемуарыст; заснавальнік Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея (1965).

[23] *«Бываюць вогнішчы, бурай-дажджамі залітыя…»* — верш З. Верас.

[24] *Кандратовіч Кіпрыян* (1859–1932) — вайсковы дзеяч, генерал, уваходзіў у Беларускую вайсковую раду.

[25] *Шантыр Антон* (1919–1976) — выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, сын З. Верас і Ф. Шантыра.

[26] *Лявіцкая Ванда* (1895–1968) — беларуская пісьменніца, дачка Ядвігіна Ш., з 1917 г. жонка Я Лёсіка.

[27] *«Беларуская мова»* — верш літоўскага паэта Ёзаса Рыбікаўскаса (гл.: Верас З. Я помню ўсё: успаміны, лісты. 2013. С. 182).

[28] *Грынкевіч Казімір* (1903–1988) — стрыечны брат кс. Францішка Грынкевіча, заснавальніка Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1913). Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі; падчас Другой сусветнай вайны трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк. Жыў у мястэчку Новы Двор на Беласточчыне, займаўся сельскай гаспадаркай.

[29] «*Саха*» — сельскагаспадарчы часопіс, выходзіў у Вільні і Мінску з 1912 да 1931 г. (нерэгулярна).

[30] *Мятла Пятро* (1890–1938) — грамадска-палітычны дзеяч, пасол на Сойм Рэчы Паспалітай; у 1933 г. арыштаваны НКУС, загінуў у Гулагу.

[31] *Краўцоў Макар* (сапр. *Косцевіч*; 1890 — пасля 1939) — пісьменнік, аўтар тэксту песні «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (музыка У. Тэраўскага). Быў дэлегатам Першага Усебеларускага з'езда, сябрам Рады БНР. Пасля прыходу саветаў у Вільню арыштаваны НКУС.

[32] *Антон Навіна* — псеўданім А. Луцкевіча.

[33] *Машара Міхась* (1902–1976) — паэт, празаік, актывіст нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі; аўтар раманаў-хронік «Крэсы змагаюцца» (1966), «Сонца за кратамі» (1968), «Лукішкі» (1970), а таксама кнігі ўспамінаў «Старонкі летапісу» (1975). Пры ўсіх магчымых факталагічных агрэхах у творах М. Машары трэба прызнаць, што аўтар з павагай ставіўся да З. Верас. Вось адна з яе характарыстык: «Людвіка Войцік была нястомная працаўніца ў народнай асвеце. Сціплую і ветлівую, яе ўсе паважалі. Сярод шматлікіх сваіх абавязкаў па працы яна знаходзіла час і сродкі, каб перадаваць сякі-такі харч рэдактарам, якія траплялі за краты, дамаўлялася наконт абароны ў судзе, пасылала ім у астрог кніжкі. Як магла, падтрымлівала іх сваімі бадзёрымі пісьмамі» («Сонца за кратамі», с. 214).

[34] *Ластаўка Пятро* (1907–1968) — публіцыст і грамадска-культурны дзеяч Заходняй Беларусі; жыў у Варшаве.

[35] *Бычкоўскі Адам* — сустаршыня (разам з кс. Ф. Грынкевічам) Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1913); вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнічаў у тамтэйшым беларускім руху.

[36] *W drodze laski* (польск.) — у выглядзе ласкі.

[37] *Той панок…* — маецца на ўвазе *Рылко Міхась* (1934–2012) — слонімскі журналіст, краязнавец і калекцыянер; быў рэгіянальным карэспандэнтам «Гродненской правды».

[38] *Я Вашага бацькі ня ведала…* — гаворка пра *Браніслава Туронка* (1896–1938) — праўніка, лекара, публіцыста, рэдактара газеты «Крыніца».

[39] *Грынкевіч Станіслаў* (1902–1945) — лекар-псіханеўролаг, публіцыст, перакладчык, доктар медыцыны; у 1944 г. арыштаваны НКУС, загінуў у турме.

[40] «*Колас беларускай нівы*» — літаратурны альманах Гродзенскага гуртка беларускай моладзі; выйшаў у 1909 г.

[41] *Войцік Галіна* (1927–2007) — педагог, журналістка; аўтарка кнігі «Зоська Верас» (Вільня, 2002).

[42] *Успаміны аднаго «дабрадзея»…* — гаворка пра інжынера-электрыка *Ігара Бурсевіча* (1911–1985); яго ўспаміны «Віленская Беларуская гімназія» былі надрукаваныя С. Чыгрыном толькі ў 2011 г. («Маладосць», № 4).

[43] *Натусевіч Янка* (? — 1921 ці 1922) — актывіст беларускага студэнцкага руху, грамадскі і палітычны дзеяч. Уваходзіў у Камітэт нацыянальнага адраджэння Беларусі, у Гродзенскую беларускую павятовую раду, удзельнік 1-га Гродзенскага губернскага беларускага з'езда (1918).

[44] *Адзін — паляк…* — маецца на ўвазе *Юры Іваноўскі* (1876–1965) — польскі палітык і грамадскі дзеяч, займаў міністэрскія пасады ва ўрадзе Польшчы ў 1918–1919 гг.

[45] *Другі — літовец…* — гаворка пра *Тадэвуша Іваноўскага* (1882–1970) — літоўскага навукоўца-біёлага, арганізатара і дырэктара Інстытута біялогіі АН Літвы.

[46] *Учора атрымала анталогію…* — маецца на ўвазе *«Antologia poezii białoruskej»*, якая выйшла ў Вроцлаве ў 1978 г.

[47] *Гушча Ян* (1917–1986) — польскі пісьменнік і перакладчык, выпускнік Віленскага ўніверсітэта (1939); пераклаў на польскую мову творы М. Багдановіча, У. Караткевіча, Я. Брыля ды інш.

[48] *Валкавыцкі Георгі* (псеўд. *Юрка Зубрыцкі, Сідар Макацёр*; 1923–2013) — паэт, мемуарыст; заснавальнік і шматгадовы рэдактар беластоцкага тыднёвіка «Ніва».

[49] *«Роднае слова»* — пазнавальная перадача, якая выходзіла на Беларускім тэлебачанні пад рэдакцыяй У. Содаля.

[50] *«Абразкі»* — кніга Ф. Янкоўскага; выйшла ў 1975 г.

[51] *Янкоўскі Антон* (1901–1982) — аграном, збіральнік фальклору; жыў у в. Адамчукі пад Вільняй.

[52] *Жена и сподвижница Ніна Аляксандраўна…* — маецца на ўвазе другая жонка Б. Тарашкевіча *Ніна Палянская* (пажаніліся ў 1935 г. у Маскве).

[53] *Гайдук Мікола* (1933–1998) — пісьменнік; працаваў намеснікам галоўнага рэдактара тыднёвіка «Ніва» (Беласток).

[54] *Blaga* (польск.) — выхвалянне, выдумка.

[55] *Зіц-рэдактар са Слонімшчыны…* — маецца на ўвазе *Татарын Серафім* (1903–1988) — актывіст рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, член КПЗБ, фармальны рэдактар газеты «Наша праўда» (Вільня); неаднойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. Жыў у в. Вострава на Зэльвеншчыне.

[56] *Кастравіцкі Амброжы Самуіл* (1871–1937) — медык, грамадскі дзеяч, мецэнат; брат Каруся Каганца. Закончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1897), працаваў лекарам у Мінску і Лідзе, у апошнія гады жыў у Белагрудзе пад Лідай, дзе і пахаваны.

[57] *Бурсевіч Максім* (1890–1937) — педагог, палітычны і грамадскі дзеяч. У 1925 г. заснаваў у вёсцы Чамяры на Слонімшчыне беларускую прыватную школу. Быў адным з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, арыштоўваўся польскімі ўладамі, з 1931 г. жыў у Мінску, уваходзіў у ЦВК БССР; загінуў у Гулагу.

[58] *Бурсевіч Ігар* (1911–1985) — выпускнік Віленскай беларускай гімназіі, па спецыяльнасці інжынер-электрык. Жыў і працаваў у Іванаве (Расія), дзе ў 1937 г. быў арыштаваны НКУС, у Гулагу правёў 10 гадоў. Пасля вызвалення жыў у Магілёве.

[59] Беларускі дзіцячы часопіс «*Снапок*» выдаваўся ў 1937–1939 гг. у Варшаве; пра другі аднайменны часопіс публікатар звестак не мае.

[60] *Паўловіч Сяргей* (1875–1940) — грамадскі і культурны дзеяч, педагог, выдавец.

[61] *Збралевіч Лідзія* (нар. 1930) — бібліёграф, загадчыца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН імя Якуба Коласа.

[62] *Марцінчык Мікалай* (1901–1980) — удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі. Рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка», быў намеснікам старшыні Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся польскімі (1927 і 1930) і савецкімі (1948) уладамі; пасля вызвалення жыў у Гродне, працаваў лекарам.

[63] *Хвораст Янка* (1902–1983) — балетмайстар, збіральнік харэаграфічнага фальклору. Закончыў Віленскую беларускую гімназію і Віленскі ўніверсітэт, выкладаў польскую і лацінскую мовы ў Вілейскай гімназіі імя Г. Сянкевіча, пасля вайны быў балетмайстрам Беларускага дзяржаўнага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Аўтар кнігі «Беларускі танец» (два выданні — 1974, 1977).

[64] *Міско Якуб* (1911–1981) — публіцыст і мемуарыст, актывіст КПЗБ. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, у Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Працаваў у часопісе «Коммунист Белоруссии». Пад *«слаўным артыкулам»* маецца на ўвазе дакументальная аповесць Я. Міско «Было яно калісьці» («Маладосць», 1980, № 9).

[65] *Паўловіч Альберт* (1875–1951) — паэт і драматург.

[66] Маюцца на ўвазе «Успаміны пра бацьку» *Тамары Паўловіч-Кліменкі*, апублікаваныя ў «Выбраным» А. Паўловіча (Мінск, 1975).

[67] *Фарботка Язэп* (1893–1960) — паэт, літаратуразнавец, фатограф, заолаг.

[68] *Раманоўская Ядвіга* (1920–2011) — супрацоўніца Літаратурнага музея Я. Купалы, пляменніца народнага паэта.

[69] *Шутовіч Янка* (1904–1973) — грамадска-палітычны дзеяч, рэдактар віленскага квартальніка «Калоссе», адзін з кіраўнікоў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[70] Гаворка пра гісторыка-літаратурны альманах «*Спадчына*», які быў падрыхтаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» з ініцыятывы яго дырэктара М. Дубянецкага; быў забаронены да выдання Галоўлітам у 1982 г.

[71] *Наліваеў Анатоль* (нар. 1931) — мастак, калекцыянер, заснавальнік прыватнага музея «Гасцёўня Галубка» (Мінск).

[72] *«Сіняя пушча»* — верш Ніла Гілевіча.

[73] Маецца на ўвазе маскоўскае выданне кнігі Алега Лойкі «*Янка Купала*» (1982); беларускі варыянт выйшаў пад назвай «Як агонь, як вада» (1984).

[74] *«Дарогамі Максіма»* — кніга А. Бачылы.

[75] *Ждановіч Валянцін* (1938–1992) — фотамастак і журналіст, працяглы час працаваў у рэдакцыі часопіса «Маладосць».

[76] *Аб Вашай няўдалай падарожы да нас…* — У. Караткевіч не змог адшукаць Лясную хатку.

[77] Маецца на ўвазе *Язэп Найдзюк* (1909–1984) — гісторык і грамадскі дзеяч, аўтар кнігі «Беларусь учора і сяння» (1944); пасля вайны жыў у Польшчы пад імем Язэп Александровіч.

[78] Пляменьнік Мар’яна — паэт *Уладзімір Пецюкевіч* (нар. 1943); жыве ў Мінску.

[79] *Ракіцкі Уладзімір* — мастак-рэстаўратар.

[80] *«Начлег на буслянцы»* — зборнік п’ес Н. Гілевіча; выйшаў у 1980 г.

[81] «*Вечны вандроўнік*» (1984) — кніга Арсеня Ліса; асобнік, пра які гаворыцца ў лісце, зберагаецца ў кнігазборы публікатара.

[82] *Цярохін Станіслаў* (1929–2009) — этнограф, гісторык, супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

[83] *Целеш Вячаслаў* (нар. 1938) — мастак і філакартыст, аўтар альбома «Гарады Беларусі на старых паштоўках» (1998); жыве ў Рызе.

[84] *Асташонак Алесь* (1954–2004) — празаік і перакладчык; пра ягоную п’есу ці раман пра М. Багдановіча публікатар звестак не мае.

[85] *Ватацы Ніна* (1908–1997) — бібліёграф, даследчыца творчасці М. Багдановіча, укладальніца кнігі «Шлях паэта: зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча» (1975).

[86] *Чарвякоў Аляксандр* (1892–1937) — дзяржаўны і палітычны дзеяч, адзін са стваральнікаў БССР; звінавачаны ў адыходзе ад партыйнай лініі, скончыў жыццё самагубствам. З. Верас тлумачыць, чаму яна на фота дэлегатаў Вайсковага з’езда (1917) апынулася поруч з Чарвяковым (гл.: Верас З. Я помню ўсё. 2013).

[87] *Сурмач Ганна* (нар. 1947) — грамадская дзеячка, музеязнавец; былы дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

[88] *Бабровіч Мечыслаў* (псеўд. *Лявон Гмырак*; 1891–1915) — крытык і празаік; загінуў на фронце падчас Першай сусветнай вайны.

[89] *Далідовіч Генрых* (нар. 1946) — пісьменнік; падзеі ў ягоным рамане «*Пабуджаныя*» адбываюцца ў 1917–1918 гг. у Мінску, сярод дзейных асобаў і Л. Сівіцкая (З. Верас): «Каля сцэны прайшла і села за столік, што стаяў паблізу трыбуны, спрытная ў шэрым касцюме з чорным аксамітным каўнерыкам і чорнай шапачцы Людвіка Сівіцкая». Героі рамана маюць пазнавальныя прозвішчы: Баравік (Тамаш Грыб), Аўторак (Іван Серада), Лашкевіч (Антон Луцкевіч) і г. д.

[90] *Пратаколаў наагул нідзе ні ў каго німа…* — па сведчанні Г. Далідовіча, у тагачасным Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР знаходзіліся пераклады пратаколаў на рускую мову, зробленыя ў адвольнай форме; доступ да іх быў абмежаваны.

[91] *«Моўныя адзінкі» атрымала…* — гаворка пра зборнік навуковых артыкулаў *«Моўныя адзінкі ў кантэксце»* (1987), які выйшаў пад рэдакцыяй Ф. Янкоўскага.

*Уступнае слова, публікацыя і заўвагі Міхася СКОБЛЫ*

# ЛІСТЫ АД САКРАТА

Першая сустрэча ў нас адбылася недзе пад восень 1977 года. Памятаю на парозе маёй мінскай кватэры маладога, як мне тады падалося (хоць ужо меў сорак), хударлявага, чарнавалосага Сакрата з нясмелай усмешкай на вуснах. Ён нешта гаварыў пра агульных знаёмых у Беластоку, пра пераклад маёй гістарычнай аповесці, які рыхтаваўся ў альштынскім выдавецтве «Pojezierze». Пасля доўгай размовы і пачастунку я праводзіў яго недалёка, на вуліцу Куйбышава, і даведаўся, што ён ў нейкім пакрывенстве з кампазітарам Ю. Семянякам, у якога тады, здаецца, і спыніўся. Развітваючыся, Сакрат папрасіў купіць яму цыгарэты — не было ў маладога літаратара з братняй Польшчы грошай.

Потым было ліставанне… О, колькі я даведаўся з тых лістоў! Якім своеасаблівым беларускім духам з польскім дамешкам цягнула ад іх! Ну і сустрэчы, вядома, яшчэ былі — у Мінску, Беластоку і, зразумела, у Крынках. І доўгія шчырыя размовы. Заўсёды на самыя галоўныя тэмы. Інакш з Сакратам не магло быць.

Сакрат быў для мяне выключнай чалавечай і літаратурнай асобай. Пісьменнік родам з беларуска-польскага памежжа, занядбанага, грэбліва (як непаўнавартаснага) успрыманага і ў Кароне і ў савецкай Беларусі, ён здолеў паказаць у сваіх творах трагедыю і шчасце, непадробную своеасаблівасць «тутэйшых». Беласточчына сталася ягонай Ёкнапатофай. У ягоных творах не магло быць фолкнераўскай эпікі (у прасторы Місісіпі не ўлягалася падляшская засцянкоўшчына), але боль і замілаванне разам з абвострана крытычным поглядам былі падобныя. І вось ён свядома і ўпарта цягнуў гэты куток зямлі, якую аднойчы абазваў «глыбіннай Задрыпоніяй» (гэтая самаіронія больш адштурхоўвалася ад успрыняцця «крэсаў усходніх» у Мінску і Варшаве), да еўрапейскіх традыцый, што своеасабліва тут перакрыжаваліся. Таму насуперак усяму «задрыпонскаму» аздабляў свае літаратурныя праекты лацінскай вучонасцю. І крынкаўская хата яго мела назву «Villa Sokrates», у якой рабіліся салідныя тамы «Annus Albarutenicus». І сам ён з мужыцкай упартасцю авалодаў ангельскай мовай, чым паціху ганарыўся. А як у пісьменніка, у яго была адметная беларуская мова з цудоўным падляшскім адценнем. І польская ягоная проза вызначалася беларускім акцэнтам. Нездарма Яцак Курань лічыў, што Сакрат Яновіч паказваў польскім беларусам «шлях да захавання ўласнай аўтэнтычнасці і адначасова блізкасці з палякамі». І яшчэ ён хваравіта рэагаваў на пошласць, прыстасавальніцтва, халуйства. Недзе ў сярэдзіне 90-х, падчас чарговай паездкі па Беларусі, запісаў у дзённіку: «Ліпнасць шматлікіх адраджэнцаў: з беларушчыны робяць сабе т. зв. карыта. Хлебнасць» (Kamunikat. Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка).

Мяркую, што праклятьы люстрацыйны псіхоз адбіўся на здароўі Сакрата. Мы ніколі пра гэта не гаварылі. Дый пра што было гаварыць? У інтэрнэце пішуць, што з 1958 г. ён быў супрацоўнікам польскай службы бяспекі. Праз паўстагоддзя пакаяўся. Бо трэба ж было адказваць на пытанні люстрацыйнай анкеты. Знайшлі беластоцкага Кіма Філбі, маладога вясковага хлопца, які здраджваў вельмі важныя звесткі пра тое, што робіцца ў рэдакцыі маленькай занядбанай правінцыйнай газеткі — беластоцкай «Нівы». Якія там антыдзяржаўныя настроі і ўвогуле пагрозы існавалі для ПНР з боку ці беларускіх нацыяналістаў ці агентаў КДБ! Але калі сёння сам Валенса вымушаны цягацца па судах, даводзячы, што не быў ніякім «Болекам»… А Сакрат Яновіч прызнаўся… У чым?

Дарэчы, пра гэтую SB-гісторыю Сакратаву з абсалютным разуменнем як тых часоў, так і асобы маладога польскага беларуса напісаў Ян Максімюк на Радыё Свабода: *«Ён пагадзіўся на супрацоўніцтва, так бы мовіць, “ад чыстага сэрца” — каб ахоўваць і бараніць ад меркаваных ворагаў тыя даброты сацыялістычнай дзяржавы, якія яна*

*пасьля 1956 году шчодра ахвяравала беларусам у Польшчы: сярод іншага тыднёвік "Ніва", навучаньне беларускай мове на Беласточчыне, фінансавую падтрымку беларускаму літаратурнаму руху».*

Сам пісьменнік тлумачыў сваё рашэнне аб супрацоўніцтве з SB слухачам Радыё Свабода ў інтэрв'ю з 2007 года, калі ён публічна прызнаўся ў гэтым супрацоўніцтве на хвалі люстрацыйнага працэсу ў Польшчы: *«Я пайшоў на супрацоўніцтва не таму, што мне так заманулася, але таму, што ў той час мы, беларусы на Беласточчыне, атрымалі ад улады вельмі многа ў параўнаньні з даваенным часам, калі ўлады ўсё беларускае зьніштожылі».*

Чаму ён не прызнаўся раней, адразу пасля таго, як абваліўся камунізм, пытаецца Максімюк? *«Перш за ўсё таму, што я гэта не лічыў нейкай сур'ёзнай справай, а лічыў чымсьці малаважным. Напэўна, быў яшчэ перакананы, што няма перад кім вызнавацца, бо пакаленьне беларусаў, якое тады існавала, напрыканцы 1980-х і на пачатку 1990-х — гэта была моладзь, няздольная зразумець мінулы час»,* — адзначыў Сакрат Яновіч у згаданым інтэрв'ю.

*«Магчыма, моладзь не зразумела б,* — піша Максімюк. — *Я сам адчуваю, што мог бы гэтага не зразумець у 1989 годзе, калі зьбіраў подпісы за Сакрата Яновіча як беларускага кандыдата ў Сэнат, або ў 1990 годзе, калі мы засноўвалі беларускую палітычную партыю на Беласточчыне, першым кіраўніком якой стаў якраз Сакрат Яновіч. А мне тады было ўжо больш за 30 гадоў. А што казаць пра маладзейшых... У 2007-м, калі мне было амаль 50, я ўжо, здаецца, зразумеў значна больш. Нават тое, што Сакрат Яновіч падманваў нас і сябе самога, калі казаў, што ягонае супрацоўніцтва з SB у 1958–1970 гг. было для яго нечым малаважным. Я ў гэта ня веру.*

*Ён выблытаўся з гэтай пасткі, і ўсё ягонае пазьнейшае жыцьцё было, калі можна так сказаць, хрэстаматыйным прыкладам адкупленьня грэху маладосьці. Але цень, безумоўна, застаўся і далей азмрочвае ягонае жыцьцё... У 2007 годзе, калі беластоцкія польскамоўныя газэты — "Gazeta Współczesna", "Kurier Poranny" і мясцовы дадатак да "Gazety Wyborczej" — апублікавалі як сэнсацыю прызнаньне Яновіча ў супрацоўніцтве з камуністычнымі спэцслужбамі і пісалі пра гэта зь непрыхаваным задавальненьнем (беларуса ж выкрылі!) на працягу некалькіх тыдняў, я напісаў ліст у справе гэтага прызнаньня і паслаў яго па электроннай пошце ў гэтыя тры выданьні. Я напісаў там сярод іншага тое, што адзначыў тут вышэй: Сакрат Яновіч поўнасьцю адкупіў сваю віну, стаўшы ў 1970–1980 гг. дысыдэнтам і асобай пад пільным наглядам камуністычных спэцслужбаў, якія моцна пасталіся, каб сьпіхнуць яго на ўзбочыну грамадзкага жыцьця ды закрыць яму магчымасьці знайсьці хоць якую-небудзь істотную працу ў Беластоку. Але ніводнае са згаданых выданьняў не апублікавала ні фрагмэнту з майго ліста (ліст зьявіўся адно ў беластоцкім беларускім месячніку "Czasopis"). Зразумела, польскія газэты не былі абавязаныя публікаваць мой допіс. Дый гісторыі пра адкупленьне грахоў менш цікавыя для чытачоў, чым апісаньні самых грахоў. Аднак шкада, што ў такой моцна хрысьціянскай краіне, як Польшча, матыў пакаяньня бачыцца як нешта малаістотнае...»*

І ці толькі крыўда за старэйшага сябра прадыктавала Яну Максімюку наступныя радкі? *«Праблема супрацоўніцтва беларускіх пісьменьнікаў са спэцслужбамі ў савецкія часы — гэта, калі скарыстацца мэтафарай Васіля Быкава, "бомба на ўзроўку, якая чакае сваёй пары". Палякі хацелі ведаць, хто зь іхніх пісьменьнікаў быў тайным супрацоўнікам спэцслужбаў. Таму й даведаліся. І Польшча ад гэтага не завалілася. А вось наконт беларусаў — я ня ўпэўнены, ці хочам мы даведацца і ці трэба нам гэтыя веды наогул. На савецкіх беларускіх пісьменьнікаў мы ўсё яшчэ глядзім як на той невялікі астравок беларускага слова, які спрабаваў супрацьстаяць накатам чарговых*

*хваляў русіфікацыі. Кажучы інакш, мы шмат што гэтым пісьменьнікам выбачаем толькі за тое, што яны пісалі па-беларуску. А вось ці зможам выбачыць ім, калі ўрэшце надыдзе пара бомбы, прыхаванай у менскіх архівах КДБ?»*

Але няма жадання болей пра тое гаварыць…

Памятаю пра чуллівае і разам няўрымслівае і мяцежнае сэрца Сакрата, пра ягоны боль, гонар і сум — Падляшша. Пра тое, як яго сардэчна віталі людзі, старэйшыя і дзеці, на вуліцах родных Крынак, пра «доўгую смерць» якіх ён думаў да самага свайго скону. Гартаю ягоныя кнігі з кранальнымі і дасціпнымі даравальнымі надпісамі. І лісты ад яго, што захаваліся ў маім архіве (на жаль, не ўсе).

*Сямён БУКЧЫН*

1

*Беласток, 6 кастрычніка 1977*

Шматпаважаны Сямён Букчын!

Ліст Ваш я атрымаў і прыемна было мне даведацца, што Вас зацікавілі польскія публікацыі. Трэба сказаць, што ў апошні час іх штораз больш з'яўляецца ў друку. Дарэчы будзе зазначыць, што значэнне Беларусі адкрывае зараз не толькі адна Польшча…

Наколькі мне вядома, Ваша кніжка ўжо перакладаецца і яе выданне запланавана на 1978 год[1]. Так што будзьце Вы спакойны.

Вашы матэрыялы, дасланыя ў дапаўненне тома, таксама атрыманы выдавецтвам[2].

Лічу патрэбным, мабыць, лішні раз выказаць Вам, што Вашы артыкулы на старонках «ЛіМа»[3] належаць, на мой погляд, да адных з самых цікавых і жыва напісаных. З той інтэлектуальнай свабодаю, мімаходнасцю, уласцівай добра зарыентаваным у прадметным матэрыяле аўтарам. У Вас наглядаецца несумненны талент таксама і стыліста.

Я дрэнна пераношу бюракратычны стыль выслаўлення.

І бяззубасць!

Маю я да Вас дзве, не вельмі тактоўныя з майго боку, просьбы, выкліканыя некаторай бязвыхаднасцю, дакладней кажучы, маім фармальным становішчам у дачыненні да мінскіх выдаўцоў. Менавіта — па меры магчымага, вядомая справа, — прашу Вас даслаць экзэмпляр тэматычнага плана «Мастацкай літаратуры», у якім прадбачана выданне майго. Гэта па-першае. А па-другое, дык — сорам і казаць! — я не маю якраз фармальных магчымасцей заплаціць машыністцы ў «Мастацкай літаратуры» суму 46 рублёў за тое, што яна перапісала маю кніжыцу. Аказваецца — замежны аўтар зараз, згодна з міжнароднымі пагадненнямі, атрымоўвае ганарар на дом і ў айчыннай валюце.

[1] Пераклад маёй дакументальнай аповесці пра дзекабрысцкую арганізацыю «Таварыства ваенных сяброў», што дзейнічала на Гродзеншчыне і пад Беластокам ў сярэдзіне 1820-х гадоў, выйшаў пазней. Гл.: Siemion Bukczyn. Echo pod Białymstokiem. Opowieść dokumentalna. Tłumaczył Andrzej Drawicz. Olsztyn. Wydawnictwo Pojezierze, 1982. Пра гісторыю перакладу і асобу перакладчыка Анджэя Дравіча (1932–1997), вядомага польскага русіста, літаратурнага крытыка, эсэіста, перакладчыка рускай літаратуры, а разам з тым дысідэнта, якому чынілі пераслед улады, міністра радыё і тэлебачання ў першым урадзе незалежнай і дэмакратычнай Польшчы гл.: Друг Солженицына и Сахарова. Беседа с Анджеем Дравичем. — У кн.: Семен Букчин. Хроника суверенного болота. Беларусь в эпоху независимости, или Плоды интеллигентской рефлексии. Статьи. Заметки. Фельетоны. Минск: Европейское время, 1996; Поцелуй на морозе. «Он был паромщиком». — У кн: Семен Букчин. Польский дневник. Статьи, заметки, интервью, рецензии. Минск: Энциклопедикс, 2002.

[2] Выдавецтва Pojezierze (Альштын), якое ў той час рыхтавала да друку маю кнігу «Рэха пад Беластокам».

[3] Газета Саюза пісьменнікаў БССР «Літаратура і мастацтва».

У сувязі з тым ці не змаглі б Вы згадзіцца на тое, каб я свой доўг сплаціў Вам падчас Вашай пабыўкі ў нас, па 22 злотых за 1 руб. = каля 1100 зл.?[4].

*Ваш Сакрат.*

2

*Беласток, 24 кастрычніка 1979*

Сямён,

Усё зрабілася крыху вальней ў маёй штодзёншчыне, і ўзяўся я чытаць Тваю кніжку «К мечам рванулись наши руки»[5]. Якая цудоўная лектура! Толькі цяпер пачынаю цаніць Цябе па-сапраўднаму, Цябе, чалавека, які ў прыватных кантактах пакідае ўражанне ўсяго толькі сумятлівага ўрадніка нейкай катэгорыі, сёмаё ці восьмай, гаварліўца, скакуна з тэмы на тэму… Пішу таму гэту грубую шчырасць сваю, каб лішні раз сказаць аб тым розным, што ўяўляе сабою кожны аўтар — у прыватным жыцці, і ў творчасці сваёй.

---

4 Вельмі далікатны чалавек, Сакрат, не дачакаўшыся хуткага майго прыезду ў Польшчу, папрасіў вярнуць мне пазыку літаратуразнаўцу з Гродна Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, які і выканаў гэтае даручэнне. Спробы паехаць у Польшчу па запрашэнні выдавецтва я распачаў увосень 1977 г., але хоць і лічылася, што «курица не птица, а Польша не заграница», справа аказалася для мяне няпростай. АВІР (Аддзел віз і рэгістрацый) не даваў дазволу, нягледзячы на афіцыйнае запрашэнне польскага выдавецтва. Я змог паехаць толькі ў 1979 г. па прыватным запрашэнні. У Польшчы ўжо «гуло», нараджаўся грамадскі рух «Салідарнасць». У баку ад гэтых працэсаў не засталося і альштынскае грамадскае (належала да мясцовага Варміньска-Мазурскага культурнага аб’яднання) выдавецтва «Pojezierze». Служба Бяспекі (SB) была заклапочаная тым, каб мець там свайго інфарматара. Праз шмат гадоў пра дзейнасць гэтага «тайняка», якім быў кіраўнік тэхнічнага аддзела выдавецтва Уладзіслаў Саха (мянушка «Sasza»), выкарыстоўваючы матэрыялы Інстытута Нацыянальнай Памяці (IPN), падрабязна паведаміў альштынскі інфармацыйна-публіцыстычны партал «Debata». У прыватнасці «Sasza» інфармаваў пра «планы выдання кнігі беларускага пісьменніка Сямёна Букчына “Рэха пад Беластокам”, перакладзенай Дравічам, які знаходзіцца ў Дзюсельдорфе». Тут, канешне, галоўнай асобай, якой цікавілася «безпека» быў не я, а дысідэнт, член КОС-КОРа Дравіч, якога пазбавілі працы ў Польшчы і вымусілі займацца выкладчыцкай дзейнасцю за мяжой. Неафіцыйна было забаронена друкаваць Дравіча, даваць яму заробак як перакладчыку. Але Польшча і ў тыя часы з’яўлялася ў пэўным сэнсе краінай, дзе камуністычная дыктатура не была абсалютнай. Да таго ж знаходзіліся прынцыповыя людзі, якія так ці інакш дапамагалі дысідэнтам. Такімі людзьмі ў «Pojezierze» былі дырэктар выдавецтва Анджэй Вакар і галоўны рэдактар Святлана Крук. Супрацоўнік альштынскай СБ Станкевіч зрабіў запіс: «На думку тайнага агента, пераклад Дравічу магла “залатвіць” С. Крук». Матэрыялы СБ сведчылі, што Святлана Крук узначальвала выдавецкую суполку «Салідарнасці» (Piotr Kardela. Władysław Sacha. TW Sasza // Debata. 25.X.2009 / www.debata.olsztyn.pl). Толькі азнаёміўшыся з гэтымі матэрыяламі, я зразумеў, чаму так марудна, на працягу пяці гадоў, вырашалася справа з выданнем маёй кнігі. «Праблема» была ў імя Дравіча. Нездарма дырэктар выдавецтва Вакар, калі мы разам з Дравічам прыехалі на яго аўто з Варшавы ў Альштын, запрапанаваў мне — «каб не было ў пана непрыемнасцей на радзіме» — замяніць прозвішча перакладчыка на псеўданім. Я адмовіўся, што было не без прыемнасці сустрэта панам дырэктарам. Дарэчы, падчас таго ж прыезду ў Альштын я сустракаўся і з «тайняком» Уладзіславам Сахай, з якім, як з кіраўніком тэхнічнага аддзела, узгадняў пытанні па ілюстраванні кніжкі. Гэта быў мой равеснік, меў, як і я на той час, 38 гадоў. З публікацыі ў «Debata» я даведаўся, што пазней ён кіраваў Варміньска-Мазурскім музеем у Альштыне і атрымаў высокія ўзнагароды як заслужаны ў польскай культуры дзеяч.

Што тычыцца маіх далейшых кантактаў з выдавецтвам «Pojezierze», дык яны працягваліся. У 1986 г. выйшла ў перакладзе Мечыслава Яцкевіча аповесць «Покушение на царя» (зменены тытул другой часткі майго дзекабрыцкага трыпціха — «Бобруйский план»); гл.: Siemion Bukczyn. Zamach na cara. Opowieść dokumentalna. Wydawnictwo Pojezierze, Olsztyn, 1986. Быў падрыхтаваны таксама пераклад складзенага мною тома «Сказок и легенд» В. М. Дарашэвіча, ішлі перамовы пра пераклад маёй аповесці «Последний год Дениса Фонвизина», але гэтыя праекты не былі здзейсненыя, бо эканамічны стан выдавецтва ў новых сацыяльных умовах пагоршыўся, і ў 1991 г. яно было ліквідаванае.

5 Семен Букчин. К мечам рванулись наши руки. Документальные повести. Минск: Мастацкая літаратура, 1978. Другім, дапоўненым выданнем кніга была перавыдадзеная мінскім выдавецтвам «Юнацтва» ў 1985 г.

Твая кніжка чытаецца з вельмі сучаснымі адчуваннямі! Добры твор, на якім бы матэрыяле ні пабудаваны ён, не павінен і не можа быць іншым. Валодаш ты дасканалымі асацыяцыямі, усёй майстэрскай «віціеватасцю», якая так недаступная правінцыяльнай т. зв. яснасці стылю, што трэба разумець — прымітыўнасці.

Я не прачытаў яшчэ і сотні старонак — а ўжо захацелася мне напісаць гэтае пісямко; звычайна, падзякаваць Табе за ўсе тыя добрыя пачуцці ды думкі, якімі несумненна адорваеш уважлівага чытача! За поўную імпульсіўнасці мову, учэпістую.

Дзекабрысты! Божа мой, якімі гэта археалагічнымі пяскамі прысыпаны іх імёны ды ўчынкі; пастаражытнена!! Бяздумна.

Калі зможаш — дашлі мне, зараз або ў будучым, яшчэ нешта пра іх, па магчымасці дакументальнага характару (баюся дурных каментарыях дурных аўтараў).

Вось каб пра Каліноўскага хто напісаў такое? Кніжку-пошук, кніжку-зглыбенне, кніжку-роздум, кніжку-неспакой.

З сардэчнымі вітаннямі, Табе і ўсім нашым супольным Сябрам,

*Сакрат.*

3

*Ізабяліна*[6]*, 19.VI.1980*

Сямёне!

Па ўзору Тваіх «долгих писем» шлю гэты цэйтал: добра адпачывалася нам пад Якаўскім возерам[7]. У Мінск не праталіся (*так!*), бо і чаго? Выязджаем 21.VI. Успаміналі Цябе, я з Таняй[8], і Твае кніжкі.

*Сакрат.*

4

*Беласток, 1 ліпеня 1980*

Сямёне!

Кніжкі Твае атрымаў і даўно прачытаў іх[9]. І тваё «Рэха пад Беластокам» несумненна выйдзе ў «Паазер'і» (ты недаацэньваеш балагану ў нашых выдавецтвах; з цябе вылазіць… парадак і — панікёрства!)[10].

Далей: будзь Ты дэкабрыстам, не бяры ў галаву так Вакаравы старанні аб шляхецтве[11]. Кінь Ты гэта! (Ён, уласна кажучы, маруднік несусветны, і таму наўрад ці калі-небудзь гэты мегаламан адпіша Табе…)

---

6 Вёска ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці.

7 Якаўскае (Янаўскае) возера знаходзіцца ў Полацкім раёне на мяжы з Расонскім раёнам. Паштоўка даслана з Астраўца Гродзенскай вобласці.

8 Жонка Сакрата Таццяна Яновіч. З ёю я пазнаёміўся ўвосень 1979 г., калі пасля Альштына прыехаў у Беласток і завітаў да іх дадому.

9 Семён Букчин. К мечам рванулись наши руки. Документальные повести. Минск: Мастацкая літаратура, 1978; Семен Букчин. Как жить, Лев Николаевич? Очерки о корреспондентах Льва Толстого. Минск: Наука и техника, 1979.

10 Справа, канешне, была не ў выдавецкім балагане (гл. заўвагу 4 да ліста № 1).

11 Дырэктар выдавецтва «Pojezierze» Анджэй Вакар (1920–1995) быў гісторыкам, публіцыстам, грамадскім дзеячам Вармінська-Мазурскага краю, аўтарам кніг па гісторыі Варміі і Мазураў. Ён паходзіў з дваранскага роду, прадстаўнікі якога праявілі сябе ў гісторыі і культуры Расіі. Выконваючы яго просьбу, я з дапамогай гісторыка В. П. Грыцкевіча заказаў мікрафільм з «Справы аб дваранстве рода Вакараў», якая знаходзілася ў Цэнтральным гістарычным архіве СССР у Ленінградзе, і пераслаў яго А. Вакару. Ён выкарыстаў гэтыя матэрыялы ў сваіх публікацыях.

Міхась[12] таксама ўсё атрымаў ад цябе; сядзіць ды пачытвае Твае таміскі. А сваёй Тані я, вядома, не сказаў аб тым, што Ты ўтрэскаўся ў яе (як чорт у сухую вярбу!).

Не плач: я яшчэ прыеду да Цябе неяк пасля Алімпіяды; атрымоўваю камандзіроўку ў СССР на 14 дзён. З'еду я да вас з Масквы. У верасні? Хутчэй за ўсё — пад канец.

Скажы пану Адаму[13], што будучы ў Мінску, хацелася б мне ўжо падпісаць дагавор на выданне майго рамана «Самасей»[14]. Можна будзе?

Ах, Ты абяцаўся мне прарэцэнзаваць маю творчасць! І што? (Тваю я — буду!) Больш таго: чакаю тваіх прапаноў публікацый свайго пра беларуска-руска-польскае і ў нашым друку, канкрэтна ў (нашым) штомесячніку Kontrasty[15]. Падумай, напішы… Будзе рэальнае — дашлем на Твае рукі афіцыйны заказ. Из-за нас дело не станет! Ты толькі панамагайся пакарыстацца гэтым шанцам.

Ну, адгукніся!

І вітай ад мяне ўсіх сяброў.

*Сакрат.*

## 5
## ЛІСТ МІХАСЯ ШАХОВІЧА

*Беласток. 14.VII.1980*

Добры дзень, Сямён!

Каб не тое, што Сакрат паказаў мне ліст, які ён ад цябе атрымаў, я далей чакаў бы твайго адказу. Прабач за паштовы бюракратызм, але пачну высылаць заказнымі. Вельмі мне прыемна, што ты хочаш запрасіць мяне, і я змагу пабываць на Беларусі, дзе яшчэ ніколі, ніколі не быў[16]. Ну і важна, што зможам сабе спаткацца, пагаварыць. Апошнім часам я працаваў над чарговай сваёй кніжкаю, якую ўрэшце склаў у нашым выдавецтве і чакаю прыхільнай ацэнкі. Трэба верыць, што недзе ў канцы наступнага або на пачатку 1982 года ўбачыць яна свет. Працаваў я апошнім часам даволі многа. Закончыў наступную сваю паэму «Змярканне» і працую над чарговай — «Заранка». Усё было б добра, каб не ўхабіны, якія пачалі паяўляцца ў здароўі. Нешта паблыталася ў маім сэрцы. Ад пятнаццаці гадоў не быў у лекараў і прыйшлося. Пацешылі мяне, што прычына ў нэрвовай сістэме. Ну і Бог з ёй.

Часта праязджаю праз Храбялы, бываю ў Бранску і Філіпках і часта ўспамінаюцца мне твае словы: «Устань, капітан Ігельстром і спытай: "Чаго вы, хлопцы, сюды прыйшлі, ці не ўступіць у рады нашага таварыства?"[17]. Нядаўна наведалі Беласток Аляксей Пысін

---

[12] Міхась Шаховіч (1953–2000) — беларускі паэт, жыў у Беластоку, дзе я пазнаёміўся з ім у 1979 г. На той час ён быў супрацоўнікам беластоцкага штотыднёвіка «Ніва», у якім была надрукаваная яго гутарка са мной (М. Шаховіч. «Рэха пад Беластокам» // Ніва. 1979. 4 лістапада). Быў рэдактарам (з 1984 г.) часопіса «Kontrasty», кіраўніком (з 1990 г.) выдавецкай суполкі «Сумежжа».

[13] Літаратуразнаўца Адам Іосіфавіч Мальдзіс.

[14] Твор «Самасей», які С. Яновіч называе раманам, выходзіў як аповесць; упершыню на польскай мове (Samosiej) у Варшаве ў 1981 г.; на беларускай — Самасей. Аповесць, апавяданні. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992.

[15] Часопіс «Kontrasty», выходзіць ў Беластоку з 1968 г. У ім першапачаткова збіраліся надрукаваць польскі пераклад маёй аповесці «Рэха пад Беластокам». Але гэтаму не спрыялі магчымасці «тонкага» выдання, і рэдакцыя перадала рукапіс у альштынскае выдавецтва «Pojezierze».

[16] Так атрымалася, што М. Шаховіч здолеў прыехаць на Беларусь у канцы 1980-х гг. У 1993 г. у Мінску «Мастацкая літаратура» выдала яго кнігу «Кліч. Паэма і напевы».

[17] Гэта ўспаміны пра сумесную паездку па Беласточчыне ў лістападзе 1979 г. На «волзе» ваяводскага камітэта ПАРП я разам з М. Шаховічам і фатографам з «Нівы» Я. Казлоўскім аб'ехаў мясціны, злучаныя з героямі маёй аповесці «Рэха пад Беластокам», членамі «Таварыства ваенных сяброў», што дзейнічала ў Літоўскім асобным корпусе і спрабавала ўзняць паўстанне 25 снежня 1825 г. у мястэчку

і Аляксей Гардзіцкі[18]. Ездзіў я з імі цэлы дзень па Беласточчыне, адбывалі аўтарскія сустрэчы. Гардзіцкім перадаў я табе прывітанне, я не ведаю, ці ты з ім бачыўся. Вельмі прыемна цябе ўспамінае таксама Янка Казлоўскі. Ён зараз настаўнікам у Стоўбцах. З асаблівай цікаўнасцю ўспаміналіся твае лекцыі.

Слухай! А што за халера з тваёй кніжкай у «Pojezierze»? Наколькі мне здаецца, то яна ўжо павінна бадай што паявіцца. Адцягваюць чэрці. Так, як у выдавецтвах. Як не срачка, то балячка, — гаворыць Сакрат. І гэта праўда.

Гэтае ж самае і з аддзелам гісторыі пры Беластоцкім філіяле[19]. Пачаткова схапіліся (маю на думцы нашыя дэкабрысцкія справы), а як выявілася, дык гэта толькі саламяны агонь. Чым яны там займаюцца, калі не цікавяць іх надзеі сваёй зямлі? Бесталкоўшчына.

Мне вельмі прыкра і брыдка перад табою за гэтак доўгі перапынак у нашай пісьмовай гутарцы. Але рукі ападаюць ад гэтай пошты. А мо таму, што перад алімпіядай[20]? Ну нічога, пашлю заказным. Паслухай, калі табе нешта адгэтуль патрэба, дык без непатрэбнага скромнічання смела пішы і не пераймайся грашовай справай. Сяброўства — самае дарагое і цэннае, а не нейкія там малаістотнасці. Пасылаю табе наш новы альманах «Белавежа», дзе павінна пісаць «З», але з прычын «аб’ектыўных» знялі[21]. Трымайся, Сямён.

Са шчырым прывітаннем,

*Міхась.*

6

*Беласток, 20 ліпеня 1980 г.*

Дарагі Сямёне!

Твой ліст ад 11 ліпеня г. г. атрымаў і з прыемнасцю прачытаў. Таня мая дзякуе Табе за вітанні; хлопцы — яшчэ не, бо іх звычайна няма дома (яны знаходзяцца ў летніх вандраваннях: Ярык — у бабулі Шуры, у нашым родавым «маёнтачку», а Славік, як той цыган, што за кампанію гатоў павесіцца, з’ехаў да свайго каханага сябра, здаецца, у Гіжыцку…).

А Ты — у Крыме. Хачу некалі пабыць на гэтым татарскім поўдні. Разбагацеем, паедзем, я з Таняй (пакуль што накапічваем грошай дзеля італьянскага маршрута, у н. г.).

У Крыме, пэўна, так не лье, як тут, у нас, лясной поўначы. Учора, у адвячорак, вярнуўся я ад Маці. Прабыў у яе чатыры дні, наводзячы парадкі ў садзе, на падворышчы ды загуменні, у цэлай гэтай Янавічоўшчыне. Табе гэтага не зразумець, сыне патомных інтэлігентаў! Усяе тае раскошы чалавека, які, ублытаны эпохай у высокія справы, час ад часу драпае ў першабытную ціш, з галавою, быццам у вулей, аднаўляецца неяк псіхічна ды фізічна, каб ізноў ныраць…

---

Браньск праз адмову прысягаць польскаму намесніку, цэсарэвічу Канстанціну як імператару Расіі пасля смерці Аляксандра I. *Ігельстром* Канстанцін Густававіч (1799–1851), капітан Літоўскага піянернага батальёна, быў адным з кіраўнікоў «Таварыства ваенных сяброў», асуджаны ваенным судом у Беластоку, адбываў катаргу ў Сібіры, дзе пасябраваў з сасланымі туды ж членамі Паўночнага і Паўднёвага таварыстваў дзекабрыстаў. Прыгаданыя Шаховічам мае словы пра яго былі сказаны ўголас і з келіхам у руцэ падчас нашага абеду ў кавярні Браньска. Міхась таксама захапіўся пошукамі слядоў членаў «Таварыства ваенных сяброў» на Беласточчыне. 7 лістапада 1979 г. ён пісаў мне: «Дома Рукевіча (у вёсцы Завыкі. — *С. Б.*) поўнасцю аднайсці яшчэ не ўдалося, але ўсё на добрай дарозе. Працуем над гэтым утрох. Цяжка, але памалу ўсё пасоўваецца ўперад». *Рукевіч* Міхал (1796–1841) — член тайных таварыстваў філарэтаў і філаматаў, арганізатар «Таварыства ваенных сяброў», быў сасланы на катаргу ў Сібір.

[18] Пысін Аляксей Васільевіч (1920–1981) — паэт. Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999) — літаратурны крытык.

[19] Тагачасны Беластоцкі філіял Варшаўскага ўніверсітэта.

[20] Маецца на ўвазе Сусветная спартыўная алімпіяда ў Маскве 1980 г.

[21] Што тут мелася на ўвазе — цяжка прыгадаць за даўнасцю часу.

Але ад рэм[22], як любілі надакучаць сабе старажытныя рымляне… Всё уже было!!!

Пішаш, што на «Сцяне»[23] зубы твае закалываліся, лінгвістычна-інтэлектуальныя, вядома… А так хваліўся ты, што ведаеш *польское наречье, как говаривали когда-то, должно быть, и декабристы тоже…*

Што ж, кавалак «Сцяны» маеш Ты ў «Белавежы-3»[24]. А цэлую, і то па-беларуску, пан Мальдзіс перажаваў. Ён табе, мабыць, і дапаможа… Не буду ж слаць Табе арыгінал гэтай аповесці машынапісны, бо, мабыць, не зусім быў бы сэнс у тым… Але, калі хочаш, можна. Хочаш?

Пішаш: «…буду пісаць пра тваё беларускамоўнае, калі яно тут, у Менску, з'явіцца». Злітуйся, Сямёне шалапутны! Яно ж ужо з'явілася, і то два гады таму назад, у выглядзе тома «Сярэбраны яздок» (каля дзевяноста апавяданняў плюс аповесць)[25]. І «Самасей» ужо рыхтуецца да друку — дзякаваць Богу! — у «Мастацкай літаратуры» (добра было б, каб не аж на 83-ці!). І ў «Маладосці» пусцілі ўрэшце маю «Таню»[265], праўда, дзіка падкарочаную (Мальдзіс дакладна ведае дзе і ў чым). Больш года чакала, у чарзе, не ў чарзе, Бог іх ведае, як гэта разумець… І трохі новых апавяданняў маіх узялі, абяцалі ў другой палове ліпеня апублікаваць іх у «ЛіМе» поруч з маім міні-эсэ аб польскіх захапленнях беларускім. Што да «Маладосці», дык у ліпеньскім нумары з маёй, аўтарскай, карэктурай не палічыліся там, сказалі, зашмат паправак (як быццам аўтарская карэктура павінна зводзіцца да карэктарскіх заўваг тыпу: коска-кропка!). Калісьці, даўным-даўно, падчас аўтарскіх карэктур цэлыя раздзелы нанава пісаліся, а зараз нават у гэтай Польшчы штораз цяжэй нешта такое зрабіць. Прамысловае друкаванне кніжак — гэта бяда! Вядома, кніжкам. Аўтар памрэ, згніе, але кніжка застанецца.

Перад тым як з'ехаць у Мінск (гавару аб сваім падарожжы, што адбудзецца ў канцы верасня г. г.), Варшава хоча, каб я колькі дзён пабыў у Маскве. Не вельмі я ведаю дзеля чаго (дзеля турыстычных захапленняў? Варта, бо ніколі ў той Маскве мне не даводзілася пабыць). Падумалася мне, што, швэндаючыся вось па гэтай Маскве, мабыць, быў бы які-небудзь сэнс паспрабаваць зацікавіць сваім нейкага расійскага выдаўца або хоць якую рэдакцыю… Як Ты лічыш? Ці не смешны я з гэткімі сваімі разлікамі? Не правінцман я? А ці не правінцман я, баючыся стацца ім? Га? Што Ты на тое? Які будзе Твой падказ? Ты ж у гэтым сэнсе — маскаль! Таму ад цябе і чакаю я дарадніцтва.

Вяртаючыся да «Самасея» — ёсць яго ў Менску аж два камплекты, з ліку якіх адзін, нядаўна папраўлены мною, у час майго з Таняй адпачывання на глухой Астравеччыне. Абодвума камплектамі кіруе пан Адам[27]; адзін з іх мог бы пазычыць табе (ты, здаецца, у неблагіх зносінах з п. Адамам).

У верасні, болей пад канец, абавязкова завітаю да цябе. А калі загаворымся да бел. дня, то і заначую (наколькі памятаю, кватэра ў вас — амаль велікапанская, барская).

Аб «Кантрастах» падумай; могуць быць — табе было б зручней — матэрыялы, ужо публікаваныя ў вас, але цікавыя і польскаму чытачу. Пастарайся добра падумаць аб магчымасцях публікавання свайго ў «Кантрастах»; такая нагода можа не хутка паўтарыцца. Прытым «Кантрасты» ахвотна публікавалі б нейкія агляды, скажам, агляд беларускага нарысу, агляд беларускага дакументальнага кіно, агляд беларускай дакументальнай (або мастацкай) прозы і г. д. У Беластоку ў Цябе няма ворагаў. Не стануць таксама

[22] Ad rem (*лат.*) — к делу.

[23] Раман С. Яновіча «Сцяна» выйшаў на польскай мове ў Альштыне («Pojezierze») у 1979 г.; на беларускай — у Мінску («Мастацкая літаратура») у 1998 г.

[24] «Белавежа» — беларускі літаратурны альманах, выдаваўся ў Беластоку.

[25] Кніга Яновіча «Сярэбраны яздок» выйшла ў Мінску («Мастацкая літаратура») у 1978 г.

[26] Таня. Аповесць // Маладосць. 1980. № 7.

[27] А. І. Мальдзіс.

«падкарочваць» Тваё. А пераклад Твайго на польскую мову рабіў бы я сам (што і было б пазначана пад тэкстам). Словам, намаўляю цябе!!!

А вялікага пана Белаказовіча[28] пры нагодзе паштурхаю я. Думаю, аднак, што ўся справа пакуль што ў нез'яўленні «Рэха пад Беластокам». З'явіцца, возьмемся за панства; у мяне, здаецца, ёсць некаторыя магчымасці… Вакара пры нагодзе таксама прысаромлю (19 верасня буду я ў Альшт.). Шляхціц мне вялікі, схапіў герб ды задаволены, нават чалавеку не падзякуе за тое!!![29].

Думаецца мне, што далейшы Твой раман з «Паазер'ем»[30] не будзе магчымы… Гэтае выдавецтва спецыялізуецца, штораз мацней, у адкопванні польскай культуры, прысыпанай нямецкай, на працягу стагоддзяў, у колішняй Усходняй Прусіі. Спадчыны польскай шукае яно гэтым землям, далучаным да Польшчы ў 1945 годзе. Пашукаем іншых выдаўцоў. Так, Сямёне!

Добрага адпачынку Табе і вітанні ўсёй сям'і! І ад Тані!

*Твой Сакрат.*

7

*13/X.1980*

Букчын Сямёне!

Я люблю чытаць Твае пісьмы-мініяцюры, пісьмы-ўколы!.. Гэта асвяжаючы мне занятак. («І я, і я, і я!!!»)[31].

Ты пытаеш, нашто мне патрэбна грамадская дзейнасць, дабіўшыся — і без таго — свайго месца ў літаратуры?! Ці не так?

Не раз кідаў я гэту дзейнасць, і зараз таксама досыць мне яе! Як кажуць, па горла! Але бачачы слабізну беларускага літаратурнага жыцця (асабліва ў супастаўленні з польскім), не магу ўседзець на месцы, склаўшы (па-цётчынаму) рукі[32]. Калі ў маіх магчымасцях нейкі карысны ўчынак, а яшчэ лепей: рызыкоўны, дык чаму не «дапусціцца» яго? Таго?

Цешуся, што хочаш даследаваць гэтую маю «анамалію». Мне таксама будзе цікава трохі даведацца пра сябе збоку. Але як дапамагчы табе ў наладжанні такога даследавання, га?

Іншая справа: «Кантрасты» збіраюцца нешта апублікаваць з твайго «Как жить, Лев Николаевич?». Мо ты маеш нейкія яшчэ іншыя прапановы? Калі ласка!

Прабач, што тады, у дзень свайго выезду, я не быў ужо ў сілах да якой-колечы размовы. Я был истощен главным образом разговорами-протезами, разговорами-принюхами, разговорами-отсебятинами etc.

Вітанні Тваёй ціхай, як і мая, жонцы! Нам пашанцавала!

*Сакрат.*

---

[28] Базылі Белаказовіч (1932–2010) — польскі славіст, культуролаг, з якім я пазнаёміўся ў Варшаве ў 1979 г. у Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук, дзе ён працаваў намеснікам дырэктара (гл.: Семен Букчин. Хроника суверенного болота. Беларусь в эпоху независимости, или Плоды интеллигентской рефлексии. Статьи. Заметки. Фельетоны. Минск: Европейское время, 1996. С. 331–332); меў беларускія карані (Падляшша), падтрымліваў культурнае супрацоўніцтва з Беласточчынай.

[29] Маецца на ўвазе атрыманне дырэктарам выдавецтва «Pojezierze» А. Вакарам копіі архіўных матэрыялаў, што тычыліся яго радаводу.

[30] «Pojezierze».

[31] Цытата з апавядання рускага пісьменніка Леаніда Андрэева «Бездань», якую я прывёў з нейкай нагоды ў лісце да Сакрата.

[32] С. Яновіч быў старшынёй Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку (1976–1981). На пачатку 1990-х гг. узначаліў Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне.

8

*Беласток, 2 лістапада 1980*

Сямёне,

прабач, мне прабач, што пішу да Цябе на машынцы! Кожны раз, напакутаваўшыся з чытаннем Твайго ліста (почырк *ужасный* у цябе!), не хачу, каб і Ты меў падобныя перажыванні з маім. Дарэчы, пішучы на машынцы, — больш улезе. Ведаю, што ўручную пісаць — гэта значыць праявіць асаблівую пашану да адрасата. Але я Цябе і так шаную!

Эвентуальныя публікацыі Твайго ў «Кантрастах» — гэта мая ініцыяцыя. Дай Бог, каб шчаслівая!

У канцы верасня я пабываў у Альштыне, пабачыўся з панам Вакарам і даведаўся ад яго, што з Тваёй кніжкай усё ідзе ў лад. Выйдзе яна, і то хутка, неўзабаве, як кажуць.

Спадзяюся, што дашлеш мне некалькі экз. «Немана» са сваёй рэцэнзіяй на «Белавежу-3»… Ты наогул рыцарскі! У Цябе слова яшчэ нешта значыць!

Кажуць тут мне, што нешта пра маё (пра мяне?) публікавалася ў «Мінскай праўдзе»… Зможаш мне гэта даслаць? (Выразку, вядома, бо цэлая газета «не пройдет», дый непатрэбная яна мне!). Збіраю я ўсё, дзе што публікуецца майго. Дзеля бібліяграфіі. У Беластоку… пані Александровіч піша дысертацыю пра маю творчасць і просіць мяне дапамагчы ёй у зборы максімальна ўсяго, што пісалася, і г. д. Ёй здаецца, што на мае лісты кожны адпіша, нават з Мінска, чаго нельга сказаць, на жаль, пра вашы (агульна!) адносіны да яе лістоў-просьбаў і г. д.

Менавіта так!

Будзе што-лень цікавае нам з тваіх новых публікацый — падкінь мне іх на мой адрас. Заўсёды рады буду парэкамендаваць тваё сям-там. Добра?

Таня сардэчна дзякуе Табе за вітанні і — разам са мною — перадае самыя найлепшыя пажаданні перш за ўсё Тваёй добрай жонцы (з якой яна некалі, пэўна, пазнаёміцца, як і я), ну, і Табе, вядомая справа, чалавеку, якога нельга не запамятаць!!!

*Сакрат.*

P. S. Прачытай у апошняй «Ніве» пра 50-годдзе Барскага[33].

9

*19/II.1981*

Ты чаго, Сямён, нецярплівішся? Скончыліся забастоўкі, надрукуюць і Тваё. Не такіх аўтараў ляжаць тамы ў пыле друкарняў! Выдавецтва не бастуе, бо гэта ўсё хілыя «шаптуны» (яны, як маскалі кажуць, кирят!).

А тое, што ў нейкім там «Нёмане» нехта трасе азадкамі, баючыся пусціць рэцэнзію на «Белавежу-3»… Бог з ім, не будзем жа дурнем хвалявацца!

Пазыч у пана Адама «Ніву» з маімі рэпартажамі з БССР; там ёсць мой маналог і да Цябе, Сямёна Букчына (спадзяюся, не прагоняць з работы, вядома, Цябе…)[34].

[33] Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі, н. 1930) — паэт, літаратуразнаўца, перакладчык; у 1959–1980 гг. быў старшынёй праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», з 1984 г. узначальваў Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, працаваў на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

[34] Цыкл публіцыстычных нататак Сакрата пад рубрыкай «Беларускія падарожжы» быў надрукаваны ў «Ніве» (1981, № 1–4, 5). У адной з іх ён пісаў: «Сямён Букчын: без вялікай крытыкі не можа ўзнікнуць і вялікая літаратура. Гэта яна, тая начэплівіца, стварае фундамент пад яе архітэктуру. Сямёне, я аберуч галасую за тваімі ўдакладненнямі, але падымаюцца мне валасы пад шапкаю на адно дапушчэнне стаць шчырым у дачыненні да графамана, якога апавесцілі паўгеніем са страху перад яго ўсемагучымі лапамі высокапастаўленца! Усе мы прытым самотныя хутаране і па-кулацку топім адзін аднаго ў так званай лыжцы вады. Не дарастаем, на жаль, да грамадскага інстынкту ў народаў, што развіваліся, не спазнаўшы дэмаралізацыі акупацыйнага ціску з пакалення ў пакаленне. — Прыняўшы

А так, наогул, адпачыць мне трэба!

Не хутка пабачымся.

*Твой Сакрат (крацё).*

10

*16.III.1981*

Сямёне, з задавальненнем прачытаў Твой хаатычны ліст (іншыя ты, дарэчы, не пішаш). Заўсёды нешта мудрае вынайду сабе ў смецці Тваёй эпісталы. Ды і самое пісанне лістоў, сапраўдных, сёння — рэдкая з'ява! А ці не? То часу нямаш, то страх…

Пасылаю Табе (як і сябрыні) камплект сваіх «Беларускіх падарожжаў». Можа, яшчэ чаго, глыбокага мне, уведаю ў выніку Тваіх уражанняў ад прачытання таго Табою? Цаню Тваю іронію; надакучыла мне няшчырая ветлівасць etc.

«Вопросы»[35] тыя, вядома, пашукаю, але… не забудзь даслаць нам «Неман» № 5[36]. Добра?

Кажуць, «Мастацкая літаратура» плануе майго «Самасея»… на 82 г. Зможаш — дашлі мне гэты яе план. Прыемна ж пацешыцца ўвачавідкі!

Усё шкадую, што тады, у верасні, не хапіла мне часу і сілаў нагаварыцца з Табою. Наступная ж нагода дзеля таго, відаць, не хутка будзе… І так — жыццё наша сплывае, пераважна ў не надта каб разумнай сумятні…

Таня вітае Цябе, а я — Тваю жонку.

*Сакрат.*

11

*28.V.1981*

Сямёне, дзякую за «Неман»-5! Прыгожа напісаў ты пра нашу «Белавежу-3». Ужо больш месяца будзе, як паслаў я табе заказную бандэролю з камплектам сваіх рэпартажаў: з Масквы, Мінска і Лондана. Не дайшлі, дык чорт з імі — у Ленінцы прачытаеш, там ёсць. Альштын адказвае — будзе![37]. Дашлі мне выдавецкі план «Мастацкай літаратуры».

*Сакрат.*

P. S. У нас +26 градусаў плюс балаган (пазітыўная дэзінтэграцыя).

12

*04.04.1997. Крынкі*

Паважаны Сямён,

чытаючы неяк «Рэчыпаспалітую»[38], трапіў на Тваё займальнае інтэрв'ю. Даўно прыбіраўся напісаць Табе пісьмо, але ўсё не шанцавала мне са здароўем — амаль усю зіму прахварэў цяжкім запаленнем лёгкіх, якое то загасала, то аднаўлялася, ажно давялося злегчы на цэлыя тыдні ў бальніцу… Ну, але пра гэта я як бы дзеля апраўдання.

---

да сябе вышэй складзеныя фармулёўкі, я прызнаю твае пасмехі над неўрастэніяй уступу ў "Белавежы-3"» (Быў ў мяне сон / Ніва, 1981, № 3).

[35] У часопісе «Вопросы литературы» (1981, № 1) была мая публікацыя «"Я буду нешматслоўны". З творчай спадчыны У. М. Дарашэвіча».

[36] У гэтым нумары «Немана» была надрукаваная мая рэцэнзія на чарговы выпуск беластоцкага літаратурнага альманаха «Белавежа».

[37] Сакрат працягваў інфармаваць мяне пра падрыхтоўку выдання ў «Pojezierze» маёй аповесці «Рэха пад Беластокам».

[38] З газетай «Rzeczpospolita» (выходзіць у Варшаве) я супрацоўнічаў на працягу другой палавіны 1990-х і пачатку 2000-х гг.

*15.12.77 г.*

*Янка, добры дзень да Цябе!*

*У мяне да Цябе вялікая просьба, каб ты адправіў гэты ліст да А. Салжаніцына. Справа ў тым, што гэта вялізарнейшы пісьменьнік, які знаёмы з жыццём, і ён, калі згодзіцца, то дапаможа ўкласці вялізарную цікавасць як да чытачоў, так і на пользу обшага ўкладу. Янка, ты мяне прабач, але я хачу напісаць тое, што ў маёй душы ў наступны момант. А ў мяне на душы вось што. Да мяне пішуць вельмі багата людзей, і добрых 50 % прадлагаюць розныя свае паслугі, але абавязкова на якіх-та ўмовах. Чаму гэта так? Адкажы. Другое, я ў наступны момант пры ўсёй маёй жаданасці не хачу пісаць абы-што, а напісаць сур'ёзнае што-небудзь, баюсь, таму што для гэтага ёсць у мяне ўсе асновы. Каб я быў у Англіі чы Амэрыцы, то гэта другая справа, а тут вельмі не надзёжна я сябе чувствую (адчуваю). Вось дажа ты пісаў і перастаў чаму-та. Чаму? Мне дапамога, Янка, матэрыяльная зараз ня трэба, калі трэба будзе, то я здаровы чалавек, і зараблю для сябе, дарам хлеб есці ня буду, але як не хапае падтрымкі маральнай, калі ты знаходзішся ў чужой краіне, а гэта самае найважнейшае. Я трохі разабраўся ў гэтым і сам за 10 месяцаў, але гэтага яшчэ недастаткова! У наступны момант я, Янка, закончыў свае расчёты па турбіне і прыйшоў да поўнага заключнага канца. Калі я выйду, я думаю даць людзям электраэнэргію, самую дзяшовую, самую бязврэдную для акружнай срады, як кажуць, вечную. Гэта не хвастаўство, Янка, і не фантазёрства, гэта 100 % праверанныя даныя, і ў прымітыўных умовах іспытаны. Праўда, трэба будзе яшэ адшліфоўка, але гэта ўжо дэталі маленькія, галоўнае, ідэя мая — правільная была, якая на днях падцвярдзілася маімі праверкамі.*

*На гэтым і закончу.*

*Усяго табе добрага, да пабачэння.*

*В. Сасноўскі.*

*1.9.1978 г.*
*Нартэлья*

*Паважаны мой Янка!*

*Атрымаў ад цябе апошні нумар «Беларус», дзе прачытаў аб тым, што і мяне счытаюць дысыдэнтам, а не «тэрорыстам». Янка, справа ў тым, што я ніколі не займаўся адкрытымі выступленнямі супраць улады, але я думаю, што я тожа ўнясу свой вопыт і пазнанні для барацьбы з крамлёўскімі анархістамі, але зараз я не магу, таму што калі я маўчаў сорак гадоў, то памаўчу і гэтыя два гады, таму што калі я пачну гаварыць, то я магу і ня выйсці адсюль. Швецыя — гэта не Нямеччына чы Амерыка, я думаю, ты мяне зразумееш? — потым, як зустрэнемся. Вось таму я і ня хочу пакуль чапляць тыя пытанні, на якія я хочу адказаць, але не магу. Бачыш, тут на западзе маюць такую інфармацыю, якая дае магчымасць трохі арыентавацца, але праўдзівай інфармацыі вельмі мала. Я не разумею можа чаго, але як прачытаеш пра розныя здзекі над людзмі і другое, што здзіўляешся над тым, што запад застаецца ў большай частцы пасіўным наглядачом. Чаму? Таму што <u>вялікая палітыка</u> ня хоча ўлазіць у нашы пытаньні, а калі і ставіцца другі раз якое-небудзь пытанне, то Масква толькі павядзе пальцам, і ўсе з гэтым згаджаюцца. Чаму? Вельмі багата гэтых «чаму». Я думаю, што я ўсё-такі можа троху здзьвіну некаторыя напрамкі, правдзівей, думкі некаторых палітыкаў, адкрыю ім вочы на ту «праўду», якую праводзяць у жыцьцё за «чырвонай» сьцяной, а калі яны і к гэтаму застануцца глухімі, то я не завідую <u>ім</u>. Так што дзякую Табе,*

*Янка, толькі за тое, што Ты сгаджаешся с тым становішчам, якое я заняў. Я не прывёз радастных вестак, а тое, што я скажу людзям, гэта праўда, а Ты сам разумееш, што «нашы» за праўду ідуць на ўсё. Так што хай хлопцы не дзяржаць крыўды на мяне, таму што сказаць хлусню я ўжо ня хочу. А зараз два, тры словы аб сваім жыцці. Мяне маюць хутка перавесці ў другую турму — адчыненага тыпу, тады я напішу Табе, гэта больш свабодная турма, там будзе трохі лягчэй. Шведскую мову я ўжо трохі адолеў, гаварыць медленна ўжо магу, думаю, што калі вазьмуся за ангельскую, калі прыеду, то за два гады вывучу с Божай помашчу. Пішу трохі, як кажуць, раблю наброскі чарнавыя для кніжкі, даю думкі на паперы, а пасля як хто дапаможа, то будзе вельмі інтэрэсная кніжка. Вось такі справы, да палавіны срока мне засталося восем месяцаў, а там Бог дасць і волю.*

*Шчыра твой сябра, Васіль.*

*Tillberga*<br>*21.01.79 г.*

*Паважаны мой Янка, добры дзень да Цябе. Атрымаў я ад Цябе 25.9.78 газету, а праз чатыры дні быў адпраўлены ў адкрытую вязніцу. Тут больш свабодна, каждую другую нядзелю атрымліваю двухдзённы водпуск, калі мяне выпусцяць на палавіне срока, то засталося чатыры месяцы. Праведзены час у вязніцы я не правёў як бяздзельнік, вывучыў трохі шведскую мову, хоць і ня меў настаўнікаў (буду мець такую магчымасць пасля асвабаджэння), а так-жа закончыў свой энергетычны праект, праўда, трэба будзе яшчэ пасядзець з праектантамі, калі я найду, з кім заключыць кантракт, але гэта я думаю зрабіць пры помацы як Тваёй, так і другіх нашых людзей, таму што гэтая справа вельмі сур'ёзная. Мне здаецца, Янка, што я найшоў вялікае адкрыццё ў электрычнай праблеме, толькі адна ўстаноўка можа даваць да паўмільёна кв. электрычнай энергіі і каштуе менш, чым сушчаствуюшчыя історнікі на сенняшні дзень. Вельмі хацеў-бы пачуць ад цябе па гэтаму пытанью савет, і другое: засталося да мая, да канца мая, я вельмі хацеў-бы жыць не тут, таму што калі я пачну гаварыць, то мяне насцігне учасць такая, як і балгара ў Лондане, пагэтаму мне патрэбна перабрацца да Вас, а для гэтага я незнаю, што патрэбна, парай. Вось, здаецца, пакуль і ўсё.*

*Да пабачэньня й з найлепшымі пажаданнямі. Твой Васіль».*

Паводле «Ведомостей Верховного Совета СССР» (ад 6 февраля 1980 г.), Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў загад аб пазбаўленні Васіля Васільевіча Сасноўскага савецкага грамадзянства. Шведскі суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў зняволення.

У Нью-Ёрк гэты чалавек ніколі не прыехаў, перарвалася нават лістоўная сувязь. Што здарылася з ім? З яго планамі пра кнігу, з яго вынаходніцтвам? Дый кім ён быў урэшце: дысідэнтам, змагаром з рэжымам? Авантурыстам у пошуках лепшага жыцця? Злачынцам? І як склаўся ягоны лёс па вызваленні? На ўсе гэтыя пытанні яшчэ трэба шукаць адказы.

*Лявон ЮРЭВІЧ*

# РОД СТЕЛЛЕЦКИХ В БЕЛАРУСИ

Дворянский род Стеллецких оставил заметный след в русской и украинской истории и культуре. В конце XIX века его представители поселись на Полесье — купили имение Шостаково Брестского воеводства (теперь Каменецкий район).

Село Шостаково в письменных источниках впервые упоминается в 1532 году. В начале XIX века имение принадлежало подполковнику российской армии Павлу Гофмейстеру (умер в 1854 г. и похоронен на католической части кладбища в Каменце). У него арендовал это поместье саксонец, обедневший шляхтич Людвик Траугутт (умер в 1848 г.), женатый на Алоизе Блоцкой. В 1826 году в семье Людвика Траугутта родился сын Ромуальд, будущий повстанец, диктатор Польши. После смерти Павла Гофмейстера имение Шостаково перешло к его сыну Аполлинарию, который, будучи студентом Берлинского университета, стал членом польской патриотической организации в Брестском уезде, был одним из руководителей несостоявшегося в 1846 году заговора. Шостаковское имение одно время было местом пребывания однокашника Аполлинария по Берлинскому университету Иоганна Рера — эмиссара польского революционера Людвика Мерославского. Отсюда они разъезжались по окрестным имениям с целью подготовки восстания. Заговор был раскрыт. Оба заговорщика были арестованы. Аполинарий Гофмейстер (1825–1890) получил 7 лет ссылки, которую отбывал в степном южноуральском городке Орск и где подружился с Тарасом Шевченко. В конце 1850-х годов шляхтич вернулся в своё имение, занялся сельским хозяйством, открыл сельскую школу. В 1863 году Аполлинарий Гофмейстер стал повстанческим начальником Брест-Литовского уезда, уговорил Ромуальда Траугутта, которого хорошо знал с детства, стать во главе кобринского отряда. В 1864 году Аполлинарий Гофмейстер был снова арестован и сослан на каторгу.

Исследователь белорусских парков Анатолий Федорук [1, с. 386] пишет про усадебный дом в Шостаково: «Это было небольшое одноэтажное здание, построенное в формах народного деревянного зодчества, с крыльцом на двух колоннах и белыми ставнями. Дом стоял в окружении парка, который почти сохранился в прежних границах, занимая около 6 га. К небольшому парадному партеру с южной стороны вела неширокая аллея. Перед домом (от него остались руины фундамента) на парковом партере в 1920-е гг. был установлен гранитный валун в память о Ромуальде. Сваленный памятный камень, покрывшийся лишайниками, лежит на небольшом возвышении. На месте утраченной мраморной доски со словами о герое в 2003 г. установлена новая».

Имение Шостаково после подавления восстания было конфисковано в казну, а в 1866 году его купил надворный советник Николай Бекман, который в 1883 году продал поместье капитан-инженеру Семёну Васильевичу Стеллецкому.

Род Стеллецких происходит от запорожского казака Осипа (1640–1710 гг.), который переселился в Харьков. Первым фамилию Стеллецкий носил его правнук Иосаф Зиновьевич (1726–1796), который был православным священником, учителем, другом знаменитого украинского просветителя-гуманиста, философа и поэта Григория Скороводы (1722–1794). Священнический сын, Гаврила Иосафович Стеллецкий (1772–1826), также был священником, как и его два сына: Григорий Гаврилович Стеллецкий (1796–1860) и Стефан Гаврилович Стеллецкий (1812–1870). Можно отметить, что внуками отца Стефана были известный археолог, искатель библиотеки Ивана Грозного Игнатий Яковлевич Стеллецкий (1878–1949) и духовный писатель, священник, профессор богословия Харьковского университета Николай Семёнович Стеллецкий (1862–1919), расстрелянный большевиками.

Средний сын отца Гаврилы, Василий Гаврилович Стеллецкий (1802–1860), служил учителем русской словесности и латинского языка в Тифлисской (Тбилисской) гимназии.

У него было четверо детей: инженер-путеец Иван Васильевич Стеллецкий (1844–1881), генерал Семён Васильевич Стеллецкий (1845–1903), Евгения Васильевна (по мужу Бетулинская) и Наталья Васильевна (по мужу Капица), внуком которой был великий русский физик, лауреат Нобелевской премии Пётр Капица (1894–1984). Внучкой Евгении Бетулинской была известная во Франции и США русская певица Анна Марли (1917–2006), которую французское правительство наградило орденом Почётного легиона. Среди потомков Ивана Васильевича Стеллецкого можно отметить ученого-ветеринара, профессора Белоцерковского сельскохозяйственного института Владимира Ивановича Стеллецкого (1866–1949) и врача Ивана Ивановича Стеллецкого (1869–1932), автора многочисленных книг по медицине. Его сын, Владимир Иванович Стеллецкий (1906–1985), — доктор филологических наук, исследователь и переводчик «Слова о полку Игоревом».

Возвратимся, однако, в Брест-Литовск, где нёс службу будущий генерал Семён Васильевич Стеллецкий. Он закончил Константиновский межевой институт в Москве и Николаевскую инженерную военную академию в Санкт-Петербурге. Служил капитаном-инженером в Брест-Литовской крепости, где строил крепостные бастионы. Во время службы в Бресте капитан изобрёл хлебопекарскую печь непрерывного действия, с вращающимся подом. На Всероссийской выставке 1882 года за это изобретение он был удостоен почётного отзыва.

1 мая 1877 года умерла молодая жена Семёна Васильевича, Екатерина Георгиевна Стеллецкая, которую похоронили на Тришинском кладбище в Бресте-Литовске. Она оставила капитана-инженера с двумя маленькими сыновьями — Борисом и Дмитрием.

Старший сын, Борис Семёнович Стеллецкий (1872–1939), — известный украинский и русский военный деятель, военный историк и редактор журнала «Военно-исторический вестник». Он родился, наверно, в Брест-Литовске, закончил Варшавскую гимназию, Одесское пехотное училище и академию Генерального штаба. В «Воспоминаниях бывшего заведующего передвижным войском по железным дорогам и водным сообщениям Киевского района» Борис Стеллецкий [2, л. 7] писал: «Мой отец был генерал, начальник инженеров Варшавского укреплённого района. Он ни за что не соглашался, чтобы я продолжал его карьеру, считал военно-инженерное дело мёртвым, я долго этого не мог понять, но когда отец мне рассказывал несколько случаев из своей жизни, когда ему приходилось делать не то, что по здравому смыслу необходимо было сделать, а то, что по какому-нибудь недоразумению попадало в проект, то наступала такая апатия к работе, что являлась мысль уйти совсем со службы. От отца я многому научился в практических вопросах, в особенности мне большую пользу оказывал помощник отца А. К. Овчинников, бывший гвардии сапёр…».

Конечно, офицер-инженер Семён Стеллецкий не мог сказать сыну всю правду, в частности о том, что на военном строительстве разворовывались огромные деньги. Поэтому в инженерных войсках трудно было служить честным людям.

Продолжительное время Борис Стеллецкий служил в Киеве, где составил Военно-географическое и статистическое описание Киевского военного округа, участвовал активно в работе киевского отдела Императорского российского военно-исторического общества, был в 1910 году одним из основателей Киевского общества охраны памятников древности и искусства. Целью этого общества было «поиск и охрана всякого рода памятников древности и искусства», территорией деятельности — Бессарабская, Волынская, Гродненская, Екатеринославская, Киевская, Люблинская, Минская, Подольская, Полтавская, Черниговская и Харьковская губернии. Борис Стеллецкий внёс личный вклад в дело изучения, охраны и сбережения Острожского, Дубненского и Клеванского замков, древнерусского городища Белгородка, а также Новгород-Сиверского монастыря и др. Его деятельности по охране памятников древности посвящена специальная статья украинского историка Ларисы Фёдоровой [3].

Полковник Борис Стеллецкий во время Первой мировой войны был начальником военных соединений Дунайской армии Румынского фронта. 25 января 1918 года была провозглашена независимость Украинской Народной Республики. Вскоре, 17–19 марта, генерал-лейтенант российской армии Павел Скоропадский совершил государственный переворот и провозгласил себя гетманом (монархом) Украинской Державы. Борис Стеллецкий входил в ближайшее окружение гетмана, получил звание генерал-хорунжего. С 27 июня по 24 октября он занимал высокий пост — начальника штаба гетмана Скоропадского. При нём была структурирована собственная администрация гетмана, которая получила подробные задания и обязательства. Про это время Борис Стеллецкий написал воспоминания «Гетман Павло Скоропадский. Воспоминания о событиях на Украине в 1918 г. От Грушевского до Петлюры», которые, к сожалению, не опубликованы и хранятся в специальном фонде Стеллецкого в Центральном государственном архиве органов власти и управления Украины [4].

В эмиграции генерал-хорунжий жил в Югославии. Умер Борис Стеллецкий 25 февраля 1939 года в Белграде и похоронен на Новом кладбище.

Дмитрий Семёнович Стеллецкий (1875–1947) — выдающийся русский художник, иконописец, керамист, книжный график и скульптор, член знаменитых художественных объединений «Мир искусства» и «Союз русских художников». Он родился в Брест-Литовске. Вероятно, как и старший брат, окончил Варшавскую гимназию. В 1896 году, как пишут биографы художника, его отца перевели из Варшавы в Санкт-Петербург. В том же году Дмитрий Стеллецкий поступил в Академию художеств, которую окончил в 1903 в звании художника-скульптора. Он увлёкся древнерусским искусством и жаждал создать неповторимый новый русский стиль. Вместе с другом, художником Борисом Кустодиевым, путешествовали по старинным городам, в частности — и по белорусским, изучали архитектуру, древние фрески и иконы. Думается, что интерес к охране памятников древности и искусства возник у его старшего брата, Бориса, под влиянием младшего, художника.

Дмитрий Стеллецкий был ярким представителем неорусского стиля как особого направления искусства модерна. Он особенно любил «Слово о полку Игореве»: переписал его славянской вязью, украшал текст орнаментом и иллюстрациями. Можно предположить, что эта его огромная любовь к знаменитому поэтическому сочинению передалась и двоюродному племяннику Владимиру Ивановичу Стеллецкому — известному исследователю и переводчику «Слова о полку Игореве».

С 1914 года Дмитрий Стеллецкий жил во Франции. Самой значительной его работой в эмиграции стала роспись храма Троице-Сергиева подворья в Париже. В 1925 году по инициативе и при активном участии Дмитрия Стеллецкого было организовано общество «Икона», которое ставило своей целью изучение русской иконописи, проведение выставок иконописцев.

В конце жизни художник ослеп и поселился в доме престарелых. 12 февраля 1947 года знаменитый русский художник Дмитрий Стеллецкий умер. Похоронен он на Русском кладбище в Париже.

Вскоре после смерти первой жены Семён Васильевич Стеллецкий женился на офицерской дочери Софье Васильевне Богдановой (по другим документам Богданская), которая родилась в 1858 году. Её матерью была Анна Соболевская, которая, наверное, происходила из генеральской семьи, так как в 1910 году Борис Стеллецкий передал в архивную комиссию Императорского российского военно-исторического общества документы и служебную переписку генерал-лейтенантов С. и П. Соболевских. Возможно, что дедушкой Софьи Васильевны был генерал-лейтенант Степан Герасимович Соболевский (? — 1847), участник войн против Наполеона.

Нам известны четыре сына Семёна Васильевича и Софьи Васильевны Стеллецких: Василий, Фёдор, Константин и Пётр. Вероятно, с целью оздоровления детей в 1883 году

Семён Стеллецкий купил небольшое имение Шостаково (35 км севернее Бреста) недалеко от Беловежской пущи, в котором в летние месяцы жило многочисленное семейство. В трех верстах, в селе Церковники, находился православный храм. Супруги Стеллецкие материально помогали церкви.

Где-то в середине 1880-х годов Семён Стеллецкий был переведён в Варшаву, и в чине полковника служил начальником инженеров Варшавского укреплённого района. Под его руководством строились военные укрепления, а также мосты через Вислу и др. Биографы художника Дмитрия Стеллецкого пишут, что в 1896 году его отца перевели в Санкт-Петербург. Этот вопрос ещё надо уточнять, так как в 1898 году инженер-полковник Семён Стеллецкий возглавлял в Варшаве различные губернские строительные комиссии. Вскоре полковнику присвоили воинское звание генерал-майора.

В 1903 году генерал Семён Васильевич Стеллецкий умер, его похоронили возле часовни на приходском кладбище села Церковники, которое находится по дороге из Церковников (сейчас Речаны) на Шостаково.

После смерти генерала владельцем имения стала его вдова Софья Васильевна Стеллецкая. Расскажем об её сыновьях.

Константин Семёнович Стеллецкий родился в 1883 году, наверное, в Брест-Литовске. Получил инженерное образование. В 1922 году он открыл в Бресте фабрику деревянных изделий, на которой изготовляли столярные изделия, в частности двери, окна и т. п. Константин считал себя украинцем. Когда в Бресте в 1923 году было создано украинское культурно-просветительское общество «Просвита на Полесье», то он бесплатно поставил двери и окна для ремонта здания, в котором размещалась организация. Со временем его бизнес пошёл на убыль, и в 1934 году Константин Стеллецкий переселился в Пинск. Можно, предположить, что во время войны он эмигрировал на Запад, где и умер в 1952 году. Известно, что у него был сын Семён Стеллецкий (1911–1969).

Фёдор Семёнович Стеллецкий родился в 1887 году, наверное, в Варшаве. Он также получил инженерное образование. В межвоенное время жил с семьёй в имении Шостаково — в отдельном флигеле. Фёдора Стеллецкого избрали войтом гмины Ратайчицы. В 1928 году он вместе со Станиславом Наданским в колонии Выгнанка создал кооперативную сберегательную кассу Стефчика, в которой занял пост председателя. В том же году было создано кооперативное общество по переработке и продаже молока (млечарня) «Стелля», резиденция которого размещалась в усадебном доме имения Шостаково. Создателями кооператива были все те же: Фёдор Стеллецкий и Станислав Наданский. Кроме того, Фёдор Стеллецкий был председателем сельскохозяйственного кружка в Ратайчицах, задачей которого было распространение среди местных землевладельцев сельскохозяйственных знаний и передовых технологий.

После того как Фёдор Стеллецкий перестал быть войтом гмины, он вместе с семьёй выехал в Варшаву. Его первая жена умерла, оставив дочку Алю. Во второй раз Фёдор Стеллецкий женился на Анне Степановне, родившейся в 1894 году. У них была дочка Майя (Мария), которая родилась в 1922 году. Ещё недавно она (по мужу Мария Голембёвская) жила в польском городе Зелёна Гура, была редактором журнала «Pionierzy».

О третьем сыне, Петре Семёновиче Стеллецком, известно очень мало: до революции был земским начальником в Каменце-Литовском и владел имением Волковичи Брестского уезда.

Старшим сыном Семёна Васильевича и Софьи Васильевны был Василий Семёнович Стеллецкий. Он родился в 1881 году, вероятно, в Брест-Литовске. Наверное, учился в одной из варшавских гимназий. Можно предположить, что Василий Стеллецкий получил сельскохозяйственное образование, так как его родители готовили сына к управлению имением. Действительно, после смерти отца он стал управляющим имения. И, как

видно, хорошим. В начале XX века было создано Брестское сельскохозяйственное общество. В 1911 году Василий Стеллецкий стал кандидатом в члены Совета этого общества, что означает: молодой землевладелец пользовался авторитетом среди местных помещиков, чего можно было добиться умелым и прибыльным ведением своего хозяйства. В Национальном историческом архиве Беларуси (Гродно) хранится документ [5, л. 3, 4], который характеризует экономическое состояние имения в 1911 году:

*Имение Шостаково — 436 десятин (пахотной — 387 дес., сенокосной — 22, лесной — 17, усадебной — 10).*

*Ежегодно засеивается рожью — 97 дес.; пшеницей — 10; овсом — 67; ячменём — 5; картофелем — 50; клевером — 50; лубином[1] — 22; шпергелем — 22; рапсом — 49, викою — 11; бураки[2] и морковь — 4.*

*Урожай с десятины средний за пять лет с десяти: ржи — 100 пудов, овса — 110, пшеницы — 90, ячменя — 95, картофеля — 1000.*

*Рабочих лошадей — 24, быков — 2, коров — 100 (80 дойных), свиней — 40.*

*Ветряная мельница.*

*Ежегодный доход*

*От полеводства:*

*от продажи 7000 пудов ржи по 75 коп. за пуд 5250 рублей*
*– // – 1000 – // – овса по 100 коп. // 1000 р.*
*– // – 500 – // – пшеницы по 100 коп. // 500 р.*
*– // – 25 – // – клевера по 10 руб. // 500 р.*
*– // – 3000 – // – картофеля по 12 коп. // 3600 р.*

———————

*10 600 р.*

*От огородничества и садоводства 2000 руб.*

*От скотоводства:*

*От продажи 10 бракованных коров по 80 руб. за штуку 800 руб.*
*– // – нагула волов 2500 р.*
*– // – молочного хозяйства и телят 4800 р.*
*– // – свиноводства 1500 р.*

————

*9600 р.*

*От мельницы 50 р.*

————————

*всего 22 250 р.*

*Расход.*

*На полеводство: вспашка осенью и на посевы, боронование, вывоз удобрений, уборка, молотьба 3800 руб.*

*Удобрения минеральные 2000 р.*

*На сенокошение 250 р.*

*На огородничество и садоводство 1000 р.*

*На скотоводство:*

*содержание пастухов 500 р.*

*молочное хозяйство 2500 р.*

*покупка скота для нагула 200 р.*

*построек 300 р.*

*Ремонт: мертвого инвентаря 300 р.*

[1] Так в документе назван люпин.

[2] Так в документе названа свёкла.

*живого – // – 600 р.*
*За страхование построек 150 р.*
*На уплату повинностей 120 р.*

---

*Итого 13 520 р.*
*Чистый доход 8730 р.*

*А за уплатою срочных платежей кредитному учреждению в год 1216 р. 50 коп. остаётся 7513 р.*

*<…> Постройки: господский каменный дом крытый гонтом, жилой дер. дом для эконома крытый гонтом, два дер. дома для рабочих крытых гонтом, 2 скотных сарая, кладовая с погребом дерев. крытая гонтом, сарай для сена, хлев для свиней, свинушник, курятник, дровяной сарай, хата для запаривания корма, дом для рабочих, конюшня. 2 скотных сарая, сенный сарай и хлев для свиней крыт соломой, а остальные гонтом.*

*Мёртвый инвентарь: конная молотилка, 2 косилки, 3 сеялки, зерносушилка и большой комплект разных видов плугов и борон, 2 крытых экипажа, бричка, дрожки, сани, возы и проч.*

Можно предположить, что во время Первой мировой войны Василий Стеллецкий и его мать эвакуировались вглубь России, а имение было разграблено, хозяйственные постройки сожжены, поля заросли лесом и кустарником. Чтобы восстановить имение, необходимы были большие деньги, которых не было.

По всей вероятности, в межвоенное время имение Шостаково не относилось к образцово-показательным. Об этом свидетельствует тот факт, что к 1933 году в имении осталось всего 180 гектаров земли (пахотной — 138 га, луговой — 22, леса — 8, сада — 12). 180 га — не случайная цифра. Землю помещик продавал не только потому, что требовались деньги. Дело в том, что в соответствии с польским законом о парцеляции, дроблению и продаже подлежали земельные владения, площадь которых была более 180 га и в которых не осуществлялось, например, племенное скотоводство или семеноводство перспективных сельскохозяйственных культур. Парцеляции, в первую очередь подлежали также нерентабельные и низкорентабельные владения.

Имение Шостаково оценивалось тогда в 200 000 злотых, в нём служило 8 человек. Его владельцам, чтобы выкрутиться, приходилось занимать деньги. Средства шли не только на хозяйственные и неотложные бытовые нужды. Некоторая часть их прогуливалась (Василий Стеллецкий имел нетрадиционную сексуальную ориентацию и раз в месяц выезжал в Варшаву или Брест, чтобы гульнуть).

Василий Стеллецкий ещё до революции познакомился с авантюристом, «князем» Львом Троекуровым-Лыщинским (1888–1945), которого польская полиция подозревала в незаконном присвоении княжеского титула, мошенничестве, убийстве и шпионаже в пользу Германии. Отметим, что Лев Троекуров-Лыщинский был довольно известным русским поэтом, издал несколько поэтических сборников, написал интересные мемуары. В 1925–1926 гг. Василий Стеллецкий управлял «княжеским» имением Стаховка на Волыни и остался должен «князю» 2000 злотых. В счёт долга он разрешил Троекурову-Лыщинскому, который часто приезжал в Шостаково, заложить в своем имении рыбные пруды. К 1933 году имение было разорено и выставлено на продажу, но так и не было продано. Вероятно, Стеллецкие где-то нашли деньги, чтобы хотя бы частично оплатить долги.

Вообще, Стеллецкие (их шостаковцы называли Стрельские) были очень добрыми людьми, и местные жители и сейчас тепло о них отзываются. Когда в Церковниках сгорела церковь, то Стеллецкие отдали свой амбар для перестройки его в церковь. По преданию, в церкви была икона, написанная знаменитым художником Виктором Васнецовым. Вероятно, эту икону написал Дмитрий Стеллецкий.

Шостаково — деревня небольшая (в 1930-х гг. в ней жило 170 человек). В ней не нашлось дома для начальной повшехной школы, и тогда Стеллецкие выделили часть усадебного дома под школу. Учительницей там была опытный пожилой педагог Северина Язвинская.

Софья Васильевна Стеллецкая лечила крестьян, давала им бесплатно лекарства. Польская полиция характеризовала Стеллецких как русификаторов и русских монархистов, но лояльных к власти.

2 января 1939 года Софья Васильевна Стеллецкая умерла, её похоронили рядом с мужем. К сожалению, памятники на их могилах и сами могилы недавно уничтожены. Кто-то из местных жителей похоронил там своих родственников, хотя на самом кладбище много свободной земли. Ради престижного места возле часовни люди забыли о Боге и совести.

Софья Васильевна имение целиком завещала своему любимому сыну Василию. Когда в сентябре 1939 года Красная армия подходила к Шостаково, Василий Стеллецкий выехал в Польшу. Об его дальнейшей судьбе рассказала местная жительница Анна Кирилловна Лискович. После прихода немецких оккупантов в 1941 году Василий Стеллецкий вернулся на родину. Немцы назначили его управляющим хозяйством, которое организовали на базе имения. Он, конечно, помогал местным жителям, защищал их от произвола немецких властей. Шостаково тогда входило в состав Восточной Пруссии, поэтому оккупационный режим здесь был немного легче, чем на остальных оккупированных территориях Беларуси: в генеральном округе «Беларусь» рейхскомиссариата «Остланд» и в рейхскомиссариате «Украина». Да и жизнь была там поспокойнее, так как Восточная Пруссия отделялась от остальных белорусских земель границей с таможенным контролем. Охранялась она пограничниками. Поэтому оккупанты называли эти земли «зоной мирной жизни».

Летом 1944 года, во время наступления советских войск, деревня Шостаково полностью сгорела. Василий Стеллецкий пригласил всех жителей деревни жить в его доме, а сам переселился во флигель. Он уже тогда тяжело болел (вероятно, его постигла болезнь Паркинсона, так как у него тряслись руки, и он не мог даже поднести ложку ко рту). В конце 1944 года в 12 часов ночи приехали чекисты и арестовали немощного и беспомощного старика. Есть основания полагать, что он не дожил даже до суда.

После того как местные жители отстроились, в господском доме разместилась школа. Вначале она была украинской, что интересно, так как до границы с Украиной довольно далеко. Здание школы ветшало, упала крыша. Некоторое время здание стояло пустым, а в 1960-х годах его полностью растащили местные жители. Сохранился усадебный парк, страшно неухоженный и заросший. В парке ещё различима неширокая въездная аллея, видны остатки фундамента господского дома. Рядом, на поляне, стоит камень с новой таблицей, недавно торжественно установленной польскими организациями при участии потомков национального героя Польши. На таблице написано, что в этой местности родился сын Полесья — Ромуальд Траугутт.

## Литература


1. Федорук А. Старинные усадьбы Берестейщины. Минск, 2004.
2. Центральный государственный архив органов власти и управления Украины (ЦГАОВиУУ). Ф. 4547. Оп. 1. Д. 3.
3. Федорова Л. Стеллецький Борис Семенович — маловідомий діяч пам’яткоохоронного руху в Україні // Краєзнавство. 2011. № 2. С. 268–273.
4. ЦГАОВиУУ. Ф. 4547. Оп. 1. Д. 1.
5. Национальный исторический архив Беларуси (Гродно). Ф. 27. Оп. 1. Д. 473.


*Александр ИЛЬИН*

# МАТЭРЫЯЛЫ ДА БІЯГРАФІІ ПІСЬМЕННІКАЎ НАШАНІЎСКАГА ЧАСУ (паводле ф. 368 Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва)

Мяне заўсёды бянтэжыла ў нашым літаратуразнаўстве схільнасць да зухаватых абагульненняў. Калі савецкі час яшчэ ствараў для такой метадалогіі падставы, імкнучыся засунуць увесь светапарадак пад адну накрыўку марксісцка-ленінскай тэорыі фармацый і класавай барацьбы, то сёння сінтэтычныя выкладкі выглядаюць больш чым дзіўна. Прынамсі ў нас, у нашай філалагічнай навуцы, якая ў адрозненне ад многіх іншых не прайшла фазы франтальнага збору, каталагізацыі і публікацыі фактычнага матэрыялу па гісторыі літаратуры. Дагэтуль яшчэ можна знайсці невядомыя аўтографы Купалы, Коласа, Багдановіча, а тыя пісьменнікі, якім менш пашчасціла з міфалагізацыяй і бронзавымі пастаментамі, наогул застаюцца ў глыбокім падполлі, амаль не даследуюцца і прышпільваюцца толькі праз коску — як падмацаванне да чыйгосьці чарговага абагульнення па пэўным перыядзе развіцця літаратуры.

Так вядзецца справа нават у найбольш «зорным» і «пастаментавым» перыядзе — «нашаніўстве». Кожны, хто займее 5 выпускаў факсімільнай «Нашай Нівы», уразіцца колькасці незнаёмых прозвішчаў і псеўданімаў пад апавяданнямі, нарысамі, вершамі. Можна, канечне, усміхнуцца і сказаць, што многія з гэтых аўтараў «заслужана забытыя», але, гаворачы пра нашаніўства, трэба разумець усю важнасць гэтага часу, у якім фактычна адбывалася нараджэнне рэгулярнай літаратуры і нараджэнне праекта незалежнай Беларусі, завершанага ў 1991 годзе. Кірункі, якія прапаноўвалі малавядомыя цяпер нашаніўцы (не з першых шэрагаў), патэнцыйна маглі стаць дамінантамі новай беларускай эстэтыкі і ўсяго беларускага руху. Творчыя метады Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Бядулі, якія праз «Нашу Ніву» працялі ўсю беларускую літаратуру ХХ стагоддзя, атачалі менш уплывовыя, як казаў Максім Багдановіч, «слаі». І даследаванне гэтых слаёў дагэтуль працягвае ісці вельмі марудна: і цяпер застаюцца ў архівах неапублікаваныя іх творы, лісты, матэрыялы да біяграфіі. Маю цвёрдае перакананне, што толькі тады, калі будуць сабраныя ў персанальныя кніжкі, уведзеныя ў навуковы ўжытак усе творы і лісты нашаніўцаў, філалогія атрымае магчымасць зразумець гэты найважнейшы для нацыянальнай літаратуры перыяд у поўным сэнсе гэтага слова.

Сховішчамі Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва я зацікавіўся, прачытаўшы на сайце газеты «Наша Ніва» артыкул Алеся Смаленчука «Невядомыя лісты Багдановіча, прамовы Тарашкевіча, дакументы БНР — у Вільні ляжаць скарбы»[1]. Знаходка двух лістоў Максіма Багдановіча давала надзею і на іншыя цікавыя аўтографы пісьменнікаў-нашаніўцаў. Таму, упершыню трапіўшы ў Вільню, выправіўся ў падарожжа праз увесь Антокаль, у ЛЦДА. І не пашкадаваў: удалося знайсці тры невядомыя паштоўкі Янкі Купалы 1909 года, некалькі паштовак Максіма Гарэцкага, Сяргея Палуяна, Алеся Гаруна, Каруся Каганца і шмат каго яшчэ.

Рэдакцыйны архіў «Нашай Нівы», як вядома, расцярушаны па некалькіх фондах. У прыватнасці, частка яго знаходзіцца ў Беларусі — у БДАМЛМ і ў Музеі Янкі Купалы. Аснова — у вядомым фондзе № 21 віленскай акадэмічнай бібліятэкі Урублеўскіх.

---

[1] У часе вёрсткі прайшла інфармацыя пра хуткае з'яўленне зборніка «Дакументальная спадчына Беларусі XIV–XX стагоддзяў» (Мінск: НГАБ, 2014), дзе будзе змешчаны артыкул А. Смаленчука «Віленскія знаходкі: дакументы па гісторыі беларускага друку пачатку ХХ стагоддзя ў фондах Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва» з аглядам фондаў, без публікацыі асобных адзінак.

Зборы ЛЦДА ўтрымліваюць 4 справы з уласна рэдакцыйным архівам «Нашай Нівы» пераважна за 1909 год і паасобныя матэрыялы нашаніўскай пары ў калекцыях Івана і Антона Луцкевічаў.

Чатыры папкі ў фондзе № 368 — быццам бы і няшмат, але ў той жа час гэта каля 600 лістоў у рэдакцыю «Нашай Нівы»; гэта амаль 90 старонак службовага дзённіка сакратара рэдакцыі за студзень — красавік 1912 года, у якім дзень за днём пазначаны скаргі карэспандэнтаў і просьбы падпісчыкаў, у тым ліку вядомых пісьменнікаў. Тут жа — унікальны збор адрасоў, куды высылалася «Наша Ніва»: Італія, Амерыка, Уладзівасток, вайсковыя часткі імперыі, сібірскія ссыльныя пасяленні. Спадзяюся, уся гэтая геаграфія будзе некалі прааналізаваная адмыслова. А пакуль звернемся да невядомых эпісталаў Купалы.

1909 год — невясёлы час для будучага класіка. Пакінуўшы працу на зямлі і ў бровары, Купала шукае больш-менш інтэлектуальнага занятку. Браты Луцкевічы выклікаюць яго ў Вільню і ўладкоўваюць памочнікам бібліятэкара ў віленскую прыватную бібліятэку Б. Даніловіча «Знание», а таксама даюць падпрацоўку ў рэдакцыі. З нейкіх нявысветленых прычын Даніловіч урэшце пераводзіць Купалу аканомам у маёнтак Бенін Навагрудскага павета. Не варта лічыць гэта павышэннем па службе, хутчэй за ўсё, сітуацыя падобная на добразычлівую высылку. Поўны збор твораў Купалы падае, што ў Бенін паэт трапляе ў «кастрычніку, да 15-га». Адшуканыя лісты са штампам «Паштовая станцыя Любча» даводзяць, што ў маёнтку Купала быў ужо 31 жніўня 1909 года.

### *№ 1. Рэдакцыі «Нашай Нівы»*[2]

*Дзядзьки*

*Высылайце як пісаў Нашу Ниву і прышліце агентскіе условія. Надзеюся устроіць агентуру — НН. Калі атрымаеце № «Przegląd Krajowy» у каторым будзе аба мне, то прышліце.*

*Ваш ЯК*

31/VIII 1909 г.

Агентуру НН не трэба блытаць з шпіёнскай агентурай: фактычна гэта аналаг распаўсюдніка. Агенцкая ўмова — пасведчанне, выдадзенае рэдакцыяй, што імярэк распаўсюджвае афіцыйна дазволеную газету. Янка Купала згадвае кіеўскі польскамоўны часопіс «Przegląd Krajowy»: там у жніўні 1909 года быў апублікаваны артыкул Е. Янкоўскага «Песняры маладой Беларусі», які ўтрымліваў нямала кампліментаў на адрас Купалавай паэзіі.

Наступная паштоўка ад 29 верасня 1909 года адрасавана персанальна Вацлаву Ластоўскаму:

### *№ 2. У рэдакцыю «Нашай Нівы». Пану В. Ластоўскаму*[3]

*29/IX 09г.*
*Бенін*

*Паночку!*

*Змяніце адрэс п. Павалу і мне і высылайце: п[аштовая] ст[анцыя] Любча Мінск[ай] губ[ерні] Новогрудск[ага] у[езда]. У Навагрудку затрымліваюць і не пускаюць газэты у Вселюбскае валасное управл[енне]. Лісты можэце адрэсаваць у Вселюб.*

*Ваш І. Луцэвіч*

*P. S. Віншую Пана Імянінамі хоць спазніўшыся. У Вільні на сваё безгалоўе забыўся гэтага зрабіць. Я. К.*

---

[2] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 57 — 57 адв.

[3] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 109 — 109 адв.

*Pamieszczajc wierszy maje tolki tyje katoryje mozna biez paprawak*
*Kaftana nie kuplajcie*

Тут ёсць і загадкавыя месцы. Хто такі пан Павал, які, відаць, працаваў у Беніне разам з Купалам? На сёння гэта незразумела. Які кафтан мае на ўвазе Янка Купала, чаму ён не раіць яго купляць? Тут, магчыма, адгалосак пабытавых віленскіх размоваў Купалы і Ластоўскага, а можа, і нейкі шыфр, зразумелы толькі ім. Цікава і тое, як удавалася абысці паштовыя павятовыя «рагаткі»: дасланыя на дакладную паштовую станцыю беларускія выданні не затрымліваліся. Ёсць тут і прыхаваная скарга Купалы: відаць, некаторыя вершы былі папраўленыя рэдакцыяй, таму паэт просіць друкаваць толькі тыя творы, якія правіць не трэба.

Апошняя з адшуканых паштовак Купалы датуецца 7 кастрычніка 1909 года:

***№ 3. Рэдакцыі «Нашай Нівы»***[4]

*Любча 7/X 09г.*

*Паны —*

*У мяне нічога новаго, гібею.*
*Асталіся ў ред[акцыі] 3 песьні, прысланные с Гриневичем с суполкі. Адшукайця і зараз же вышлице на Любчу заказной бандерольлю. Хачу ў гэту нядзелю выслать. Калі німа атпішыце небавам.*
*Ваш И. Л.*

---

*Папрасіце Ред[акцыю] каб мяне пан Даніловіч скарэй ад гэтуль выбавіў*

Тут мы бачым змрочныя матывы: Купала яўна хоча выбрацца з нелюбімай працы ў Беніне. Песні, якія дасылаў з суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» Антон Грыневіч, мажліва, паспрыялі больш шчыльным кантактам Купалы з Пецярбургам. Неўзабаве Грыневіч выдасць зборнік беларускіх песень з нотамі. Трэба думаць, што Купала быў своеасаблівым рэдактарам і рэцэнзентам гэтай кнігі. У архіве знайшоўся і ліст Антона Грыневіча ў «Нашу Ніву» ад 25 кастрычніка 1909 года, дзе ён між іншым гаворыць: «Я паслаў Я. Купале ліст у бібліотэку Знаніе, але яго там ужо нема, дык можэ вы атрымалі, — калі атрымалі — прашу перэслаць разам іс пасылаемым, натпісаўшы яго адрэс. Ад гэтых лістоў залежыць пачатак друку беларускіх песьняроў, дык прашу не забыцца. Аб ім тутака стараімся». Стараліся для Купалы недарма: неўзабаве ён стане працаваць у Пецярбургу, у суполцы «Загляне сонца…». Стараецца і сам Купала: у Вільні, куды ён вяртаецца 6 лістапада, яму месца няма, у тым ліку і ў рэдакцыі «Нашай Нівы», таму колькі тыдняў ён жыве, імаверна, на грошы, зробленыя ў Беніне. 21 лістапада ён піша ліст Браніславу Эпімаху-Шыпілу, ліст, відаць, далёка не першы: «Даруйце, што асмельваюся так часта Вам дакучаць, але што я, гаротны, зраблю, калі маё паганае палажэнне да гэтага змушае. <…> Што добрага чутно аб маёй справе? Я ў Вільні доўга не магу трымацца, а так шчыра хацелася б не загінуць і пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы… Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то такі папраўдзе са мной кепска будзе». Намаганні Антона Луцкевіча, самога Купалы і Антона Грыневіча даюць плён. 2 снежня Уладзімір Самойла паведамляе Шыпілу, што Вацлаў Іваноўскі бярэ Купалу на працу ў суполку. 4 снежня Купала прыязджае ў Пецярбург і прапісвае пашпарт па адрасе «Загляне сонца…». Наступныя тры гады ён пражыве на кватэры Браніслава Эпімаха-Шыпілы.

---

[4] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 12 — 12 адв.

Так скончыўся трывожны для Янкі Купалы 1909 год. Поўны збор твораў падае першым вышэйзгаданы ліст Купалы ў Пецярбург ад 21 лістапада. Цяпер, трэба думаць, варта крыху ўдакладніць эпісталярны раздзел і паставіць паштоўкі Купалы ад 31.08, 29.09 і 7.10 1909 года, дасланыя ў рэдакцыю «Нашай Нівы» з маёнтка Бенін, пад № 1, № 2 і № 3.

* * *

Акрамя невядомых купалаўскіх паштовак у Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве знайшліся і яшчэ некаторыя згадкі пра Янку Купалу і іншых беларускіх пісьменнікаў. Па сутнасці, тут варта гаварыць не толькі пра літаратараў, але і пра ўвесь «беларускі свет» 1910-х гадоў.

Гаворка — пра сакратарскі дзённік «Нашай Нівы»[5]. Гэта доўгія палоскі паперы з неперарыўнымі датаванымі запісамі ад 14/I да 26 красавіка 1912 года і палоска Л. 99 — 99а за 29/IX — 20/X 1912 г. Усяго на палосцы 4–5 кароткіх запісаў, кожны лісток запаўняўся з абодвух бакоў. Дзённік уяўляе з сябе ўнікальны збор карэспандэнтаў «Нашай Нівы» з кароткімі заўвагамі сакратара рэдакцыі. Дзякуючы яму можна з пэўнасцю ўзнавіць аб'ём і геаграфію рэдакцыйнай карэспандэнцыі ў першай палове 1912 года, узнавіць адрасы падпісчыкаў і аўтараў «Нашай Нівы», няхай фрагментарна, але зразумець сутнасць просьбаў, з якімі сутыкалася рэдакцыя кожны дзень.

Каб даць уяўленне аб гэтым надзвычай важным дзённіку, падамо тут частку запісаў пра найбольш вядомых асоб — Янку Купалу, Якуба Коласа, Ядвігіна Ш., Каруся Каганца, Гальяша Леўчыка, Янука Дарашкевіча, Сцяпана Пятэльскага, чальцоў суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» і інш.

16/I

Напісаць да Леўчыка, ці у Вітэбск да каго, каб даведацца адрэс Пщолкі і трэба было-б хіба выпісаць тые беларускіе брашуркі каторые ён выдаў па беларуску для прадажы у нас[6].

20/I В. Э. Лычковскій

Просіць выслаць яму (П. Ст. Красное Вилен. губ. — ім. Ракуціовщина) накладной платай календароў за 3 рублі. Р. літ.[7].

24/I

СПб. Суполка

а) Не атрымалі № 3 Н. Н.

б) Просяць выслаць календары 50+50

г) 9/XII прасілі выслаць 25+25 календароў. На Ст. Полоцк Броніславу Столыгво ці выслана?

Просяць высылаць «Н. Н»

I. ад 1/I 1912 1/I 1913 г. С. Петербург, Малая Посадская № 15 кв. 106. А. К. Беніславскому

II. С. Петербург. Стремянная № 6, кв. 10. Л. Ястржембскому ад 1/I 1912 1/I 1913.

Грошы запісаць на рахунак суполкі.[8]

---

[5] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 56 — 99 адв.

[6] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 57.

[7] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 59.

[8] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 62.

27/I
П. Ст. Раков. Мінск. губ.
Кс. Астрамовічу выслаць накл. плат.
1 Міхалка
1 Сватаньне
1 Модны шляхцюк[9].

28/I
Выслаць № 43, 44, 50, 51, 52 Н. Н. за 1911 г.
Гродно. Городничанская 14–3
Л. Сивицкой[10].

8/II
Ст. Радашковічы
Минск губ.
им. Карпиловка
Антону Левицкому
Паслаць № 50 «Н. Н.» 1911 г.[11].

9/II
С. Петербург.
В. Остров. 4я лінія д 45 кв 16
Ивану Луцэвичу русск. лит
1907 году
№ 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32
1909 № 33, 37 польск. і руск.
1910 № 24–28 — // —
1911 № 51–52 — // —
2+2 календары 1910
1+1 календар 1911[12].

Ст. Лунинец Минск. губ.
Учителю Филиповичу
для Якуба Коласа.
Паслаць № 5 Н. Н.[13].

23/II
Гальяш Леўчык
Прыслаӣ за абвесткі Шуманскаго
За «Н. Н.» падписка Мікалая Мирскаго у Варш. на падмогу Н. Н.
4.50
3 —
13.35[14].

---

[9] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 65.
[10] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 66.
[11] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 72.
[12] Тамсама.
[13] Тамсама.
[14] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 76.

23/II
Кастровіцкі (Каганец) жаліцца, што дагэтуль дастаў усяго толькі № 1 і 2 «Н. Н.»
Ці яму высылаецца і чаму ён не дастае?[15].

79-адв
1/III
П. ст. Лунна
Гродн. губ.
д. Струга (Струги)
Степан Петельскій
На падписку ад 1/I да 31/XI 2. 50
За календарь 1.50
пераводам[16].

2/III
Суполка пішэ што 12 экз. «Дудкі(л)» далі п. Івану у рукі.
Просіць выслаць 25+25 Гістор. і запісаць на іх рахунак падпіску ад 1/III да I/IX 1912 г.
С-Петербург
В. О. 6я лінія № 17 кв 37
Адэля Курылёнак[17].

8/III
Суполка СПб
Просіць выслаць Гісторыі 25+25. Ян Баршчэўскі 100+100. Песьні-жальбы 50[18].

10/III
С. Петербург
В. О. 4 линия д № 45 кв 16
Ив. Луцевичу
№ 25 «Н. Н» 1911 г.[19].

16/III
К. Костровицкі (гл. падп.)
1 Пчеліна жывёлка малая, а карысці дае многа
1 Як рабіць рамовые вульлі
Прыслаў марак на 36 к.[20].

16/III
Масква
Книжный склад «Ступени Знанія»
Мясьніцкая д. 5 фл. 6
Назару Бываевскому
Беларускі лемэнтар 6
Першае чытаньне 6

[15] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 76 адв.
[16] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 79 адв.
[17] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 80.
[18] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 84.
[19] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 85 адв.
[20] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 86 адв.

| | |
|---|---|
| Другое чытаньне | 25 |
| Гісторыя Беларусі | 60 |
| Песні Грыневіча (л) | 30 |
| | 121 |

Прыслаў пераводам 1.50[21].

19/III
Перамена адрэсу
П. Ст. Стобцы Минск. губ.
К. Мицкевічу
До востребованія[22].

31/III
гор. Киренск Иркутск. губ.
политическ. ссыльному
О. Е. Лосику
накладн. плат.

| | |
|---|---|
| 1 Пан Тадэуш (л) | 25 |
| 1 Шчэроўскіе даж. (л) | 20 |
| 1 Гапон (л) | 15 |
| 1 Вечарніцы (л) | 20 |
| 2 Гісторыя Бел. | 120 |
| 1 Песеньнік | 15 |
| 1 Песьні Гр. | 30 |
| 1 Колькі сл. аб апратцы | 10 |
| 1 Жалейка | 50 |
| 1 Гусьляр | 50 |
| 1 Адвечная песьня | 20 |
| 1 Песьні-жальбы | 30 |
| 1 Дудка | 25 |
| 1 Смык | 20 |
| 1 Гутаркі аб небі | 15 |
| 1 Ян Баршчэўскі | 20 |
| 1 Модны шляхцюк | 25 |
| 1 Міхалка | 35 |
| 1 Календар 1910 | 15 |
| 1 — // — 1911 | 15 |
| 1 А хто там ідзе | 10 |
| | 5.95 |
| Прыслаў | 2.50 |
| | 3.45[23]. |

8/IV
Кринкі Гродз. губ.

[21] Тамсама.
[22] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 87.
[23] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 88 адв.

І. Дарашкевіч
атаслаў 50 к. маркамі за календары. Запісаць у рахунак[24].

г. Валкі
Харковск. губ.
Ломоносовская ул. д. № 1
Кондрат Лейко
Выслаць 5 № № «Н. Н.» дзе быў надрукаваны расказ «Успамін» К. Лейко[25].

11/IV
П. ст. Узляны Минск. губ. им. Замосце Александру Ельскаму
накладн. плат. выслаць за 3 р. пісулек: Марцінкевіч, Богушэвіч і інш.

Варшава Шопена 18 Проф. Е. Ф. Карскому
1 Гутаркі аб гаспадарцы
1 Як бараніцца ад хал.
1 Як рабіць вульлі
1 Аб гаспадарцы на[26].

Як бачым, асноўны масіў карэспандэнцыі мае адну тэматыку: падпіска на газету, высыланне старых нумароў, скаргі на затрымку свежых. Таксама са складоў Вільні замаўляліся беларускія кнігі і паштоўкі — не толькі віленскія, але і выпушчаныя ў Пецярбургу выданні. Зразумела, што ў сакратарскі дзённік тэзісна заносілася тое, што бралася да выканання: сам змест перапіскі сюды фактычна не трапляе. Аднак і гэтая знаходка можа шмат чым дапамагчы гісторыкам літаратуры і гісторыкам нашаніўства наагул. Датычна запісаў пра Янку Купалу можна выказаць меркаванне, што шэраг старых нумароў «Нашай Нівы» спатрэбіўся яму для таго, каб займець уласны поўны камплект газеты (альбо ён рабіў такі камплект для Браніслава Эпімаха-Шыпілы). Нельга не пашкадаваць, што дзённік стаў даступным для вывучэння толькі цяпер, бо тады багдановічазнаўцам не давялося б так доўга шукаць адрас маёнтка сваякоў Антона Луцкевіча, куды адвезлі маладога паэта: у дзённіку размяшчэнне Ракуцёўшчыны пазначана вельмі дакладна.

* * *

Тая невялікая частка архіва «Нашай Нівы», якая знаходзіцца ў ЛЦДА, збольшага датуецца 1909 годам. Год гэты — пераходны для рэдакцыі і для ўсёй беларускай літаратуры. Найпершым яго дасягненнем падаецца адваяванне для друку вершаў Максіма Багдановіча, якія выцягнуў з архіва Сяргей Палуян (1890–1910), малады публіцыст і крытык. Імя яго ведае кожны студэнт філфака, аднак калі ён зазірне ў невялікі аднатомнік Палуяна «Лісты ў будучыню» і ўважліва прагледзіць каментарыі, то ўбачыць, што ўсе тэксты крытыка друкуюцца выключна паводле першадрука, ніводнага ліста не знойдзена, і, больш таго, няма нават ніводнага аўтографа гэтага яркага нашаніўца.

Таму не дзіва, што я быў проста агаломшаны, калі ўбачыў сярод паштовак у рэдакцыю дзве, падпісаныя «Полуян». Тым не менш яны адразу спарадзілі і пэўныя загадкі. Вось тэкст першай паштоўкі:

[24] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 90 адв.
[25] Тамсама.
[26] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 2. Л. 97 адв.

*Пасылаю Вам сягоньня колькі рэчэй: «Мэта нашай культуры» дый тры тлумачэньня с К. Тэтмаера.*

*Нияк не магу ўцяміць, чаму ня хочэце прыслаць № 41. Дабіўся ўжо таго, што дэкляравалі мне прыслаць — а тым часам як німа, так і німа. Ці у Вас ужо гэткая канцэляршчына, што без хабароў нічога ня можна зрабіць?*

*У «Просьвіту» (Одесса, Сафіевская ул. Бюро Украінскаго Тав. «Просьвіта») пашліце варункі прадажы Н[ашай] Нівы дый свідзецельства агэнтуры.*

*Манька дзякуе за тое, што Гэнрык прыслаў. Шкада, што ў Вільні не прылажылі печаткі — цяпер будзе трохі клапотаў.*

*За сьвідзецельства — вельмі дзякую*

*С. Полуян*[27]

Край паштоўкі абарваны, аднак паводле штэмпеля можна ўстанавіць, што даслана яна была з Адэсы 24 лістапада 1909 года. Такім чынам, Палуян знаходзіўся ў Адэсе па службовым заданні «Нашай Нівы» — каб пашырыць кола падпісчыкаў, а таксама знайсці агентаў-распаўсюднікаў газеты. Спрабаваў ён гэта зрабіць праз разгалінаваную сетку вядомага ўкраінскага культурна-асветніцкага таварыства «Просьвіта». Таямнічае «*Манька дзякуе за тое, што Гэнрык прыслаў»* можа азначаць нейкую вестку пра Язэпа Манькоўскага[28]. «Гэнрык» — безумоўна, вядомы псеўданім Антона Луцкевіча «Генрык Букавецкі». Пацвярджае думку пра Манькоўскага і тое, што неўзабаве пасля атрымання паштоўкі рэдакцыяй у «Нашай Ніве» за 1909 год, у № 50, змешчаны пераклад празаічнай мініяцюры Тэтмаера «Суд» за подпісам Янкі Окліча — Язэпа Манькоўскага. Такім чынам, Палуян выступае пасярэднікам паміж Манькоўскім і рэдакцыяй — перасылае ягоныя пераклады, а таксама запэўны дакумент, выдадзены Манькоўскаму. Які характар мае дакумент — можна толькі здагадвацца. Вельмі верагодна, што вядзецца тут пра партыйныя справы, якія Палуян не жадае агучваць у мэтах канспірацыі.

Другая паштоўка напісаная тым жа почыркам і паказвае, што пашырыць «Нашу Ніву» праз «Просьвіту» не атрымалася:

*11/XII-09*

*Прышліце 3 календ. (2 дзеля прадажы і 1 — мне). За які месяц напэўна ўжо буду ў Вільні, тады і грошы аддам.*

*З агэнтурай «Просьвіці» нічога ня выйшла, бо зачынілі хаўрус украінцаў.*

*Прысылайце толькі хутка, дзеля таго што грошы за тые календары я ўжо атрымаў.*

*Каляды ўжо надыходзяць — дык усім шчырые жаданьня ўсяго найлепшаго. Майму дабрадзею (С. Пол.) асобна пасылаю прывітаньне.*

*Полуян*[29]

Тут узнікае і загадка, і пэўны недавер да Палуянава аўтарства. Прывітанне, перададзенае таямнічаму «С. Пол.», па першым набліжэнні ўказвае якраз на Сяргея Палуяна. Аднак жа, ясная рэч, не можа Сяргей Палуян перадаваць прывітанне самому сабе. Тады хто хаваецца за крыптанімам «С. Пол.»? Можа, тады нельга атрыбутаваць паштоўкі як Палуянавы? На жаль, за адсутнасцю вядомых аўтографаў, спраўдзіць почырк і высветліць гэта немагчыма. Аднак і іншы «ўкраінскі Палуян» — нашанівец даследчы-

[27] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 176 адв. 24.11.09. Одесса. Вильно. Виленская ул. № 20. Редакция газ. «Наша Нива». Редактору А. Власову.

[28] Такую думку выказала ў асабістай гутарцы даследчыца Таццяна Вабішчэвіч, за што выказваю ёй падзяку.

[29] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 181 адв.

кам невядомы. Т. Вабішчэвіч адзначае, што ва ўспамінах Цішка Гартны згадваў пра тэхнічнага супрацоўніка рэдакцыі «Нашай Нівы» Сцяпана. Магчыма, Палуян і перадае калядныя прывітанні якраз гэтаму супрацоўніку, чыйго прозвішча мы пакуль не ведаем. Як супрацоўнік «ніжняй палаты» рэдакцыі ён быў блізкі да тэхнічнага працэсу ў рэдакцыі і мог сябраваць са згаданым Сцяпанам.

Так ці інакш, загадкі ў гэтых дзвюх паштоўках застаюцца. Найперш — што за артыкул «Мэты нашай культуры» маецца на ўвазе, хто такі «С. Пол.» і чым менавіта займаўся напрыканцы 1909 года ў Адэсе Сяргей Палуян. Ёсць вялікая верагоднасць, што знойдзеныя паштоўкі напісаныя менавіта ягонай рукой.

* * *

Найбольш аб'ёмнай часткай захаванага літоўцамі архіва «Нашай Нівы» ў ЛЦДА з'яўляецца эпісталярый. Прычым падаецца, што гэта якраз тая частка архіва НН, якая не была разабраная ні Антонам Луцкевічам, ні супрацоўнікамі Віленскага музея імя І. Луцкевіча. Згадкі пра іх адсутнічаюць у заходнебеларускім друку, хоць гісторыка-літаратурныя артыкулы з'яўляліся тады досыць рэгулярна. Перапіска ў справе № 2, змешчаная на аркушах 1–49, і ўся справа № 3 (564 аркушы) — гэта за невялікім выключэннем паштоўкі ў рэдакцыю і сакратарыят газеты, вельмі часта без указання канкрэтнага адрасата. Сярод паштовак ёсць таксама і невялікія лісты на адрыўных талонах (верагодна, да паштовых грашовых пераводаў). Сярод аўтараў лістоў большая частка — малавядомыя карэспандэнты «Нашай Нівы», але ладная частка эпісталярыя — кароткія паведамленні ад цяперашніх класікаў беларускай літаратуры і ад літаратараў замежжа. Тут ёсць паштоўкі Тэрэзы Гардзялкоўскай, Гальяша Леўчыка, Людвікі Сівіцкай, Язэпа Ціхінскага, Андрэя Зязюлі, Іларыёна Свяціцкага, Янкі Журбы, Цішкі Гартнага, Аркадзя Смоліча і шмат каго яшчэ. Вядома, найлепш было б апублікаваць цалкам гэты ўнікальны эпісталярны комплекс на амаль 600 адзінак, аднак праз недахоп часу скапіраваць удалося толькі дзясятую, найбольш цікавую гісторыкам літаратуры частку эпісталярыя. Падаю тут паштоўкі тых літаратараў, якія сёння прызнаныя класікамі беларускай літаратуры, а таксама тых, чые аўтографы выяўленыя ў вельмі невялікай колькасці (так, на пальцах можна пералічыць узоры ліставання Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка ці Браніслава Эпімаха-Шыпілы).

*Паштоўкі Максіма Гарэцкага:*

***№ 1***

Па адрэсу: Горкі. Мог. губ. Землемерно-агрономическое училище, М. И. Горецкому, — прашу прыслаць беларускіе кніжкі (друкаваные рускімі літэрамі), якіе тут адзначэны:

1) Беларусы і іх нацыональнае адраджэньне
2) Зборнік «Нашай Нівы» апаведаньня;
3) «Адвечная песьня», абразок у XII зьявах Янкі Купалы;
4) «Модны шляхцюк», камэдыя ў I дзеі Каганца;
5) «Наша Ніва» за 1906 год.

Каб знаў, што можна выпісаць ад Вас кніжкі накладжэнай цэнай, не адсылаўшы грошы, дык пэўна й зрабіў бы гэтак, але ж нема ведама, ці так жа можна, ці не.

С шанов.[аннем] М. [Гарэцкі][30].

6/V-12 г.[31].

[30] Страта часткі паштоўкі.

[31] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 308 адв.

***№ 2***

Па адрэсу: Горки, Могил. губ. до востребованія М. И. Горецкому прашу высылаць «Нашу Ніву», пачынаючы с ліпня.

С паважаньнем

М. Гарэцкі

10, ліпень, 1912 г.[32].

*Паштоўка Каруся Каганца*

Посылаю 2 р. 50 к. на газету за 1911 год и 30 коп. за два календара 1910 и 1911 годов и прошу все высылать на имя Макара Евфимова Богдана Паричи Бобруйскаго уез. Деревня Рассова.

К. Костровицкий

27/7 1911[33].

*Паштоўка Браніслава Эпімаха-Шыпілы*

С. Пецярбург 11/5 1912

Даражэнькі Паночку!

Каб прыспешыць скарэйшы прылёт «Чыжыка»[34], пасылаю Пану тры рублі, просячы, каб Пан быў ласкаў як толькі «Чыжык» прыляціць, прыслаць мне яго на гэты грошы.

Паклоны ўсім

З паважэньнем шчыра цісну Панскую шляхетную руку

Броніслаў Эпімах-Шыпілла[35].

*Паштоўка Язэпа Лёсіка*[36]

Ў кантору рэдакціі «Наша Нівы»

Прошу прысылаць шаноўную газэту рускімі літэрамі «Наша Ніва» па гэткаму адрэсу:

г. Киренск, Иркут. гб.

Пол.-ссыл. О. Е. Лосику (Лёсіку)

г. Кірэнск, Иркут. губ.

20 декабря 1911 г.[37].

*Паштоўка Алеся Гаруна*

Пасылаючы Высока паважанай рэдакціі пяць рублеў, прашу адну палавіну (2 р 50 к.) залічыць на плату за гэты год, а другую на прышлы. Прашу выбачэння, за тоя што быў так ніакуратным. Александра Прушынскі.

1912 г. 30. VI

Кірэнск

P. S. Адрэс прашу змяніць на той што на адвароце

---

[32] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 10 адв.

[33] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 310 адв.

[34] Гаворка пра зборнік Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі».

[35] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 447 адв.

[36] Паштоўкі Гаруна і Лёсіка напісаныя з сібірскай высылкі.

[37] ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 390 адв.

Александр Прушинский.
Г. Киренск Иркутской губ.
Пристань Н. Н. и К. Глотовых[38].

*Паштоўка Змітрака Бядулі*

[23.2.1912 паводле штэмпеля]

Шаноўная Рэдакція!

Пакуль-што высылаю за календарі 2 р. 25 к., як прадам усе вышлю і рэшта грошы[39]. Васпанавай прэміі мне ня трэба. Пішыця мне, калі-ласку, ці атрымалі Вы ад мяне рукапісь, дзе ёсьць карэспондэнц[ыі]: «Чырвоная казка», «Шалёны». [Б]удзеце друкаваць?

С паважэніем
Змітрок Бядуля
Пасадзец 12 г.
Чэкаю атвета[40]

Гэтая публікацыя з'яўляецца толькі невялікай часткай знойдзенага, далёка не ўсе важныя матэрыялы тут пададзеныя. Але, думаецца, і яны паспрыяюць цікавасці да нашаніўскага эпісталярыя. Даўно наспела і выданне поўнага корпуса лістоў нашаніўскага перыяду ў арыгінальным правапісе, якое было б карысным для гісторыкаў, мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў. Час зараджэння новай беларускай літаратуры, фармавання нормаў беларускай пісьмовай мовы, правапісу, час узнікнення ідэі незалежнасці беларускай нацыянальнай дзяржавы варты таго, каб пісьмовыя яго помнікі былі апублікаваныя ў наўпаўнейшым аб'ёме і дбайна вывучаны, адкаментаваны.

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

---

38 ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 454 адв.

39 Відавочна, З. Бядуля з'яўляўся ў Пасадцы афіцыйным агентам-распаўсюднікам газеты і выданняў «Нашай Нівы».

40 ЛЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр. 3. Л. 506 адв.

# ЗМЕСТ

## ЛІСТЫ З МІНУЎШЧЫНЫ



## ЛІДЗЯНЕ



## ПАЧНЕМ ЗБІРАЦЬ ЗЯРНО К ЗЯРНЯЦІ…

## МЫ БЫЛІ СВЕДКІ…



## РАДАВОДНАЕ ДРЭВА



## КАЛЕКТЫЎНАЕ

# АСОБА І ЧАС
## Беларускі біяграфічны альманах

Заснаваны ў 2009 годзе

Выпуск 6

Адказны за выпуск *М. У. Шыбко*

Мастак *Г. І. Мацур*

Вёрстка і дызайн *В. Я. Нога*

Карэктар *М. М. Шавыркіна*

Падпісана ў друк 20.05.2015. Фармат 70×100 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 30,7. Ул.-выд. арк. 31,5. Наклад 299 асоб. Заказ 2512.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі,
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 20.03.2014 за № 1/226.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

ТДА «НоваПрынт». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі,
выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 25.02.2014 за № 2/54.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.

*Дмитрий Виноходов.*
**Штрихи к биографии Яна Барщевского.**
**Архив К. С. Сербиновича**



Константин Степанович Сербинович
(неизвестный литограф, раскрашенная литография)
Фонд Литературного музея ИРЛИ РАН
(Пушкинского Дома), № И.8816
(портрет любезно предоставлен ИРЛИ РАН
исключительно для данной публикации)




Могила К. С. Сербиновича,
Смоленское православное кладбище,
г. Санкт-Петербург



Екатерингофский парк, гравюра 1820-х гг.



Коломна, вид на Никольский собор, гравюра 1820-х гг.

## *Дзмітрый Матвейчык.* Успаміны Яўгена Плятэра пра паўстанне 1863–1864 гадоў у Дынабургскім павеце


Яўген Плятэр (каля 1912 г.)


Леан Плятэр (каля 1862 г.)

## *Мірон Браніслаў Нарбут.* Лідскі павет у сярэдзіне XIX ст.


Мірон Браніслаў Нарбут

## *Александр Федута.* **Неотправленное письмо (Из семейной истории Филиппа Пестрака)**



Филипп Семенович Пестрак. Между 1939 и 1941



Анастасия Степановна Пестрак.
Между 1939 и 1941



Семья Пестраков с детьми Анатолием и Надеждой на отдыхе под Одессой. 1955 г.

8

№8.

ИСПОЛКОМ МИНСКОГО ГОРОДСКОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ

ЛИЧНАЯ КНИЖКА № 10422

УЧАСТНИКА

ВОССТАНОВЛЕНИЯ ГОРОДА МИНСКА

МИНСК

1944 год

| №№ п/п | Адрес работы | Отработано | | Характер и объем выполненных работ | Подпись ответственного лица |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Месяц | Кол-во часов | | |
| 1. | ул. Карла-Маркса около филармонии | окт. | 7 1/2 | Разборка кирпича 450 шт. | Лиценз |

Восстановим в кратчайший срок наш родной Минск!

1. Фамилия Пестрак
2. Имя Филипп
3. Отчество Семенович
4. Год рождения 1903
5. Место работы и занимаемая должность Начальник управления п/д искусств при СНК БССР
6. Домашний адрес:
7. Установленная норма рабочего времени (количество часов в месяц) 15 часов пятнадцать часов

Книжка выдана Исполкомом Сталинского Райсовета

м. п. 7 октября 1944 г.

Документы Ф.С. Пестрака



В первой послевоенной квартире семьи Пестраков на улице Ульяновская

***Міхась Скобла.*** **«Пакуль рука пяро трымае…»: Лісты Зоські Верас беларускім пісьменнікам**



Зоська Верас.
30 верасня 1982 г.



З Уладзімірам Содалем.

Юры Туронак, Зоська Верас, Наталля Туронак і Галіна Войцік.



«Дзякуй за памяць…». Адзін з апошніх лістоў Зоські Верас.



Лясная хатка. Мастак Алесь Цыркуноў.



Павіншаваць Зоську Верас з днём народзінаў прыехалі Вольга Іпатава, Сяргей Панізнік, Уладзімір Содаль, Віталь Скалабан.

## *Сямён Букчын.* Лісты ад Сакрата



Сакрат
Яновіч

## *Александр Сушков.* Ким Хадеев – человеческий и культурный феномен города Минска



Игорище!!!
В память на [illegible]!
Ким

Слева направо:
Игорь Римашевский, Ким Хадеев.
Во дворе дома №17 по ул. Киселева,
последнее место жительства Кима.
Автограф на обороте фото.
Из архива Александра Сушкова



Слева направо:
Константин Михеев,
Ким Хадеев,
Александр Сушков.
Из архива Александра Сушкова

Отрывок текста «Ким» в сборнике Partisanen. Автор перевода Andre Böhm. Из архива Александра Сушкова




Алферов Ж. И. Наука и культура СПб.: Наука, 2005.
На с. 150–151 воспоминание нобелевского лауреата Жореса Алферова о своем однокласснике Киме Хадееве



*Alaksandr Suškoŭ*

**KIM**

Anfang der fünfziger Jahre rief Kim an der Universität unverblümt dazu auf, Stalin zu stürzen und dazu noch sämtliche Kommunisten in der UdSSR aufzuhängen. Ich bin mir nicht sicher, ob die Stricke in jenen schweren Jahren, als die Volkswirtschaft erneuert wurde, für alle ausgereicht hätten. Heute gibt es bestimmt Stricke und Kommunisten in ausreichender Zahl. Aber die Wirtschaft ist immer noch nicht aufgebaut, und die Jahre sind wiederum schwer.

Kim sagte, die Haftstrafe für seinen absurden Aufruf sei lächerlich kurz gewesen – gerade einmal vier Jahre in der Wladimirowka und drei Jahre in Kresty. Die berüchtigten Kresty in Petersburg, die in letzter Zeit so häufig in Krimiserien zu sehen sind, dass man meint, man sei schon selber eingelocht worden. Damals saßen dort hochgebildete Menschen. So lernte Kim Professoren vorrevolutionärer Schule kennen, freie Geister. Im Grunde war das seine zweite Universität.

Kurz darauf starb Stalin, aber die neuen Machthaber wussten auch nicht, was mit dem potenziellen Kommunistenaufhänger zu tun sei, weshalb man Kim einfach in die Klapse einwies. Dort schrieb er seine erste Dissertation – für den Chefarzt der Anstalt. Das war besonders praktisch, da man ihn problemlos als Patienten im Auge behalten konnte. Sein Fall ging in die Praxis der hiesigen Psychiatrie ein. Fünf Jahre lang träumte Kim ein und denselben Traum: sechs Gurken auf schwarzem Samt.

„Wie schrecklich!", sagte ich ihm.

Gemächlich steckte er eine Zigarette in die Zigarettenspitze. Er kniff verträumt die Augen zu, als sähe er etwas, was ich nie zu sehen im Stande sein würde, blies den Rauch aus und sagte:

„Ein außergewöhnlicher Traum. Ich liebe Samt. Und Gurken sind doch ein Symbol für das Leben. Ein wunderbarer Traum. Einfach wunderbar."




Автограф Владимира Рудова.
Из архива Александра Сушкова



Ким Хадеев
Из архива
Александра
Сушкова



Ким Хадеев
Из архива
Александра
Сушкова